Міністэрства адукацыі Рэспублікі Беларусь

Установа адукацыі
“Полацкі дзяржаўны універсітэт”

# ПОЛАЦКІ ЭТНАГРАФІЧНЫ ЗБОРНІК

Заснаваны ў 2006 годзе

Выпуск 1

## НАРОДНАЯ МЕДЫЦЫНА БЕЛАРУСАЎ ПАДЗВІННЯ

У двух частках

Частка 2

Наваполацк 2006

УДК 39(075.8)
ББК 63.5(4Беи)я73
П 49

Рэкамендаваны да выдання
саветам гісторыка-філалагічнага факультэта

СКЛАДАЛЬНІКІ:
У. А. ЛОБАЧ, дацэнт, канд. гіст. навук;
У. С. ФІЛІПЕНКА, старшы выкладчык

РЭЦЭНЗЕНТЫ:
Т. В. ВАЛОДЗІНА, канд. філал. навук, старшы навуковы супрацоўнік аддзела фальклорыстыкі Інстытута мовазнаўства, этнаграфіі і фальклору НАН Беларусі;
А. А. ГУГНІН, праф., д-р філал. навук, заг. кафедры сусветнай літаратуры і культуралогіі

П 49 **Полацкі этнаграфічны зборнік.** Вып. 1. Народная медыцына беларусаў Падзвіння. У 2 ч. Ч. 2 / склад. А. У. Лобач, У. С. Філіпенка. – Наваполацк : ПДУ, 2006. – 332 с.
ISBN 985-418-504-4 (Ч. 2)

Зборнік змяшчае вучэбна-хрэстаматыйныя матэрыялы, прысвечаныя разнастайным аспектам бытавання народнай медыцыны беларусаў Падзвіння, якія дазваляюць паглыбіць і аптымізаваць практычныя і семінарскія заняткі па дысцыплінах “Этналогія Беларусі”, “Гістарычнае краязнаўства Беларусі”, “Беларускі фальклор” і спецкурсах, тэматычна з імі звязаных.

Зборнік з’яўляецца каштоўнай падборкай тэарэтычных распрацовак і першакрыніц, неабходных пры выкананні кантрольных, курсавых, дыпломных і магістарскіх работ, прысвечаных праблемам беларускай традыцыйнай культуры.

Прызначаны для студэнтаў гуманітарных і педагагічных спецыяльнасцяў дзённай і завочнай форм навучання.

**УДК 39(075.8)**
**ББК 63.5(4Беи)я73**

ISBN 985-418-504-4 (Ч. 2)
ISBN 985-418-502-8

# ЗМЕСТ

# ПРАДМОВА

Другая частка “Полацкага этнаграфічнага зборніка” змяшчае вялікую падборку палявых экспедыцыйных матэрыялаў, зафіксаваных выкладчыкамі і студэнтамі ПДУ на тэрыторыі Беларускага Падзвіння ў перыяд з 1995 па 2006 г. Высокая пазнавальная і навуковая каштоўнасць змешчаных матэрыялаў абумовілі іх першаступенную дыдактычную і вучэбна-метадалагічную значнасць у рамках такіх дысцыплін як “Этналогія Беларусі”, “Гістарычнае краязнаўства Беларусі”, “Беларускі фальклор”, а таксама спецкурсаў, тэматычна звязаных з праблематыкай беларускай этнічнай культуры.

Тэма народнай медыцыны, прадстаўленая з пункту гледжання саміх носьбітаў традыцыі, з’яўляецца інтэгральнай і закранае шматлікія аспекты духоўнай і матэрыяльнай культуры. Каляндарная і сямейная абрадавасць, сістэма народных ведаў і рэлігійных уяўленняў, нормы звычаёвага права і этыкі, светапоглядныя каштоўнасці і мараль вясковага насельніцтва Віцебшчыны знайшлі сваё адлюстраванне ў прапанаваным зборніку. Іх вывучэнне дазволіць у значнай ступені паглыбіць і аптымізаваць правядзенне практычных і семінарскіх заняткаў па азначаных дысцыплінах, надаць творчы, паглыблены характар самастойнай падрыхтоўцы студэнтаў. Арыгінальнасць, аўтэнтычнасць і навуковая значнасць матэрыялаў, змешчаных у выданні, дазваляе актыўна выкарыстоўваць іх пры падрыхтоўцы кантрольных, курсавых, дыпломных і магістарскіх работ, якія закранаюць разнастайныя пытанні беларускай традыцыйнай культуры. У метадалагічным плане прынцып дыялогу з інфармантамі, прадстаўлены ў зборніку (сістэма пытанняў – адказаў, іх тэматычная скіраванасць, сітуацыйны і этычны кантэкст), дазволяе не толькі інтэнсіфікаваць правядзенне вучэбнай этнаграфічнай практыкі для студэнтаў-гісторыкаў, але і актывізаваць самастойныя палявыя даследаванні, у першую чаргу – студэнтаў завочнай формы навучання.

## БЕШАНКОВІЦКІ РАЁН

*– Ці ёсьць у вашай весцы людзі, што даюць замоўленую вадзічку?*

– Раней былі такія людзі, іх называлі шаптухі, у Грыцкаўкі былі, і ў Касмырах, і ў Шыпулях. І сама насіла ей дачку Люду ад грыжы. Яна пад пупом зашэптвала, выкарыстоўвала пры гэтым поўсьць з авечкі. А Харытон з Харытоніхай. Дык яны хадзілі па дзераўнях, пелі на Дзяды, адпраўлялі Дзяды па хатах, ну ім кружачку чаго сыпнеш, гэтым яны і жылі.

*– Каму дапамагалі?*

– Усім, і каровам зашэптвалі. І тым, у каго балячкі былі, усім людзям. І шэпты ім дапамагалі.

**Пра хваробы**

Ад **залатніка** загаварвалі, дык бабы вылечвалі. Залатнік толькі ад бальшой работы.

Ад **крыктуноў.** Хлеб з печкі вынеш, дык трэба во гэтыя мякішкі, тады качаць па сьпіне. Дык валаскі выкачваюцца. (Хлеб у шарачкі скатаць).

Ад **суроцаў**. Булаўку трэба насіць у грудзях. Калі не успеў, дык тады на падол рубашкі падымеш, абцерціся падолам. Мяне, былі, адзін раз сурочылі на вясельлі. І што ты думаеш, настолькі часаліся рукі і ўсе цела, чашу і ніяк радачкі не дам, і я чую, аж запухала. Гэтакія былі сурокі. І толькі Ярына дала вады, я яе папіла і дзе што дзелася.

Ад **рожы**. У мяне у мамы было. Ліцо як стане часацца. Дык раней малолі ў жорнах. Дык гэту абметку, што абмятаюць муку, прыкладалі, ілі што краснае.

**Скулы.** Было і у мяне. Ад холаду. У глаз бывае.

**Часотка**. Гэта кароста называлася. У вайну была часотка ў рабят, ну, мазалі.

**Ячмень**. Як «ячмень» тады прыкладваць ячмень к воку, а затым яго курам высыпаць.

**Фітатэрапія**

Ад кашлю лепш дапамагае *маць-і-мачыха, ліпа, маліна*.

*Валер'яна* – сярдзечныя, успакаіцельныя.

*Гарлянка* – ад горла (як чабор, толькі вышэйшыя, большанькія).

*Дзівасіл* – ад жывата, ад падрыву.

*Конскі шчавель* – ад жывата, ад паноса, ад падрыву.

*Крушына* – ад жывата.

*Семя ільну* – ад страўніка.

*Лапух* – прыкладаць сьветленькай стараной, той якой к зямле.

*Мята* (меліса) – ад жалудка, ад атраўленьня.

*Палынь* – ад атраўленьня, ад жалудка.

*Чыстацел* – апаласківаньне галавы, ад печыньня пілі, але ён ядавіты, нада акуратна. Для ачысткі кішэчніка. Верхнія прышчы можна, барадаўкі.

*Бульба* – ад даўленьня.

*Гарбузы і семечкі* – ад жалудка.

*Рэдзька, цыбуля, часнок* – гэта тожа вітаміны. Ад прастуды, ад кашлю.

*Рэдзька* – гэта і вогуле лекар. У каго з лёгкімі не у парадку – *рэдзька з мёдам.*

*Бяроза, почкі, лісьце* ад кашля. Як распусьціліся яны ростам з адну капічку, значыць сабіраем, высушваем у цёмным, праветраным месьце. Заварыць і піць.

*Хвоя*. Ад кашля, ад бранхіта.

*Сасна* – ад легкіх. Зьбіралі як яна цьвіцець (ці у апрэлі ці у марце) пабегі.

Зубы як баляць прыкладваць *салёнае сала*.

*Мача* – лекар дужа добры, ад падрыва, к воку прыкладалі, п'юць ад кашля, лёгкіх.

*Воўча лыка* – ад сьпіны. Зьбіраюць кару, настойваюць на водцы, сьпірце, націраюць.

*Вербай* пасьвяцонай білі дзяцей, ад гразы. Кароў первы раз выганялі гетай лазінай. Падторкваюць пад крышу ад гразы.

*Крапіва*. Клалі крэст на крест пад парог у хлеве, дык малако ў кароў ведзьма не скрадзе.

**Зап. студ. ПДУ А. Кажаноўская у 2005 г. ад Халмачовай Ганны Захараўны, 1919 г. н. у в. Багданава Бачэйкаўскага с/с.**

## БРАСЛАЎСКІ РАЁН

### 1
### Пра знахараў і хваробы

*– Ці ёсьць у вашай вёсцы людзі, што даюць замоўленную вадзічку?*

– Ну, іх называюць, дзе бабками шаптухамі, дзе народнымі лекарамі.

*– А адкуль яны вучацца гэтаму?*

– Вучацца яны гэтаму ад сваіх даўнейшых продкаў. Адкуль прыйшлі гэтыя кнігі мы не ведаем. Ёсьць такі добры лекар. Ну, я не помню, як ён называецца. "Мудрасьць народных цэліцелей". Яна бывае у прадаже такая кніга.

*– А ад чаго яны дапамагаюць? Ад усяго або толькі ад асобных хваробаў?*

– Дапамагаюць яны ад усяго, калі гэта робіцца ўсё з Богам. І калі чалавек, ну, асазнае свае грахі ўсе, эта может ад яго адысьці, праз гэтаю замаўленную вадзічку.

*– Ці бяруць яны што-небудзь за свае паслугі?*

– Не, толькі калі ім сам што-небудзь пазаставіш, і то яны не хочуць, калі толькі што дапаможаш дзе ў працы.

*– Хто мацнейшы знахар, шаптун або знахарка-шаптуха? І чаму?*

– Знахар мацнейшы таму што ён працуіць з Богам, а знахарка-шаптуха можыць працаваць па-разнаму, і абманам, і бязбожны спосаб, каторы можа сушчэствуець у прыродзе.

*– А валасень, што за хвароба такая?*

– А валасень, волас ён сам бывае не волас, а проста разгніваецца ў чалавека цела, косьці і могуць выхадзіць маленькімі кусочкамі гэты косьці.

*– А што гэта за хвароба, як яна перадаецца?*

– Яна перадацца, можа, і па ветру, па-рознаму, проста ад злых людзей, ад злых нагавораў, ад якіх-та шаптухаў.

*– Што такое грыжа, грызь, жаўтуха?*

– Жаўтуха гэта інфекцыоная забалеваніе. Тоже ано бывает, разные такіе пріродные явленія, аслажненія могут быць другіх хвароб, которые дают, может, это алкоголья, может быць желтуха. А грызь – гэта якія-та дзецкія хваробы. Ну, я іх добра не ведаю, але знаю, што імі хварэюць в аснаўном маленькія дзеці.

Зьвіх – гэта, калі чалавек дзе спатыкнуўся, і вывіхнуць можыць і сустаў, і расьцяжеціе сьвязак, што угодна. Эта нада, чтобы управлял врач какой-та, каторый спартсменам лечыць ілі хто. Гэты каўтун можыць быць ад вялікіх-вялікіх стрэсаў. Можыць памагчы ў тым разе медыцына. Калі каўтун бываіць зроблены злымі людзьмі, і шаптухамі, то павінен лячыць яго знахар, альбо праз малітвы да Бога і праз пост.

*– А што за хвароба – наход?*

– Гэта можна ў байні, калі жанчына ў дзетародным спосабе прыйдзе ў байню ні ў свой саатветствуюшчій періад, як яна не далжна прыходзіць у байню, а людзі ужо есьць у байні. Ну, мо, гэта на людзях могуць быць пятны розныя. Ну, гэта павінен лячыць тоже знахар альбо яна сама, калі есьць у яе совесьць.

*– А падзіў, сурокі?*

– Ну, сурокі, калі чалавек, вот можым даже встрецівшы чалавека другова пазавідаваць, зла ему пажелаць. Эта уже перадаецца па воздуху.

*– Падрыў?*

– Падрыў, калі чалавек падняў якія-та цяжасьці, можыць сарваць любыя органы. Найбольш бываіць гэта падрыў жалудка. Калі ён не такі вялікі, можна вылечыць яго *сьвежай жоўцю*. Есьць трава такая, *арніка*, піць эту траву. Ну а калі гэта, не, то як даўней ў старынку бабкі лячылі: ў байні, як трэба разагрэўшы чалавека, церць.

*– А падучая?*

– Падучая – гэта эпілепсія. Адкуль яна паяўляецца? Можыць быць ад іспугу у чалавека. Ну, больш, есьлі чалавек спужаўся, і своечасова не лячыўся.

*– А вось рожа, як яе лячыць?*

– Ну, рожа гэта бываюць разныя віды, рожы разныя спосабы. Можна і спатыкнуцца – ударыць нагу, можыць быць з ветра якая інфекцыя, можа быць разныя. Ну, ад рожы я многа не ведаю, а вот прыкладываць *маць-і-мачыху*, прыкладваюць *сінію бумагу*, ну гэта трэба абраціцца больш к знахару.

*– А скула, што такое?*

– Скула гэта такі нарыў на целе вялікі... Можна вылечыць, калі ў скорае врэмя лукам. Пажаваць *сыры лук* са *сьвежым хлебам* і прыкладаваць вельмі балюча, але можыць адкрыцца гэта скула. Выйдзіць уся гэта кроў заражаная і рана будзіць гаіцца.

*– Што дапамагае пры такіх хваробах, як апёк?*

– Ну, калі невялікі апёк, то яго сразу нада паставіць пад кран вады альбо, калі нельзя паставіць, то халоднай вадой яго смыць і ўсе. Калі не будзіць валдыроў то, ён пройдзіць. Ну, калі вялікі апёк, то патрэбна медыцына.

*– А атручанне?*

– А атручаньне, калі чалавек з'еў нясьвежыя прадукты альбо што-та ядавітае папала і пры рабоце, пры апырсківаньні содай і што-та другое. Ну, тут як паскарэй пры атручваньні нада выпіць *крэпкі чай* для паддзержкі арганізма, ну калі ўжо сільнае атручваньне, то абязательно медыцынская дапамога.

*– А барадаўкі?*

– Барадаўкі я не знаю, ад чаго яны бываюць, но быць яны бываюць. Ну, лечыць іх можна *яблачным уксусам*, *лімонам*... А яшчэ зьмешваюць *лукавую скарлупу с уксусам* і абкладваюць, каб далей цела не абпалілася на саму толькі барадаўку.

*– А горла калі баліць, ці есьць якія траўкі?*

– А горла калі баліць, есьць траўкі: добра *чабрэц*, добра *гарлянка* – траўка называецца, вмесце з чабрацом і піць гарачую.

*– А калі пярун ударыць, ці ведаеце як ад гэтага лячыцца*?

– Ну, калі пярун ударыць, чалавека ложуць на зямлю, зямля адцягвае, калі не сільнае паражэньне. Есьлі сільнае паражэньне, то я таго не знаю.

*– А болі ў суставах?*

– Ну, болі в суставах бываюць розныя, бываюць і рэвмацізм, бываіць і ад хандроза. Ну, траўкі ад болі ў суставах: *маць-і-мачыху* можна лажыць**,** *акопнік* лекарственный, трава *чарнакорань*. Ну, вот *дзяды*, каторыя яшчэ называем мы, як яго называюць, я не знаю. Такія растуць высокія, што у валасы кідаюць, так забаўляюцца.

*– А хто такія чараўнікі і што яны робяць?*

– Ну, чараўнікі – гэта людзі, якія з якіх-та старых часоў, не ведаю адкуль, узялі гэтыя злыя кнігі, і яны з гэтых кніг начытваюць людзям. Усё можна зрабіць чалавеку і хваробы паслаць, і нават сьмерць, і агароды папорціць, і жывелу, і ўсё, што ўгодна, але гэта зло нада як-та прэкраціць, патамушта і ў нашых магазінах многа прадаецца гэтых чорных магій, а адкуль яны пайшлі – ад зла, ад дз’явала дзе-та пайшлі.

*– А ці ёсьць такія людзі ў вашай весцы?*

– А хто іх ведае, яны ж не выходзяць на уліцу і не крычаць чараўнікі яны альбо не. Яны ў Бога не вераць, таму што чарадзейства гэта дзела сатаны, а не Бога.

*– А ў царкву яны ходзяць?*

– Могуць для віда, каб паказаць сябе, што яны добрыя людзі.

*– А хто такія знахары, што яны робяць?*

– Ну, знахары – гэта людзі, якія вось старыя рэцэпты ўсякія са старых пакаленьняў. Яны толькі дабро людзям робяць, яны знаюць травы. Гэтыя людзі знахары, яны знаюць малітвы, яны нават грэшніка могуць павярнуць праз лячэньне травамі, праз лячэньне божымі малітвамі, што ён станіць на добры пуць.

*– А ці былі такія людзі ў вашай вёсцы? Ці чулі вы пра такіх?*

– Ну, пра такіх людзей я чула і былі толькі ў далёкіх вёсках, не ў нашых. Была яшчэ ў Браславе бабуля, каторая памагала малітвамі Сьвятога Бенедыкта. Гэта такі ёсьць сьвяты, ёсьць яго медалік, крыж, каторы прадаецца. Яна апускала медалік пасьвечаны ў касьцёле ў гэту ваду, малілася да яго малітвай да гэтага Сьвятога Бенедыкта і гэту ваду чалавек піў. Яна не скрывала, яна пры чалавеку малілася сьвятыя малітвы, як “Хвала Айцу”, “Здравась Марыя”, “Ойча наш...” Ну, там я не помню, нада апрэдзелённае калічэства. Нада эці малітвы атмаліцца, і чалавеку памагала эта вада. І не толька ад хвароб, але чалавек станавілся лепшым, ішоў за Богам, саблюдал Гасподнія запаведзі.

*– Значыць, усе хваробы толькі ад Бога, калі ён дрэнна робіць, значыць хваробы?*

– Хваробы не ад Бога. Хвароба можыць быць, як цярпеньне за многа сваіх пакаленьняў, каторыя рабілі дрэнна. Вот, каб Бог ім у патустароньнім міры прасьціў. Хвароба можыць быць, як цярпеньне за сваіх блізкіх, нават знаёмых, каб іх выбавіць ад зла. Гэта не значыць, што хвароба не павінна толькі за зло, эта толькі адзін Бог знает, ад чаго бываюць хваробы. Ну, найбольш хваробы бываюць ад зла.

*– А ці веруць гэтыя знахары ў Бога?*

– Абавязкова. Гэтыя знахары, якія лечуць травамі, малітвамі абавязкова веруць толькі ў Бога.

*– А сваю сілу адкуль яны бяруць?*

– Сілу гэтыя людзі чэрпаюць толькі ад Бога. Яны ходзяць кожнае сьвята ў касьцёл, моляцца за гэтых хворых, закладваюць сабе пост, церпяць нават за гэтых хворых і праз гэта цярпеньне да гэтага хворага вяртаецца і здароўе. А чараўнікі толькі ад нячыстай сілы, ад д’ябла, з чорных кніжак бяруць сваю сілу. Ну, гэта сіла меньшая, чым у Бога.

*– А чаму так меншая?*

– Ну, таму што Бог тварэц усяго. Бог усё сатварыў. Бог усё можыць зьнішчыць зло. Усякае зло. Вот нават Сьвяты Кіпрыян. Ён спачатку верыў толькі чарадзейству, толькі нячыстай сіле. А калі адну дзяўчыну не перамог, яна малілася толькі Ісусу Хрысту, і яго зацікавіла чаму так зрабілася. Ну, як-та тая дзяўчына расказала, і ён кінуў свае чарадзейства і пайшоў толькі за Богам. І праз яго малітву да Бога людзі нават вылечваюцца. І яго нават, ну, я не помню, што бы які-та гвалтоўны спосаб унічтожылі этага сьвятога.

*– Ну, а хто мацнейшы – знахар ці чараўнік?*

– Знахар мацнейшы, знахар работает з Богам. Знахар травамі лечыць. Ён (Бог) гэтыя травы і даў людзям на лячэньне і калі гэта прымяняецца трава з малітвай, з просьбай да Бога – гэта вялікая сіла. Ну, а чараўнік, што ён можыць перад знахарам.

*– А вось знахар ці знахарка, хто мацнейшы?*

– А гэта розніцы нет, эта завісет ад сілы веры ў Бога.

**Зап. студ ПДУ В. Кароль у 2005 г. ад Гажынскай Ядзвігі, 1939 г.н. у в. Лявошкі Плюскага с/с.**

## 2
## Пра знахараў і хваробы

*– Ці ёсьць (былі) у вашай вёсцы людзі, што даюць, замаўляюць вадзічку?*

– Ёсьць. Гэта толькі я даю ў маей вёсцы замоўленую вадзічку.

*– А наогул, як называюць такіх людзей?*

– У нас іх звалі шаптухамі. Знахары таксама даюць замоўленую вадзічку, але ў нашай вёсцы іх не было.

*– Адкуль вы гэтаму навучыліся?*

– Гэта мая мама ўсё ўмела, яна мяне і навучыла.

*– Каму і як можна перадаць гэтае ўменне?*

– Гэтае ўменьне, гэтак гавораць, можна перадаць толькі першаму, каторы родзіцца, і “астатняму”. Але я не першая, а сярэдняя, аднак вельмі дапамагала. Я пачала загаварываць ад 18 гадоў як мне было і вельмі памагала. Як мама мне расказала ўсе загаворы, так я і пачала дапамагаць людзям. Загавораю ад укуса зьмяі, ад упуда, ад рожы. Рожа па-нашаму называецца *“ураклій”*, каўтуна, залатухі, скулы, падрыву.

*– Даёце замоўленую вадзічку?*

– Я, ў асноўным, загавораю хваробы. А замоўленую вадзічку даю толькі тады, калі чалавек не можа прыйсьці. Вось прывязуць мне ваду загаварыць, я загавару, скажу як нада змывацца.

*– Якія замовы вы ведаеце? Ці можаце расказаць?*

– Я шмат ведаю замоў. Але сказаць не магу, бо мае замовы тады дзейнічаць не будуць. Мяне як навучыла мама, значыць, яна болей не магла нікаму дапамагчы. Вось чаму я не магу вам расказаць замовы. Як замаўляць, я не скажу. Толькі скажу, што трэба загаварываць 6 разоў хваробу, а калі не памагае, трэба загаварываць 12 разоў. Я загаварываю па-Божаму, прашу ад Бога, каб любую хваробу ён выздаравіў бы. І выздараўліваюць. Чалавек раскрывае сваю рану, над ім перакрышчуся, яго перакрышчу і замаўляю, і ён не чуе, што я гавару.

*– Ці бярэце вы што-небудзь за гэта?*

– Я не бяру нічога, бо я не магу сказаць чалавеку, каб ён мне плаціў. Калі ён сам заплаціць, хоць колькі, то тады вазьму. А калі чалавек не мае грошай, то я кажу:*"Вы мне не плаціце, бо я ж не працую, а загаворваю"*.

*– Каму вы дапамагаеце?*

– Усім, усім, як раней гаварылі, што сам сабе загаварыць не можаш, другім, каб шаптун ужо загаварываў бы. Але свае хваробы я загаварываю сама і дапамагае. Я дапамагаю ўсім, і сваякам, і суседзям, і аднавяскоўцам, і прыезджым.

*– Каму і калі даваць вадзічку нельга і чаму?*

– Ну, я не знаю, калі чалавеку трэба вадзічку, напрыклад, ад упуду, то я даю. Толькі ад рожы я вадзічку не даю, бо яе вадзічкай мачыць нельга, яна тады б’ецца ў ранкі, можа чалавек і памерці, калі не загаварыць. А так я вадзічку даю ў любы час.

*– Хто мацнейшы знахар ці шаптун?*

– Знахар я не знаю, што ведае. А вось шаптун, так гавораць, ніхто не ведае, што ён шэпча. Вось, напрыклад, пойдзеш да аднаго шаптуна загаварыць хваробу, а табе гэты загавор непаможа, а да другога шаптуна прыйдзеш, ён тваю хваробу з першага разу вылечыць.

*– Ці ведаеце, Гелена Мечыславаўна, што за хваробы: наход, каўтун, грыжа?*

– Наход знаю, яго трэба лячыць не загаворамі, а травамі. Каўтун – трэба загарываць. Грыжа – ведаю, яе можна загаварываць ці травамі лячыць.

*– Залатнік, сурокі?*

– Залатнік, у нас завецца залутуха. Гэта калі болькамі пакрываецца у чалавека твар, галава. Гэтую хваробу толькі загаварываю. Як раней, такія *дзядкі* раслі. Гэтыя дзядкі заварывалі кіпенем, астужалі і змывалі болькі ці загаварывалі. Сурокі. Гэта хвароба, бярэцца, калі у чалавека плахі глаз ці плахая мінута – гэта ўрокі. Гэту хваробу таксама загаварываю.

*– Рожа, скула?*

– Скула падобная да рожы. Скула – таксама выходзяць красныя гузы, іх трэба загаварываць. Скулу загаварываюць загаворам ад рожы, тады прападаюць раны, опухаль, вадыры белыя – гэтыя вадыры лопаюцца і ўтвараюцца глыбокія ранкі. Тады трэба рабіць *мазь з кароўскага масла, чыстага пчалінага воску і загаварыць гэту мазь*. Гэтыя раны тады адразу выгойваюцца. Калі ёсьць *трыпутнік*, то вельмі добра абкладваць раны ім. Вельмі добра абкладваць *капуснымі ліс-*

*тамі*. Раней, нават, зімой мелі мяккія галоўкі капусты. На мяккія лісты клалі мазь і прыкладвалі да ран і яны адразу гаіліся.

– *Часотка?*

– Цяпер, у асноўным, гэту хваробу лечуць урачы, а раней рабілі *мазь з дзівасілу*.

– *Ячмень?*

– Ячмень можна вылечыць так; памачыць хлеб, прыкласці к ячменю, а потым скарміць курам.

– *Усе гэтыя хваробы хто лепей вылечвае: бабкі-знахаркі ці дактары?*

– Цяпер ужо і ўрачы лечуць, але *раней урачам не крэпка верылі*. Як не можа вылечыць урач, а бабка вылечыць сваімі лекамі ці загаворамі.

– *Што дапамагае пры апёку, атручанні, барадаўках?*

– Апекі таксама трэба загаворваць, Барадаўкі вылечвалі так: вязалі вузялкі – бяруць нітку і звязывалі вузялкі і загаварываюць. Ці гэту нітку укапываюць у зямлю, каб яна загніла. Ці пусьціць гэту нітку на бягучую ваду. Нітка паплыве па вадзе і барадаўкі прападаюць. А пасьля я даведалася, што найлепей дапамагае «*зялёная страказа*». Гэта сярэдні кузьнечык – яго на барадаўку пасадзіш, а ён стараецца, каб яе скусіць. Якую барадаўку кузьнечык укусіць, то ўсе прападуць, ні адной не застанецца.

– *Хваробы вачэй і галавы?*

– А вось хваробы вачэй і галавы – гэта ўсе загаварываю так, як рожу. Толькі завеш не рожа, а галава, каб боль перастала.

– *Глісты, болі ў жываце?*

– Ад глістоў трэба піць настой *часнака*. А таксама настой з травы *піжмы*. Кладзеш у кіпень некалькі кветак піжмы. Калі яна нацягніць, тады настой трэба піць, пакуль глісты не зьнікнуць. Яна дапамагае лепей, чым *часнок*. Ад болей у жываце трэба піць *мяту перычную, палын* ці *зьверабой*. Зьверабой вельмі дапамагае і ад болі, і ад паносу.

– *Крывацек, нервы, парэз*?

– Крывацёкі ці парэзы лячылі раней такой травой *крываўка*. Разрэжаш даўней руку сярпом, калі парадкуеш зерне. Нарвеш крываўніку, ён рос па ўсім полі, патрэш ім рану, адразу крывацёку не застанецца. Ад нерваў дапамагае настой *валер’яны, пустырніку*. Пры паносе трэба піць *зьверабой*.

– *А калі зубы баляць?*

– Зубы я загаварываю. Таксама, каб зубы не балелі іх трэба паласкаць настоем з *дубовай кары*. Пры прастудзе дапамагаюць *гарлянкі*. Іх трэба збіраць і сушыць. У знахароў усё бывае ў запасе. Ад горла дапамагае *мёд з маслам*. Але мёд трэба купіць, бо ён мала ў каго бывае.

– *Спіна, болі ў суставах?*

– Сьпіну ці суставы трэба націраць *водкай* ці *спіртам*, толькі цёплай. А каб лепей дапамагло, трэба ставіць банкі на сьпіну, а потым націраць хворае месца.

– *Хваробы скуры ці як змяя ўкусіць?*

– Гэта трэба рабіць мазь з дзівасілу і ёю націрацца. Укус зьмяі я загаварываю. *Раней гэту хваробу ніякі доктар не вылечваў, а загавор дапамагаў.*

**Фітатэрапія**

*– Якія зёлкі дапамагаюць ад хваробаў? Ад чаго дапамагае альвас?*

– *Альвас з мёдам* дапамагае ад хваробы лёгкіх, бранхіта. А калі руку разрэжаш, то трэба прыкласці альвас і завязаць руку. Бо *сок альвасу* вельмі дапамагае загойваньню ран. *Зьверабой* дапамагае ад сэрца. Корань трэба заварываць кіпятком. *Гарлянка* дапамагае ад горла. Гэта такая сіненькая траўка, яе трэба збіраць, сушыць, а потым заварываць. Дзівасіл дапамагае, калі нага ці рука паламана. Корань дзівасілу вельмі добра загойвае. *Упуднік* ад упуду. *Сіні ўпуднік* нада курыць над дзецьмі, калі пужаюцца. *Васільковы ўпуднік* таксама дапамагае. *Крушына* ад зубоў, калі баляць, то трэба заварываць яе кіпятком і паласкаць рот. *Півона* памагае ад упуду, калі спужаешся, трэба яе заварыць. Півона і белая, і красная дапамагаюць.

*Наготкі*, калі жывот баліць, але найлепей ад жывата памагае *топаль*, а наготкі ад глістоў. *Маць-і-мачаха* дапамагае ад кашлю. А ад ран лісты рвуць і прыкладаюць. *Чыстацел* – па-нашаму "*чысьцік*". Памагае, калі ў чалавека пятны на шыі, на грудзях. А *сандалея* ад пятнаў дапамагае. Жоўтым цьветам. Трэба яе заварываць і абмываць пятны. *Рамонкі палявыя* і *гародныя* памагаюць ад сэрца, калі ў жываце болі. Налі кіпенем і пі. *Сардэчнік* памагае ад сэрца. Цьвіціць жоўценька, я яго таксама сабіраю.

*Зьверабой* памагае ад прастуды, ад горла. *Трыпутнік*. Калі якая рана, то трэба прыкладваць лісты. *Чабор* па-нашаму «*чамбар*». Дапамагае ад сэрца. Яго трэба набіраць, сушыць лісьце і заварываць.

*– Калі, дзе і каму трэба збіраць зелкі? Ці трэба іх свянціць?*

– Па-нашаму варажылі, што гэтак *зьбіралі толькі перад Купальлем*. Як 24-га бываюць сьвяты, вось трэба да гэтага сьвята сабіраць зёлкі і сушыць. Тады яны памагаюць. Можна і сьвянціць, можна і так. Калі сьвянціць, лепей памагае. Сьвянціць лепей на Дзевятнік. Дзевяць дней у касцёле молюцца, а як канчаецца набажэнства, тады ксёндз сьвенціць. Я каталік. Высушыць зёлкі і імі дом абкурыць.

*– Ці дапамагае ад хваробаў якая-небудзь гародніна?*

– *Крухмал* (бульбяны) памагае ад паносу. *Гарбузы, семечкі* іх, памагаюць ад болі ў жываце, есьць трэба сырымі. *Капусны сок* памагае, калі апеціту няма ў чалавека. *Цыбуляй* і *часнаком* любую хваробу можна вылечыць. Вельмі многа вітамінаў.

*– А бяроза, вольха ці другія дрэвы?*

– *Бяроза* харашо, калі сьпіна баліць, бярозавымі лістамі абкладаць, рабіць ванны. *Вольха* толькі чорная дапамагае. Яна памагае ад ранаў. Трэба сабіраць шышачкі і заварываць. *Дуб*. Гэта калі суставы баляць, нада карой абкладваць суставы. Запах *черомхі* памагае ад болі ў галаве, але многа шкодна. *Сасновыя шышкі* памагаюць калі баляць лёгкія, хто кашляе. Зьбіраць трэба вясной, каб былі зялёныя, а не сухія. Трэба заварываць і піць.

*– А вось сала. Ці памагае ад чаго?*

– *Сала* таксама памагае ад лёгкіх, калі чалавек кашляе, калі горла баліць. Сала трэба распушчаць і піць. А ад язвы добрае срэдства – гэта *барані лой*. А

калі даўленьне паніжанае, значыць нада піць па аднаму *яйку* ў дзень. Калі павышанае даўленьне, то будзе горш.

*–Якія хваробы лечуцца ў лазні?*

– Ну вось падрыў трэба ў лазьні лячыць. Калі грыжа ў чалавека. Лазьню трэба тапіць, каб чалавек распарыўся бярозавым венікам. І тады сьціраць нада рукамі. Нада да сябе церць, але не ад сябе і потым накрыж. Трэба каб цела было распараным, цёпла каб было.

*– Што можна, а чаго нельга рабіць у вялікія святы, што чакае чалавека, які працуе ў свята?*

– Што чакае чалавека, гэта толькі Бог ведае. У сьвята рабіць нельга. Каб 6 дзён работаў і колькі хочаш, але 7 дзень ён павінен сьвяткаваць. У вялікія сьвяты нельга хадзіць у лес, бо зьмяя укусіць, нельга купацца ці плаваць на лодцы, бо утопішся.

*– Хто такія святыя, ці памагае хто з іх людзям і ад чаго?*

– Ад усяго памагаюць, маліся і памагаюць. Вось як мне вельмі балела нага, я няпоўныя два месяцы ляжала ў бальніцы, там мне яе і абагравалі і уколы давалі, быта нага і не баліць. Пакуль я прыйшла з аўтобуса дамоў, я апяць на нагу ступіць не магу. Тады прыйшла да мяне падруга праваслаўная. У мяне ўзяла кветкі-півоні, яна кажа – занясу ў цэркаў. Я нарвала ей самых лепшых і кажу ей, каб занесла іх бацюшку. Каб ён памаліўся, кветкі ў алтар пастаўце, мне можа перастанець балець нага – і па сей дзень у мяне нага не баліць. І пакалькі я каталічка, але кветкі баба занясла ў праваслаўную цэркву, і мне памагло. Значыць, Бог адзін і верыць можна ўсяк і па-праваслаўнаму, па-каталіцку.

*– Ці ведаеце вы хоць якія гісторыі пра святых?*

– Ну, чытала Гісторыю гэтую сьвятую. Так як гісторыя ідзець пра гасударства, так і пра Бога і пра ўсіх сьвятых. Вось калі я ляжала ў бальніцы і чытала «Сьвятую гісторыю», то ўрач прыйшоў і кажа: “Што вы чытаеце?” – а я кажу, што чытаю пра Бога. А ён гаворыць: “Дайце мне гэтую кнігу пачытаць!” Я яму дала, а калі ўжо адхадзіла з бальніцы, то ён прынес мне гэту кнігу. Значыць, усім трэба знаць. Як даўней былі камуністы, то забаранялі і дзецям у школах. Але я ўсё роўна верыла, нада маліцца. *Ні адзін камуніст не зробіць тое, што зробіць Бог.*

*– Хто такія знахары; што яны робяць людзям?*

– Ну, знахары можа і лечуць людзей. Многа хто лечыць і дзеля славы. Як ён можа, так і стараецца. Гэта як урач стараецца вылечыць свайго бальнога, так і каторыя загаварываюць хочуць вылечыць. Знахары загаворамі не лечуць, яны ўжо болей кветкамі, лякарствамі. Расказываў адзін чалавек, што і мухаморы памагаюць ад язвы жалудка, ну я не пробавала, не знаю.

*– Адкуль бяруць сваю сілу знахары, адкуль – чараўнікі?*

– Чараўнікі, кажуць, што бяруць сваю сілу ад чорнай магіі, у Шатана. Ен дае сілу гэтым чараўнікам. А знахары сілу бяруць з траваў, ну можа з загавораў якіх. Я дакладна не ведаю.

**Зап. студ. ПДУ А. Балтрукевіч у 2005 г. ад Запруднік Гелены Мечыславаўны, 1926 г.н., у в. Рафалова Цяцеркаўскага с/с.**

# ВЕРХНЯДЗВІНСКІ РАЁН

## 1

### Укус змяі

– Тожа раньша загаварывалі, цяпер у бальніцу возяць, былі і старушкі, старыкі загаварвалі. Ну вот, есьлі ўкусіць за нагу, ці ягады зьбіраеш – за руку, тады ўжо знаеш тых людзей, старушак. І тады ўжо сходзяць прынясуць, як вады нашэпча. Ці калі ў дзярэўні дык сама прынясець, ці нашэпча.

*– Ну, а як ім плацілі?*

– Ну, а як плацілі, я не знаю. Мы нічога не плацілі. Так вот: "спасіба". Ну, а цяпер жа людзі сталі багацейшыя. А раней дык бедныя былі, басяком хадзілі. У нас зьмеяў многа было.

*– Ну, а як жа адзін чалавек можа памагаць, а другі не можа. Адкуль такая сіла?*

– Не знаю. Гэта вот, не магу сказаць. Так слыхі ішлі, што гавораць зьмеі ж усякія ёсьць, такія каторыя "паросныя" там. Значыць, калі укусіць нада, каб многа людзей памагала. Ага. А другая, вот, такая адзіночная ... Ёсьць ядавітыя і не. Раней жа басяком хадзілі, дык многа ўжо і кусалі. А цяпер вужы запанавалі. Не кусаюць, гаварылі.

*– Зубы баляць – тожа загаварвалі?*

– А што там нешта шэпчуць. А што там гаварылі, мы не інцерасаваліся. Памагала. Очэнь памагала.

*– Сурокі можа доктар адрабіць?*

– Не знаю доктар ці ўмеіць. Сурокі, мы так у бальніцу з гэтымі сурокамі не абрашчаліся. Ці можа ён вылечыць, ці не можа – не знаю.

### Валаснік

– Валасьнік тожа вылівалі. Неяк каласы сабіралі. У нас вот Анюта Мацейкава вылівала, вылівала яна і Маньке, сястры маёй, і Івану-паштару. Ну, яна ж нешта шэпча тамака. І яна тады льець... Нада жытнія каласы старыя. Цяпер жа жыта ня сеюць, раней сеялі. І тады каласы, і яна ж нешта гаворыць, навернае, і вадой такой льець і льець. І, праўда, валасы гэтыя вылазяць. Вот такія валосікі. На трапачку працэдзіць, а там валосікі. А бальніца гэта дужа не памагала, яны парэзаць парэжуць, ён засінее, чалавек адмучаецца, крычыць. Нядзелю і дзьве крычыць з гэтаю рукой, тады больш па бабках, у бальніцу не хадзілі.

### Парэз

– А Бог яго знае. Во, такая балезьнь прыключыцца, то парэжаш, што там уколіш. А цяпер, вот, парэжаш палец, ён быстра так не загайваецца. А раньша ж хадзілі вот шклянкі былі, ногі праб'еш – сейчас у пясок, значыць, пяском гэтым засыпеш, а на утра раны ўжо нету. Палец калі парэжаш, трапачкай завяжаш, а тады такая *криваўка* была. Такая, яна беленькім цьвіціць, такія лапачкі крывенькія. Ну вот, тады што боб садзілі, паложыш *бабову лісьціну*. Сама лучша лекарства – засыпаць углем. *Угаль,* ну дзеравянны згарэўшы. Вугалек расьцёр, туды засыпаў. Я палец вот парэзаў, у бальніцу не пайшоў, расьцёр вугаль, засыпаў. Адна мінута – перастала кроў ісьці.

*– Ну, а каб вот не загнаілася, то бывае, вот, што заражэнне пайшло?*

– Ну, а як, я сразу, вот парэзаў – *вугалек* расьцёр, засыпаў і нават не завязваў.

**Пра розныя хваробы**

*– А калі ў дзяцей панос?*

– Так у дзяцей, ну а тады што, *пшанічнай мукі* заварыш ложку, яны з'ядуць, іх скрапіць зразу. *Крахмалу*. Ага, ну як мы з вамі гаворым – "калатуха". Ну дык трошачку (мукі ўсыпаць), пап'юць і сейчас панос пройдзе.

*– А як наадварот, што крапіць, не можа чалавек схадзіць?*

– Панімаю, мне на сваім жыцьці не прыходзілася. А расказвалі тады, ну *мула* трэба ў задні праход, каб аслабілася гэта. Ад прастуды што? *Зьверабой*, ёсьць такая трава, *маліньнік*. Вот маліньнік асобенна. Есьць варэньне малінавае – яно так не дапамагае, а вот пруточкі гэтыя нарваць, у кацёл, вадой зальеш, крышкай закроеш, закіпяціш і гэта ўжо ад прастуды маліньнік. Самае первае лекарства.

*– Ну, а як сэрца баліць, ці пячонка, жалудак?*

– Паслухайце, урачэй не было, мы не знали. Ну, баліць так, пабаліць ну і ўсе там. У нас мужык быў, залы гэтай намуціць у стаканчык. Пап'ець, калі баліць жалудак. Не знаеш ці там жалудак, ці што, ну, баліць жывот.

*– А ці бывае такое, што ці ветру, як стрэмка засядзе нешта, што аж не павярнуцца.*

– Ну, биваіць, тады што дзелаем? Цяпер ужо грэлку выпусьцілі, а раньша нагрэеш скавараду, паложыш на гэта месца, укруціш трапкамі каб не спаліць. Раз, другі раз і пройдзець, гэта такое дзела.

*– Ну, а ад радыкуліту?*

– А Бог яго знаіць. Раньша яго не было і не панімалі гэтага. Сьпіна забаліць, забаліць, а радыкуліту не было. Не знали можа ён быў, мы не знали.

*– А вот зараз шмат хварэюць у горадзе на рак. Яго ж не знали?*

– Яго ніколі і не знали і, каб даў Бог, і не знаць, і не чуць. Гэта во, цяперашняя. Ну, раньша гэтыя людзі, гасударства не з'язджаліся ў месца, і у нас такой хваробы не было. Адна гэта, ну, па сваей тэрыторыі і мы гэтага раку не панімалі. Не панімалі ні туберкулезу, нічога.

*– Вось зараз жа новыя паз'яўляліся. СНІД, гэта ж новая балезнь?*

– Мы цяперайка і балезней не сасчытаем, па телевізару ўсякіх ёсьць. Раз езьдзіюць адны к аднаму, ну вот яны і развозяць. Раньша людзі былі саўсем іншыя. Там старухі былі па 90 гадоў. Так яны не былі дажа ў той бальніцы і ні аднай таблеткі не знаюць, што такое. Дзела ня ў гэтым, што чыстую ваду піць. А яны гэта каля дома лужа тут, дзе ходзяць, ваду бралі, і кіпяцілі, і пілі, і елі. І ні адна не была ў бальніцы. А ейна мамка, піла ваду, во дзе ходзяць і ў бальніцы не была.

**Зап. У. Лобач у 2003 г. ад Ганчаронка Архіпа Федаравіча, 1926 г.н., Ганчаронак Таццяны Дзмітраўны, 1934 г.н. у в. Дабраплёсы Ліснянскага с/с.**

**2**

**Сурокі**

*– Ну, а гаворяць, бываюць, што сурочаць чалавека? Што можа быць?*

– Мене былі зглазілі. Як маладая была, толькі радзілі дочку, первую. Мне сразу стала тошната, голаўная боль, я валілась с ног. Помню, прышла дамой, мы жылі на кварціре у старухі, ана сразу гаворыць: "Дзетка, цябе зглазілі".

*– Што так і ўбачыла, што зглазілі?*

– Да, яна мне адразу сказала, цябе, гаворыць, зглазілі, давай скарэй ваду. Я не знаю, што яна там дзелала. Ваду, угалькі нейкія там, стол крэст на крэст смывала, нешта гаварыла, малітву.

*– А як змывала стол?*

– Ну, крэст на крэст. Вот, напрымер, атсюда і тот уголок, потым этат уголок і этат (накрыж па даяганалі). Да, малітву нейкую чытала, дала мне папіць. Я праснулась, і як не бывала. Я стала здаровая, нармальная.

*– А як гэта, спецыяльна робяць?*

– Мне кажэцца, што, можэт, хто-та спецыальна, ну, а бываець, што можа па сваёй воле. Эта проста можа глаз у чалавека такой ілі мінута бывае і зглазіт. Глаз, наверное, у чалавека такой, ну, і мінута падстаць.

*– Можа вам расказывалі, што даўней былі людзі, якія і карову маглі папсаваць?*

– Да, маглі. Вот у нас чэраз дом Феня такая жыла. Яна эта самае магла, знала эта, дзелала. І карова магла кроўую сразу як даіцца, і карова могла сразу заваліцца, с хлева не выйсьці, вымя выпіраецца. Такое была.

*– І як тады карову паправіць?*

– Тады к другому чалавеку нада, раньшэ тады тут былі … Юлечка была памагала. У мяне сьвіньня была паросная. Я хадзіла, работала, а яна выскачыла, пабегла. І тады сьвіньня прыйшла дамоў, я загнала. Здыхае сьвіньня, лягла, ногі выцягнула, я руку ў рот піхаю – здыхае свіньня. Што рабіць? Я тады пабегла к Хрысьціне. Эта мая залоўка. Гавару, чым лячыць? Бягі, гаворыць, к Юлечке. І яна мне бутылку вады нагаварыла. Прынесла, я ей у рот вады лію, змыла ёй ногі. Прыйшла ў хату, села, думаю, мо, здохла. Захажу ў хлеў – сьвіньня ходзіць, есьці просіць.

…На Пасху было. Я адна у хаце топаю. Прыходзіць да мяне гэта жэньшчына. Гэта Феня. "Можа, ты мне дасі сьпічак, – гаворыць. А я знала гэтыя прыметы, што ў празьнікі не нада даваць такім людзям нічога. Я схапіла качаргу, гавару: "Вон з хаты! Ты, – гавару, – только ждала сегонешняга дня, Пасхі". Выгнала я яе вон з хаты.

**Валаснік, вадзянка, спуд**

*– А што гэта за валасень?*

– А валасьнік, гаворуць, што ёсьць. Эта палец как бы васпаляецца, ломіцца. Гэта бываець хвароба, касьцевая нейкая хвароба.

*– Ну, а як малыя дзеці бываюць не спяць, крычаць ноччу?*

– Ну тожа, да, к бабкам хадзілі і загаварываюць прыходзяць. Я сама, у мяне двойня была: сын і дочка. І хадзіла к бабуле, там і тут у яго пуп прыгаў – грыжа туловая. Яна мне загаварыла тры раза, перестала.

*– А вот вадзянка, што такое?*

– А вот пуп гэта, ага. Кагда радзілся рабёнак, ну так грыжа, яна такая вадзянка і грыжа. Врачы гаворац, што можа аперацыю нада дзелаць. Вот эта бабка прышла ка мне 3 раза, загаварыла этат пупок яму, гладзіла, вадзічкі дала. Усё! І па сёняшні дзень... Мой сын і ў арміі служыў, і нігдзе нічога не нада. Яму 37 гадоў і нікакіх грыж.

*– Яшчэ гавораць упуд, як спужаецца?*

– Калі спужаецца, тады тожа. Я сама помню, мне гаварылі нада лён, пакля, абводзіць кружком так вот, вакруг таго, хто іспугался, і ціхонечка запаліць, что бы этат кружочек згарэў вакруг яго галавы, ну так рубашечку падняць, што б дымок туды ішоў. "Куды дымок – туды пудок", так гаварылі, і памагает.

*– А што можа быць ад упуду?*

– Ад упуду можа і эпілепсія начацца. Есьлі сільны іспуг – эпілепсія. Гэта ужо не лечыцца. Мяне ўчылі дзяцей, каб пайсці спаць, нада абязацельна змыць, дзе стаяць качэргі, памёлы даўней. Нада прынесьці на эта места і вадою змыць рукой над гэтым памёлам, і рабёнак будзе спаць.

**Лекавыя зёлкі**

*– Ну, а даўней менша ж таблеткамі лячыліся?*

– Да, канешне, кто там знаў гэтых таблетак.

*– Ну, а травы вот сабіралі якія-небудзь?*

– Канешня, травы сабіралі, да і цяпер. Розныя травы, сматря ат чаго. Есьлі, напрымер, ат іспуга, то вот такіе, я не знаю, как называюцца, беленькія цьветочкі. Я іх там знаю ат іспуга. Купаць там нада. *Чарада* само сабою. *Піоны*, в піонах харашо купаць дзяцей, кагда піоны цветуць сабіраюць. *Красный піон*, он уже ідзёт больш па-женскі – настаівают, пьют. *Розавый піон* – детям успакаівающчае. І купаць можна в нём і піць даць, заварыць. Ну, *зьверабой*, в аснаўном, мне і врач саветавал ат жалудка піць, кагда растройства, і ат прастудных забалеваній зьверабой харашо.

…Рожыстае васпаленіе тожа как бы называюць скулай, а там скулы нет, проста краснага. А скула – эта чыр. Сваімі срэдствамі. Я помню ў мяне і ў самой была посьле вайны заставалася. На сьнягу спалі, пака вайна была. *Лук* пяклі – ложылі. *Трыпутнік* прыкладывалі. Трыпутнік ён как бы жару сьнімае, как васпаліцельны працэс.

*– Заварываць трэба?*

– Не, прама лісьцікамі ілі можна памяць, штоб сок быў і накладываць на бальное места.

*– А калі моцна парэжышся?*

– Трава *краваўка*, беленькімі лісьцікамі расцёт. І, бывала, яе натрэм, прыложым, падзержым, і кроў перастае ісьці. *Піжма* – жэлудачная трава. Ад сэрца *валер'янка* трава, і ёсьць *сердзечнік*, па-моему, называецца, в балоце расьцёт на тоненькай ножке беленькій цьветочек, небальшой. На стакан 5 цьветочкаў запарыць. Помню сама піла. Піць 3 раза ў дзень… *Чыстацел*. Хаця он очень ядавітый чыстацел. У меня на почке кіста і мне сказалі, што нада чыстацела сок піць, начыная ат каплі і вышэ, вышэ да 20, а патом снова ніжэ. Астарожна. Я піла і палучыўся парадокс. На УЗІ пашла, піла я яго курсам, і вот на левай почке не стала кісты, нету, сьледы асталісь, но нету, а на этой паявілась.

*– А вот, ну было ж даўней, змяя чалавека ўкусіць?*

– І такое загаварывалі. Ну раньшэ, які там доктар. Загаварывалі і памагала, і праходзіла.

**Зубны боль**

– Вот і зубы загаварывалі неяк даўней. Пасьля вайны мяне, я помню, вадзіла матка загаварваць. Нейкая жэньшчына. А хто там загаварываў? Калмыка матка! Раінкіна залоўка яна была, яна і ад упуду загаворвала, ад зглазу, усяго. Нічога не клала (на зуб), проста пальцэм водзіць, гаварыла...

*– Раней ці былі такія хваробы, як рак?*

– А хто знаў, што рак ці не. Чалавек балеў, балеў і умер, а ат чаго, все гаварылі чахотка, чахотка. У меня сястра маленькая была с 38-га года, яна ўмерла, у нее рвало і панос, і всё умерла, не спасьлі. Цяпер бы зьдзелалі.

*– Ад паносу, як растроіўся жалудак ці як запор?*

– *Дубовую кару, шышкі альховыя* харашо, *конскі шчавель* ад паносу. А ад запору – тады толькі *крушына*, можна кару... заварываюць.

**Зап. У. Лобач у 2003 г. ад Бізуновай Веры Філіпаўны, 1933 г.н. у в. Лісна.**

## 3
## Пра хваробы і зёлкі

*– А ці былі такія людзі, што загаварывалі?*

– Ну, былі і такія. Ну, ад уроцы – Манька Бароха, Зіна – ад зьмяі ўродзе бы. Вось зьмяя ўкусіць, а яна загаворыць і ўсе пройдзець.

*– Ну, а хто лепей памагае ад змяі – дохтар ці бабка?*

– Не, я вось гавару, калі я работала даяркай. Ну, і вот адну карову укусіла зьмяя, ну дык бабка загаварыла. А другую ўрач лячыў – тая здохла.

*– А якія яшчэ ёсьць хваробы, што дохтар не паможа?*

– Ну, якія там хваробы... Я так думаю, што нада унушаць сам сабе, што “я папраўлюсь”. У мяне так было – забалела нага, што не магу спусьціць уніз. Ну, я і давай сама. Есьць такія назваюцца “*брылі*” – лопух, “*бадзюлькі*” – лопух.

*– “Брылі” ці “бадзюлькі”?*

– Ну, хто як. Хто лапухой завець. Ну, і я абкладвала нагу гэтым цёплым (лістом). І вы знаеце, як кампрэс. Хаджу пака ня высахніць. Ну, тады ёсьць яшчэ *макрыца* такая вот. Мне пасаветавалі парыць гарачай. А як пакладу гарачай – нет места і серца вырываецца, а прынясу з агарода і вот так вот абматываю і ўсе: і на нагу, і на пазваночнік – і адразу мне так становіцца лёгка.

*– А якія яшчэ траўкі, што памагаюць?*

– Ёсьць тут такая вот “*каманхолія*” – дома была, і давай я гэтыя есьці травы і ўсе думаю, што папраўлюся без урача.

*– А вось як сурочаць чалавека, што з ім можа быць?*

– Усё можа быць і цемпература можа быць. І обшчыя недамаганія. Ну ад гэтага дзелаюць і вугалькі пераліваюць. Ну, вот моляць малітву і ваду пераліваюць цераз вугалькі тры разы. Ну, памаліцца і «Отчэ наш» трэба.

*– А ад упуду ці можа чалавек захварэць?*

– Канешне, гэта сур’ёзна. Могуць і ногі адняцца, можа нават і рэч адняцца. Усяк бываець. Ну вот, кураць, траву сабіраюць жа. Ну вот, як цяпер у цэркві, у цэркві пасьвецюць якую, пасьвецюць. *Пудавік* – у сене расьцець. Такія цьвяты сінія, длінныя.

*– А якую траву свянцілі ў царкве, дзе потым хранілі яе?*

– Ну, розную і *васількі*, як вот на Івана сабіралі. Ну, ў бумажцы і за абразы, за ікону. І нада верыць, што гэта мне паможыць.

*– А калі год адляжала – куды яе?*

– Спаліць трэба. А вось бацюшка гаворыць, што гэта ўсё і яйкі, і траву пасьвянцоную нельзя нікаму: ні карове, нікому, а палажіць пад кусцік і вада дзе сьвянцоная астаецца – тожа выліць на кусьцік, а жывёле нельга даваць.

*– А вось ці ёсьць такая хвароба як валаснік? З чаго яна бярэцца?*

– Валасьнік, ёсьць! Во тожа загаварываюць. Раней казалі, што як сільна палолі, то якабы ад расы.

*– А скула?*

– Скула – гэта чыра.Усе прыкладалі: і *лёд* і з *мылам*, і *падарожнік*..., *канаплю* парылі, лажылі.

*– А вось мак, ці памагаў ад чаго?*

– Ад мака – спаць будзеш (добра). Дажэ раней дзяцей паілі, каб спалі. Зварам паілі. Ну, адвараць, як чай і паілі.

*– А вось сурокі з чаго яны?*

– Ну вот, што я вам скажу. Ну вот, маладняк... некалькі чалавек прыходзяць, а ў аднаго глаз такі... Ну, вот у нас інжынер такі быў, па балоце хадзіў. А карова ў нас такая багатая была. І вось ён неяк кажыць: “У вас карова такая багатая”. І я вось прыхаджу карову гэту даіць. А гэта карова як дасьць мне, і даёнка паляцела... І давай я тады – і са рта памыла. Ну, так і возьму ў рот *вады*, а тады, гаворадь, можна і *мачой*. Ну вот, супраць шэрсьці. Так як хрэстам такім. Са рта тры разы (змыць).

*– А ці можа мінута такая, ці глаз такі?*

– Бог яго знаець. А яшчэ ў нас была такая Люба. Гавораць, што яна гэта знала. Ідзем мы даіць карову, а яна прыбегла і кажыць ці ёсьць у тваёй каровы гузок, гэта як прывіўку зрабіць. А я кажу – паглядзі. І як ашалела гэта карова – і ў полі не падаіць і бяжыць сумашэдшая. А я тады кажу: “Люба, ці ў цябе глаз такі ці ты праўда знаеш?” Ну, дык гэта, яна сама мне і адрабіла. Гэта, гавораць, так і нада і *хто гэта зрабіў, каб той са свайго рта і змыў*.

*– Да вайны не было дактароў. А як лячыліся?*

– Не было дактароў. У дзяцей – васпаленне лёгкіх і многа-многа дзяцей памірала. Не маглі рады даць.

*– А гавораць нехрышчонаму чалавеку загаворы не дапамагаюць?*

– Во гэтага я не ведаю. Па моему, *хрышчоны там ці нехрышчоны, а загавар павінен памагаць.*

**Укус змяі**

*– Раней жа былі такія балезні, што доктар не мог даць рады, а толькі загавор?*

– Яны і зараз ёсьць. Ну, па нашаму: гад, зьмей, вужака. Вот таксама загавор. І не кожны загаворыць. Вот я сама загаварваю. У мяне бабушка загаварывала. І яна гаворыць: “Унучка, давай я цябе паўчу загаварываць, у цябе ж дзеці, а ўдруг што...” І вот былі адны мальчышкі, балаваліся на сене, а там балота радам. І ўкусіла яго за локаць. Гэты малец прыехаў дамоў. Маці сказала: “Едзь у бальніцу”. Ён з’езьдзіў, зрабілі яму укол. Ён дамоў прыехаў, а пухліна ў яго аж да плячa. А тады яму нехта сказаў: “Вон Зіна Барохіна...” І прыйшоў ён ка мне. Сеў, я яму загаварыла. І ён гаворыць: “Як мне стала добра”. Як я яму загаварыла. Ну, вот. І карову калі. Во ляжыць у полі... і то за вымя, то дзе за нагу – і тады прыходзяць прасіць – нада ж дапамагаць людзям. І я загавару і ўсе праходзіць. Вось я прыхаджу – раз за вымя, я каля яго і гавару.

*– А як вас бабушка вучыла? Яна пераказвала?*

– Да, пераказвала. І вот толькі хто першы радзіўся – і я першая радзілася. А вось калі б я вас вот паўчыла – я б ужо ўсё. Ня можна так.

## Суроцы, упуд

*– А калі сурочаць чалавека?*

– Ад суроцаў сам сабе можа дапамагчы. Вы знаеце, што я насіла ў бальніцу, а ў мяне зубы... Ну, яна мне мыш'як паставіла, усё зрабіла, сказала прыйсьці цераз два дні ці тры. А там якраз з маёй дзярэўні была. Яна мне кажа: "Разам дамой пойдзем". А там сядзела яшчэ жанчына, валосы чорныя, кучаравыя, глазы такія ж чорныя. А гэта – наша дзеравенская – у мяне спрашываець: "Ну як, не баліць". А я кажу: "Я нават не адчула". А гэта, як перавяла мяне чорнымі вачамі, і мне адразу так дрэнна зрабілася. А гэта мая гаворыць: "Знаеш што, табе суроцы. Табе трэба памыцца *мачой*". І я прыйшла дамой, села – сяджу, дрэнна так. І пайшла я ў туалет, руку так вот. Толькі руку, нада не так вот спераздзі, а ззадзі папісала, раз рукой правяла, другі і трэці. Прышла і села за стол. Села і не адчула, як заснула. Прачынаюся – нідзе нічога нет.

*– А як далонню, ці проста?*

– А не во так вот, праваю рукой (тыльным бокам далоні).

*– А з упуду могуць хваробы прыключыцца?*

– З упуду – пелепсія, падучая. Гэта ў нас там адзін быў. Яго сабака напугаў. Яму тады годзікі тры было. І маці яго ездзіла куды ў Полацк ці за Полацк, к старыку. Ці адзін раз, ці некалькі і потым усе прайшло. А тут яшчэ на Горках жыла жэньшчына, дык у яе цёткі гэта хвароба – падучая як радзілася.

*– І гэта не лечыцца?*

– Гэта ўжо ўсё.

## Валаснік

*– А вось хвароба валаснік? З чаго ен бывае?*

– Ну, не знаю, гавораць ад макроты. У мяне ў прошлым годзе вось тут быў (паказвае на палец правай рукі). Мне кажуць: "Ідзі ў больніцу". А я стала распытваць, трэба ж загаварваць. І дзе тут пад Дрысай. Там жэньшчына такая маладая. І вось я паехала. Яна мне загаварыла, вакруг мяне хадзіла. Яна мне сказала нада *мёд* прыкладваць. А як рана мая распухла. А яна сказала мне і другі раз прыехаець. Ну, я і паехала. Яна мне ўжо *каласы* прывязвала і вадой палівала. Гэта гаворыць – валасьніка зліваець. І сказала, прыязджай і трэці раз. А рука ўжо зусім. Уся разгнілася. І мне сказалі – ідзі да доктара. Ну, я і пашла ў бальніцу. А даўней у мяне на сярэднім пальцы быў, дык я ездзіла да шаптухі пад Асьвею.

*– А вось як валаснік выходзіць, як воласы?*

– Дык не. Вось прыехала я да шаптухі ў Асьвею. Гавару – валасьнік. Яна мне пашаптала. І гаворыць: "Накапай *карней маць-і-мачыхі*, выпій яго, выпей і *несалёнага сала*, *нутранога* і прылажывайце". Праз два дні я прыйшла. Яна мне так праз каласы, і мой палец ужо загаіўся.

## Чараўнікі

*– Раней жа кажуць, што былі такія чараўнікі?*

– Былі. Вось у нас бабушка была, яе гад укусіў, дык загаварылі... А сабаку нельга загаварваць, як сабаку гад укусіў. І як сабаку загаварылі – нікому не стала памагаць. У нас на гарэ два сыны былі. Бабушка іх знала. Анэта. І гавораць у нас тут адзін сасватаў. І потым стала, свадзьба не састаялася, яна так зрабіла, што свадзьба не састаялася. *Грэза* яе называлі – тая што зьдзелаець, а не можа адрабіць. Да, вось тут такія прыходзяць, у нас іх завуць "грэзы". Вот Пасха у нас бы-

ла, прыходзіць дай тое, тое. А потым можа і карове, і сьвіням што-та здзелаць. А мы раней жылі ў тым пасёлку. Ну, у нас тожа былі. Яна адтуль з-пад Дрысы. І ў нас была карова. І яна (Марыя-суседка) ўмела ўсе дзелаць. Вот пайшла мама карову даіць, а яна прыйшла і гаворыць: “Фрося, дай мне навозу”. І тады карова ў нас забалела. І ўсе малако пайшло па-за шкур’ю. І карова наша здохла. І перад гэтым мама мая знайшла тры яйкі гусіных. А ў яе не было гусей. А тады мама езьдзіла пад Дрысу да нейкай старухі, расказала, што кароўка здохла. А яна гаворыць, што зараз усё пакажыць і раскажыць. Тая ўзяла кнігу, зачарэпнула вады стакан. І гаворыць: «Падыйдзі сюды». Потым гаворыць: “Ты найшла яічкі ў саду? Нада было гаварыць, кідаць у печку і спаліць”. “А кароўцы тваей, – ґаварыць, – зьдзелала твая суседка”. А ў стакане точна – Марыя гэта – суседка. І потым гаворыць: “Што хочаш з ёй дзелай: хоць глазы выкалывай, хочаш рот набок”.

*– Гэта на вадзе?*

– На вадзе. Але мама нічога ня зьдзелала. Дык вот, калі з ей у плахіх атнашэньнях жывеш, то яна нічога ня зьдзелае, калі ў харошых – абязацельна.

*– А гавораць – яшчэ як матам перакрыеш...*

– Да, вот як перакрыеш. Ілі вот, на маю свадзьбу. Так жа вот іхны двор, а цераз дарогу наш. І падходзіць ла мяне жэньшчына і кажыць: “Стой радам каля свайго мужыка і не адхадзі”. І Марыя зайшла у хату, а мяне ж ужэ прыдупрыдзілі.

*– А болей тут былі і зналі жанчыны? А мужыкі тут былі такія*?

– Не, мужыкоў не было такіх.

*– А вось у царкву хадзілі такія людзі?*

– Наверна, яны мала пасяшчалі. Яны же ўжо ня Богу верылі – чорту.

*– А вось бывае, што малое дзіця не спіць ноччу, крычыць?*

– Вось, калі спугаецца, крычыць, старыя гаворуць, што з маечкі вырэж яго, палажы на якую тарэлку, запалі і яго падзяржы ножкамі і пад нос дай панюхаць.

**Пра хваробы**

*– А ці ёсьць такія травы ад упуду?*

– А травы ёсьць. Вось *упуднік*, но ён не везьдзе ёсьць. Я толькі відзела ў Дрысе, каля цэрквы. А ён такім настаяшчым расьце і беленькім цьвіціць.

*– Было так, што руку парэжаш, а як суняць кроў?*

– А во трава ёсьць *тысячалістнік*. Аднойчы, калі салому грузілі, я вілы ў салому кінула, потым неяк сама прыгнула і мне так неяк па губах. І кроў з роту як палілась. І тады мне жэньшчына атарвала лапак тысячалістніка і пацерла, пацерла. Ну, так і загаілася.

*– А не чулі такой хваробы, як залатнік?*

– Не, не чула. Вось бывае ў чалавека, калі робіць, можа павярнецца як і радыкуліт у яго. Можа ведаюць якія прыпаркі. На уколы езьдзеюць. А я аднойчы езьдзіла ў Валынцы да старухі *Альбіна Кунзая*. Стала мне балець у сьпіне. Я да яе паехала. Я раздзелася да пояса, лягла і яна рукамі паперабірала, а потым панажымала. І гаворыць: “У цябе зажаты нерв”. Гэта яна ад бацькоў навучылася. Альбіна сказала: “Я не шаптуха, я толькі рукамі дзелаю”.

*– Якія яшчэ траўкі лекавыя?*

– А я не знаю. Яшчэ ў нас гэтыя – “*бальбоўкі*” называюцца так. У нас па полю іх поўна. Высокія яны і такія крэпкія. Гэта, гаворацъ, первае лекарства ад паносу.

*– А вось калі зуб разбаліцца?*

– Калі зуб – трэба “*нерава карэньне*”. У мяне адзін раз разбалеўся зуб. У стакан з вадой, з кіпятком. Трэба кінуць карашкі тры. І няхай ён нацяне. А ён тады горкі-горкі. Дык я ў рот гэтай вады набрала, падзяржала ў роце. Потом выплюнула. І зуб балець перастаў.

*– А калі чалавек атруціўся чым-небудзь?*

– Вось яго брат жывець у Маскве. І вось стары мой зьбіраўся на работу, паклала я яму калбасы. А гэта сумка з калбасой у яго цэлы дзень на сонцы. І прыехаў мой дамоў. У яго ў сумцы яшчэ застаўся кусочак. Я гэту калбасу з’ела. У ночы як хваціла мяне «балезь». І галава баліць, і рвота, так плоха. Тады Зіна паставіла на газ вады, шэсць стаканаў. Ну каб яна летняя такая была. Потым усыпала туды сталовую ложку *соды піцьявой*. І, значыць, выпіла я стакан, другі, трэці, чацьверты, пяты, ну, і шосты... І прайшло, і добра стала.

*– А чаго раней не было такіх странных балезняў, а зараз ёсьць?*

– Дык раней што людзі кушалі як цяпер? Яны былі здаровыя людзі. У васкрасеньне варылі капусту з мясам. А так – талакно.

*– А праполіс ад чаго памагае?*

– Во, я вам раскажу. Есьць балезьнь такая – *абарваніна*. Ну, ападак жалудка. Была ў нас старуха, яна лячыла, церла. Я аднойчы так сарвалася. Прышла да Мількі Русак. Яна гаворыць: “Лезь на печку”. Бярэ ваду з мылам, каб рукі скользкія былі і трэць. Сначала правай рукой, во так вот. А левай нагу леваю к пупу. А потым правую руку і правую нагу. Потым за пуп бярэцца і так во патрасець. І ставіла стаканы на пупок. Дык во адзін мне пасаветаваў праполіс (ад той жа хваробы). Яго, гаворыць, нада на спірту. І піць яго трэба па сталовай ложке – 3 разы ў дзень.

**Зап. У. Лобач у 2003 г. ад Бароха Зінаіды Рыгораўны, 1933 г.н. у в. Канчаны Сенькаўскага с/с.**

**4**

“Ад нервозу сэрца” – трэ выпіць палову шклянкі вады пакаёвай тэмпературы з паловай шклянкі *цукра*

“Рак есьць у кожнага чалавека. У некаторых ён быстра разьвіваецца пры растройстве бальшым ці што. А як спакойная жызьнь, то ён так і не разьвіваецца”.

“Ад жалудка” – адвар каранеў *трыпутніка*, піць 3 разы на дзень перад ежай.

“Ад ма́лага ціску” – *аронія*.

“Ваяводзіха” – чараўніца ў Канчанах “бегаіць, як самая ноч (апоўначы) на кладбішча, бо ёй жа трэбуецца” – чаравала скаціну. “Карова прыйшла як Купала, а ў яе вымя разнесла… знахарка дала вады і асінавы калок, каб забілі яго за хлявом. Ну то і памагло”. Жонка стрыечнага брата з зайдрасьці зрабіла так, што ў швагры (мужыка сястры), калі той купіў новую машыну, дык увесь час лопаліся калесы. І так часта, што прыйшлося прадаць машыну”.

**Зап. У. Лобач у 2003 г. ад Жуклевіч Ганны Федараўны, 1918 г.н., у в. Канчаны Сенькаўскага с/с.**

**5**

“Зьмяіны ўкус” – каб спала пухліна, трэ абкручваць *вянчальнай стужкай.*

“Боль у суставах” (пухліны) – добра ўкручваць «*зьмяіным выпаўзнем*».

“Сурочаны ці не – знахар Тарас Яськаў (в. Ігналіна) – вызначаў прыкладаючы руку да ілба чалавека.”

**Зап. У. Лобач у 2003 г. ад Яськовай Вольгі Паўлаўны, 1922 г.н., у в. Ігналіна Чапаеўскага с/с.**

**6**

– *Ці ведаеце якімі травамі лячыліся?*

– Кагда сьпіна баліць, *крапівай* ў бані парылі і білі. Ну, і елі ж крапіву. Да сяго дня. *Зьверабой* 90 балезьней лечыць. *Чыстацел* – многа нельга, ён жа ядавіты. Ім раны смазываюць, ат бародавак тожа, п'юць панямногу, кагда жар – толькі цьвяточкі. Калі цела ажгёцца, то вось осы ўюць пузыркі-домікі. Ад ажогаў гэтымі домікамі прыкладаць трэба. Калі пузыркі па целе – агнянку мажуць. Калі насмарк – вядро з вадой і парышся – пройдзе. Для гэтага вядро з вадой нагрэць, туды *маць-і-мачаху* і дыхаць.

А *Купалаў букецік* храняць, калі спужаешся пакойніка ці чаго яшчэ – пакурыш і пройдзе. Соль, калі ў цэркві асьвяшчаюць, п’юць ці да бальнога места ложаць.

**Зап. экспедыцыяй ПДУ у 1995 г. ад Лапкова Ларыёна Ларыёнавіча, 1902 г.н. у п. Асвея.**

**7**

– *На чым вы робіце замовы ад хвароб?*

– На сваёй вадзіцы. Ці хто сваёй прынясе. І тры разы паўтараю на ёй замову.

– *А хто вас навучыў замовам?*

– Мамкіна маць навучыла ўсяму. Сшытак ў яе быў. Знахар быў, ад эпілепсіі мяне вылечыў. Усю станіну перавязаў цэльнай ніткай, па ўсіх суставах вузельчыкаў панарабіў. Потым зматаў тую нітку ў клубочак і сказаў пакласьці яе ў асіну і забіць там.

Была маладая – укусіла мяне зьмяя паросная – то самае балючае. Дык мяне бабка адная загаворамі вылечала. Ад змяі трэба ж было 12 загаворшчыкаў.

– *Як вы грыжу лечыце?*

– Ад бабкі навучылася: ваджу па сонцу пальцам вакол грыжы й хворы засынае.

– *А ўрокі ад чаго?*

– Надыйдзе некалі “плахая мінута” і, калі чалавек здзівіцца, то нават жывёла памірае. Ад урокаў ёсьць загаворы. У Кісялях жыва жанчына, якая кажа, што першы ці апошні чалавек у сям’і можа адвесьці ўрокі. Трэба не дыхая тры разы прагаварыць: “1 не 1, 2 не 2, 3 не 3 і т.д. да 10”.

**Зап. экспедыцыяй ПДУ у 1995 г. ад Навумавай Валянціны Сцяпанаўны, 1927 г.н. у в. Буды Чапаеўскага с/с.**

**8**

**Старцы**

– Хадзілі старыя людзі – старцы, яны просяць есьці. Мяне вылічыла старая бабулька, якая хадзіла і пабіралася (ад вогніка). Яна сцёрла мак на муку, потым пагрэла на скавародзе, разбавіла вадой і гэтай кашай смазывала.

**Зап. экспедыцыяй ПДУ у 1995 г. ад Ісакавай Анастасіі Раманаўны, 1929 г.н. у в. Стралкі Асвейскага п/с.**

**9**

*– А вось свянцоная вада ці памагае ад чаго?*

– Сьвянцілі ваду і яна круглы год была ў хаце. А памагала, калі што-небудзь забаліць і тады прымалі яе па трошку. Я вось сама веруючая і скажу, што ўсёж нейкая сіла ў ёй ёсьць. Вот наліце простай вады ў бутылку ці пасудзіну і пастаўце стаяць. Вось праз тыдзень-два яна стухнець, пачне іржавець і будзе зусім нясмачная. А сьвяшчоная вада стаіць круглы год і нічога з ёй не здараецца. Значыць ёсьць нейкая сіла ў ёй!

*– А як даўней лячыліся?*

– Да дахтароў ніколі не звярталіся. Я сама выгадывала васьмерых дзяцей і лячыла толькі сама. Калі чалавека зглазілі, тады нужна выйсьці на вуліцу, каб сонца двігалася з боку вастока. Змываць зглаз нужна проціў сонца. Нужна набраць у рот вады, сплюнуць і абмыць ліцо 3 разы рукой супраць дзьвіжэньня сонца, а потым абавязкова на адным дыханьні сказаць: "Чым нарадзіўся, тым лячыць буду". І сказаць трэба загавар тры разы на адным дыханьні. У маей суседкі быў хлопец, які ўсяго баяўся, ускокваў ноччу і крычаў, ні з кім не гуляў з малых. Можа, яго ў дзяцінстве сабака напужаў, можа яшчэ хто. Так суседка мая хадзіла да многіх знахараў і усе яны казалі, што не могут дапамагчы, і толькі адна (яна жыла пад Віцебскам) сказала: "Не, не дапамагу, мілая, таму што ён не хрышчоны". Перад гэтымі словамі тая знахарка дакранулася да цемечка. “Вось калі ахрысьціш яго, прыязджай да мяне”. Жанчына адвезла хлопчыка у Віцебск і там яго хрысьціла, а потым зноў да знахаркі. Тая дакранулася да цемечка і кажа: “Вось цяпер дапамагу”. Пашаптала і хлопец збавіўся ад гэтай хваробы. Казалі, што яго нібы падмянілі.

**Зап. студ. ПДУ С. Мацієўскі, А. Савіцкі у 1995 г. ад Сівохі Ганны Уладзіміраўны, 1920 г.н. у в. Вышнарова Асвейскага п/с**.

**10**

**Паходжанне замовы**

– Усе загавары сьвятыя, іх нельга даваць другім. Загавар і малітва – гэта адно і тое ж. Быў патоп на ўсёй зямлі. Пасля пасля патопу Бог скінуў на землю вужаку. Той сказаў:

– Я буду людзей кусаць.

– Я траву людзям дам ад укусаў.

– Я ў травы корань падгрызу.

– Я людзям слова дам загаворваць.

А зьмею нечым адказаць.

**Зап. У. Лобач, П. Мішын у 1995 г. ад Калеснік Агаф'і Паўлаўны, 1911 г.н. у в. Урагава Сенькаўскага с/с.**

**11**

*– А, вот, у вайну, лекарстваў, праўда ж, не была, а, вот, як лячылісь людзі?*

– Ну як лячыліся? Траўку, травы гэтыя. Многа якія ёсьць травы... ад чаго. *Палынь* дажа ат рака лечыць. Я не сабірала. Керас мой (муж) пучкамі (збіраў). Можа і цяпер на чардаку ёсьць. Вот этат любіў сабіраць. Ай, усякія, што толькі ёсьць (збіраў).

*– А як называліся?*

– *Калдуньня*. Во гэтыя *наготкі*.

## Вогнік

*– Ці чулі вы пра вогнік?*

– Была у меня такой случай…Знаеце што, ну яна, старушка, памёрла даўно. Мы ужэ паўстрачаліся з Яшам у Полацке. І, значыць, у меня праступа была на губе. Ў кіно іцьці, я яе сарвала і запудрыла. Ну штоб, від імела, (від) быў. Всётакі шла з младшым лейценантам. Вот. І знаеце што, пашло – прышчыкі па гэтаму (твару). Раздражэньне... такое. І такое раздражэньне, і зуд, і эта. Лячылі, лячылі ў мяне і ў госьпіталі – ён вадзіў – ён ваенны быў, да маёра дайшоўшы. Вот, і гэта, і сама. Вот, усё (пачало) гніць, гніець і усё. І ўжо пашло аж на шэю. Тады мне адна… я тады ў камунальным банку работала інспектарам па індзівідуальнаму жылішчнаму страіцельству. Вот тада Полацкая обласць была. Вот Кадзецкі корпус – усе там былі. Вот, і, эта самая, ну, дзе убіраюць, цехнічка гаворыць: “Едзь ты ў дзярэўню і пусьць такую траўку, ёсьць…” Не ўпуднік, а як яе… Беленькім цьвіціць, нада в іюне сабіраць. Вот эта спаліць, на эта попелам і сусто́ечкі сюды і памазаць. І сама на трэці дзень вылячылася. А вот як!?

*– А як вы рабілі? Сабралі гэтую траўку з беленькімі кветачкамі*?

– Прыехала ў дзярэўню сюда з Полацка. І яна ў Пескаватке жыла, такая старушка. Уп…, не, не ўпуднік. Лісьцікі такія маленькія нежненькія. Ну відзіш, во… І вот яна перада мной спаліла…

*– А паліла толькі квецікі, ці ўсё, усю траўку?*

– Усё-ўсё! Яна пакрышыла – сухой быў… І спаліла на тарэлачку і *сустойкі* паліла. Сустойку… Вы знаеце, што эта? Не сметана, а сустойкі – сладкія сліўкі. Вот гэтым во. І мне памазала пёрышкам курыным і я… І патом я яшчэ памазала. Ну і паехала, мне ж на работу нада. Вот. Туды. І Кераса вылечыла. А то ён ужо і пабрыцца ня мог. Цэлаваліся ж.

*– І да яго перайшло?*

– Да, і на яго перайшло. Вылупіліся, як цыплёнак з яйца (болькі). І яна нічаво не гаварыла. Вот этава я не хачу сказаць. Не шаптала, нічога. Вот эту траўку. Як яна…

*– А яна, можа, называла гэтую хваробу? Вось яна казала, што ў вас?*

– Не, яна… можа, вогнікам назвала. Перад плітой жа бульбіну пякла. Тады эта болька раскінулася. А я ж была на кварцірэ ў Полацке – Тупы перавулак. Там у аднэй Марыі…

*– Так гэта да пліты ў вас?*

– Можа, можа вогнік які. Не панравіўся (вогніку). Хто яго знаець. Ну, ўрачы не вылячылі.

## Пра хваробы, што лекавалі бабкі

*– Вам дапамагло. А яшчэ былі такія хваробы, што бабкі толькі маглі памагаць? Што ўрачы не лячылі? Ну, кажуць, што рожу трэба да бабак…*

– А рожу, рожу… Во, маей нявестке лячылі, Ланке, сына, што пагіб сын. Рожу ўрачы не ўзялі (не вылечылі), а яна рожу… А ад зьмяі лячылі бабкі, а бабак тых! Не аднэй, наверна, нет. Я не знаю. Ўсе памёрлі і Гаўручыха, і вот эта… Яна ў Казакове жыла. Во, а ў мяне быў палец во гэтат во, не прымярая, ударыўшы гэтат ногаць. Я к ей хадзіла два разы. І яна… Ужо сіні быў, во так во дацягнула, што я ў чатыры часы ўстала і к Наташы пашла, на ФАП. Яна сказала, у вас не рожа. Яна вылівает на какіх-та калосьсях. І патом нейкі волас ад калосьсяў, волас. А куды ж ён выліваецца, я ж вам не скажу. Но яна шаптала.

*– А ад чаго рожа бывае? Можа што старыя людзі казалі. Ад чаго рожа бывае?*

– Ад чаго рожа бываець? А я не знаю, мне кажацца, і ад ветра можа, ад вады.

*– А ад якой вады? Ад любой вады?*

– Ну як, ад харошай вады не будзець. Вот я не знаю у нявесткі, ад чаго у яе было, у маей.

*– Дзела в том, што у нас эта рожа была в арміі, када мы служылі. І проста папалась, как медзікі выясьнілі, плоха выдзеланая сьвіная кожа. І у нас палучылась, што адзін дзень забалел адзін салдат, на втарой дзень – пяць, а сапагі жэ ставілі, парцянкі лажылі. Чэрэз нядзелю можа пятнаццаць чэлавек адправілі в госпіталь. А патом медзікі прынялі меры і там…

– Дак вот яна мне, эта Гаўручыха сказала: “Дзетка, не, я табе не памагу.” І не. Адно. Другое, у каровы у меня малаком даілась, ці этым, малако кроўю даілась. Я пашла к ей. Яна гаварыць: “Не, нічаво я табе не памагу! Я ня ўмею”.

*– А Гаўручыха ж усё воду давала?!

– Ну, яна давала ваду. Яна памёрла. Тут і Ульлянка, тут тады, можа ня помніш, адзін Захар. А Ульлянка Савіцкая такая тожа давала.

**Пра дзіцячыя хваробы**

*– А вот, ну, дзеці малыя, вот, крычыць ноччу, не спіць, не можа… Як гэта называецца?*

– Можаць, іспуг. Можаць, какой-та дзе-та волас быць, а як яно называецца… (паказвае паміж лапаткамі). Шавеліцца, беспакоіцца, не сьпіць. Тожа выліваюць.

*– У меня в Брэсцкай обласці бабушка шаптала ат іспуга і к ей всё врэмя дзяцей вадзілі. Цяпер, значыць, вот эці традзіцыі, іменна вот эта, як называецца… Знахарства. І ано перадаёцца не каму-ліба. Вот жа у её, бабушкі былі і дочкі, і там і сынавья, а яна пердала пачаму-та нявестке, маей маме. Іменна там нада, штобы ілі душа падхадзіла… не знаю. А цяпер мама шэпчат, дзяцей водзят, ат іспуга. Ну там нож, нешта там загаварывает. І ўсё і палсяла этага дзяцей прыводзят.

*– А вот сабаку. Ну, маленькі дзіцёнак спужаўся, ну, сабаку, вот. Брахаў, спужаў дзіцёнка.*

– Тады, гавораць, адстрыгаюць у трох мястах шэрсьць у сабакі. Спаліваюць. І даюць піць, ці што.

*– Ёсьць трава такая – *упуднік*. Сушат, палят. Вот не помню хто расказывал, немец стаял ва врэмя вайны. І цэлую ноч крычал этат рабёнак… Немец бярот автамат і пашол. Ані думают, што он этава малова прыстрэліт. Он пашол в лес, нарвал травы. Зьдзелал атвар. Ана падумала, што, значыт этат немец атравіт малова. Аказываецца у этава малова балел жывот. Он проста-напраста вылечыл этава рэбёнка. Патом немец паказал “рябінку” ат укуса зьмеі. Вот Зуеў в Дзёрнавічах знал вот эту *рябінку*. Трава называлась *рябінка*. Александр Петровіч, сын ево, гаварыл, вроде бы он знает. Я гаварю: “Так када-нібудь паказал бы”. Імена ат укуса зьмеі – раздавіл, дал с’есьць і всё опухаль прашла. А што за рабінка, ґавару, на балоце расьцёт (магчыма, гаворка пра вятроўнік (Filipendula)).

– Эта ж травы, я гавару, што вот, гавораць, во эту *палынь* салдат ат раку спасала.

*– Вот бывала ж, што сільна руку парэжаш… Вот каб kроў суняць…*

– Краваўнікам можна, а яшчэ (саромеецца)... Мачой.

*– А ешчо інцерэсна палешукі бралі. Была ж, есьць кузьнечык, а есьць саранча. І вот саранчу ловіш, надавліваеш, ана выпускает сок… Раз!

**Залатнік (падрыў)**

*– А як вот чалавек, што падняў цяжкае, падарваўся?*

– О! Вот я вам скажу. После родаў я падняла ванну. Ён паехаў у Маскву на канферэнцыю. Мы жылі ў Віцебске тады. Такія жа болі! Дажа глаток вады і сразу болі і ўсё. І есьць не хочаш. Я высахшы была. Ён мяне і ў госпіталь, і так к урачам. Нічаво не памагалі. Адзін даже сказаў: “Ну, хоць вы, можа, і ёсьць яўрэй, што вам нужна бандаж і белы хлеб толька кушаць”. Я гавару: “А што мне уціскаць?” У меня цяпер у восемдзесят і то жывоцік. А, гэта, то ўжо толькі косці былі. Адно то што на адном пайку. Вот. І патом мая саседка. Я выхаджу із мальчыкам, плачу… на вуліцу. “Чаго ты, – гаворыць, – бабка так…” – вядома, мы толькі пераехалі, незнакомыя. А я ей і расказала, што вот як паем, то баліць вот, вот баліць і ўсё вот. Тут во жалудак. І гэта. “Вот малыша кінь во”, – (гаворыць). У яе два сына было жалезнадарожных. “А сама са мной сходзіш як-нібудзь.” І мы шлі пад Маркаўшчыну, туда. На правую сторану, якраз ад бальшака, ад Полацкага базара і такая калейка, высаджана сьліўкамі, вішнямі, хацёнка небальшэнькая. Прыходзім. Выходзіць малодзенькая, гаворыць: “Бабушка сёння не прымець, патаму што лежыт бальной. А вот завтра прыхадзіце.” – “Харашо!” Ну, і я ж Віцебск знала, значыць, там распалажэніе /таму/, што да Полацка я работала там. Я й пашла назавтра. Яна меня прыняла. Старушка, беленькая такая. Такая культурная, я бы сказала. Чыста па-рускі разгаварывает, вот. Гаварыт: “Ну, што расказывай, лажысь”. Такая кушэтачка дзеравянная. Нямножка вазвышана во тут. Вот ана пашчупала, пашчупала. “О-о-о, дзетка! У цябе залатнік, – гаворыць, – апаўшы”. А што за залатнік, а чорт яго знаіць!

*– А што яна рабіла?*

– Вот. Што рабіла. Ну і начала яна працэдуру. Вот эта ейная племяніца. Тожа з Масквы, яна масквічка, када-та аканчывала факульцет. Када-то! Вот, медыцынскі. Вот ана ей гарачай вады і патом палаценца і патом брушынную поласьць, во так во (паказвае масажныя рухі). Намыліла і давай масаж. І сюда, і сюда. Я задыхаюсю. Я ўжо дышаць не магу. Задыхаюсю. Яна ўсё раўно, ўсё раўно: “Цярпі, дзетка!” Нікакой вады, нікакой шэпат. Нічаво яна мне не дала. Тры разы я к ей схадзіла. “Тока шэсць месяцаў, – ана сказала, – рукі не паднімаць уверх, не паднімаць вядро. Не то што ванну.” Вот так ана меня вылечыла па сей дзень.

**Пра чараўнікоў**

*– Можа расказывалі пра дрэнных людзей, што не дабро людзям рабілі, не лячылі, а што шкоду рабілі?*

– Вот мы цялушку гадавалі. І кароўка ў нас была. Ну, думалі, зажыцца нада было. Мы ж прыехалі – і ў яго пусты чамадан, і ў мяне пусты чамадан – сюды. Вот. Гэта ў Дубініне Ганка была. Не, слушай, Міхайлавіч. Так вот, яна тварыла чудзеса. Яна тварыла чудзеса. Вот. Ну, і прыехаў гэтат Веркін брат. Ці Веркіна сястра, во дзе памёрла яна ужо. Сашкі Зуя – цётка. Не нада гэта пісаць. Ай не нада дзетка. Не нада. Сашка тут не прычом. Анютка – ілі Нюрка яе звалі – Марозіха. Марозіха. У яе сястра Верка была ў Боркавічах. Вот ана прыехала з мужы-

ком. Цялушку мы (прадавалі). аб’яўленіе пусьцілі. Эта прыехала купляць і Вася якраз з арміі прыехаў у одпуск тут. Радасьць. Да і тут радасьць. Ага, капейка ж будзець... якая. І што вы думаеце? Вывеў з двара во так во, вяровачку яны сваю прывязлі. Не нашу ўзялі. А гэта, абайшоў во так у кругавую. І раз! С левай стараны абскумацію, абскумацію і ў карман.

*– А што абскумацію?*

– Поўсьць, наверна. Я гавару: “А што ты дзелаеш? Яна ж чысьценькая!” Бо не дайшло да мяне! Я б яго матам і адправіла б, можа, бляха, дажа і палкай ба саданула! А я гэтага не знала, што Верка сястра. І не знала эта. Савершэнна. Ну і што? Раз! Пашла даіць карову тую, што асталася. А ё маё! Ні грама! Цырк-цырк! Ні грама! І ні вузла, ні масьціта, нічэво, ні крові. Ну, нічэво. Мы к Верыгу…

*– А што за Верыга?*

– Верыга быў ветўрачом. Гэны гаворыць: “Эх вы! Каму вы прадалі?!” Ўсё!

*– І малако разам з цялушкай пайшло?*

– Ўсё! Болей не было і нет. Так і здалі, у Лявонішына завялі эту кароўку – ніхто, ніхто не атрабіў.

*– А яшчэ былі такія случаі, што, можа, паддзелывалі?*

– У Барысах – дзядзька Сьцёпка, мамін дзядзька быў родны… гэта, жыў. "Воўк Яго Мяса" жывець ілі не? У Барысах. Ілі ў Страшныя яны пераехалі? "Воўк Яго Мяса". Яго Сьцепка звалі, можа.

*– Вы сказалі “Воўк Яго Мяса”?*

– (смяецца) Ён усё гаварыў так! Прысказака. Ганка карове здзелала мамінай. Вот. А ён тады і гаворыць: “Знаіш, дзеўка, знаіш, што, Раіна пляменіца?” Гаворыць: “Хочыш, я ім здзелаю? Гэтаму чалавеку? Прыдзеш дамоў – ён будзе ляжаць на куце, а кароўка ўстанець. Толькі… грахі вазьмі на сябе!” Да. “А грахі вазьмі на сябе тока.” А мама ж гаварыт: “Не, я грахі не вазьму! Нехай кароўка, ўсё, пагібнець.” Але не ўзяла грахі. Ну, яна цёмная была, мама такая.

**Зап. У. Лобач, У. Філіпенка у 2005 г. ад Аўтуховай Марыі, 1924 г.н. і *Навіцкага Васіля Міхайлавіча 1964(?) г.н. у в. Казакова Дзёрнавіцкага с/с.**

### 12
### Лекавыя зёлкі

*– А вы раней, як маладая былі, не бачылі, можа, там раней мама ваша ці бацька якія зёлкі збіралі? Таблетак жа не было.*

– Як мама – не, а бацька мой зьбіраў. Але я яго… мне было 12 гадоў, як ён памёр. Ён больша знаў. Ну сабіраў вот: *валер’янаўку* сабіраў. Нідзе не найці валер’янаўкі… Раньша была. Па пожнях. Пожні ж пазарасталі цяпер. А яна ж па пожні расла. Вот ён карэньня капаў гэта, сабіраў. Тады такі называў ён *сярдзешнік*, ат серца, беленькія такія цветкі. Гэта сабіраў. Ну, травамі лячыліся і ўсё! І скот лячылі травамі.

*– Можа людзі такія былі, што дапамагалі, вадзічку давалі?*

– Ну, былі такія. Ну ад чаго памагалі… Ад уроцаў там усякіх, ад пуду…

### Уроцы

– Уроцы – зглазяць чалавека, чалавек балеіць, ну, плоха яму. У мяне не было, а ў майго ўнука вот он і сейчас, сына (сын). Мальчык быў у мяне тут, му-

сіць годзікі тры было. І скажу хто яго сурочыў. Гэта во Прышчэпенкава Тамара. У яе вока плахое. Ну вот, ён гуляў, сын прывёз яму пясочку, насыпаў. А ма́ленькі ж гуляе тут жа. У баначку насыпаець, а потым туды перасыпаець. А яна шла і пастаяла каля яго і што-та падзівілася на яго. І захварэў гэты ма́ленькі… Аж яго і рвоты, і цемпература. Вось ён то сьпіць, то ўстаець. То сьпіць, то ўстаець. І вот так ноч прамучыўся ён. Ну, прамок. А тады ўжо была гэтая… Анюта, яна памёрла ўжо. Ага. Тады я думаю, схажу я к ей. І так мучаецца гэтат мальчык. Ноч і назаўтра не есьць нічога, цемпература, губкі ў яго сухія. Тады я гавару, пайду я к этай Уручысе, можа Марфа яго сурочыла, пайду ў яе вады… Пайшла як ей вады (узяць), так у абед. Пайшла вады, яна здзелала этай вады. Я прынясла эту ваду, а ён, а ён этат ляжаў во тут. Я ўзяла яму ручкі памыла гэтай вадзіцкай, ножкі памыла, тады так во яго змыла, тады губкі яму змыла, тады яму дала́ яму гэтай вадзіцкі нямножка папіць. І ён цераз некаторае ўрэмя пайшоў апяць гуляць у пясочак. Гэта ўжо было…

*– Вы ж дзяцей гадавалі сваіх, ці было так, што, можа сабаку спалохаўся?*

– Да, сабака быў. У тым канцы жыў у сястры такі. Майго сына сабака быў укусіўшы. Пакусаўшы нагу, так… Ну так брала, эта во, у саседкі ваду. І вазіла ў бальніцу.

**Укус змяі**

– А мяне самую, была ўкусіўшы зьмяя. За левую нагу. Сена там, поле такое было. Ну вот, сена ў калхозе варочалі і мяне ўкусіла эта зьмяя. Так укусіла – яны нябольна кусаюць. Вот укусіць камар, так во укусіць камар. А гляджу – гэта зьмяя. Мне забалела нага, гляжу, а яно так во – два зуба і дзьве кроплі такой крыві. І прахадзіў, гэта во, ручэй такі, і яна тады гаворыць: “Ляці скарэй, каб ёй вады, ваду…”

*– Змяя, каб вады не напіцца?*

– Ага. Ну, зьмяя эта бегла да вады. Я спужалася, крычала ратунку. Была, во гэта во, Анюта Уручыха, гэта. Бабы сейчас гэту зьмяю забілі, і яна магла загаварываць. Ну, на месце мне загаварыла, тады дамоў мяне павяла. Ну я мучылася ад гэтай зьмяі! Не дай Бог!

*– А вам адзін раз дапамагалі, ці вы некалькі разоў хадзілі?*

– Яна сама. Я ж не магла хадзіць. У мяне нага распухла, у мяне вопухаль пашла. А рвоты ж якія! Як зялёнай такой травой. А балела ж нага! Ну, яна мне хадзіла ўсё ўрэмя загаварываць тры разы ў дзень. Ну, дні тры, наверна. А можа дажа й больша. Ну, тады стала спадаць (пухліна). Ну, яна мне доўга. Як тое ўрэмя падойдзець, вот як яна мяне была ўкусіўшы, так у мяне сейчас апяць нага апухаець і баліць. Вот як сейчас змена пагоды…

*– А ці можна было што зрабіць, каб дзяцей тваіх не сурочылі?*

– Не знаю я гэта. Ой, ну, гэта, як сейчас гавораць, нада булаўкі ўшпільваць, насіць…

**Валаснік**

– А валасьнік – эта да! Валасьнік – эта тожа балезьнь… Уколеш там палец ці што і балезьнь такая прыключаецца – валасьнік. Дажа косьці выходзяць. Я тожа, гэта во, забалявала. Валасьнік. Прыхадзілі. З Залесься прыхадзілі.

*– Гэта толькі калі ўколеш такое можа быць, да?*

– Ну, ўколеш ілі ударыш, тады прыключыцца этат валасьнік. Палец этат рвець, баліць ілі сінеіць.

*– Ну а дактары не памагаюць, так вот? Ці болей бабкі?*

– Ну-у… Больш бабкі. Ну, яны нешта загаварывалі. Загаварывалі, нешта гаварылі.

**Рожа**

– Вот яна рожу, рожу, другі раз бывае рожа… Вот прыключыцца рожа, баліць, ломіць, нага красная такая, распухшая, так яна рожу загаварывала.

*– А дзе яшчэ можа быць рожа? Вот на назе, а яшчэ дзе?*

– Усюды. Бываець і на галаве рожа. І на шчаках рожа бываець.

*– Ну а вот рожа ад чаго? Вот валаснік, ён, калі ўколеш палец. А рожа? Ад чаго яна можа ўзяцца?*

– Ай, гавораць, што яна і ад прастуды бываець ці ад ветру. Гэта, гавораць, ветраная рожа. Ад ветру бываець і ад холаду бываець.

*– Вот Анюта гэта брала плату?*

– А ну што там яна накладала ўжо плату! Ну там…Самі людзі давалі… Ну як мой унук балеў, ну што, карову… малака занясла. Па саседству, так я ёй і так насіла малака. А то там яйцо такое. А што яна накладала плату, што там столькі і столькі плата ў яе была – такую не накладала. Проста самі так ужо людзі, самі давалі.

*– А во яшчэ гавораць, што нельга “спасіба” казаць, а то не будзе памагаць.*

– Ну, гавораць, не нада “спасіба” і калі лекарства там хто даець… “Спасіба”, гавораць, не нада. Памагаць тады, гавораць, не будзе.

*– А вот ну гэта ж не кажны ж чалавек так вот можа, як Анюта, памагаць?*

– Не! Не кажны. Гавораць, у яе бацька быў. Ну, яна загаварывала, яна і Бога ўспамінала. Яна ўспамінала і Бога.

**Сурокі**

*– А вот вы гаварылі, малако ёй заносілі. А вот ці праўда, што малако, як вот на полі даілі даўней, што накрываць нада?*

– Ну, да! Гавораць, сурочаць карову, малако і карова будзець балець. Было, было вот у мяне! Было і ў мяне. Прышла карова. Ў поле адпраўляла здаровую карову, а пастух прыгнаў – гляжу мая карова чуць ідзець. Чуць ногі сунець. Пастух прыгнаў гэтую карову і тады… А тады другая, ён пасціў дваюраднай (сястры) у полі… Ёй нада было купляць карову… Хадзілі ж там то ў Глубокае, то… хадзілі туды купляць. А корова была спакойнай, вот ужо яна пойдзець купляць карову на базары, вот яна ўжо пойдзець у васкрасеньне на базар. Яны карову гэту злавілі. Ну, і там гавораць, есьлі ключ у гэтай каровы большы – карова добрая. Хвост есьлі длінны там – карова добрая.

*– А што такое ключы?*

– Ключы? Ну так ключы малочныя! Малочныя ключы. Жылы вот ідуць па бруху, такая ямачка…

*– Па ключам глядзелі, да? А яшчэ на што глядзелі?*

– Па ўсім! І па рагам глядзелі… Ай, ну там глядзелі, есьлі рогі тоненькія, тады карова добрая. Рэбры шчупалі. Есьлі рэбры шырокія, во так во (паказвае), карова добрая. Ці таўстыя эты рэбры… Ай, хто як прыдумаець. Так вот маю ка-

рову гэтую дашчупалі ў полі і яе чуць пастух прыгнаў з поля. Я гляджу – карова мая чуць сунець ногі. Тут усе папрыхадзілі, а ён ззаду чуць гоніць эту карову. І тады ён сам сказаў. Прышоў і гаворыць. Я кажу: “А што гэта такое з каровай?” А ён гаворыць: “Леч сваю карову ат уроцу!” “Мы яе, – гаворыць, – сурочылі”. Сам пастух і сказаў! “Мы яе, – гаворыць, – сурочылі.” Ну, пастух. А яго сястры дваюраднай нада было купляць карову.

*– Так яны так прымяралі?*

– Так яны ўжо… А мая карова была добрая. Так ужо гэтую карову абшчупалі, там усё. Так яна ўжо паедзець на базар і будзець ужо такія прыметы у тэй каровы глядзець… Ну і тады, праўда, я пайшла… там была дзярэўня такая яшчо, Дубініна яшчэ дальша. Там была такая бабка. Яна тая бабка і памагала… Яна і добра людзям дзелала і плоха!

*– А як звалі гэтую бабку?*

– Ганка. Так і звалі – Ганка. Бальшая была! Баба дык баба! Там дзейсьцьвіцельна ўжо баба! Ну вот я пашла к ей. І нада жісьці, каб сонца яшчо не зайшоўшы. Тады гавораць, не памагаець. Ну, я пабегла к тэй бабе. Тая дала вады і сказала утрам яшчо прыцьці вады (узяць). І паправілася мая кароўка.

*– Так вы казалі, што гэтая Ганка магла і добрае людзям рабіць і дрэннае?*

– Магла! Да. Да-да! Падрабляла ж усяк, што плоха чалавеку было. Скот ня вёўся. Плоха, плоха дзелала. Скот ня вёўся, і скот падыхаў, там і ўсё чыста.

*– Так а чаго вы к такой хадзілі, не страшна было хадзіць?*

– Так я ж гавару – яна і памагала! Яна і памагала людзя’м. Яна памагала.

*– Ну а чаго так было, што яна і добрае, і дрэннае рабіла?*

– Ну, на каго яна ўсердзіцца ўжо, там паругаўся з ей ці што – яна й паддзелаець, што і плоха будзець.

*– У яе не вока было дрэннае ці яна спецыяльна рабіла?*

– Да, нешта шаптала. Яна нешта дзелала, шаптала.

**Пра хваробы**

*– Чым кроў астанавіць, калі сільна парэжаш?*

– А як эта называюць *криваўнік*. Я помню мне, пасля вайны ж сложкі такія былі, малацілі. Ну ў калхозе работала. Мне і сейчас баліць. Мы снапы падавалі, машыну пускалі. Ну я падавала, а другая рэзала, гэта во. Ну, і яна мне ўзяла палец парэзала. Тады мне на полі, такі во цьвіцець белым. Цьвяты белыя. Тады гэтым лісьцем прыкладала. Лісьцікам этым прыкладала.

*– А можа ў каго тут было, можа, у Дзёрнавічах у якога чалавека – падучая? Ну, эпілепсія яе зараз называюць. Як чалавек падае і б’ецца ў прыпадку.*

– Я помню. Ай было во, было ў маткі, дзе во гэты во Савіцкі, Міцька. У маткі прыпадкі гэтыя былі. Ой! Што яна толькі бедная не дзелала! (чаго толькі) Не піла.

*– Што яна ўжо не вылечваецца такая хвароба?*

– Не вылечваецца. Ай, што яна толькі не піла. Яна памёрла ўжэ.

**Зап. У. Лобач, У. Філіпенка у 2005 г. ад Барадулькінай Алены Іванаўны, 1933 г.н. у в. Казакова Дзёрнавіцкага с/с.**

**13**

## Парэзы (крываўнік)

*– А вот жа раней сярпамі жалі? Бывала ж такое, што, вот, руку абрэжаш?*

– Бувала! Вот такі быў… Травічка такая была… Ай, раньша! А гэта… *краваўнік!* Паціскаеш, паціскаеш! Я, во, сама: у мяне знакі – тут, тут парэзана!

## Валаснік

*– А ці чулі, можа, такую хваробу "валаснік" называецца?*

– Да, да! А няго ж! У мяне ў самой валасьнік быў! А як хадзілі. Во тут жыла жэньшчына і я хадзіла. Яна мне загаварыла валасьнік, а я і заснула! А гэта значыць на пользу мне пайшло!

*– А што ад валасніка можа быць, як не лячыць?*

– А тады ён вываліць! Валасьнік, ён, дажа костка выязджаіць! Костка выядзіць!

*– Так а ад чаго ён бывае?*

– Хто яго ведаець?! Я не скажу, што я была, робіла. А ад чаго ён, валасьнік, я не знаю. Можа што-нібудзь там парэжыш ці ударыш.

## Рожа

*– А вот рожа, такая вот?*

– А рожа, тожа знаю! У мяне, праўда, не было. Пху-пху-пху! Каб яе не знаць! Яе ж ня лечуць. А рожа бываець, знаю!

*– А як яе, што яна за такая?*

– Памёрлі старыя, а нас не панавучалі! Вот не панавучалі. Ага! Ну, цяпер лечаць у бальніцах жа. Ужака там укусіць, бывала. Вот эта лечылі.

## Уроцы і упуд

– А во! Гэта ж можна і памерці ад уроцаў! Пуды… Мама ягоная. У мяне сын быў. Яму, можа, ужо і чатырнаццаць гадоў было. Ну, і прыехаў з Ленінграда радняк мой. Езьдзілі на матацыкле на рыбу. Ну а тады яны ў калхозе пасьвілі коней. І апанавалі яго тут во скулы, а на галаве – я ня віджу. А я думаю, яны эта езьдзеюць з другім братам старэйшым на матацыкле на бацькавам купацца. Ну, кажу, ё... тваю маць! Ну вот і хадзі, насі штаны на руках! А ён не можа: тут скулы! А на галаве не віджу! Ну і насі, б…, на руках гэтыя штаны. Не зашпіліць яму – больна! А ён тады кажай: "Ай, матка! Ай, паглядзі на галаве шышка!" – "Пакажы!" Паказаў. А там с курынае яйцо! Э-эй, браток ты мой! Упуд! Тады во тут хата стаяла, цяперачка Ульлянка жыла. Ягоная матка Каця. Памяні яе Бог, Царства Нябеснае! Я яму бутылку ў рукі і гавару: "Ідзі! Ці к бабе Каці, ці к бабе Ульлянкі." Так дай ім Бог! Няхай зямелька ім пухам! Вылячылі! У армію пайшоў, а на гэтай галаве быў, во тут во… Што б было, каб мне ён не сказаў?! Ай, мама! Толькі плеш голы! Вот у армію пайшоў, а плеш голы. Во упуд! Упуд! Браточкі мае! А з упуду і гаварыць ня будзеш, і заікацца будзеш! Упуд эта…

*– А чаго спужаўся?*

– А чаго спужаўся – на рыбу паехаў. А мне сказаў, што на рыбу паехаў. А лодка была надуўная. А яны гэтыя шпінінгі ўсякія ляжалі. І ляжала там дрэва ці алешына якая, упёрлася, завярнула. І вот ён гэта мой мальчонак тапіўся. А гэтат

мой радняк спасаў. Вот ён спужаўся гэтага. Панімаеш? Во! Дак вот, у армію пашоў, дак толькі плеш абстрыглі. Плеш быў на галаве, во. А дзе дзелася гэта? А мне ён не сказаў. Ні скулаў не стала. Вот бабкі яго вылячылі!

*– Гэта і пухліна тая на галаве…*

– Да, да! С курынае яйцо была пухліна на галаве. Во, мой дзіцёнак! О-о-о, упуд! Упуды, не дай Бог!

*– А што яшчэ можа быць ад упуду, а што ад сурокаў?*

– Усё! І заіканіе, і… гаворкі ня будзець! Усё могіць быць з упуду! Усякія балезьні. Ад уроцаў ты можаш і памерць, калі цябе сурочыш! Во, можаш памерць, браток ты мой!

*– А хто можа сурочыць?*

– А хто можа сурочыць?! Во, я гавару: "Ай, я ня ўрочная!" А як я была маладая, дзяржала сьвіньню. Сьвіньня ў мяне, напрымер, сёлета апарасілася пяць штучак, вот. А на другі год, я была ўжо ў 64-ым гаду ў полі са сваёй дочкай у палажэньні, пузатая. Сарафан, этат, халат. Хлявок такі абыкнавенны. Лягла мая сьвіньня апарасіцца. Сяджу. Пяць штук апарасіла, а я й думаю, сяджу каля сьвіней і думаю: "Ну, леташняя норма ёсьць, пяць штук. А, відацца, яшчэ будзець." Ідуць волны па бруху. Госпадзі! Устала гэтая мая сьвіньня! Я парасятак гэтых у падол. А яна у адзін кут, у другі. Хо-хо-хо-хо-хо! (рохкае) За мной. А, б..., з'есьць мяне! Што мне робіць? Парасят гэтых выкідаваць? Жалка. Што мне робіць. Але мужык мой прыйшоў. А я крычу: "Міцька! Бяжы ў баню! Дзелай мне вады ат уроцаў!" А якая баня? Гавораць, калі астаецца, вот я сёння мылася, засталася вада. Гэта дужа добра, трэба тры раза пераліць цераз печку. Гэта ж печкі былі, печкі! Самадзельныя печкі. Дак яно пералівалі. А цяпер пералі цераз печку! Х… ты пераліеш! Прасці за выражэніе! Ну вот я такая баба. Сама сабе ня рада! Ну і вот! А ён кажаць: "А, ё… тваю маць. Сурочыла!" Ну, сурочыла ж. Наверна сурочыла! А я ўсё хажу, складаю гэтых парасят. Бегаю па хляву. Ну, мне данёс, я сёння папаіла, легла. Трынаццаць штук – аднаму сіські не было! Трынаццаць штук была і апарасіла! Во табе, во табе, я ня ўрочная! Во, як бываець!

*– А што яшчэ бывала, можа з вамі, можа яшчэ з кім?*

– Дзякуй Богу, мяне ніхто ня ўрочыў. Мяне такую бабу не ўрочыць за тое, што я такая… (смяюцца). Баба ёсьць баба! Мяне ніхто. Такога не было. А маленькіх рабятак урочуць. Во табе тожа нада гаварыць ім: "*Аткуль ты нарадзіўся,* – наніц руку – *адтуль абаранiся!*" Наніц рукой нада. Наніц. Тожа, як нявестка была навучыла. А тады кажаць: "Мама!" Соннага няльзя маленькага глядзець. Кажаць: "Мама, добра, што вы мяне павучылі. Дзімачка спаў, соннага паглядзелі. Стаў крычаць. І крычыць, і крычыць! Але ўспомніла, як вы мяне вучылі. І так здзелала і дзякуй Богу!" Ну вот!

**Начніцы**

– І вот тожа. Я была ў Ленінградзе, унучка ў мяне тожа радзіўшыся была. Плачаць. Тады, нада сучок найці. Ну і тады "Пху-пху-пху!" – паплюваць: "*Тры начніцы, тры вечарніцы, тры родных сястрыцы! Па полю гуляйце, а маю Алесечку не чапайце!*" Гэта ж нада прагаварываць. Пху-пху, і на яе пляваць. І дзяўчына мая заснула. Ці ад таго, ці не ад таго?

*– На сучок?*

– На сучок нада. Я там у горадзе найшла ў ра́мінкі сучок і так прагаварывала. Вот. Відзіш, ну вот я ня ўмею ні ад уроцаў, ніхто не перапісаў, я запомніць, не запомніла. Каб хто перапісаў, так чытала б. Вот. Я і чытаць слаба.

*– А ад начніц вы ад каго навучыліся?*

– Ай! Тожа мяне нехта паўчыў! Нехта паўчыў!

**“Абрыў”**

*– А як чалавек што цяжкае падыме…?*

– Гэта абрыў! Абрыў! Да-да, канешна!

*– Не залатнік, абрыў, да?*

– Да, да! Залатнік гэта бываець, тады стакан ставілі. А-а-а! А бывала ле́чылісь, ай Божанька як! Стакан на пуп ставілі. Да, а тады гэтат залатнічок у пуп. Разьве хто будзець робіць цяпер, як мы робілі? Мы ж цяжка робілі цяжка падымалі! Людцы мае дарагія!

*– Ставілі стакан і што гаварылі?*

– Ставілі стакан і не гаварылі там нічога. Гаварылі, залатнік убягаў. Во так во нада. Можа яна жыве… Яна з Западнай. Шулякоўская, можа? Во-во! (смяецца) Мяне цёрла. Я ня ем – есьці ж ня хочацца! Есьць ня хочацца. Сілы нет! Надзя! А Мацецкі брыгадзірам, а яна мяне завяла за… ну бульба, стог сыпалі, за стог. А Мацецкі прыйшоў, а я ж… Ну, вядома ж, нада не ў адзеже, а голым нада церць. А яна мяне цёрла (смяецца)! А Мацецкі, брыгадзір, думае, што баба бабе робіць! (смяецца) “А ё... тваю маць!” – кажаць. – “Ідзі адсюль мы лечымся тутака!” Во там за піларамай была бульба, во там мы лечыліся. Вот эта церці нада. Ну і *жоўць* нада піць! Сьвіную і цялячую можна. Вот я сушыла і піла бывала! Мы ж робілі цяжка!

*– А піць нашча?*

– Наташчак, канешна! Яна горкая. Нада выпіць! Ну, як часта? Можна і тры разы выпіць. Чатыры разы выпіць. Ну і тады ёсьць трава такая… Не тысячалісьнік адно, а гэта… ёсь такая… А як жа яна, б..дзь, завецца, розавенькім цьвіцець? Я раней усё сабірала, а цяпер, думаю, а ё... яе маць ня буду сабіраць! Падыхаць ужо. І вот на пустазельлі такі расьцець… *Цантаўра!* Цантаўра! Ага! Дробныя розавенькія цьвяточкі.

**Развіў рукі**

*– А вот раней жа жалі самі, вот, каб рука не развівалася?*

– Ай! У мяне ж разьвіваецца часта! Дак мой мужык пасьледній усягды, бывала, зьвязваў. А мне… нагу, цяля ж адкарміла, баба шалёная такая. Я гаварлівая, я й шалёная. Ну, ругаюся. Такія людзі, тады ім… Ну, і карова была шалёная – я з ваза зваліласся. Цялят карміла ўсю жызьнь на ферме. А нагу ўзяла разрыў сьвязак. Ну, а тады цялят, калхоз быў, саўхоз? Я ўжо забылася, што было. Гіпс налажылі. Вазіў мяне, ё… яго маць… Мінінькоў! А тады мне далі кавёлы. А я на кавёлах не магу – як страказа паўзу! Ён нясець кавёлы ў Дрысе, Мінінькоў, а я паўзу! А ідзе нам нейкая наўстрэчу: “Ай! Вы б бальніцу не пазорылі!” Кажу: “Пайшла ты ў…” Так і сказала, прасці за выражэніе!

*– А скажыце, як звіх бывае, што трэба рабіць?*

– Ну, так я вам не расказала, як у мяне была рука перавязана! Прыехала я ў гэтую бальніцу і думаю. Сійчас жа ўрач скажа: “На аперацыю”. Ён не даў

мне… Ну, я думаю, аддыхну. Ну, баранкаў накупляла цэлы воз, як дура – дурная баба. На аперацыю прыехала (апендыцыт), а баранкаў накупіла кілаграм! (смяецца) Ну, я думала, яны разьвясныя. Мне два (трэба) зь Міцем гэтым… Ён баранкі нёс і я баранкаў купіла. Лучша б я вады мінеральнай купіла. Я піць тады хацела. І рука ў мяне зьвязаная. Я думаю, толькі разьвяжу, а не ўправілася. Пад падушку, думала, палажу, на аперацыю нада ехаць, каб усё была свабоднае. Каб не валасы скручаныя былі, каб нічога не зьвязанае, нічога. А я не ўправілася. Тачанку падаваць: "Бабушка – на аперацыю!" А врач кажаць: "А хто гэта вам руку зьвязаў?" А я гавару: "Мужык!" (смяецца) Кажаць: "Ён крэпка вам зьвязаў!" А ў мяне разьвіваліся рукі. Вот робіла я быстра…

*– Развіваліся, гэта што апухалі, пухлі?*

– Да! Вот пухлі, не магу узяць нічога! Разьвіваюцца ў мяне вот так! Я старая, а вот відзіце, якая ў мяне шырокая косьць? У мяне, як у добрага мужчыны лапа. З Мішам у мяне, з зяцям, роўныя. Калі ўжо пі...ну, так пі...ну! Пачуствуець ужо! (смяюцца) Во, відзіце, якая рука? Старага чалавека, семдзесят тры гады! У мяне шырокая косьць. Ну, так ён сьмяяўся зь мяне, што мужык зьвязаў. А ў мяне разьвіваліся.

*– Так а зьвязывалі льняной ніткай?*

– Да-а! Нада льняной ілі шарсьцяной. Я і к Шурку, помню, прыхадзіла, кажу: "Нада первы ці пасьледні. Нада ці перваму, ці пасьледняму." Толькі памагае. Вот ад мужука мне памагала. Вот я бывала разьвіваюся, я не зьвязвала. У мяне самой рукі разьвіваліся. Ну а цяпер яны ўжо ад старасьці, крывыя, абы-якія! (смяецца).

**Наход**

*– А не казалі пра хваробу такую "наход"?*

– Да! Наход! Гэта баляўкі такія! Наход. Эта вот няльзя. Гэта ж раньша ўсё хадзілі ў баню. У баб эта вот было (месячныя). Эта нада, каб баба тая выйшла, тады гэта зайшла…

*– Гэта, каб яны не бачылі адзін аднаго, да?*

– Да, да! Калі наход, нада тожа мыцца, тады несьці на ростанькі, во так во ростанькі – туда-сюда (паказвае як ідуць дарогі). А не, ліць… Раньша ж былі коні, калёсы, тарантасы былі. У шворну, у гэту дзірку.

*– Гэта туды ваду заліць і заторкнуць?*

– Ага!

**Калдун і страваванне**

– Калдун. Так вот а чорт яго знаець калдун, можаць, і ў мяне калдун. Калбасу есьць не магу і ўсё! Людзі купляюць, а я не магу ні сасысак, нічаго. Ні магу! А чорт яго! Ці ў мяне калдун? Каб, думаю раз, ён бы мяне з'еў! Не магу і ўсё! Ну прыехала ўнучка прывезла сасысак, ну рабёнку ж. Ну чатыры штучкі ў упакоўкі засталося. Ну, думаю, дзьве звару. Так што вы думаеце, я зварыла? Бабы купляюць: там бульбінкі, макароны атварыла, сасыскі. Гэта з'еў і пад'еў. Ні магу – ўсе! Я хварэла цэлы дзень! У мяне ўсё балела! Ну, рваць мяне не рвала, но муціла, муціла, вот тут пад грудзямі балела, таблеткі вугальныя пілá. І халера, не знаю што! Прайшло і дзякуй Богу!

*– А што яшчэ бывае, як калдун гэты прычэпіцца?*

– Калдун, ну вот бываець, што калдун на галаве. Шышка расцець, гавораць, – гэта калдун. Ну вот, тожа гаворацць з ядой…

*– З ядой звязана?*

– Ну вот, можа ў мяне жалудак такі? Не пераносіць. Сваё мяса ем – кураціну. Нічога. Кілбасы не магу і ўсё! Вот і думай.

*– А што на галаве бывае, як калдун?*

– Ну, бывае, такі во там гуз бывае і шышка такая. Калдун гавораць. Гэта ў Казачонках такі можа калдун. Ну вот такое. Я дужа пра калдуноў гэтых ня знаю.

**Знахарка Гаўручыха**

*– А вось казалі, што ў Залессі такая бабка была, што і памагаць магла, і падрабіць?*

– Ну, хадзілі людзі каму нада. Выручала. А каб што б здзелаць, эта я не знаю. У нас во і Гаўручыха, хай яе Бог, Царствіе Нябеснае, тожа выручала. У мяне свая карова хварэла. У Казакове. Бывала, дзелала мне, *сольку* загаварывала. Пайшла ў баню, тады прыйшла: "Надзя, ці праўда ці не, што з тваей кароўкі камушкі падскакваюць?" А як яны падскакваюць? Мне ж там ніхто не сказаў і не паказаў… У бані. А што яна там робіла з тымі камушкамі?! Ножніцы, ножыкі брала, а хто знаець, што яна з імі робіла. Ну, прышла й кажаць: "Ну і праўда, Надзя, нешта ёсьць з кароўкай. Камушкі падскакваюць." А як яны падскаквалі камушкі, я гэтага не знаю. Яна соль загаварывала. Ну вот, сяджу я каля гэтай каровы, дванаццаць часоў, а я сяджу і сяджу. А ў яе, знаеце, як з паравоза, вот, нячысты дух выхадзіў, наверна.

*– Так што пар нейкі шоў?*

– Да! Вот што-та выхадзіла як з паравоза: чух-чух! Соль давала. Вот і ёй вадзічку яна дзелала.

**Грыжа і грызь**

*– А вось як грыжа бывае?*

– Я знаю, што вот грыжа бывае. У мяне, дзякуй Богу, гэтага не было. Тожа загукувалі раньша. Раньша ж… Раньша ж былі людзі больша такія умелі. Не было такіх бальніц. Дужа і не абрашчаліся.

*– А скажыце, грызь і грыжа, гэта тое самае?*

– Грызь грызуць, гэта і Надзька Савіцкая ўмеіць ад грызі. Ня тое самае гэта. Грыжа гэта расьцець яна, грыжа. А грызь гэта нада выгрызаць. Тожа нада загукуваць. Да, нада шаптаць загукаваць.

*– А што такое загукаваць?*

– Ну, загукаваць – загаварываць, прагаварываць.

*– Ну, вот гэта ж можа не кожны чалавек?*

– Канешна ж, не кожны! У каждага, казаў той, Богам награждзён. Кажды сваім.

*– Так эта Бог дае такое?*

– Канешна! Кажды сам… как эта вам сказаць… каждаму Богам дано. Што мне дано, то я пераймаю ў сваей жызьні. Вот нада мне, там, случыцца бяда ці што там такое. Эта Богам дано. Эта ж ад Бога дано!

**Пакаранне за працу ў сьвяты дзень**

*– А ці праўда, што ў вялікія празнікі няможна рабіць?*

– Няможна! Я табе, вот, я табе раскажу, мой унучок дарагі! Ну, рэзалі мы там дровы. Купіла я, прывязлі мне такія во дровы. На ддінным на такім цягачу. Ну, папрасіла я Віцю, ягонага брата, парэзаць. Парэзаў. Я пабіла калуном. І да

гэтага біла, і купляла. Што прывазілі – усё біла сама! Нікога не нанімала – біла сама. Калуном, калун ў мяне харошы. Ну і цяжолы. Ну, вы знаеце, калун – эта ж не тапор. Ну, ён болей разьбіваецць. Ну і ў суботу я біла, а тут 22 калодкі, як сяньня помню, я слажыла і, думаю, ня буду. Васкрасеньня – я ня роблю! Уважаю, што васкрасеньне, вродзе грэх, я уважаю. Ну, думаю, хваціць у мяне пары – я і ў будні дзень паб'ю. Прыйшоў Валодзька іхні, прыйшоў Іван, там, наш сасед, нехта яшчэ прыйшоў. "Ай, давай, Надзька, мы табе разаб'ём. Дзе на чатыры, дзе на пяць калодкі!" Ну і Надзька ўзяла, дурная і прынясла. Ну, і яны раскаталі, і ў мяне повен двор, засралі апяць. Нада убраць. Ну думаю… А я думала ў Войтава схадзіць, тады я яшчэ троху круцей хадзіла – цяпер сагнутая хажу, а калі без кійка – во як я хажу! Ну, думаю, раз яны ўжо пабілі, дзе на чатыры, дзе на пяць. Паб'ю я сама. Слухайце! Ну і б'ю! І вот як папасці калуном па мазгах?! Абухам?! Як папасць па галаве? І вот я папала сабе па галаве! Папала. Устаяць я устаяла за калодкай… Ай! Ай! Ай, наверна пі...ец мне! Усто́яла. Стаяла, але балела очэнь! Плюнула, кінула і пайшла. Вот так Бог даў, што ня роб у сьвята! Вот потым посьле: прымяраю, як эта я абухам сама сабе? Столькі дроў пабіла, столькі тачак мне прывазілі, прывозілі дроў бярозавых. Ні разу! Во як эта папасць абухам? І вот каб я памёрла, каб я забілася, сказалі б: "У Надзькі серца стала!" Ад дроў, што дровы біла. А вот у сьвята, так Бог даў – па мазгах е...ла сама сабе. Ня роб, мая бабка дарагая! І я ня роблю. Вот і сёньня празьнік – Дзень пажылых людзей.

*– А можа яшчэ з кім што такое случалася?*

– Да! То нагу пасячэш, то што. Эта случаецца. Няльзя робіць у выхадныя дні. Ну, балела я, мальцы, очэнь доўга. Гэта галава ў мяне крэпкая!

**Зап. У. Лобач, У. Філіпенка у 2005 г. ад Малюковай (Зуевай) Надзеі Іванаўны, 1932 г.н. у в. Даражылава Дзёрнавіцкага с/с.**

## 14
## Знахарства

*– А вот вы раскажыце пра дзедушку. Чаму вас дзедушка навучыў? Што ён сам умеў?*

– Што ён умеў… Залатнік умеў, і ад змяі умеў, і падрыў умеў, і іспуг умеў. Вот тока ён умеў кроў астанаўліваць, но ён, наверна, забыўся навучыць.

*– А вот дзедушку як вашага звалі?*

– Міхаіл. (дзе жыў) Багушэўскі раён…, цяпер Сеньненскі раён. Сенькевіч (фамілія).

*– А вот уроцы, што гэта з хвароба? Яе дактары лечуць? Што бывае?*

– Ну, вот. Я сама з Наваполацка. У мяне і кварціра там…І вот врачы лечылі, рука ў яе была… рожу і врачы сказалі: "Ідзі бабку ішчы!" Тожа па гораду, знаеце, як этых бабак іскаць, не знаўшы. Яна прыходзіць ка мне, эта жэньшчына. Ручку так дзяржыць усю. "Ой, мне сказалі, мне пасаветавалі…" Прыхадзілі. Я нічога не бяру! Не нада мне нічога! Я толька са славамі, а Вышні с помашч'ю. Ну і загаварыла эту ручку. Гавару: "Як яна ў цябе удаўніўшыся – тры раза." Яна прыходзіць на ўтары дзень ка мне: "Так у мяне ужо палучшала!" Ну, дай Бог!

*– Так эта, вы думаеце, сурочаная?*

– Не, рожа – не! Яна можаць, эта самае, ат удару можаць здзелацца там… Царапінка там якая. Ну, я в Наваполаце многа каго. Дзетак – палавіна Наваполацка вылечыла! Ад грыжы, ад грызі, ад глазу!

*– А як трэба грыжу лячыць?*

– Загварываю. Ручкамі нада. Ёсьць пупавая, эта самая… (паказвае як трэба церці; выстаўляе мезінныя пальцы)

*– А што так трэба пальцы трымаць калі трэш?*

– Да.

*– А куды трэба пальцамі? (бабуля паказвае) Да пупа? Зверху і ўніз вакол пупочка?*

– Да. А там другая малітва. Там трэба зубамі загрызаць.

*– То есьць ёсьць адзін загавор, калі пальчыкамі, мізінчыкамі, а ёсьць загавор, калі трэба загрызаць? І гэта розныя, да?*

– Да.

*– А вось, гавораць, грыжа і грызь – гэта не тое самае? Ці гэта адно і тое ж?*

– Не, гэта не адно і тое. Грызь… Ну як я прыйшла сюды к свайму дзеду. Ён, эта самае, у яго во такі во пузыр быў тады на руке. Была такая, нейкая кадушка, у яго такая кругленькая. Эта вот грызь. А грыжа – эта у малых яна бываець. І у бальшых бываець.

*– А вы казалі, ёсьць пупавая грыжа, а ячшэ якая ёсьць?*

– Пахава́я.

*– А пахавую, таксама пальцамі?*

– Не, нада зубамі загрызьці. І малітвы чытаю.

*– А вот ад уроцы, што бывае чалавеку? Што з ім можа прыключыцца, калі нехта яго сурочыў?*

– Ой, многа, што можыць! О-ой! Дажа памярэць чалавечак можаць! Есьлі сразу яму, эта вот…

*– А вы можа случаі памятаеце, што чалавека сурочылі і з ім штосьць прыключылася?*

– Ну, я знаю ў дзярэўні, як я яшчэ была малая… Ну, не малая. І вот ехала дзяўчонка – Тамара, там такая. Пад горку яна ехала, а веласапед, там што-та… С веласепеда злезла, ідзёт. А там жанчына шла. Яна в обшчам-та такая – глаз у яё плахой быў: “Ну што, Тамарачка, у цябе конь зламіўся, ножка зламілася?” А ёй – коль у нагу! І вот, Тамарачка тая не пайшла ні к кому. У бальніцу пайшла і умерла.

*– А ўрачы тады нічога не сказалі?*

– Ну, ўрачы! Эта цяпер ўрачы адпраўляюць к бабкам. Тада ж ўрачы – ого! Раз лячылася ў бабкі – так ідзі лячыся (сам)!

*– А як вот узнаць, што сурочылі? Можа ты прастыў і цябе трасе…*

– А тады ў яго такія пацягушкі, расцягну-у-уўся…Спаць хочацца. Млявы такі. Вот я адну дзевачку з Полацка, там адна, тож эта самае – эпілепсія была. Я яе вот лячыла – пху-пху-пху!

*– Ад эпілепсіі? А колькі ёй было гадоў?*

– Ай, яна годзіка паўтара было.

*– Гэта лепей лячыць эпілепсію, калі яшчэ дзіця малое, калі яшчэ не ўдаўнілася?*

– Ай! Можна і бальшога вылячыць. Я – загаворам. Малітву на ваду.

*– А вот вы казалі “уроцы”, “урочлівае вока” такое…*

– Да, бываець! Эта када маць корміць рабёначка грудзью, а патом атняла. А тады стала жалка ей. Яна апяць дала. Вот такой чалавек – эта такой врэдны будзець чалавек! Сільна-сільна.

*– А вот ён сурочлівы, што ён сам так хоча рабіць ці вот дажа сам не хоча, а ўсё-роўна можа сурочыць? Такі глаз?*

– Глаз! Ён паглядзіць на чалавека, і яны ня хочуць… Яна с хаты, бывала, баялася выхадзіць гэта жэньшчына! Ну. Вот эта глаз такой. Но ана умерла эта жэньшчына. Яе баяліся ўсе. Дажа кала яе хаты не хацелі хадзіць.

*– А гэта дзе так было?*

– У дзярэўне там, ну, Сеньненскі раён.

*– А яшчэ, гавораць, што мінута такая, што можна сурочыць.*

– Бывае! Ага, бывае. І бываець, во, па ветру – ты ідзеш, а хто-та гдзе-та… Цяпер жа многа гэтых чараўнікоў. Но я гэтым не занімаюся! Белай магіяй толька, а чорнай – я яе баюся! Я лучша чалавеку памагу! І мне Бог паможаць тады.

*– А што вы казалі "па ветру"?*

– Вот хто-та дзе-та загаварываець, можаць па ветру і на цябе в эта время дунуць. Табе станець плоха.

*– То есьць там на каго-небудзь насылалася, а пападзе на цябе?*

– Да! Да-да!

*– А вось "валаснік", такая вот хвароба…*

– Знаю! Валасьнік знаю! Ну, валасьнік, эта самае, эта жытнія каласкі накладываю і выліваю.

*– А колькі каласкоў трэба ўзяць?*

– Дзевяць штук. Поўныя… З зернем.

*– І колькі разоў ліць трэба?*

– Тры… Летняй, комнатнай вадзічкай.

*– Так ці праўда, што гэтыя валасы выходзяць неяк? Вылазяць з пальца.*

– Канешна. А глядзіце, як маленькі рабёначак трэць плячамі. Тады вот нада, эта самае, залой на эта, на карыткі, на дно чэраз эта самае. Яго пакупаць тады. І тады чэраз марлю працадзіць эту вадзічку. Адкуль этыя валасы бяруцца?

*– Так гэта як называецца?*

– Дзецкае, дзецкае што-та такое. Як у кацёначка валасёначкі такія. Не то што там бальшыя.

*– А дзе заводзіцца валаснік? Ён жа ж у пальцы?*

– Везьдзе. Везьдзе можаць быць. На нагах, на пальчыках, на руках. Хто яго знаець ад чаго ён.

*– А ці чулі вы такую хваробу, "калдун" называецца?*

– Калдун – гэта на галаве, як валасы ўюцца. Я чула, тамака, яшчэ малая была. Там мая мама гаворыць: "Во, у гэтай Рыпіны – калдун!" А ён зьвіўшыся, там галава, там валасы ўжо так зьвіўшыся былі! Так ёй тады абстрыгалі.

*– Ну яна рэдкая хвароба такая?*

– Яна рэдкая! Рэдкая, канешна! Ну, я ня знаю, чым яе там лячылі.

*– А што яшчэ бывае, калі бывае калдун: валасы ўюцца, а яшчэ што?*

– Ну, я гэта ня знаю. Толькі знаю, што валасы на галаве, як валенак сплёўшыся.

*– Скажыце, а гэта ж не кожны чалавек можа так памагаць?*

– Правільна, ня кожны!

*– А хто сільнейшы, чараўнік ці знахар?*

– Бываець і чараўнік сільнейшы, бываець і знахар сільнейшы. Як на якога чалавека пападзеш.

*– А ці праўда, калі чараўнік сільны, ён можа і зрабіць, і адрабіць?*

– Да. Можа.

*– А хто мацнейшы, жанчына ці мужчына?*

– Жанчына! Канешна, жанчына! (смяецца).

*– А вас жа дзедушка навучыў, а не бабушка?*

– Ну, да. Но жэньшчына, яна такая больш мацнейшая… а вот у мяне сынок быў. Ён тожа у Наваполацке жывець. Як малы быў. І вот ён пугаўся. Сільна-сільна пугаўся! І ат мяне – радная кроў! – ат мяне не было помачы.

*– Ад радной крові можа не быць помачы?*

– Да, да. Трэба другі чалавек.

*– А яўрэю (можа памагчы)? Ён жа другой веры?*

– (смяецца) А яўрэю? І яўрэю можа памагчы.

*– А што нехрышчоны няма розніцы?*

– А што нехрышчоны, можна памагчы на дзьве нядзелі. А патом яшчо нада. У мяне там у Наваполацке, я кала “Космаса” (кінатэатр), дом мой. Там жыву. І на первам этажэ тамака Андрэйка такі быў, малышок. Яна (маці) не крысьціла. Вот напугаўся! І тое, і тое, і тое! Ну толькі на дзьве нядзелі. Гавару: “Вязі ты яго перакрысьці!” Павязьлі, перакрысьцілі і, як зьдзелалі – усё! Малец і жаніўся, і дзеці ёсьць, усё. А так толькі на дзьве нядзелі, эта самае.

*– А ад змяі мог ваш папа?*

– Да, магу! Ад зьмяі. Бываюць усякія: лугавыя, палявыя, тамака і лятучыя, і паўзучыя… Да яўсякія. Штукі тры загаворы ёсьць.

*– А гэтыя загаворы як вы выбіраеце, які загавор браць? Адзін, другі, ці трэці?*

– А я магу сразу тры. Хай быстрэй! А самая страшная змяя – чорная, паросная.

*– А чаго дзед навучыў іменна вас?*

– Ён гаварыў: “Давай, унучачка, вучыся! Ты за плячыма не будзеш насіць эта! А людзям, можа, калі будзе так нада памагчы – ты паможаш. І табе паможа Божанька.”

*– Так у яго яшчэ і другія ўнукі былі. А чаго ён не другую ўнучку вучыў?*

– Мы тока дзьве былі. Я – первая. А перваму ўсягда, первы как-то, што-та такое…

*– А самі вы думаеце, каму перадаць?*

– Я тады сыну. Первы. Ну, яны ж цяпер маладыя – яны ж ня хочуць. Цяпер жа сталі троху верыць, а раньша ж яны ніхто ня верыў! Я, помню, мужык мой ішоў, как яму эта, нагу падвіхнуў. Прышоў – нага эта чуць, эта самае. Так распухшы! Ой! Ну давай, эта самае, я табе пашапчу! Ён жа і Богу ня верыў. На дзіван лёг. Ну, давай! А ён рагочаць! А я яму пашаптала адзін раз, втары раз. Мой мужык устаў на заўтра: “А дзе мая опухаль?” Разашлась. Тады стаў і Богу верыць і *гэтаму* стаў верыць.

*– А дзедушка як вас вучыў? Проста пераказваў гэтыя вось загаворы? Ці, можа, што рабіў?*

– Не, не! Ён мне гаварыў, а я запамінала.

*– А вот “звіх” – ніякую нітачку не павязывалі? Калі звіхнуў руку ці нагу?*

– Можна, шарсьцяной. Не, эта расьцяжэніе. Эта расьцяжэніе, есьлі шарсьцяной. А гэта загаварываць – зьвіх.

*– І што панасіў-панасіў гэтую нітку і што з ёй? Ну як прашло?*

– Бяры яе, ў печку ўкінь – няхай згарыць.

*– А вы ад вогніка можаце загаварываць?*

– Дзецкі вогнік, да?

*– А ён толькі ў дзяцей бывае?*

– Ён і у ўзрослых можа быць.

*– А ад чаго ён можа быць?*

– Можа, ад паветра, ад, тамака, ад врэднага. Над плітой можна (падчапіць). Дровы там будуць ці што.

*– Могуць быць дровы якія плахія?*

– Ну, а што? Канешна! Людзі плахія бываюць, і дзеравы плахія бываюць.

*– А вот барадаўкі ці "дзічы"…*

– *Натопышы*… Гэта на нагах, такія балючыя крэпка. Эта нада тожа шарсьцяною *ніткай*.

*– Як наросты такія?*

– Ага! Тожа шарсьцяная нітка нада. Ну там, сколька у цебя там натопышэй, завязаць, а тады малітву і закапываць пад мужскоя дзерава.

*– А якія мужскія?*

– Ну што? Якая мужское дзерава? Топаль. Мой? – Мужской! Каштан – мой? Дуб. Вот. Асіна ж – мая.

*– Гэта калі мужчына – пад мужское, а калі жанчына – пад жаночае?*

– Да! Эта натопышы. І барадаўкі так жа сама можна. Нада ўсё-роўна загавор.

*– А ячмень як на воку сядзе?*

– Загаварываць і кукіш даваць тожа… ячменю. І сам сабе можаш здзелаць.

**Зап. У. Лобач, У. Філіпенка у 2005 г. ад Кузьміновай Соф'і Лявонаўны (Соні Бяляй), 1940 г.н. у в. Дзёрнавічы.**

## 15

## Лекавыя зёлкі

– *Аір*. Вот лічна я. У меня гастрыт. П'ю аір. *Корні аіру*. Рэжу, заварываю, п'ю. Перад ядой. Цяпер так. *Тысячалісьнік*. Тожа ад гастрыта. Тожа так сама. Я стаяла ў ракавай (на ўліку ў анкадыспансэры). У мяне быў рак жалудка, казалі. А я вылячылася. Эта была дваццаць с чэм-та лет назад. А мне шчас 73! І я жыву. Тысячалісьнікам, аірам, *чыстацелам*.

*– А чыстацелам, што вы ўнутр пілі?*

– Да! Панемножка-панемножка! Эцім я толька вылячылась!

*– А вот зверабой, такая траўка. Ад чаго ён памагае?*

– Ад усяго! Чай харошы.

– Раньша старыкі шчыталі, што без зьверабоя нельзя жыць, як без куска хлеба. Так людзі шчыталі.

*– А пустырнік?*

– А *пустырнік*, ён такая крапіўка. Чатрохствольны і сінім цьвяцець. Пі яго і сьпі спакойна!

*– А трыпутнік ці падарожнік?*

– Эта всё ад жалудка. І падарожнік тожа харашо! Вот лісты я на мясарубке малола і піла сок. Сок з яго ўзяць, ад мясарубкі аж іскры ішлі! Ён сухі сільна.

Лісьця заварываць і ў яго нітачка есьць. Бальшая. Заварываць і піць. Эта – во! (паказывае вялікі палец) Я лічна стаяла (на ўліку) у ракавым аддзяленьні. Я тады як узялася эцімі травамі!

**Кастаед**

*– А вот скажыце, ці была такая хвароба валаснік?*

– Да. Яго на колас вылівалі. Эта былі аддзельныя жэньшчыны. А так аб’есьць, што голая костка астанецца.

– У мяне была мама этым занімалася. У нас восем дзяцей была. Нікаму не перадала! Мы не хацелі тагда учыцца.

– Первый паможаць і пасьледні. А срэднія не памогуць.

*– А во гэты валаснік, ён ад чаго можа случыцца?*

– В обшчам, эта быў *кастаед*. Вы знаеце, да касьці! Я помню як мне загаварывалі: “Волас, волас, лезь на колас! Руды волас, чорны волас, белы волас, …” Конскі там, сьвінны – усё чытаеш. Я не ўмею, я толькі чула, як мне палец загаварывалі.

*– Так у вадзе водзіцца волас?*

– Я палашчу бяльё. Ну такі тоненькі волас плаваець. Забрала бяльё і дамой пайшла.

*– А які ён, светлы?*

– А, знаеце, чуць-чуць ад вады аддзяляецца. Пачці не аддзяляецца. Баялася – кінула паласкаць.

*– Так, гавораць, ён можа ўпіцца ў руку этат волас?*

– Куды хочаш! Ну, я ж рукамі паласкала. Я кінула і пашла дамой.

**Уроцы**

*– Ну вот уроцы доктар не можа вылечыць?*

– Дажа доктар гаварыць: “Ішчыце на дзярэўне!”

*– А вот што ад уроцаў можа быць?*

– Усё можа быць. Я прышла дамой. В обшчам папрасілі пенсіянеры памагчы робіць. Зрабіла ім работу, а мене настолькі плоха, настолькі плоха!

– Я вам скажу, первае срэдства. Мамы вашай, жаны, ілі чэм-нібудзь… вот вы мяне ізвініце, падолам. Вот я вам скажу, вывернуць на ізнанку, патры тры раза! Гэта падалом рубашкі. Тры разы памыць. Эта первае сьнімае уроцы.

*– А як, па сонцу?*

– Да! Да! Як сонца ідзець.

– Чэраз клямку ваду ліюць тры разы. Вады бяры і тры разы чэраз лямку пералівай. Тады змываць.

*– А як узнаць, хто зглазіў?*

– Вот як узнаць, эта ўжо нада сьпецыяльны знахар…

**"Слова чалавечае"**

– Вот я вам скажу, што слова чалавечае можа чалавека убіць да сьмерці! Вот я вам раскажу случа́й! Сын у мяне, інвалід, лавіў рыбу. У Дзісьне мы жылі, у нас свая лодка. Ён лавіў рыбу у лодке. Ён прыходзіць с плачам і гаварыць “Мама, Ігар с Пецям атабралі рыбу і бросілі ў рэчку!” Я іду січас – яны сідзяць у лодке. У маей лодке собственнай. Я гавару: “Штоб вы плавалі як гэтая рыба!” Назаўтра абодва ўтанулі! Можаце гэта прадставіць, якое ў мяне слова?! Я не чараў-

ніца, но у мяне такое слова праклятае! Тада яшчэ вам скажу што. Іду я па Дзьвіне там. А тут палікліініка была, а я хадзіла на лячэніе. Іду, такі мальчык – тры годзікі. Ён адзеты – касцюм такі з начосам. Яму, можа, тры годзікі, гэтаму мальчыку. Я гавару во так во, я падумала: “Вот шчас ягоны мячык паплывець у рэчку, ён за мячыкам і утонець!” Точна! Я прыхажу дамой. Вечарам чую, гавараць, у Чэкеля мальчык утануў, цыгане ўкралі. Я гавару: “Ішчыце мальчыка у рэчке!” Во маё слова! У мяне слова плахое, вы можаце прадставіць! Я не вінавата, но у мяне слова плахое! І точна! Этага мальчыка тут жа з берага найшлі! Пайшоў за мячыкам і утануў.

*– Эта, можа, мінута такая бывае?*

– Я не знаю! Ці мінута? Я не панімаю. Я каюсь, но у мяне слова такое! Я не умею дзелаць нічаво, но вот эта пракляціе маё!

*– А ці можна вот чалавеку смерці жадаць?*

– Абязацельна, во, паслухайце мяне! Вот лічна я пракляла свайго мужа. Я табе ўсё ўрэмя гаварыла: “Рак табе ў горла!” І мой муж умер. І уміраючы сказаў: “Ты мяне пракляла. Ты мне ўсё ўрэмя гаварыла: рак табе ў горла. І ў мяне рак палучыўся.” І рак горла быў.

*– Гэта ў вас такое слова?*

– Такое слова! Я сама ня рада, но я пракляла!

**Залатнік**

*– А вот вы можа чулі, хвароба такая – “залатнік”? А вось што гэта? Гаворaць, яшчэ падрыў называецца?*

– Гэта ў жывату кала пупа. Гэта тожа загаварываюць. Эта нада ў бані, эта ёсьць сьпецыяльныя людзі. Ставяць гаршчок на пуп. У бані нада расьцярэць, распарыць. Гаршчок нада, знаеце такі. Свой такі, з гліны. Вот эта нада ставіць, і тады залатнік эты прападаець. Эта тожа, эта тожа ўсё даўнішняе такое. Эта яшчо ад нашых бабушак помнім усё.

**Калтун**

*– А можа тут была такая хвароба “калтун” ці “калдун”?*

– А гэта во – ў галаве! А вот вы знаеце, воласы як ускалдуніць! У маей нявесткі у Наваполацке, у Колевай жонкі, мы вазілі яе… Як эта ў Дзісьне? Забылася як звалі. Туды яе вазілі. І выразаць нязьзя.

**Чарнакніжнік Ермаловіч**

– У нас быў чарнакніжнік!

*– У Дзісне?*

– Да! Ермаловіч.

– Да, да Ермаловіча я ездзіла, калі ў майго сына ножка балела.

– І ў яго быў сад бальшы і к яму прыйшлі ў сад людзі, хлопцы. І ён як здзелаў: яны ўсю ноч стаялі кала дзерава. Нікуда не пашлі. А на утра ўстал: “Я вас атпускаю!” А яны стаялі – не маглі атысьці ад дзерава.

*– А што ён яшчэ такое дзелаў?*

– Ён дзелаў плахое, хто яму дзелаў плахое. А ён толькі дзелаў харошае. Вот лічна я вам хачу сказаць. У мяне была кароўка. І плахая стала. І мая мама пайшла к яму. І ён сказаў: “Прынясі малако.” Мая мама як прынясла малако, ён гаворыць: “Паглядзі!” А малако стала чорнае. Ён сказаў так: “Я не зьдзелаю нічаго тваей карове, патаму што жэньшчына, каторая зьдзелала, яна умерла!”

– Ужэ помачы не было!

*– А што яго называлі “чарнакніжнікам”? У ён чорную кнігу меў?*

– Да! У яго была кніга.

*– І ён па кнізе?*

– Да, да! Чарнакніжнік яго звалі. Сільна вады дзелаў харашо. Ён сільна многа людзей спасаў. Ён ад зоба людзей лячыў. Ён многа вады даваў ад уроцы, ад усяго.

*– А ці грошы ён браў за гэта?*

– Хто дасьць! Дасі яму – харашо, не дасі – тожа было харашо! Ён ужо умер. Адно што ў яго не было насьледніка… Ён, можа, умер у гадах, можа, 90-х.

**Далман**

*– А вот вы, можа, чулі пра такога, Далмана?*

– Гэта ў Глыбокім. Я туды езьдзіла!

*– А што пра яго гаварылі?*

– А Далман памагаець! Када мой Валерачка хадзіў у трэці клас, ён быў варатаром. І яму ат удару ударылі ножку. Ён жа крычаў дзень і ноч! Тапіцца ці задавіцца! О, Божа мой! І мы паехалі к Далману, каб ён вады даў!... Памог! Боль зьняў! Ён (сын) гаворыць: “Я іду, а нага сама падкідваецца!” А то ён цянуў яе.

*– А вот які Далман быў?*

– А ты думаеш я яго помню. Ведзь ён зазываў людзей. Жэньшчына выходзіць і бярэць к сабе. А ў яго там іконкі, лампадкі гараць. А патом я жду як ён выйдзець. І ваду мне нясець. У яго былі такія рабочыя. Кагда выводзяць майго сына, яна расказываець: што дзелаць, як ваду гэную… і мыць, і піць, і ўсё і ўсё! Там у яго ікона, столічак такі, лампадкі там гараць.

*– А яму плацілі што?*

– Хто яму плаціў? Што людзі давалі!

– Кагда я к ему езьдзіла і дзяцей вазіла – і грошы не браў!

*– А хто сільней вот, жанчына, што ўмее памагаць ці мужык?*

– Вот мне кажацца што больша мужчына! Вот Далман, вот Чарнакніжнік! Эта сіла болей мужская, чым жэнская! Эта, відна, прыроднае.

– Ад Бога! Бога даець такую сілу!

*– А як ячмень сядзе?*

– Зярном труць і петуху аддадуць.

*– А якім зярном, жытнім?*

– Не, не! Ячменным. Ячмень – то ячменным.

**Падучая**

*– А вот такая страшная хвароба была – “падучая”.*

– Да, да. У мяне умерла Надзя. Яна дзелала, вылечвала эту балезьнь. У яе брат служыў у арміі. С арміі яго адправілі, што ў яго балезьнь гэта. А ён прарабам, аканчыў эта прарабскае. Ён прыехаў с арміі – яна яму здзелала. І ён усё ўрэмя па высотах, у страіцельстве адработаў прарабам. І сейчас яму шэйсят с чэм-та лет. Больша этай балезьні не відзеў. Яна загаварывала. А як яна загаварывала? Вот. Як умерла маць іхная, яна сняла с ево адзёжу, ўсё і палажыла на парог, как вынасілі маць. Гроб вынасілі з дому. А тада этую адзёжы палажыла мацеры ў гроб. І закапалі. І сэтых пор у яго не стала балезьні!

– *То есьць спачатку паклала на парог, пранесьлі, а затым у гроб?*

– А тады матку нясьлі чэраз яго. Яна сьняла з яго майку, рубашку, палажыла мацеры ў гроб.

– *Так яна і яго на парог пасадзіла?*

– Яво самаго – мацеры сына. Яе с хаты вынасілі – яго палажылі на парог!

– *Палажылі ці пасадзілі?*

– Палажылі! Усё атработаў – нікада ў яго этай балезьні больш не было! Вот эта загавор. Гэта дваюрадная сястра. Не мая, маяго мужа.

– *А во як яраней сярпамі жалі. Каб рука не балела, не развівалася, што рабілі?*

– А во нада перавязаць *нітачкай*. Як казалі – "суровай". Шарсьцяной.

– І ў дзьверы во так ушчамлялі. О так, ушчамлялі, каб рука не балела!

**Зап. У. Лобач, У. Філіпенка 2005 г. ад Мішкуцёнак Веры Паўлаўны, 1933 г.н. і Маскалёвай Яўгеніі Пятроўны 1927 г.н. у в. Жукі Верхнядзвінскага р-ну.**

### 16
### Далман

– Мой муж тожа ездзіў туды (да Далмана). Тожа такі случай быў – ехалі разам… Муж як мой ехаў – сэрца ў яго балела. Паехаў с чым было. Усё аддаў яму. А суседка ехала, вязла і сыр, і тое, і тое там. І тожа падумала, што очэнь многа. Яна палажыла там дзе-то. А ён ей сказаў. Нічога ад яе не ўзяў. Аддаў і сказаў: "Толькі возьмеш там, дзе палажыла!" Прыехала на тое месца, а там зьмяя!... А вот маему с сэрцам памог, очэнь памог! У яго сэрца сільна балела. І так харашо ён вылячыў яго. Ой!

**Зап. У. Лобач, У. Філіпенка 2005 г. ад Вазняк Марыі Фёдараўны, 1926 г. у в. Жукі Дзёрнавіцкага с/с.**

## СЕБЕЖСКІ РАЁН (РФ)

### 1
### Фітатэрапія

"*Верабой*" – "па жэнскаму памагаіць".

"*Чысьцік*" (не чыстацел) – "жоўценькія цвецікі", знешне – ад прышчоў, ад свербу скуры.

*Чыстацел* – ад язвы ("па малу піць, па чайнай лыжцы")

"*Пустыльнік*" – "ад сэрца піць"

"*Калчан*" (дуброўка) – расьце ў сасновых узьлесках; нізенькі, жоўтыя цьвяточкі, корань з палец; корань настоены на гарэлцы – ад паносу, ад страўніка.

"*Устрэчнік*" – "устрачае ўсякую балесьць", "падобны на брусьніцы; узвар піць, калі "пушыць" жывот".

**Зап. У. Лобач у 2003 г. ад Пінчуковай Клаўдзіі Ефімаўны, 1917 г.н., в. Дзедзіна Себежскага р-на**.

**2**

Адсушка – з тым “каб адвадзіць чалавека ад жонкі, нада ўзяць паскробыш і тры дні насіць пад левай пахай. Затым незаметна даць, ну, куды-небудзь, з ядой з’есьці таму чалавеку”.

“Падучая” (горб) – “Мой жа малодшы брат быў, як маленькі, прыпадачны і гарбаты. Мама вазіла яго кудысь у Беларусь да знахара і вылячыла яго ад гарба і ад прыпадку. Но прыпадак, можна лячыць толькі да трох гадоў, затым – ужо ня вылячыш. А брату яшчэ не было, то мама яго і вылячыла”.

**Зап. У. Лобач у 2003 г. ад Спірыдонавай Ніны Іванаўны, 1930 г.н., у в. Ляхава Себежскага раёна РФ.**

## ГЛЫБОЦКІ РАЁН

**1**

### Чараўнікі і знахары

– Я не знаю, цяпер ужо – чары, чары і чары, а даўней так не было. Цяпер, дык казалі, дужа многа разьвялося. Можа, што крэпка Богу ня вераць.

*– А знахары ці былі, ад чаго памагалі?*

– А гэта, дык я і сама умею. Гэта ж з Богам – гэта можна. Я ўмею ўпуд выбраць, зёлкі ёсьць сьвянцоныя. Даўней жа крыж (на ростанях), на крыжы *моху* выдзяруць – на вугалькі і кураць. А з вока, то вада загаварваецца, Сьвятой Мацеры малітва: *"Шла Божая Мацер берагамі, змывала рэкі, моры, азёры..."* А далёй не памятаю.

*– А шмат каму памагалі?*

– Ваабшчэ памагаіць! Дажа і заікацца не нада (што не памагае)! Дажа была такая бабка, што ніткі загаварывала. Загаворыць нітку, перавяжыць... Паходзіць чалавек тры дні і пухліна спадаець. Але ўсё гэта з малітвай, з Богам.

*– А вы ўмееце, каб пухліна спадала?*

– Я хацела. Была тут адна бабка, што казала – навучыць, а сама паехала к сыну ў Падсьвільле і памёрла.

*– А калі згарыш на сонцы, што дапамагае?*

– Як даўней, дык гусінае сала дзяржалі і сьвінны кішэчны жыр памагаець.

**Зап. У. Лобач у 2001 г. ад Авер'янавай Алены Філарэтаўны, 1923 г.н. у в. Бабруйшчына Псуеўскага с/с.**

**2**

### Знахарства і чарадзейства

*– А хто вас научыў загаварваць?*

– Ад мамы. Але ж, дужа я не загаварваю.

*– А ад чаго памагаеце?*

– Ад зьмяі. Майго зяця укусіла зьмяя, я яго загаварыла і ён не папаў у бальніцу. Ну, яшчэ карову загаварваю, як укусіць зьмяя. Ну, уроцы, ад іспуга, зьвіх памагаю, як нагу зьвіхнець хто.

*– А звіх, як яго лячыць?*

– На нітку гавораць. Нада простая нітка ад красён. Яшчэ даўней дык я нітку навязвала. Памагаець і каровам і людзям. Навязаць на нагу. Вот дзевачку у нас напраўлялі на Віцебск – у яе вывіх. Ну, я і загаварыла. Мо, разы тры схадзіла і ўсё – нікуды яе не павязьлі – і дзевачка хараша.

*– Да вас шмат людзей прыходзіць?*

– Ай, не. Калі свае ці з саседняй дзярэўні.

*– А пра чараўнікоў ці гаварылі?*

– Дзядуля мой расказваў, што гэта утрэчкам баба з цадзёлкай расу сабіраець і лётаіць па полі. Казаў, дзьве былі суседкі, што гэдак яны завяліся, што аж брахалі адна на адну сабачым голасам.

*– А гэтыя чараўнікі Богу вераць, у цэркву ходзяць?*

– А я ж не знаю. Праўда, даўней іх палілі – дзядуля расказваў – і шабаш нейкі быў. Яны гэта сабіраліся. Вот некаторыя, кажуць, і ўмеюць. Нашай было карове (здзелана), так мы прасілі *вады з губы* ў адной. А яна не дала.

*– З губы – гэта як?*

– Яе дзядуля прасіў: “Вазьмі вады з губы, пырсьні на карову”. А яна не дала. Былі людзі даўней, у чары верылі. Во ў мяне было. Маю карову вужака ўкусіла, а я і не падумала. А пасьля ў яе вымя распёрла і качаць яе пачало, дык я адразу загаварываць стала і за мінут дзесяць у яе палягчала. Я даўней і ў бальніцы загаварывала. Тут адну дзевачку завязьлі ў бальніцу. Яна з Мінску і яе маць не хацела (каб замаўлялі). А з бальніцы праз дзесяць дней прывязлі да мяне загаварываць (не маглі дапамагчы).

*– А калі чалавека зглазяць?*

– Ад зглазу ёсьць загавор. Малітва ад зглазу нада:

*Ну, уроцы, не жартуйце, уроцы. Калі ад жанчыны – ідзіце пад чапец, калі ад мужчыны – ідзіце пад шапку, калі не ад жынатых – ідзіце пад вянец, ідзіце на сіняе мора, зьбірайціся там.*

*– А звіх як?*

– І зьвіх нада гаварыць, на нітачцы узлы завязваць. Нада 27 узлоў на нітачцы (завязаць), а тады загаварываць. Каб во 9 узлоў па 3 разы. А тады загавор загаварыць і памагаець.

**Засцярогі цяжарнай**

*– Ці забаранялася што цяжарнай рабіць?*

– А як жа! Няможна было цераз вяроўкі хадзіць – тады пупавіна акручвалася вакруг шыйкі. Няможна дражніць нікога цяжарнай. У нас тут адна дражніла і потым дрэнна было (з дзіцёнкам). На пажар няможна (глядзець) – пятны тады адаб'юцца на руках.

*– А вось калі ў малога губа рассечана?*

– А, гэта губа расьсечана. Гэта з кім-та яна сварылася. Вот я гэтукую бабу знаю. Сварылася яна з сьвякроўкай. І яна ішла, а сьвякроўка за ёй сьледам тапаром секанула па парогу. І ў сына стала расьсечаная губа.

*– А што рабілі з пупавінай?*

– Гэта я не знаю. Ліцо мазалі пупавінай, каб чырвоненькія (здаровыя) былі дзеткі.

**Зап. У.Лобач і студ. ПДУ А. Волкаў у 2001 г. ад Бурэц Люцыі Адольфаўны, 1937 г.н. у в. Латышы Псуеўскага с/с.**

### 3
### Чарадзейства і знахарства

– Болей перад Купалай чаравалі. У Латышах у аднэй у гэтым гаду... У нас, у Востраве бабы гэтага не панімаюць, а ў Латышах яшчэ хто і знаіць. Там у аднэй прошлы год спорцілі карову. Ну, яны тады ўжо езьдзіюць па знахарах. Але яны (знахары) гэтае не скажуць і не пакажуць (хто падрабіў) – ну ня хочуць, каб ім мсьцілі. Яны гаворацъ, што пазнаеце, як ваду прывязёце. Гэта бабка, што зрабіла, будзець то ў адзін канец дзярэўні хадзіць, то ў другі, будзець бегаць і бегаць. Дык гэдак прошлы год і было. Бегала і бегала.

*– А як яны малако адбіраюць?*

– А хто іх ведаець. Гэта мы ў дзярэўні жылі, а я ішла на футар карову даіць. А там бабка жыла, яна таксама умела. Іду карову даіць, а яна бубніць і бубніць, нешта шэпчыць на маіх кароў: "Буронька, Звязьдзёнька..." І гэдак яна нешта знала і малако адбірала у кароў.

*– А хто мацней: знахар ці чараўнік?*

– Знахар, ён знаіць і дажа ўпярод. Яны паставяць стакан вады і ў стакане пакажыць гэтага чалавека. А тады, як ім сталі мсьціць людзі (паказваць пераcталі)...

*– А ў цэркву чараўнікі ходзяць?*

– Ай, ходзяць! Ідуць і да споведзі, а што яны прызнаюцца?

*– А што ксёндз пра знахараў: можна ці не?*

– Не, гэта не. Але ж людзям памагае.

**Зап. студ. ПДУ У. Сясіцкі у 2001 г. ад Бузо Анэлі Ігнаццеўны, 1923 г.н. у в. Вострава Псуеўскага с/с.**

### 4
### Знахарская этыка

*– Вы ад рожы загаварваеце?*

– Да. Яны розныя бываюць. Рожы і з ветру, і ўрочныя, і спужаесься. Ад уроцы ваду даю, звіг загаварваю.

*– Гэта вы ад мамы навучыліся?*

– Ага. Як мама умірала, то перадала.

*– Яна толькі вам перадала?*

– Мама навучыла мяне, а тады, я – старэйшая, я сястры перадала.

*– А ці можна перадаваць другому чалавеку загавор?*

– Ну, знаеце, можна, але гэта апасна і ня дужа памоцна будзець. Але перадаём. На Украіне дачка мая, яна сьпісала ўсё чыста што я ўмею і яна наўчылася. І ў кажнай малітве нада Богу маліцца. Есьлі ты не памолісься – гэта непамоцна. Усюды Бог!

*– Праўда, што замовы нехрышчоным не памагаюць?*

– Да, праўда.

*– А ці паможа яўрэям, як загаварваць?*

– Не, не, не.

### Залатнік

*– А ад залатніка вы загаварваеце?*

– Загаварваю на клубочак (суровых ільняных нітак) і тады загаварваю па целе, і на *водцы*. Ну, можна і на *сахару*. Ну, і такія зёлачкі ёсьць – *надсаднік* у лесе. Як брусьніцы і сядзіць, як качанок, адна розачка. Беленькім цьвіцець. Ад залатніку ў мяне тут і корань расьцець – *дзівасіл*.

## Сурокі

– А сурочаць, есьлі баіцца ці скажаць (пахваліць): "Ай, вот які ты красівы!" І сразу зробіцца плоха. Вот мой стары... Зімой саседка прыходзіць, а мой стары у трусіках піць пайшоў, а яна і кажыць: "Глядзі, Валька, у старога лытачкі, як у дзеўкі." І тады вечарам кажыць стары: "Лыткі мне баляць. Ай, агнём гараць!" Я шчас яму вады зрабіла, змыла яго, ўрочную загаварыла. Ён тады лёг, заснуў. Тады другі раз загаварыла – і прайшло. І вот яшчэ. Свадзьбу гулялі. Музыкант гэдак красіва іграў! А тады, знаіце баб'ё: "Ай-я-я! Гэткі красівы!" Раптам яму зрабілася так плоха! Ну я тады кажу: "Ваня, што з табой?" – "Ай, цёця, не знаю што такое." Ну, кажу: "Хадзём, я цябе палячу". Я яму вады зрабіла, змыла, папіў ён, палежаў і кажыць: "Цёця, мне лепей". Ну, яшчэ папіў вадзіцы і змыўся. А змывацца нада, калі ліеш, наводмаш.

*– А як: на захад сонца, на ўсход ці розніцы няма?*

– Не, няма. Хоць во гэты Далман, ён кажыць, што на ўсходзе сонца і да захаду змывацца нада.

*– А Далман памагаў людзям?*

– Памагаў. Ён з ветру памагаў, ён нервенную сісьцему загаварываець. Я сама езьдзіла к яму. Ён памёр і пераказаў сыну. Сын памёр, а цяперака, ён перадаў сястрэ – яна даець.

## Ведзьмы-малочніцы і абярэгі ад іх

*– Былі такія людзі, што чаравалі, кепскае людзям рабілі?*

– І цяпер ёсьць! У нас, у Латышах дзьве бабы. Ай, не хачу гаварыць пра іх.

*– Ну, я ж не пайду ім расказываць.*

– К....ва баба – грязная ходзіць. І тады другая – К...віч*. Вот перад Троіцай, перад Купалам, перад Пятром яны зьбіраюць расу цэдзілкамі...

*– А як зрабіць, каб карову не папсавалі?*

– Ай, усяк рабілі. І серабро ўкручвалі, з градусьніка. У рог укручвалі. Я ляжала ў бальніцы – мяне бабка вучыла. Яна гаварыла, як забяруць малако, закіпяціць вады, паставіць на парог і накрыж чатыры нажы ў парог удзюбнуць. На кіпяток паставіць такую (пасудзіну), каб пара прахадзіла і цадзіць малако. І тады чатыры іголкі наторкаць у цадзілку. Я гэта сама рабіла, а то прыйдзець карова падоеная... А ў Псуі быў Пётра Лапатка – ён сільна памагаў. І яшчэ мяне бабка вучыла: "Вазьмі, пака ў хлеве стаіць (карова), пакуль выганяюць, вазьмі ў куточку ў гаршчочку нарабі".

*– Гэта ў сваім хляве?*

– У сваім. І, як будзеш выганяць на пасту, вадзіцы туды ўлі і вазьмі трапачку і накрыж карову перамаж – нікагда не адберуць (малако). Я цяпер нікога не дзяржу, а там бывала я так рабіла. І праўда! А так бываець – прыйдзець (карова), равець, на сьцяну глядзіць, як малако адбяруць.

*– А скуль сіла ў тых, хто загаварвае?*

– Ну, гэта ж дадзена ад Бога.

*– А ў чараўнікоў адкуль сіла?*

– Гэта называецца чараўніца. Яны – чарнакніжніцы, у кніжках учытваюцца.

*– Але гэта не ад Бога?*

– Ну, гэта, мусіць, і ад Бога. Можа і яны Богу моляцца. Як мы загаварываем, то ад Бога. Гэта ж нада "Здровесь Марыя" молвіць. Дак і у іх жа нейкая малітва ёсьць.

---

* Прозвішчы не прыводзяцца з этычных меркаванняў.

*– А памагаць яны могуць людзям?*

– Не, яны – не. У нас быў тут адзін і ён тожа знаў. Дык ня мог памерці. Ня мог пака дзьве доскі не ўзарвалі. Яго чорт не дапускаў.

**Пакаранне за працу ў свята**

*– Ці было тут што пярун хаты паліў?*

– Паліў тут хлеў. На Ільлю ні нада ні касіць, ні жаць – нічыво рабіць. Гэты быў, што шляхціч зваўся, і ён застаўляў сваіх рабят на Ільлю (працаваць). Мы едзем у касьцёл і ў цэркву, а ён зачаў жыта вазіць. А тады дзяўчына – яго дачка – і так і гэдак – адрэзала сабе палец. А тады хмурка наляцела і пярун як даў! І сарай загарэўся і іх чуць не забіла. І тады тушыць толькі кіслым малаком і Сьвентай Агаты (хлеб, пасвячоны ў касцёле ў дзень Св. Агаты, 18.02 н.ст.). Хлеб укінуць і грамнічную сьвечку. А так – рады няма.

**Засцярогі цяжарнай і кумам**

– Як спалохаецца (цяжарная), то рукой да цела нельга – пятны будуць. Няможна хадзіць пазычаць. Я на сабе паспытала. Во гэты мы трысьцен строілі (трэба было частаваць цесляроў) і я пайшла пазычыць яек. А яна (суседка): “Не, няма”. Я з хаты выходжу і чую... А ў іх хата без падлогі была, на гліне і яна схваціла камок гліны і за мной (кінула). І гэдак у мяне дзяўчынка радзілася і так ужо гліну ела! На печку залезіць і ліжыць гліну. І няможна на пароге сядзець, то, як будзеш ражаць, пупавінай будзець абкручвацца (дзіцёнак), можыць задушыцца. І скаціну падкідваць нагамі нельзя – цела у рабёнка будзець касматае.

*– А кумам што няможна рабіць, як дзіцёнка да хросту вязуць?*

– Ну, як ехалі да касьцёлу... Ты выязджаеш – не мачыся – памачыся дома. Каб у дарозе кумы не злязалі (з калёсаў), а то рабёнак будзе мачыцца.

*– А бабкі-павітухі толькі роды прымалі ці памагалі яшчэ як?*

– Бабкі былі. Вот прымаюць спачала роды, а тады, як нада, ідуць загаварываць гэты падрыў, калі матка парушаная.

**Зап. У. Лобач, і студ. ПДУ У. Сясіцкі у 2001 г. ад Тоўсцік (Лотыш) Валянціны Восіпаўны, 1922 г.н. у в. Латышы Псуеўскага с/с.**

**5**

**Сцень (упуд)**

**а)** Калі бывае дзяцё спужаецца, то нада паставіць яго каля печкі. Так паставіць, каб цень быў відаць. І тады ўжо гаварылі на гэты цень. Загаварывалі на цень. І выкалупывалі з печы па цені гэтыя бялілы, што печ беляць. І тады ужо гэту пыль вынасілі і выкідывалі на вецер. Цераз плячо.

**б)** Як малы палохаецца, тады маліліся на яго цень. А як ужо большы палохаўся, тады садзілі яго на парозе, бралі дзевяць кусочкаў хлеба і закладалі іх за каўнер. Тады вымалі. І так закладалі і вымалі дзевяць разоў. А тады хлеб гэты кідалі наводмаш сабаку. А, яшчэ перад тым хлеб той мачалі ў ваду і гэтай вадзічкай тады змывалі (хворага).

**Зап. студ. ПДУ А. Волкаў, У. Сясіцкі у 2001 г. ад :а) Фёдаравай Зінаіды Мікалаеўны, 1931 г.н. у в. Бабруйшчына.;б) Бузо Анэлі Ігнаццеўны, 1923 г.н. у в. Острава Псуеўскага с/с.**

# ДОКШЫЦКІ РАЁН

## 1

### Пра хваробы і лекавыя зёлкі

*– Пра калтун ці чулі вы, пра такую хваробу?*

– Гэта на галаве так валасы скруцяцца, але ж зразаць самому ня можна. Гэта сьпецыяльныя людзі такія. Зрэжуць, а тады на ваду кінуць і валасы гэтыя распусьцюцца на вадзе... І жывыя, жывыя! Ай, распусьцюцца на вадзе, тады плаваюць, круцюць, круцюць...

*– А вот як даўней дзіцёнак ноччы крычыць, не спіць?*

– Ага, начніцы. Ну і тады возьмуць яго, гэтага рабёнка і шухаюць перад іконай. Шухаюць на руках, ён спавіты. Ну, тады пераксьцісься, возьміш гэтага рабёнка, пашухаеш перад Богам, перад іконкамі – і ўсё. Станеш Богу маліцца: "Прасьці, Божа, спасі, Божа, ад нячыстай сілы".

*– А яшчэ, гаворачь, крактуны у дзяцей бываюць.*

– Ага, крактуны... Тады во што ад крыктуноў – *попел*. І натрэш яго ўсяго, і задок попелам гэтым сатрэш, сатрэш, а тады на вадзіцу пусьціш, пакупаеш яго. І тады нейк паможыцца і не станіць ён крактаць.

*– А залатнік, што за хвароба такая?*

– Гэта як жывот схваціць. Гэта ад яды. Вот добрага не з'ясі, а тады забаліць жывот. А тады эдак ужо не сталі есьці абы чаго. Даўней жа елі абы што. Не было чаго есьці. Тады пойдзеш на памёт, нарвеш травіцы ўсякай, нагатовіш і п'еш.

*– Дык траўкі сабіралі, а якія?*

– Вот на Купалу дык *купалачку* такую. Яна як пух, беленькім такім. Ну, сарвеш гэтую купалачку і купалачкай гэтай, дудачкамі гэтымі, пакурыш рабёначка, каб ён не крычаў. Вугалькоў возьмеш, тады гэтую травіцу паложыш на гэтыя вугалькі і курыш гэтага рабёначка. А яшчэ *мацярдушачка*. Пасушыш гэтую травіцу і тады пакурыш, кругом абнясеш рабёначка. Гэта ад упуду добра памагаіць.

*– А зверабой ці святаянік?*

– *Зьверабой* – гэта як забаліць у грудзях. Дык зьверабой загатовіш і п'еш.

### Святая крыніца

– Тут у нас крыніца была, але яе закапалі, дарогу правялі па ёй. І там хадзілі, вадзічку бралі. Бяжыць тая вадзічка... Там жа была зроблена каплічка, над крыніцай гэтай. Такая ў рост чалавека. Іконкі там былі. Пол быў (па-) вышаны і тут жа ручаёк бег – вадзіца з крыніцы бегла пад гэты пол. Тады бяжыш, каб зачэрпнуць вадзіцы гэтай. Возьмеш гэту вадзічку, змываеш дзяцёнка гэтага (з упуду, сурокаў), пакупаеш, каб чыста было ўсё.

*– А людзі туды насілі што-небудзь, можа капейкі кідалі?*

– Кідалі. Вот я ахвяруюся, мне баліць нага, і я ахвяруюся, Богу памалюся што знаю, гэтую вадзічку вазьму, капейкі ўкіну ў крынічку гэтую.

*– Можа рушнікі людзі насілі, лён?*

– Насілі, насілі... Болей на Спаса, на Яблачнага.

### Камень следавік (гойбіт)

*– Можа, бабушка, чулі вы ад даўніх людзей гісторыі, як Бог па зямлі хадзіў?*

– Ай, гэтае гаварылі, але гэта не праўда – Бог не пайшоў па зямлі.

* – Баба, праўда, хадзіў! Ісус Хрыстос хадзіў. Я ж сама з Улесься (Бярэзінскі с/с), у нас там на выгане ёсьць камень і точны сьлед чалавека, і пальцы і ўсё... Вот дажа я сама... Некалі была ў мяне дзічка пад носам вырасла. Не прыродная, а сама вырасла. Я яшчэ дзяўчынай была. І я пайшла (да каменя), там з дожжа вадзічка была і я змыла. І дзе дзелася, не знаю, тая дзічка!

*– А што людзі гукалі пра слядок гэты?*

– Казалі, што гэта Ісус Хрыстос хадзіў, і застаўся сьлед. Ну, точны, дзетачкі, точны сьлед! Чалавечы! І пальчыкі так, і пятка, і ўсё. Я сама вадзічку са сьляда брала.

**Зап. У. Лобач у 2006 г. ад Гайдук Ганны Паўлаўны, 1905 г.н. і *Гайдук (Аўтушкі) Надзеі Сямёнаўны, 1935 г.н. у в. Асецішча Бярэзінскага с/с.**

**2**

**Упуд**

– Гэта паслухайце, вот што я вам скажу. У нас адна бабка давала, я сама хадзіла. Вот, як я дзяцей гадавала малых, як увіджу, што іспугаецца, тады я к ней. Гэтак мне пасаветывалі. Дык яна умерла. А ў Асецішчах тожа ёсьць. Юзэфа такая. І мая ўнучка была спугалася. Можа ёй бы і прайшло, но я ўсё раўно думаю, што будзець мяне мучаць, што тут бабы даюць ад пуду, а я не пастаралася. Ну, і тады прыйшла к ей. Гэта нада раненька ці вечарам. Жалацельна да сонца, алі можна абы утрам ужо. Я тады ёй расказала, што ўнучцы вады (нада). Яна мне загаварыла вады – сваёй набрала з калодца. І ў яё ёсьць трава такая – кусьцікі – расьцець у агародзе. Дык тады ж вясной яшчэ голыя, без лісьціка кусьцікі. Дык яна мне сушанай травіцы гэтай дала і казала ў чай яе, варыць, даваць піць яе. А вадзіцай гэтай сказала змываць. Змываць вот так, навотмаш (зваротным бокам далоні). Сюды лінуць трошку і тры разы ўніз змываць. І ўсю яе: і ручкі змываць, і ножкі вот гэтак, у ніз.

**Каўтун, валасень**

*– Ганна Раманаўна, а ці была такая хвароба – каўтун?*

– Каўтун уецца, валасы саўюцца ў жэншчыны на каўтун.

*– А ў мужыкоў ці бывае каўтун?*

– У мужыкоў я не чула, каб быў. А ў жэншчын саўецца каўтун на галаве так, што іх не расчэшыш. І каўтун тады, есьлі абрэжыш валасы, ды парой не знаючы, тады будзець балець галава – і ўсё. Чалавек можа прапасьці ад каўтуна, памерці. А есьлі ужо не чапаць яго, ужо старых нада пытацца.

*– А вось такая хвароба – валасень, чулі?*

– Валасень? Чула. Валасень гэта ў пальцы бываіць. Можыць і на назе, а бальшынство на руках. Валасень – гэта нарвець нарыў і ёсьць такія людзі, што выліваюць яго, шэпчуць, лечуць, загаварываюць. Ад валасьня так больна! Каб яго, дзеткі, і ня чуць, і ня відзець, каб і ні дзе, і ні ў кога. Валасень – дужа страшна! Вот нарвець нарыў, а тады з гэтага нарыва як прыключыцца... Дык ад гэтага людзі тожа загаварываюць.

*– А дактары ці лечуць валасень?*

– А вот дактары могуць болей іспорціць ці парэзаць без пары, дык яшчэ хужэ (будзе). Гэта пару нада знаць, калі загаварываць. Ну, асобенна загаварываюць зашэптываюць раніцай і вечарам.

**Залатнік**

– Залатнік гэта можа быць і ў мужчыны. І ў мяне самой, мусіць, і цяпер ёсьць. Гэта бываіць ён ад пад'ёму. Падыміць чалавек цяжка, цяжка работаіць і тады залатнік у жываце, як усё роўна жывое, паварочваецца, ходзіць па жываце. У жэньшчын болей… Мужчыны ж дзяцей не насілі, бярэменныя не былі, а жэньшчыны... І залатнік, як рабёнак шавеліцца ў жываце. Толькі ён павернецца, і дажа пашчупаеш гэта места. І мне было – Максімаўна, саседка памагла. Яна ж тады не піла і памагла. А цяпер п'ець гарэлку кожны дзень. А ад п'янага чалавека, кажуць, не памагаіць. Есьлі выпіты – не нада і браць (вады).

**Крактуны**

– Гэта я вам скажу, як родзіцца рабёначак і ляжыць у калясачцы, сьпіць, а тады плечкамі во гэдак во кранець, пашавеліцца – гэта яму муліцца. А гэта жэншчыне нада бярэменнай хадзіць спакойна, акуратна. Не нада ні ката каршнёй каврараць, нікога. А тады яе між плеч (малога) увідзіш, гэту поўстачку і яна яму муліцца. Дык гэта ўжо старыя лячылі. Купалі і сьцiралі плечкі, каб крыктуноў гэтых (пазбавіцца). І ў майго аднаго (сына) было гэта. Гэта я імела моду, як каты гэтыя лезуць к столу, а я тады забудуся і каршнёй таўкану.

**Вадзянка**

– Мая цётка хоць і старая была, але прыходзіла, як радзіўся ў мяне первый. І вот купаць, а ў рабёначка стручок у яго гэты і машоначка... І вот адно ядзёрачка добрае, а другое, як вадзіцай набегшы. І вот станеш пальцамі шчупаць паціхоньку. Дык яно зьліпаецца і дзе яно дзенецца і потым гэткае самае зробіцца. Вот я кажу: "Баба, а чаму вот гэта?" Дык яна тады кажыць: “Гэта нада ў *клінах* купаць”. Раней драніцы дралі і кліны такія рабілі дзеравянныя. Гэта вот, і я, мусіць, не замеціла і перашагнула гэты клін. А як бярэменная ходзіш, гэта дзяцёнку ўліяіць, асобенна ў первай палавіне (цяжарнасці). Перашагнеш кліны – тады такое ў яго ядзерачка. І гэта нада ў клінах купаць. Нада кліноў тых сабраць, тры клінкі, і туды – у гаршок. Вады наліць і ў печ. І яна там настоіцца, нацягнецца гэта вада і тады выліць яе ў начовачкі. І баба тая кліны неяк паложыць, яна мне купала: адзін між ножак і каля ядзёрачкаў гэтых. Ну і тады і палепшаў мой мальчык. І ў яго ўжо ядзёрачкі сталі роўненькія, як і нада. Машоначка, стручок гэты – усё нармальна.

**Засцярогі цяжарнай**

*– Што яшчэ нельга было рабіць бярэменнай, каб дзіцёнку не зашкодзіла?*

– Во пазычаць не нада хадзіць. Даўней і мне старая казала сьвякроў, што не ідзі пазычаць. Таму шта за гэта кідаюць тады хоць чым, есьлі няма таго пазычыць у таго хазяіна. Той хазяін ілі хазяйка кідаюць за ёй ззаду, як адыходзіць дамоў гэта жэньшчына бярэменная. І тады ўліяіць гэта рабёнку. Рабёнак тады, чым яны пушчаюць... Калі пусьціць вугалём, што з печкі, тады рабёнак падходзіць к грубцы ці ўжо паўзець, як не ходзіць, і есьць вугальле. А есьлі кініць, ізьвініце вы, гаўном, то тады будзіць... Во, наробіць сам і будзіць есьці. Дзеля гэтага апасаліся і я не хадзіла адалжаць нічога. І вот, калі гліну кінуць, то будзе (дзіця) тады гліну хрустаць – вкусна яму. Гэта не на ўсё жыццё, гэта пакуль ён малы.

**Зап. У. Лобач у 2006 г. ад Красковіч Ганны Раманаўны, 1930 г.н. у в. Федаркі Бярэзінскага с/с.**

## 3
## Рэлігійная свядомасць

*– А што людзі пра знахараў гавораць?*

– Знахары – паслы Божыя. Каму Бог пашле знаць – той будзе знаць і людзей ісцаляць. Многа гадоў таму назад... Мой сын з 1963-га года, а гэта, значыць, было ў 1964-м. Я сплю, а мне гэткія словы. Не знаю адкуль яны, але святыя словы. Дух Сьвяты гаварыў. Я гэтыя словы не магу нікуды выкінуць з галавы. Першая малітва*:*

*"На яснай зарэ, на высокай гарэ, Дзе Божая Маці спала, Не спала, а проста так ляжала. І прысьніўся ёй сон не сон, а чыстая праўда. Што яе сына, Ісуса Хрыста На муку бралі, на хрэст Божы распіналі, Па сьвятому ліцу білі – аплёван быў. Слава Атцу і Сыну, і Сьвятому Духу, Ныне, і прысна, і ва векі вякоў. Амінь.*

Тады яшчэ: *Адам і Ева на зямлю схадзілі, Адам і Ева зямных благаславілі, Адам і Ева так прыказалі, Што б мы на зямлю не плювалі.*

Яшчэ малітва: *Маліцца станаўлюся, на Госпада Бога спадзяюся. А ён на рэчцы, как Бог на сэрцы. Як ішоў Ісус Хрыстос з Ерэвана і астанавіўся. Яго ніхто не чапаў. Бажок шчасьлівы, Бажок літасьціві, Матачка сьвятая, цудоўная, Спасі, сахрані, ахрані, ўдахнаві. Прасьвятая Тройца, памілуй нас. Госпадзі, ачысьці грахі нашы. Ўладыка, прасьці беззаконьне наша. Сьвяты, пасяці і ісцалі немашчы нашы. Імяні твайго радзі, Госпадзі, памілуй.*

Тады яшчэ "Отча наш". Гэтак я запомніла ад Духа Сьвятога. Гэта я праз сон навучылася, а тады стала па цэрквах хадзіць. А тады ўжо баба прыехала к нам з Западнай (Беларусі). Слухае яна і глядзіць, што мы толькі хрысьцімся, а болей нічога ня ўмеем маліцца. Кажа: “Надзя, я цябе завяду, дзе самыя лепшыя суніцы растуць. Пойдзем у ягады”. Пайшлі. Яна павярнулася на мяжу і кажа: “Надзя, я цябе навучу Богу маліцца”. Ну, і баба старая так піяла: “*Ісус Хрыстос пісьмо пісаў, / Ісус Хрыстос пісьмо пісаў / З вялікага Ірусаліма: / Не хадзіце табунамі, / Не хадзіце табунамі, / А хадзіце ўрассыпную”*. Вось гэта я запомніла... Дзеткі, плахое нічога нільзя рабіць, а толькі Божае. Тое, што Божае – усё прыгожае. А дзіця, што ні робіць – усё дабро, няма ў яго зла. А вот ад зла ўсякага: *“Сьвяты Георгі Пабедаиосец, сайдзі на зямлю сьвятую, вазьмі з сабой ключы, замкні маю гарачую кроў, А врагу майму ўсе чатыры пункты, і губы, і зубы.”*

*– Гэта што за словы?*

– Гэта як малітва, як загавор.

### Пра долю чалавека

– Чалавеку доля, як родзіцца даецца. Я ляжала ў бальніцы з мальчыкам і жанчына ляжала адна. Вось яна кажа:*"Мая мама жыла ў маленькай хатцы і заначаваў у яе старычок. І гэтак кажыць, што дзеці даўней раджаліся без болі. Тут стукаюцца ў хату. Баба: “Хто гэта?”. А гэта яе к родам завуць. А старычок ёй сказаў, што, як будзеш ісьці, паглядзі ў вакно, што там будуць рабіць. Там старычок пачыняў саху ў гэта ўрэмя, як пупавіна была не перарэзана. Значыць, гэты мальчык будзе вечны, ураждзённы хлебароб. На месяц, на зьвёзды гляніць і будзе знаць калі сеяць, калі баранаваць, калі ганяць. Тады яшчэ за ноч раджаецца. – Паглядзі, што там будуць рабіць. А там мальчуган мераў шынэль, а пупавіна* (у навароджанага) *была не разрэзана. – Будзе вечны воін. А трэція завуць к родам. А там у вакне дзевачка падкідала куклу. Гэта будзе, кажа, вечная арцістка”.*

**Абярог на вяселлі**

– Як на вяселлі дзядзька Васіль падарыў, пабагаславіў мяне, а тады кажыць:

*"Да пусьць мінае нас усякая бяда –*
*Тут жэняцца Саўскі Бор і Слабада.*
*А мы дзевачкі не ўрочныя,*
*А мы дзевачкі малочныя".*

Гэта каб ніхто не урок, каб было ў грудзях (малако).

**Сьвятыя вада, зямля і агонь**

*– Ці былі тут крынічкі такія, што вада людзям памагае?*

– Ёсьць крыніца. І гэткая, што была там ікона Ісуса Хрыста. Там нада памаліцца Богу і браць ваду гэту. Ну, і, памаліўшыся, упатрабляць. *Зямля ж – гэта нашая маці, а вада – гэта Божая Маці.* Вада – Божая Маці. І загаварывалі на вадзе. Вада ж усякі грэх абмывае. Яшчэ крыніца, казалі, "Замак" называецца ў Забаеньні. Яна сьвятая шчыталася. І пілі, і ў баню бралі мыцца. А ў нашу крыніцу, як я ішла замуж, ды мяне адпраўлялі да крыніцы вады. Казалі, што трэба на ізруб палажыць грошы – купляць ваду.

А зямля – гэта наша маці. Яна і накорміць, і напоіць. Яе не нада баяцца. Толькі што к зямле хрэсьцікам не прыбітае. Гэтак, як і пакойнага не адпяюць ды пахароняць, а ён тады сьніцца і ў жыцьці там патомству не жывецца. А вада – Божая Маці*: "Вадзіца, вадзіца, ты ўсяму сьвету памашніца. Памажы ты Надзеждзе грэшнай"*. Ці другое імя.

*– А агонь?*

– Агонь тожа сьвятое. Яго хрысьцяць. Во, як падпальваю печ, каб не случылася што. І сьвечачкі стаўляюць, каб чалавек не гарэў з галавы.

*– А пра вецер што гаварылі?*

– Я чула, што некаторыя знахары імя прачытваюць і тады вадзіцу выліваюць на вецер.

**Замовы**

– Мая цётка загаварвала. На наге ў мяне была стала красната, нарыў. Яна загаварвала, возьміць на сук перахрысьціцца, а тады:*"Як гэтаму суку ў лесе ня быць, ды каб Надзінай назе болі ня мець"*. Гэтак яна тры разы пагаварыла і "Отча наш". Ну і стала нага ужо і цішэй. Там ёсьць у мяне загаворы, але забрала сястра дваюрадная. Казала, мальчык крычыць, ня сьпіць. Некалі ў маёй дачкі была грыжа. Абразавалася на самай тонкай мазгавой жыльцы. І ўрачы казалі, што яна не мяшае, але відна было. Далі напраўленьне ў Мінск. Але цётка прыехала, загаварыла і яно разыйшлося ўжо. Яна і не замеціла. І ў Мінск па вызаву не паехалі.

*– Вы казалі, што ў вас была рожа.*

– Ага, гэта была. Рожа на наге. Ёсьць такі загавор. Гэта сястра мая ў санаторыі была і навучылась*: "Ішоў старац, нёс ларац, спатыкнуўся і ўпаў. Што падняў? – Рожу"*. Як будта старац забраў рожу.

**Сутаргі**

– Вожыка людзі, дзяруць яго мордачкай, каб кроў пашла. Гэтай крыві даюць папіць бальному. У мяне гэтак у мужыка і сына сударгі былі. Дык я брала ваду ў стогадовай бабкі. У Клінках Ксенія. Ну і прэкраціліся гэтыя сударгі. А некаторыя во вожыка ловяць. І, дажа як дужа баляць суставы, націралі. Нада ў печ усадзіць, у гаршчок вожыка. А з яго – жыр. І гэтым жырам націраць тады.

**Сурокі, упуд**

– Вось родзіцца маленькі і атучаюць яго, каб ён болей ня ссаў. А, калі адвучылі ды далі яшчэ пасмактаць, тады вока будзе ўрочнае.

*– А што рабіць, каб не зглазілі?*

– Людзі шпільку носяць у падале.

*– А як спужаецца дзіцёнак?*

– А калі спужаецца малы сабакі, то сабаку клалі ў ваду ды хлеб паложаць. Тады сабака – хоп хлеб, а трохі вадзіцы пацячэ з хлеба. Ну, і тады гэтую вадзіцу малому і даць. А як чалавек спужае. Вады нада тры разы ў рот набраць. Раз у адной кружцы ўзяць, а ў другую выліць з рота. І гэтай вады, каб папіў малы. Гэта ад спуду на скорую руку.

*– А ад зглазу на скорую руку?*

– Падалом сьціралі і прыгаварвалі:*"Не баіцца мая... уроку, каб і ты не баяўся"*. А калі не памагала, тады ваду бралі ад уроку. Была тут Марыя Аляксюткава. І карове ад уроку давала. А я сама карову ад уроку падлечвала: карову гэтую за сіську і цыркнуць на адзін капыт, тады – на задні – каб накрыж палучалася.

**Пра Далмана**

*– Вы хадзілі да Далмана?І колькі плацілі?*

– Ён і не браў у мяне гэтыя грошы, але чула, што баба казала, што несьлі бабы дзве карзіначкі яец многа там было, давай мы адну на дваіх занясём, заплацім. А ў крушню, у камяніцу паставілі і каменьнем закрылі, будзем есьці і возьмем, а ён кажа: “Не ўсё вы мне прынясьлі, што думалі”. Ідуць назад і глядзяць, а крушні той вужакі абступілі тое месца, дзе яны не ўзялі яйкі. Я так шчыра тую тройку несла, каб аддаць яму.

*– А той Далман як ён вам паказаўся, якім чалавекам быў?*

– Абыкнавенны старык быў. Паследні час, калі я была 300 чалавек прышло ў чаргу да яго гэдак з вечара, як сталі ісьці. Я ўжо 36-га году і папала мне 36-ай запісацца і ў шэсць часоў вечара адчынілі хату і па спіску вызывалі к яму, але сказалі: “Схадзіце ў калодзеж і налівайце ваду самі”. Вада была ўжо падгатоўленая, толькі яго слова – на ваду тую паглядзіць і кажа. Казаў, што трэба чыстую праўду гаварыць, нічога не ўтойваць.

Першы раз я пайшла ў маладым узросце, а ён кажа на што ты на сябе маткі грэх бярэш. Тады я і расказала, а ён кажа, што ёй палепшае, тады я стала яму ногі цалаваць. І праўда жыла, тады ёй было 35 гадоў, а дажыла да 70 гадоў.

*– А што з вашай мамай сталася?*

– Зроблена было за гэту зямлю тут быў сад вялікі пасаджаны. Ну і бабка з Пашкі, ў паноў жылі з дзевачкай сваёй, прыехалі сюды к дзядзьку. Ну і з маміната сьледа ўзялі і зробілі. Расказала яму, што мяне заставіла ісьці. Ён даў гэтай вады і кажыць: “Што знасілася – у мяне запасных часьцей нет, а што сахранілася – будзе жыць па свой назначаны век”. І яна да 70 лет дажыла.

*– А той Даўман, якая ў яго хата была, які падворак?*

– Хутар быў. Бальшая хата і бальшы трысьцен, штоб многа людзей узлезла.

*– А ў якім годзе хадзілі?*

– Мне тады 17 гадоў было, а цяпер 71 год.

*– Ну што ж улада хіба такіх людзей не наказвала, тады ж у Бога не верылі, людзям забаранялі, такіх як Даўман?*

– Яго пробавалі браць і ўсё ён быў забраны і пад стражай, а потым выпусьцілі.

**Зап. У. Лобач, І. Пашкевіч у 2006 г. ад Шпет Надзеі Антонаўны, 1936 г.н., у в. Слабада Бярэзінскага с/с.**

**4**

**Навязкі**

**а)** *– Так ад чаго вы памагаеце?*

– А я навязкі даю. Во руку ці нагу нехта павіхнець – навязку навяжу і палепшыіць.

*– Навязкі з чаго вы робіце?*

– З прастой *ніткі*. З льняной, з пласконьня.

*– А што гэта – пласконьне?*

– У клапнях аддзельна *пласконьне* расло. Выбіралі пласконьне і клубок спрадуць – вот на навязку мне. Вот тры нітачкі складаю – і навязка. Навяжу нітачкі узялкамі і пашапчу трэйча – і нага ці рука палепшаіць.

*– А вы шэпчаце на нітачку ці як завязваеце?*

– На нітачку. Навяжу і ціха трэйчы пагавару і перакшчу нітачку, пагавару, тады яшчэ перакшчу.

*– А ад каго вы навучыліся?*

– Мама мая давала навязкі і я.

*– А як палепшае, куды тую нітку дзяваць?*

– Нікуды. Вот спаліў у печцы, каб не валялася. Усё ж боскія словы гавораш там. Вось прыйшоў Коля Бацькоў ка мне. Вёз сена ды зваліўся – зьвярнуў шыю і ня можа павярнуць. Увечары прыйшоў, я навязку дала. Кажу: “Прыйдзеш дамоў тады, каб ветрам не прадула, нясі ў бамажку”. Назаўтра прыйшоў Коля на нагах.

*– А што, каб ветрам прадула, можа выдзьмула б?*

– А на што святое слова, каб... Дык у бамажку. Бог ёсьць і памагае. Я ў гэтым уверана. І к маме маёй людзі хадзілі. Мішка Цыганок прыйшоў за навязкай каню – зьвіхнуў нагу. Я скаціне не давала, але каню навязала гэтую навязку, пагаварыла – конь пайшоў добра. А Зося Тодарава... Карова з паствы на трох нагах прыйшла. Дала навязку. Прывязала цесна, каб не садрала – пайшла на паству. Ну ты скажы, нешта такое ёсьць!

*– Карове, каню памагае, а ці можа свінні, калі што?*

– І сьвіньні, і людзям, і дзяцёнку.

*– А памагае хрышчоным толькі, тым, хто верыць у Бога, ці любому?*

– Любому. Ліш бы імя я тое знала.

*– І яўрэю паможа?*

– І яўрэю паможыць.

**б)** – І я тожа лячу. Што-небудзь пашапчу, соль адшчытаю тры разы па дзевяць. Гэтай соллю патру, прагавару што-небудзь, паплюну ў *соль* тры разы – і харашо. Ўсягда ка мне ідуць: “Ксеня, ратуй – нехта сурок”.

**а)** – А вось Мішка Ганчарэнка з Ленінграду прыехаў сюды і нагу зьвіхнуў. Ну я навязку дала – палепшыла. Прыехаў дамоў і баіць, што ў Слабадзе ёсьць жэньшчына, што навязкі даець. Дык далі запісак і надавала навязак яму гэтых. Каму навязка – напісана імя, фамілія.

*– Як даяцё навязкі, то, мусіць, і сілу сваю аддаяцё? Як Вам пасля гэтага?*

– Мне хоць бы што. Як цяпер так і тады. Ці адну ці дзесяць дала – тое самае.

*– А ці задарма?*

– Дарма. Грошы нельзя браць за гэта.

*– А перадаваць ці будзеце каму сваё ўмельства?*

– А я перадала сваёй дачцэ. Мне – мама, а я – дачцэ. Меньшая. Трэба меньшай перадаваць. І мая дачка навязкі даець.

**Зап. У. Лобач, І. Пашкевіч у 2006 г. ад: а) Гайдук Марыі Васільеўны, 1935 г.н.; б) Брыкун Ксеніі Максімаўны, 1929 г.н. у в. Слабада Бярэзінскага с/с.**

**5**

**Святы калодзеж**

*– Як хадзілі, можа, на празьнікі?*

– На Спас хадзілі. Насілі, хто капейку, як даўна капейкі былі. Хто, кажуць, павяжаць хустачку такую, як яна завецца. І красты былі.

*– Можа, мама вашая гаварыла. Вот вы сказалі, хустачкі павязвалі. А для чаго гэта рабілі?*

– Вот, кажуць, каб Гасподзь Бог, эта, памагаў, каб дабра даваў. А ці яно даецца, ці не даецца. Биваіць, хто гэта робіць і таму нічога не даецца, а хто такі нахал, вот таму…

*– А вот вадзічка тая, ці добра яна была? Ці памагала?*

– Мусіць, памагала. Бралі, прыносілі ваду.

*– Ці яна порцілася, ці добрая такая стаяла?*

– Не, ня порцілася. І січас каля цэркавы ў нас даюць ваду, як яна завецца…

*– А можа, чулі, што каму памагала?*

– Было, што памагала. Там ваду бралі. Гаварылі, дажа прыязджалі за вадой к гэтаму калодцу.

*– А ці гаварылі, можа, старыя людзі, чаго гэта крынічка святая? Крыніц жа многа, але ходзіце да гэтай?*

– Там, гаварылі, была дужа ўкусная вада, я пробавала, алі ні разабралася, ня буду казаць. А цяпер як зробілі там і дно, і крышу, і абабілі. І стала вада ні тая.

*– Дык раней была лепшая?*

– Да-да-да. А цяпер зробілі саўраменную, цяпер яе ачысьцілі, там, і вада ні такая. Зробілі па-харошаму. Ай, німа нічога харошага, хто яго знаіць.

**Зубы**

– А даўней во як: зуб забалеў, вырваў яго, бальніцы ж не было, эта ж не так, як цяперака. Я ў гэтыя гады, яшчэ ж не саўсём старая, ня сто гадоў, дык сама вырывала. А тады – вот пакруціш яго, пакруціш, і на печ: *"Будзьця, мае зубы, здаровыя, як у мышэй."*

*– Ці казалі: Мышка, на табе?*

– Ага, мышка, во табе зубы, а мне дай свае, каб былі ўжо крапчэйшыя.

*– Дык гэта не абізацельна малага дзяцёнка кідалі зубы, абы чые?*

– Абы-чые. І маладога, і старога. Як старога, канешне ж, як ёсь. Як німа, ня вырвеш нічога.

**Шаптуны**

*– А вот вы сказалі: зубы даўней не лячылі, па дактарах ні хадзілі. А як дзіцёнак спужаецца… Ці былі такія, што вадзічку давалі?*

– Былі шаптуны такія. Схадзі там да таго, да таго, ніхай пашэпчаць.

*– А хто болей вадзічку даваў – мужчыны ці, можа, жанчыны?*

– У нас ў дзярэўні дык было… Піліп даваў, Іванька…

*– Мужыкі?*

– Мужыкі. Я вот на кладбішчы брала пясочак, пясочак брала, каб памагло.

*– А бралі для чаго, можа, што случылась у вас?*

– Ці дзеці як не спалі… Усякія былі чудзеса.

*– А гэтым пясочкам вы што рабілі?*

– Тады гэты пясочак у вадзічку і закіпяціш. Закіпяціш. Не нада яе дажа цадзіць – пясок астаецца на дне, адліў там у які слоічак і даваць піць. І памыеш ліцо. І цела памыеш трошкі. Дык гэта я ўверана, што памагала.

*– Гэта тыя людзі, што памёрлі, і зь іх магілы?*

– Да.

*– А як іх фамілія была гэтых людзей? Вот Піліпа?*

– Піліпа была Ставер. І Івана Ставер. Ну вы ўсёроўна не найдзеця тыя магілы.

*– А яны сваякі былі між сабой? Ну, родныя былі?*

– Не, алі нейкія далёкія сваякі былі між сабой.

*– А ад чаго яны прымерна памагалі?*

– Ой, гэтыя, к ім ішлі… Я і сама хадзіла. Не сабе, а ка мне прыяжджала сістра дваюрадная. У яе сятры ў мужыка была пілепсія. Вы знаеця, што такое пілепсія? І мы хадзілі к этаму к Піліпу. І ён кажаць: “Нада было трошку раней, ну раньша”. Ну і тая мая сістра дваюрадная даець яму тры рублі. Я кажу: “Маруся, давай мы дадзім болі, каб яно ўжо памагло”. Я дужа люблю, каб чэсна. А то што ён скажаць – тры рублі… Можа, ён назад атверніць. Дык яна яшчэ далажыла два рублі. І казала, мусіць, чэраз месяц не стала пілепсіі.

*– А што ён робіў?*

– І шаптаў, і маліўся, і хрысьціўся і, эта, вады даваў у бутылку.

*– Бабуля, а гэтыя людзі, што ваду даюць, яны ў Бога веруць?*

– Гэтыя веруць. Гэтыя верылі, гэтыя не ругаліся. Эта ж, кажуць, ругацца дажа нільзя. Эта ж мы цяпер, на каждам шагу, мат-перамат.

*– А тыя, што лечуць, як яны называюцца? Знахар, ці ён калдун?*

– Не, ён знахар.

*– А чым яны атлічаюцца?*

– А ён нічым ні атлічаўся. Толькі вот ідзеш к яму, каб ён памог.

*– А вот Піліп Ставер, Іван Ставер, ад чаго яны памагалі? Вот, ад эпілепсіі, а яшчэ ад чаго?*

– Ад пілепсіі. Дзяцём яшчэ, як плоха, як якая хвароба. Залатуха даўна была, цяпер гэтага німа. Вот ён ужо нешта нашэпчыць, травой нейкай змыіць, дась і палепшаіць. Лячылі людзі.

*– А вот пясочак з магілы, ён толькі ад нейкіх дзецкіх хвароб памагаў?*

– Ад усяго, дзетка. Я вот як хадзіла, во так у тры пальцы. З адной магілы, тады з другой і з трэцьцяй.

*– А з трэццяй, гэта з чыей?*

– А з трэцьцяй… Вот быў Іванька, Піліп, і быў Паўлюк Герасімёнак.

*– Але ж тожа пры жызні памагаў, ваду даваў?*

– Тожа даваў. Ой, зь яго сьміяліся пры жызьні, такі сьмешны быў старычок. Я яго толькі чуць-чуць помню.

*– А смяялісь чаго з яго?*

– Шуцілі. Вот такі ён быў, баба якая прынясець дзяцёнка, дык ён, бывала, і ўшчыкнуў.

*– Ага, такі юрлівы быў.*

– Ну-ну. Шустры. Шустрак, мы казалі, шустрачок. Паўлючок-шустрачок.

*– Алі ж дрэннага яны нічога ня робілі?*

– Не. Дрэннага яны нічога ня робілі. Яны жылі…

*– А як хазяева якія яны былі? Настаяшчыя?*

– Да, настаяшчыя былі хазяіны.

*– А дзяцей ці багата ў іх было?*

– У Івана дык быў адзін, ён і цяпер недзе на Украіне. А ў Піліпа было троя. І цяпер жывы. А ў Паўлючка…

*– А ці ўзяў хто з дзяцей іх умення?*

– Не-а. Дзеці ня ўмеюць нічога. Алі ж гэта, кажуць, перадаецца.

*– А як яно перадаецца?*

– Эта каб я ўмела ды запісала свае ды свайму дзіцёнку перадала, каб ён у галаву ўзяў. А так хто яго знаіць? Эта ж такое дзела, што… Я вот Богу маліцца, і то “Отча наш” чуць-чуць запомніла. Неяк вот памяці не стала.

*– А гэтыя дзяды, яны хадзілі ў царкву? Піліп, Іван…*

– А, гэтыя? Гэтыя хадзілі. Хадзілі.

*– Ці гаварылі даўней, што той, хто вот знахар, паміраіць цяжка?*

– Гэта чула я, толькі не ў сваей дзярэўні, ня ў гэтай. Чула, гаварылі, што дажа праразаюць паталок.

*– Гык гэта таму, хто вады даваў, ці дрэннаму?*

– Гэта дрэннаму.

*– А гэтыя былі добрыя?*

– Да, да.

*– А жэншчын такіх сільных не было?*

– Ай, ні было. Была ў нас адна такая. Я вот тожа. Спрасіла ў яе, у дачкі было, хлопчыку было як радзіўся, так і крычэў, і крычэў…

*– А як гэта звалася, як крычыць і крычыць? Можа, начніцы?*

– Ай, вот я забылася. Лягушчыны кракчэньня, крактавіньня… Вобшчам нейкая званьня яму было. І вот гэта бабка… Адзін раз я пяць тысяч заплаціла, рублей, тады рублі былі, другі раз тры, і мой дзяцёнак гэты як крычэў, так і крычэў. Пакуль ня ісполнілася шэсь месяцаў. Шэсь месяцаў ісполнілася, дык як вадой, як рукамі хто сьняў.

*– Дык як гэта звалася?*

– Ці крактуха, ці як там, крактавіньня.

*– А ці казалі, крычыць, што там валаскі нейкія на спіне колюцца?*

– Гэта я чула. Сьціраюць іх.

– *Чым?*

– Ну, гэтай *сольлю*, сьвянцонай ці якой.

– *І куды тады тую соль?*

– Тады нада на агонь абізацельна. Спаліць.

– *А вот гэтыя дзяды, Паўлюк, Іван, Піліп, ці хадзілі да святога калодзежа таго?*

– Хадзілі, хадзілі. Эта як я стала помніць, а то… Эта ж да вайны. Каждая сьвята, уся дзярэўня сабіралася, і нясуць хто што, хто якую закуску. А тады там ужо молюцца, молюцца, і на каленках тамака… А цяпер ужо гэтага німа.

– *І бацюшка хадзіў?*

– Бацюшка, бацюшка. Эта ж было ціхая ўрэмя. А тады ж пасьля вайны, тады ж усё ізьмянілася.

– *А гэтыя дзяды – Паўлюк, Іван, яны сны маглі разгадаваць ці варажыць?*

– Кажуць, былі ў іх якія бумажкі, алі я ж не знала, я ні глядзела.

– *Можа, у іх якія кніжкі былі?*

– У гэтага Піліпа кніжка даўняя, як яна завецца – малітвеньнік.

– *Можа, Біблія?*

– Ага, Біблія была.

– *А вот. Калі яны ўжо паўміралі, у якіх гадах прымерна?*

– Ужо гадоў болі як па дваццаць.

– *Яны ж людзям памагалі, а ці бралі яны вот грошы, ці людзі самі давалі што?*

– Самі давалі. Ніхто ні казаў, што мне там нада пяць ці тры. Я дам пяць, дык дам, ці тры. Дам тры дык тры. Алі кожды стараўся, каб даць болі.

– *А вот власці ці ругаліся?*

– Не, не, не было. Ну ніхто к ім прэтэнзіі нікакой ня ймеў.

– *А адкуль далёка ці прыяжджалі да іх людзі? Каб ім памаглі? Ці толькі месныя хадзілі?*

– Этага я ні знаю, дзетка. Можа, хто прыязджаў. Яны ў дзярэўні, а мы ў гэтым куточку.

– *Гэта ня кожны можа памагаць. Адкуль у іх такая сіла? Як вы думаеце?*

– Нешта ж у іх заложана. Эта ўжо ад Бога. Як і арціст. Вот, кажуць, арціст добры. Эта яму заложана, эта ж ня тоя, што ён наўчыўся. Бу̀хаць там нагамі ці выкручавацца, эта заложана.

– *А вот у таго Піліпа ці Івана можа, у іх бацькі ўмелі, ці бацька ці матка?*

– А вот гэтага я ні знаю. Я іх чуць помню.

– *А ці чулі вы пра такога, гаворуць, людзям дужа памагаў, Далман такі?*

– А, дык гэта ў Глыбокім.

– *А што пра яго гаварылі?*

– Што памагаў усім. Стаўлялі банкі. Езьдзілі к яму многія, прывазілі банкі, надпісывалі, твая, мая, і тады ён памагаў усім. Цяпер сын яго, алі ад яго мала памагала. Вот стары быў, ад таго. Хрысьціцца, моліцца, і тады ўжо разьбіраеш сваю банку.

– *А ад чаго ён памагаў?*

– Ад усяго. Кажуць. І з Барысава, я знаю, езьдзілі. Расказавалі жэньшчыны. Мая свацьця расказавала, што езьдзіла з Мінска падруга яе. Кажуць, памагаў людзям.

*– Знамяніты быў?*

– Ага. А вот сын яго. Ну людзі, як топісься, кажуць, і за брытву ўхопісься. А можа ж паможаць. У майго мужыка, тожа памёр ужо, быў росьцьвеньнік, возраст пераломны, ці як там называецца, харошы, красівы. Рослы хлопец, а ў яго вот нешта з галавой, як не так. Быў разумны-разумны, вучыўся харашо, а тады як нешта стала. Езьдзіў аж к Ванге к тэй.

*– І што яна?*

– Нічога, дзетка. І гэты хлопец, яго маці мучылася-мучылася. Яго маці і сюды прывазіла к нам, казала, можа, у вас у дзярэўні будзець луччы. А я пазваніла: Колечка, прыязджай, забірай, а то я яго ўжо стала баяцца. А ў мяне быў унук, дык думала – ці заб’ець…

*– А той Далман, ці ён толькі лячыў, ці і варажыў?*

– І варажыў.

*– Вот тыя Пілiп, Іван – яны памагалі людзём. А ці былі такія, што благое рабілі? Можа, малако ў кароў пацягнуць? Можа, мама яшчэ расказавала, што на Купалу там…*

– Гэта было, алі ні ва ўсіх дзераўнях. Было, што кажуць, малако атабрала. Было малако, а тады стала, што кроўю даіцца ці, падоіш, а малако як сараватка. Гэта тожа ў нас ездзілі пад Барысава. Было, адна бабка паставіла бітончык, каб сын там браў што. А ён кажаць: “Мама, што ты мне паставіла, тут жа чэрві поўзаюць.” І ў самам дзеле чэрві. Абыкнавенныя чарвякі. Галоўкі чорненькія. Тады яна за малако за гэта, яна на нейкую бабу рашчытавала, тая баба ўмела шаптаць. І аж пад Барысава паехала. І стала чыстая малако.

**Праца ў свята**

– Расказавала жэньшчына. Красіў мужчына забор, мусіць, на Вяліканьня. І ці паверыця, што ён, во як кістачку дзіржаў, увесь паліц распох і аднялі. Дык гэта нідаўна было, гадоў дваццаць ці пятнаццаць таму. Яму кажуць: “Сёньня ж Вяліканьня!” – “А што я роблю? Я ж нічога ня роблю.”

**Урокі**

*– Бабуля, а што ад урокаў рабілі?*

– Ад урокаў вада нада. Эта, гаворуць, як урочны дзяцёнак, ці сама ўрочная, ці прымерна бальшы ўжо, некаторыя торкаюць шпільку, абізацільна ў падол. І каб гэта шпілька з табой была. Ты пірамяніла адзежу, і шпільку торкай. Эта, гаворуць, ёсь такія людзі, што яны сурочылі. Кажуць, сурочылі.

*– А ад чаго такія вочы бываюць? У каго, у якога чалавека?*

– Гаворуць, ён дажа і ня ўрэдны. А гэта ў яго враждзённая гэткая.

**Калтун, валасень**

*– А ці расказавалі ў вас, што калтун такі бываіць?*

– А, калтун, у галаве? Я знаю, што яны зразалі і яму было ўрэдна. Яго нада насіць, пакуль ён сам, вот яго ўжо гады, гады праходзюць і ён сам ужо зваліваецца. Гаворуць, як шапка. Гэта я чула.

*– І куды тады яго?*

– Палюць. Яго ж ня будзеш храніць. У печку і ўсё.

*– А як валасень?*

– Эта ж валасень бываіць на назе, на руцэ, на пальцы. Гэта тожа нада… Як цяпер дык у бальніцы.

*– А даўней?*

– А даўней ну што? Шапталі. Там пашэпчуць, солі сьвянцонай, патрэць сольлю гэтай, і вот печ топіцца, і ў печ.

*– А вы ад урокаў яшчэ не дарасказвалі. Як урокі, тады што?*

– Эта і чалавек бываіць урочны, і другі вот яго сваімі вачамі, кажуць, заўрок. Нада насіць шпілечку, каб яна ўсё ўрэмя была. І гаворуць, памагала.

*– А як заўрочылі, можа, вадзічку пераліваλі? Можа, хлебам як?*

– Давалі даже піць. Змазавалі тую ручку ці цела памазаць. Ён жа ні даець адну капельку. У дзярэўні кружка ж. А тады ў бутылачку. У мяне і ў самой быў валасень.

*– А ці казалі, ад чаго ён берацца?*

– Уся, дзеткі, хвароба, больш за ўсё нервы. Вот беражыця, дзеткі. Беражыця, дзеці, у цяперашняе врэмя нерв. Нерв, вы ж па-научнаму знаіця, атміраюць клеткі. І ад нервнасьці ўся хвароба. І гэты рак што мы завём, гэта сама болі ад нерваў. Вот як чалавек жывець, нервнасьць у яго, усё нармальна, тады ён і здаравейшы. Я і з сябе гляджу. Есьлі я растроілася, тады ў мяне ногі, атнімаіць і ўсё. Тады я магу і ноч і дзень і з места ні крануцца. А тады сябе ўспакаіваю, успакаіваю.

*– А што робілі, як ячмень на воку?*

– А, гэта скора прахадзіла. Неяк паплююць, паплююць, памыргаюць, памыргаюць, паплююць і ўсё. Эта, кажуць, больш прастыў.

**Сямейная этыка**

*– А ці было, што вот жывуць мужык з жонкай і мужык вот гуляць пачаў, пачаў хадзіць па другіх. Як назад, у сям'ю? Можа, да тых жа Піліпа, Івана хадзілі, каб вярнуць?*

– Даўна, дзетка, ні варочалі, даўна, дзетка, гэтага ні было. Эта ні цяпер, эта цяпер сьвет здурнеў.

*– Так ужо і не было?*

– Рэдка. Вот у маім раёні, сельсавеці, Бягомальскі, за ўсю жызьню два чалавекі толькі зьмянілі жонак. Два чалавекі, два мужыка. А цяпер жа ў каждай дзярэўні па сто.

*– Ну а гэтыя знахары ці памагалі такім?*

– А гэтага я ні знаю, дзетка, ні хадзіла, ні знаю.

**Любоўная магія**

*– А ці бывала, што дзеўка мальца любіць, а ён на яе ні глядзіць. Вот каб прывярнуць, прываражыць мальца?*

– Гэта я чула, што расьцець вот прымерна ілі дуб, ілі сасна, і кала яе яшчэ дзераўца, ілі бярозка, ілі асінка і яны во так сплітаюцца. Тады нада гэту кару…

*– З аднаго і другога дзерава?*

– З аднаго і другога дзерава закіпяціць і даваць таму хлопцу піць. Каб ён абшчапіў тую…

*– А ці гаварылі, што во так як наварожыш гэтага мальца, усё роўна толку ня будзіць? Ці нармальна?*

– Вот ні знаю гэтага. Толькі так чула. Баба адна расказавала – вот як дзеравы растуць і так адно з адным сплітаюцца, вот гэтай кары нада набраць, надраць нажом, закіпяціць і даваць піць.

*– А даваць як, каб ён не знаў, ціхенька падліць?*

– Да-да. Ці ў кампот ці куды. Ты ж ня будзеш паўлітра ліць, ложку, дзьве, тры…

**Залатнік, грыжа, кругі, дзічкі**

*– А што той за залатнік?*

– А залатнік, дзетка, гаворуць, эта як цяжка падымаеш, вот ты сільна падняла. Тады, гаворуць, нада к печы падыйдзі і падымай печ, быццам ты нажымаешься. Залатнік, залатнік, уцікай ад мяне. Як гэта печ ціжкая, каб і ты ўцёк ад мяне. А яно ходзіць па жываце. Залатнік, ён такім клубком. Гэта тожа страшна.

*– А па-нармальнаму ён дзе павінен стаяць, у пупе?*

– Наверна, каля пупа. А так ён ходзіць па кішках, так кажацца. Можа, ён і сядзіць там дзе нада, а так кажацца. Як падняў што цяжолая.

*– А як грыжа ў малага рабёнка?*

– Грыжу як цяпер дык выразаюць.

*– А даўней?*

– Даўней дык выкусывалі. Каторая бабка ўмеіць, дык яна гэтага дзіцёначка паложыць і сваімі зубамі будзіць чаўкаць, чаўкаць, кажаць: выкусіла.

*– А як кругі, можа, у дзяцёнка?*

– Цяпер гэтых кругоў ужо мала. Болі дзічкі. У мяне во была на барадзе. Дык брат (ён пагіб на вайне) узяў валасіну конскую і перавязаў. І мая дзічачка і атвалілася. Гэта я помню.

**Развіў рукі**

*– А як руку разаўеш?*

– Гэта, дзетка, як рука развіваецца, нада быць астарожным. Ці нядзелю, ці дзьве каб ты яе пашанавала. Эта ж сухажыльля расцягаваіцца.

*– А можа рабілі што? Перавязавалі?*

– Ніткай.

*– А якой?*

– Яна не прастая, а шарсьцяная далжна быць.

*– А можа што завязавалі, вузлы там ці што?*

– Можа і завязавалі, і шапталі што. Эта ж бываіць расцяжэнія і рукі, і нагі. Вот ішоў і пасклізнуўся. І палучылася расьцяжэнія.

*– А каб спіна ні балела?*

– Ай дзетка мая, каб сьпіна ні балела, дык чорт яго знаіць. Цяпер кажуць радзікуліт. А даўна рэдзькай натруць.

**Дзіцячыя хваробы**

*– А як малы дзіцёнак сцыцца ў пасьцель?*

– А-а. Гэта тожа, як у нас дык рвуць такія цьвяточкі. Завуцца *зайцавы калапенькі*. Вот я, мусіць, выкінула, даюць дзіцём піць.

*– А колькі іх заваpаваць нада?*

– Яны такія суханькія. Алі тут у гародах ні растуць. Нарваў адных гэтых зёрнышак, а тады ў чай.

*– А як дужа капрызны?*

– Як дужа капрызны, то гэта, дзетка, само далжно прахадзіць. Вот мой сын быў дужа капрызны. Ці знаіця, што ён робіў? Яшчэ дажа хадзіць ня ўмеў, то тады паваліцца на падлогу, коціцца і галавой во так, аб падлогу.

*– І што тады нада было дзелаць?*

– Нічога, то пакрычыш, то па жопе шлёпнеш, і прайшло. Эта, дзетка, пакуль перарасьцець, перарасьцець сваё. Ёсь жа, дзетка, такія, што да гадоў да 13, ці да 9 і ня есь. Ты яму давай тоя, а яму ні смашна, давай тоя, ня есь. Пакуль яму ніісполніцца… Пакуль ня выйдзіць яго тоя, возраст той, ён ня будзіць есьці. Вот у яго ў арганізме нешта палучаецца, што ён не прынімаіць. Толькі што сам захацеў. Яму даюць што лепшая. А ён, напрымер, хлеба з'есьці з вадой. І ўсё. Яму смашна.

*– А вот дзецкія прыпадкі? Ну, як первы раз увідзіш, што тады казалі?*

– Гэта ж завецца пілепсія – прыпадкі. Гэта ж тожа ваду даюць.

*– Ну вот, гаворуць, первы раз увідзіш, пакуль той вады дабяжыш…*

– Дзетка маё, первы раз увідзіш, спужаесься сам, і дзяцёнак спужаецца. Нічога ня робіш, ідзеш к савету к якому. Ну алі гэта ваду давалі. Ад пілепсіі.

**Дарога**

*– А вот у вас сын. Як у армію адпраўлялі, можа, прыгаварывалі. Каб усё добра было.*

– А, ну дык гэта ж людзі, каторыя сідзяць за сталом, прыгавараваіць. І маці ж ужо. Калі ня доруць грашмі, дык хлеб і соль ложаш, і прыгавараваіш, каб ужо служыў добра, і чэсна, і каб не нарушаў закона.

*– Як у дальнюю дарогу чалавек выпраўляецца, каб у дарозе яму шчасціла, можа, што гаварылі? Ці рабілі што? Можа, даць што з сабой?*

– Даць, эта само сабой. Панятна, што ні матка, ні бацька ні адпраўляіць дзяцёнка з голымі рукамі. Усё ж даюць, і есьці, усё, выпіць толькі ні даюць. І ў армію як ішлі, сумкі налажавала.

*– А як так па дарозе ідзеш і што знаходзіш? Ці грошы ці што?*

– Эта тожа, кажуць, прымета. Есьлі грошы находзіш і там год, то эта харашо. Ну там вот год стаіць, ну вот 46-га. І ты ідзеш яе падняў, гэта добра.

*– Калі годам наверх?*

– Да. Эта добра. А калі гэта (гербам) – то хужэй. А ці праўда ці не, хто яго знаіць.

*– Ну а як так вот найдзіш ці лентачку, ці што? Падымаць нада ці не?*

– Нажы, кажуць, вабшчэ не нада падымаць. Нажы. Ну, вот я чула, што нажы нільзя падымаць.

*– А ложку?*

– Ложка –эта ўжо саўсём другоя. А нож – эта гаворуць, вобшчам апасная.

**Засцярогі цяжарнай**

*– А што бярэменнай нільзя дзелаць?*

– Гаворуць, адалжаць нільзя дужа.

*– А то што?*

– Есьлі ты бярэменная, прымерна, і мне адалжыла, то гэта ўжо на дзіцяі. Кажуць, любому нельзя на сьвята даваць. Бярэменным не нада, як пажар: Ай, пажар! Не нада тады брацца за цела. Тады на целе чорная пятно.

**Крывыя вечары**

*– А на Каляды нельзя нічога шыць ці там што?*

– Нельзя.

*– А як тыя вечары называліся? Не крывыя?*

– Ага, крывыя. Эта, кажуць, дужа вліяіць на скаціну. Вот як шыіш, могуць парасяткі апарасіцца. А попкі німа. Зашыта. Для скаціны эта вліяла.

*– А як зрабіў што, ці можна было адрабіць, каб нічога благога не было? Можа, у паследні дзень каляд што дзелалі? Венік ня секлі на парозі?*

– Секлі. Эта я чула. Эта каб што робіла, усё прасьцілася.

**Месячныя**

– Ці знаіш ты, дзетка, вот я пасьледняя ў сям'і, з дзяцей, вот як пачалося ў мяне, эта, знаіця, менструацыя эта, а я не знала – што эта. Тут вайна, такі пералом. Як дуркуватыя былі людзі. "Ай, кажу, – мама, доктара скарэй. Я кроўю сьцікаю". А яна кажаць: "Маўчы, гэта гэтак нада, ва ўсіх гэтак ёсьціка". Тады ўзіла маю тую сукеначку. У мяне было ня дужа рана, у чатырнаццаць гадоў, магла б знаць, тады ня гэткія былі разумныя як цяпер. Мама кажаць: давай занясём на хату, падторкнем пад страху, эта будзець каровам. Карова як захварэіць, крываўкі былі даўна, пісаіць кроўю і дажа ў малако пападаіць. І вот эта сукеначка вісела. Узлез на хату і гляджу на эту сукеначку. І брала мама сколькі разоў людзём.

*– Іменна як первы раз?*

– Первы раз і пасьледні. Вот я прымерна, первая, а як ты пасьледняя. Даўна ж раджалі многа. 16 дзяцей у адной было.

*– А што нельзя было дзелаць як месячныя?*

– У царкву не хадзілі. Закатаваць не, а то будзець нісмашная. Бабы бралі маю сукенку, памыюць у вадзе і давалі каровам.

**Бяздзетнасць**

*– А што рабілі, як мужык з жонкай жывуць, а дзетак няма?*

– Было ў нас такоя, што ў адных нашых дзьвінаццаць гадоў ні было. І ня лечыліся, нічога. Гэта да вайны было. Яна ўжо кажаць: Ну што, ня будзіць. А тады пяць дзевак, ці паверыце вы, пяць дачок.

*– А чаго так?*

– Чаго? Нешта ж там, мусіць, ад жэньшчыны завісіць. Матка ні так устаноўлена, пакуль матка ўстанавіцца. Алі ні ад мужчыны?

*– А ці гаварылі, можа, у людзях, чаго ў аднаго дзеўкі толькі родзюцца, а ў другога мальцы? Ці шуцілі як?*

– Шуцілі, гаварылі, калі хочаш, каб дзевачкі – лажы пад падушку спадніцу там ці плацьця.

*– А як мальца?*

– А як мальца, я тады ні знаю. Мусіць… Нічога тады. Мальцы лепі палучаліся. Семена такая. А ў мяне было два первыя хлопцы. А гэдак хацелася дзяўчынкі. Гэдак хацелася. Што тыя хлопцы, дачка яна больш к мацеры хінецца.

**Зап. Т. Валодзіна, У. Лобач у 2006 г. ад Ставер Валянціны Юльянаўны (нар. у в.Домжарыцы Лепельскага р-на), 1935 г.н., у в. Маргавіца Бягомльскага п/с.**

**6**

*– А вы не збіраеце траўкі?*

– Ай, я здаровая – начорта мне тая трава.

– *А замовы не ведаеце ніякія ?*

– Замаўляць я ўмею... Ад зьмяі ня ўмею. Ад спуду, ад залатніка*.

– *А што, рабіць нічога ня трэба, проста во так шаптаць?*

– Ваду хрысьціць, у бутылку ўліць, перахрысьціць перад іконай. Як намаўляеш, і тады як кончыш загаварываць – перахрысьціць і сказаць "Божа, ты... сваім сьвятым духам амін!"

– *Памагае?*

– А як! Я во пад машынай была, дзіцятка. Каб не намаўляла – і памёрла б. (Расказвае як трапіла пад машыну). Намаўляла ад спуду... і на вадзе, і на гарэлцы – лучшы памагаіць. ... І памёрла б. Дахтары ж не вылечваюць.

– *А кажуць, у Вуглах ёсьць хто ўмее замаўляць.*

– Ай, гэну бабу я вучыла... А яна ні чорта ня ўмела, гэна баба. Так стала прасіць… У нас было сьпісана (замовы), дак у вайну схавалі ў пограб, дык... мышы зьелі сьпісаную туюю бумагу.

– *А хто запісваў?*

– Маці мая яшчэ была. Даўна ўжо прадаўна. Навучыў яе брат. А гэта ад пуду маці давала вады, дак я наўчылася.

– *Людзі да вас прыходзяць?*

– Прыходзюць, і памагаю. А як жа.

– *Раней былі такія чараўнікі, што у кароў малако адбіралі?*

– (цьвёрда) Былі.

– *І ў Красьніках былі?*

– Ай, такія вочы вырочлівыя!

– *А як вярнуць назад малачко?*

– Ёсьць такія, што атвернуць. Ваду бяруць. Тады карова (дае той, хто доіць). І тады карове даць папіць... і зноў установіцца. А вот ці з Глыбокага ці не з Глыбокага (быў чалавек) казаў: аб’ездзіў сьвет. Дзьве каровы. І нейкая там баба. Яна хацела, каб ён яе замуж браў. А ён нешта і халасьцяк і не жаніўся. Дык казаў: тая падрабляець. Дык ён ка мне прыязджаець. Кажа, памагаець. Кожную вясну прыязджаець. Я на *солі* нашапчу, то на вадзе. Ага. І на солі, тады соль у ваду...

– *Соль таксама трэба намаўляць?*

– А тады ў ваду, і карове даець піць.

– *А залатнік з чаго бывае?*

– Ну, як хто падымае цяжасьць. Як падарвешся. Поняў?

– *А якія вы яшчэ хваробы так лечыце ?*

– Болей ніякія. Ну а якія болей нада? Ад спуду, ад залатніка, каровам даю. А што болей нада?

**Са знахарскай практыкі**

– Іду я раз у Жамойск. А езьдзілі – там у Вуглах тожа старык быў, даваў ваду. І памёр. І едуць яны, а я іду у Жамойска... Дык конь распрогся. А яны запрагаюць. І тады ўзялі мяне, кажуць: “Мы думалі, вы ў туюю дзярэўню”. Кажу: “А дзе вы былі?” (Сумачка ў іх скураная і бутылкі). – “Езьдзілі к Рыгорку ў Вуглы, вады!” Ім даў, болей другім (бабам, давалі бутылкі) ня даў. Тады я кажу: “І я ваду даю”. Тады прыехалі у Жамойска, ў магазін, там мая свацьця таргавала.

---

* Гл. раздзел “Замовы”

Ўзіла бутылку, яна папрасіла. І я намаўляла. І гэтая баба кажаць: “Я, – каэць, – во гэткую бабку худашчавую ў сьне відзела (на мяне)”. І я ей дала вады. Яна ў бальніцы ляжала і паправілася. Ў яе мальчык глушыў рыбу і ўтапіўся. І вот яна спужалася. Дык у Бягомлі яна ў бальніцы ляжала. І нічога бальніца (не дапамагла) – спужалася – дзе тут бальніца (паможа). Дык паправілася тая баба. А яна: “Я вот такую бабку худашчавую сьніла”. На мяне. А ў Жамойск прыехала, магазіншчыцу знаіць. Тады бутылку яна там узяла віна, і мяне ўгасьціла. Бутылачку пустую папрасіла, вады наліла і нашаптала. І тая баба хараша, паправілася. Во, дзіцятка. Так жа дактары ня лечуць.

**Зап. У. Лобач у 1993 г. ад Добыш Соф’і Сьцяпанаўны, 1923 г.н. у в. Красьнікі Бягомльскага п/с.**

### 7

### Лячэнне гастрыту чагай, брусніцамі і праполісам

– Знаеш, што такое *чага*, гэта во другі беларускі жэнь-шэнь, як яго прыгатаўляць. Вот сам, напрымер, ня мог кушаць нічога. Я яго прыгатаўляў і піў.

*– А як прыгатаўлялі ?*

– Абыкнавенна... Чагу знаеце ?

*– Знаю... Гэта на бярозе такая сядзіць, чорная.*

– Во! І там жоўценькае ў сярэдзіне. Нада браць, тады настаіваць. Есьлі водку ня п’еш і ня піла, значыць нада настаіваць на кіп’ятку. І накідаць дробненька туды... чорнае – гэта (дрэннае), жоўценькае – харошае. Закрыць марляй, і да цех пор дзяржаць, пакуль на вярху паявіцца (яно чорнае) беленькая плёначка, абрысуецца. А тады начынаць прынімаць.

*– А па колькі?*

– Па чайнай ложцы, а тады па сталовай, а тады даганяць да сто грам. Ну гэта на працяжэніі месяца. А тады (кідаць).

*– Сколькі разоў у дзень?*

– Ну, сколькі... Перад ядой, наташчак. Я... сырое мяса ня еў... Пайду ў бальніцу, і кажуць – ай, гастрыт. Гастрыт і гастрыт, гастрыт і гастрыт. Пайшоў у бальніцу, кажу: “Пускайце з бальніцы (ужо дамоў), паміраць дамоў.” Прыйшоў дамоў, а тады... Ня мог хадзіць з кійком нават. Прыйшоў дамоў, як начаў брушніку, сок, *сок брушнікавы* піць. І гэтай чагі настояў. А тыды ўжо *прапаліс* браў. Ад жалудка очань харашо – брушніку. Яе бéруць, замачываюць. А тады, харашо каб была дубовая бочачка. Вот, заліваюць вадой. І стаўляюць. І вот яна месяцы два, тры пастаіць. Пад Новы год, яна такая ўкусная-ўкусная (чуць-чуць яе падсалодзіш), што з картошкай – усе гастрыты выходзяць. Чалавек тады бодры і вясёлы.

**Зап. А. Глушко, В. Малышава у 1993 г. ад Ковеля Міхаіла, 1927 г.н. у в. Баяры Бягомльскага п/с.**

### 8

*– Ці былі хто лячыў травамі, ваду замаўляў?*

– Былі. Але цяперака ўжо німа болей...

*– А што яны рабілі?*

– Ну, шапталі на ваду. Нейкую малітву малілісі. Зёлкі... Зёлкі ж усякія. І *зьвірабой*, і *падбел* урвуць. Эта як даўна падбел быў (белыя макушкі), жнеш, да палец парэжаш – эта ўжэ лапачку затрэш і рану закладаеш, кроў прыдзерж[аць]. Дык вот праўда, вот нявестка мая тожэ кажаць: “Эта устанаўліваюшчэ крові.” *Чабор*.

*– А ці былі чараўнікі?*

– Ай, дык гэта былі... У гэтай, дзе мы цяпер жывём, на тэй усадзьбе дзед жыў, з бабай. Даваў каровам ваду. Пражыў сто гадоў ці стодваццаць.

*– А цяпер няма такіх, што лечаць ?*

– Не, няма, гэткіх ужо. У Вуглах ёсьць гэткая баба... Ну замаўлялі ж даўно. І рожу замаўлялі, і зьвіх замаўлялі. Вот, ляжала ў бальніцы, дык рожу і я навучылася, сьпіціяльна: *Ехаў пан Езус цераз Чорнае мора і вёз тры ружы: адна цьвіцела, другая вяла, а трэцція ссохла. Каб і ты, рожа, ссохла.* Эта нага ці што там, баліць. На рану на гэту нада падуць тры разы, перэхрысьціцца, апяць перахрысьціць гэта месца ці што тамака, апяць: тры разы нада прагаварыць.

... А вот малая я служыла ў хадзяіна. Дак той хадзяін мой (даўна к яму ездзілі)... Ці ён шаптаў што? Услух ён жа ні шаптаў. Вот пасьцелець на эту рану, на больку беленькую трапачку і ложыць тры касмылачкі лёну. Гэта ўжо часаны. А тады напіракрост іх паліць усе, а тады ўсё спаліць. Спаліваў рожу... А малітвы ён жа услух не чытаў. Шаптаў ціха, упоўголаса.

**Абыдзённая намітка**

– Было Юр'я, даўна атмячалі... На Юр'я, эта ў нас быў празьнік. Это нейкі даўны празьнік быў. Зносіла ўсё сяло па ручыцы лёну. І вот, сабіраліся па вочарадзі: той год былі ў тэй хаце, а сёлета будуць у нас. Сабіраліся ўсе бабы, і пралі, і снавалі: эту губку нада было за дзень – і напрасьці... І з вечара... нясьлі ўжо і скварку тую, і крупы, і муку. Пяклі хлеб, кашу варылі... Гэта перад Юр'ем робілі. Намёт ткалі, во што.

А тады ўжо дзеўкі сабіраюцца (як напралі). Саткуць. А гэтая, каторая тчэць, у нас анна́ такая была дзеўка, скора ткала. Дык яны ўжо этыя, вот помню і я раз стаяла, яны ў яе стаяць, гэтыя канцы атразаюць, а эта каэць у косы: ніткі ў косы, каб косы вялікія раслі...

А гэта палатно на палку, і, во, мост у нас ёсьць. Мост быў тут, кладка была. І тады – усе: маладзёж сюда (збіраліся), хлопцы, і начынаюць пяяць Вясну.

**Зап. У. Лобач, А. Міхалевіч у 1993 г. ад Ставер Домны Пятроўны, 1911 г.н. у в. Баяры Бягомльскага п/с.**

## ЛЕПЕЛЬСКІ РАЁН

**1**

**Валасень**

*– Вот гаворуць сільна балючая хвароба валасень?*

– Валасень, мне самой валасень адразалі.

*– Гэта ў бальніцы? А па бабушкам, не памаглі?*

– Ну па бабушкам, я шчатала, што бабушак ужо нет, такіх, а полі і найшлася бабушка, што ў Лепелі. Мне расказвалі ўжо пасля, як ўжо адрэзалі, што гаворуць, аднаму мужыку, ну во, у кумпяку гніло балела і доктары не далі

рады… Потым гэта бабка, я дзетка цябе буду лечыць, ну вот загаварыла, ну неяк нада на каласкі, як волас. І вось пяць дней дзетачка буду цябе загаварываць, пакуль гэта ўсё, і тады паследні раз загаварыла і ўсё так і не найшла ні аднаго воласа, так стаў ён гаіцца, толькі дырка аказалася. Дык вот, тая бабка ўехала дачка забрала яе ў Мінск.

– *А вот тыя валасы, тыя што яны вылазяць, а як яны туды залазяць?*

– А як вот залазяць і вот скажыце як залазяць? Іли выпіш іли з'ясі можа.

– *Жывы волас?*

– Ці вот і з вадой, я помню мы з вайны хадзілі на сена, сюды гэта каля балота рэчка, а там ручай і ўсё гаварылі, ня пі – там валасы гэтыя.

– *А вы бачылі, якія яны?*

– Да, абыкнавенны волас, як жэнскі волас і тады, маладыя ж тады мы булі добра відзілі і відаць – па вадзе круцяцца.

**Народная ветырынарыя**

– Ага, дажа і вун, як памагалі, я знаю, што ў нашай каровы, ну вот пад шыяй, гуз з кулак быў. Ну што я зроблю, не знаю што робіць, ай-яй, а ў мяне крышчэнская вада была, на крышчэньне і гэтай вадзіцы, і як іду ў даёначку, і тады ў жменьку, і ей вот дам, ну змыю перакрышчу: "Ва імя Айца і Сына Сьвятага..." Прайшоў гуз і загаіўся і нікуды я не хадзіла.

**Прыпыдак (эпілепсія)**

– У майго маленькага сына быў прыпадак.

– *А лячылі, як к бабкам вадзілі?*

– Лячылі, к бабкам вадзілі і дактары не чога не памаглі.

– *А бабка?*

– А бабка памагла, ды во яна як знаеш мне сказала, яна мне сказала...

– *А як?*

– А яна мне сказала, што вот як толькі родзіцца ну даўней жа, а цяпер жа, як купляеш, а тады ж гэта, ну рубашачка такая, ну з мацерыяла, галоўка каб пралезла, а тут не зшывана нічога, вот такая распашоначка. Ну вот і я яе храніла ўсё, а тады сказала яна мне што б на крыжаваныя дарогі вынесла.

– *А нічога рабіць, проста вынесці?*

– Вынесьці, ну вот можа яна мне гаварыла, што нада.

– *Проста вынесці? А якім часам, гэта любы, ці то можа раніца ці ноч?*

– Ну каб ніхто не відзеў.

**Упуд**

– Ну гэта я, вынесі каб ніхто ні відзеў, я сама балела, і вот дала вады мне бабка ў Лепілі... Дала, калі ты ў пудах і табе здзелана там, нагаварыла і ты ў пудах, і вот дала мне ваду і ты пей, змыйся, а тады вынесі ваду на крыжаваньне дарогі. Вот тут у нас крыжавые дарогі, і вылей тут жа, я панесла і гэта і выліла, толькі гаворыць не аглядайся, і што б ніхто не ўвідзеў. Ну дык я старалася ж, як стала цямнець і вот так дзетачка, нехта з мяне вот так цягнець, чую, як шлёп.

– *Нешта ўпала?*

– Ага.

**Сатана**

– Дык і я ўжо, кале мяне сатана лажыўся, як я расказала.

*– А як?*

– Ну што, сплю я крэпка, мая кравац і дзедава, а тады, кравац мая, ну як гэта не цяпер, а жалезныя гэты кравацi, во так трасець, я ж думала гэта дзед малады яшчэ быў, дзеду палку нада, баба нада. Ага... Чую дзед мой храпіць, апяць я ляжала, ляжала, заснула. Заснула, сплю, а тады апяць і шлёп, і я во так, як стала, во гэтак, спала рука і шлёп мне на руку, каля рукі і ляжыць і сапіць, і сапіць. Ай, я цягну, цягну руку, а ён стараецца, гэдак дзяржыць руку маю, я выць і гэдакі мяне нейкі сон цяжарыць, і я ўсётакі выцягнула руку і тады: "Да васкрэсніць Бог!" – малітву гэту, дажа толькі як цяпер на ўсю жысь запомніла: "Да васкрэсьніць Бог". Толькі во так, а ён тады цераз мяне і ўсё цяжкі-цяжкі, і гэдак мяне прыцiснуў і тады тожа чую, шлёп на пол, каля кравацi, каля маей. Гэта я ўжо не абманваю – гэта было такое.

**Зап У. Лобач у 2006 г. ад Мацкевіч Ганны Еўдакімаўны, 1936 г.н. у в. Мядзьвёдаўка Стайкаўскага с/с.**

**2**

**Пра хваробы і замовы**

– Ёсьць, ёсьць усякія (было пытанне пра людзей, што дапамагалі ад хваробаў). Загаварываюць. Лячыліся. Яшчэ мой бацька, нябожчык. Забалела ў яго сястра… Забалела яго сястра. Ну, яна просіць, а майго бацьку Васілём звалі, кажыць: "Васілёк, схадзі, ну, там к знахару ўжо, каб палячыць мяне." "А я, – кажыць, – касіў цэлае утра, жара дужа была, замарыўся." "А тады, – кажыць, зайшоў там такая, тут далей ёсьць, там і крыніца ёсьць, мосцік такі, – лёг і заснуў." І праспаў усё, што нада было ўжо вярнуцца, а я толькі прачнуўся. Ну прынёс вот вады з крыніцы, зачэрпнуў. Што ён казаў? Казаў: "Памыцца і піць." "Ну, пайду ж апяць ужо назаўтра, – працягвае бацька, – ці памёрла, ці палепшала?" "Ай, браток, як рукамі атняло ўсё!" – кажыць. Усё дужа добра стала ей. А яна ўнушылася, а ўжо як гэта хлебнула вадзіцы, усё ўжо ей палепшала. Гэта яна ўжо унушылася, што яна палепшаець ад вады. Вот. А загаворы ж усякія!

*– А вы не… (ведаеце?)*

– Ай, слаба я знаю! Ну вот кроў замаўляю. Вот там, нашніцы дзецкія. Там гэта ад пуду. Дак гэта так што-нібудзь знаю, але гэта…

*– А можаце нам (расказаць)?*

– Нашніцы, есьлі дзеці не сьпяць ночча. Плачуць, малыя. А тады ім нада гэта… адганяеш нашніцы. Ну гэта… так вам расказаць? Ай, Божа мой, Божа. (смяецца, узгадваючы). Нада ўзяць рабёнка гэтага, каторага ўжо ідзеш лечыць, і несьці па…, дзе куры сядзяць, і дзе сонца заходзіць пад зару. Вот, напрымер, сонца заходзіць у тэй старане, і нада, як сонца заходзіць туды несці. І ўзяць яго ў прыпол во так (паказвае) і… гэта ж і, як палаць яго, ўсё роўна. Гэта падкідаваць так. І кратаць, што "*Зара-зарыца, усім памашніца, вазьмі ў – як яго там зваць рабёнка таго – крыксы, плаксы і нашніцы, крыксы, плаксы, нашніцы, крыксы, плаксы, нашніцы*" – тры разы сказаць і тры разы пераказаць, і тады ў гатага ўжо рабёначка пацалаваць, і плюнуць туды, і іцьці, не аглядаючыся.

*– А куды плюнуць трэба?*

– Куды загаварываеш, у тую старану (паказвае), напрымер. Ад пуду: "*Стану я на вясёлую зямлю, пад ясным сонцам, пад высокім небам, буду я Госпада Бога спамінаць, ад пуду – там, напрымер, Васілю ці Івану – вады даваць. Ісус Хрыстос, Найсвентшая Матка, станьце на помач і памажыця.*" Гэта во так у ваду (нагаворвае): "Божы дух, Божы дух, Божы дух! Божа памажы, Божа памажы, Божа памажы!" Во гэтак. Тры раза пераказаць**.**

*– Усё гэта тры разы.*

– Да, тры раза. Усё нада, усе загаворы тры раза. А кроў замаўляць… Кроў дак точна. У нас тут былі рабочыя, так я ім замаўляла. Ён… яны лавілі рыбу ў возеры і ступіў на бутылку і парэзаў усю падашву снізу – босы быў. І ўжо так кроў фантанам біла. І (я) сказала: "Дайце мне гэтага мальца!", і ўзяла яго нагу, і стала, ну, што знала замаўляць. І перастала кроў, так яны дзівяцца, дзівяцца. Яны ж цяперашнія маладыя ня хочуць верыць. І прыціснулася кроў. (Пачынае замову:) "*На сінім моры бел камень ляжаў, на ім Найсвентшая Матка сядзела, шолкі-ніткі разбірала, балючыя раны зашывала, гарачу кроў замаўляла. І я замаўляю. Божы дух, Ісус Хрыстос…*, – нада спамінаць святыя толькі сьвятыя, – *памажыця, стань на помач, памажыця.*" І тады ўсё так тры разы дмухнуць, вот, на гэту рану, дзе кроў – прыастанавіцца. Гэта ўжо практыку я прыняла. Ну ўсё дзеткі, болей я ўжо нічога не знаю.

*– Як гаворцыцца? "Божы дух, Ісус Хрыстос памажыця" ці як?*

– "*Ісус Хрыстос, Найсвентшая Матачка станьце на помач і памажыця – гэтаму як яго Івану там ці каму – памажыця… кроў замаўляці і цябе Бога ўспамінаю. Гасподзь высокі, Найсвентшая матка памажыця.*" І ўсюды нада госпада Бога спамінаць. Вот.

*– А хто вас навучыў гэтаму?*

– Ну гэта ж бацькі, дзяды там!

*– Ад сваіх людзей, не ад чужых людзей, а ад сваіх?*

– Ад сваіх… Загаварывалі. Дзяды там, бабы там. Што-нібудзь там чуеш, як яны загаварываць…

*– А калтун, ці калдун?*

– Хм! (смяецца) Калтун, ёсьць балезьнь. Волас саўецца вайлаком такім на галаве. Яго і не рашчэшаш, і не разьбераш. А гэта нада тожа, толькі я не знаю гэтага загавора.

*– А што рабіць нада?*

– Ага, нада… Снімаць яго нельзя. Ён табе тады галаву зломіць і ўсё. Яго толькі загаворамі нада снімаць, калтун гэты. У нас жэньшчына была з калтуном. Яна ў вайну не знаю дзе дзелася.

*– А ад чаго ён бывае? Ад чаго ён робіцца?*

– А хто яго знаіць? Балезьні, балезьні ўсякія… Даўней жа не лечыліся (як сёньня). Мой бацька гаварыў, у яго была рожа ў назе. І яму… і завязьлі яго ў бальніцу, адзін ляжаў у бальніцы, нікога не было. Усё лячылі, людзі лячылі (а не дактары). Каторы памрэць, а каторага і вылечаць. Вот.

*– А як яму рожу лячылі?*

– Загаворам, толькі загаворам. Але я не знаю.

**Нашніцы**

*– А вы казалі пра нашніцы, адганяць нашніц, а хто такія нашніцы?*

– А нашніцы, гэта, напрымер, вот рабёнка сьпіць яго падліеш, як вот пол мыеш, што-нібудзь, і вот, едзеш дзе-нібудзь з рабенкам цераз рэкі. Гэта врадзіць рабенку. Так едзеш і тады так: "*Ты, вадзіца як бегла так бяжы! А ты – сыночак ці дачушка – як спала так і спі*!"

*– Гэта такі абярог, да?*

– Да.

*– Нельга з малым дзіцём праз мост пераязджаць? Праз ваду?*

– Не, трэба казаць (каб не прысталі нашніцы): "*Ты, вадзіца, як бегла так бяжы, а ты сыночак ці дачушка, як спала, так спі.*" Тады не ўрадзіць яму. Малыя ж яны дужа… ай! А то гэтае ж носяць пад курэй, куры во сідзяць дзе, як пасядуць ужо вечарам. Тады носяць пад курэй яго. Там ужо трасуць, во так палаюць. А тады сядзяць куры, яго во так возьмеш і падкідаваеш на руках гэтага (дзіцёнка). А другі спрашываець: "*Што дзелаеш?*" – "*Нашніцы палаю.*" – "*Палай, каб ніколі не былі!*" Гэта, пад курах пад гэтых. Ай, чорт яго спомніць! Яшчэ ґаварылі:*"Лесьці нашніцы з вады вон, дайце майму рабёнку (імя) – сон."*

*– А гэта калі гаворыцца?*

– Гэта ўсё нада на захад сонца. Пад паўдзён не нада ніякія загаворы мець. Затое, што сонца, эта, дзень жа ідзець угару, а нада ж усе загаворы, нада у эта … усе к вечару, каб сход.

*– А то балезні будуць расці, калі апоўдні?*

– Да! Эта вот, будзець большаць. А як ужо з паўдня – будуць меньшаць. Ужо ідзець к захаду усё. Ай, дзеткі (уздыхае), ці то яно праўда, ці то не!

**Урокі**

*– Ад чаго могуць быць урокі?*

– Ад чаго? Вот, напрымер, гэта точна, урокі ёсьць, ёсьць. Я сама была… А была я такая поўная дзяўчына, а было сабраніе, у трыццаць трэцім гаду яшчэ, ці ў трыццаць ўтарым. Абкладалі там вот па-цьвёрдаму – яічкі, усё здаваць, каторыя ў калхоз ня йшлі, а мой бацька ня йшоў. Што ў калхоз (не ішлі), так нам па цьвердаму. Мяса, яічкі, там усё. Як па-цьвёрдаму, як намецяць вот камуністы, камсамольцы, ці хто. І тады нада здаць срочна! Па-цьвёрдаму здаваюць. Тады купляем гэта ў каго і здаём, гэта у каго. А ў мяне было плацейка кароценькае, адзета на работу. На рабоце была, у брыгадзе. Яны мяне ўсё хлоп ды хлоп – рукі ў мяне поўныя былі. Сама была поўная. Хлоп ды хлоп. А мне як зробілася, васпалілася ўсё! Усё! І дамоў не зайду. Дамоў прынесьлі мяне. І тады як пакуль мне не сталі рады даваць ад уроцы. А тыда стала лушчаць. Гэта называецца зглазіў (перакладае для гарадскіх мальцаў). Ёсьць такія мінуты. Вот у дні. Ёсьць такія мінуты, што яны ўрэдныя такія. І скаціну зглазіць…

*– А калі часцей можна уракчы чалавека? Калі гэтыя мінуты бываюць?*

– Не, не знаю, калі яны бываюць. А яны ці яны к вечару, ці яны пад поўдзень, ці яны як. Але вот бываюць такія мінуты. Трапяць людзі, трапяць людзі ў гэту мінуту, гэта і саўрадзіць чалавеку. А калі гэтай мінуты няма, так і не ўрадзіць чалавеку.

– *Чым можна засцерагчыся ад урокаў?*

– Напрымер, соль. Дзевяць разоў адшчытаць назад. Не так, што вот раз, два, тры…, а цяпер дзевяць, восем, сем, шэсць, пяць, чатыры, тры, (два), адзін. Гэта тры раза адшчытаць соль. Тры разы. Не па сем – па дзевяць. І тады там рабёначка ці скаціну. І не сьціраеш, не во так (выцірае унутраным бокам далоні), а во гэтак (унутраным бокам), наводмаш, во так. Соль сюды… І тады соль паложыш і во так сьціраеш. (соль пасля выкідаюць у печ).

(Тыльнай стараной далоні, пальцамі; сверху ў ніз па шчаках; зверху ўніз: па левай, па правай; пальцы ўверх трымаючы далонню ўніз.)

– Вот, напрымер, жэнскі падол, навыварат узяць яго во тут вот. Навыварат… Сьціраць жэнскім падалом. Да, хоць каго (хоць дзіцё, хоць дарослага). На руку яго…

(У нізе падола. Сціраць твар: адну шчаку, другую шчаку. На руку бяруць, адварочваюць адваротам і па шчаках, па плячах.)

Вогнік адкідаюць во так во. Болькі такія у малых: болькі, болькі, болькі… Гэта называецца вогнік.

– *А ад чаго ён бывае?*

– А хто яго знаець! Ці ён ад ветру, ці ён ад зглазу, кажуць, бывае. І адшчытываюць тады дзевяць вугалькоў. Дзевяць разоў па дзевяць вугалькоў. І тады гэты вугалёк во так во возьмеш: "*Агнявы, ідзі на агонь,* – на агонь кідаеш, – ветраны, – усё вот так кідаеш за парог.

– *А колькі іх усяго ёсьць? Агнявы – ідзі ў агонь. А далей?*

– Ветраны – на вецер, урочны – на уроцы. Гэты ж… вадзяны, ідзі на ваду. Ну, там усе гэтыя вугалькі… і раскінуць іх.

– *А якія яшчэ? Вы чатыры назвалі. Іх жа дзевяць.*

– Дзевяць (смяецца), але ж я усе пазабывала. Халера іх ведаець. І вадзяны, і агнявы, і ветраны, урочны, малочны… Ай, які яшчэ… Ну, які там яшчэ прыдумаю… Так і ўсе гэтыя раскідаю вугалькі. Тады гэтыя болечкі будуць гаіцца. А вось жа ж яшчэ зьвіх… Забылася. Толькі помню, што: "*Ехаў Ісус Хрыстос па калінаваму мосту. Калінавы мост упаў, Господні конік стаў…*" І грызь загаварываць. А грызь вы панімаеце, што такое? Грызь, як жаўлак ускакаваець і вот, гэтая грызь, гэтая ж, грызь гэтую загаварываюць. Тожа забылася. Ўсё ўмела, тожа забылася. Пазабувала… "*Грызь-грызянка благая казяўка, дам табе грызь сталяваць, дзе тры сосны з аднаго караня стаяць. Яны стаялі і адна за адну гладалі.*" І тады сам гэты кусочак пацiскаеш, пагрызеш яго і паплю'еш. І тады во пераксціш… І тады пралівалі… Панімаеце, кросны даўней як ткалі, панімаеце. Такія цэўкі былі, сучылі, сукалам называлі, дак праз гэтую цэўку пралівалі. Ад уроцы. Ад уроцы праліваюць праз прабой яшчэ… Во забылася, дзе замыкаецца (падвясным замком), дзе клямка надзяецца. Падставіць сюды пад гэту (прабой) і зверху ліць. Так тры разы во так (паказвае як пераліваць).

– *Зверху ліць, а знізу збіраць?*

– Ага. Тую самую ваду. Гэта ад ўроцы. А тады гэтай вадой папіў і змыў.

– *А што змываць трэба? Твар, вочы, плечы?*

– Ну, хоць што, і рукі, і ўсё гэтай (вадой) можна, глынуць яе. Толькі праз прабой праліецца. Гэта ад уроцы… Праз пярэчкі, праз стол…

*– А што такое “пярэчкі”?*

– Во стол стаіць, называецца пярэчкі гэта во, што даска ляжыць… (гаворка ідзе пра “каробку” з чатырох дошак на якой мацуецца сталавая дошка) у нізе пад дошкай. Гэта пярэчкі. Тады працягваюць тры раза (таго) хто спужаецца.

*– Гэта ад пуду.*

– Да. Напрымер адтуль, адтуда з гэнага (боку) сюды, тады яшчэ завёў яго, адтуль туды. І тры разы гэтак працягнуць. І тады яго во так пацалаваць у твар: пху, пху, пху, пху. На палу во стол стаіць як у мяне. Стаіць стол. І з гэнага (боку) адтуль ад вакна захадзіць і сюды яго працягваюць… рабёнка. Адтуль закладаць і сюды прыцягваюць, а тады другі раз, а тады трэці раз… (яшчэ раз тлумачыць, што такое “пярэчкі”) … чым стол скрэпліваецца… тэя ногі і гэтыя во...

*– Так трэба над ёй, паміж дошкай стала і гэтай пярэчкай.*

– Не, ён як во стаіць, так яго і цягай…

**З народнай ветэрынарыі**

– Ага яшчэ. Во даўней жа бацька мой, гэтае, кабыліца ў нас была. А вазілі балькі, таўстыя такія. Ну і яна была жарэбная, і тады як толькі выпражэць яе, хамут во так расьцягнець, і ўсё во гэта во так (паказвае). Толькі дугу прымець. І тады, гэта, тры разы туды завядзець. Туды і туды. Тады яна не абарціраваецца. ... Зьдзяваў, напрымер, распрагаў. Зьдзяваў і тады ўсё гэта як ёсьць так і расьцягнуў так ад гэтага, ад павозкі, гэта вот. Удоль як запрэжаная была. Ну, панялі вы?

*– Што там хамут, аглоблі, так?*

– Аглоблі як ляжалі так і будуць ляжаць, як распрэглі. Толькі нада хамут там… Сядзелка, дуга, усё во так пакідаў, палажыў, а тады адгэтуль завадзіў ад павозкі, тры разы, туды… Не ўперад, а удоўж. Ад павозкі і ўдоўж, во так. І абратна завадзіць.

*– І як, яна пераступала гэты хамут зверху?*

– Ага, яна пераступаець. Яна (вупраж) кончылась, яна (кабыла) туды сышла. Тады абратна завадзі. Тады ўжо не будзець абарціравацца. Гэта точна, праўда.

*– А хто ў вас былі такія знахары… самыя сільныя? Мужчыны ці жанчыны?*

– Ай, мужчыны былі і жанчыны. У нас Міpановіч быў, Амільлян. А хто ж болей? Гэты… І вот, напрымер, забалеіць конь, а ён січас яго вылечыць. І тут у пахвінах ёсьць, называюцца мышкі. Гузы такія як мышы. У пахвінах у каня. І ён іх пацiскаiць, пацiскаiць і зубамі іх кусаiць, вот так. Пацiскаiць, пацiскаiць, пахлопаiць і пашоў. А ў іх… ад гэтых мышак у яго во так жывот баліць. Гэта Амільлян быў…

**Пра залом**

– Гэта так рабілі. Залом які, возьмуць жыта ці там авёс, там ячмень. Во так скруцюць. Як куклу зробюць такую.

*– А хто гэта рабіў?*

– Гэта і дзеці рабілі дажа, а людзі баяліся жаць, што гэта нехта зробіў.

*– А як патом гэтыя заломы ўбіралі?*

– А іх не ўбіралі. Убіраюць (астатняе), а ён застаецца.

*– А не звалі знахара ці папа?*

– Не, не.

– *Чаго баяліся людзі?*

– Ну вот, баяліся, што будзеш балець, ламаць будзе чалавека. Як зламала там – жыта гэта, так будзе чалавека ламаць, косьці там, суставы… Ага. Даўней гэтак казалі. А цяпер гэтаму нічога не вераць. Цяпер камбайн усё сажнець (смяецца).

**Пра “прысушку”**

– *А ці можна было дзеўцы прычараваць хлопца?*

– Ну так хто яго знаіць. Што вот… даўней я чула гэтак, казалі, што вот у бані, калі мыесься… гэты ліст, венікам гэтым бярозавым, парысься. Панімаеце вы, ці не? Вы ці парылісь? Дзе-нібудзь вот тут ужо абдасься (спераду), пачнеш надзявацца, а ліст дзе-нібудзь. Тады гэту лісьцінку нада мальцу ў карман палажыць, каторага любіш. Тады ён к табе прыліпнець як гэты ліст.

**Зап. А. Глушко, У. Філіпенка у 2004 г. ад Кульба (Балотнік) Яўгеніі Васілеўны, 1912 г.н., у в. Валова Гара Домжарыцкага с/с.**

**3**

**Пра святых, знахараў і чараўнікоў**

– *А хто такія святыя? Ці дапамагаюць яны людзям і ад чаго?*

– Ну, сьвятыя, дык, якія сьвятыя, Бог. Ну, Сьвятую Ефрасінню знаю, якім іменем мяне назвалі. У мамы дзевачкі ўсе паўміралі, вот можа есьць Бог на сьвеце, а я грашу яшчэ большай. У яе дзевачкі ўміралі, а мальчыкі жылі. У мамы нас было цэлых дзевяць, я радзілася самая паследняя, маме было пяцьдзесят лет і ей сказалі: назаві яе Ефрасіньняй, і мяне назвалі. І я вот ужо восемдзесят адзін год жыву. Значыць, гэта сьвятая Ефрасіньня. І вот імя яе нашу, затое, верна, і жыву так многа.

– *А што такое нячыстая сіла? І што яна робіць людзям?*

– А што, дык халера яе знаець, прыносіць гора, бяду тая нячыстая сіла, зданкі здаюцца ўсякія людзям, я ж яе не відзела, тую нячыстую сілу. Гавораць, што яна врэдная такая, а хто яе знаець.

– *А хто такія чараўнікі? Што яны робяць людзям?*

– І зло і дабро. Чараўнікі есьць такія, што сдзелаюць людзям, што яны караюцца, а вот, Навічанкіна мама была, ей сдзелалі так, што ў ейным баку, у правым, квакала лягушка. Лягушка, гэта точна, Ніна сама гаварыла, патом яна знайшла знахараў і тая лягушка не стала квакаць. А я, кагда ў маладосьці была, тожа глазу сільна веру. Мяне маладую павеў к сваім родственьнікам..., і мяне там зглазілі. Ай, гавораць, якая пекненькая (харошая па іхняму было) і мне сразу ліцо загарэлася, і я стала, і распухла там, што рэшыта было. І я пабежала сразу к ягонай маме. Яны там ваду нейкую загаварывалі, *маці-мачыху* ірвалі, травой укладвалі мае ліцо, я ўснула і спала доўга-доўга, часы два, тока яны хадзілі-паглядалі, ці жывая я, і я паправілася. Значыць, знахарам я веру. Кароўка была забалеўшы у мяне, не магла малачко..., пайшла цадзіць, а яно ў цадзілку во не пралазіць. Як мы цадзілі! Я пабегла к Захарашкі к гэтай, а яна дала вадзічкі, і кароўка... вечарам ужо малачко пашло ў цадзілку. Знахарам я веру, сільна веру, патаму што на сваім хрыбту іспытала гэта.

– *А ці былі ў весцы такія людзі?*

– Вот і сейчас есьць такая, каторая маю кароўку спасла.

– *А ці вераць яны богу, моляцца, ходзяць у царкву?*

– Ну хто іх там знаець, но Захарашка верыць, даже вот у Пасху яна да сонца, пака не ўзышло сонца, у Чысты чацьверг, яна ўставала і да сонца тапіла баню, каб да сонца ўсе вымыліся. Яна верыць Богу.

*– А хто мацнейшы знахар ці чараўнік?*

– А яны перавышаюць друг друга. Вот той бабке, што я гавару, у якой лягушка квакала, здзелалі, здзелалі, а патом жа і аддзелалі. Вось хто сільнейшы? Ёсьць усякія, і такія, і такія, усякія ёсьць. Спасала маленькую сваю дачку, мама мяне ўчыла, жывоцік у яе балеў, гаварыла грыжа ў яе, загаварывай. Я садзілася, брала флашку такую, дзе быў сук, на сук той плявала і загаварывала і патом мазала ей пупок, каб не балеў жывот.

*– Ну ці памагала?*

– Ну, не так стала плакаць – ад таго ці не ад таго. Дык я стала ей і ноччу і днём усе гэта. І палала яе ў падале, каб яна не плакала, яна сільная плакса была. Вот мяне мама і научыла: палажы гэта дзевачку ў падол і так вот палай яе, як гэта самае і прыгаварывай: «крыкчы-плачы, ухадзіце, крыкчы-плакчы, ухадзіце». І я так палала яе, а тады яна і спала, ад таго ці не ад таго. Я верыла і яе кожны дзень палала ў тым падале.

*– Ці ведаеце вы якія-небудзь гісторыі пра святых?*

– Слышала адну такую. Сястра пацярала ключы, можа Маручыха ўжо расказвала, а ну тады два разы нашто расказваць, вот гэта яна мне гаварыла, што кукушка – гэта не кукушка, гэта летаець тая сястра таго брата, каторая яго наказала. А больш не знаю такіх.

**Запісала студ. ПДУ В. Жарнасек у 2005 г. ад Жарнасек К.М., 1924 г.н. у в. Забор'е.**

## 4
## Пра хваробы

*– Што за хвароба дзецкая ці прыпадак?*

– Ну, прыпадак, да. Вот завалецца, б'ецца аб зямельку, вот такі абы-які. Ай, слаба яна лечыцца, ну болі лечуць гэтыі бабкі, а бальніца гэта нічога яна не паможыць.

*– Праўда, што як сурочаць чалавека, дактары не лечуць?*

– Да. Яны самі гавораць, што нада да бабак лепей абрашчацца, чым у бальніцу. Ой, былі раньше, ой, якія яны былі! Пяюльлі былі, усё знаді, а мы цяпер ужо абы-якія.

*– Не кожны чалавек можа памагаць ад балезняў? Адкуль сіла ў іх?*

– Канешне, ня кожны. Ад харошых вучуцца, маці, можа, такія былі, вучылі дзяцей.

*– У чараўнікоў таксама сіла ёсьць?*

– Ёсьць. Ну, можа, тожа ад сваіх.

*– Хто сільнейшы: чараўнік ці знахар?*

– А хто тут, можыць сказаць? Знахар ён памагаіць, а чараўнік – гэта ж плахі чалавек, робіць абы-што.

*– Было такое, што была кароўка нармальная, а потым – бах! І малака не стала ці чарвякамі доіцца?*

– Было такое, было. Ну, а тады каторыя знахары, хадзілі вады к ім, ну, прынасілі, замывалі гэту кароўку, ну лепшыла, а каторая ня можыць папасьці на дух другога – тады і не паможыць.

*– А вот калі змея ўкусіць?*

– А мяне сама кусала зьмея. Пайшлі ў грыбы, посьле вайны, босыі, падуросткі гадоў па дзьвінаццаць, па трынаццаць былі. Абуць жа не было чаго, і босыя, я сама ішла і стала на яе. Наверна, яна мяне ўкусіла, рудая, здаровая. Вот так нагой кінула і пайшла, мяне перавязалі во тут, распухла дужа і я дамой не дыйшла. Бацька пад мяне падышоў, нёс. Але ж тады ў бальніцу не абрашчаліся, ну бабкі такія былі, загавары загаварывалі.

*– Як такіх бабак называлі?*

– Ну, проста такія людзі добрыя былі, памагалі. Памагалі мне, шыпталі, ну і прайшло. А цяперака ж у бальніцу, уколы дзелаюць, а тады ж не было гэтага.

*– Чулі такую хваробу калтун ці калдун?*

– Скруціць валасы і ўсе, неяк не расчысаць, нічога. Гэта ў Пунішчах была такая жэньшчына. Скруцюцца (валасы), такія цьвярдыя невядома, не памыць неяк, не расчысаць. І нельзя, кажуць, абрызаць – галава будзіць балець сільна. Ну, а тады ён у нікаторых і адваліцца, гэтыя валасы. Ну, тожа ж, мусіць, бабкі гаварылі, тады ж такой бальніцы не было, каб лечылі.

*– А чаго, як вы думаеце, слабейшыя людзі сталі цяпер?*

– Бог яе ведае, усякія во хімія гэтыя, а тады ж не было. Траву гэтак елі і сільныя былі. Ай, не было тады (пасля вайны) і бульбы, якая там бульба была?! Зямлі не было, кароў не было, поснае ўсе было. Цяпер добра жыць, але, што ж – у людзей няма здароўя. Гэты рак паеў людзей усіх.

*– Даўней не хварэлі ракам?*

– Ай, не было. Ну, можыць які быў, а так не было, а цяпер бальшыня з гэтага паміраюць.

*– А з чаго так стала?*

– Мала на нас пушчаюць усякую гадасьць?

*– Ці праўда, што ні можна ў празнікі вялікія працаваць, рабіць?*

– Да, да, асобенна жэньшчынам цяжарным. Рабёнку можыць быць абы-што.

*– Былі такія случаі?*

– Былі. Былі ўсякія бальныя дзеці, але яны нейкія бальныя і паміраюць, а цяпер як і бальныя лечуць іх, лечуць, а толку з іх няма.

*– Вы думаеце, што лепей, як такі хворы сільна, каб памер?*

– Каб памёр, да...

**Зап. У. Лобач у 2006 г. ад Сазонавай Надзеі Уладзіміраўны, 1934 г.н. у в. Пышна.**

## 5
## Сурокі

*– Вось малако, як несьлі, нечым закрывалі, каб не сурочылі?*

– Да, гэта гаварылі. Гэта глаз такі і такая мінута бываець, што бываець – гэта точна. А ўжо пчолы як зглаз баяцца! Кусаюцца тады! Ой, ўжо тады кусаюцца! Як во там глядзім пчол нічога, а як толькі к вуліцы прыйдзім, тады ўжо і кусаюцца. Абы толькі сталі глядзець.

*– Глядзяць калі: проста на пчол ці як выбіраеш мёд?*

– Не проста, а як робіш і глядзяць.

*– Што баліць чалавеку, як сурочылі?*

– Ну, недамаганьне такое будзіць, баліць увесь арганізм, ну, састаяньне плахое.

*– Ад упуду як лячылі раней?*

– Помню пад стол падвадзілі і казалі так: ”*Пуд аставайся тут, а ты хадзі ка мне.*” Пад стол, пад стол, каб прапоўз пад сталом і казалі: ”Пуд аставайся тут, а ты хадзі ка мне.” Тры разы так казалі.

**Пчолы**

*– А валасень, што за хвароба такая?*

– Ай, тожа палец баліт такі ці нага, ці што... Ай, што мы будзем з табой гаварыць, няма пра што гаварыць, часу няма сядзець – нада ісьці да пчол.

*– А чаго не хазяін каля пчол?*

– Нада удваіх, каб пчолы вяліся. Ёсьць такая паверыя, калі мужык ня хоча каб жонка памагала, значыць не будзець ні меду, ні пчол, даже можыць мужыку жонкі не быць.

*– А ці праўда гавораць, што пчала – святая казюрка?*

– Да. На яе няможна гаварыць здохла, а нада – памерла. А ці вы знаіці, што пчала чатыры тысячы гадоў назад паявілася, ішчэ людзей не было. Дык гэта пісана, гэта ўжо чытана людзьмі. Патом пчала лечыла, врачэй не было, толькі пчала лечыла. А цяпер, каб не чалавек, пчала не жыла б. Лясы ўжо сталі – ні дуплаў там нет, нічога, хімія, балезьні ўсякія.

*– А ці празнуеце Спас мядовы?*

– Да, вот чатырнаццатага чысла, празнуем, гарэлачку п’ём.

*– Як вы думаеце, медам якія болькі можна лячыць?*

– Усё на сьвеце лечуць.

*– Вот чысты мед ці яго настойваць трэба, ці медавуха, ці прыкладаць?*

– Сама харашо, есьць сьвежы і настой ставіць (на гарэлцы).

**Партызаны і знахарка**

– Быў партызан адзін.Так яму зубкі балелі, так балелі! Ён прышоў к гэтай жэньшчыне, партызан, і яна яму загаварыла зубы. А тады, паверыя такое, што яго растрылялі.

*– За што?!*

– За тое, што пайшоў к ей. Тады, знаеце, пры савецкае власьці ня можна было. І во, яна гэта жэньшчына палечыла яму зубы, а партызан другі прыйшоў яго і растрыляў.

*– Власці ганялі такіх людзей?*

– Ну, нягош не ганялі.

**Зап. У. Лобач у 2006 г. ад Кубар Надзеі Ўладзіміраўны, 1925 г.н. у в. Пышна.**

**6**

**Урокі, упуд**

– Ад урокаў сольлю абатруць і ў агонь укінуць. Казалі: *“Соль у вочы, галавешку ў зубы”*. Сьціраеш сольлю і так тры разы гаворыш. Тады ад упуду меруць усе суставы, і тут памеруць нітачкай, завязаць, і тут узялок завязаць. І ўсё прыгавараваць: “Дапамажы, Божа”, – як яго там ужо зваць. А тады ўсяго яго нада вымераць. А гэта (нітку) нада спаліць. І тожа Богу памолісься.

### На "тым свеце"

Адна жэньшчына відзела ў сне, як была на тым сьвеце. На адной старане харошыя людзі, а на другой як зьмеі. Тут у харошым, чыстым, у беленькім надзеты, вяжуць ці што. А што заслужылі плахоя – гразныя, чорныя. Сказалі ёй, нікаму не гаварыць, а то раскажаш і ўмрош. А яна ня выцерпела і расказала. І памёрла. Эта дзейсьцвіцельна праўда".

**Зап. А. Глушко у 1998 г. ад Дабравольскай Марыі у в. Сталюгі Слабодскага с/с.**

## ЛЁЗНЕНСКІ РАЁН

### 1

### Рожа

– Во была ў мяне рожа. Сеў прышчык за шчаку. У мяне на шчаке, са срадзіны стаў. Знаеце, як проса крупы, той прышчычак. Вот я яго усё языком, языком. А патом, чэраз дзень ён стаў як гарошына. Ну, я і пайшоў у бальніцу – у нас, у Яськаўшчыне, была бальніца. Прыйшоў туды – яны мне далі лякарства. Сказалі піць, паласкаць. Ну я і піў, паласкаў. А назаўтра стала такая, як бабіна – жаўлачок такі. А тады яшчэ большэ. Унутры у шчаке. І шчаку мне раздула во так-во, аж глаз закрыўся. Ну, а ў нас у калхозе так пастаноўлена было, есьлі ты сягоньня на работу не выходзіш, то ты должан далажыць, чаго не выходзіш. Я пайшоў на брыгаду, а ў мяне там цётка была. Яна і гаворыць: "А ты не сьпяшы у бальніцу". А ў яе ў Лёзьні жывець дачка і сказала, што харошую бабку знаіць. Я туды паехаў, яна адвяла мяне к бабке. А рот ужо закрыўся, што ужо ня мог яго рашчаміць. Ну вот, к тэй бабке прывяла. Тая бабка сядзіць і я радам с ней. Яна ўзяла бутылку, наліла вады, там шаптала, шаптала, шаптала. "У цібя, – гаворыць, – сынок, рожа." Рожа так рожа. Заплаціў ей дзеньгі. Яна гаворыць, каб хлебануў тры разы. Ну, я тры разы хлебануў. Гаворыць: "Стане прахадзіць – прыхадзі яшчо, а не станець прахадзіць – тожа прыхадзі". Ну, а што ж ісьці – нада ж дзеньгі плаціць. А дзенег тады ж ў калхозе не плацілі. Выйшаў ад яе. А штоб дамой дабрацца, гэта ж не цяпер, што цехнікі многа, а тады нада дажыдацца, можа хто падвязець. Вот пячэньня купіў, тру у ладошке яго і засыпаю ў рот, што пячэніну не магу укусіць, рот разінуць. Ну і дома ў абед глынуў тры разы, і ў вечар. І стала мне меньшаць, меньшаць. І цэлую нядзелю усё так ападала і меньшала. А назаўтра я ужо ўстаў і паеў – рот стаў раскрывацца. І той жаўлачок, ён да такой сьцепені дайшоў, як і пачынаўся, а тады прапаў.

### Немец дыягназуе рожу

– Яшчо быў случай. Што нага сіняя, сіняя стала. Гэта у вайну яшчо. І во матка панесла мяне сюды, к немцам. Я ж ісьці не мог, яна нясла мяне. А тут у немцаў медпункт быў. Ну, проста ў хаце. Яны паглядзелі і немец сказаў: "Не, матка, мы ня ў сілах. Гэта, матка, рожа. Нада іскаць бабку, каторая пашэпчыць". Ну, не знаю, куды яна мяне насіла, але памаглі.

**Упуд**

– У мяне ў самой сын быў. Вот скамейка такая. І ён, малы быў, ішоў, ішоў задам па скамейкі і зваліўся, ударыўся галавой. І стаў так: “Ма-ма-ма, па-па-па”. А ужо ж гаварыў быў харашо і стаў заікацца. Ну, я яго рамяшком: “Ты ж ґаварыў харашо...” А тады назаўтра ўстаў і: “М-м-м-м”. Саўсім не гаворыць. Ну, жыў тут мужык адзін. Сідорскі яго звалі. Ну павязьлі з ёй (жонкай) на лісапедзе. Ён забраў яго ў комнату. Відзім, што там у яго кніга бальшая чорная. Відаць, для загавораў. Ну, ён там нашэптваў яму, вадой віскі́ намачыў, лоб, затылак ззаду. Сказаў, каб вечарам змывалі. Ну і ўстае назаўтра:"Мама! Папа!" Як і не было нічога.

*– А во, мой дзед быў на піпараме і адарвала яму пальца. І скорая забрала, зьвязлі ў бальніцу і ўсё. Два дні ў рот нічога ня браў, зьдзелаўся прама дураком. А тады мне ужо звоніць, гэта там яго наўчыў нехта, і гаворыць, каб вады дзе ўзяла. Эта ж ён перапугаўся! Пальцы ўскочылі ў піпараму – ён перапугаўся. Тады пашла к этай Еве, яна дала вады, загаварыла...

*– А як дзіцёнак малы спалохаецца?*

– Да, да! Бываець плачыць цэлую ноч... А тады – к бабке. Старая бабка тут была. Усё к ёй ішлі, ехалі, вазілі. І яшчэ бываіць *піпсілея* (эпілепсія) у дзіцей малых. Тожа к ёй хадзілі. Эта ў бальніцах ня лечуць – толькі к бабкам.

**Архіпаўскі знахар**

А яшчо было ў Куляціне. Яшчо сама жывець этая (жанчына). Раней жа капалі ямы такія – сілас туды лажылі. І яна была на рабоце, з рабёнкам была. І там сабака прыгнуў на яго бальшы і пацан тэй у яму паляцеў. Ну і, наверна, спугаўся. І пацан этый забалеў. Ні есьць ні піць ня стаў – нічога. Аны ў бальніцу яго. Па-мойму, ў Віцебск. І там медсестра, кагда яны прыехалі адведаваць рабёнка, медсестра ціхонька ім сказала: “Забірайце, яму тут лячэньня нет. Вязіце к бабкам якім, а тут лячэньня нет. Ён тут памрэць”. Дак яны яго ўзялі дажа без адзежы ўзялі, укралі яго з бальніцы. Паехалі тады, у Расею, тут недалёка, ў Архіпаўку да дзеда. А там, гавораць, очарадзь да дзеда этага была з кілометар. Дзед тады выходзіць з хаты і вызываіць. І бацька стаіць і дзержыць на руках этага мальчышку, пачці у самым канцы очарадзі. А эты выйшаў на крыльцо. Так во паглядзеў, паглядзеў: “Папаша, – гаворыць, – з рабёнкам, зайдзіця ка мне”. Узяў этага пацана, паглядзеў, пакруціў яго там, вады здзелаў яму. Вышаў, вынес этага мальчышку, аддаець яму: “Прыедзіце чэраз тры дні”. А бацька яму: “Мы не маем дзенег, штоб заплаціць”. А ён гаворыць: “Не нада, баця, не нада. Во прыедзеце, тады мы разьбярэмся”. І сказаў, і дзень і час. А ў той дзень, раніцай, ён і памёр. Во! Знаў калі памрэць і платы не ўзяў!

**Валасень**

– Во, у нас, у Нінкі Даньковай палец стаў сіні і ўсё чысьценька разнясло. Яна паехала ў бальніцу. Разрэзалі яго там. Во намучылася! А нада была к бабкам зразу. Усе бабы ёй: “Што ты ня відзіш, што валасень? К бабкам нада!” Ну, паехала яна тады к бабкам. Пабыла у бабкі. І ужо боль прыкрацілася і легчэ стала. Два разы схадзіла і ей палягчала.

*– А калі не лячыць, што можа быць?*

– Валасень можа і палец атняць. Вот, кагда загаварываюць, то волас гэты выходзіць – такі белы стрыжэнь. А як у бальніцы ляжыш, то яны самі (дактары) гавораць: “Папробуйце, можа, дзе вады ўзяць”.

**Зглаз**

*– А гаворaць, ёсьць такія людзі, што могуць сурочыць.*

* – Да, ну вот можа падзівіцца. Там дзіцёнак які, а на яго: “Ай, які красівенькі!” І усё! Зглазяць. Мне з глазу было. На памінкі пашлі – дзядзька памёр. А я, ізвесна, была маладая. І падзівілісь на мяне. Селі за стол, а мяне як пачало калаціць, халодна стала. Калоціць чысьценька! Тады бабы (сказалі), каб тая, што дзівілася з мяне, каб яна праз рэшата вадой спырснула. Тры разы па тры разы, з роту. Эта каб тая, што зглазіла. Абязацельна! І адвялі мяне тады паляжаць у хаце. І прашло. З каровай тожа было. Не ідзець цераз цадзілку малако. Цягучае такое стала. Мне тожа гавораць: “Схадзі вазьмі, Жэнька, вады”. Эта, можа, як я падаіла, аткрытым (вядро) нясла і падзівіліся: “Во, многа малака надаіла!” І ў нас Ева эта, яна ўсё знаець. Мне памагла, вадзічку давала.

**"Жоўця"**

Вот раньшэ балезьнь такая была – "жоўця". Эта цяпер “Боткіна” называецца, эта кагда печань баліць. Дак, цяпер жа няма этых – вашэй. А раньшэ вошы былі этыя. І закруцяць тады ў якую яду і дадуць, каб ты ня знаў. Ці выпіць з чым, но каб не знаў. І каб вошына гэтая – жывая была. Разы тры так даць і усё, і здаровы.

**Чарадзейства, знахарства**

*– Можа што пра людзей тут гаварылі, якія падраблялі спецыяльна?*

– Былі, былі, чурувалі! Случай тут быў, у Куляціне. Малец быў, трактарыст. Ён усё ня мог свой трактар завадзіць. Я, калі ў Куляціна хадзіў, усё яму завадзіў. А там бабка такая жыла, Трапоніха. Тая Трапоніха на Івана Купала хадзіла голая, ну ў рубашке хадзіла, расу сабірала з цьвятоў якіх, выкручывала тады... Адзін мужык страляў з ружжа па ёй дажа. І тады яна там паддзелывала вадой: то карове дасьць, то чалавеку дасьць. І во таму мальцу пасаветывалі туды, ў Расею – дзед там быў – дзе-та ў Архіпаўке. Во ён паехаў к дзеду тому. Ну, тожа ж дзеньгі нада была плаціць. Трудадні ж гэты. І дзед паказаў яму на вадзе бабу эту. І вот гаворыць, што плаці мне яшчо скока-та і торкай пальцам ёй ў глаз. Ён, той трактарыст відзіць тую жэньшчыну, што ў Куляціне, відзіць і пальцам торк ёй у глаз. І яна ж і асьлепла на адзін глаз. Дзед тада гаворыць: “Яна к цібе заўтра прыйдзець і прынясець какова-та мяса і будзець у цябе што-небудзь прасіць, што б ты даў ёй. Барані Бог, не давай!” І праўда! Зарэзала тая баба казьлянёнка ці што і прыходзіць, прыносіць мяса і просіць рэшата. А ён бярэць мяса і ў ляпу этым мясам ёй. І высьпяткам, высьпяткам яе і мяса эта сьледам за ей. Так во, казалі, што як яна памірала, так паталок дажа ўзьдзіралі.

*– Дык трактар той дзядзька не мог завесьці таму, што яна падрабляла?*

– Да, эта яна і паддзелывала, ён жа яе у вадзе і увідзіў. І ён жа слабеў, і слабеў, і ня мог ужэ нічога. А тады мой пляменьнік з дзеўкай там, у Смаленску, хацеў расьпісацца. А малады ж быў, яшчо перад арміяй. А яна ужо бярэменная была, тая дзеўка. Бацькі ягоныя ні ў якую: “Куды табе галаву завязываць – табе яшчо ў армію ісьці”. Ну і ён атказаў ёй распісываца, што бацькі не разрашаюць. Гаворыць той малец, што прыйду з арміі, што я ўсё роўна цібе не брошу. А прыйшоў з арміі – тут ужо дзевак болей і ўсё. І не пайшоў к ёй туды. Яна яму як зьдзелала! Яна цераз людзей давала, каб яму там выпіць ці што. І ён ужо саўсім

дайшоў ужэ. У Віцебск паступіў работаць – ня можаць і ўсё. Слабы стаў. Ну што ж. Пайшоў к бабкам. Тыя гавораць, што табе паддзелалі. Ну ён сразу дагадаўся. І тожа вазілі к этаму дзеду ў Архіпаўку.

**Зап. У. Лобач у 2005 г. ад Сідорскага Івана Якаўлевіча, 1933 г.н. і* Сідорскай Яўгеніі Паўлаўны, 1930 г.н. у в. Якубаўшчына Яськаўшчынскага с/с.**

**2**

**Пра хваробы**

*– А вось рожа, дзе можа праявіцца?*

– На любом месьце. Можа на пальцэ, можа быць на руке, можа быць на наге, можа быць на ўсём. Красьнееца, распухаецца такая і балючае ж яно. Красната эта можа быць на ўвесь палец і пойдзець тады па ўсёй руке.

*– А з чаго яна бываець?*

– З глазу, з пуду бываець. Сейчас лечаць врачы эту рожу, но асобенна – сваі лекары. Ну, бабкі, якія загаварываюць.

*– А валасень з чаго?*

– Тожа на пальцах бываіць: і на руках, і на нагах. Врачы яго ня лечуць – толькі загаворам. На каласы ад жыта і загаварываюць. Каласы этыя сплятаюцца валасамі. Такія тоненькія, звычайныя такія валасы.

*– Бывала ж, што дзіцёнак там спужаецца, сабаку ці каго?*

– Ну, тады пакурым сабакам, пастрыжом (*поўсць* у сабакі). Пастаўлю я во так, каля печкі, на тэй заслонке. На палу заслонку тую перавернем і малога на заслонку паставіш ці падзяржыш, як сільна малы. І курыць тады, каб дымок пад рубашачку ішоў.

*– Ну і пра залатнік жа вы, мусіць, чулі.*

– А, залатнік. Ён недзе каля пупа, тут находзіцца. Есьлі цяжолае што падымаць, тады можа залатнік павярнуцца. Жывот будзець балець. Ну, і тожа так. Хто знаіць, умеіць, пагладзяць так пупок, каб ён (залатнік) туды сышоў.

**Зап. У. Лобач у 2005 г. ад Плешчанковай Ніны Лукічны, 1931 г.н. у в. Засігава Яськаўшчынскага с/с.**

**3**

– Былі бабкі, каторыя шапталі, загаварывалі і лучшала. Вот рожа. Становіцца на целе краснае пятно і чэшыцца, чэшыцца. У любым месьце можэць стаць, але болей на нагах. Езьдзілі ж і ў бальніцы. Бальніцы тагда ж былі – толькі пользы з іх не было. Валасень во тожа на пальцах быў. У нас у Замошшы быў такей дзед, ён валасень загаварываў. Ён браў із *жыта каласы*, браў і прыкладаў к пальцу колас і загаварываў, шаптаў. У мяне самой быў. Ён загаварыў, загаварыў і скора прашло. А можа ж так адбалець (калі не лячыць), што аж да касьці. Валасень ён бывае большэ з глазу. Есьлі чалавек рабочы, а ёсьць такія людзі, што сільна глазяць, то большэ эты залатнік з глазу.

*– А ці любы зглазіць можа?*

– Не. Есьлі чалавек такі добры, не завідаваіць нікаму – ён не зглазіць. А есьлі табе ён паглядзіць, а яму завідна, што ты харашо жывеш, а ў яго не палучаецца, – ад этага бываіць. Былі такія, што завідавалі, што вот у цібе карова харошая. Яны тады малако адбіралі, карова балела.

*– А залатнік?*

– Залатнік бываіць ад цяжолай работы, ад цяжолага. Як цяжола падымаець, то ў яго зьбіваецца ў жываце што-та і начынаець балець. Тожа ходзюць к бабкам. Бабкі памагаюць: гладзяць эты жывот, гавораць там. І праходзіць.

*– Ну, а руку калі сільна абрэжаш, як кроў суняць?*

– Нада, хто на полі, у любога чалавека на блізасьці выняць нескалька *нітачак* з адзежыны і прыкласьці к этаму пальцу. І астаноўліваецца кроў.

**Зап. У. Лобач у 2005 г. ад Казлоўскай Варвары Іларыёнаўны, 1921 г.н. у в. Яськаўшчына.**

**4**

**Валасень, рожа, зглаз, упуд**

– Валасень? А чорт яго! Быў у мяне на пальцы на наге. Балеў – не магла трываць. К бабкам езьдзіла, даўней былі ў Якубаўшчыне.

*– А з чаго той валасень бярэцца?*

– А Бог яго знаіць. Вот хадзіла, рабіла і неяк я, можа, неяк націснула на яго (палец) ці калоша была цесная. Ну во і стаў балець палец. Прама каля нахця, тут. Патру, патру яго ці памажу чым – трошку палепшаіць, а тады апяць за ноч... Ну і я разы верна тры езьдзіла к бабке і яна загаварыла мне яго.

*– Можа і пра рожу што раскажыце?*

– Была, была рожа. Тожа бабкі вылечываюць. Мне тожа на наге было. Станіць нага сіняя і краснымі пятнамі. Во, якая халера бываець! Ходзіш, ходзіш, а во, як прыкінецца за нач. Ну і ўсё загаворам.

*– А калі зглазяць чалавека, што можа быць?*

– Ад зглазу усячына бываець. Калі хочаш, можаш і памерці з глазу. Сільна яно такое дужа страшнае.

*– А як дазнацца што сурочылі, а, можа, прастыў?*

– Прастыў, дак яно што ў баку забаліць ці ў сьпіне, ці галаве. У мяне застынець галава – тады такія колькі ў галаву. А з глазу – ходзіш як дурак усё роўна. І ў мяне было. А бабкі этыя узнавалі на вадзе. Гляніць на ваду: “Не, – гаворыць, – гэта ў цібе не з глазу”. Во і з упуду к бабкам езьдзяць. Так жа ён ня пройдзіць ні як. У мяне ж унучка маленькая была і тожа, бывала, дачка гаворыць: “Прастыў, верна”. А павязець к бабке, тая і гаворыць: “Не, гэта не прастыў, гэта – з упуд”. Тады ж глядзіць на ваду і гаворыць: “Во, – гаворыць, – сабачая шэрсьць – спужаўся значыць”. Яны ўсё зналі! І бывала ж раньшэ павіхнеш руку ці нагу, ці што там. Эта ж былі такія дзяды. Шчас табе тут пашчупаіць, пашчупаіць, пацягнець руку. Хряп! І рука станець на места.

**Зап.У. Лобач у 2005 г. ад Лебедзевай Анастасіі Іллінічны, 1904 г.н. у в. Яськаўшчына.**

**5**

**Пра хваробы**

– Рожа? Я ня знаю ад чаго яна прыстаець. І на ліцэ можа такімі краснымі пятнамі. Нада тады *лягушкін крёкат* засушыць. Эта, як выводзяць сваіх лягушат, такая яна сьлізкая дзе на сажалке якой. Вот, нада знаць што гаварыць і прыкладаць той крёкат. Сабіраюць, сушаць яго на печке.

*– А волас ці валасень, што гэта такое?*

– Эта – панарыца па-вашаму, а па-нашаму – валасень. А ён жа усякі бываіць. Бываіць за нохцем, бываіць сустаўны, бываіць і костны. Не дай Бог! Косьць выходзіць... Пад нохцем – эта яшчо не так апасна. А костны – не дай Бог! Эта вот нада надзяваць пярчаткі, як работаеш з зямлёй. Вот ат этага бываіць скрабінка якая там і валасень тады... Костны – эта толькі хірургі паможуць, а пад нохцем – каласы бяруць, хто знаіць, вадзічку льюць і выходзіць тады той валасень.

*– А калі спужаецца дзіцёнак, што рабілі?*

– У мяне дочка спугалася была сабаку. І саўсем жа гаварыць не стала, пісацца стала. А тады Маша, бабка такая, яна памёрла ужо. Яна тады абстрыгла этага сабаку і курыла на пароге, і гаварыла, гаварыла, гаварыла. Вот на дымку дзяржала і гаварыла. І памагло. І гаварыць стала нармальна, і пісацца перастала.

*– А калі дзіцёнак не спіць, крычыць ноччу?*

– А эта ў яго *"радзімая шчацінка"* . Эта такая дзікая шчацінка, як у сьвіней, і яе нада *хлебам* катаць (па целе) і прыгаварываць. Эта кагда пакупаюць рабёнка. Бываюць жа і бальшыя валасы выраждаюцца.

*– Калі во сярпом ці чым руку абрэжаш, чым кроў суняць?*

– Ну, эта ёсьць сьпецыяльна такія богамаленныя людзі – ёгі – яны кроў астанаўліваюць.

*– А залатнік што такое?*

– Эта вот, як сарваўся – панос тады, апеціту нету. Тожа вастанаўліваюць бабкі. Гладзюць (жывот), завяжуць крэпка, скажуць, што вот хадзі тры дня, не сьнімай пояс і ў ямку не ўступі ў якую, каб не парушыць. Ёсьць бабкі, ёсьць! Вот родзіць жэньшчына, не скарачаецца матка доўга. Знаеш, как мучаецца! Кровацячэньне і кровацячэньне. І ёсьць бабкі. Пашэпчыць, пагладзіць – і ўсё, мігам вылячыць. Раньшэ ж сьпецыяльна хадзілі к ім. Цяпер жа – у бальніцу, лякарства можа якое дадуць. А раньшэ крыцыць і усё – не скарачаецца. Толькі к бабкам.

*– Можа хто і зубы загаварываў?*

– Знаў адзін дзед. Этат загавар знаў Залет – латыш. Ой, памагаў! Адзін старык памёр із зубамі усімі. Дык гаварылі, што во як Залет загаварыў.

**Зап. У. Лобач і студ. ПДУ: А. Кажаноўская, Ю. Пракоф'ева ад Казловай Людмілы Іллінічны, 1932 г.н. у в. Бржэзова Яськаўшчынскага с/с.**

## 6
## Пра хваробы

– Раньшэ лячылі рожу бабкі, яны зналі загаворы. Рожа – эта, цьху, не перавышая нідзе... Эта можа быць і на ліцэ, і на назе – красьніна такая. Красная пятно, яно чэшацца, а тады становіцца ба́гравым дажа. І валасяні́ былі ад цяжолых работ. Вот ад дойкі абычна. У мяне самой быў валасень на пальцы. Гэта дажа бываіць, што костачка праяўляецца, як быў адбалеў у дзеда маяго. Врачы лечылі, лечылі, а нічога. К бабкам нада. Цяпер такіх бабак няма – павымерлі ўсе.

– *А як дзіцёнак спужаецца?*

– А гэта і цяпер ёсьць. У Лёзьні. У мяне самой было ад упуду. У мяне сын старшы, ён з 57-га году, цяпер у Маскве жывець. І яго так... Была тут калетка і во тут дзьверы. А быў сасед, а ў яго сабака бальшы, такей рабый. А ён во гуляў, а яму яшчо пяць лет, этаму мальчугану. І закрыта калетка – мы баяліся, каб ён на дарогу не вышаў. А сабака як бег аттуда, як гаркнуў. Ён спужаўся і закрычаў: “Мама, мама, сабака!” Ну і мы і не замецілі. Дні два прайшло і Сашка мой не гаворыць ужо “мама”, а толькі “м-м-м”. І усё! “Мама” не гаворыць! Я давай тады ў Таронкі мамке сваёй званіць: “Што такое?” Я гавару, што саседаў сабака атарваўся і яго спужаў. Ну, мы яго захапілі і ў Калышкі – там бабка была. Давай яго туды везьць к бабе той. Яна дзелала яго там. Яна курыла, пад курашэсьць яго насіла. А тады сказала мне пастрыч таго сабаку. Загаварыла яна (стрыжаную *поўсць*) там што-та і ў мяшочак паклала. Сказала той мяшочак пакласьці яму пад галавашкі. У сабакі хрыстом стрыглі у трох местах: на лбу, на сьпіне... Хадзілі ж, сабаку таго дзяржалі, я стрыгла. І пад галаву клалі. І палу̀ччала. І малец чэраз нядзелю стаў гуляць, стаў разгаварываць як нада. Вот чаго ёсьць такія картавыя? Эта – спужаўжы быў рабёнак – не даглядзелі радзіцелі. Вот ён і астаўся заікай.

– *А сурокі ці зглаз з чаго бывае?*

– Эта мінута такая.

– *Дык любы можа сурочыць?*

– Не. Я не зглажу, а ёсьць такія, што зглазяць і скаціну, і што хочаш. Во тут была адна баба. Яна бывала сама гаворыць: “Я не буду на маленькага глядзець. На рабёнка, на цялёнка – ня буду. У мяне глаз плахі. Як гляну – выцягваецца ўсё".

– *Ну, а як дазнацца сурочылі цябе ці можа прастыў?*

– Ну, зглаз, знаеш... Мяне саму зглазілі былі. Мне было, верна, гадоў дзесяць. Мы лён малацілі у вайну. Там ток быў такі, а мы з мамкай былі. І бабка адна: “А вот як ты, Анечка, так усердна малоціш! Малодзенькая такая, а пранікам!” Ой, як стала мне ноччы плоха! Жара выкінулась, і я стала брэдзіць, і стала крычаць, рукамі махаць. Мяне мамка падхапіла, стала дзяржаць, а я прама як на сьцяну лезу, крычу. І тожа к бабке. У нас у дзярэўні Аляксееўна, бабка старая была. І прышла сюды дамой і лячыла мяне. Вадзічку яна мне давала. Тады на парог мяне станавілі і халоднай вадой з калодца палівалі. Вот сюды, за пазуху – на грудзі, тры разы лінулі. Ажно – ах, ах! Ну, знаеш, як вада халодная. А тая, што нямножка асталася вада, тады сюды, у шчалінку між дзьвярэй лілі. Во так мяне тая Аляксееўна і *дзядзіла*. Ну, дзядзіла – эта лячыла па іхнаму, эта яны (знахаркі) так гаворац што лячыла.

– *Вот жыта жалі, а было ж што рука разаўецца?*

– А, эта! Ну, венік абыкнавенны з бярозы (для лазні) вяжаш храстом. Тады эты хрэст развязываеш і завязываеш на руке. І яшчо *нітка* нада суконная, шэрсьцяная ад авечкі. І носіш. Эта часта бывала, як жнеш.

**Зап. У. Лобач і студ. ПДУ: А. Кажаноўская, Ю. Пракоф'ева ад Зайцавай Ганны Раманаўны, 1932 г.н. у в. Бржэзова Яськаўшчынскага с/с.**

## МЁРСКІ РАЁН

### 1
### Знахар Дрозд

– А восьу дзярэўні Шэрай жыў мужчына, яга звалі Дрозд. Ён памагаў лячыць жывёлу і людзей. Во, у маёй жа дачкі вельмі балелі рукі. Так балелі, што нават урачы не ведалі, што з ёй такое, і як ёй памагчы. І мне тады людзі і параілі звярнуцца да Дразда. Ну, а я ня верыла сначала сільна, ісьці не хацела. Але ўжо сільна рукі балелі ў дачкі. І пайшла тады яго ўжо прасіць. А той Дрозд і гаворыць: “Ты ж мне ня верыш, а я табе памагу”. Ён даў загаворанай вады і сказаў, што калі ты вернешся дамоў, дачка будзе спаць. Вазьмі незарублены рушнік, на трох кутах якога вышыта імя і прозвішча дзяўчыны. Абмыць загаворанай вадой рукі дачцэ, абцерці іх рушніком і ніколі потым яго не сціраць. Ну і праўда! Толькі прыйшла да дому, а дачка спала ўсё гэта ўрэмя, толькі ўстала. Тады і рабіла я, як Дрозд сказаў. І палепшала, і рукі перасталі балець.

А яшчэ баба адна гаварыла, што сама бачыла, як Дрозд вызываў віхор на пшаніцу. Добрая пагода такая была. А ён стаіць каля поля, каля пшаніцы, раскінуў рукі і пачаў імі махаць. І раптам як узняўся сільны вецер, які ўсю пшаніцу паклаў на зямлі.

*– А чым плацілі яму людзі?*

– А як памагаў людзям, ён нічаго не прасіў. Нейкая жанчына пазычыла бутэльку гарэлкі, каб аддзячыць яму. Ён узяў бутэльку, патрос яе ў руцэ і сказаў: “Калі няма сваёй, не трэба пазычаць”.

**Зап. У. Лобач у 1997 г. ад Гаціх Соф'і Мікалаеўны, 1942 г.н. у в. Алешчынцы.**

### 2
### Чараўнікі і знахары

– І вот ёсьць такія, што зробяць: то сьлівак нету на вярху, то малака мала даець. Во як зробяць!

*– А як так можна зрабіць?*

– Панімаюць! Вот выбяруць такі дзень. Называюць чарадзейным. Вот найбольш як на навалуніе буваіць. Гэткай парой, кажуць. І тады прыдуць да цябе чонебудзь адалжат. Тады адалжыш тамака чаго-небудзь. А што яны зробяць. Мы жа ня відзім, што яны зробяць. Не станіць у каровы малака, ані слівак не станіць. Во як дзелаюць!

*– А толькі карове можна зрабіць?*

– І людзям могут зрабіць, што людзям будзіць балець. Ня з’езьдзіюць да знахара, дык умерці могут. І толькі чарадзействам гэтым, гузламі гэтымі. Вот прыдуць адалжаць што-небудзь, а не, есьлі врэдныя, што яны табе прынясуць: п’еш іхнае – тады табе врэднае будзець. Во як!

*– А ці многа раней такіх людзей было?*

– Многа, але цяпер многа паўмірала. Дзеці толькі іхныя пазаставаліся. А даўней многа. У майго дзеда, бацькавага, браты – два ўмерла. Есьлі што – галава і галава. Прывязуць урачэй – врачы даюць усё. Галава і галава. Нядзелькі дзьве, тры і паміраюць. І тады адзін умер у бацькі брат. Ну, ужо, вот, армію, пад дваццатку падхадзіл… Ну вот гэтага пахавалі. Нядзелькі дзьве прашло, тады другі

гаворыць, што яму галава баліць. Вот ён сабраўся і скоранька паехаў да врачэй. Прывёз урача, абратна ўсяго надаваў і расказаў усё. А ён і п’ець, а галава як балела, так і баліць. І таблеткі ўсё браў. І гэтат паміраіць. Пацягаваецца перад сьмерцю і гаворыць: “Гэдак цяжка паміраць!” Ужо і другі памёр. Тады сказалі едзьце скарэй да знахара. Паехаў да знахара, а знахар на ваду сказаў, што ім так зроблена. Усе б умерлі!

*– Усе ў родзе?*

– І мой бы бацька, і другі бацька, і сёстры – усе б паўміралі. Так ім зроблена!

*– Ну, а ці адрабіў той знахар?*

– На вадзе паказаў. Ну, нешта ж там рабіў. Ці ёй худа было. Ну, нешта ж ён быў зрабіўшы гэты знахар… У нас у Полацку ро́дзіна ёсьць. І малец тут і умер. Ужо даўно. Пайшоў у туалет – сійчас ляжыць у туалеце. І як забалеў на длінную балезьнь, мусіць, рак. Тады ўжо паявіўся. І ўжо спалязаваўшы было. Як пусьціць ісьці, ён у адзін бок кідаецца, у другі. Яна і ў Ленінград яго вазіла, усюды вазіла. Нідзе рады не далі. А тады, як умер, тады некуды з’езьдзілі і сказалі, што яму так зроблена было.

*– А ці можна было б адрабіць рак?*

– Ну, есьлі б ранейша, атрабілі б. Раней. А еслі ўжо у большае, ужо ўцягнулася, рак еслі ўжо паявіцца, дак тады цяжка яго атрабіць. Еслі б на скорым разе, як он начынаў толькі – тады б можна было. Так яны ж ня знали з чаго.

*– А ці ёсць зараз дзе знахары?*

– У Глыбокім ёсьць такія, што паказваюць на водах. За Глыбокім ёсьць. Не ў самім Глыбокім – за Глыбокім ёсьць. А яго называлі Далманам. Тады, можа, ён тот умер. Можа, дзеці ягоныя. Хто забалеюць – з'езьдзіюць. Вылечыць таго чалавека, еслі на скорым разе хвацяцца… Ён маленіем лячыў. Богу маліўся, панімаў. Пашэпчыць, пашэпчыць над табой, зробіць вады. Ты націраеш. Сьпіна баліць – атойдзець. Там рукі баляць – атойдзець. Там жа тое, тое... Ён памагаў. А яны апазьніліся.

*– А тут нідзе няма? Можа ў Ісце ёсць?*

– У Дзісьне была. Тая умерла. Тая магла і на вадзе паказаць. Паедуць да яе, яна узнаець. Ці малако ў яе атнятае, ці сьліўкі. Прыдзець і скажаць што.

*– А зараз тут людзі калі захварэюць, куды яны звяртаюцца?*

– Мусіць да Да́лмана і езьдзюць. А, можа, дзе яшчэ ёсь. Я толькі ў Дзісьне знала… Ну ёсь толькі такія, што ад уроц, ад упуда, эта загаворам. А большае што, вот малако есьлі атнімуць, то ўжо нічога ня зробюць. Нада да таго, што на вадзе паказываець. Тыя ўжо панімаюць лепей. Вот аднята ў цябе сьмятана – яна дасьць вады. Дае, вот прыедзеце дамой. *Крапіўкі* нанясіце, *мукой* асыпце, там *хлеба* накрышыце, каб яна з’ела… Ужо пойдзеш даіць – яна спакойна стаіць. Ужо і малако явіцца. Усё-усё ўжо ў яе палучаецца. І вады дасьць. То яе ўмыць, то на хлеб паліць.

Мая сястра жыла́, ногі балелі. Ездзіла да Да́лмана да гэтага. Паехала, яе загаварывала (напэўна, дачка Далмана). Дак казала: "Як толькі палажыла рукі, перахрысцілася, начала, – кажаць, – маліцца Богу. Дык з мяне цяжар такі сунуўся, сунуўся, як бы. І аж да ног усё ссунулася. Мне лёгка стала і ўсё.” Цяпер ён умер. Мусіць дзеці ягоныя (дапамагаюць). Ён тады старый быў, як сястра мая езьдзіла. Гэта ўжо болей, можа, прайшло як дзесяць гадоў.

*– А дзе ён так навучыўся? Адкуль ён так умеў? Можа, Бог даў? Можа, людзі навучылі?*

– За Віцебскам, ці яшчэ дзе, я не знаю, была старуха. І яна гэтак панімала. І ён да яе езьдзіў вучыўся. Да і з нашай стараны ляжала баба: сьпіна і сьпіна ёй баліць. Не вылечваюць врачы. І ў Дзісьне ляжала, у Язьне бальніца ёсьць. У бальніцэ, дзе ляжала, не вылечваюць. Адправілі яе ў Віцебск. А ў Віцебску пасаветавалі да гэнай бабы. І яна выпрасілася ў врачэй і паехала да гэнай бабы. Гэна баба загаварыла ваду, сказала: "Пі, націрай сьпіну." І яна водой вылячылася, а врачы сказалі, што гэта ў яе радзікуліт. Як бы яны вылячылі яе. А гэна баба сказала, што шпік захаладаны быў, ці што там у яе, я ня знаю. Врачы б маглі так ня вылячыць… Мужык ейны умер ужо, можа, як пяць гадоў, а яна і сягоньня жывець.

*– А як гэтых людзей называлі, што дапамагалі лячыць хваробы?*

– Знахарамі. Усіх гэтых. А гэтых – калдуны ды чараўнікі. Гэтых, каторыя падрабляюць. А гэтых знахарамі называют. Яны на вадзе пакажуць і добрае, і благое. Што захочыш пакажуць.

*– А ці бралі што знахары за тое, што дапамагалі?*

– Ну, толькі так гаварылі: сколькі чалавек дасьць.

*– А што звычайна давалі?*

– Усё раўно давалі. Хто тройку, хто пяцёрку. Як хто. Як прыдуць – узнаюць, які багата жывеш, які бедна. Есьлі багата – болей даець. А можа скажуць каму (колькі). Мая сястра езьдзіла, сказалі, сколькі далі, столькі і добра. Тая пяцёрку ці болей дала. А другі раз езьдзіла, яшчэ, можа, давала.

*– Але звычайна давалі грошы?*

– Ага, грошы. Ён жа болей нічога не браў. Да Далмана сястра езьдзіла, а тады другі раз езьдзіла. Тады дваццатку была даўшы. Эта сама, ён не ґаварыў, сколькі даваць. Яна сама яму дала. Дык вот тады ён быў стары, дык, можа, цяперака сынкі былі ды, можа, дачкі. Дзеці, можа, цяпер ужо знают. Вот тады стары умер. І вот і цяперака, што дзе каму касьнецца, дык ніхто не вылечаець, каць: "За Глыбокае, – каць, – да Далмана паедуць."

*– Ну, а калі там па-дробнаму? Можа, там дзіця ў каго спужаецца, або рож ў каго?*

– Вот у Сяргейчыках жыла жэньшчына нейкая. Балезьнь была, *завушніцэй* называецца. І ў чалавека бываець. Яна ячмень загаварывала. Загаворыць ячмень, а тады яго сушы, ці стаўчы, ці змялі. Але найболей скатам гэта ўсё. У скатоў каля вушэй там нейкія сьвінкі называюцца. Што такія гузы пад гэтым, што врачы ня вылечыць. Толькі гэта памагаіць… Тады за Дзісной нейкія Бяляны есьць пад Мёрамі, дзярэўня. Там болей маскалёў жывець. Дык тады была (жанчына), а цяпер ня знаю ці яна ёсьць. Мая сястра тожа езьдзіла. Прыходзіць і кажыць, што ў цябе баліць, чым лячыцца і ўсё.

**Зап. У. Філіпенка у 2003 г. ад Дземідзёнак Галіны Сямёнаўны, 1934 г.н. у в. Шарагі Язненскага с/с.**

## 3
## Пра хваробы і зёлкі

*– А якія зёлкі сабіралі?*

– Бралі *чабор* пахнючы, *пуднік*. Сушылі на зіму.

*– А пуднік ад чаго дапамагаў?*

– Ад цемпературы, ад прастуды, еслі спужаўшыся то тады. *Маліньнік* сушылі з ягадамі, на чардак тады торкалі.

*– А маліннік ад чаго?*

– Ад прастуды, ад кашля, ад цемпературы. У мяне малая перабалела.

*– А жаўтуху не лячылі?*

– Ну, лячылі мы тады, не знаю паілі, сказалі што ў пацёмках нада лячыць, ну кравакь абвешваючы ў цемным кутку.

*– А вось вы казалі, што зелкі свянцоныя, а што не свянцоныя нельга было даваць?*

– Ну, маліньнік не сьвянцілі, травы розныя сушылі і пілі, і ў царкву насілі сьвянціць. Маленькіх дзетак у *рамашачках* купалі.

*– А ад чаго рамашачкі дапамагаюць?*

– Маленькім заварвалі і піць давалі, кубышачкі маленькія.

*– А як бабкі рожу замаўлялі?*

– Ну гэта там ўжо сьвятое ўспамінаюць, мне шэптамі нешта, малітву чыталі. Бабка на сучок нешта шэпчыць, хрэсьцікі ставіць, і тут тады пашэпчыць, кругі загаварвала, памагала. У мяне валасьнік быў, рэзалі, рэзалі, кнаты ўставілі, а потым кажуць ідзі куды-небудзь да бабак. Як стала хадзіць дык больш няма такіх. І загаварыла мне палец.

*– А як яна вам яго загаіла?*

– Малітвамі. Дажа наша бабушка валасьнік выганяла. Нада сасновыя веточкі злымаць, ну зрабіць такую, як памзалеку і тады яна неяк попел вадзіць, ну, і гэту, руку туды лажыць, і нешта туды пераліваіць, і як плісьнець гэтым сасновым, а там нармальныя валасы. Вось такія як у чалавека на галаве. Валаснік точыць і точыць, можа дажэ яміну аставіць, есьлі не ўбраць.

*– А як ён туды залазіць?*

– З нейкай балезьню, ці можна замачыць. Ен прама ад касьцей пачынаецца.

*– А валасы гэтыя якога колеру?*

– Ай серанькія, сьветленькія, невялічкія такія, як нітачкі караценькія.

*– А як рожу замаўлялі?*

– Яе замаўлялі шэптам, можа малітвай якой.

*– А ваду давалі?*

– Не давалі. Загаварвалі так рожу.

*– А як вы лячылі?*

– У мяне была на наге, нага сіняя была, распухла. Сьвёкр займаўся і прайшло. Врачы і зараз ад гэтай балезьні да бабак адсылаюць.

*– А як гэтыя бабкі займаюцца гэтай справай іх хто-небудзь вучыў?*

– Вучылі адзін аднаго, во тут у нас старуха. Яна сваю нявестку вучыла. Нявестка гэта мяне вучыла. Я запісвала, можа гдзе гэтыя бумажкі валяюцца, я забыла.

*– І можа любы чалавек лячыць?*

– Ну гавораць, хто первы нарадзіўся ці пасьледні. Ну каб ў Бога верыў, малітвы знаў.

*– А гэта ад Бога?*

– Ну.

*– А кажуць, бацюшкі ругаюцца, калі гэтым бабкі займаюцца. Кажуць што гэта паганае.*

– Яны тожа памагаюць, Богу моляцца.

*– Ну а вось тады чаму так бацюшка кажа?*

– Ну, усякія бацюшкі ёсьць, можа бацюшкі самі квэркаюць шаптухам. *Бацюшка ж не Бог і не ўрач.*

*– А вось можа былі такія людзі, што косткі ўпраўлялі?*

– Гэта тожа бабкі маглі лячыць. Я на качэлях калыхалася – нагу падвярнула. Мне яна нітачкай загаварыла. Суставы мерыла і нітачкай вузялкі завязвала. Тады нітку мне на наге завязала. Тры разы гаварыла – тады я хадзіць стала. На другі дзень пайшла, а на трэцці мне зусім добра стала, ніякі ўрач мне б так не памог.

*– А вось калі костку ламалі, што тады рабілі?*

– Ну тады ўжо да врачэй абрашчаліся.

*– А бабкі за гэта не браліся?*

– Мне бабка загаварвала, яна нейкую малітву знала, вось і загаварвала. Зараз гэта ў народным доктары пішуць.

*– А адкуль гэтыя народныя саветы бяруцца, таксама людзі хадзілі збіралі?*

– А яшчэ мая дачка вычытала, што адна малая дзевачка і яе бацька інвалід, радзілася і не хадзіла, а ее было лет пад сем і паслала мая дачка гэтай дзевачке падарак, і прыйшла яна тады. Яе нейкая бабка вылечыла з Расеі нейкімі костачкамі ў лесе. Яна выстуквала гэтымі костачкамі ўсе цела, і яна пачала хадзіць.

*– А вось калі са скурай праблемы, што рабілі калі чэшыцца, лупіцца?*

– Я знаю, што ў маей пляменьніцы былі жоўтыя плямы на руках, мая мама вадзіла яе да бабкі ў Дзісну, і яна ее вылечыла. Ваду загаварвала і яна мылася гэтай вадой і вылечылася, толькі маленькія плямачкі засталіся.

*– А вось якія зелкі выкарыстоўваюць часцей? Вось вы казалі чабор, пуднік можа яшчэ што-небудзь?*

– Ну не знаю, можа ёсьць яшчэ якія зёлкі, зараз прадаюць у апцеках.

*– А самі вы зараз нічога не збіраеце?*

– Ну, цяпер не збіраем, зараз купім якую-небудзь таблетку. Іх многа піць нельзя – там усякая атрава.

**Зап. экспедыцыя ПДУ у 2003 г. ад Дземідзёнак Галіны Сяргееўны, 1934 г.н. у в. Іст Язненскага с/с.**

### 3

### Замовы і кніжная традыцыя

*– А вот сабе можна загаварываць?*

– Ай, я не знаю. Можа, і можна.

*– І вось Вы з гэтай кнігі (томік “Замовы” з серыі БНТ) бераце і замаўляеце?*

– Ну, я так і сама. Умела рожу загаварываць.

*– Рожу загаварывалі? Гэта каб астанавіць яе?*

– Ну, каб астанавілася. Гэта нада ня толькі этыя слава… Вот на муку магу. *Аржаную* толькі *муку*, на жытнюю.

*– І што трэба з мукой той рабіць?*

– Пасыпаць нада, дзе баліць. Дзе апухшы. Пасыпаць, а наверх сінюю бумажыну палажыць і ўсё.

*– А хто вас вучыў гэтаму?*

– Старушка мяне навучыла. Сваім эту рожу загаварывала.

*– А скажыце, калі ласка, як вас бабуля гэтая навучыла загаворам?*

– А загаворам? Яна там даўно загаварывала.

*– А вы помніце, як яна загварывала?*

– Дак эта ж сакрэт. Эта ж яна ціхенька мне гаварыла. Яна мяне так навучыла маліцца і ўсё. Тожа вот як па славах па гэтых (паказывае кнігу “Замовы”). Малілася так: *“Шла Марыя пшэз косцел. Нёсла ружэ пэланкаты. Пумні пшэдзе пэлан стане. Здровусь Марыя.”* Тры разы нада. І ня дыхаючы! Вот прадыхнуць можна адзін раз, як вот ужо… Яшчэ. І дмухнуць нада. І апяць... Тры разы. Пака малітву гэтую адзін раз адмоліш – нада ня дыхаючы, а тады можна. І апяць. Эта тры разы нада.

*– І малітвы ўсе па-польску?*

– Па-польску. А можаце і Багародзіцу. Эта "Здровусь Марыя" – тая самая "Багародзіца".

*– А можна лячыць любыя хваробы? Ці некаторыя не лечацца замовамі?*

– Не знаю! Тыя ж не напісаны (паказвае на “Замовы”), якія не лечуцца.

*– Усе можна вылечыць, так?*

– Дзе эта кніга? Пачытайце ж, паглядзіце! Рак? Вот мусіць няма. Мусіць няма! Чытайце. Тут жа заглавіе! Паішчыце што.

*– Ну а ўсё, што тут напісана праўда? Усё памагае?*

– А Бог яго знаець! Паможаць, не паможаць… но Богу нада верыць! Тады паможаць. А то не то што, думаеш: “А-а!” Нада Богу верыць!

*– А вот другіх людзей, жыда, напрымер, можна замаўляць, калі ў іх хвароба якая?*

– А чаму ж не? Мы ж усе з жыдоў паходзім! Мы ўсе з жыдоў… Да! Да, мы ўсе з жыдоў, хоць жыды замучылі Ісуса Хрыста…

**Царква і знахарства**

*– А не ругаў ксёндз за то, што так лячылі?*

– Ксёндз? Я ксёндзу не казала гэта. А вот гэта бацюшку паказывала гэту кнігу (“Замовы”). Мне сказалі, што эта грэх. І ён мне сказаў: “Не, эта харашо.” Есьлі к плахому, тожа есьць. Но к плахому я не хачу. Я Богу веру, ня чорту.

*– А то некаторыя бабулькі кажуць, што бацюшка, гаворыць грэх этым занімацца.*

– Няпраўда! Няпраўда! Бацюшка глядзеў. Я яму кнігу паказывала. Ешчо хацела, штоб благаславіў. Патаму што мне старычок падарыў. Нічога, памагала. А што я… Там жа ж Богу тожа молішся. Як можаць быць грэх?! Ёсьць такія, што порцяць і кароў... Ёсьць чараўнікі! І тут ёсьцека… замовы ад чараўнікоў. І ад чарвей, і ад усяго… Ад усяго!

**Чараўнікі**

*– А што вы пра чараўнікоў знаеце?*

– Ну што я знаю пра чараўнікоў? Порцяць кароў, ну што я знаю…

*– А людзей могуць?*

– А чаму не? Могуць! А чорт іх знаіць! Да злога я дажа не хачу гаварыць.

*– А што пра іх расказывалі, можа?*

– Ой, ну, кароў порцяць. Вот як выганяюць кароў первы раз на Івана. Ня можна. Неяк чаруюць. А праўда, порцілі. Нам цыганка загаварыўшы была. Што карова ўцякала і ўцякала. Да адных там. І ўцячэць. І гвалт: і равець, і равець! Тая цыганка, як вады дала. Дак яна прыляцела, і глядзіць, і кажаць: "Не адалжайце нічога, не адалжайце." Як загавор, няможна адалжаць нікому нічога. Як загаварываеш. Ну, і прыляцела яна да нас: "Пазыч бойкі!" Дзе масла б'юць. Я гавару: "Бойкі ў нас нет. Аддала некаму!" Я абманула. Дак яна стаяла-стаяла, да хоць саломы – у нас там такі ганачак быў саламянный, крыльцо такое – да хоць саломы выцянула, да пайшла. А калі яна нічога не схваціць, ёй дужа блага будзіць. Можа і ей паврадзіць.

**Зап. У. Філіпенка і студ. ПДУ Я. Навічонак у 2003 г. ад Загорскай (Альшэўскай) Петрунэлі Усцінаўны (Юстынаўны), 1930 г.н. у в. Язна.**

**4**

**Глаз**

*– А вось любы можа сурочыць ці толькі ведзьмак нейкі?*

– Не! Эта каторый гіпнацізіраваець вабшчэ. У яго глаз… Я вам раскажу адзін эпізод. Жыў водзека чалавек. Ён мне родсцьвеньнік. Ідзе ён кала сажалкі, а яго родная цётка выпусьціла уцятак дзесяць штук. А яны, гэтыя уцяткі, значыць, плаваюць. А ён, прахадзя, сказаў на цётку: "Гэткія малыя. І няўжо яны не патопяцца?" Яна пакарміла і пайшла. Прыходзіць: усе ў лужыне дагары нагамі ляжаць! Выходзіць – патапіліся. Во, які глаз у чалавека!

**Зап. У. Лобач у 2003 г. ад Шаршнёва Анатоля Антонавіча, 1923 г.н. у в. Шарагі Язненскага с/с.**

**5**

**Фітатэрапія**

*– А шчытавідку як вы лячылі?*

– Проста піць *чабор*, піць *парное малако* і 5 капель *ёду*. У мяне быў зоб. Я паехала ў Дзісну на апірацыю. І не было ўрача. Была праверка, абнаружылі зоб, направілі ў Віцебск. Там агледзелі – харошы зоб, разойдзецца ад таблетак. Прыехала ў Віцебск, а там дзівіліся: "А чаго гэта так у вас зоб скараціўся?" Я сказала, як лячыла. Тры месяцы піла.

*– А чабор яшчэ ад чаго дапамагае?*

– Ад нерваў, а *мёд* ад зобу таксама. Тры разы ў дзень адна чайная ложка. У нас памёрлі пчолы, а ў гэтым годзе прыляцелі – вядро мёду прынесьлі.

*– А ад чаго мёд дапамагае?*

– Ад усіх балезьняў, што есьць на сьвеце! Памагае трава, а пчолкі зёлкі зьбіраюць. Ад радзікуліта, почкі лечаць – гэтая *расіца* дапамагае.

*– А праполіс?*

– Ад усяго. Кідаюць у водку. Якая яна пахучая!

*– Якія яшчэ зёлкі збіраюць?*

– *Рамашку*. Яна ад усяго. Ад жалудка, эта малым дзеткам. Толька во як нараджаюцца дзеці, вот як радзіліся. І ім адразу даецца, як толькі радзіўшыся. Кіпяціць і даваць.

*– А ад чаго гэта?*

– Ад усяго. Вот як яны яшчэ крычаць малыя рабяткі. Кіпяточак, абізацельна! Яны ж балеюць доўга гэтыя дзеці… Валасы тожа. Як во кіпяточак і туды ўкінуць. Гэта ж валасы такія шалкавістыя. Гэта ж толькі ад рамашкі. А *рамашка*, каб вы зналі яшчэ ад паносу. Я ж гавару, чуць панос – я яе завару. Хоць маленькаму рабёначку, але абізацельна яе заварыць. Палажыць і кіпяточак – мінут дваццаць. Болей не дзяржаць – эта лячэбнае. Эта як старэйшаму, дак можна папіць болей. І вабшчэ любыя, як вот валер'ян. Яго ж тожа самае… А валяр'ян, эта нада капаць, дзе нізіна… Я і сама капала. А тысячалісьнік, вы жа знаеце? А *краваўнік*, вы жа знаеце, як ён кроў астанаўліваець? Ці робілі вы хоць раз? Ці відзелі вы такое?

*– Не.*

– Няхай во кроў ідзець. Яе ніхто не астанаўліваець. Прылажы *краваўнік* – адразу!

*– А што трэба прыкладываць? Лісцікі або кветачкі?*

– Да! Я пастаяна травой. Вот этата во палец ня гнецца. Гэта як мы… рэзалі ахрап'е. І папала ў гэту… Перарэзала во так во ўсе… сухажыльле. І кроў палілася. Я б сайшла кроўю. А тут гляжу: у нас тут цэлая ахапка (крываўніка). Скоранька прылажыла. І ўсё – чыстая… І тут во ад падрыву во як ідзеш. А чатыры лісьціны: красьненькія-красьненькія цьвяточкі!… Іх там (ля возера) поўна. Яны яшчэ, можа, не цьвіцелі. Вот эта дужа добра ад падрыву.

*– А як ён называецца?*

– Я ўжо забыла. Небальшыя такія. У нас ёсьць цвет – *бальзамінка*, такая лысая. І вот яны ж точна-точна! Вот эта точна ад падрыву добра. І вот, я помню, прыехала я – мы яшчэ там са свякроўкай жылі – з родаў. Пабягу я за вадой і не ўзяла карамысла. А я ж толькі прыехала. І ў дзьвох руках. Ой-ой! Я ж думала, што мне ужо ўсё будзець. А тады гэнай сьвякроўцы сказала, а яна мне пайшла, сійчас насабірала зёлак. Разы два папіла. І ўсё – як рукой адняло! Во! А так ужо ўсё. Разьве ўрач бы даў? Ніколі не даў! Мучыўся б так усю жызьнь! Мая ж сьвякроў – гэта ж, можа, і запісаваць не нада, абы што гэта... Буду такое лякарства гаварыць. Каб вы зналі. Гэта з маім Валерам, з маленькім, што было. Я тапіла пліту, а на пліту ставілі гэта вядро і туды сыпалі муку. Яна ўжо кіпела гэтак, а тады гэтым парасятам давалі. Во такое во варылі вечарам. А яму яшчэ і тры гадзікі не было. Можа, два годзікі было. І я палажыла яго спаць і, думаю, ён сьпіць гэты мальчык. А яго, мужыка, дома не было. А ён, во так во, як тыя дзьверы. А тут у нас во радышкам пліта. Я ж паставіла пад самыя гэтыя дверы, а ён як ішоў, як таўхануў і гэту кашу кіпяшчую разліў і сам во… Такая кароценькая (кашулька) ў яго, і ён у кіпяток, у гэтую гарачую кашу. Вы што, эта ж не кіпяток – эта ж гарачая каша! І зайшоўся эты рабёнак… А ў нас, а ў мяне мама была родная. Мы ўжо перашлі ў гэту хату. Мама гаворыць: "Бяжы скарэй, гэта, ў хлеў, бяры *навоз каровье* і расьцілай на простынь!" Я пабегла і сколькі прынясла, мала. Што было

разаслала на простынь, гэтага рабёнка во так (паклала). І я яго ўзяла, і плечы – як ляцеў, як бразнула! Так і на жывот, і на плячах – усюды! Увесь! І так я яго запелянала яго і скоранька ўзяла, гэта, на рукі. Тады яго стала калаціць, і атыйшоў. Ну і ўсё яму, перастала сейчас жа балець. І я яму паказваю рысункі, сядзім. Так эта сагрэлася ўсё, ён абратна ў крык. Я абратна ў хлеў. І, мусіць, змяніла на вечары разы два ці тры. Каб вы зналі! Нідзе нічога не стала. Гэта, ні адзін пузырок не ўскочыў. Толькі ў пупку, як ён быў поўненькі, засталося – не папала, дак доўга, доўга лячылі гэта. А гэта ж цемпературу адразу здымаець! Так сьвякроў тады, гэта, сядзіць з маім мальцам… Вот я гэта ня помню… Гэта мне мама, а гэта я ўжо знала за гэта, што сьвякроўка сядзела з первым. І боб на гарачай пліце пасыпаны. Яна й ня відзіць. Занялася там с чым-небудзь за гэтым бобам і прылажыў (руку) на гарашчую. І ўсё! І тожа, гэтак сама. Я скоранька ў хлеў, во так во прылажыла. Дажа вот на голую (руку). Раз, другі раз. А яна будзець казаць, а ёй ужо колькі, было дужа многа. Можа, пад восемдзісят гадоў. А яна гаворыць: “Скольска жыву на сьвеце, пражыла, яшчэ такога лякарства ня відзіла! Ай, людцы ратуйце! Адкуль ты гэта ўзяла маладая? Аткуда ты эта знала гэткае лякарства?” А мне мама, навернае, сказала. Як яна тутака сказала ці сама знала, я не знаю. Што во якое лякарства, вы падумайце!.. Як абварыўся, так скоранька! Абсалютна здаровы, нічаго дажа не будзе! Мігам сьніміць, не дасьць пузыру ўскочыць. Так вот, разве я б давязла свайго рабёнка? Ён бы памёр. Я б да бальніцы не давязла! Ёны бы захліпнуўся ад адной болі.

*– А можа вы ведаеце якія сродкі ад суставаў, ад спіны?*

– Каб сьпіна не балела… Гэта ў мамы – вы гэтага ня будзеце рабіць, як вот у горадзе… Я вам пасаветую ад сустаў, гэты *шапатнік*. Знаеце, ёсь такі шапатнік? Такое бальшое лісьце, во? І ад галаўной болі. Вы яго насабірайце і завезіцё дамоў. Яго можна ў сухім відзе, а тады (прыкладываць). Во як я раблю, як панамачкі ёсьць, так я раблю: сядзі на любой жарэ, хоць дзень, хоць два! І гэта ж сільна адцягвае ўсякую боль. Чуць солнечны ўдар – прылажыў і ўсё! Гэта галаўная боль – гэта тожа. І ён прыкладываецца. Жанчына у нас у Сьвірках – саўсім хадзіць не магла! Ужо атнятая гэта нага была. А стала, ёй пасаветавалі, гэтым прыкладаць радзікуліт і атлажэнне салей, называецца хандроз… І во, во гэтым во (вылячыла). А зімой можна засушываць, а так, так сьвежанькая. Вот забалела нага – ты ўкруціў. Карова, відзіце во (ударыла), засталася – адразу ўскочыў. І я стала адразу ўкладаць і болі атняліся. Сьнімаець усякія васпаліцельныя працэсы. А во ў мяне цьвет ёсьць – лечыць негаюшчыя раны… У маей нявесткі тожа не гаілася… А тады мне пасаветавалі – адразу загаілася. Лісьцікамі во гэтымі стала. *Серабрысьцік* ён называецца… Во я знаю, што ад сэрца – *сардэчнік* такі. Ён і называецца сардэчнік. Такія розавенькія цьвяткі. У гародзе, там.

*– А як яго трэба?*

– Заварываць, як і ўсе. Ня корні, як ён расьцець – сьцебялёк гэты, піць.

*– А можа вы ведаеце такую кветачку – дзіванна называцца?*

– Я яе відзела. Гэта ўсё гаварылі, яна ад глістоў добра. Я яе знаю, но яна рэдка бывае. Яна ж такая – дудачка ідзе і многа цьвяточкаў, такія як абляпіха. А *маць-і-мачаху* выж тожа знаеце? Гэта ад грыпа. Лучшае срадство. Як і цьвяткі, этай, ліпы. *Маліннік* яшчэ. *Альвас* знаеце? Парэзы, язвы лечыць, почкі, печань.

*– А што ад насмарку выкарыстоўвалі?*

– Рэзаць *цыбулю* і закапываць сокам. Знаю *падарожнік* ад печані… Проста адразу заварываць.

**Зап. У. Філіпенка у 2003 г. ад Каланда Ніны Якаўлеўны, 1937 г.н. у в. Шарагі Язненскага с/с.**

## 6
## Лекавыя зёлкі

*– А якія вы зёлкі (купальскія) збіралі (як дзеўкай былі)?*

– Зёлкі ўсякія. Якія ёсьць на пожні, такія мы і зьбіралі!

*– І што вы потым з імі рабілі?*

– Хадзілі сьвянцілі ў цэркву, як вот служба. А тады гэтыя зёлкі вываривалі і пілі.

*– А якія гэта былі зёлкі, не памятаеце?*

– Усякія, усякія цьвяточкі. Якія цьвітуць па пожні. Усе-усе! Гэтыя зёлачкі пілі. Ну тады ж, як цяпер, таблетак не пілі.

*– І доўга потым захоўвалі гэтыя зёлкі, што зьбіралі на Купалле?*

– Хоць і сколькі! Яны высахнуць, суханькія. За ікону паложыш. Ілі ў баначку якую паложыш. У мяне дочка прыедзець, ножніцамі пастрыжэць-пастрыжэць, у мяшочак насыпець, і я заварываю іх.

– На стале ляжаць гдзе-нібудзь у заценi. Забалела што – патом гэта заварываеш. А цяпер жа толька таблеткі. Толька таблеткі!

*– А можа памятаеце, якія зёлкі ад галавы або ад жывата?*

– Ад сэрца – *сардэчнік*, беленькім цьвіцець. Тады *упуднік* – ад упуду. Тады *сон*, як сон не бярэць. Вот цяпер нідзе не віжу. Я б і цяпер варыла, піла. Яны ўніз цьвітуць, уніз цьвіточкі – сонныя па полю. Па полю зьбіралі. Не, абы якія зёлачкі не рвалі – калі ад чаго-небудзь зьбіралі! *Канапелькі* такія растуць. Канапелькі зьбіралі.

*– А ад чаго канапелькі?*

– Як баліць мачавы пузыр пілі яго. І я піла іх. Канапелькі гэтыя.

*– А хто вас гэтаму вучыў?*

– Хто ж нас вучыў? Нас вучылі старэйшыя людзі. Старыя людзі нас вучылі. Вот у нас, знаеце, была жэньшчына болей за сто гадоў. Яна ў мяне мылася ў бані. Яна мне сказала, каб мылася толькі *венікам* ліцо. Ніякім там мыла, нічога. Венічкам. Ніколі болькі не будзець ніякай! Я не знасіла ніякой болькі. І цяпер венічкам мыюся, каб маршчын не было. А ўсё роўна ёсьць! (смяецца).

### Крыніца святога Яна ў Чарневічах

– У Чысты Чэцьвер нада ісьці мыцца на *бягучую ваду*, дзе вада бягучая – і памыўся. Ці вот ногі баляць, ці там што баліць, нада памыць, што там у каго такое. Памыць нада…

– Вот вы ніяк не дайдзеце. Ад нас жа Ян недалёка! Вы б паглядзелі, як там вадзіца бяжыць. Там людзі бяруць там, мыюцца… Тут недалёка. Там вада пастаянна бяжыць, яна бяжыць і бяжыць. Капліца зроблена, а Ян такі, во фігура, як чалавек, ну вот як я ростам. Але яго забіраюць у Чарневічы ў цэркву за тое, што яго тут украдуць. А тут у бары красіва: такая пагурак, лагчынка і капліцу новую. У нас брыгадзір ня меў здароўя, і ён рашыў пастроіць новую.

– Дужа памоцная вада! Памыцца самому, і з сабою ўзяць.

*– Усё, што баліць, можна памыць?*

– Усё-усё! І рукі і ногі можна памыць.

– У мяне хазяін быў трактарыст. На трактары паедзем, так мы флягамі прывазілі дамоў. І пілі, і мыліся. І цяпер у мяне вадзіца ёсьць – сасед прывёз мне. Нада верыць этай вадзе, а не тое, што – так!

*– А, можа, што пра гэтую крыніцу (Св. Яна) расказывалі? Чаму там такая памоцная вада? Можа, што казалі старыя людзі?*

– Гэта ўсё ужо пры нас было зроблена. Мы нічога не знаем.

– Ну вот, гавораць, што ішоў чалавек у бор і будзець ён сеч бор. Сячэць ёлку, з гэтай ёлкі пашла кроў. Тады аказаўся чалавек. Кажыць: “Я Іян-крысьціцель. Я должан жыць на вадзе тут.” Гэта расказывалі даўнія, старыя дзяды-прадзеды. Так, стаіць чалавек. Стаіць чалавек: “Тут должан быць Ян-крысьціцель.” Ну,а тады на гэта месца прыхадзілі людзі. Там вада цякла, прыхадзілі. Тады граф Лужыцкі прыехаў, у яго нехта быў сьляпы там. Нехта там быў з дзяцей. Ну, і памог гэтай вадой. І вада гэта зразу памагла. І стаў ідзець там бальны гэты. І ён пастроіў тады капліцу на гэтым месцы.

– І з вялікіх стран, далёкіх едуць – даехаць ня могуць – бяруць ваду.

– Эта вада крэпка памоцная!

**Знахар**

*– А ці былі ў вас у дзярэўні людзі, што болей зналі? Можа раней знахары былі?*

– Да раньша былі знахары. Былі знахары.

*– А даўно іх ужо няма?*

– У мяне вот хазяін памёр. Даваў ваду: ад уроцу, ад упуду даваў! І памагала гэта вада. Вы знаеце, у нас тут даже кароўка была. Мы з ім стаім у хлеве і цярэбім яе, яна нюхае. Так: “Ружоня, Ружоня!” Так гаворым і з ей. Рана я ўстала, прыбегла даіць. А яна то ляжа, то ўстанець. Я прыбягаю: “Уставай! Мусіць, карова наша прападзець!” То ляжа, то ўстанець. Палажыў, зрабіў (вады), я змыла. Усё. Падаіла, на пасту пагнала. Усё памагаў. Маліўся. Маліўся з памяці. Яго навучыла цётка родная. Старанькая старуха яго навучыла. Многа-многа каму даваў гэтай вады. Многа! А як бацюшку гавару: “Што вы не хацелі хараніць майго хазяіна, што ён католік, што ён у цэркву хадзіў, на споведзь хадзіў, усё!” А ён кажаць: “Дажа рускія ў цэркву ня хочуць хадзіць, а ён католік хадзіў.” “Ну, касцёл далёка, хадзіў, – гавару. І вадзіцу робіў. Многа каму памагала. Людзі прыязжалі і каровам рабілі і сабе рабілі.” Маладая прыехала. У ягады схадзіла, пальцы параспухалі – ня можа сьціснуць дажа. Прыехала раненька да ўсхода сонца да нас. Ён ёй загаварыў, яна прыйшла да нас: “Што вам заплаціць?” Ён кажа: “Нічога! У цэркву схадзі – сьвечку пастаў. Нічога, – кажа, – мне ня нада плаціць.” І ручкі ёй палепшалі. Каб вы пад Яна паглядзелі! Вокны ж, мусіць, не забітыя. Я ж ужо не была гады чатыры, не была. А там жа кажны год бывалі мы.

– Прайдзіце да капліцы там, памыйцеся. Памыйцеся самі, рукі, ногі, усё памыйцеся. І вазьміце з сабой этай вады, і піце яе наташчак, эту ваду.

*– А калі піць?*

– Рана ўсталі… Толькі нада памыцца. (смяецца) А ці моліцесь Богу?

*– А чаму не?*

– Перахрысьціся! Ну перахрысьціся! (загад быў выкананы).

– Вы знаеце? Адзін жа не ўмеў хрысьціцца. І быў бальны сам. І скакаў чэраз канаву. Канава такая бальшая. І ён перасякець, кажа: “Эта табе, Божа! – а на гэты бок (пераскочыць), – А гэта мне, Божа!” І Бог яму памог! Бо ён жа ня ўмеў, але сараміўся. А ўмець ня ўмеў. Так ён пераскочыць праз канаву: “Гэта табе, Божа! А гэта мне, Божа!”

– І вот малітва. “Ісусава малітва”: *“Госпадзь, Ісусе Хрысце, спасі і памілуй мяне грэшную!”* Гэта малітва. “Отча наш” – малітва такая: “Отча наш, іжа есі на небясі…” (чытае усю малітву). І вот гэту малітву. Сьпішыце гэту малітву і маліцеся!

– Як бацька навучыў мяне кароценькую. І унукаў сваіх навучыла. “Бабушка! Навучы!” Ну, навучыла: *“Спацькі кладуся, на Божаньку здаюся! Хрэст переда мной, Бог са мной. Дай Бог мне ночку перажыць і дзянёчка даждаць! Госпадзі, памілуй! Госпадзі, прасці!”* Во, і ўсё. Я і ўнукаў навучыла.

– І вот гэту малітву памаліцеся (мела на ўвазе “Ісусаву малітву” або “Отча наш”) і піце наташчак эту ваду. Будзеце здаровы – нікакой балезьні!

*– А, можа, засталіся малітвы, што ваш хазяін загаварываў?*

– Не, не! Ён з памяці ўсё, з памяці ўсё рабіў. А я кажу: “Во, як бы ты мяне навучыў!” Рэнька усё умеіць!

*– А дзе яна жыве?*

– Вы ў яе былі, яна казала. Яна, можа, не захочыць (расказаць). Ну яна даець ваду. Ад усяго даець.

*– А як яе завуць?*

– Завуць яе Рэгіна. А па бацьку яна Герасімаўна… Шчарбіцкая, мусіць.

*– І яна дагэтуль гэтым займаецца?*

– Яна усё ўрэмя.

– Дужа памагае. Яна прыдзе да маяго хазяіна, а ён ідзець тады да яе. Скаціне памагаіць. У мяне вужака прыпаўзла, вот тут, за хлеў і ўкусіла курку ў мяне. Ай! Курка ходзіць мая, як лунь. Кажу: “Саседачка! Нада, каб хто-небудзь яе засек і узяў сабе. Я не хачу кураціны.” А яна: “Чаго? Яна пераходзіць во.” А ў яе распохла усё, бліны во гэткія во! Панесла яе, загаварыла і сягоння гэтая курка ў мяне.

*– І людзям яна дапамагае?*

– Ага. І людзям. Вот сурочыць там цябе хто, прагаворыць. Зробіцца плоха, млосна, галава баліць. Яна загаворыць, вадзіцы гэтай пап’еш і лягчэй.

– Зробіць вады, а загавор – малітва.

*– А ці былі такія чараўнікі, што шкоду рабілі?*

– Цяпер ужо, мусіць, няма.

– Ёсь такія ўрэдныя людзі. Ці вока там, ці язык такі. Ён табе заўрадзіць. Заўрадзіць табе…

**Зап. У. Філіпенка і студ. ПДУ: В. Наважылава,Т. Ржэчыцкая у 2003 г. ад Жук Еўфрасінні Гаўрылаўны, 1925 г.н. і Шчарбіцкай Вольгі Сямёнаўны, 1923 г.н. у в. Пучкоўскія Язненскага с/с.**

**7**

*– А, можа, пытаеце калі-небудзь дапамогі ў святых?*

– Ну, як малюся, канешне. Кажды вечар малюся і кажу: “Памажы¸ Божа, каб здароўе было!” Цяпер Сьвяты Шарбель гэты пашоў! У мяне даўленьне баль-

шое, дык на галаву насіла, а тады сьцёрла. Дык лажуся: “Дапамажы, Сьвяты Шарбель!” Там малітва яго (напісана).

*– А што, нельга рабіць у святы?*

– Нічога нельга рабіць! Тады то палец абрывае, то палец парэжаш. Ну, што-небудзь ды здарыцца. Як празьнік, тады нічога ня робім.

*– А былі такія людзі, што людзям дрэнна рабілі?*

– Ну, дак гэта я чула, чула, што былі.

*– А што яны рабілі?*

– А хто іх ведаець! Пры мне іх не было. Ні добрых ні дрэнных.

*– А што яны маглі ўтварыць?*

– Ну, што? Ну вот, на скаціну там маглі зрабіць што. І самому: ці забалееш, ці што.

*– А так навошта яны гэта рабілі?*

– Ну, мусіць, ім нада было прымяняць, раз яны такія былі.

*– А што рабілі, як ужо порчу зрабілі?*

– Тожа хадзілі – к большым знахарам. Да. Каторыя атраблялі. Ёсьць такія, што казалі, што і атраблялі.

*– А што ім за гэта насілі?*

– Ну, не знаю. Хто што насілі. А цяпер гэтых знахараў. Цяпер во ў Матырыне ля Ушачы там дзве бабы, кажуць, знаюць тамака, памагаюць людзям у хваробе. Хто езьдзіў – нічога яны не памаглі.

*– Яны, можа, ваду давалі?*

– Ну, ваду там. Хто яйцо загаварываець, хто на бліне загаварываець. Хто што.

*– А вось ёсць знахары, і ёсць чараўнікі. А хто з іх мацнейшы?*

– Той, хто можыць атробіць, наверна, той мацней. Можна, знахар. Чараўнік, ён толькі зло рабіў і ўсё.

**Зап. А. Волкаў, А. Курныш і Я. Навічонак у 2003 г. ад Новікавай Надзеі Сяргееўны, 1929 г.н. у в. Сяльцо Язненскага с/с.**

**8**

**Чараўнікі і знахары**

*– Самі даўней лячыліся?*

– Ну, самі лячыліся, як хто мог. Хто мог, дак даедзе (да бальніцы). А даўней жа ж былі ўрачы, можа. Вось, дзе гэта… у Глыбокім нейкі Шырын быў там. Ён і рак вылечываў дажа. Шырын, здаецца, яго звалі. Я дык ня помню.

*– А гэта доктар быў ці так?*

– Доктар. Там дужа было плаціць дорага… А цяперака, во цяпер жа цыгане толькі хіба хваробу навараժываюць калі. Цыгане, кажуць, ходзюць.

*– А вот ня чулі, што ёсць людзі, якія каровам малако псуюць?*

– Ёсьць гэткія людзі. Гэта называюцца чараўнікі. Вот яны на Купалле тады робюць нешта. Гэтыя чараўнікі званы, што ім робіць. Я, вот, іх не знаю, дык і не знаю, што яны робюць на Купальле. Хто яго ведаіць, дык я не панімаю.

*– А што гэта за чараўнікі? Раскажыце нам, што вы знаеце?*

– Такія самыя людзі. Ужо адна памёрла. Яна умела тожа ваду, умела. Мая тожа свякроўка тожа ўмела ваду робіць ад вужакі. Ад вужакі, ага. Ад уроцу. Яшчэ жэньшчына была, тожа ў Язьне. Робіла ваду ад вужакі і, гэтага, ад уроцу, ад рожы.

*– А адкуль, вот, яны ўмелі ваду так рабіць?*

– Ну, не знаю. Можа іхныя там прэдкі, можа, дзяды, прадзеды. Не знаю, як яны навучыліся. Цяперака, вот, як укусіць вужака, дык ніхто не загаворыць. Няма ж! Нада да врача.

*– А чараўнікі, яны дрэнна памiралі ці спакойна?*

– Адна была ў нас тут старуха, дак дужа не магла памерці. Мучылася страх. Казалі, нада паталок падняць як… Каб памёрла лягчэй. Мучылася доўга… Тады, кажаць, вынілі некаторую дасочку, выйсці каб. Мусіць, чараўнікі гэтыя з нячыстай сілай.

*– Гэта яна ад нячыстай сілы?*

– Да.

*– А тыя, хто ваду ад вужакі загаварываюць?*

– А гэтыя – не. Гэтыя так з Богам. Молюць. Гэтыя людзі, каторыя вужаку, там, ці рожу – гэтыя з Богам.

*– А як іх называюць?*

– А я не знаю, як іх называюць. Ну, так людзі нейкія. Кажуць, нада схадзіць да тэй. Дык паўміралі ж бабы гэтыя ўсе. Адна дзеўка памёрла. Тожа ваду дужа добрую мне (давала). Дзяўчына гэта, яна немаладая была, старая дзеўка. Ваду дужа добрую яшчэ і ад рожы, і руку тады загаварываець. Яны знаюць, што гука́ць.

*– А хто вас лячыў, чараўнік ці вось гэтыя людзі, што ваду загаварываюць?*

– Хто ваду? Не, яны не чараўнікі!

*– А мацней хто?*

– Кажуць, чараўнік.

**Зап. А. Волкаў, А. Курныш і Я. Навічонак у 2003 г. ад Вайцяховіч Зінаіды Іванаўны, 1925 г.н. у в. Язна.**

### 9
### Чараўнікі і знахары

*– А ці праўда, што былі такія, чараўнікі іх называлі?*

– А, чараўнікі, дзетка, ой! Чараўнікоў поўна! Поўна было даўней. Даўней былі, былі чараўнікі. Каровам падраблялі. Карова ж і цярпела, а цяперака вот тут у Язьне паявіўся бацюшка, дык бабка, каторая спасаіць кароў, сказаў ёй, што гэта грэх. Яна цяпер і вады людзям не даець. Нічога гэта няпраўда! Яны пачытаюць Евангельлю! Узяў Евангельлю і пачытай. Там усё ж сказана, як Ісус Хрыстос сказаў, што будуць ці любадзеі, і чарадзеі, і ўсякія…

*– А што яшчэ? Маглі скаціну папсаваць чараўнікі, а што яшчэ яны маглі зрабіць?*

– Чалавеку здароўе могуць (папсаваць).

*– А як вот? Ну якую хваробу наслаць могуць?*

– Мне вот тата расказываў. Яго дваюрадны брат Хведар у Забор’і быў. І захварэў гэты Хведар і ўсё. І ляжыць ён. Доктара прывязлі. Доктар цэлыя суткі атработаў. Вылечыў. Колька была. Кольку ўняў. А гэта ўсё. Тады кажыць: “У яго невылечная хвароба. Ня едзьце да мяне, і я не паеду яго лячыць.” Тады прыязджаіць да ягонага бацькі пляменьнік. Паглядзеў і кажыць: “Гэта там у Арэхаўне, на тэй, на

Савецкай старане. Вот тамака, у Арэхаўне, – кажыць, – ёсьць знахар.” Дзядзька кажыць: “Яму як раз падшучана.”

*– А як “падшучана”?*

– Як падшучана называў. Ён кажыць: “Едзьце, дзядзька!” Ён паехаў, запытаўся ў Арэхаўне, казаў, прыехаў, ажно старык. Так дзеці – дочкі, сыны – панадзяваўшыся харашо.

*– Добрая сям'я такая была?*

– Харошая сям'я, ага. Тады ён дзецям кажыць: “Ідзіце, унукі, ўнасіце.” А (яму) кажыць: “Што сусед скажаш?” Тады думаець, як яго назваць. “Ай, – кажыць, – бойся Бога, сусед. Маю аднаго сына і той уміраіць.” – “А, – кажыць, – сына маеш.” Тады сабраўся, пайшоў у тую хату. Выходзіць з тэй хаты і кажыць. А ён ужо тры месяцы адхварэў. “А ўжо, – кажыць, – сягодня ён паследнія суткі жывець, а з поўначы ён памрэць. Дык вот, калі, – кажыць, – надзеіся яго заспець жывым, я табе вады дам. Дык, – кажыць, – калі не заспееш, дык я не вінаваты. Нада было раней прыехаць да мяне.” – “Ай, – кажаць, – бойся Бога, суседзька, дай!” Ён яму вады даў. Ён: “Ай, – кажыць, – каб я грошы з людзей браў, як спасаю людзей. Дык я б хату з грошай пастроіў.”

*– А ён грошай не браў?*

– Грошай не браў. Тады ён увідзеў бутылку гарэлкі, кажыць: “О, гэта мне старыку нашча па чарцы дужа добра.”

*– Ну, нешта ж даваць трэба было?*

– Усё роўна, што-небудзь нада. “Ну, – кажыць, – не зявай!” Ну, казаў, прыехаў дамоў. Яшчэ ніхто ня сьпіць. Агні скрозь гараць, а малец на ложку поўзаіць, нідзе места не находзіць. Гэтак яму плоха… Яны яго вадой памылі і ў рот вады ўлілі. Усё, малец і заснуў, гэтат Хведар. Я яго помню, да таты прыхадзіў. Жыў ён, мусіць, болей як 90 гадоў. Падойдуць – спіць, жывы. А на раніцу прачнуўся, кажыць: “Дайце вы мне есьці! Я есьці буду.” Ну чым карміць яго будуць. Наварыць, казала матка, кісялю аўсянага папалам з маслам...

**Зап. У. Лобач у 2003 г. ад Санько Ніны Канстанцінаўны, 1919 г.н.у в. Парадні Язненскага с/с.**

## 10
## Лекавыя зёлкі

*– Даўней жа ж такіх хваробаў не было, як цяперака? Здаравейшыя людзі былі?*

– Здаравейшыя!

*– Ну, а чым ле́чылі?*

– Сваімі лякарствамі. Ну як, травамі. Ну як, *маліны* – гэта ад прастуды, *чарніцы* – ад жывата, ад паноса рабятам. *Маліса*, расцець такая па гародах. Не меліса, а маліса. Як атраўленьне.

*– А зверабой такі ёсць?*

– Даўней зьверабою не было. Гэта маліса. Вот тата мой казаў *крушына*. Тожа ад жывата. А тата мой быў пры цару пасланы на помашч, з саюзьнікамі ваяваць. На Балканах быў. Вот там, казаў, камары малярыйныя. Я во чытала ў газэціне, у Брэсьце паявілася гэта малярыя. Ну і вот, тата прыехаў аттуда, і ў яго малярыя была. Казаў, французы лячылі сініны (хінінам), што перапіў. Казаў: “Дзет-

кі, адной бы рукой за плечы не закінуўся!” А тутка ўжо савецкая ўласьць была. Папку забралі ў 16-м гаду 10 феўраля. А ў 20-м гаду 20 марца прыехаў. А тут савецкая армія была, салдацікі. Тады салдацік маме кажыць: “Мой дзедушка лечыць людзей травой.” Вот я (інфарматар) хадзіць не магу. Я б вам *каманішнік* паказала. Ён маме паказаў каманішнік. Галубымі цьвятамі цьвіціць. Лісьцейка такое длуганькае. Яно па пожнях расьцецць. Ну, і вот тата казаў, што як папіў гэтат каманішнік і харош стаў. А так у вайну ўжо, у 41-м гаду як была вайна, апяць малярыя паявілася, дык да майго таты, як да доктара ішлі. А ён карэньне гэта капаў.

– *Дык карэнне нада піць?*

– Карэньне! Нада карэньне капаць. Ісус Хрыстос, як ішоў з учынікамі вырваў, сказаў: “*Вот эта трава будзіць спасаць ад 12 балезьней!*” Дык вот, ён (салдацік) казаў, дзед ягоны знаў, а ён толькі знаў, што ад малярыі. І корань у ей адарваны. Ня гэткі, што длінны такі, а там. А пападзецца, што толькі 12 карькоў (карэнчыкаў). Як вот Ісус Хрыстос было 12 учынікоў і ён (каманішнік такі)… Дык я вот хацела на пожню. Дык я хацела гэтага каманішніку накапаць і врачам паслаць, каб яны вот, гэта, лячылі ў Брэсьце. А я знаю каманішнік. Мой тата такім доктарам быў!

**Уроцы**

– *А вот ёсць жа такія хваробы, што і доктар не вылечыць. Сурокі, гаворагь, ці урокі.*

– А, урочныя? Урочаныя лёгка лячыць. Сякуць дровы, сучок, во, вываліцца, такая трышчанка і тут-ка кругленькая дзірачка. Вось праз гэту дзірачку, казалі, тры разы пералі вады і ўсё! А сам хочаш зрабіць: бяры нож, лыжку і відэльцы. І бяры кубак і вады з губак. А тады вазьмі клямкі змы ў дзьвярах. Как рукамі (здыме)!

– *Дык змываць трэбы ці піць ваду?*

– Ну, гэнак на кубак ваду нада і гэта ўсё ў кубак змыць. І тады клямкі змыць. І ўсё лёгка тады будзіць у доме.

– *Мыцца вадой ці піць?*

– І памыцца і папіць! Як ажэнішся, я табе ад уроцу параю лякарства.

– *Так жанаты!*

– Жонка хай падалом абатрэць цябе.

– *Ну, гэта ж болей дзіцёнку, гаворагь.*

– Не! Жонка мужыку – абязацельна!

– *А вот яшчэ такая хвароба – “валасень” ці “валаснік”.*

– А, гэта каторы ўмеіць валасьнік выліваць, гэта Богу маліцца нада. І выліваць, і воск нада, каб быў. Вадзіца там нейкая.

– *А так, такіх людзей няма, што вадзічку даюць?*

– Не. Была, давала ваду Лізаветка… І вот яна да зьмяі. Пайшла ў цэркву, ну, і прызналася бацюшку, што “вот даю”. Бацюшка сказаў: “Нельзя, ні в коем случае!” Ён яе так спавядаў, і так яна плакала, так малілася. І цяпер яна не даець нікому вады. І ходзіць у царкву кажды дзень.

**Зап. У. Лобач у 2003 г. ад Дрыла Соф’і Дзмітрыеўны, 1927 г.н. у в. Парадні Язненскага с/с.**

## 11

## Крактуны

– Бывала, дзеткі раджаліся і кракталі. Дык вось, я помню, як прыходзіла бабуля і купала маленькага, нашага меньшанькага. Я ўжо была парадачная. Сыпала – начоўкі былі дзеравянныя зроблены – і на вугалкі сыпала попелу. Брала *попел* – сыпала па кучкі попелу. Рабёначка купалі ў пялёначцы. А потым гэты папялочак – пакупаюць рабёначка, выніць гэта бабулька ужо другой полачкай укрываець – а папялок гэтат згортвалі у вадзічку. І потым на тую пялёначку, у каторай купалі. Працэжывалі гэту ваду. І там знаходзілі такія валосікі. Гэта бываець, што у маленькіх на плечыках бываюць такія валоскі. І ён перастаець, як бабулька некалькі разоў пакупаець гэтак, і ён перастаець крактаць, якія ў дзіцяці расьлі на целе.

## Роды

*– Скажыце, а што трэба рабіць, каб было лягчэй ражаць жанчыне?*

– Я раскажу! Сама радзіха далжна за сабой сьлядзіць: цяжкае не падымаць, многа не сядзець. Быць так усё ўрэмя у руху̀, каб лягчэй было ражаць. А потым маліліся Богу. Вот я вам раскажу. Мая мама ражала, гэта ўжо быў 41-ы год. Самага пасьледняга малыша. Тата за вадой пайшоў, каб ўжо была вада цёпленькая. Мама мяне паслала за павітушкай. Гэта быў канец марта. Я пакуль бегчы за павітушкай усіх сваіх рабятак сабрала, самаму маленькаму было тры гадкі. Гэтага паставіла перад абразом на скамейцы, а большанькіх усіх на палу. Паставіла на каленкі і сама малюся Прасьвятой Бугуродзіцы. Так шчыра малюся і плачу. Гэта мама ўжо ражала дзевятага рабёначка. Думаю, мабыць мама ўжо памрэць. А мы ж, што будзем рабіць? І дзяўчынкі мае меньшанькія, сястрычкі плачуць, і я сама малюся прашу: “Прасьвятая Бугуродзіца, спасі толькі маму не дай ёй памерці!” Каб толькі ўжо нарадзіўся рабёначак, каб мама асталася жывая. І ў гэтую мінуту мама дажа ня крыкнула. Чую, заплакаў малыш… Ну, яна (павітушка) хуценька мне хлеба акрайчык адрэзала, сольлю пасаліла, пялёначку ўзяла і бягом да маёй мамы. Я дажа ня усьпевала за ей бегці. Так яна бягом бегла. Прыбегла: “Ну, як ты Анютка?” Кажаць: “Радзіла без болі.” Кажуць, ня нада верыць. Нада верыць! Толькі нада шчыра-шчыра, душой не крывіць, як некаторыя багахульнічаюць: молюцца – за пазухай камень!... (Пасьля бабка) адбабіла, завязала пупок, атрэзала, дастала вадзічку з печы, пакупала, сьпеленала, перакрысьціла і прынесла да мамы і дала пацалаваць рабёначка. Мама пацалавала, і яна палажыла на падушку… Першы раз трэба дзіцяці даваць правую грудзь, каб дзіця было праўшой… Пасьля полаг адвешвалі, каб на радзіху вецер не дуў і вока благое не глянула.

Дзіця пакуль не пакрэсьціцца нікому не паказвалі. Толькі бабка глядзела і мама карміла… Пакуль не пакрэсьцяць мальчыка звалі “младзеньчык”, а дзевачку – “дзевачкай” звалі. Даўней стараліся як мага хутчэй перакрысьціць.

## Суроцы, рожа і загаворы

*– А ці былі ў вашай мясцовасці людзі, што вадзічку давалі?*

– Знахараў? Знахараў было. Яны давалі ад суроцаў ваду. Дажа самі рабілі. Кажная маці ужо знала, як вока такое дрэннае глянець на рабёначка ці што. Дак прама бралі рубашачку. Так наотмаш, во. І працiралі лічыка малому. А мне са-

мой даже было такое. Зьбіраліся ісьці на танцы. Я надзела белае плаціца купонавае, у складачкі. Туфелькі чорненькія, насочкі беленькія. А там адна жанчына: "Ай, Ніна! Якія ў цябе ручкі спрытныя!" І тут ужо мы адходзім на танцы, а мне зачасаліся во тут ногі. І такія былі, як валдыры, па нагах. Прама вот такія. З прагавору вот з гэтага. Ну, там бабулька, Александрынка гэта: "Ай-ай-ай! Скарэй да Малашыхі бяжыце за вадой!" Ужо з глазу. Ня помню хто, но паехалі, прывезьлі мне бутылку вады. Я сама папіла, ліцо абмыла і ногі абмыла. І мне захацелася спаць. Усё. І на танцы я не пашла. Легла і праспала. Дак вот – гэта я веру! Ёсьць загаворы, і вада памагаець. Эта ўсё малітвамі. У вайну стаялі парцізаны ў нас. І адзін быў вельмі прыгожы хлопец. Прышоў ён з заданьня, змычаны такі. Тутака вады нагрэлі, і памыўся ён. Сеў – паеў. Ну, і хтосьці глянуў на яго. І ў яго ліцо стала гарэць. Зьбіраліся маладзёж, хоць была вайна, хоць страшна было… і ўсё! І забалеў гэтат. Цемпература, красны стаў, вушы красныя! Ну і што рабіць? Ну, і тожа там адзін мужык ваду даваў. Кажуць: "Хуценька бяжыце да Івана!" За вадой. Прынясьлі вады, памылі яго, памылі. Лёг, уздрамнуў і ўсё гэта прайшло. Рожу загаварываюць. Бывае рожа. Такая балезьнь: хоць дзе можаць уваліць! І ў ліцэ, у мяне ў наге была. Нагу застудзіла і нагу во так во распёрла пад каленам! Стаць не магла. Муку загаварывалі. А тады пасыпаеш, абвяжыш калена. Каб кажды раз не хадзіць тры разы ў дзень. І памагалі.

*– А як загаварывалі? Што яны рабілі?*

– Ён садзіцца, перакрэсьціцца. Як ваду – ён ня дышыць, моліцца. Толькі пасьледні раз ён хукаіць. Пахукаіць і сразу становіцца лягчэй. Гэта ўсё працэдура ня дышачы.

*– А якія словы ён кажаць?*

– А гэта ён нікому не аб'ясьняіць. Не.

**Фітатэрапія**

*– А якія вы ведаеце зёлкі?*

– А зёлкі усякія зьбіралі. *Канапелькі*, такія растуць зёлкі. Я іх зьбіраю, а сёлета во не схадзіла. Гэта дужа добрыя зёлкі… кагда застудзіш мачавы пузыр. Два разы чаёк пап'еш. Бяры пучок, кладзі, зальеш, настоіш. Два разы пап'еш, і пройдзіць. *Зьверабой* зьбіраю, *чабарок* сабіраем, *гарляначкі*. Вот даўней гарляначкі пахрожыя: чабарок душысты, гарлячачкі – не. І кагда, вот, даўней ангіна была, то гарлячачкі заварывалі. Многа чаго. *Крушыну* сабіралі, карыцу. Варылі. Цяпер жа слабіцельнае ёсьць, а раньша не было. Кары кладзем гэтай крушыны, заварываем, кагда, вот, жалудак няспраўны. Многа зёлак такіх, што мы названій ня знаем. Сабіралі-сабіралі, а як яны на самам дзеле называюцца… *Піжма* – ад паносу.

*– А якія хваробы можна было зёлкамі вылячыць?*

– Коклюш ле́чылі. Бальныя рабяткі былі, часта хварэлі коклюшам. Сабіралі *з капуснага ліста расу* і давалі рабяткам піць. Патом варылі, як цяпер, не знаю што, *маць-і-мачахі* лісьце зялёнае. Вот варылі, тожа давалі. Сабіралі *пот с акна* – тожа ад коклюшу. Вот і тожа давалі рабяткам… Зьбіралі *шышачкі сасновыя, бяроста, почачкі* (бярозавыя) кагда і настаівалі. Есьлі даставалі водкі, на водкі настаівалі. Но эта болей для ўзрослых – ад кашля для дарослых. А маленькім заварывалі кіпятком. Ад сасны, кашаль калі сільны, калі прастуда самыя такія сасновыя шышачкі сушыш, заварываеш, даеш піць.

## Чараўнікі і знахары

*– А ці чулі вы пра людзей, што маглі рабіць людзям шкоду розную? Чараўнікі ці былі?*

– Яны былі і цяпер ёсьць. Яны такія людзі, што хочаш могуць зрабіць. А адрабіць можа толькі, хто мацнейшы. Ну, бегаюць, ішчуць, хто можа даць вады. Гавораць, у Глыбокім жыў такі знахар, ён вельмі памагаў людзям. К яму людзі езьдзілі за вадой. Ён памагаў дажа ад параліча. Далман звалі. А як яго настаяшчае…

*– А хто мацнейшы, знахар альбо чараўнік?*

– Ну, гэта невядома, хто з іх сільнейшы. Вот я знаю, тут такая сітуацыя была у людзей. Вот вы ў Аўласенках былі, а перад Аўласенкамі, дзярэўня, можа там яе і нет, я даўно не хадзіла. Кулакі. Вось там у гэтых Кулаках было такое, што зробілі карове. Зробілі карове, што прыйшла кароўка з паствы і ўсё лягла, і проста яна ўжо прападаець. Бягом паляцелі на поіск к гэтаму Далманỳ. Прывязьлі вады. І ён ім сказаў: “Ён прыбяжыць к вам, гэтат чалавек, каторы там гэта зрабіў, прыбяжыць нешта к вам прасіць. А калі вы не дасьцё, ён мучацца будзіць.” Ну і гэта збылося. Толькі барані Бог, нічога не давайце. Ці гэта будзець мужчына, ці гэта будзіць жанчына – нічога не давайце! І глядзіце, каб сама не ўхапіла травіну ці што. Ну і гэдак паехалі яны. Толькі гэта карова пасьпелі палечыць – карова ўстала на ногі. І прыбегаіць жанчына. І гаворыць: “Дай сіта!” Вот эта сіта – муку сеялі. “Ай, хачу хлеб. Дайце мне сіта!” І гэта ўжо на самам дзеле, эта ўжо пры маей бытнасьці было, расказаваў чалавек. “Ай, сіта. Нічога мы табе не дадзём. Ідзі!” Дак яна выбегла і хацела траву рваць, а ён ей па руках. І прагнаў, гаворыць: “Што табе нада?” Дак яна не пасьпела адбегчы як заваліласа, крычала гвалту, што ей жывот рэжаць, як нажамі хто.

**Зап. студ. ПДУ: А. Курныш, В. Наважылава у 2003 г. ад Палуевай Ніны Аляксееўны, 1926 г.н. у в. Іст Язненскага с/с.**

### 12

### Засцярогі цяжарнай

*– Скажыце, а што нельга рабіць цяжарнай жанчыне?*

– Як матка бярэменная ходзіць, няльзя біць ні кошку, ні сабаку. Тады будуць тыя валасы (на целе ў малога).

*– А што яшчэ нельга рабіць, калі ходзіць бярэменная матка?*

– Шпількі нельга насіць. А няльзя шпількі ўпільваць: сінія такія бываюць жылкі ў малога.

*– А на пажар нельга глядзець?*

– Нельга, нельга!

– Ну, на пажар калі глядзіш – гэта нічога. Але нельга датрагавацца да свайго цела. Калі глянеш на пажар і схопісься за ліцо, то застаюцца точна пальцы. Красныя. І яны ўжо радзімыя называюцца. На ліцэ ілі гдзе-нібудзь. А мама мая ня верыла ў гэта. І вот хадзіла з мальчыкам, ужо ня помню з каторым, бярэменная. Яна яшчэ ня знала, што яна ў цягасьці. І хто там будзіць, ці мальчык ці дзяўчынка. І якраз пажар быў у саседзяў, там чэраз дарогу сарай узгарэўся. А яна думаець, ці гэта праўда, ці гэта няпраўда. І ўзяла сябе за кумпячок так рукой. І точна: усе гэтыя пяць пальцаў адбіліся ў малыша на жопцы.

– А цяпер жа ў цэркву ходзяць, каторыя загаварываюць. Бацюшка сказаў, каб не загаварывалі. А яны прыходзяць – молюцца. Во бацюшка які сумашэдшы! Што б не давалі вады.

– Каб не давалі, што гэта ня нада. Ну а гэта ж несправядліва! Людзям жа памагаець, а чаго ён.

– Мяне бабка ад вучыла ад упуду, як спугаесься: *"Ідзі упуд. Стань на кут. На белае карэньне, на шэрае каменьне"*.

**Зап. студ.ПДУ: А. Курныш, В. Наважылава у 2003 г. ад Жыбутка Алены Прохараўны, 1921 г.н. і Палуевай Ніны Аляксееўны, 1926 г.н. у в. Іст Язненскага с/с.**

## 13
## Знахарства

*– Можа такія случаі знаеце, што кароўку папсавалі?*

– Бывалі, бывалі! У мяне чуць не ўмярла кароўка за 8 дней. Тады да бабак хадзілі.

*– Ну гэта ж такая бабка, што можа ваду даваць, гэта ж сіла нейкая?*

– Да! Эта харашо! Ад Бога! Адпсаваць – гэта ад Бога.

*– А гавораць, вот, бацюшка ў Язне крычыць.*

– Грэх бальшы, што ня хочаць дажа да споведзі (дапускаць знахарку)! А я што ж, я сьпісала. У мяне ёсьць. Гэта сьпісана. Загаворы. Дапусьцім, ад уроцаў. Я магу. І памалюся там. Ён жа нічога ня робіць. Дык няўжэлі Бог будзе наказываць гэтага чалавека.

– Вот і кажу. Я і слухаць не люблю, што гэты бацюшка кажа. Дажа ня хоча спавядаць і прычашчаць. А я гавару, калі яны людзям добра робяць…

*– Бывала ж такое, што вужака ўкусіць?*

– А ў мяне ёсьць такі загавор. Сьпішы…

*– Старэйшым нельга перадаваць, бо не паможа, а маладзейшым можна.*

– Да. Вот есьлі я вам перадаю, а есьлі б вы мне перадалі (не дапамагло б).

*– А што вот ад уроцу рабілі даўней?*

– Ад Бога малітва. Гасподняя малітва… Ад уроцы (чытае на адным дыханні, паскараючы тэмп): *"Тарчам оброна, о муй Езу! Крулю жыдовскі, змілуйся над намі! От непшыяцель моіх, яко сам закрем тэн час. О муй Езу, зьмілуйся над намі! Зровусь Марыя, ласкі спэлна… (нрб) Сьвента Марыя, Матко Божа,… (нрб) тэраз ґодзіна сьмерці нашай!"* Гэта тры раза. Да. Вады набраць в баначку, тады перакрысьціць яе. І вот памаліцца эту малітву.

*– Што, трэба мыцца ці піць?*

– Папіць, змыцца. Загаварылі вам ваду – можна і памыцца, можна і папіць.

*– А яна кажаць, што бабушка выпіўшая і не паможыць.*

– Ніпраўда! Калі чалавек добры, то ўсё будзець!

– А цяпер ад зьмей: *"Зямля гарыць бяз полымя. Камень расьце без кораня. Птушкі без малака. Папараць расьцёт без цвету. Каб ты зьмяя ня відзела белага сьвету!"* І апяць "Здровусь Марыя" тры раза нада маліцца.

*– А гэта ўжо на хварое месца, да?*

– Да. А вот цяперака ад упуда, во, "Дзесяць Божа прыказанняў" нада маліцца і "Зровусь Марыя". Ад зьвіха: "Зьвіх, зьвіх! Ня псуй сьпік! Не ламай касьцей!" і апяць "Зровусь Марыя" тры разы.

– *А што такое “сьпік”?*

– Сьпік – гэта косны мозг.

– Ат нерва: “*Шед Пан Езус в Ерусалім, нёс тшы ружы в рэнцы. Една ссэхла, друга – звядла, тшэця так згінэла. Згінь ты, нерв касьцявы і жылявы!*” “Здровусь Марыя” апяць.

– Гэта ад рожы!

– Гэта ад нерва!

– Гэта ад нерва! Ня нада гаварыць!

– А ў нас так Карандзіха ад рожы загаварывае.

– Ну, можа! А ў мяне напісана “ад нерва”. Я сьпісывала ў такой, што яна была ўжо дужа такая бабка.

**Зап.У. Лобач у 2003 г. ад Апос Ядзвігі Іосіфаўны, 1930 г.н. (з в. Іст), Мурашкі Тамары Захараўны, 1925 г.н. (з в. Мураўшчына) і Мурашкі Ганны Баляславаўны, 1928 г.н. у в. Сяльцо Язненскага с/с.**

**14**

– *А ў Чарневічах, гэта крыніца Святога Яна?*

– Ага, там капліца стаіць у лесе. Балацінка, высоканька і Ян там. А там труба чысьценькая, медная і, тады, цячэць вада, там ад усякай бяды.

– *А ці памаге гэтая вада?*

– Памагаіць, памагаіць. Хоця ад чаго. Ад балезьней, ад ран ад усякіх. Ад уроцу памагае. А я раблю ўсякую вадзічку.

– *А вы як навучыліся, ад мамы, можа?*

– А, не! Ад бабушкі, ад мамы ад сваей. Мая мама давала ваду. Во гэту магу сказаць. Во гэту пішыце. Дажа ўпісваюць у журналах, газетах. Во так. Гэта памаліцца нада первы “Отча наш”. І тры разы. А тады маліцца “Да васкрэсьнет Бог”. Ня ўмееце ні аднэй. Ну. Толька славамі я раскажу. Рожу загаварываю. Дзічы выганяю. Усё умею! Дзічы па руках, па нагах. “Отча наш! Іжа есі на бесі, да сьвяціцца імя твае…” (чытае малітву з пропускамі) гаварыць нада тры разы. “Да васкрэсьнет Бога наш…” (чытае малітву) Гэту тры разы паўтараць. Апасьля гэту тры разы паўтараць: “Па тваю міласьць прыбегаю, Багародзіца…” (чытае малітву) Усё. Па тры разы прагаварыць. І сразу памагаіць. Вады наліваю ў міску, якую там пасуду хто прынясець. Так перакшчуся і малю. А перад гэтым нада маліцца малітву: “Госпадзі, Божа мой, прашу, памажы (якое там імя) яму на всякае врэмя, на всякі час…” (чытае малітву) Я стану перад іконай, гэта памалю, а тады “Отча наш” – тры, “Да васкрэсьнет Бог” – тры, і “Па тваю міласьць прыбягаю” – эта тры. Усё. Усё адразу – рабяткі сьпяць, есьлі зраблю ад глаза. Ад упуда раблю.

– *Святыя ж малітвы?*

– Усе сьвятыя!

– *А другіх слоў не гаворыце?*

– Не, не-а! Толька імя (другое). Ай, мне Бог памагае!

– *А ці праўда, што ёсць людзі, у якіх благое вока, што сурочыць могуць?*

– Ну, ёсьць. Гэта нешчасьлівыя родзяцца ў маладзіку. Абы увідзеў дзе што – зразу зглазіць. І ўсё. А хто на поўню родзіцца – харашо.

*– А на сход?*

– А, не знаю я. Як вот загаварваю на сход я, дужа памагаіць. Там рана, дзічы. Вады даю на сход… У нас чалавек бязногі быў. Гэдак балелі і ламілі. І ня мог (хадзіць). І лячыўся і ня вылячыўся. А пад Яна ахвяраваўся. Дзе пайшоў, дзе пераначаваўся. Прыйшоў, а там ваду давалі. Ён ваду піў, націраўся. Атыйшлі ногі. Яшчэ пяць гадоў жыў!

*– Гэта ў Чарневічах было?*

– У Чарневічах. Ну а цяпер, Богу не ўмеюць маліцца. Ня вучацца.

**Зап. У. Лобач у 2003 г ад Капуста Раісы Уладзіміраўны, 1923 г.н. у в. Галенчына Завуцкага с/с.**

**15**

*– А вось скажыце, раней, калі цяжарная была жанчына, што ёй нельга было рабіць? Можа, на пажар глядзець?*

– Нельзя! Сабака калі спужае, нялзя во гэдак чапаць. Пятакі такія ў малога. Да! Чорныя. У нас выйшла дзяўчына. І точна, пажар быў. А яна гэткая ляцела, і яна: "Ай-я-яй!" Рукой аднэй (узялася). І на самым ліцу пальцы ў дзевачкі.

*– А яшчэ што нельга рабіць?*

– Вот у дзевачкі такія чорныя пятны. Кацюша ў нас. Кошка малых прывядзець. Нада найсьці ейнае места. І гэтым местам мазаць і гэта сойдзе ўсё. Во як чарадзейства. Гэта сваё.

**Пакаранне за працу ў свята**

*– А праўда, што ў свята няможна рабіць?*

– Канешна ж, не.

*– А ці было такое, што нехта рабіў, і Бог яго пакараў?*

– А што? Стучаць можна, пашывай, тапаром пасячы кое-што – усё адно прычына. Ці палец цюкнеш, ці што зробіш.

*– Ну а было такое?*

– Было! Што расказываць, калі ў кажнага сваё было. Такое было, гэткае… Во, сасед недалёка на Міколу цяперака. Быў Мікола, вясенны. А яму там трэба было палезьці на ябланю. Парэзаць там ці што. Ідзець баба ў цэркву: "Што ты маё чалавеча, сьвята бальшое – Мікола!" І пашла. А ён усё атразаў. Маўчыць. Быў жа камуніст калі-та. А цяпер жа не камуніст. Зваліўся і паламаў руку. У бальніцы ляжаў.

*– А вот нядзеля перад Пасхай. Там кожны дзень святы. А як там?*

– Нічога. На Чысты Чацьвер чыста мыюцца да ўсходу сонца. На Пасху яйкам мыюцца. Паложаць у ўмывальнік краснае яйка і мыюцца. Такі закон. Каб красівым, поўненькі, красным быць.

**Зап. У. Лобач і студ.ПДУ А. Курныш у 2003 г. ад Капуста Раісы Уладзіміраўны, 1923 г.н. у в. Галенчына Завуцкага с/с.**

**16**

**Засцярогі для малога дзіцяці**

*– А як упуд у дзіцёнка, што рабіць, як спужаецца, спалохаецца?*

– Калі рабёнак спалохаецца, нада тады вадзічкі яму даць. Папырскаць з роту. А каб не баяўся ўроцу ўсягда нада яго мыць, спавіваць, падалом абцерці, абцерці. Ён тады дужа ўроцу не баіцца. І нада ўсягда малому шпілечку ўшпіліць у распашонку, каб яна была. Тады ён дужа нічога баіцца. Як купаюць… Цяпер

не купаюць маладыя! Яны ня знаюць, каб іх халера, купаць! Купалі: у пялёнкі ўверціш, у начоўкі, а тады *попелам* павярху па начоўке. Есь валасы ж такія растуць. Гэта ж рабёнак равець, як увязаны!

*– А якія валасы?*

– Рабёнак родзіцца з валасамі, а тады пачнеш мыць, а на ўсе на пялёнцы астаюцца. Попелам пашаруеш з мылам, а яны на пялёначцы ўсе астаюцца. І сьпіць рабёнак, як укопаны.

*– Першы раз, як купаеш?*

– Не разы чатыры ці пяць, як купаеш. Малых гэтых, як купаеш. Я малых сваіх усягда купала. Увярчу ў пялёначку, попелам пасыплю. І тады: мылам, мылам, мылам, вышаруецца. А вот ён тады шавеліцца, шавеліцца – яна маленькая, а яму спаць не даець.

*– А вот з роту, вы казалі. Як гэта?*

– Гэта нада первы хто, тры ра́зы папрыскаць на яго. Хто первы (з дзяцей) радзіліся.

*– А вот суроцы як? Ёсць жа такія людзі, што сурочыць могуць?*

– Ёсьць! Каб іх халера! Тады ваду нада робіць. Загаворы ўсякія.

*– Так жа доктар не паможаць?*

– А, не паможаць. Упуд – эта дужа. А сабака як укусіць, сабаку нада абстрыгчы, пакурыць і гэту ранку засыпаць. Усё! Заходзіць, як нечага! Загоіцца. І рабёнка, этай *поўсьці* палажыць, пасадзіць і так яго пакурыць. І нічога, і сабакі ўжо не баіцца, ні упуду ніякага ня будзіць. Абстрыгчы, абстрыгчы і пакурыць. Нічога не баіцца.

### Рожа, валаснік

*– А вот рожа хвароба такая.*

– А рожа бываець 12 сартоў. Усякія сарты: касьцявая і наружная, усякая. 12 сартоў іх загаварываюць, гэту рожу. Валасьнік загаварываюць. Цяпер – “кастаед”, а раней валасьнік. Кладзеш палец на ваду. Ну тады ж *каласкі ад жыта пустыя*. Ну, і льюць, і льюць, і льюць! Вот у ваду, у міску (палец) палажы і лі, і лі, і лі на каласок тут!

*– А каласок зверху?*

– Ага! Чатыры, ці сколька там, пяць палажыць. Ліеш, ліеш і нада ўсіх зьвярэй у лесе (пералічыць): “Волас, ідзі на колас! Волас, ідзі на колас!” Усё! Зьліецца – не разьдзярэш этат колас.

*– Звярэй пералічыць?*

– Да! Якія зьвяры: ваўкі, зайцы, лісіцы. Ну, якія зьвяры ў лесе ёсьць усіх нада пералічываць. Белкі… Ну, ўсе-ўсе-ўсе! Ну і выйдзець.

*– А з чаго ён бярэцца, ад чаго бывае?*

– А халера! Можа ўколеш. Не знаю, з чаго ён бярэцца.

*– А як не лячыць той валаснік, што можа здарыцца?*

– Палец атразаюць, то выразаюць. Ай, гніець! Дужа гніець.

### Чараўнікі

*– А вось даўней вам не казалі, калі маладая былі, вам старыя людзі ґаварылі, што такія чараўнікі былі, што вот блага рабілі людзям?*

– Ого! Чараўнікі! Карове зробюць: ні малака – даіцца будзе адным гноем! Хай Божа ратуе. Нада тады вады і ўсё. Была ж адна баба. Усё чаравала каровам.

А тады мужчыны перанялі. А яны (чараўнікі) на Купала гэта робяць болей. Каторы чараўнік – на Купала. І тады цягаіць уночы цадзілку па расе. Кругом ходзюць і трапку такую белую. І ўсё, і карова, што ёсьць у дзярэўні даець малако. Ну і ўсё, малака назаўтра няма. То крывёй будзе даіцца, то запёкамі будзець даіцца – не падыйсьці. Ах, каб іх! А цяпер, дзякуй Богу, гэтых чарцей ужо няма. Можа, дзе і ёсьць, але старыя. Ой, праціўныя гэтыя людзі! Каб іх халера! Яны ж і людзям падрабляюць.

*– Ну болей жа жанчыны? Мужыкоў такіх не было?*

– Ёсьць! Там быў, на Лонцы, аж там. Атрошкава там такое. Ну і гэта. А ён быў чараўнік. І прыехала дачка і з зяцем, гэта, ужо на госьці. І вот яму ў гэту мінуту прыляцела, што нада падчараваць. Ну і пашоў там у баню ці куды, і падчараваў. І здурнеў этат зяць! Ой, іх халера!

*– То есць, у іх такая мінута прыходзіць, што яны…*

– Любому! Хоць каму, хоць дачцэ… Но дачцэ ён ня зробіў. А зробіў, вот і ўсё. Ой, каб іх халера! Якія яны ўрэдныя.

*– Ну, а хто мацнейшы? Знахар ці чараўнік?*

– Знахар. Знахар знаіць усё, хто падчараваў.

*– А былі, што вот чараўнік сапсуе чалавека, а тады во ехалі да знахара?*

– Было! Расказывалі! І робілі, і зробюць усё. Дажа і на ваду паказывалі. Паставяць, гэта, сьвечку, зеркала і запаліць. Што ён там гаворыць, я не знаю. Ну, і ты увідзіш ліцо чалавека ў вадзе і ў зеркала глядзі. Хто табе што зробіў, ён і пакажаць. Ну а тады, што хочаш яму роб. Хочаш у вока калі, хочаш куды, каб ён ужо табе ўрэд зробіў. Ну і атраблялі. Ёсьць!

**Далман**

*– А пра Далмана не чулі такога?*

– А Далман дужа добры быў! Во які добры! Усякія хваробы выганяў! Дужа добры быў!

*– Вельмі моцны знахар быў?*

– А, ну сын яго, гаворац, добра памагаець. Але, як ты яму ўжо як надумаў, што даць, так давай! А там адна баба нясла масла з сырам яму: “Ай! Яму грошай дам, а гэта панясу дамоў.”… Ну і добра. Прыйшла дамоў – і вужакі, і чэрві на гэтае масла напалі. Вот што зробіў. Як што сказаў, значыць аддавай! Ты надумаў пяць рублей – давай пяць. А не, тады скажаць: “Ага! Забірай свае грошы. Табе жаль іх даваць.” Ого! Далман дужа быў добры! Вот і Далман. Я ж ляжала ў Язьне з мальцам сваім. І ў мальчыка эпілепсія была. Ён жа паехаў, мужык (яе). А ён ваду даець і па ветру загаварываець. Па ветры загаварываець! І пакуль этат мужык прыехаў. Ён па ветру і ў мальца дажа нікагда дажа балезьні не было. То прыпадак, то балезьнь. Дужа-дужа ён памагаў.

*– А па ветры ён як?*

– Ну, па ветру ж неяк загаварыў! На вуліцу выйшаў, мусіць, пусьціў па... І ўсё.

*– Ну, гэта ж праўда, што як да знахара прыйшоў, трэба ж нешта даць усё-роўна, бо задарма...*

– Канешна ж нада даваць!

**Чарадзейства**

Маей унучцы… на Украіне… гэта ж яны (бацькі) дужа яе хацелі. Зяць мой разьбіўся на матацыкле, а ёй было два гады. А там бязьдзетныя былі, ўжо ж радня, і гэту дзяўчыну хацелі забраць. Халера іх ведаець, калі яны былі што зробіўшы! Цераз гроб перакінулі зямлю, каб яна (дачка) памёрла. Ну, яна ж баялася пайсьці, так баялася: “Вот нехта за мной ідзець!” І па хаце кругом (ходзіць). Ну і паехала за Дзьвіну (“Задзвінне” – Полацкая абласная псіхіятрычная бальніца, што ў раёне Задзвінне, г. Полацк), там такі Папок, ён у дурдоме. Ён, праўда, паказаў мне гэнага, але ён пабаяўся. Ён паказаў мне на ваду, бабу, каторая яе хацела (зжыць са свету). І стаяць чараўніцы. Мы паехалі чэраз два гады ці чэраз чатыры на “жывую” Радаўніцу туды. І дажа не там мы фатаграфіраваліся, дзе ён ужо пагіб зяць, ён та ў дзярэўне пагіб, у Умані. А гэта чараўніца стаяла кала яе. Папок зробіў ваду, паказаў, каб яна не баялася. Але ён пабаяўся, гэта, мусіць, што сільнейшы хто зробіць. І ўзяў ён гэтую ваду – выпіў. Каб ужо нічога. Я, праўда, сама её вочы дзёрла (на фота). Но ён гэту ваду выпіў – нічога гэтай бабе не зробілася. Казала троху мучылася. Але не аслепла, каб яе бура спаліла! Гэта яна зрабіла.

– *Так вы казалі, перакінулі цераз гроб зямлі?*

– Канешна! Вот як ляжала, можа, на кладбішчы ці дзе. Ніхто ж ня відзеў. Вот неяк жа зробілі!

– *Перакінуць і нешта сказаць?*

– Ну, нешта ж сказалі! Каб яна памёрла. Ой, тады прамучалася гэтая дзяўчынёшка! Ох, врэдныя людзі ёсьць, каб іх бура спаліла!

– *А так не скажаш, хто мацнейшы, знахар ці чараўнік?*

– Ёсьць і чараўнікі крэпкія, і знахары крэпкія. Усякія. Каб іх халера!

– *Ну, крапчэйшы знахар, гэта мужчына ці жэншчына?*

– Жэньшчыны ўсе бываюць. Такая баба была дужа добрая… у Бялянах. Яна да усяго ваду давала. Яна тожа панімала. Яна ўжо памёрла.

**Грыжа**

– *А вот як малы не спіць, крычыць ноччу?*

– Биваіць! У малых і грыжа биваіць. Тады нада чорную воўну ад авечкі лажыць на пупок. Тады праходзіць.

– *А раньша ж таблеткамі не лячыліся?*

– А, барані Бог этых таблетак! Ніхто ня знаў этага! Ці то *маку* наварaць, дадуць (малому) і сьпіць.

– *А вот травы якія ёсць памошныя такія?*

– Вот даўней жа *рамашка* такая дужа вядомая была. Яе давалі ад жыватка рабятам… Добра ж яшчэ піць і *чабор*. Вот ад галавы. *Зьверабой* добра да галавы. Ад усяго ёсьць травы. Добрыя! Вось такая ёсьць ад падрыву. Красьненькія корні нада выкапываць, настаіваць. Ай, забылася, як называецца. У нас многа, як ідзеш кароў даіць, накапаць. Цьвяткі такія красьненькія. Нізенькія.

**Зап. У.Лобач у 2003 г. ад Кулянок Зінаіды Уладзіміраўны, 1934 г.н. у в. Галенчына Завуцкага с/с.**

## ПОЛАЦКІ РАЁН

### 1
### Пра знахарскія веды і сурокі

– *А скуль вы навучыліся загаварваць?*

– Атца маць навучыла, а мяне атец навучыў.

– *Эта перадаецца з пакалення ў пакаленне?*

– Да, із пакаленьня ў пакаленьне, а што гэта гавораць і рукамі машуць. Я гляджу, і мяне злосць хватаець, сразу панімаюць. Відзюць вот гэта. І сказалі дачке, твой бацька знаець, што делаць. А я кажу: “Нікому не гавару”.

– *А як Вы гаворыце? Неяк гаворыце ж?*

– Ну як! Еслі што мяне навучыў, знаю ж.

– *А эта можна і жывотным памагаць?*

– І жывотным, і ўсім, тока свіньні не даваць. Свіньня – жывотнае, эта сьвінства. У меня было так: пално работы, ідзець брат з работы, траюрадны, падзівіліся з яго бабы, вот так ідуць: “У, брат, ты ідзеш як гарбуз, – кажуць, – пузаты.” Прышоў дамой, заваліўся, на рвоты цягнець. Дрэнна стала, цемпература. І ён балеіць і урач – нічога.

– *Дык а што гэта такое?*

– А што гэта такое… Гэта глаз. А глаз чэй врэдны. Я табе скажу нашчот гэтага глаза, гэта скажу, каторая матка корміць рабёнка, а после кініць, а тады жалка станець, абратна корміць. Тое дзіцё табе глянець і табе дрэнна станець. І усё… Во ў чом дзела. Вот што было, да.

### Упуд

– Знахары ёсьць такія. Ёсьць такія ў Скаканым. Я хадзіў, такая была гаварыла яна мне, як яна… Прэтанка, так яе звалі. Так яна, як сонечна, яна ў стакан вады што-та загаварывала яна відзіць, еслі напрымер мужчыны спугалася, паказываецца. Я дажэ стары следзіў, мужчына стаіць у вадзе.

– *Паказваецца?*

– Ага паказваецца. Яна здзелала так. Яна налівала вады ў стакан і на сонца глядзела. І глядзела, хто мужчына… Ілі сабакі спугалася, ілі каровы, ілі кабылы, ілі каго. Вот яна відзіць. Ей паказвае там. Яна табе ваду дзелае, панясеш. І ўсё, адбірала гэта ўпуд і усё. Дзяўчыну ж было, схваціў сабака за нагу, схваціў, тапак сняў у яе. А втарая была ў бліндаж увалілася, праламілася туды. У хату дзвер адкрылася, іспугалася. І дзяўчына усё, і так, і худзеіць, і што. Еьдзілі, езьдзілі к нейкаму дзеду, к стараму, аж туды, некуды далёка пад саветам (сельсаветам). Езьдзілі і кажыць: “Не плач баба, дяўчыну тваю вылечу.” І вылечыў па сёняшні дзень. Вот і вер, і не вер.

– *А з упуду, што можа быць? Дзяўчына худзела, а яшчэ можа што быць?*

– Худзела! Ну, што худзець, худзець і памрэць, і усё. Ну ад упуду можаш чым хочаш забалець. Так усяк!

### Знахары – афіцыйная медыцына (рожа, валасень, упуд)

– *А рожу раней лячылі ж не ў бальніцах?*

– І рожу, і валаснік… Я помню тожа і сястрэ маей лячыла і ў вайну. Я прыехаў на кані – на печы ляжыць, а тут бамбіць з самалётаў, бамбіць нашу дзярэўню. Садзіся, давай скарэй на плечы і на калёсы папёр, на футрах. Дык вот, такая нага была апохшы, і красная, і я не знаў, што робіць.

*– І гэта рожа была?*

– А баба вылечыла рожу, такая была знаюшчая. Ёсьць, ёсьць бабкі, ну ёсьць, ну нямнога, но ёсьць. Ёсьць, ёсьць, што ўсё памагаюць. І к бабакам езьдзюць то к той, то к гэнай. І урач дажэ палядзіць, палядзіць другі і сразу паймёць да якой. Ад уроцу, што ад уроцу: робіцца чалавеку плоха, на рвоту, з чаго падзівіліся, ну глянуў глазамі. Ён табе нічаго не скажа, толькі глянець глазамі і вот табе ці з ног, ці з жывата, ці з глаз, усё ты тады тым балеіш, і цябе боль дзелаецца, і на рвоты, і табе плоха дзелаецца. Вот, вот такая хвароба.

*– І гэта адразу трэба лячыць?*

– Гэта толькі ваду, ідці к бабке какую ваду загаварваць ілі к дзеду, к каму. Трэба лечыць адразу, а то калі ўдаўніца…

*– А што калі ўдаўніца?*

– Ну ўдаўніца гэта, еслі будзеш і тым, і тым лячыць, і ўсё, ну і памрэць. Будзець чахнуць, чахнуць і чахнуць. Вот такая хвароба. Думаеш, так гэта лёгка.

**Апёк, адмаражэнне**

*– А вось даўней, як апячэш руку ці нагу, што рабілі?*

– Ай ну што. Як яны. Прыкладалі, ты можа помніш… *Освы, освыны* гэтыя. Освы такія – мяшкі такія. Пузуры гэтыя. Асіныя домікі. Освеньнікі, домікі, дзе яны плодзяцца.

*– Проста на апечаннае месца?*

– Да. Но бальшынство можа дзелаць так, дажэ *дубовую кару* гэту. Дубовую ідзі, завары, і варчыкам гэтым прыкладвай і будзець. І шо ў мяне дзяўчыну ашпарыла баба была кіпятком, узяла на плечы. Ноччу прыхадзілася ісьці ў лес і дуб гэты, хадзіў я знаў, дзе дубы, дуб шукаў, дуб-кару драў, і прынёс, заварыў, астудзіў і прыкладваў к ей, маленькая яшчэ была. Я ж ей і прыкладваў. Загаілася і нічога ня відна цяпер.

*– А калі адмарозіш, наадварот? Вот ён пайшоў ці ногі паадмарозіў… Што рабіць?*

– Паадмарозіў… Ну што, паадразалі пальцы ўсе і…

*– Не, ну, дык каб не паадразалі, калі не так сільна.*

– Даўней *гусіным салам*… І дажэ *бульбу* дралі, драньнём гэтым прыкладвалі. Усяк.

**Наход**

– Слушай. Мне было наход найшоў. Пайду ў бальніцу – цячэ. Як на холадзе ў мяне пухнець ліцо. Адзін такі кажыць: “Уй, на нячыстую бабу найшоў дзе наход, цераз парог недзе перажыгнала яна і ты. Вот ў цябе за гэта і морда такая. Ідзі, – кажыць, – з повені, табе травы даць”. Так што во такі *чыстацел* ёсьць, тады *пяцелапка*, і гэтая, што коліцца, *сучкі*, мы іх называем, *чарада*. І гэтым заварыў, памыўся і ўсё прайшло.

**Зап. У. Філіпенка і студ. ПДУ: У. Аўсейчык, Д. Панцялей у 2006 г. ад Берангоўскага Венедзікта, 1929 г.н. у в. Сушына Бабыніцкага с/с.**

**2**

**Знахарка (лечыць рожу)**

– А я яе нявестка, той бабкі, што памёрла, мая сьвякроў. А во гэта сын яе, маёй сьвякрові.

*– А яна нікому не перадала?*

– Перадала мне. Я ведаю ўсё.

*– А вы не можаце ўзгадаць замовы ад якіх-небудзь хвароб?*

– Усякія замовы можна ўзгадаць, усякія.

*– А раскажаце нам?*

– Ну, што вам. Дык якія, давайце. Вот рожу ўмею гаварыць. Васемнаццаць сартоў рож у нас. І вадзяныя, і ветраныя, і ўрочныя, усякія рожы бываюць.

*– Ад іх урачы не дапамагаюць, толькі замовамі?*

– Врачы, я знаю, як едуць у Жэлезнадарожную бальніцу, яны едуць все, адпраўляюць сюда, зато, што тот врач у мяне тут лячыўся сам. У яго было бальшое забаляваньне нагі, і вот рожа бальшая была ў яго. Я яго і вылечыла.

*– То есць, дактары не лечуць?*

– Рожаў – не. Яны ж уколамі лечуць. Яны не лечуць. Яны ўсе едуць сюды.

*– Як яна выглядае сама рожа?*

– Рожа, вот такая. У нас вот… Рудню, Банонь, знаеце? Рудню. Ну дык вот Рудню знаеш і дзірэктара саўхоза, Шульгу. Вот у Шульгі забалела нага і во такую нагу прывезлі чорную мне. Ну і сказалі мне. Яны знаюць, што я лячыла і лячу. Яны гаворацъ: “Бабушка, палядзі мне нагу.” Яму сказалі ў Віцебск атнімаць нагу. Я кажу: “Нічога, Міша, паездзі ка мне, можа палячу цябе.” Ён тры дні паездзіў, і нага сягодня яшчэ работаіць.

*– А вы, калі рожу лечыце, толькі загаварываеце, болей нічога? Можа вадзічку даеце?*

– Ваду даю. Ваду даю, загаварваю і загаварваю *муку аржаную*.

*– А ваду, як яе трэба піць, ці мачыць?*

– Трэба піць, мачыць не. Я ваду загаварваю, гляджу на вадзе паказваю, а яны глядзяць. Еслі ён ад ветру, ад ветру, еслі ён ад людзей, ад людзей, там сразу паказваецца ў вадзе. Я аб’ясняю, а яны глядзяць.

*– А вось скажыце, якія ўсе віды рожы бываюць?*

– Усякія рожы бываюць. Ну вот ёсьць і ветранаыя, і касьцявыя, і ўрочныя, і ўсякія. Ад зглаз, ад уроцы.

*– А скажыце, якія найбольш такія вельмі цяжкія?*

– Болей з вады. Абычна... Вот ка мне прыязджаў чалавек па ахране з Навапалацка, такі Сяргей Барысавіч, можа знаеце. Ён па ахране работаў на НПЗ, начальнік ахраны. І вот яму сказалі нагу атнімаць, тожа ў Віцебск. Нагу, во такую чорную, прывязьлі мне. І кажаць: “Бабулічка міленькая палядзі!” А там у мяне дочка на Ізьмерыцеле робіць, і яго жонка. І вот прыехаў гэты Сяргей Барысавіч з жаной. Жана тут села, а ён тут. Ён тры дні крычаў, ратуначку! Гэткая нага была. Казаў, трое сутак не спаў. Я яму тры дні загавару. Адзін дзень загаварылы – была нага сіняя, такая чорная. Сказалі ў Віцебск атнімаць нагу. Тады заўтра прыехаў, апяць загаварыла. Тады назаўтра прыехаў і гаварыць: “Бабушка палядзі, ў мяне ўжо паявіўся цвет нагі.” Вот тры дні, а тады гаварыць: “Я і к вам чацьвёрты раз прыеду.” “Ну прыедзь і чацьвёрты.” Ну вот прыехаў і чацьвёрты. Ўсё, і сягодня нага ёсьць.

**Валасень**

– І валасьнікі лечу, і эгзэму, і эпілепсію.

*– А ад чаго валаснік бывае?*

– Валасьнік? С вады бываець, з возера. Ілі ўдарыш можаць валасьнік быць. На пальцах, хоць дзе, можа на руцэ быць, вот тут дажэ. Хоць дзе валасьнік можа быць.

*– А дактары яго не лечаць?*

– Валасьнікі – не. Дактары?! Хто яго лечаць! Валасьнікі.

*– І як тады лечаць?*

– Ну загаварваю, Богу малюся. Сьвякроў навучыла. Я Богу малюся. І гавару там: *"Чорны волас лезь на колас…"*. Так гаворыцца. *"Сівы волас лезь на колас, сізы волас лез на колас…"* Усё, сколька валасоў ёсьць, нада ўсе, усе прагаварыць і дзержаць жыта каласы. Вот дзяржыш каласы і тады гаворыш адзін волас прамолішся скажаш, так другі, так трэці і пашло, і пашло.

**Залатнік (падрыў)**

*– А што за хвароба залатнік?*

– А залатнік – гэта падрыў. Тожа лечу, да. Загаварваю я лекарствы, травы загаварваю і яны прыязджаюць ка мне.

*– А із-за чаго ён бывае гэты залатнік?*

– Ад цяжолых работ вот. Падарвецца чалавек, цяжкае падніміць. Бываець прыязджаюць, то там матор снімаюць які там. А ён падхваціць так і ўсё – і ў яго ападак жалудка. Яны па лячэбнаму называюць гастрыт. А гэта не гастрыт, а падрыў. Вот. Усякія.

*– А вот хтосьці гаварыў, што знахары, яны, як бы, ну вельмі, не могуць дапамагаць сваім родным, блізкім?*

– Няпраўда. У мяне вот прыедзець малец, робіць на Сьцяклухе (з-д Шкловалакно), цяпер перайшоў, ён там ручку зьвіхнуў, балела, я яму нітачку зробіла, загаварыла – сразу лучшэ. Прыехаў: "Мама, мне жывот забалеў." Я падрыў сціраю, я ж падрывы сьціраю, загаварваю. Я сатру. Я ўсё врэмя рэбятам памагаю. Там дзевачка прыедзець мая: "Мама мне жывот баліць." Цягаю там, а ана ўборшчыцай робіць. Патру – усё харашо.

*– А як вы сціраеце падрыў?*

– Як сьціраю? Вот прыязджалі. Я дужа мужчынам не хачу сьціраць падрыў. Ну як прыедуць, просяцца, так дужа цяжка сьціраць мужчын, жываты крэпкія. Палажу яго, ногі паставіць вот так (падагне ў каленях), я тады бяру і падымаю яму жывот з усіх бакоў, і адсюль, і адсюль, усё на месца станаўлю і загаварваю.

*– А куды на месца, што за месца? Каля пупа можа?*

– Во дзе, вот жывот бярэш вот так, і падымаеш як можна ўверх. Тады збоку апяць вот так, тады вот так, тады так (з усіх бакоў – у накірунку да пупа). Пуп бярэш так, пуп патрасываеш.

*– А так што гэта падымаецца, гэта нейкі орган?*

– Гэта ўсе суставы твае станаўлю. Залатнік твой.

*– А залатнік?*

– Ты ж во ў машыну там ці што падніміш цяжка, цябе забалеў жывот, баліт пад грудзямі і ў пупе.

*– Гэта значыць залатнік разбігаецца па целе?*

– Да, да па ўсім целе. Не нада цяжкага падымаць у гэта врэмя. Адзін чалавек прыязджаў, казаў: "Каніцу зняў зверху і як схваціў, дажэ грыжа дала ў пупе".

*– А грыжа і залатнік не адно?*

– Не адно! Не. Я грыжу загаварваю і ўсё.

*– А грыжа і грызь гэта тое самае?*

– Грыжа – не. Грыжа адзельна, а залатнік адзельна.

**Упуд**

– А ад упуду гэта абязательна лечу.

*– А больш дзяцей?*

– Ай, дзеткі, дажэ па нядзельцы ка мне прыязджаюць, маленькія. Грыжу загаварываю. Вот і Лепельскія з раёна прывазілі, з Глыбоцкага, з Пастаў, адусюль.

*– А ад чаго ўпуд больш сустракаецца?*

– Ну ад чаго ўпуд. Упуд вот бываець рабёначак маленькі, ну гады там будзе два, спужаецца, кот прыгнець, а ён спужаўся. Сабака прыгнець – ён спужаўся. Такі маленькі, вот у яго тады ўпуд, называецца.

*– А гэта дрэнна, вельмі?*

– Канешна! Гэта ж ўпуд, дажэ туберкулёз можа быць. Меру, нітачкамі меру, ёсьць нітачкі з льна, напрадзена. Мне вот прывязла жэньшчына аж з-за Глыбокага. Такі бальшы быў клубок – ужо разышоўся. Меру, усе суставы вымяраю, Богу малюся, ножкі вымяраю, галоўку, і тады зёлачкі лажу, і тады курат угалькі. Так вот два. Нада так і тады туды пяты і тады зёлачкі і нітачкі, і нада курыць рабёначка.

**Наход**

*– А ці ведаеце такую хваробу наход?*

– Ну канешне, наход ведаю. А наход бывае ад чаго. Вот прымерна. Вы жанатый? Не жанатый. Наход можаць быць, вот бываець гразная жэньшчына. Вы ж панімаеце, дзевачкі. І вот ты будзеш на парозе сядзець ілі там на прыступках, і яна пройдзець каля вас – вот нашоў наход.

*– І тады што будзе?*

– І сразу ссыпець цябе, як алергія. Вот, а есьлі там вот мыесься ў бане і хто цябе там заступіць, усяк бываець, тожа можа наход быць.

*– Ну ў асноўным гэта гавораць пра дзяцей, да, калі дзяцей нельга мыць, нельга калі, ў гэты час калі дзяцей мыюць пераступаць парогі, да?*

– Нельзя.

*– Ніводны чалавек не можа?*

– Ніводны, да. Ніводны. Еслі вот ты гразны пойдзеш, і я там буду ў бане – на мяне будзет наход сразу.

**Зоб ("шчытавітка")**

*– А былі выпадкі, калі вы не дапамагалі?*

– У маёй хаце не было такіх выпадкаў. Я, дзякуй Божачку, усіх лячу. І дзякуй Богу. І зоб, і шчытавіткі – усё лячу я. Дзевачка паехала цяпер, у яе зоб такі бальшы, бальшы. Гэта палучыла яна шчытавіткі і зоб забалеваніе гэта які-та тры стрэса – палучыла зоб. А шчытавіткі яна застудзіла, вот, схваціла ветрам. А гэта называюць шчытавіткі, а яны ж гавораць гэта забаляванне рака. А гэта ж ня праўда. Гэта ня праўда. Гэта шчатавіткі застужана во такі во. А зоб во так такі. А я гляджу ў цябе зоб ёсьць. Я сразу апредзеляю. Я сразу сразу ўсё знаю.

*– Вы можаце паглядзець на чалавека і адразу…?*

– Усё сразу, я знаю, які ты. Сразу якое састаяніе. У цябе я віжу горлышка ўвялічана, во дзе. Увярху, во дзе глядзі.

*– Можа вы дапаможаце ёй?*

– Дык ей жа нада езьдіць тры дні ў падрад. Ну нада загаварваць, я вот загаварваю *водку, лавравы ліст*.

*– Я к врачам хадзіла, не было.*

– Врачы ашыбаюцца, дзетка. Вот дзевачка выхадзіла, а ў яе зоб і шчытавітка. А я казала, а яна гаворыць ўсё прайдзёт, а ў яё не прайдзёт, а пайшло на сэрца. Зоб ідзець, на сэрца корні пускаець.

**Алергія**

*– Такую хваробу вы лечаце, вось я хварэю алергіяй?*

– Лячу.

*– Вось не магу па полю ісці. Увогуле гэта пыльца, усё дрэнна. Вочы баляць.*

– Ад алергіі?

*– Насмарк, соплі.*

– А-а-а. Я табе скажу, што ад алергіі нада. Вот ка мне возяць такіх, што…

*– Таблеткі не дапамагаюць?*

– Не, таблеткі не возюць. Вот такія *сучкі*, чапаюцца за штаны, за ўсё. Гэта называецца *чарада*. У аптеке, чарада завецца. Вот прывозяць мне чараду, вот учора жэньшчыну прывазілі, і ўсё цела, і грудзі, рукі – ўсё зліта было. Яе тры дні вазілі, а ўчора привезлі, гляджу, я сказала якога чысла палядзела, гляджу, ужо пайшла на папраўку. Шалуха пайшла па её, па ўсей пайшла. Грудзі, плечы – усё пашла шалуха. Загаварваю гэту *чараду*, застаўляю, назначаю паскока піць яе. Застаўляю там стаканчык на дзень гэту чараду, пальчык у так узяць тры разы, кіпятком заліць на нач, і тада тры разы удзень: рана, у абед і вечарам. Гэта дней дваццаць папіць нада. А гэту *чараду*, што есьлі ў цябе па целе ёсьць прышчы, тады настаяшча ўзяць заліць ў літровую банку і тады там, дзе ў цябе ёсьць…

*– На целе няма. Вочы вось баляць і чэшуцца.*

– Дык вот табе нада, нада піць. У цябе яшчэ ёсьць, ўнутры яна. Яна табе даець на глазы. Табе нада гэтай *чарадой*, што заварыш многа, перацадзіць, там асьця многа, і тады мачыць вот так трапачку і мыць глазкі вымываць, тока аднэй *чарадой*, ні шампунем, ні туалетным мылам, а тока хазяйственным. Памылася і ўсё, нікакіх красак, нікакіх памад не нада.

*– Няма ж…*

– Я віжу ў цябе няма, а ў аднэй жэньшчыны прыязджала галаву, казала баліць і баліць галава. А я гавару: “Не нада красіць галаву.” А як не стала красіць, галава паправілася.

**Сурокі**

*– А вот ад зглазу, што трэба рабіць, ці булаўкі ці што? Што больш дапамагае?*

– Да, і булаўкі. Я і булавачкі загаварваю маленькія. Учора мальчыка прывялі, шаснаццаць гадоў. Пашоў на футбол, яго праўрочылі і нагу павіхнуў. Дык я яму загаварыла булавачкі. Нада тады прыкалываць так у рубашачку, рубашачка ёсьць – прыкалоў булавачку і хадзі. І тут во ў галянішчы, во дзе галянішчанка і тут пракалоў, во тут узяў, з гэтага боку маленькую і ўсё врэмя хадзі. Змяняеш штаны, у другія перакалывай. Кофтачку змяняеш, апяць перакалывай. Гэта, глаголяць, уроц.

*– А вось ці ёсць такія людзі, у якіх глаз дурны?*

– А поўна іх такіх людзей.

*– А хто менавіта можа уроц навесці?*

– А чорт іх ведае. Я ж не адсюль сама. Я іх добра не знаю. Я ж сама з Ухвішча.

*– А ад чаго гэта ўвогуле бывае? А ад чаго дурное вока ў чалавека можа быць?*

– Ну, сматра які глаз. Вот бываець двайняшкі радзілісі, і яна вот палядзіць і сразу сурочыць. Я помню адзін год прыехаў мой зяць сюды і біў дровы, а тут раздзеўся так, тока пажаніўшысь з дачкой былі, і яна прыйшла: "Ай, сколькі ты дроў пабіў, Юра!" А яна пайшла сразу. Плоха, плоха, кажыць: "Мама, я паміраю." – "Что с табой?" Я пабегла, скарэй вады яму загаварыла. Вынеслі адзеяла, падушку, накрылі, а яго стала дрыжыка трасьці – абміраець і усё. Ну зробілі вады, памылі яго, ён паляжаў, і атышоў, як нічога не было. Ішчэ адзін прыязджаў з (Аф)Ганістана мужчына, вёз, тут каўры вазіў. Там сюда вёз тада людзі падзівілі яго ў аўтобусе і абміраў. Я тут дровы слажывала, прыбегла жонка ягоная: "Цёця Каця, спасіце, – гаворыць, – паміраець мой мужык!"– "А што з ім?" Кажаць: "Праўрочылі дарогай." Тожа вады загаварыла.

**Укус зьмяі**

– Есьлі б ня людзі, што загаварваюць, вы б памёрлі. Такія ёсьць людзі, што паміраюць. Вот прыедуць сюды, ка мне ж многа людзей езьдзяець… Едуць і з Наваполацка, і з Пастаў. Тры ці чатыры годзіка, ўкусіла зьмяя, чорная зьмяя. Чатыры годзікі ёй, з Полацка яна. Яна з Баравухі, вось званіла матка. Чорная зьмяя... Прыехалі дамоў, паставілі машыну, а яна з-пад машыны за ножку кусіла. Вось прывазілі – ножка чорная, во такая ножка. Есьлі б яна знала сразу, вот хай Бог сцеражэць, калі будзеце жывы-здаровы, нада срочна перавязаць нагу вот так, срочна ілі там руку.

*– А дзе над ранкай ці?*

– Каб ранка, каб сюды яд не пайшоў (перавязваць вышэй месца ўкуса). Вот прыкладна укусіла, вот завязаў крэпка жгутам і быстра скорую. А яны гэта ня зробілі, яна пайшла ў яе аж сюда. Ну павязьлі ў бальніцу, ня лепшаець дзевачка, ня лепшаець. Там хто-та ёй сказаў і яны прывязьлі ка мне. Вот яна і благадарыць, дзевачка ужо пашла на ножку, ужо лучшэ. Я кажу: "Во ўрачы ўжо вылечылі." – скажуць.

*– А вы прама на нагу загаварвалі ці можа вадзічку давалі?*

– Не, я ножку загаварвала ей. Ножку вазілі тры дні ўпадрад. Загаварвала *водку* ей і *лаўровага ліста* пачку, яны настаівалі яго, но яшчэ не лажылі.

*– На гарэлцы?*

– На *гарэлцы*. Можна на сьпірце, але на гарэлцы. На сьпірце дужа паліць, а на гарэлцы… І яна ваду брала, я вады давала, і яна змывала, і вот, дзякуй Божачку, кажыць сёньня ўжо пашла.

*– А што вы казалі кампрэс яшчэ нейкі?*

– Ну вот ана прыедзець дамой, каб лажыла каля пяткі яшчэ сіня. Лажыце кампрэс, а тады мёдам нада. Я *мёд* загаварвала ёй і яшчэ мёдам лажыць нада. Дзе тая зьмяіца ўкусіла на месца нада лажыць.

**Дзічы**

*– А калі дзічы на руку сядуць?*

– Дзічы? Тожа загаварваю. Малюся Богу, нітачкі вяжу, закапваюць вот. Адну нітачку закапаць, а другую палажыць, дзе газ. Яна тлеіць, тлеіць і сатлеіць. Ну не сразу, пасьцепенна.

*– На канфорку, туды дзе?*

– Да, ну туды, дзе ў вас топіцца пліта. Вот тут пліта прымерна, а тут палажыў, яна тлеіць, тлеіць і сатлеіць. А тут, дзе ходзіце, ну ў вас там у горадзе дык няма ж гэта зямлі, як у нас гэта зямля пад парогам, нада хадзіць пака не згніець яна.

*– А з чаго дзічы з'яўляюцца?*

– Ай ну ня знаю, гавораць, што ад маткі завісюць, як матка ў палажэньні ходзіць, носіць у падале грыбы, яблыкі – ад гэтага.

**Засьцярогі для цяжарнай жанчыны**

*– А што вот як вот ходзіць у цяжкую жанчына цяжарная, што не можна рабіць, каб дзіцёнак здаровы быў?*

– Што? Плюваць нельзя.

*– А што будзе тады?*

– Рабёнак усядзець і сьлюнкі цячы. Падла есьлі ляжыць дзе, а яна: "Ой, фу, сьмярдзючае." Рабёнак родзіцца і будзець усю жызьнь, да канца яго жызьні, сьмярдзець з роту. Нельзя. Гліну нельзя пальцам чапаць, будзець рабёнак есьці гліну. Можаць хто кінуць бумагі на цябе, бумагі рабёнак будзець есьці.

*– А яшчэ што гаварылі? Можа пераступаць што нельга?*

– Нельзя. Вот бываець. Адна жыла ў Вухвішчах помню, і яшчэ дзеўкай была, там баба была ў палажэньні і завілася з аднэй бабай. Яна выхадзіла, а тая ўзяла перасекла парог, яна адхадзіла, а та раз, раз парог. І радзіла з расечанай губою. Расьсекла губу. Радзіўся як заяц, разбітая губа. Усякія ёсьць прыметы даўнія.

*– А яшчэ што нельга было пераступаць?*

– Ну не знаю. Цэп нельгя пераступаць – цяжкія роды будуць, пупавіна будзе закручана вакол рабёнка.

**Вогнік**

*– А вот вогнік, такая хвароба?*

– А вогнік тожа загаварваюць, адкідваюць вогнік.

*– А што за яна? Як яна праяўляецца ў чалавека?*

– Вогнік? Ну вот можыць ад печы, ад газа, можыць усяк.

*– Так вот што проста, вот каля печы стаіш?*

– Ну бываець мінута такая падскакваець. Мінута такая. Можа быць ад зглазу. Усякія вогнікі бываюць.

*– А як яны чырвоныя, прышчыкі ці што?*

– Вогнік? Проста такі, як пятакамі, будзець. Па ліцу, усюды.

**Лішай, экзэма, таберкулёз**

*– А гэта, можа, называецца яшчэ кругі?*

– Гэта кругі – другое.

*– А кругі, што такое?*

– Тожа лішаі называюцца, гэта лішаі. А кругі, лішаі гэтыя, ад сабак, ад катоў. Вот. Тожа лечу. Ну бываець сабака лішайны, а яго там гладзюць, абмываюць і гэты лішаі… Вот ка мне прыязджаў з Блізьніцы чалавек. Во тут адзін лішай у яго, во тут другі. Кажу: "У цябе сабака ёсьць?" "Ёсьць!" Ну вот і насі.

*– Так а лішаі вы тожа загаварваеце?*

– Загаварваю я. Назначаю…Лішаі я загаварваю і загаварваю *ёд, поснае масла,* састаў раблю і тады гэты лішаі вымазываю. І *спірт,* я не знаю, у мяне там запісана.

*– А вогнік як?*

– А вогнік – загавор і вада.

*– Так і вадой можна змываць?*

– Абязацельна, абязацельна. Есьлі заўрочаны: вот рабёнак заўрочыўся і ўсё, дажа можаць памерці з уроцу. Нада змываць вадой і загаварваць на ім.

*– А што вот страшней уроцы ці ўпуд?*

– І ўроцы плоха, а ўпуд яшчэ страшней, можыць дажэ туберкулёз быць рабёнку.

*– Туберкулёз?*

– Да, даберкулёз. Вот экзэма бываець, вот экзэма ў рабёнка, яны (дактары) гавораць, алергію лечаць, а гэта не алергія – гэта экзэма. Цяпер пашла экзэма, вот сколькі дзяцей водзяць экзэма, экзэма. Гэта сільна ўрадзіт на лёгкія. Еслі яе не лячыць, яна ідзець на лёгкія. Можаць малы рабёнак дажа памерці. А еслі я вот загаварваю *чараду*, ён п’ець чараду і тут мыецца, гэта экзэма выходзіць вон і спасыхает на ліцо. А з Лі(е)паі чалавек прыязджаў. Ай, як раздзеўся, я такога не відзела нідзе, увесь: і жывот занёсшы экзэмай, і ногі, і рукі. Я кажу: “Ты, мусіць, чалавечак, п’еш.” Кажыць: “П’ю бабушка.” Я кажу: “Ня пій!” Піць нельзя. Гэтай балезьні, нельзя ў рот ні піва, ні віна. Кажу: “Я буду цебя лячыць, но ты, пажалуста, ня пі.” – “Буду ня піць.” І вот тры дні пазагаварвала яго – ужо пашла шалуха па ім, ужо стала шалушыцца, ну і вады. Кажыць: “Я прыеду і чацьвёрты раз.” А тут у ваенным гарадку яго сястра жывець, яна была нагу зьвіхнуўшы, я яе вылечыла была, так яна яго прыслала. І вот ён тут цэлых дзве нядзелі быў. Прыязджаець на чацьвёрты дзень і прывозіць мне цэлае вядро баравікоў, дзе-та ў Рабчонкі паехаў, там дзе-та Рабчонкі ёсьць, я не знаю. І цэлае вядро баравікоў прывёз. Ай-яй! Кажыць: “Бабушка, для вас прывёз, сабе назбіраў і вам.” І вот я ў чацьвёрты раз гаварыла, і ўсё харашо, казала прыязджала сястра сюды вады, там унук забалеў яе, так казала ўсё харашо, паехалі. Яго жонка памёрла, а ён як запіў, як запіў і пашла экзэма па нервах.

**Дыягностыка**

*– А як вы навучыліся ад калтуна загаворваць?*

– У меня сьвякроў. Яна мне ўсё, што я пісала, што ўчылася так, даўней жа розум быў большы, маладая была, дваццаць чатыры гады было. Яна што мне расказвала, што ўчылася. Я любую балезьнь у вас узнаю, любую, у каждага. Яна, вот прывязуць чалавека ў яго забаляваньне рака, хай тут нячутаны, каб усе здаровы. Прыводзяць чалавека, а яна гаворыць: “Хадзі сюда.” І мяне так вучыла. Вот яна абышла, палядзела яго, тады гаворыць: “Ну, а цяпер ты.” А яны ж, матка ж знаець як браць, а я толькі учуся, у мяне рукі трасуцца. Яна гаворыць: “Ідзі, дзетка, далей.” Я іду, іду, раз стала. “Ну, ідзі, дзетачка, далей, ідзі далей.” Найду такія густоты тут: адзін бальшы, другі меньшы. А тады выходзім і абшчаемся, як врач з врачом. Вот як ён слаб. Праўда дзетка, праўда. Забаляваньне ракам. Я табе ўвесь твой жывот, узнаю, што табе баліць.

*– А гэта вы глядзіце, гэта вы шчупаеце?*

– Я шчупаю рукамі. Усё шчупаю, еслі паджалудачная баліць знаю, еслі печань – знаю. У мяне ўсё, усё, ўнучок.

*– А вы можаце сказаць, сурочаны чалавек ці не?*

– Канешне магу. Я ваду роблю і пагляджу на вадзе: ці ты спраўрочаны ці ты так гэта атрымалася. Вот наліваю ваду ў бутылку, у літровую баначку, прыхаджу сюды і паказваю. “Палядзіце.” – гавару.

*– Так вы, вы на іконку?*

– Не, на свет.

*– А, на свет. І што там відна, што павінна быць?*

– А што відна? Відаць, есьлі вот чалавеку здзелана, вот прыязджаюць, што паддзелана, ёсьць маладыя, такія як вы прыязджаюць.

*– Дык як узнаць, што сурочылі?*

– Пастаўлю баначку напроців лампачкі і паказваю, еслі праўрочаны ты, табе здзелана. Такія стаяць красныя точачкі, красныя точачкі, як у гэным, як лампачкі гараць. Ды есьлі многа зьдзелана, тады проста ўсё, аж красна, як ў цэрквы сьвечкі. Сразу.

*– А як узнаць вот хто сурочыў, хто падрабіў?*

– Ну я апрэдзеляю, што гэта ілі чарвенная баба ілі храстовая, я апрэдзеляю.

*– А як там паказваецца?*

– Не скажу, што там Любка, ды Валька какая, я ж не знаю. Праста скажу: “Вас праўрочылі ці зробілі чарвенная жэньшчына.”

**Дыягностыка і лекаванне па фотаздымку**

*– А лячыць можна па фатаграфіі?*

– Да, лячу! Вот прыносяць фатаграфіі, я пасматру і знаю. Вот две сядзяць бабы. Яны вот палядзіце, якая баба добрая, а якая дрэнная. А я сразу паляджу і гавару: “Вот во гэта – гадасьць, а гэта – харошая.” Да, сразу знаю.

*– А куды вы глядзіце, ці вы адчуваеце проста?*

– На картачку гляджу і гляджу. На ліцо гляджу канешна.

*– А балезні вы па картачке ўбачыце?*

– Да. Балезьні я апрэдзеляю па картачке. Вот раскажу вам як было. Прыязджаў ка мяне, два ахраньнікі прыязджала. Адзін з міліцыі, у аднаго мальчык заікаўся, другі прыязджаў сам – у яго балела нага. Гэтат палячыўся, адзін ахраннік, і прывязлі гэтага мальчыка. Я мальчыка вылечыла, гэта заікі ў яго, у яго іспуг быў, усё. А гэтат у мяне знакомы такі, Пажога фамілія, мажа чулі, такі на міліцыянера работаіць на НПЗ ці дзе. А там многа іх. А ён мне кажыць, звоніць мне па целефону: “Цёця Каця.” Я кажу: “Што?” А он кажыць: “Я выхажу з кабенета, а там напісана аб’яўленьне, фамілія і отчыства, усё гаворыць, жэньшчына з Саланевічэй очэнь лечыць усе балезьні, заікі ўсё, і касаглазьзе і ўсё. “Я, – кажыць, – вышаў, аж ашарашыўся.” Хто напісаў, а тады кажыць: “Я ўзяў сарваў.” Я кажу: “Не нада, Віця, на чорта, гэткага врача найшлі.” Ну, каму нада, што я буду весь сьвет, я ж ужо, здароўя нет у мяне.

*– А хто тое павесіў?*

– А тое павесіў, што я мальчыка вылечыла., што заікі, іспуг яму быў усё. Ён напісаў, што дужа харошая жэньшчына, дужа яму панравілася я, і ў яго галава балела дужа, я яму загаварывала.

**Эпілепсія**

*– А вось такая страшная хвароба ёсць, па рознаму называецца, падучая ці прыпадак?*

– Эпілепсія. Лечу эпілепсію. Эпілепсія бываець і с іспуга.

*– А ёсць жа гаворацць яшчэ і прыродная эпілепсія?*

– Ёсьць і прыродная эпілепсія. Вот бываець пераходная такая, бацька бальны і на рабёнка ідзець вот гэта эпілепсія.

*– Дык, а якая страшнейшая?*

– Ну, прыродная канешна, яе не вылічыш. Яна ўжо хранічаскі ідзець. Ну а з упуду я лечу. Я ж магу павылечваць. Во калхоз "Родзіна", мальчыка прэдседацеля калхоза, яму восем лет было, я вылечыла, эпілепсія была ў яго.

*– А як, толькі загавар ці яшчэ нешта рабіць трэба?*

– Ваду роблю і загаварваю.

**Заіканне**

– Заікі ле́чу, што заікаюцца рабяткі якія. І па восем гадоў і па дзевяць.

*– Гэта заікі таксама з упуду?*

– Да, вот ад сабакі ці можа з каня сваліцца, ілі з-пад пуні зваліцца – заікі. Вот я загаварваю канфеты, дзевятнаццаць канфецін загаварваю, тады ў дзень па тры канфеціны і нікакіх болей канфет, тока мае. І вадзічку раблю, і загаварваю рабёнка.

**Энурэз**

*– А калі вось дзіцёнак пісаецца?*

– Загаварваю! Я столькі павылечвала. Да. Есьлі вы будзеце пісаць, прыязджайце я вас вылячу. (Калектыўны смех)

*– Добра. А ад чаго гэта бывае?*

– А эта бываець ад аслабленьня мачавога пузыра.

*– А з упуду можа быць?*

– І з упуду можаць быць. Вот бываець адкуль раз упаў і ён страхнуўся, і ў яго проста суставы, жылы гэтыя ходзюць і ён спіць, яму здаецца, ляжыць і пісаець. Мне з Украіны, дваццаць сем гадоў прывазілі мальца, дваццаць сем лет. І мой пляменьнік прыязджаў. Тады гаворыць: "Цёця Каця, я прывёз свайго друга." – "А што такое?" Кажыць: "А ён пісаецца." – "Ай-я-ёй!" Ну такі бальшы малец, ўжо з арміі і гэтакі ў арміі быў. А тады як стала робіць, усё загаварваць, яму ўпуд выбярала, курыла, пайду з ім тут пакуру, тры дні пакурыла, усяго две нядзелі. Тады сьцялю пасьцель, а ён: "Цёця Каця, не сьцяліце, ён вам усё надзелаець." "Не надзелаець", – кажу. І тады дзелаю так: вот яго палажу спаць, а тады гляджу па врэмені, прыкладна там дванаццаць, час, два, я яго падымаю, учу так. Ён устаў, пашоў. Тады апяць ложыцца. Я тады ў чатыры падымаю. Вот стаю як сторaж. Вот і нада дней пяць так паінструкціраваць гэтага рабёнка.

*– А вы нічога не загаварваеце?*

– Нет. Я вечарам яго пакураю, загавару яму, вадой змыю, вады дам папіць і пайшоў спаць.

*– А чым вы курыце?*

– Зёлкамі, із цэрквы ёсьць.

**Зубны боль**

*– А зубы ці загаворваеце?*

– Загаварваю зубы... Ну, сколькі загаварвала… Прыязджаў начальнік міліцыі нейкі, вырвалі зуб яму, во так распёрла ў яго. Прыехаў, ідзець, гаворыць: “Бабушка, ты спугалася?” – “А чаго я буду пугацца?” Гаворыць: “А што міліцыя ідзець!” – “Ну хай ідзець. Нада – хай ідзець. Не нада – хай ня ідзець.” Гаворыць: “Мне зуб баліць, вырвалі – заражэньне пайшло.” Ай распёрла, аж чорна тут у яго ў роце. Вот я яму загаварыла, ён казаў: двое сутак не спаў. Я загаварваю, а ён сьпіць. Яму так харашо, і заснуў у мяне.

*– А вы вадзічку даеце?*

– Да. Тады вадзічку зробіла яму, дала яму маленька папіць, змыла, так уліла ў чарачку, пальчык вот так мыла яго, мыла, дала папіць і ён сеў, і заснуў. А пашла ваду яшчэ яму робіць, прышла (я два раза загаварвала яму зубы), прышла, тады ён казаў: на заўтра добра было яму: "Але, як бабушка ты сказала – я прыехаў апяць.” – “Добра, маладзец, што прыехаў, маладзец.”

**Скула (чыра)**

*– А скула, што за хвароба такая?*

– А скула – гэта застужаная залатуха называецца. Гэта дзецкая балезьнь – залатуха. Еслі вот ў дзяцей бываець галава, кор такая на галаве, а скулы, гэта застужана галава. Во чалавек прыязжаў з Бабынічаў, но ў Наваполацку жывець. Казаў: пахаў там гарод у маткі ці што ён там робіў, і вот такая чыра села на плячах. Кажыць: “Бабушка палядзі, што ў мяне…”

*– Так чыра і скула – гэта адно і тое?*

– Адно і тое! Я загаварыла яму, зробіла яму вады і сказала: купі “вішнеўскай”, прывязі “вішнеўскую” – загавару і біньцік загаварыла. І на заўтра ўсё прарвала ў яго. Кажыць: “Спасіба, бабушка, ты мяне вылечыла.”

**Часавы кантэкст лекавання**

*– А скажыце гэта кажды дзень вы можаце памагаць, ці бываюць дні калі не паможа?*

– Каждый дзень. Толька ў празьнікі (не магу). Вун у мяне календарь. Прывёз нейкі дзядзька малады. Кажыць: “Бабушка, ты вельмі набожная, табе календарёк на памяць.”

*– На праздніках не?*

– На празьнікі не. Ну, грэх!

*– А ў васкрасенне?*

– Тожа грэх. Я не знаю, но тока, барані Бог, гэта балезьнь балючая ў каго, тады я ўжо загаварваю с часу (пасля 13-й гадзіны). Вот бываець ці рожы, ці дзецкая якая балезьнь, тады. Да часу не – абедня ідзець, не, а ўжо з часу… Я распрасіла ў бацюшкі, ён кажыць: “Біць нельзя, рэзаць нельзя, а памагаць людзям можна.”

**Этна-культурны аспект лекавання**

*– А яшчэ казалі, што выпіўшы, нельга загаварваць?*

– А, я ж ня п’ю! Я п’яных не загаварваю.

*– П’яных нельга загаварваць?*

– Не!

*– А вот ці праўда, што жыду не паможа?*

– А, няпраўда гэта! Прыязжалі ка мне жыды, жыдоўкі і, дзякуй Богу, папраўляліся.

– *Дык гаворaць, што яны не хрышчоныя.*

– Ну дык што. У мяне хрэсьцік ёсьць, я іх перахрышчу і Богу малюся.

– *А то есць вы хрысціце іх усё роўна?*

– Да! І Богу малюся над імі і ўсё. Ай, няпраўда гэта.

**Апёк, адмаражэнне**

– Як рукі змарозіш, нада срочна кіпяціць масла поснае. Вскіпяціць і мазаць. Мазаць і хадзіць вот так аткрыта.

– *І не ўкручываць?*

– Да. Не нада ўкручываць. Памазаў і сядзі во так во. Памазаў і быстра, быстра гоіцца.

– *А калі апячэш?*

– І апячэш, гэтым маслам нада.

– *Тым жа самым?*

– Я во сама апякла во. І толькі во і вылечыла маслам. Ну я ўжо не кіпяціла, так вазьму трапачку памажу, памажу і загаілася.

**Галаўны боль**

– Калі баліць галава… Вот *вуксус*, прымерна паўтара стаканы, паўтары ложкі вуксуса і загаварваю. Вот забалела галава, нацёр і тады кампрэс – сразу атнімаець усе болі. Ён узяў напісаў, я яму памагла. Кажу: “Сарві!” Ён сарваў. Кажу: “Не выдумывайце, я тады лячыць саўсем буду адказвацца.” А рабяты крычат, на мяне дзяўчаты: “Мама кідай.” Я ж вот после іх балею дужа, мне галава тады, нервы, усю энэргію аддасі і тады зробішся вот такая.

**Народная ветэрынарыя**

– *А гавораць гэта, што свінні нельга дапамагчы?*

– Чыво?

– *Ну калі паможаш свінні, то ўжо людзям дапамагаць не будзе.*

– Я ж і сьвіней лечу, і кароў лечу, і коней… Во прыязджаў...

– *А што з коньмі можа быць?*

– Усяк можа быць. Забаляваньня, вот так. Ну вот бываюць “матылі” ў каня.

– *А што такое матылі?*

– Ай што-та з галавой там іх. Там яшчэ з лёгкімі ці з печанью. Я тады бяру гэта, загаварваю ім, расказваю, што, еслі матылі – нада *сахар* даваць, *цыбулю* даваць каню, вады роблю. Ай, сколькі ўжо прыязжаець з конямі! І свіньням. Я ж рожы сьвінныя лячу. У нас жа врачоў нет. Вот прыедуць, кажуць, там рожа сьвінная. Гэта на сьвінную рожу Богу ня молісься. А па другому гаворыш. Тока молісься, а не хрысьцісь, нельзя хрысьціцца.

– *А, то есць ужо Богу не моліцесь?*

– Не, не.

– *А як кароўку?*

– А кароўку, пажалуста, можна. Каня і кароўку можна.

– *Толькі, як свінню, загаварваюць?*

– Да, а сьвіньню нельзя. Курам прыязжаюць, куры тамака б’юцца, рады нет. І курам даю.

**Ячмень, "касыя вочы"**

– *А як ячмень на вока сядзе?*

– Гэта з прастуды. Можыць і праўрочаны і з прастуды. Загаварваю ячмень.

*– То ёсць і праўрочаны ячмень?*

– Да, да, і праўрочаны бываець. Ну загаворы і вады дзелаеш.

*– А вадой змываць ячмень?*

– Да, да. У каго касаглазьзе лечу.

*– А ад чаго касаглаззе бывае?*

– Ну вот рабёнак ражаецца, а матка, дзе трусоў відзела, можа што... Трусы гэты. Яна можа брала іх, а можа ела мяса. Гэта нельзя есьці.

*– А што яшчэ нельга есці?*

– Ну што? Як бярэменная? Ну ўсё можна есьці, толька кроме зайчыны гэтай нельзя.А то касыя рабяты будут.

*– А то будзе касы, як заец?*

– Да. Касы, як заяц. Я яго вылечыла і прайшло месяц два я ж ужо, у ваеннай адзежы прыязжаў, а прыехаў после ка мне, я яго не ўзнала, у касьцюме пры галстуку, што за чалавек. Прышоў: “ Бабушка, я к вам.” – “Пажалуста.” Як раз у мяне былі две жэньшчыны з Новаполацка. “Во, пасядзіце трошачку.” – “Харашо, харашо”, – гаворыць: “Ці ўзналі вы мяне?” – “Не. Ну дзе ж я ўзнаю, столькі людзей, а я адна!” А ён заходзіць: “Цёця Каця, – гаворыць, – палядзіце на мае глазы.” Я палядзела і тады дагадалася. Кажу: “Саша – эта вы.” – “Эта я. Вы ж пасматрыце, якія ў меня глазы.” А ў яго вот так во лёталі глазы. А як прыехаў, думаю, ці будзець рады, ці не! Але дзякуй Богу, есьлі ён на Украіну езьдзіў і прывёз літар чэснага поснага масла, льнянога, восем яблыкаў бальшых-бальшых і дзесяць апельсінаў. І дваццацьпятку палажыў, а я не брала, ён кінуў: “Не, не, не, бабулька!” Кінуў дваццацьпятку і я кажу: “Не буду браць.” – “Не, не бабушка – гэта мама прыслала вам, што вы мяне вылечылі.”

**Знахарская этыка**

– Я нікагда нікаму не адказваю. Хай я… Вот раз прыехала баба із-за Лепля, а я атраўленьне палучыла – узяла купіла кансервы, у нас нет магазіна, аўталаўка прышла. На другі дзень памірала. Прыехала баба, кажу: Дзетачка, міленькая, я ж не магу. Так захварэла.” А яна: “Бабушка, я ж з далёка ехала.” Я кажу: “Ну, як будзе, так і будзе. ” Буду загаварваць і, дзякуй Богу, памагла.

*– А скажыце, а калі вы бачыце, што хворы, ну вельмі цяжка хворы і там такая неізлячымая балезнь, то што, вы будзеце брацца, вы не будзеце атказвацца?*

– Бяруся я. Я бяруся і лячу, а, можа, Бог дасць і паправіцца, гэта ж ад Бога.

*– А калі не?*

– А калі не, ну ніякі врач і не вылечыць. Не – дык не.

*– А вот, вы гаворыце, бачыце, які добры чалавек, а які дрэнны?*

– Так.

*– А вот, калі дрэнны чалавек прыходзіць па дапамогу?*

– Памагаю. Прашу Гасподзь Бога і памагаю яму. Хай знаіць, што я памагаю яму. Ён плахі, во, хай знаіць. У нас так было адзін раз. Далі ў калхозе буракі палоць, а я ж робіла гэта самае, почту насіла, і на полстаўкі была ў клубе. І мне брыгадзір даў сем баразён, дужа дліных, а я вазіла ячмень і звалілася са стага, і паламала крыставіну тут, на шыі, трэшчыну. Паехала ў бальніцу, врач гаворыць што трэшчына. Налажылі там на мяне, палажылі мяне і ён мне назначыў буракі.

Думаю, якія буракі, я не магу сагнуцца, нічога. А дзяўчына прышла са школы, яна ў сёмы клас хадзіла, прышла выпалала гэтыя буракі. Кажу: "Дзетка, мне далі асвабаждзеньне." Паехала і там, врач хахатаў, гаворыць: "Баба хворая, буракі назначылі." Ну і чую ў магазіне, у нас магазін быў, бабы ўжо: "Ай, здаровая як ладоха, а буракі палоць не хоча."

*– Як хто?*

– Ладоха. Ну здаровая як ладоха гэта. Ну, "ладоха" – гультай, сядзіць уся такая. Прышла баба, у яе захварэў парсюк, там двое свіней, адзін на ўвесь хлеў, прыходзіць: "Кацечка, міленькая, спасі, у меня парсюк захварэў." А яна гаварыла (на мяне). Я кажу нясі ваду, нясі *муку аржаную*, я буду загаварваць. Прынясла яна ваду, муку. Загавару, кажу: "Жалка мне твайго парасёнка, ну табе не стоіт загаварваць." Так, думаю, скажу, хай знаець. Кажу: "Ты на мяне ў магазіне абсуждала, што я гультай, ладоха, палоць буракі не магу." – "Ай, цёця Каця, эта Юлька." Прышла Юлька: "Эта Аксіння." Во якія людзі тут. Я не разьбіраю ніколі, я на сёлы нікагда не хажу, мне і некалі хадзіць, але я і не хаджу. Ні хазяін не ходзіць, не п'янствует, нідзе нічога. Я ваабшчэ ня п'ю, ні віна, ні піва – нічаво. Такая набожная, што нічога не магу. Я па здароўю не магу, у меня парок сэрца і астма.

**Харчавое атручанне**

*– А як вот, ну атруціўся і панос у чалавека?*

– Марганцоўку, *марганцоўку* і мінералку. Тока і спасаюся. Я сама сябе… Я ў бальніцы не бываю, каб і вы не былі. Вот было мне блага, я так атравілася, я думала ўжо ўсё, канчалася, ужо ўсё, і рукі павялі, і ўсё. Літар марганцоўкі выпіваю, дык і паноса ж няма. Вот такое атраўленьне, што і паносу нет. А паміраеш, ўсе суставы заміраюць. Я апяць кіпяціць ваду, халадаім і апяць. Літра два вады заліла. А тады мінералку.

*– А калі рвота?*

– І харашо, і тады яшчэ пальцы, каб вырвала. Гэта ідзець усё з жалудка, хай вырываець.

**"Старая балезьнь"**

– Вот радзіўся чалавек і прывозяць бацюшку, прывязлі бацюшку і вот прымерна, ты, ты, я тут, сабраліся многа рабят. Вот мяне мама прынясла ксціць, гаворыць, як прымерна будзем называць? Не знаю, можа Кацей назавём, а я радзілася дужа слабенькай і вот уся была старая, такая была старая, што як вот сто гадоў мне. А ён гаварыць, што я вашу дочку храсьціць не буду. Памру заўтра. Што я старая, у мяне ліцо ўсё, усё і лоб…

*– А як гэта называецца, калі такія старэнькія?*

– Гэта "старая балезьня" называецца.

*– А ці можна яе лячыць?*

– Можна. І тады мама, мама ж мая Богу не верыла, яна ж не хрысьцілася нічога, у цэркву не хадзіла, а ей там сказала бабушка, стаяла старушка: "Толькі не плач." – "Бацюшка не пахрысьціў мае." Гаворыць, купай у *зьверабою*, у *пустырнічку*, яна ёй пасаветавала, у *рамашачках*, у *тасячалісьніку*. Кажыць, па тры дні купай у гэтых зёлках. Мама мяне купала, купала, стала ўжо ў нядзелькі дзве паявілася ліцо, ужо маршчыны прапалі, на лбе прапалі, і тока выкапала яна травой мяне. Патом бацюшку прывязлі апяць хрысьціць рябят і яна панясла, ён не верыў, бацюшка, што гэта я.

– *А не расказвалі, ад чаго гэта старая балезнь узялася?*

– Гэта нейкае забаляваньне было. Старасьць.

– *А не казалі адкуль яно бярэцца?*

– А хто скажыць. Бацюшке будуць казаць, ён дажэ ваабшчэ не разгаварваў. Сказаў, што памрэць, я і хрысьціць не буду.

**Бясплодздзе**

– Я тока магу, я магу лячыць у каго па пяць гадоў няма дзяцей, па васемнаццаць, па пятнаццаць. Я дзяцей роблю. Я лячу іх.

– *А ад чаго гэта можа быць, што вот дзяцей няма?*

– Вот бываець пяць гадоў няма дзяцей, вот у меня жэньшчына з Баравухі, у яе пяць лет не было дзяцей. Ну, мусіць, троху і сахранялісь яны сначала, бедна жылі, а тады і ўсё – забалела, забалела ў яе ўсё, матка забалела і прыдаткі, там і ўсё. І вот я яе лячыла, была ў Наваполацку там, у мяне сын там жывець і две дочкі, яна прыхадзіла, а я лячыла і вот ана будзець у сенцябрэ ражаць. Ей вылячыла, усё тут, дзе балела ей, усё загаварвала тожа, загаварвала я ей, і *водку* і кампрэсы ей рабіла. І вот яна будзець у сенцябрэ ражаць. У мяне ўжо дзесяць жэньшчын, ад мяне, што павылечваліся, ражаюць.

– *А ад сурокаў такое можа быць? Бесплодзе?*

– Можыць. Можыць быць і бясплодзе. Ваабшчэ. Вот гавораць адна прыязджала гавораць, сказалі ей, што загіб матакі. Я кажу: “Хай яна (дакторка, якая ставіла дыягназ) сама загнецца!” Я праверыла – усё ў яе нармальна, ніякага загібу там няма. І вот яна тожа ў палажэньні. Усякія, усякія прыязджалі.

**Геаграфія пацыентаў**

– З Ушачы прывазілі і з Лепля прывазілі маленькіх, там две нядзелькі.

– *А вот сама далёка адкуль да вас прыязджалі?*

– Лепель, Паставы, з Глыбокага, а цяпер знаеце адкуль, дзе-та Ліпая ёсьць, я ж не знаю. З Ліпаі. Цяпер прыязджалі з Мінска. Прыязджалі з Віцебска ужо скока машын прыхадзіла. Усякія балезьні, усякія едуць.

**Фітатэрапія**

– *А цяперака вось траўкі вы сабіраеце?*

– Да! *Вераніку* збірала… ад грудзей і ад кашлю. Такая яна, такія лапачкі і сіненькім цьвеціць. Во ў мяне ля плота расьцець. Яня такая, нізенька расьцець вот так. Ну і ўсякія ёсьць. Унучка прыедзець, пойдзем з ёй на наш участак, пойдзе там на поле. І *зверабой*, і *пустырнік,* у меня пустырнік дома, і, гэту самую, *чараду*, у нас чарада ёсьць. Чарада ад экзэмы, вот, ад алергіі.

– *А вераніка ад чаго?*

– А вераніка вот, як вот грудзі закладвает, дыхаць цяжка, тады. *Гарлянкі* збіраюць, *чонбар* збіраю. Ну, чонбар піць, як станеш піць чонбар, так дужа моч ідзець, мачагонны дужа. Да, дужа апасна многа піць.

– *А чыстацел…*

– А чыстацел жоўтым такім. Тожа ляжыць ля вугла. Чыстацел, вот есьлі галава, вот аблысеньне есьлі ёсьць у галаве. *Чыстацел, крапіву…*

– *А тады вот трэба што з ім рабіць, калі аблысееш?*

– Закіпяціў ваду, заліў гэтым частацел і тады вечарам намыліў мылам хазяйственным, ні шампуняй, ні туалетным, вымыў, вымыў чыстацелам, перамыў і спаць.

**Знахар – афіцыйная медыцына**

*– А як вот глухне чалавек, вот вушы?*

– А як глохне нада ў бальніцу, нада пробкі выбіваць, у яго пробкі. Да, глохнуць. І могуць глохнуць, застудзіўшы галаву тожа. Вот у мяне эта была адна жэньшчына, дужа, дужа адно вуха залажыла, адно вылечыла ей, тады другое. Яна паехала ў Віцебск, зробіла аперацыю. Кажу: "Нашто ты робіла!" Учыцельніца з Полацка, яна кажыць: "Бабушка, мне лучшэ, а мне сказалі праверыць." Паехала, а ей там уха узялі раскавыралі, а прыехала – лячыся ў бальніцы. Я адно вылечыла ей, а яна паехала ў Віцебск занава.

*– Ну, а ёсць жа, мусіць, хваробы, што ўжо вы не вылечыце, ну скажам вот апендзіцыт гэта ж трэба рэзаць?*

– Апендзіцыт, не. Канешна. Ілі палом які. Зьвіх магу лячыць.

*– А палом ужо?*

– Не, дзетка, не. Палом, гэта ж нада врачы, нада састаўляць. Адна жэньшчына прыехала ка мне, можа часоў у дзевяць вечара, прывёз яе мужык. Гаворыць: "Бабушка нам далі ваш целефон, мне ножка баліць." Ён прынёс яе, прывёз і прынёс. А яна шла во такія каблукі, шла з гулянкі і спатыкнулася на прыступках, і так павярнула, і ўсё. І ён яе прынёс дажэ гэту бабу. Я так палядзела, палядзела, кажу: "Палома ў цябе нет і трэшчыны нет, ты расцяжэньне связак палучыла." Зробіла ей *нітачку,* загаварыла яе, і кажу: "Заўтра абязацельна прыедзь." Ну і яны паехалі ў бальніцу, думалі, што можа я не знаю добра, а там і сказалі, што палома нет, і трэшчыны нет, а расцяжэньне связак. Кажыць: "Бабуля, ты лепей за врачоў знаеш." – "На то я і жыву, вас жа лячу!"

*– Так вы глядзелі?*

– Я палядзела, яна палажыла ножку, я так пашчупала, палядзела. "Во тут так баліць?" Яна кажа: "Не." – "Тут баліць?" – "Не." – "А вот тут дзе пятка?" Сразу: расцяжэньне сільнае.

**Зап. У. Лобач, У. Філіпенка і студ. ПДУ: І. Азевіч, Т. Клопава, Б. Ключнікаў у 2006 г. ад Свірко Кацярыны Іванаўны, 1929 г. у в. Салаfamevічы Бабыніцкага с/с.**

**3**

**Легедарныя знахары (Далман)**

*– А ці былі дзе бабкі, можа далей якія памагалі?*

– Не, я езьдзіла аж у Глыбокае, у Друйск к Далману, два разы.

*– Раскажыце, вы да самаго Далмана ездзілі?*

– Да самога Далмана першы раз, а втары раз, ужэ Далман памёр, – да сына. Карова наша забалела, не дапусьціла маму даіць, і рагамі, і нагамі. А тут прыехалі трактарысты Пастаўскага раёна памагаць нашаму калхозу і сказалі, далі адрес, – едзь к Далману. Я паехала. Там поезд в Навадруске астанавіўся. І нада бегчы кіламетар назад. Там усадзьба, хазяйства харошае. І ён спрасіў у мяне, што случылась. Я сказала. А людзей была у вочарадзь, як адгэтуль да таго дома (метраў 80). І тагда он узяў ат меня бутылку, ваду. А мне сказаў выйці. І тагда сказаў: "Мама твая ўжэ падаіла кароўку ў абед." І пріезжаю дамой: кароўка ўжэ нар-

мальная. А тады ўжо ў сына я была, сама езьдзіла, як ногі забалелі. Сын із Клайпеды прыехал, як машыну купіў, і павёз меня к сыну (Далмана). Усё перестроілась там: і дарога асфальціраванная, і дом перестроен. Я не ўзнала ўсадзьбу. Людзей поўна было. Ён насабірал трёхлітровых банак (на) два сталы, а нас у карэдор выгнаў. А тады ухадзілі, ён банкі раздаваў, а што ён каму шаптаў... Спрасіў: "Што вам? А, ногі? Ну, да васхода сонца выпейце ложачку *мёда* і после захода сонца выпейце ложачку мёда.” Нічего не памагло.

*– А як выглядаў Далман? Ён быў стары?*

– Спрытны мужчынка, сівенькі такі, высокага такога росту, як ты, такі культурны, дужа харошы.

*– А ў яго светлыя валасы былі, цёмныя, ці ужо можа сівыя?*

– Дык сівы быў ужо! Ужо к сыну прыехала, дык сын ужо быў сівы. А тады я к яму прыязжала, сын быў у Глыбокім жыў. А як памёр, дык сын прыехаў на яго усадзьбу і стаў займацца гэтымі. Ну тады ўсе гаварылі, што сам Далман лечыў у Крэмле некага. Сам Далман, лечыў каго-та у Маскве, вылечыў. Паэтаму яму разрашылі, раньшэ запрэшчалі, і ён адкрыта робіў, плаціў налогі.

*– А самому Далману плацілі што-небудзь?*

– А, людзі ж плацілі. Не назначаў, хто сколька даваў. Багатыя давалі болей, бедныя – меней. Па цем врэменам сыну я давала дзесятку. А тады я не помню не тымі нашымі дзеньгамі, можа, пяць рублей, а можа рубль, хто знаіць.

*– А вы, як думаеце адкуль гэтая сіла ў нашага Далмана? Я ж не буду лячыць.*

– І я не буду лячыць. Ад Бога, навернае. Канешна ж.

**Знахары і шарлатаны**

*– А хто сільнейшы: знахар ці чараўнік?*

– Хто знаіць, дзетка мая. Гэта толькі адзін Бог знаіць, хто сільней. Ці гэтат, што вылечваець, ці гэтат, што врэд робіць. Цяпер жа во поўна іх. Па целевізару як пачнуць паказваць, я крычу: “Забіце яго, гэтага лекара, ён толькі людзей порціць, калечыць!” Як стаў выступаць Кашпероўскі, Чумак, ай, Божа мой, – усе ў целевізар глядзім. Мой Коля, сын, з Клайпеды, сказаў: “Мама, прыязжай. Я на плёнку запісаў і цябе буду лечыць, пабудзіш дзесяць дней.” Я скоренька паехала туды, дзесяць дней Чумака падрят глядзела, а якая была такая і асталася.

*– Ну, а раней бабкі, тыя што былі яны памагалі? Яны ж не такія шарлатаны?*

– Не, не. Былі ж і такія, што нада ў рабёначка грыжа пупавая прымерна ў маленькага, тады я вазіла ў Рабчонкі. Старушка загаварыла і гэта грыжа прапала. Былі такія, што давалі ад вывіхаў. Руку спорціў – *нітачку* пачапаеш, тут старушка ў нас была, давала нітачку. Мая цётка родная астанаўлівала кроў, умела загаварваць.

*– Гэта словамі тольк,і да?*

– Нейкую знала малітву. І вот, еслі кроў пойдзець, парэзаў ці пасек, ці з носу, ці пасек, і тады к ней езьдзілі і сразу астанаўлівалась кроў. Вось такія людзі былі добрыя. А адкуль гэта бралася, хто знае.

**Зап. У. Філіпенка у 2006 г. ад Мароз (Бакан) Надзеі Іванаўны, 1924 г.н. у в. Быстрыца Бабыніцкага с/с.**

## 4

### Уроцы

*– Ну, вот уроцы, гэта што за балезнь такая?*

– Ну, гэта вот, ад уроцы... Чалавек які-небудзь, во я, напрымер, на вас скажу што-небудзь: “Які красівы, харошы, поўненькі”. Ну, вот і сразу яму плоха дзелаецца. Я помню мой брат тожа так захварэў. Прышоў з сяла і гаворыць: “Што-та мне плоха – галава баліць”. А потым мама гаворыць: “Ну, наверна, – гаворыць, – хто-та сурочыў цябе”. Ну схадзілі вады куды-то, прывязлі. Памылі яго, папіў і нармальны стаў. Да. Гэта вот так гаворыцца, а ўсё гэта такое, што ня верацьб. А патом усё сходзіць, што ўрачы пасылаюць ісьці к бабкам. Вот.

### Пра рожу

*– Ну вот а вы знаеце такая балезнь была – рожа?*

– О, канешна знаю.

*– Раней жа ўрачы не лечылі такую балезнь, да?*

– Не, яны пасылалі к бабкам рожу гэтую (лячыць). Так я тожа, вот у бальніцэ ляжала, у мяне нага балела як эта, як яно называецца... Атрафічаская язва у наге была. Ну, і тутака яна лячылі, лячылі і сказалі, што нада ехаць дальша ў бальніцу ў Полацак. Ну, і там меня сын завёз у Полацк. Ён (доктар) пасматрэў, гаворыць: “О, вылячым! Гэта атрафічаская язва.” А тады прыйшоў ужо мяне асматрываць, гаворыць: “У вас, наверна, рожа была? А хто вас вылячыў?” Я гавару: “Ну, бабкі вылячылі мяне.” “Вот маладзец, цяперака язву вылячым цябе быстра. А есьлі б рожу ня вылячылі, то і язву ня вылячылі.” Таму што... адна расказавала бабка, што ў бальніцэ ляжала... рожу. Ну, ўрачы сказалі: “Ну што будзем дзелаць? Рэзаць... Будзем выразаць рожу.” Дак яна гаварыла, выразалі – усё лета ляжала. І ўжо гэта цякла і цякла з нагі. Ат тады там бабка ў яе загаварыла і стала гаіцца. І выразаная, а ўсе раўно, нада была загаварыць.

### Пра дурное вока і чараўнікоў

*– А вот гаварылі, што такія людзі ёсць, у каторых дурны глаз, вот можаць паглядзець – плоха станець?*

– Ну, гэта такія ёсьць, ено эта такое самае, што і з глаза пападаець. З глазу тожа нада вада. Дажа карова і то з глаза ёй плоха.

*– Ну, а вот гаворылі старыя людзі, што вот былі такія людзі, якія маглі малако адабраць, да?*

– А-а-а, – эта ўжо чарадзеі. Гэтыя, я не знаю такога. Я набожнае толька ўсё загаварывала, а эта чарадзеі... Расказавалі... вот пойдзець... адзін хоча тожа чарадзея хоча наўчыцца, а тая бабка гаворыць: “Не хадзіце вы к чарадзею. Гэта чарадзеі таксама... Эта ад Бога, усё што загаварываюць, а гэтыя чарадзеі – ад чорта”. Чорт ужо ўладзеіць імі. Так што... Такога я дажа ня ўчылася.

*– А вот вы, можа, слышалі, што ў вас, у вашай меснасці былі такія, каторыя маглі вот порціць людзей?*

– Яны ўжо умерлі, нет ужэ. Раньша былі. Ну балезьнь яны на ўсё насылалі, но чарадзей гэты адзін быў, каля Вароніч чарадзей. Дак хадзілі туды, к яму загаварываць ад гэтага, ну да чарадзеяў гэтых. І ён сказаў: “У празьнікі бальшыя не давайце нічаво во. Есьлі дасьцё, дак гэта чарадзеі.” У празьнікі бальшыя яны чаруюць. Ну, і мой хазяін пашоў туды, у Варонічы, а там яму далі вады. Кароўка паправілася, нармальная стала. Во. Ну яго тожа унічтожылі.

*– Забалеў, ці што?*

– Не, утапілі яго. Переанялі яго дзе-та, ён ішоў там... кладкай. І утапілі.

**Лекавыя зёлкі**

*– Вось вы казалі, што лячылі людзей. А зёлкі якія збіралі? Якія ад чаго, вось?*

– Ну зёлкі сабіралі. У нас дужа тут і нету, зёлак этых. Но як я яшчэ магла хадзіць, дак хадзіла там па гарах дзе. У такіх, ну, ня ў нізкіх месцах, а былі у нізкіх такія. Вот як іх называлі, а вот я забыла як жа называлі іх... Яны ле́чылі тожа. А ўсяго.

*– А калі, можна ў любы дзень збіраць зёлкі ці на Купалле, як свянцілі зёлкі?*

– Не, вот такія празьнікі тожа ж бываюць, зёлкі нада сабіраць якія там дзе бываюць.

*– А вот іменна ў які дзень? У які можна было збіраць?*

– Дак гэта ўжо штоб цьвілі. Усё, тада. Ў такое ўрэмя. Такія зёлкі, ужо ж як не зацьвіцяць не знаеш, а тады як зацьвіцяць дак ужо сабіраеш. А я не помню ў якія дні, толькі знала: пайду па гарах, пасматру такія ўжо цьвяткі, каторыя ўжо знала, якія ад чаго памагаюць, сабіраю. І памагалі харашо.

*– Ну, ад чаго якія травы памагаюць, напрымер?*

– Ну, вот і бываюць такія травы, што ад усякіх балезьней дажа памагалі. *Зьверабой*. Гэтат харашо памагаў. Я помню яго. А такі ёсьць... цьвет, ага, «*іван*», нейкі. Як яго называлі «іван». Ужо забываю я. Ну гэта ж ужо скора восемсят гадоў. Дзе ж я буду ўсё помніць!

**Упуд**

*– А вось тут у вас мясціны ёсць, дзе зданькі былі? Дзе людзям здавалася?*

– Гэта зданькі мне здаваліся, ну, яшчэ я малая была, помню. Тады здаваліся. Ішла... мой папа быў памёр. Я ішла з сяла. Іду і думаю: “Вот, каб мне папа здаўся, і я б больша пра яго і ня думала!” А то хачу я яго ўвідзець, а яго нету. Вот тока дверы адкрываю, ухаджу у сёнкі, а цёмна так. А он адкрывае, выходзіць і гаворыць: “Вот ты хацела, штоб я прыйшоў, вот я прышоў!” І я пераксьцілася і ўсё – і не стала яго. Пашла ў хату. Патом захварэла... Патаму шта спужалася сільна. Тады хадзілі вады ад упуду. Вады. Вот помню, адна дзевушка, мая падруга, у школу хадзіла ў сёмы клас. І ішла цёмна аж на Сарочына. А там сабака на плечы ей ускочыў. Ана завалілася, там яе паднялі, адчу̀цілі, яна вярнулася, пашла дамой. Ну і ніхто... яна маткі не сказала, штобы ей вады ад упуду далі. І забалела. Павязлі к врачам, врачы сказалі: “Двухмесячны туберкулёз стаў.” Ад упуду во якія балезьні бываюць. А патом ана, як умярла, і снілася, што: “Еслі б вы мне з'ездзілі вады ў Пітомнік, – дзе-та там ёсьць каля Полацка пітомнік, – во там бы вы мне вады прывязлі аттуда, я бы паправілася, а так умерла.” Вот.

**Знахарская практыка**

*– А вось хто вас вучыў гэтыя загаворы чытаць? Вы гаварылі загаворы чытаеце. У каго вы вучыліся?*

– А гэта, загаварываць ваду... мая мама, такіх многа... рожу... Дажа ад вужакі, вужака ўкусіць – яна харашо панімала. Ну, ана ў меня запісала, помню, но эта забыла я. Проста тую бумажку пацерала і не магла ніяк успомніць. А эты загаворы, там, ад вужакі, ад усяго, там дванаццаць вужак і нада каждую вужаку перагаварыць.

*– А вы зараз ужо не ўспомніце якія?*

– Вот эта вот... так забыла, так забыла. Бумажка пацералась мая і я не вывучыла. Ну а эта очэнь... Помню, маего брата вужака укусіла. Есь... есьлі б эта тада не спасьлі, ён бы умер ад той вужакі. Тая вужака была очэнь страшная. Ат яе умірают. Прынесьлі к бабке – яны спасуць.

*– А цяпер к вам прыходзяць людзі, ну, загаварываць воду?*

– Ну, шчас я ўжо не магу загаварываць. Вы жа знаеце, я загаварывала, спасала многа людцаў, бабкаў. Адна бабка прышла ат рожы. Прышла к врачам. І яны загаварывалі, заг... давалі, давалі мазь усякую. А рожа мазь, ніякую ваду ня любіць. Яе нада сваімі срэдствамі толька загаварываць. Ёсьць дажа такая трава, як яна называецца... *падбел* называецца. *Маць-і-мачаха*. Вот яе сарвуць, за гэтую траву, заварываюць і прыкладаюць на яе (на рожыстую пухліну). Яна жар атнімаець і быстра праходзіць. Ну вот бабку гэту ле́чыла, ле́чыла, не хацела брацца. Яна выгніла ўжо ўсё, ваняла... гэта бабка. А яна прыстала ка мне: “Загавары!” – “Я ўжо табе не памагу.” – “Ай не, памажыце! Можа паможаце. Мяне ж врачы паслалі, – гаворыць, – каб ты памагла.” (голас дачкі: “Мама, ці ж чуеш, ты ж дзетак маленькіх вылечваеш. Чаго ж ты баішся расказаць?”). Дзетак дак вылечвала ж. Я і дзетак усіх...

*– Дак раскажыце, мы ж не проста так запісваем...*

– Не, дак я запісаваць... я ўжо не... Нада ўсё помніць тшчацельна, а еслі я, эта, не запомніла, памагаць не будзець. Гэта ж усё там набожнае. Ня то што, вот эта, чары гэтыя. Эта ат чорта. Там нада ўсё пра чорта – чорт памагае. А Бог ужо не памагаець людзям. І вот я этай бабке загаварывала... і яна стала папраўляцца. І паправілась. Яна прыхадзіла мне благадарыла. Дажа прынесла гэты, ну на плацьце купіла. А я гавару: “Не, нясі сабе шый. Не нада мне. Я так памагаю людзям. Не бяру платы.” Дак яна кінула мне рубль і гаворыць: “Ну, што б памагала, – гаворыць, – толька.” Вот эта. І вот гэты... як яго завуць... маленькім рабятам гэты... як яго... Відзіш, ужо забываю, скляроз ужо становіцца, забываю. Так вот, такому ужо не лечыцца. Была такая тут бабка, яна харашо помніла – тожа памёрла. Як жа яго, забыла, называецца. Я маленькіх дзетак лячыла. Дажа прышлі, сталі, прывязла адна бабка... лячыць і ў яе ўжо грыжа! Грыжа! І ўжо во так, на пупе быў во такі пузыр бальшушчы. Ну, і яна стала загаварываць я ей. Вот і гавару: “Наўрад лі я яе вылячу”.

*– А ўрачы?*

– Врачы адказаліся. Цяпер лечыць маленькім нельзя – нада аперацыя дзелаць. А есьлі аперыцыю ня здзелаеш, можаць памерці, патаму шта маленькія сільна. Ну, і я стала загаварываць. Шэсьць раз яны ка мне прыязджалі. І стала ападаць гэта, пузур гэты і паправілась. Дак чэраз сколька ўжо, чэраз год прыязджалі благадарылі. Гавораць і аперацыю ня дзелалі мальчыку і вылячылі.

*– А вот вы казалі, што вас ваша мама навучыла. А вот, ну эта можна была любому з дзяцей перадаваць ілі, напрыклад там, старшаму ў родзе?*

– Ну эта, старшаму загаварываець младшы, ано пераходзіць. Вот я, намер, старшаму загавару і яму помач не будзець, а таму будзець помач. Вот.

*– Можна перадваць ад старшага младшаму?*

– Да.

*– А, напрымер, ад младшага старшаму ўжо нельзя перадаваць, не будзець памагаць?*

– Нет, тожа ена будзець такая помач. Ну, будзець немнога, но не такая помач, як ад гэтага, каторы гэта называе... А мяне навучылі ешчо бальшынство ад уроцы там, ад упуду і ад гэтага... як яго завуць, жывот як баліць...

**Залатнік**

*– Залатнік, можа?*

– Залатнік тожа. Яго ў бані лечаць. Скідываюць жбан. Ну так сама, як дзелаюць вот дзелаюць гэту... банькі (банкі), а так жбаном бальшым. Награваюць і пастаўляюць залатніку і загаварываюць. І тады жывот не станець балець.

*– А вот залатнік, што гэта за балезнь? Проста жывот баліць ілі што?*

– Эта падрыў. Вот малыя цягаюць цяжолае, і сарвецца. Вот эта тада нада ўжо жбанам гэтым ле́чыць.

*– А жбан ставілі на жывот, да?*

– Да, распарыцца, распарысься ў бані, а тада яго ставіць. Жбанок эты дзяржыць, запальваюць факел такі, туды ў *жбанок,* тагда яго прыстаўляюць. Ён дзержы'цца. Вот. Мая мама гэта ле́чыла пастаянна. Но я ўжо гэта забылася. Скідывалі... гэтат... на сонца, вымералі... ат упуду. Ат упуду вымералі. І этат упуд прахадзіў. Вылечвалі, а то дажа многа уміралі.

*– І гэта нада толькі ў бане дзелаць, да?*

– Ага, у бане. Баню топяць... Я помню, мама ў каго, прыязджаіць хто, баню затапліваюць, лечаць, тады лечаць там... у бане.

**Улады і знахары**

*– Вось скажыце, вы казалі, ну, вось воду загаварывалі ад балезней, а вось папы… Ну, вось, царква тут во была, як яны да гэтага адносіліся? Ну даззвалялі гэта рабіць?*

– Раньша дазвалялі загаварываць... Эта патом, как стаў Савецкі Саюз, тада яны запрашчалі ўсё. Вот. Што нельзя загаварываць, пасадзяць, ў цюрму, вездзе. Но нікога ніхто не пасадзіў. Тых, што загаварывалі. Помню адзін міліцыянер прышоў і гаворыць: “Вы загаварываеце?” Я гавару: “Загаварываю.” – "А ці знаеш ты, што могуць цябе у турму пасадзіць?" Гавару: “Ну садзіце. Вам жа скалечыцца нага, я не буду загаварываць і вы нагой не пойдзеце.” Ён засьмяяўся і ушоў.

**Зап. студ. ПДУ: А. Волкаў, Т. Клопава, А. Халадкова у 2003 г. ад Кашчэевай Таццяны Пятроўны, 1925 г.н., у в. Гаравыя Гомельскага с/с.**

**5**

**Пра сурокі і чараўнікоў**

*– А вот нам яшчэ цікава. Ну вось, кажуць, раней такія людзі былі, што маглі паглядзець і зглаз маглі зрабіць. Сурочыць.*

– Дак яны і цяпер ёсьць! І цяпер ёсьць, дзеткі, і цяпер ёсьць. Да, вот такі глаз, панімаеце. Ілі ён завідны такі, ілі што. Вот як глянець, ці вот што робіш. Гэта точна і цяпер ёсьць такі.

*– А вот у вас можа ёсць тут людзі, якія, ці былі такія бабкі старыя, каторыя ваду даюць?*

– Ну былі, але ж паўміралі.

*– А чараўнікі?*

– Ёсьць, ў Полацку дажа ёсьць. І такія чараўнікі дажа ёсьць, дзелаюць во скаціне, карове дажа...

*– А як яны робяць?*

– А чорт іх знаець, як яны робяць, дзетка! Я ж ня роблю. Не знаю як яны робяць! Гэта асабенна перад празьнікамі рэлігіознымі… Вот, тамака, перад Паскай, перад, гэта было, Пакровам – увосень было 14 акцября. І ў нас тут такая ёсьць, хадзіла, зробілася дурной. У возера хадзіла чэраз кусты, з голай галавой – холадна ж ужо было. Ну вот мы думалі яна ужо адурнела там, ўсё. А тады і калодзесь там ёсьць, а сястра ейная во тут, дваюрадная жывець, кажаць: "Што ты дзелаеш! Хадзі ты, я табе вады зачарэпну." Што яна праз кусты, дзесьці насыпалася, вал быў такі, гразная вада. Ну і панясла, там калодесь каля іх дзе ўсё ўрэмя. Яна гаворыць: "У нас вады нету ў калодзесі!" Ну і тады там адзін ішоў ззаду за ей, дайшла там да свайго калодзеся, дзе і бярэць ваду. І во так цераз плячо: адно вядро, а тады другое вядро і выліла так цераз плячо... ну і цяпер людзі усякія ёсьць.

*– І кажды вот можа дрэнна здзелаць карове, каб малако не давала, да?*

– Каб карова не давала малака і ня есь корму, нічога. Такое. Худзее тады ўсё.

*– І што вот проціў іх дзелалі?*

– І ў нас вот ёсьць такія людзі. Чорт іх знаець, хто? Вот каб такую бабку знайшоў, каторая аддзелываець, дык каб паказала на той вадзічке, дак вот ужо такіх няма. У нас адна ў Пашку жыла, тады ейны дзед памёр, і яна апяць паехала ў Наваполацку. А там я не знаю, дзе яна ў нявесткі там жывець… І во яна нядаўна езьдзіла ка мне. Дак жа так зробіць на малако, што горкае малако. Нельга есьці, ні сьмятаны, ні малака. Як толька падоіць сьвежанькае – нічога, а як пастаіць – горкае абыкнавенна.

*– А можа раней казалі, ваша мама вам расказывала ці ад старых людзей чулі, што раней таксама вот былі эці чараўнікі, рабілі там?*

– На Івана Купалу рабілі, ага. І цяпер усё роўна мне мама ўсё гаварыла: "Дзетка, такі *дзед* расьцець калючы, перад Купалай павешай, – гаворыць, – над гэтымі, над дзьвярамі."

– І людзям могуць робіць, да. І людзям, дзеткі, такія людзі...

*– А што яны людзям рабілі вот?*

– Ну а людзям рабілі, ну што, тожа так – ногі баляць, ня можуць, то нічога, дактары рады не дадуць. То там галава, то там тое-сёе зробяць, панімаеце. Слабы чалавек і ўсё.

**Рожа**

*– А вот казалі, што раней хвароба такая была – рожа?*

– Рожа, да! Во цётка мая загаварывала і ўсё мне казала: "Давай, дзетка, я цябе навучу!"

*– І што ўрачы не лячылі гэтую балезнь?*

– Да, яны... А цяпер можа троху і лечуць. Ну але ўсё раўно не вылечваюць. Да, а як вось загаворыць мая цётка. Яна ўжо памёрла мусіць гады чатыры, можа і бальша... Усё памагала, як загаворыць і ўсё. А рожа ж, яна баліць, сьвярбіць там, нарвець ці на ліцэ бываець.

**Залатнік**

*– А вот вы можа ведаеце, што гэта за такая хвароба – залатнік?*

– Залатнік тожа. Гэта залатнік, панімаеце, ад падрыву. Як падарвешся, цяжка падымеш, алі што там табе... Жывот баліць і ўсё. Тожа бабкі загаварываюць. У мяне самой было. Я хадзіла там у Сьвяціца. Там такая Ленка, яна мне давала, сахар загаварывала.

**Зап. студ. ПДУ:А. Волкаў, Я. Навічонак у 2003 г. ад Чарневіч Зінаіды Мацвееўны 1939 г.н. у в. Завозер'е Гомельскага с/с.**

**6**

**Пра хваробы**

*– А ці ёсць такія, Лідзія Еўдакімаўна, што памагаюць ад сурокаў?*

– Ну ёсьць, ёсьць! Я сама загаварываю што-нібудзь, каб, эта самае… Мама мне гаварыла эту ад грыжы, дак я сама сабе калі што можа…

*– А можа перакажаце?*

– А не… Прыдумаюць…Яна мне гаварыла: «*Ня грызь грызець, а я грызу! Ня грызь грызець, а я грызу!...*» і так во ад венічка, эту самую… палачку ад венічка і так во кругом (абвесьці) раза тры!

*– А потым што з гэтай палачкай ад венічка? Спаліць?*

– А тады ў печку і спаліць

*– Ну, а ад упуду ?*

– Ад упуду есьць загавор, дак я чытаю. Выпісываю «Дамашні доктар» і я чытаю. Сама чытала. Ходзюць людзі ка мне.

*– Такая хвароба ёсць – волас ці валасень. А што гэта за хвароба?*

– Эта… Я пра эта і не знаю, но, эта самае, я чула ат людзей, што нада 9, вот, як жыта расьцець, так насабіраць нада 9 такіх во… *каласоў* 9 штук і тады как-та выліваюць эта. Я эта не дзелала і не знаю.

*– А рожа вот такая?*

– Рожу загаварывают. Ну вот я ж сказала, но не «грызь грызець», а…

*– Гэта рожу?*

– А, не, не! Гэта не рожа. Эта грыжа. А рожу, эта тожа чытала.

*– Так а што гэта за хвароба ад чаго яна бывае?*

– Пакрасьненіе проста станіць, спухніць…

**Зап. У. Лобач у 2003 г. ад Піраговай Лідзіі Еўдакімаўны, 1928 г.н. у в.Коз'і Горкі Зялёнкаўскага с/с.**

**7**

**Сурокі**

*– Калі вот сурочаць чалавека, што вот можа з ім быць?*

– Забалеіць. Будзіць і пацягушкі пацягвацца, будзіць, эта самае, галава балець, можаць і рваць, як сурочуць.

*– Што рабіць тады вот як?*

– Што рабіць? (смяецца). Ну, дак ад уроц тады гэта нада рабіць… Раньша рабілі так, што эта вот смывалі крыж-накрыж стол вот так. З гэтай, тады з гэтай, тады з гэтай, тады з гэнай во так змывалі вадой. Тады, во, дзе бяруцца за ручку, клямку змывалі вадой. Змыюць накрыж, а тады, во гэта змыюць. Ну, тады мыюць, адно. А другое, што эта самае, ёсьць людзі, што загавор загаварываюць.

**Пра чараўнікоў**

*– А вот ці праўда, Аляксандра Іосіфаўна, што на Купалу ці другія празнікі чаравалі?*

– Ну, дак гаварылі, было такое. Я ж не знаю гэта...

*– А што расказывалі?*

– Раньша, гэта, перад гэтым сьвятам, перад Купалам, перад самым нічога не даюць. Вот прыдзець чалавек, можа ён і чараўнік які-небудзь. Там што-небудзь прыдзець абязацельна перад Купалам што там – хто солі дай, то там тое, гэна, адалжы. Дак і не адалжалі – людзі баялісь. Такое было, вот.

**Пра абкурванне зёлкамі і лекаванне ўпуду**

*– Траву якую-небудзь на Купалу сабіралі?*

– Сабіралі *упуднік* ад упуду, дзецям кȕрылі.

*– А як курыць трэба? Голенькага ці пад кашулю?*

– Пад кашулю, вот так вот, гэта. Вот скавародку вот так, скавародку перавернем і сюды – там перад печкай паставіш і сюды вугалькоў гарачых. А *упуднік* гэтат жа, ён высушаны, цвяткі. Ну і тады, вот на гарачыя угалькі яго пакрышыш, паложыш і, эта, і рабёнка паставіш вот, прымерна, вот так во і кашульку во так во, штоб праз ворат, вот ён хоць тры разы дыхнуў. Вот так! Дак гэта мама расказывала, мяне яшчэ ж тады не было, як первы ў яе сын радзіўся, брат мой старшы, ён у двенаццатым гаду, 1912 гаду радзіўшыся. Цяпер жа ўжо ў сараях курэй дзяржáць, а раньша пад печку заганялі. Пад печкай кармілі курэй. Ну вот, а тады такія зыбкі дзелаліся, нацягвалі бярозавыя. Цяпер жа каляскі, а тады вот, качаеш во так во. Ну, яна была абвязана гэта прастынёй, гэта зыбка. А яна выпусьціла курэй з-пад печкай вечарам карміць. Ну і куры гэтыя паелі, ужо будзець заганяць, а пятух ускочыў ды на гэту зыбку. Во, гэта, і закукарэкаў. А голас жа ягоны, як блізка, які громкі. А ён, цяпер не спеленаюць дзяцей, а раньша спеленалі – звязаныя ручкі, ножкі ўсё. Каб роўненькія былі, не крывыя.

*– Гэта, каб роўненькія былі, пеленалі?*

– Ага, у пелёначках. Ён спаў, і ён спрасонку гэдак, а як раз у галоўках на гэтай зыбцы закрычаў гэтат пятух. І ён так як спужаўся, дак гэтак во звязаныя ножкі ўдарыў – зыбка сама закалыхалася – і закрычаў ратунку. Вот з прасоньня ён спужаўся. Дужа. Тады гэта, мама яго там вымывала, курэй гэта запёрла, вымывала яго, ўсё. І вот каб яна адразу... Ну, але так, дзякуй Богу, на заўтра яна панясла малога. Ейны брат дваюрадны, Сцяпан яго звалі. Гэта самае, пайшла яна к яму і кажаць: “Вот учора спужаўся петуха спрасоньня, сонны, вот спрасоньня, гэта вот закрычаў ратунку і тады, гэта, – гаворыць, – і на заўтрае прыпадак з ім быў, прыпадак.” І вот можа б усё, усё ўрэмя прыпадак быў...

*– На ўсё жыццё?*

– На ўсё жыцьцё, каб яна яго не панясла. Той знаў, гэта што. Вот эта *упуднік* гэтат і *белая півонь*, півонь... Да, гэта, муся, ў яго розавая была, ня знаю. І вот ён стол во так во перавярнуў на тую сторану, так во, даскȕ гэтую. Зняў і так перавярнуў. І тады ножыкам тры разы абвёў круг наніц (дагары ніжняй часткай) стол. І ў гэты круг гэтага мальчышку, ён маленькі саўсім. Ён жа ж быў... Можа... сколькі там месяцаў яму было... І ён палажыў у гэтат круг гэтага мальчышку. І тады запаліў гэтую півонь, гэта таксама, як вот я вам казала вугалькі гэтага... І

тады дым гэтым абнёс тры ра́зы і перавярнуў яго, паставіў півонь у гэтым кругу і перавярнуў, каб ён дыхнуў. Вот пакурыў так яго, гэтага мальчышку і тады сказаў маме, што гаворыць: "Есьлі паявіцца апяць прыпадак, другі раз прынясі." А ён і эта... не паявіўся прыпадак болей. Адразу гэтат мальчышка паправіўся. С іспугу ўсё бываець.

**Прыпадак**

*– А можа былі тут у вас у дзярэўні з прыпадкам людзі? Вось што рабілі, як ўпадзе чалавек, яму дрэнна робіцца, можна як-небудзь яму дапамагчы?*

– Ну, дак як жа яму дапаможаш. Ай, толькі... (смяецца) не хачу і расказываць. Гэта ад прыпадку... ну а цяпер жа нет такога. Цяперака на храсты ставюць, ну прастыя ленты, наверна... Раньша ж прастыя *ленты* былі, а цяперака капронавыя. Капронавыя ж не гарацъ.

*– Прастыя – з лёну такія ці?*

– Ну ня з лёну, проста шолк... Шолкавыя ці якія. А цяпер капронавыя. Капрон жа ж не гарыць. А вот прастая лента гарыць. Цяпер я не знаю ці ёсьць такія.

*– І што рабілі з ёй, калі ну вот прыпадак?*

– Эта самае, нада ноччы. Хто вот атважны, ноччы. Схадзіць срадзі начы, гэта ж ня кажды чалавек атважыцца на кладбішча. Выглядзець удзень, дзе гэта прастая лента, ля якога хрэста яна была, а цяперака не паймеш, цяперака і памятнікі гэтыя нічога, цяперашнага нічога нет такога. Тады гэтую ленту, вот... выгледзіш, дзе прастая лента, тады пойдзеш у двенаццаць часоў начы, каб ні с кім не спаткацца, на кладбішча. І гэту ленту атвяжаш. І прынясеш, і гэтай лентай яго пакурыш. Прымерна там, дзяўчыну ці мальца ці хоць каго, хоць і бальшога. І тады, гэта, прыпадак гэтат прападаець.

*– Можна вылечыць прыпадак?*

– Есьлі ён уда́ўніўшыйся, а вот як гэта ня так, так гэта вот ад гэтага. Тады у нас там такая Анэта хадзіла на кладбішча, яна не баялася. У двенаццаць часоў. І тады вот прынясеш у двенаццаць часоў гэтай лентай і пакурыш. Каб не спаткаўся ні с кім толькі. А гаварыць жа ня можна, ідзя з кладбішча, гэта ж тайна ідзеш. Ноччы. У двенаццаць часоў.

*– Каб ніхто не ведаў?*

– Да, да, каб ніхто не знаў, што ты пакуры'ш. За чым ты хадзіў, ні с кім устрачацца не нада ў двенаццаць часоў ночы.

*– А ад чаго яшчэ можа быць прыпадак? Вось могуць сурочыць і чалавеку кепска стане, а яшчэ ад чаго можа прыпадак здарыцца?*

– Ай, хто яго знаець. С упуду больш за ўсё бываець, як спужаецца... чалавек. С упуду.

*– А с упуду вот, як вот маленькі дзіцёнак спужаецца сабаку, і што рабіць?*

– А сабаку як спужаецца, эта тады тожа таксама табе вот, калі ёсьць *півонь* і *упуднік* гэтат, траўка. А нет півоні, хоць эта траўка. Дак вот, сабакі ён спужаўся, эта нада хазяіна папрасіць, каб ён яго хоць троху ўстрыгнуў так накрыж сабакавай поўсьці да гэтага траўкі да *поўсьці* дабавіць. І гарачыя вугалькі – і пакурыць і ўсё.

*– А вугалькі таксама на патэльню?*

– Да, да, наніц на патэльню. на патэльню наніц.

**Каўтун**

*– Ну, ці не чулі, можа, даўней вот старыя гаварылі пра калтун? Такая во хвароба.*

– Я не знаю, тады валасы, гэты во. Нічога не памагаець валасам, яны во тут зьвіваюцца, скручываюцца – іх ніколі не рашчэшаш. Такая балезьнь, гэтага, я не знаю што.

*– Ну а ці часта балелі людзі ці вы толькі чулі... пра гэта?*

– Дажа і відзела людзей… Да, да. Вот што-небудзь з'еж, як завядзецца гэтат калдун, тады вот што-небудзь з'еж, з'ясі не таго – чаго ён ня любіць – тады хужа. Баліць і галава і сам балее.

*– Так ён ад чаго бярэцца вот, як што з'еш не так ці?*

– Хто яго знаець. Чаго ён бярэцца. Вот здаўна так людзі страдалі.

*– Вы ж казалі, што калі нешта з'еш, што калтун не любіць, тады...*

– Так раз ён ёсьць у чалавека калдун і вот чаго ён не палюбіць з'ясі, тады плоха чалавеку. А так нічога, талькі валасы не рашчэшаш.

*– А як можна лячыць яго?*

– Ня знаю. Там у нас адна баба балела калдуном. Папробавала абстрыгчы'ся і нічога. Валасы атрастаць сталі і ізноў так стала.

*– Не памагала?*

– Не памагала. І яна нічым і не ле́чылася, і так яна і жыла.

**Валасень**

– Валасень адкідавалі на вугалí. Гэта вот вугалí, вада і тады… то памяло, гэта вот, даўней жа ж мялі гэты печкі, хлеб пяклí, а не, дак вот адламаць ат *сасны*. Выліваюць людзі яго, што-то загаварываюць нешта тамака – гэтага я ня ўмею, гэтага я не навучылася. А я траву такую знаю, сабіраю.

*– А як называецца?*

– *Ад валасьня*. Вот тады такую траву заварыш і ў тэй вадзе параш. Вот палец, прымерна, ці рукỳ. Вот папараш, а тады тэй траўкай абкладзеш, абверціш, каб было цёпла. Вот разы тры-чатыры папараш, так як можаш цярпець і тады ён прападаець.

*– А што за траўка такая? Як яна цвіце можа, дзе расце?*

– А яна вот па сухім расьцець, яна і тут вот ёсьць (паказвае за вакно). Яна цьвіцець ма-а-аленькім такім жоўценькім, і яна не расьцець бальшая, і яна вот так во сьцелецца. Сівенькая, у яе, гэта вот, на гэтым лістку і відаць валаскі. І вот есьлі павядзеш па лі... (паказвала на твар, і хацела сказаць "па ліцу"), па целу ці як тамака, ну дык вот, тады, гэта самае, і чуваць яны, валаскі гэтыя ходзюць. Сівенькая такая, яна во тут расьцець, тады во дзе.

*– Сівенькі сцебелёк, а сама жоўценькія такія маленькія кветачкі?*

– Ма-аленькія цьвяточкі такія, жоўценькія ма-аленькія.

*– А Вы самі знайшлі гэтую кветачку ці вам можа хто падказаў?*

– Мне мама паказала (магчыма, размова ідзе пра *цмен*).

**Лекавыя зёлкі**

*– А яшчэ вот якія травы вам паказывала мама, казала, што памагаюць?*

– Ну вот ад паносу знаю, *лугавы васілёк* называецца. Красным ён такім, розавенькім цьвіцець. А такая вот ён тут цьвіцець цвяток, а пад нізом такая як

яловая шышачка ўсё роўна такая. Такая трава. Ну многа. Гэта ад рожы магу памагаць. Вот *маць-і-мачаху* сабіраеш, заварыць магу. Ад рожы, грызь там загаварыць.

*– А вось ад сэрца якія-небудзь зёлкі...*

– Ад серца? Вот на бару расьцець, такая забылася як яе называюць, белым цьвіцець яна... Гэта тады, *сярдзечнік* як даўней, тут я не знаю, тут я нікуды не хажу... Ну тут я ўжэ саўсім не хажу. Адзін раз як пайшла, запрошлы год і то была заблудзіўшы. Добра, што людзей спаткала адсюлека, дак яны мяне вярнулі. Сярдзечнік, па полю, па лугах рос. Ну а цяпер жа я не знаю ці ён расьцець такі... Гэта тут-то нігдзе нет лугоў, нічога... Я тут не знаю. А там у нас было.

*– Ну а вот зверабой ёсць, не сабіралі?*

– Сабіралі. Ён многа ад чаго памагае. Ну вот яго заварываюць і п'юць, есьлі вот баліць жалудак, памагаіць. А тады вот, эта самае... Многа да чаго ён памагаець, ад усякіх боляў. Дак і вот там як бы там летам, дак я б паказала. Але ж я нікуды не хажу. Тут як траву, каля дома якія знаю, там троху сабяру.

*– А чабор вот такі ёсць, ці як ён называецца? Чабрэц?*

– Чабрэц, чабрэц. Гэты тожа вот, не знаю. Даўней мой бацька сабіраў.

*– А такі ёсць падтыннік, падбел.*

– Ну гэта я не знаю. Я дак можа яго і знаю, дак па-другому называецца. І не знаю. Вось па-даўнейшаму ж называецца *муча́нік*, такі ён расцець як брусьніцы. Толькі што такія лісьцікі, вот так вот, як вянок усё роўна сьцелецца, а лісьцё пахожае як у брусьніцы. Ну, муча́нік. А цяперака яго завуць па-цяперашняму *мядзвежае вушка*. Гэта ад почак. Кіпяток закіпяціш, і ў кіпяток, і нада, каб пар не выхадзіў. Так як чай заварываць. І пастаіць і тады прынімаць, піць гэта.

**Зубны боль**

*– А вот скажыце, бывала, што даўней да зубных урачоў не хадзілі так. А вот як зубы забаляць, заломяць, ці рабілі вы што такое?*

– Рабілі. Вот гэта самае... вот дзе пу̀льсы б'юцца, *часнок* разрэжаш тонкамі слаямі і вот так наложыш і крэпка ўвяжыш. Тады зубы перастаюць балець.

*– А на якую руку, ці ёсць там якая розніца? На правую ці левую...*

– Разніцы па-мойму нету. Ну, гэта толькі гаворуць так, што я нарошна спрашывала у ўрача, вот як ўжо сюды прыехала, пра часнок пра гэтат, дак яна гаварыла: "Да, гэта правільна." Дажа во пульс, сюды дажа можна во (паказвае на скронь). Прыкласці і ўвязаць.

**Ячмень**

*– А як вот ячмень вот на вока як, вот выскачыць*

– А ячмень? Дык ячмень, гэта вот, даўней, як увідзяць первы раз хто тады... Вот прымерна скажыць матка, што ў майго сына ячмень. Тады первы раз глянеш так, і так вот фігу яму пакажаш (смяецца). Адно. А другое што, ячмень. Вот возьмеш тры *ячменіны*, памажаш тры ра́зы там, дзе ячмень і нада аддаць толькі петуху з'есьць. А болей... А курыца, каб ня з'ела. Тады як, нада злавіць петуха і яму туды запіхаць. Во так гавораць. Ну не знаю, праўда гэта, не. Трава такая ёсьць, гэта, *расьні́ца*. На ей вада дзержыцца ўвесь дзень. Лісьцейка невялікае. Такая вот яна небальшая, але яно такое вот як чашачка. І вот раса на ей, на гэтай траве дзяржы'цца і ў абед дажа ёсьць. Вот тады... Мазаць. Гэта вот атарваў, памазаў, памыў тэй расой. І можна і заварываць, мыць глаз.

**Запор і панос**

*– А вось, калі запор бывае, чым-небудзь можна даць рады?*

– Запор гэта... Ну што гэта... Вот як панос, дак я знаю, што гэта можна дзелаць такое вот… клізму ставіць. *Соды* настаяшча так усыпаць і, гэта самае, і сдзелаць клізму, і не знаю... ад паноса. А запор я не знаю. Запор… п'юць, гэта, *масла расьціцельнае* ад запору.

**Нашніцы**

*– А вось, як бывае дзіцёнак уначы не спіць?*

– Можа, бываець, нашніца прыстанець. Можа рабёнка купаюць, а хто-небудзь, – моду ж маюць некаторыя ня мыцца утрам, – і вот узойдзець на гэтага рабёнка. І тады яму прыстаець нашніца. Ну дык вот.

*– І што рабіць тады, як нашніца прыстанець?*

– Ну, не знаю. Загаварываюць яе, але гэты загавор кароценькі ад нашніцы.

*– А што гавораць?*

– Што гавораць (смяецца), то я вас навучу… (спрабуе перавесьці размову на іншую тэму).

*– А вот, калі чалавек п'е шмат гарэлкі, вот, ці ёсць які вот спосаб адвадзіць яго?*

– Гэтага ж я не знаю. Гэта... Чаго не знаю, таго ж я не скажу. У мяне сам сын мой п'ець тожа.

*– А ўсё ж, калі вось начніцы, што можна рабіць? Ну можа вы калі не хочаце замовы не кажыце, а як можна дапамагчы. Калі трэба дапамагаць? На ўсход сонца?*

– На сход луны за ўсё найлепей памагаець.

**Лекаванне прышчоў бурачным семям**

– Вот што-небудзь прымерна... Ай, дак і дзе там усё раскажаш, што і забудзешся... Самае... Раньша вот, якія-небудзь прышчы спануюць чалавека тамака. Такія м-м-м... як гноюцца, такія як чы’ры, толькі дробныя. Дак вот тады раньша мылі… Вот садзілі свае высадкі гэтыя, ну, прымерна, буракі... Яны выспяваюць, тады на семя, семя сабіраеш, а яго выцягваеш і кіда́еш на чардак. Тады, гэта, як толькі эты вот прышчы, тады заварываеш, мыеш і нясеш на перакростак... Вот, дзе дарога ідзе перакросткам: туды ідзець і туды. Во так (крыж-накрыж паказвае рукамі ростань). На перакростак на захад сонца. Выльеш, выліваеш тую ваду, што памыўся і кажаш, што: *"Куды вада, туды й нуда!"* Тры разы скажаш і пойдзеш дамоў – не аглядайся назад. Гэта вот, на перакростку. Ну вот... Ну больш што я знаю...

**Звіх**

*– А вось, калі звіх бывае, што рабілі раней?*

– Пацягвалі во так вот, туга пацягнець, упрэцца. І вот нагу зьвіхнеш – так во пацягвалі (паказвае). Ну тады во ўвязвалі. Ну вот. А еслі расцяжэньне жыл, ну, ілі крэпка ушыбеш, тады салёны кампрэс.

**Рожа**

*– А вось вы нам пра рожу хацелі расказаць. Як рожу трэба лячыць. Вось што такое рожа?*

– Рожа... ну, похнець, красная, распухаець там нага ці рука, ліцо. Хоць дзе яна можыць быць.

*– А адкуль яна бярэцца?*

– А дакуль яна бярэцца. А я ж не знаю, адкуль яна бярэцца. С усяго можаць быць і с глазу.

*– З зглазу?*

– Вот эта самае, *маць-і-мачаха* расьцець, такое лісьце вот, вот эты. І такі *"дзед"* яго завуць, эта "дзед" такі. Калючкі растуць, а лісце шырокае, рабяты ўсё тады кідаюцца этымі калючкамі. Яны кінуць, і яны ўчэпяцца. Вот этым лісьцём абкладаюць туюю рожу. Ну і загаварываюць.

**Знахарскія веды**

*– А што гаворыць, як замаўляюць рожу?*

– Дак вы што хачаце, каб я вам расказала, што гаворуць? Тады ат мяне ўжо памагацца не будзець.

*– А так нельга расказваць замовы? Яны ўжо не будуць памагаць, да?*

– Можа ат мяне ўжо не будзець памагацца. Загавор нада учыць чалавека, і тады нада, каб тот чалавек вывучыў гэтат загавор і не загаварываў нікому, а есьлі ён будзе загаварываць, ат мяне помашчы ня будзець.

*– А як вы навучыліся, хто вас навучыў этым загаворам?*

– Ну, жэньшчына навучыла. Во тутака тожа недзе Рудня ёсьць, я не знаю. І вот эта, у парцізанах ейны сын быў. І стаяў там у аднэй жэньшчыны нашай. Яна адзінока жыла, у яе дзяцей не было, а мужык на вайну пайшоўшы быў. Ну дак вот што. А после вайны мне забалеў печань. Горач бальшая была ў роце. А мы былі ў бальніцу прыпісаныя ў Боркавічы. Мяне зьвязлі ў Боркавічы. А тады гляжу вядуць нейкую бабу і нагі нету ў яе – пратэз. Аж гэта яна после вайны ішла ў Боркавічы і па бальшаку па пяшчанаму і на міну ўзышла. Замініраваны быў бальшак.

*– Так, як яна навучыла вас?*

– На міну, як яна там папала не знаю, і ей атарвала гэту нагу, во. У яе пратэз быў. Дак я ляжу так, і яе тутака палажылі. А я ж... Дзе ж я ўвесь свет запомню! Сколькі пераварачывалася ў парцізаншчыну. Адсюль там уцякалі людзі, а тады шлі назад, у парцізаны. Усякія былі разныя. Дзе ж гэта там усіх спомніш! А яна, толькі адзін раз я яе відзела. А яна мяне запомніла. Ляжала-ляжала, глядзела-глядзела на мяне, а тады кажаць: "Наверна, гэта ты мне радня". А я тады думаю: "Я такой радні ніколі не знаю. А па чым мы радня, якая мы радня?" А яна гаворыць: "Ці помніш ты, як мой сын у цябе хутулькі ставіў? Вот у цябе дзеткі былі і хутулькі ягоныя цэлыя, вот. А вот у тэй бабы… – гаворыць, – дак вот ты мне і радня!" Дак вот яна мяне навучыла. Дак што яна мяне навучыла? Што яна спісала там у бальніцы: вот ужо кончыцца работа, тады яна троху напішаць. А яшчэ ж тады магла запомніць. Гэта. А яна сказала так што: "Выпішашся з бальніцы і тады я выпішуся, тады прыязджай ка мне ў госьці, – гаворыць, – у мяне бальшы сад, табе многа яблыкаў дам і многа-многа спішу." Дак мне ж не прышлося. Дзеці малыя былі саўсім.

**Пра грыб "пурхоўку" як сродак ад парэзу**

*– Скажыце, даўней жа, вот, жыта жалі сярпамі ж, бывала ж, што рукі абразалі. Ну, моцна крывя ідзе...*

– Во і я сама была абрэзала. Дак во ужо цяпер, нет гэтава во, гэтага шрама, во тут. І еслі, гэта, так во ня выпраміў, сільна балюча сярпом як парэжаш. Мяне

мама вучыла жаць. Я малая яшчэ была. І як я там... серп і парэзала і серп кінула. І ўцякла ў хату, і сьціснула так палец, і ляжу на краваці. А мама тады прышла і кажаць: “А чаго ты ляжыш, ці не парэзала рукỳ?” Кажу: “Парэзала.” А во так ужо і палец скорчыўся (паказвае як). Ён бы так і выпрастаўся. Во так бываець, што... А яна ўзяла, асіліла во так яго (выпраміла), а я крычу, крычу ратунку. А яна кажаць: “Не крычы, а то будзець усё ўрэмя сагнуўшыся. Будзеш калека.” Выпраміла яго і тады ўзяла чым яна, такі, чорны, гэтыя *пурхоўкі* растуць, даўней засыпалі. Ну, белыя пурхоўкі і такія чорныя, сухія такія, як яйкó ўсё роўна круглыя, чорныя.

– *Гэта грыбы такія?*

– Ну, яны не грыбы. Яны называюцца так “пурхоўкі” (Lycoperdon perlatum, дажджавік). Ну вот гэта. А тады гэтай пурхоўкай засыпала і ўзяла мне завязала крэпка палатнянай трапачкай. Бінтоў жа не было. Ну вот ён (паказвае палец) і работаець і сягоння. А тады во і быў бы... І вот доўга шрам быў, усю жызьнь, а вот і нет (прапаў).

**Зап. У. Лобач, У. Філіпенка у 2003 г. ад Быкавай (Ушацкай) Аляксандры Іосіфаўны, 1921 г.н. (нарадзілася ў в. Ярмоліна Верхнядзінскага р-на) у в. Зялёнка.**

**8**

**Валаснік**

– *А вось што за хвароба гэта такая, валаснік?*

– Ну, валасьнік гэта такі... Так баліць палец: дажа, еслі яго ня вылечыць, шчас, можа, бальніцы лечаць, а раньша ж якія бальніцы былі. Мне самой маме балеў палец. І яна, толькі дзевяты мужчына ей памог. Дзевяць шаптуноў абыйшла, ніхто не мог памогчы.

– *Дзевяць шаптуноў?*

– Да, яна ж хадзіла, ратуначку крычала. Я ж ужо ж помню. Палец забаліць ноччу, яна выходзіць на вуліцу, што б мы ня чулі. А я ж чутка спала, чула, што яна там плачаць на вуліцы. А што ж дзелаць?! А тады ў бальніцу пашла. У бальніцы ёй разрэзалі гэты палец. Яна дамоў ішла – ратуначку крычала (паказвае палец), не прымяраючы на гэты во палец. Ратуначку крычала, дамоў ідзе. А тады, гэта, хто гэта ёй пасаветаваў гэнага мужчыну. Яна тады пайшла к гэнаму мужчыну. Казала: “Прыхаджу, ён стаў, вадзічкі цёплай наліў. Льець, а тады калосься гэтага ат... ржанога, ат *жыта каласы*... і вот пусты гэтат колас. Ложыць у гэту ваду...” Сколькі там нада можа тры каласы... Непарныя, наверна. Я так ужо ж ня помню.

– *А чаму няпарныя?*

– Ну, наверна, няпарныя нада. Я не знаю. Можа тры каласы ілі там пяць каласоў. Ну, і тады бальшынство тры лажылі. І тыды, во гэта вылівалі, загаварывалі. Што-та шэпчаць і гэтай вадой паліваець на, гэта, на рукỳ. І мама ґаварыла: “Я сядзела і заснула.” Як загаварыў. І тады лягла, спала да вечара. А тады ўвечары яшчэ загаварыў вот і палец. Вот другі раз парэжаць і палец ужо некрасівы, но не балеў жа ж.

## Упуд

*– Ну, а як во сабака спалохае, што рабіць трэба?*

– Сабака спалохаець, нада скоранька яго выстрыгчы, тры разы ад яго ад гэтага *сабакі шэрсць* абстрыгчы' і тады на гэту, ну, на скавародку ілі тарэлачку на мелкую і бумажынку і, гэтага, поўсця гэтага наверх і гэтага рабёначка з-пад нізу, штоб яго ўсім гэтым дымам нада ахваціла.

*– А голага ці пад кашульку?*

– Ну, ён хоць будзець тут адзеты, але пад адзежу на голае цела, гэта во, нада. Тожа добра с упуду. Ну, і загаварываюць, загаворы ж ёсьць.

## Пра маму-знахарку

– Мама, мама (смяецца). Знаеце, што я не любіла, што мама гэта дзелаець. Ну, што-та мне не нравілась. Вот, гэта самае. Як жа яна загаварывала, і вот яна, помню расказавала. Адзін мужчына прыходзіць к ей. А тады, ну, гэта вот, власьць зьмянілася і нельзя было да шаптуноў – іх жа празіралі. Вот. І прышоў мужчына: у яго забалеў мальчык. А што яму было гэнаму мальчыку я ж не знаю, я ж яшчэ ў дзецтве саўсем была. І вот ён прыходзіць, па хаце так ходзіць: “Вот я прышоў к вам, дайце мне вады.” А ён такі паліцічаскі (прадстаўнік улады?), наверна, быў троху, гэты. Ну, мама гаворыць: “Я не ўмею ніякай вады даваць! Я ніякай вады не даю.” А ён ходзіць па хаце: “Дак ты, скажы, дасі мне вады ілі не?!” Ну, яна тады сказала: “Я ніякай вады не даю, ідзі атсюда”. І ўсё, і прагнала гэтага чалавека. І ў яго памёр мальчык гэты. Ён памёр, гэтат мальчышка, дак мама перажывала, баялася ды жалела, што гэтай вады не загаварыла. Няхай можа і не дапамагла б гэтая вада... ну яна б не думала. А так яна во перажывала, што мальчык памёр.

*– Вот жа прыходзіць чалавек, у яго бяда нейкая. Ці можна не даваць ваду? Або абавязкова трэба даць?*

– Можна й не даваць, хто там заставіць! Ніхто ж не заставіць.

*– А ў якія дні нельга было даваць?*

– Я не знаю... Не разбірала яна дні. У васкрасенье, выхадныя, канешна, празьнікі не давалі.

## Гісторыя пра мальчыка з хворай нагой

– Тады гэта. Адзін мальчык быў такі, можа колькі яму... гадоў дзьвянаццаць можа было. І што-та, наверна, с упуду яму нагу падкасала, падкорчыла ножку аж да самай жопы, панімаеце. І эта... і бальніцы ўсе аб'ездзлі – нічога. І вот раз мама печку топіць, а бацька з ім прыязджаець. І гаворыць маме, вот так і так. Мама гаворыць: “Так што ж я, які я, я ж ня сільны шаптун! Ну, дам вады, загавару, но, гэта, ўжо бальніца не памагла, што я памагу.” Ну й вот і загаварыла яна этаму мальчыку вады. Можа на ім загаварыла? Не знаю, ня помню. І паехалі яны. Там Замошша, дзярэўня ў нас была. І вот яны паехалі ў Замошша, а назаўтра прыязджаюць – у мальчыка ножка адыйшла во на столькі (паказвае) ад жопы, адышла ножка. Другі раз... Вот тры разы яна загаварыла яго, там ці яна на ім, ці вады яму давала, не знаю. І этат мальчышка, прыязджаюць адзін раз з бацькам, а мама топіць эту печку. А ён як прыйшоў, так раз – к ей. Стаў на сваей наге – ножка адыйшла і ўсё. Вот што эта значыць?! Не знаю. но факт то, што быў такі во случай.

**Наход**

– Тады, адзін раз прывязлі дзевушку. Ана ўжэ была... ну, шчытай, гніла́. Уся такая была ўжо ў яе кожа аблезшы. І прыняслі яе ў простыні, панімаеце. На простыні прывязлі, на простыні прыняслі ў хату. Мама як глянула, гаворыць:"Мілыя вы мае, што ж я, я ж нічога..."

*– А што гэта была за хвароба?*

– Гэта была залатуха ілі наход, як раньша завецца. Наход – такая балезьнь была. Гніець цела. Да. Цела павярху, панімаеце. Такія балячкі, і яны гніюць, нарываюць. Цела гніець адно за адной. Такая ўжо прыняслі ў простыні. Ну, але ж во вылячыла.

*– А што яна рабіла, не памятаеце?*

– Што яна (смяецца)... загаварывала на ей.

*– А во гэты "наход" вы сказалі, ён ад чаго мог быць у чалавека?*

– Наход гэтат ад чаго можаць быць... (засаромелася). Ай, вы маладыя, не знаю вам гаварыць...

*– Гаварыць... У нас ужо і дзеці ёсць... Жанатыя.*

– Есьлі жэньшчына, як цяпер жа ж па целевізару не гледзяць, пракладкі гэтыя разныя. Вот есьлі эта нада ей гэта пракладка і яна прыдзе́ць у баню, а чалавек сядзіць голы і баніцца. Вот этат наход і бываець. Вот есьлі гэта жэншчына ўвойдзець у баню... Ад гэтага бываець гэтат наход...

*– У другога чалавека будзець?*

– Да, у другога, ня ў гэтага – у другога. Значыць нада, еслі яна прышла, яна далжна крыкнуць за дзвярамі, што я іду. І яна далжна ўхадзіць задам, што б ня відзець гэтага голага чалавека. Ілі гэтат голы чалавек должан выйці ў карыдор, у прадбаньнік, пака яна зайдзіць. Ілі должан тры разы вадзічкай плі́хнуць ей на ногі.

**Навучанне замовам**

*– А вот ад сурокаў, ці давала ваша мама вадзічку?*

– Суроцы? Давала. З глазу, дак і я магу даць. Дак вот я ж не даказала, я ж маме гаварыла: "Ня буду я нічога!" Яна: "Вучыся! Табе ж нада будзе. Замуж выйдзеш, дзеці будуць – нада будзець." Я гавару: "Ня буду, – я гавару, гэта, вучыцца." І ня ўчылася. Нічаво не знала. А тады, када прыехала сюды, мая дочка была... Нарадзілася первая дочка, і яна была такая, ну как вам сказаць, не знаю... Як маць, я не імею права яе хваліць, но факт то, што яна была красівая. Красівая такая, прыятная, акуратна я іх жа і адзявала рабятак сваіх. Усё. І вот, хто ня йдзець – стаяць, паглядзяць, усе любаваліся якая дзевачка. Вот яна часта балела гэтым (з глазу). Адзін раз брат прыехаў з Луганска. Прывязлі ей такія піпетачкі (пінетачкі) – тапачкі такія. Самі чорненькія, наскі – галубенькія. Вот яна надзела гэты тапачкі і пашла я туды ў сад сядзець. Пускай яна, ну, пагуляець там. І саседка са мной пашла, гаворыць: "Якія ў Галі лытачкі спрытненькія!" Гаворыць усё. Ну, і гэта Галя, гляджу, пабегла-пабегла... А яшчэ падумала, ну што ты ўжо гаворыш. А гэтая Галя пабегла-пабегла, брык – і завалілася. І ратуначку (крычыць)! Я гавару, што ты чапаешся, як гэта ты ног не падымеш, гавару. Ага. Ну і яшчэ пусьціла яе. Ана апяць пабяжала, шчэ ж маленькая была. Апяць пабяжала... апяць з усіх чатырох! І ўсё і ратунку крычыць. Ну, я думаю, павяду ў хату пагляжу што

ці паваліцца яна на масту (падлозе). Прыважу ў хату, яна на масту так сразу... Так з каленкаў і бягом пашла ў мяне. І на масту пабегла і завалілася… Думаю: "Ну во, ё маё!" Значыць эта не так, гэта не трава мяшала, а гэта глаз мяшаў. І вот хадзіла тут па бабках, яны мне давалі ваду. А тады думаю: што я буду кожны раз хадзіць. трэба самой вучыцца. Так вот я і запісала і тады вучылася. Навучылася так ужо магу з глазу, з упуду даць вады, а больш нічога не знаю.

**Замоўная практыка**

*– А не перакажаце нам як вы (замаўляеце)?*

– Пераказаць вам (смяецца)? Так вы ж запісвайце. Нада ва-первых, перахрысціцца перад Богам. Вадзічкі ўзяць, штоб назад не адлівалася. Зачэрпнуць у кружачку так, штоб назад не адлілася. Была… Ну, што зачэрпнуў, каб тое было ў той кружкі, ілі там у баначкі, ілі там у бутылкі. Вот ставіш перад сабой, перахрэсціська перад іконай, кажаш: *"Ну, памажы, Госпадзі!"* І вот начынаеш... *"Ня йдзіце ламоты па касьцях там... Сашы, раба Божа, ідзі худаба на сухі ляса"*. Не гэта ж (выйшла памылка), гэта, гэтат с упуду. Гэта су пуду: *"Ідзі, худаба, на сухія ляса, на сіняя мора, на рэкі, на азёра, на мхі, на балота, на ніцыя лозы, на сухія травы"*. Вот эта нада во перагаварыць тры разы, ня дыхаўшы. Тры па тры, над гэтай вадою. Тры разы па тры. Вот, перагаварыць. Тры разы перагаварыць, тады можна дыхнуць. Тады яшчэ тры разы можна перагаварыць. Яшчэ дыхнуць. І трэці раз. Тады, значыць, скончыў: *"Васкрэсны дзень, васкрэсная малітва, васкрасаюшчая. Ат раба Божа там Сашы... усякія упуды, балезьні унімаюшчая. Васкрэсны дзень, увас…"* А тады гэта... што ж гэта... яшчэ ж нада... Як загаварываю, тады адно за адным цягнецца я знаю, а так... Ага! *"Пашоў Хрыстос, Хрыстос к раба Божу Сашу павярніся усякія упуды, балезні уйміся"*. Во: *"Вадзіцка, крыніцка, чыстая чысцітка абмывала, абчышчала шэра каменьня, глыбока карэньня, абмый і абчысьці там раба Божа Сашу ад усякіх упудаў, балезьняў"*. Гэта во с упуду. А суроцу... ад глазу: *"Уціхайцеся, улягайцеся уроцы, прыроцы, устрэчныя, папярэчныя, завісныя і радасныя, жаноцкія і дзявоцкія, мужчынскія і младзенскія, у ясных вачах, у чорных брывях, у хрыбетнай касьці, у бумажным целе, у рэцівым серцы. Маць-Марыя ішла, пахукала-падула́ і ўсе ўроцы адняла́ ад раба Божа там Галі"* ілі там... І апяць жа во гэта нада храсьціць і нада ўсім гэтым апяць гаворыць вот эта вот што... Ну, ўсё я больш не знаю.

**Навучанне замовам**

*– Гэта вы ад мамы перанялі ўсё?*

– Ну... не, гэта я тут. Ужо тут. У саседак вучылася, у старэйшых, асобенна.

*– А як трэба пераймаць? Трэба проста перапісаць? І ўсё?*

– Ну, як па этаму... як па гэтаму дак нада, каб старшы, каб младшы. Прымерна, каб не старшы быў, младшы (каму перадаюць).

**Залатнік**

– Залатнік этат ат надрыву бываець. Залатнік этат у каждага чалавека ёсьць. Ён... э-э-э... ну... Ён должан быць вот, кагда ў бані мыесься, дак... мая мама, яна тожа загаварывала, а я не знаю гэта. У бане мыесься, і яна тады цёрла. Вот яна гэта трэць с-пад гэта бярэць сюды, адсюль с-пад грудзей, с-пад нізу сюды... ўсё к пупу гэтаму... (усё трэцца да пупа). Ставіць на месца. Ага, скольві, што яна там гаварыла я не знаю, во так во цёрла яна. Бярэць гэта выціраець. А тады бярэць

венік гэты, каторы паруцца... бярозавы і вот так у пуп ставяць камлём і во так трошкі во пакруціць і дзержыць, і дзержыць. Залатнік, есьлі ён разышоўшыся, значыць ён будзе стукаць у гэтат, гэтат *венік*, гэта ён ужо стаў на места. Стаў ужо ў пуп, а так ён можыць у баку стукаць ілі можыць усё... вот тады, тады чалавек страдаець.

*– Гэта такі ворган у чалавека... залатнік?*

– Ага.

*– Там, дзе пуп?*

– Ага, ён у пупу должан быць.

*– А калі ён нездаровы, ён можа у іншым месцы?*

– Ён бывае нарушыцца ад надрыву, ад цяжолай работы. Вот надарвець, надарвецца чалавек, вот тады, тады эта плоха. Тады есьць плоха чалавек і ўсё. Этат во залатнік.

**Скула**

*– А вось, як скула бывае, як можна скулу вылячыць?*

– Скýлу... мама тожа загаварывала, мне не памагала. Была вайна і, гэта, і пайшлі мы, помню, ў журавіны ілі лісічкі. У лісічкі пайшлі ў лес. А там сабака забрахаў і немец загыркаў. А там жа ў нас парцізаншчына ў Расоньшчыне была сплашная, там немцаў ужо былі выгнаўшы з Расонскага раёна... І я спужалася, і ў мяне тут между ног як села скýла больна...

*– Гэта ад упуду можа быць скула?*

– Да! Ад упуду.

*– І як яе потым лечаць?*

– Ну, лечаць, як цяпер дак у бальніцах прыкладюць... Раньша прыкладалі... Мама троху загаварывала, але мне не памагла мама. Загаварывала, не памагла. Прыкладаюць, як праве, тады прыкладаюць эці *трыпутніны*... Знаеце, *трыпутнік*? Мылам намыльвалі і прыкладвалі. Ну, вот так во і зажывала.

**Трэшчыны на руках і нагах, мазалі**

*– А вось бывае кожа трэскаецца на руках, можа на нагах... на падошвах. Можа што можна дапамагчы, зрабіць?*

– Нічога. У мяне во самой гэта... *набой* на нагах і так во хаджу крыўляюся, нельзя нічога абуць. А нічога не знаю, што дзелаць. В обшчам, адна саветавала, што нада *яйцо (курынае)*, гэта, браць і лажыць яго ў баначку, ну прымерна, дзе была з, гэтым, з гарчыцай, штоб рыла было вузкае. Туды ўсунуць цаліком... Сырое... Ну, ўзяць яйцо і туды палажыць, сырое яйцо. А тады наліць, гэтат, *уксуснай эсенцыі*... Не уксус, а эсенцыя, каторая сільная. Заліць, каб яно (яйка) схавалася там, ў гэтай баначкі. Паэтаму дзелаюць вузенькую баначку, штоб менш этай (эсенцыі) было. Во. А тады ставяць на пяцёра ілі на шасьцёра сутак у цёмнае цёплае места. Закрыць яе плотна крышачкай і паставіць. Мне так саветавалі, но я не дзелала сама.

*– А кажуць, што памагала?*

– Ага. Ну, вот гэная жэньшчына, каторая мне саветавала, казала: “Ў мяне тожа была ўсё і ногі, мазалі сухія гэты былі і ўсё пазганяла гэтым во”. Дак вы знаеце, сядзім на аўтобуснай, як сталі гэта гаварыць, так очарадзь к нам. Значыць у людзей тожа ёсьць... На ногцях, вот, бываюць ногці такія вот што очань

таўсты ногаць, белы такі аж крышыцца. Тая дзевушка адна падхадзіла, яна гаворыт: “Вот, паспрабуйце, паможат, не паможат. Паспрабуйце памазаць”. Тады пастаіць яно там пяць сутак, тады выняць яго (яйка), выліць (вадкасць). Гэта яйцо і шарлотка, наверна, гэта ўсё разайдзецца. А тады нада дзвесьці грам на гэта яйцо *масла слівачнага,* кароўе. Выліць і размяшаць, размяшаць яго, размяшаць і тады ў якую-то пасудзіну і ставіць у халадзільнік. І во этай во мазі нада намазываць гэта во сухія, мазалі, сухое што. Намазаць гэтай мазі і абкруціць яе, і плёнку насунуць, ну, нацягнуць на гэтую руку, прымерна, на пальцы ці на што... Плёнку... мяшочак з плёнкі. Насунуць, увязаць і вот на заўтра апяць так здзелаць. І так спаць ноч. Дак вот не знаю, я не спользавала. Но мне так саветавалі.

**Барадаўкі**

– *А вось бываюць барадаўкі, дзічы...*

– Не знаю.

– *А вось што людзі робяць?*

– Што людзі робяць? Вот нікагда не бярыце ты(я) ніткі, каторыя дзе-то на дароге найдзеце...

– *Нельга падымаць?*

– Ага, вот яны завязваюць, а скольці яны, іх там завязываюць гэтыя барадаўкі, а тады кінуць на ростанькі ці на дарогу. Ага, паднімеш і к табе пяройдзець гэта. Так гавораць, але я тожа гэтага ня дзелала. Я не знаю, толькі чула, што людзі гавораць.

**Зап. У. Лобач, У. Філіпенка у 2003 г. ад Вярыга Еўфрасінні Аляксандраўны 1927 г.н. (пераехала з Расоншчыны) у в. Лукаўцы Зялёнкаўскага с/с.**

**9**

**Пра хваробы, зёлкі і замовы**

– *А вот даўней жа таблетак так многа не пілі, як цяпер, праўда?*

– Ну канешне ж! Я састарэла і ў роце не было...

– *Што? Не пілі зусім?*

– Я з маладосьці не піла і цяпер не п'ю.

– *А чым лячыліся, можа травы пілі якія?*

– Травы пілі. Ад прастуды маліньнік памагаець. Ад прастуды.

– *А як вот жывот?*

– Рамашкі п'юць.

– *Як вот дзіцёнак спужаецца, не спіць ноччу...*

– *Упуднік* ёсьць такі – белыя цьвяткі. Чайку, чайком пояць патом. І загавор жа ёсьць. Загавор ёсьць ад упуду.

– *А вы не знаеце?*

– Не, я не знаю. Я раньшэ знала, цяпер забылася.

– *Знали і давалі вадзічку?*

– Давала. А цяпер ужэ саўсем без духу. Нада ж штоб ня дыхаць, а цяпер ужо...

– *А ад чаго вы яшчэ давалі вадзічку?*

– Больш ні ад чога.

– *А калі во нешта з'есць чалавек, ну атруціцца, панос во моцны, што тады вот?*

– *Конскі шчавель*. Варылі, пілі. Гэта очень памагае дажа! Яічка сырое.

*– А як глісты у малага ці там у чалавека?*

– Ад глістоў, што там ад глістоў... парашкі ёсьць ад глістоў.

*– Ну а даўней жа не было?*

– А раньша такі *глiснiк* быў, называўся. Як семечкі, цеперака... Ну, прымерна, кмін. Вот такія раньша былі. Глісьнік называўся.

*– Заварывалі?*

– Дзецям давалі. Нет с сахарам давалі. Не заварывалі, а з сахарам. Паціскаеш, паціскаеш ложачкай і с сахарам...

*– А з сахарам, ён што горкі так?*

– Да, гаркавы. Дзеці ж ня могуць горкага есьць.

*– А як вот скажыце, як руку парэжаш моцна, як кроў ідзе сільна, вот чым?*

– Ну хто ж яе знаець. Гэта я... Крэпка зажаць нада. Есьць такія во цьвяты, называецца ён *альвас* такі... Вот эта очэнь харашо зажыўляець.

*– А як апаліш чым руку ці нагу, апячэш?*

– Гэта калі апякеш руку, дак *посным маслам* змазваеш. Гэта очэнь харашо посным маслам. *Сьмятанай* очень харашо, кіслай сьмятанай памазаць. Не сліўкамі, а сьмятанай кіслай. Очень харашо. Не сўшыць, харашо.

**Упуд**

*– А вось сказалі ад упуду, вы, можа, нам проста словы раскажаце, як вы гаварылі?*

– Да. Ну ў мяне загавор дужа небальшы. Вот: "*Вадзіца-царыца, чыстая дзявіца, хадзіла гуляла па мхах па балотах, па крутых берагах, па жаўтых пясках, амывала, ачышчала, шэрыя карэнні, белыя карэнні, ачысці раба Божа*... ну там, *Валодзеньку*". І ўсё. Тры разы так не адддыхая так нада гаварыць.

*– А як вот гэтую ваду, яе лепей нашча піць?*

– А ваду нада з вядра ўзяць, штоб не піў ніхто. Адразу з калодца і ваду ўзяць. А патом тры разы тожа і ў вядрэ тожа тры разы перагаварыць... загавор. Патом палягонечку бягіць, бягіць, бягіць у кружучку і ў кружычкі гэтай загаварываць. А тады рабёнку даць тры разы папіць, а тады на руку ўліць і тры разы тожа пацерці. І чэраз сябе выліць. І ўсё.

*– Цераз дзіцёнка (выліць) ці цераз сябе?*

– Чэраз дзіцёнка, чэраз дзіцёнка. Да.

*– А ячмень вот на воку сядзець?*

– Ячмень на воку... Хвігу даць.

*– А любы можа даць ці можа там...*

– Любы, любы. Ну першы з, кім устрэціць. Хвігу даць. Так у глаз. Во цебе, во цебе... Тры раза... памагаіць.

**Пра падучую**

*– А вот такая хвароба – падучая ці прыпадак?*

– Тожа ёсьць такія людзі, што загаварываюць.

*– А ад чаго гэта хвароба?*

– Бываець ад упуду, есьлі спугаецца сільна чалавек, можэць прыключыцца.

**Зубны боль**

*– А калі зубы балелі? Раней жа да ўрачоў не ездзілі? А вот зуб забалеў сільна, што рабіць?*

– *Дуб* такі быў... Дрэва такое. Вот гэтым, тады лісьце і ветачкі адломіш, заварыш, кіпятком заварыш і палошчыш. І перастанець балець.

*– А яшчэ што?*

– А каму памагаець *часнок*. Прымерна, дуплё – часнок палажыць. Тожа памагаець. А каму соль дажа памагаець. У ватачку палажыць, і ў дуплё. Як каму.

**Вочы**

*– А калі вочы чалавеку баляць? Як памагалі? Слязяцца вочы...*

– Мачой, мачой нада праціраць.

*– А якой мачой, хоць якой?*

– Ёсьць жа дзеці малыя... Дзіцячай.

**Валасень**

*– А пра валасень, валаснік вы чулі?*

– Тожа ёсьць такія бабкі, што загаварываюць.

*– Ад чаго яна бывае, гэтая хвароба?*

– Ад цяжолай можаць работы стаць. Можаць стаць што, напрымер, тапаром вы мазоль нацёрлі і можаць прыключыцца.

*– А калі не лячыць яго, вот што можа быць з чалавекам? Ну калі не лячыць валасень, што можаць быць?*

– Ён жа ж можаць разайдзецца, што можаць рука дажа гніць будзе, рана бальшая. Нада абязацельна лячыць. А есьць такія бабкі... цяпер можа і нет, а раньша былі, што вылівалі, на *каласы* вылівалі раньша.

*– А ў бальніцах не лячылі?*

– І цяпер вот у бальніцах лечуць. Цяпер у бальніцах. А раньша бальніц не было. Толька ў Полацке бальніца была і то сільна, сільна каторыя балеюць.

**Зап. У. Лобач, У. Філіпенка у 2003 г. ад Адамовіч Соф'і Ніканораўны, 1923 г.н., у в. Заенкі Зялёнкаўскага с/с.**

**10**

*– Ці ёсць у вашай весцы людзі, што даюць замоўленую вадзічку?*

– У Вараноўшчыне, дзе я радзілася, не было, але я помню, што ў в. Качанова жыла *Пальчэўская Каця*. Яна лячыла ад упуду дзяцей, грыжу, давала ваду. У Малашове жыла яшчэ адна бабулька, *Лышко Алекса*. Яна лячыла рожу, начніцы, грыжу, вогнік, дзічы, магла астанавіць кроў у ране, ад злога глазу давала ваду. Я розным загаворам навучылася ад яе. Навучыла яна мяне і рабіць ваду. Алекса была цёткай маей маці.

*– Адкуль яны навучыліся гэтаму? Каму і як можна перадаць гэтае ўменне?*

– Не магу сказаць ад каго. Можа, ад блізкіх (бабулі або маці). Свае уменьні нада перадаваць малодшаму ў сям'і.

*– Ад чаго яны дапамагаюць?*

– Памагаюць ад розных хваробаў: валасень, рожа, упуд, грыжа, дзічы, начніцы. Бралі яны нямнога грошай, казалі: “хай будзе на крэст”. Памагалі замовы многім людзям. Вадзічку і я даю ўсім людзям, хто нуждаецца, у любы дзень. Магу расказаць як: на стол кладу хлеб і соль, змываю стол вадой накрыж 3 разы (вуглы стала). Тады эту ваду пераліваю цераз ложкі (6 – 8 штук) 3 разы, затым цераз каробку спічак 9 раз. Змываю этай вадой дзвярную ручку (3 разы) і ікону, прыгаворвая словы: “*Матачка насвенчая, хадзі на дапамогу* (імя чалавека, каму робіш ваду)”. Перахрысьціцца 3 разы. Так робіцца вада ад зглазу.

*– А пра якія хваробы вы знаеце і як іх лячыць?*

– *Валасень* гэта, калі гніець пад нагцямі. Можна яго лячыць загаворамі (я не знаю загавораў). *Грыжу* можна тожа лячыць загаворам, *жаўтуха* – гэта хвароба пячонкі (лечуць дактары). Залатнік гэта тое ж самае, што і залатуха. *Залатуха* бывае ў малых дзетак (на галаве гузы гнойныя). Можна лячыць *чарадой* (настоем). Мыць галаву ў настоі, а затым папіць нямнога. *Звіх* гэта, калі чалавек саступіцца, павернець не у тый бок нагу. Лечуць загаворам. Трэба ўзяць нітачку, завязаць 40 вузлоў у адзін бок, затым у другі. Гэтай *нітачкай* перавязваюць бальное месца. *Каўтун* гэта, калі на галаве завіваюцца валасы ў клубок. Даўней лячылі загаворам, але як ўжо не помню. *Крэктуны*: калі цяжарная жанчына штурхне нагой ката, тады ў дзіцяці на сьпіне вырастаюць валасы і ен іх чэша, круціцца ў калысцы, крычыць, неспакойна сябе паводзіць. Дзяцей тады мыюць у вадзе з залой. *Наход*: калі чалавек мыецца ў бані або ў хаце, або разьмінецца на парозе з "нячыстай" жанчынай, тады па твару выступаюць болькі. Лячыць можна так: 3 нажы ўторкнуць у край столу і пераліваць праз іх ваду (3 разы), затым памыцца. *Начніцы*, тое, што і крыктуны. *Падзіў*: калі чалавек дзівіцца з цябе. Трэба прагаварыць: "*Соль табе у вочы, а галавешку у зубы*" (3 разы). Сурокі не ведаю што такое. *Эпілепсія*, гэта *прыпадак*. Лячыць можна так: праз 3 парогі сабаку даць 3 кускі хлеба (кожны кусок праз 1 парог). Сабака павінен узяць хлеб з вады. Тады гэтай вадой памыцца і зрабіць 1 глыток. *Рожа*, красната на целе з опухалью. Лячыць загаворам, я ўжо гаварыла як. *Упуд* гэта, калі чалавек спужаецца. Трэба акурваць яго *упуднікам* (трава, якая цвіціць жоўценькімі цьвяточкамі, а затым становіцца калючай). *Часотка* гэта, калі клешч паселяецца пад скурай чалавека. Лечуць дактары. *Шаленства*, гэта прыпадак. Лячыць як і эпілепсію можна. *Ячмень* гэта прышч (болька) на глазе. Хто першы ўбачыць ячмень на глазе, той дае хвігу.

*– Што дапамагае пры апеках, атручанні і бародаўках?*

– Пры апеках трэба асінае гняздо прыкласьці да іх. Атручванне лечуць дактары. Дзічы лечуць так: на кожны дзіч завязаць на нітачцы вузел і яе палажыць пад нары. Калі *нітачка* згніе, тады дзічы прападуць. Хваробы вачэй лечуць дактары, а пры хваробе галавы прыкладаюць да балючага месца ліст капусты. Ад глістоў трэба даваць *глісьнік* з цукарам. Горб лечуць дактары, ад болю ў жываце і запору робяць клізму з *рамонкамі*. Нервы лечуць тожа загаворам або вадой ад упуду. Парэз лечуць дактары, ад паносу п'юць *шчавульнік*, *кару дуба*. Пры почках памагае *брусьнічнік* (настой), ад прастуды п'юць *маліну*, пячонку лечуць дактары, на гнойную рану ложаць марлю з *марганцоўкай*. Ад болю ў сьпіне лечуць так: калі ляжыць пакойнік на куце, яму ногі завязваюць матузам, каб яны не былі расхінутымі. Гэты матуз прывязваюць потым да сябе. Так лечуць і боль у суставах, ад сэрца п'юць настойку *валер'яны*, ад удару лечуць так: халодны прадмет прыкладаюць да балючага месца, укус зьмяі лечуць знахаркі, да чыраў прыкладаюць *пячоны лук*.

*– Якія зелкі дапамагаюць ад хваробаў?*

– *Альвас* гоіць раны. *Каноплі* раней давалі дзецям, каб спалі, *конскі шчавель* памагае ад паносу, *крушына* тожа ад паносу, *лен* п'юць пры язве, *лопух* ад болю ў суставах. *Нагаткі* (кветкі заварваюць) і даюць піць жывёле, каб не зраніла. *Падбел* дапамагае ад кашлю, *чыстацел* вылечвае болькі на целе. З яго дыра-

чак выціскаюць сок і прыкладаюць да болек. *Палын* лечыць ад болю ў жываце, заварваць кветкі, *півоні* лечаць ад упуду. *Піжма* лечыць ад жывата, *рамонак* дапамагае ад горла, *сардэчнік* – ад сэрца, *зьверабой*, раней казалі, памагае ад 40 розных хваробаў, падарожнік – ад крывацёку, упуднік – ад упуду, бясмертнік – ад болю ў пячонцы, чабор заварваюць і п'юць чай. На Купалле зёлкі зьбіраюць, а на Івана ў цэркве сьвенцяць.

*– Ці дапамагае ад хваробаў садавіна і гародніна: бульба або крахмал, буракі, гарбузы або іх семечкі, капуста, грэчка, цыбуля, часнок (Дрэвы і кустарнікі: бэз, бяроза, вольха, вярба, дуб; хвоя: сасна або яе смала ці шышкі; грыбы або ягады; сала, яйка, крэйда, вугаль, мача?*

– *Крахмал* дапамагае пры язьве, *бурачнае семя* пры лячэнні рака, *семя гарбузоў* ад глістоў, *капуста* (*сок*) ад язвы, *рэдзька* ад болю ў суставах, *цыбуля* ад чыру, *часнок* настаіваюць на сьпірту і п'юць для ўкрыплення арганізму. *Бэз* дапамагае пры жаночых забаляваньнях, *вольха* ад паносу, *вярба* ад жалудка, кара дуба ад паносу, хвоя (шышкі), гэта ад легкіх, чарніцы, гэта ад паносу, *брусьніка*, гэта ад почак, *маліна*, гэта ад прастуды, *клюква*, гэта ад тэмпературы, *чаромха*, гэта ад паносу, *сала* (кусочкі) кладуць на чыры, *яйкі* (жаўток) дапамагаюць пры мужской немачы, *вугаль* ад жалудка, *мачу* выпарваюць і робяць кампрэсы на суставы.

*– Ці можна вылечваць хваробы вадой? Якія хваробы лякуюцца ў лазні?*

– Хваробы можна вылечваць (загаворанай) вадой. Я не знаю, ці ёсьць, наверна, няма паблізу крыніц. Я езьдзіла за вадой у Сафійскі сабор. У бані лечуць прастуду, радыкуліт (параць бярозавым венікам).

**Зап. студ. ПДУ І. Дабрахвалава у 2004 г. ад Пяцюль Ганны Сямёнаўны, 1934 г.н. у в. Быкаўшчына Ветрынскага п/с.**

**11**

*– Ці былі ў вашай вёсцы людзі, якія давалі замоўленую вадзічку?*

– Былі. Мая мама і я.

*– Як называюцца людзі, што даюць вадзічку?*

– Бабкі, ці бабкі-шаптухі, гавораць: “Ідзі к бабке-шаптухе” (што шэпчуць).

*– Каму і як можна перадаць гэта ўменне?*

– Старэйшаму і апошняму ў сям’і не можна, з гэтага, каб он быў маложэ мяне, но не старшэ, я старшаму б не дала. Напрымер, еслі ваду буду даваць, то не старшай за сябе малітвы там... ілі што, толькі малодшаму магу даць.

*– Ад чаго вы дапамагаеце, ад усяго, ці толькі ад асобных хваробаў?*

– Ад асобных хваробаў:ад упуду, рожы, ад грыжы і зглазу памагаю

*– Ці ведаеце вы што за хвароба вадзянка?*

– Да, вот раждаюцца дзеткі маленькіе, і ў яго адно яйцо, напрымер, харошае яічка, а ў другім вадзянка вот такая вот (паказвае рукамі). Вот загаворыш – і яе не будець.

*– А валасень, што гэта такое?*

– Волас. Гэта тожа загавор ат воласа, ну я не знаю. Волас гэта... вот палец, костачка выгніваець і толькі застаецца… Пад нокцем. І дажа выгніваець адін сустаўчык і становіцца *калдунок*.

*– А што такое грыжа?*

– Грыжа ў пупу бываець, у паху бываець і ў мужчын дык, дажа, цежало падніміць, так ў гэтых, у яічках.

– *Залатнік?*

– Залатнік эта тожа срываецца. Ён находіцца каля пупа, а када, напрымер, цяжка паднімеш, ён ходзіць па ўсяму арганізму і будіць хадзіць і вурчэць, гэта яго нада загаворваць: *“Залатнічок-панічок, стань на места”.* Вот так вот ложаць і ў бані... А еслі абарваны залатнік, то вабшчэ чалавек, у яго ўсё врэмя будзець балець пад грудзямі. І тада нада абязательна ў баню і парыць венікам і так гэта і загавор делаць, і ўсе становіцца на места. А еслі не станавіць, то ён пераходзіць у язву дажа.

– *А залатуха?*

– Залатуха – эта прастуда. Бываець яна і ў галаве, і за вушамі мокнуць (болькі), і весь чалавек пакрываецца такой коркай. Абычна залатуха бывае ў малых рабят, дажа пераходіць ў глазы эта залатуха. Эта нада, каб у цемнаце ён сядзеў на печкі і піў *рыбі жыр*...

– *А загаворамі лечыцца?*

– Да, яна і загаворамі, але я знаю другія загаворы.

– *Што за хвароба звіх? Каўтун?*

– А гэта ішоў і падвярнуў ногу, эта ўжо звіх. “Звіх, звіх не будь ліх...”. Каўтун – эта ў галаве бываіць валасы звіваюцца... Эта вот, напрымер, када ідзець чалавек, і буран такі находзіць, і круціць вецер, і вот... А ты без платка і каўтун звіваецца так, што нада вырэзаць будзець. Ад каўтуна я загавора не знаю. Вот этат каўтун ён сільна врэдны, так галава начынае балець...

– *Крыктуны ці крэктуны?*

– А крыктуны – эта ў дзетак у маленькіх, як када раждаецца і ў яго вот... Нельзя бярэменным ката ласкаць і гладзіць: ні сабаку, ні ката. Еслі толька ана вот так вот прыдзець кот – ана его нагой пнець ці рукой, значыць, эта ўжо крык тут у рабёнка будзець, есьлі дажа пагладіць.

– *А што гэта за такое?*

– Крыктуны – эта ён будзе спаць так і ўсё (агучвае крахценьне). А ў яго тут (паказвае на спінныя лапаткі) валосься будуць. Нада *гарачы хлеб* браць, пагрэць хлеб у печкі, пакачаць там па валосіках, вот так вот разарваць хлеб і паглядець там валосікі такія ёсьць. Так хлеб пакачаеш па рабенку – ён не будзе крыхтаць... і сабаку нада атдаць, каб сабака з’еў.

– *А што гэта за наход?*

– У жэньшчыны бывае менструацыя і вот, а мужчына ідець, і станець на пароге, а яна пройдзець, як прайшла – ён весь будзе ссыпаны. Падойдзеш к рэчкі, яна мыецца ў рэчкі, ці ты мыесься ў рэчкі, а яна, эта грязная, прыдзець к табе ў ваду – усё... цябе сліець так, што нада *шалушкі курыныя*, што цапляты выводяцца, кіпяціць і мыцца гдзе-ліба і выліваць пад чужы вугал.

– *А начніцы?*

– Начнічкі – гэта тожа загаварваюцца. Эта рабёнак не сьпіць цэлую ноч. Перапутаець дзень з ноччу. А тада вот бяру, лажу ў падол і качаю:

*“Начнічкі, сястрычкі чашыцеся, ішчыцеся, лапці пляціце, а маю Зіну не будіце”*. І вот так перад заходам сонца разы тры пагавару.Так адзін дзень, другі дзень. І ўсё. І начнікі прападаюць. Сьпіць ад душы.

*– А што такое суроцы?*

– Гэта вада (трэба), вада ад зглазу. Вот прыйдзеш, а на цябе глянець не так жэньшчына, а ў яе глаз плахі, і ўсе эта ўжо суроцы.

*– А што ад гэтага бывае?*

– Умрэш!!! Памерці можэш!

**Зап. студ. ПДУ: В. Волкаў, М. Семашка у 2005 г. ад Папковай Алены Мікіцічны, 1930 г.н. у в. Гарадзішча Заазерскага с/с.**

**12**

*– А як дзіцёнак спалохаецца? Ну, сабаку спалохаўся?*

– Тады ж такія бабкі былі, ваду давалі.

*– Доктар не памагаў?*

– Не памагаў.

*– А яшчэ такая хвароба, як рожа?*

– Это тожэ бабкі. Ну сейчас то, можа, і лечаць, а тады не лечылі. У мяне самой была рожа. Яна нарывала, сразу сінець станець, опухаль, тады, есьлі не загаварываешь, нарыў будзе.

*– А куды далека вы хадзілі, каб загаварылі?*

– У нас была ў Гіршчыне бабка, загаварывала харашо. І вот у дзярэўне была. Гэта ў мяне была рожа, прыйшла, і яна мне загаварыла. Як напухала, так я на сьцену ледзь не лезла ад болі.

*– А што, як загаворваеш, няможна піць?*

– Ну няможна, няможна. Як у Гіршчыну пайшла, калі не магла ўжо адзець. Яна мяне на скамейку палажыла і стала загаворваць. Мне адразу спаць захацелася. Я к ей тры раза схадзіла, і зажыла яна ў мяне.

*– А як, вы ж нешта давалі, плацілі, ці як?*

– Хочаш давай, хочаш і так загаворыць. У яе каровы не было, я ей смятаны занесла, занесла і малака.

*– Ну а як бывае, што сурочыць чалавек? Бывае такое?*

– Бывае. Тожа вады даюць. Проста тожа загаварваюць. Там мыліся ею, вып'еш.

*– А вот калі сурочаць чалавека, чым ён можа захварэць ад суроку? Што можа балець у яго?*

– Што можа балець? Можа ташніць, проста плоха становіцца.

*– Гэтыя сурокі доктары не лечаць?*

– Не, яны не панімаюць.

*– А вот такая яшчэ волас, валасень? Гэта што за такая хвароба?*

– У мяне тожа у самой была. Тады тожа такая бабка была. Ваду неяк яна там, калосьсе толькі там, не знаю. Некалькі калосьсеў ад жыта кладзець, а тады гэтай вадой льець. Льець і знануць з гэтай болькі вылазіць валасы.

*– Самі бачылі валасы?*

– Бачыла. К врачам хадзіла, к доктару. Ізрэзалі, абрэзалі, і нічога не памагло.

**Зап. У. Лобач у 2003 г. ад Чышчанка Настассі Іванаўны, 1912 г.н. у в. Жыхары Юравіцкага с/с.**

## 13

*– А валасень што за хвароба?*

– Валасень, ад яго загаворвалі. Валасень – гэта такі прама ў серадзіну, дажа у калена можа засесьць. Гэта праклятая хвароба. Выліваюць старухі воды, а тады сдзелают, каласоў прынясуць якіх. І тады вадою этаю паліваюць, нешта шэпчуць. І вылезець – валосьсе там выходзіць.

*– А як малыя дзеці не спяць ноччу?*

– Не сьпіць, спужаецца, не сьпіць. Тады ваду эту бяруць. Зваліцца рабёнак адкуль-небудзь ці забалеець, тады бяруць ваду, дажэ прыпадак становіцца ад упуду. Вот эта падучая балезьнь прыпадак называецца, як спужаецца. У мяне самой быў мальчык, памёр ён. Ішоў, я была пайшоўшы. Майго (мужа) на вайне… Тады папаў ў плен, мы тады пайшлі, ўзналі, дзе яны (палонныя) есьць, а ён быў небальшы, яму другі годзік быў. І быў ён на двары, і карова перайшла чэраз яго. Адразу і глазкі сталі касыя, такія на бок. Дык старушка, ужо памерла, яму вады давала, памыла, загаварыла. Слава Богу, нічога, толькі глазкі пакасіўшыяся.

*– Гаворать, яшчэ з ветру бывае?*

– І з ветру бывае. Дак вецер, усякі вецер, гавораць прышчыкі стануць на ліцу ці то яшчэ, гавораць ад ветру.

*– А валасень дактары лячылі?*

– Я табе не скажу, больш лечаць людзі як дактары.

*– А як чалавеку паддзелаюць?*

– Езьдзілі па знахарах. Вот зьдзелаюць, а тады паедуць к другому, вады дасць, памыюць і паправіцца. Мой бацька сам чуць не памёр. Як раз на Пасху пайшлі на Усеночную, астатнія, удзвух, дома старыкі. Прыходзім з Усеночнай – ляжыць як нежывы, а ў нас там цераз калідорчык, а яна яму яшчэ падзелала. А ён ляжыць – пена з роту ідзець і качаецца. Тут бацька на брата свайго: “Едзь на Узьніцы, там чалавек”. Брат яго гаворыць: “На першы дзень Пасхі вады не дасьць”. Тады маці адрэзала яму кумпяк копчаны, дала. Ён паехаў, прывёз, толькі гаворыць: “Глядзі, каб ён у цябе не встрэціў той чалавек (які падрабіў), тады памагаць не будзе, каб як ты дамоў павязеш цябе не сустрэў у дзвярах”. А ён тады ехаў, у яго конь свой, за могілкамі паставіў каня. Суседка жыла цераз калідор, яны паругаліся і яна нешта яму зрабіла. Тады, як ён прыехаў, ішоў не ў дзверы, падаўся цераз вакно. Матушка яго памыла, дала выпіць вады. Саседка ў яго пытае: “А дзе ты быў, Марачка, так рана?”. А ён: “Якое табе дзела”. Сам і пайшоў да каня. Яна і не знала чаго ён езьдзіў. Памылі майго бацьку і к вечару бацька аправіўся.

*– А вы казалі, што паехаў у першы дзень Пасхі, што няможна даваць?*

– Тады ж грэху баяліся, што на первы дзень Пасхі ваду даець. Набожныя былі.

*– А ці гаварылі, ну, што такі празнік вялікі, нічога з хаты пазычаць нельга?*

– Нельзя гавораць, а Бог яго ведае. Я вам скажу: добраму чалавеку – ён возьме што-небудзь і добра, а еслі гад, дык тады ён нарошна прыходзіць у празьнік, тады дрэна табе. А есьлі ад чыстай душы, то нічога.

*– А праўда, што на Троіцу, на Пасху нельга рабіць нічога?*

– Рабіць нельзя. Раньшэ ж грэху баяліся, ніхто не робіў – большы празьнік, тры дні празнавалі. Пасху, Троіцу, Багародзіцы дзве было. Дажэ ў васкрасеньне бацька не даваў парасёнку секчы. На ноч насякалі, каб у васкрасеньне не секчы.

*– Даўней то да доктара за кожным разам не ездзілі, як прастыў, ну, чым лячылі?*

– Лечуцца, ну, там сваім і ногі грэюць, і пару даюць. Ну, патрухі, гавораць, ад *сена* нада падыхаць. Па дактарах не езьдзілі.

*– Таблетак не было ніякіх?*

– Яны то і былі, але ніхто не знаў. Не так як цяпер.

*– Ну, а як у дзіценка панос?*

– Ну, панос, і панос усім лечаць. Загаворваюць і траву. *Пустырнік*. Я ўжо пазабывалася.

*– А як зубы баляць?*

– Ад зубоў я не знаю, нада рваць. Дажа загаворваць неяк ўмеюць. А я не знаю. Даўней загаворвалі. Тады ніхто не езьдзіў ірваць, тады, неяк, у людзей і зубы не балелі. Цяпер то бяззубыя. Людзі ўміралі і зубы былі.

**Зап. У. Лобач у 2003 г. ад Смаляковай Зінаіды Дзмітрыеўны, 1912 г.н. у в. Залессе Юравіцкага с/с.**

## 14
## Пра чараўнікоў і знахараў

– Калі-та, вот, у нас была, там дзе мая маці жыла, калдуньня. Яна ўсім людзям нячыстую сілу пасылала. Маці мая расказывала. Была ў яе карова, дык гэта калдуньня ей так сдзелала, што яна дажа ў хлеў не шла. Вот падыйдзіць к хлеву, чмыхніць на дзьверы і пайшла. Ўсей дзярэўней яе лавілі. Прывядуць ў хлеў паставяць, а утрам выпускаць, а гэта карова ўся мокрая, што яе хто вадой паліў. Але знайшліся людзі, якія дапамаглі. Маці хадзіла к бабке, што ў Верабьях. Тая дасьць вады, солі, загаворыць. Назаўтра карова ўжо ідзець у хлеў як ні ў чым не бывала.

*– Як называюцца людзі, што дапамагаюць?*

– Ну, яны называюцца знахары, што дапамагаюць. І дажа я сама хадзіла да такой. У мяне ногі сільна балелі, езьдзіла я ў Зяленку і яшчэ ў Полацк. Ёсьць такія старыкі. Яны загаворваюць ваду: ажнуць пот з яе льецць. Гаворацць, што яны адганяюць нячыстую сілу.

*– Ці ходзяць чараўнікі ў царкву? Ці вераць яны ў Бога?*

– Не, не веруць яны ў Бога. Не ходзяць і ў царкву. Яны такія нелюдзімыя. Калі б яны пазвалі чалавека ў госьці, угасьцілі яго, дык не. І гавораць, што тыя, хто чаруе плоха паміраюць. У маей братавай была маці такая чараўніца. Дык яна як памірала сільна доўга мучылася, прасіла, каб сын у паталку падняў дзве доскі. І праўда, сын залез падняў дзьве сталіны, тады яна памерла. І ў яе, я дажа сама відзела, на галаве каса была такая скручаная-скручаная, як калтун. Яна не расчэсваецца. Яна так век і хадзіла. На людзей не глядзела.

*– Дзе яны вучацца гэтаму чарадзейству?*

– Гавораць, што іх вучаць. Можа ў іх была такая баба, прабаба. Яны ж гэта далжны перадаць каму-та.

*– Яны абавязкова павінны перадаць?*

– Да, ці унуку, ці дачце, ці сыну. Толькі тады яе Божанька прыміць на тым сьвеце. А так гаварылі, што такіх дажа на могілках не хароняць, а толькі каля краю.

*– Вось жанчыны чарадзейкі ёсць, а ці ёсць мужчыны?*

– У нашай дзярэўні (Казімірава) жыў чарадзей. Ен утрам выйдзець на вуліцу, на ўсход рукамі памахае, на захад памахае. Яго *Зубель* усе звалі. Ён усё плахое дзелаў. Асобенна як празнікі гадавыя – Благавешчаньне, ці Троіца. Ну і гаварылі, што ён дужа калдаваў людзям. І ніхто яго не трогаў. Яны са свайго калодца вады нікому не давалі. Ён свой калодзец на замок закрываў. Яны былі жадныя.

*– Знахары вераць у Бога?*

– Ну, знахары – гэта тыя людзі, якія дапамагаюць. Яны ж і моляцца і хрэсцяцца. Услух моляцца, Божаньку успамінаюць, Ісуса Хрыста.

*– Як вы лічыце, хто сільнейшы – чарадзей або знахар?*

– Бываюць, што чарадзеі і добра знаюць, але ёсьць і такія, якія пераймаюць ад сваіх бацькоў не ўсе, або не ўсе запамінаюць. Ідзеш к такому знахару, а ён гаворыць, што толкам і не шчараваў, і мне трудна з ім бароцца. Тады ён пацеіць, фукаіць, прама ў яго задышка такая. Ёсьць і такое, што дажа некаторыя сільныя памогці не могуць.

**Зап. студ. ПДУ В. Хруцкая у 2004 г. ад Кавальчук А.Ф., 1922 г.н. у в. Палата.**

## 15
## Знахаркі

*– Ці ёсць у вашай вескі бабкі якія даюць замоўленую ваду?*

– Былі такія бабкі, якія ад упуду ваду давалі, ад угроз. Была бабка Ефрасіньня Кандрацеўна, яна цяпер умерла, а яшчэ Вольга Філіпаўна Беляўская жыве ў веске Казімірава.

*– Дзе яны вучыліся гэтаму?*

– Вольга Бяляўская ад сваей маткі. Маладыя цяпер не вераць гэтаму, ніхто к знахаркам не ходзіць. Як забалеюць, часта і вніманія не абрашчаюць.

*– Якія яны хваробы лечаць?*

– Ад упуду, ад угроз. Ад упуду упуднік кураць.

*– Каму яны даюць ваду?*

– Да ўсім, хто абрашчаецца. Нічога не бяруць, калі ласка твая, значыць дай што-небудзь: ці грошай, ці канфет купі. Ефрасіньня Кандрацеўна вылівала валасень. Наліваець у тазік вады, кладзець гарачы камень, не кірпіч, а камень. Тады гэтай вадзічкай на руку, ці на ногу льець, там дзе валасень, тады *калосьсе ад жыта* прыкладваець і льець, льець сколькі там – сама знаіць, а патом камень вынімаець і выліваець гэту ваду дзе-небудзь. А каласы снімаюць, а яны скрыпаны валосьсем. І тры пучкі гэтых каласоў тры разы выліваіць, а патом загаварваіць.

*– Як лячылі другія хваробы?*

– Начніцы адкідвала. Цераз лесьніцу прадзявала гэтага рабянёнка, і загаварывала начніцы. Грыжу загаварвала. Прыкладала *чорную кожачку* ад авечкі і загаварвала. Абезацельна, каб чорная была. А упуд лячылі так: набяруць *угалечкаў* у ваду і загаворваюць. Яна сіпіць гэта вада, а яе загаворваюць, тады кураць.

**Зап. студ. ПДУ В. Хруцкая у 2005 г. ад Папковай Ніны Васільеўны, 1920 г.н. у в. Палата.**

## 16
## Пра хваробы

*– А скажыце, Надзея Сцяпанаўна, даўней жа дактароў не было. Можа травы збіралі?*

– Больш дома лячыліся. Я ў бальніцы не была. Толькі адзін раз нагу зламала.

*– А можа ведаеце такую хваробу сурокі ці зглаз?*

– Ага, зглаз, бывае.

*– А як яго лячыць? Можа было з кім?*

– Ну бывае, калі на гулянках якіх, там, дзе людзей многа ці сьвежы (новы чалавек), маладога. Гаварылі: "Ай прыйшоў дамой, зваліўся, плоха". Ну бабкі былі, вады якой пашэпчуць, змыешся і ўсе прайшло.

*– А можа былі такія выпадкі, калі дзіця ня спіць ноччу, крычыць?*

– А калі крычыць, сьвякроўка мне напісала загаворы ад гэтых крыкуноў...

*– А свякроўка знала?*

– Да. Застаўляла запісваць.А я не хацела, маладая была...

*– А кожны можа зглазіць, ці нехта асаблівы?*

– Ай, не, бывае проста такая мінута плахая ў жызьні, няхай ён проста нічога дурнога і не падумаў. Проста бывае скажа: "Ай, якая кароўка добрая, малака многа даець". А прыйдзеш даіць, яна б'ецца, то знай – гэта ўжо зглазілі. Ну калі пашэпчыш, ці вадой якой акрапіць, і неяк нічога, пройдзе.

*– А бывае, калі рабёнак сабаку спужаецца?*

– Ага. Ну як спужаецца, бывала, пад стол тры разы па тры: "*пуд, аставайся тут*". Рабёнка так пад сталом вадзілі. А бывала сабаку абстрыжэш ножнічкамі колькі *поўсьці* і так запаліш і дым ідзець, нада, каб дымам па рабёнку прайшло.

*– А вот скажыце, можа чулі пра такую хваробу валасень?*

– Была такая хвароба, але я загавору не знаю, ня ўмею. А ну бывае, палец гніець. Врачы рады не даюць.Тады ўжо загаварвалі і папраўляліся.

*– А з чаго?*

– А ну з вады магло быць.

*– А рожа?*

– Рожа?.. Тожа загаварвалі.

*– А як яна праяўляецца ў чалавека?*

– А ну становіцца краснае месца і ўсё, і баліць. У бальніцы ня ведаюць. Дык вот старыя людзі адмятаюць жорны адмёткай (адмётка – анучка, якой адмяталі муку). Дык гэтай трапкай гэта месца патрахалі.

*– А калі паранішся, чым кроў суняць?*

– Такая трава ёсьць *крываўнік*. Проста травы возьмеш, наматаеш і кроў тая праходзіць.

*– А вось так гавораць, каб рука не развілася?*

– Ну, каб рука не разьвілася венікі такія, галькі, ну вось што сажу замятаюць. Ну вот вяровачку ад гэтага гальня адвязваюць і на руку прывязваюць.

*– І колькі тую вяровачку насіць?*

– Ну пакуль не перастане балець. А тады гэтую вяровачку нада спаліць у печы.

**Зап. У. Лобач, У. Філіпенка у 2005 г. ад Хадуновай Надзеі Сцяпанаўны (ураджэнка в. Вяркуды Ушацкага р-на), 1938 г.н. у в. Вялікае Сітна Маласітнянскага с/с.**

**17**

*– Аляксандра Фядотаўна, скажыце, даўней па бальніцах лячыліся? Ці болей травамі? Вот я гляджу, у вас траўкі вісяць.*

– Дык у нас і бальніцы не было дажа, адзін хвельдшар быў у Дрэтані.

*– А вот якімі траўкамі лячыліся, якія траўкі сабіралі?*

– Ну якія?.. *Сярдзечнік*... Цяпер яго не відаць. Па пожні расьцець беленькім цьвяточкам. *Рабіна* ад даўлення. Цьвяты, калі цьвітуць.

*– Ну, а тут у вас на сцяне што за траўкі вісяць?*

– А гэта палын. Ад жывата, ад паноса. Проста ў баначку, кіпяточкам налію. Можна піць колькі хочаш, ён няўрэдны.

*– Аляксандра Фядотаўна, а вось можа чулі даўней такая хвароба была валасень ці валаснік, волас. Як вось правільна называецца?*

– Волас. Хвароба сільна ўрэдная, у мяне дажа во нокаць злез.

*– А як лячыць?*

– Вады нагрэць, *сухаломніку* наламаць

*– А што такое сухаломнік?*

– Трава. Яна расьце, расьце і нават летам высыхае. Вось нагрэць вады, сухаломніку ўзяць і розачкі ад веніка... Ад веніка пруткі. Узяць сухаломніку, палажыць на руку і вадой паліваць і прыгаворваць: "*Волас, волас ідзі ў лес на сухі хворась*". Бралі 12 розачак, зверху сухаломнік, потым розачкі і паліваць вадой. І аказваецца, калі волас, паказваюцца валаскі, як поўсьць, сівыя, так хвароба і выходзіць.

*– А вот гавораць ад сурокаў ці ўрокаў дахтары не памагаюць? Як правільна?*

– Урокі. І дахтары памагаюць. Ну гэта мінута такая бывае. Гавораць, у чалавека глаз плахі. Або калі пазавідуюць. Балее чалавек. Было (у мяне) два разы. Ну я бяльё паласкала на озеры, а ішоў старычок. А я ў мароз. Я раней марозу не баялася. А ён гаворыць: "Як ты трываеш? Ай, так холадна, а ты палошчыш бяльё". Ну, я прыйшла дамоў. Я ўжо не магла цярпець, так мне аж глазы вярбелі, галава балела. Сказалі, што зглаз. Быў старычок, які даваў ваду. Ахрэм. Схадзілі, мне вады прынесьлі, я папіла, памылася і заснула, і прайшло.

*– А вот той Ахрэм, ён ад чаго яшчэ памагаў?*

– А ён толькі ад зглазу памагаў.

*– А вот ён можа браў грошы за гэта?*

– Не, не браў.

*– А вось вы сказалі, што 2 разы вас зглазілі. А другі?*

– А другі раз на рабоце была. У лясу смалу выбірала. Гналі дзве жанчыны кароў у поле. Гавораць: "А яна ня ходзіць, а лятае". Гэта на мяне. Ну як лятала – так і перастала "лятаць". Ну я тады чуць з работы прыйшла. Тожа той старычок даваў ваду. Ну, я прыйшла дамоў, адчула слабасьць у целе...

*– А вось можа такую хваробу ведаеце – рожа?*

– Ну! Было. Вопухаль становіцца у любым месцы: на наге, руцэ... Баліць там, дзе абразуецца вопухаль. У бальніцу езьдзілі, а што з яе, не зналі ад чаго. Самі лячылі, да бабак хадзілі.

*– А можа чулі пра такую хваробу каўтун ці калдун?*

– А... Валасы сплятаюцца на галаве, і не расчасаць. Ну, хадзілі к людзям, што панімаюць.

*– А былі людзі, якія хварэлі?*

– Былі, якія хварэлі. Была во жанчына, нядаўна памерла. Антаніна Мікалаеўна Рэзчына.

*– А ці чулі вы такую хваробу вогнік?*

– Вогнік, гэта болей у дзяцей бывае. Болькі. І на губах, і на ліцэ. І ў бальніцы лячылі, і траўка такая есьць, так і называецца *вогнік*. Яна і па лесу расьце, і па полі. А жоўценькія цьвяточкі. Проста пупышачкі такія жоўценькія. Сушылі і прысыпалі, мачыць не нада.

*– А дзе гэтую траўку трэба было сушыць, захоўваць?*

– У хаце сушыць. Таму што там (на дварэ) сонца ахватываець, а ім нада, каб цёмна было.

**Зап. У. Лобач, У. Філіпенка у 2005 г. ад Трафімавай Аляксандры Фядотаўны, 1912 г.н. у в. Вялікае Сітна Маласітнянскага с/с.**

## 18
## Фітатэрапія

*– Вот ад кашля? Што нада піць такое? Траву якую?*

– Ну, ад кашля. Ва-первых, *зьверабой*. Эта, как гаварят ад 99 балезьней… Ну, засыпаеш ложку сухой травы – заліваеш стаканам кіпяточка і п’ёш. Гэта ад многіх балезьней. І ад жалудачных. Ну, а, в аснавном, ад кашля. Вот сійчас у мяне муж васпаленіем лёгкіх балеў. І яму ўсё *маліньнік*.

*– Маліннік тожа ад кашля?*

– Тожа. Я ужэ там не прыдзержывалась такой прапорцыі, а палажу ў чайнічак – і лісьцікі і сьцебелькі. І кіпяточкам залью. Пастаіт – і я пап’ю, і ён пап’е. *Падарожнік* – эта очэнь харашо для лёгачных забалеваній. Для бронхаў – над *картошкай* падышаць, над варанай, закрыўшысь. Тожа харашо.

*– А вот як дзеткі малыя не спяць уночы. Што ім трэба даваць, каб яны заснулі? Можа ім пашаптаць нада або травы якой-нібудзь?*

Ну, травы. Як у мяне быў сын, мяне наўчылі травы. Но этага нельзя дзелаць. *Маку*, гаварылі, нада даваць. Божа упасі! Эта ж няльзя – эта наркоцік! Вот.

*– А маку, як даваць?*

– Семенкі. Гаворяць, у пустушачку, ці сосачку яму ці натапі з малачком. Але эта нельзя дзелаць – тады будзе наркаман.

*– А вот ад падрыва што?*

– Ад падрыва ёсьць трава – *надсаднік*. Так ён і называўся – надсаднік. Што чалавек надсадзіўся ад цяжолага труда, ад цяжолага пад’ёму. І цяпер яго п’юць.

*– А дзе эта трава расце?*

– Ну, у лісьцвеных і ў яловых і хвойных лясах. Па зямелькі такая сьцеліцца, лісьцікі небальшэчкія… Цьвецёт беленькімі такімі кветачкамі. Вот *жбанок* ставілі ім банку на жывот – на пупок. Вот.

*– Адну банку ставілі?*

– Ну, дзьве не паставіш – уцянець. Яно ж так цянець. Ну, такую харошую баначку – на поллітра, а той большэ. – на дзве. Ну, эта раньшэ так было. Цяпер людзі лечуцца в бальніцэ. Бывала што і разьбівалі эты жбанок – не могуць ніяк выцягнуць. Тамушто яно ўсасваецца ў кожу – воздуха там нет.

*– А вось з дрэваў якія лекарсцьвенныя? Бяроза?*

– Вот бярёза. *Бярёзавая кара* хараша ад прастуды. Ну і *асінавая кара* для серца. І цяпер п’юць яе. Для укрепленія серца. *Аўсяную салому,* зялёную яшчэ. Пака авёс не вырас. Вот яго п’ют. Многа-многа памагает. На *вербе* бывают такія *шышачкі*. Вот яны как розачкі – не на ўсіх сартах. Яны карычневыя, пака яшчэ не засохнуць. Вы відзілі іх. Вот эта ад кашля – самае харошае. *Рабіна*, яна больш для такіх слабіцельных цэлей. Гемарой у каво-та – очэнь харашо. *Цьвяткі рябіны*. Патом вот чай зімой піць. Эта очэнь харашо. *Крышына*, эта значыць слабіцельная. А *чаромха*, што? Нешта там жалудачная. Не магу сказаць.

**Зап. студ. ПДУ: Н. Дулько, А. Кажаноўская, Ю. Пракоф'ева у 2005 г. ад Загнетавай Ніны Іванаўны, 1937 г.н. у в. Вялікае Сітна Маласітнянскага с/с.**

**19**

*– Ад чаго трава такая – зверабой?*

– Зьверабой. Яго і ў водку апускаюць (самагонку). *Зьверабой,* ён ад многіх балезней.

*– А вот ад кашля, што піць, еслі кашляеш сільна?*

– Я вот забалела гріпам. Гаворяць, эта гріп – куріный. Такі ж-жа цяжолы! Вот і ўсё. Так я толькі *мачу* піла. І таблеткі я ніякія не прымала.

**Развой рукі**

*– А як развіваецца рука ад чаго?*

– Тады баліць рука – ня можаш жаць. А тады прывязваеш к руке эту суровую нітачку ільняную. Во. Ну, тагда, як зажывець – адвяжаш ды выкінеш.

**Крывацёк**

*– А вот скажыце, сярпом жа бываіць так, што і парэжаш? І тады кроў ідзець. Вот як на полі кроў астанаўлівалі, каб не йшла?*

– Ага. Загавор нада.

*– Гэта вот хадзілі куды ілі на полі можна загаварыць?*

– Гэта нада загаварываць: “*Ехаў Мікола цэраз рэчку, рэчка стала – кроў перастала!*” Дзевяць раз загаварыць – і кроў не пойдзе.

**Зглаз, волас**

*– А вот ад чаго бывае зглаз?*

– Ну, напрымер, вот сустрэлася ты с кім. А яна, можа, падзівілася – якая ты красівая. І зглазіць!

*– А што тады будзе?*

– У мяне мужыка адна жанчына зглазіла! І што было. Падрэза́ў тут над Палуччам. Ён быў у падсочке – смалу дабываў. Шост высокі. А шла адна жэньшчына з Сітна. Тады стала і дзівіцца: “Ай, як ты рэжаш! Такі шост высокі!” Ну. А ў яго забалеў палец – бальшы ў правай руке. Во! І прыкінуўся, волас называецца. Палец стаў сіні. Ён ляжаў у бальніцах. І тады я пайшла ў бальніцу, а яму хацелі адрэзаць палец. Тады ж усё рэзалі. Вот. Я гавару:“Выхадзі з бальніцы!” А ў Трудах, там, адна жэньшчына была. Яна загаварывала волас. Раз з’ездзіў к ёй. І волас вылечыў. “На *галяшок* (вылівалі), – гаварыў, – вот цяпер я паверіў!” Галяшок быў скруцены кругом воласам. І палец цэлы быў – не нада было адразаць.

**Зап. студ. ПДУ: Н. Дулько, А. Кажаноўская, Ю. Пракоф'ева у 2005 г. ад Сенчанка Надзеі Дзмітрыеўны, 1922 г.н. у в. Вялікае Сітна Маласітнянскага с/с.**

## 20

### Развой рукі

*– А вот рука бывае разаўецца?*

– Ад венічка, во, прывяжаш. Венікі ж вязалі. Нітку гэту перавяжаш.

*– А потым куды вы нітку?*

– Нікуды. Як не станець балець – атарвець і ўсё.

### Парэз

*– А рэзалі ж сярпом – палец сабе парэжаш…*

– А як я жаць умею, дык і не парэжу… Некаторыя – так па пальцу закладзець! Абасцыш і завяжаш. І ўсё! Якая там трава? І ўсё. Лячэньне такое было. Раньшэ-то! Гэта цяпер, адрэжуць, дык у бальніцу бягуць.

### Ячмень

*– А вось, кажуць, што на вока ячмень ускочыць. Як ячмень тады вывесці?*

– Ячмень гэты, што ў глазу, што лі? Бавала прападзець – фішку дадуць!

### Грыжа

*– А, гавораць, малыя дзеці не спяць…*

– Ну можа і грыжа… Ну на грыжу – 5 капеек, было, клалі. На пупок клалі.

### Начніцы

*– А, вось, начніцы ў дзяцей бываюць.*

– Ну, начніцы, эта само сабой, купалі. Ваду нада знаць, куды выліць! На сонца (удзень) ўжо не выліваеш, а на захад.

### Волас

*– А вот валасень такая хвароба.*

– Волас вылівалі, дзетка, знаеш на што – на каласы… Жытнія каласы. І вязалі іх, і вылівалі. Я сама не знаю (колькі трэба каласкоў). У мяне дзядзіна была – яна выплівала. Як чалавек панімаець, так пад счотам у яго было. А бывала, і туды вадзіцкі. І загаваріла.

### “Май” ад упуду

– Раньшэ (на Троіцу), аір, як небальшая была. Там, дома, дык усякі (“май”) ламала. Веткі эты торкалі ў хаце. Называлі – “май”. А цяпер ня носім.

*– А вот даўней, што з этым маем дзелалі? Празнік атойдзець…*

– Стаіць доўга, дык ад спуду. Піць. Куряць, як малых.

**Зап. студ. ПДУ: Н. Дулько, А. Кажаноўская, Ю. Пракоф'ева у 2005 г. ад Сіманенка (Багданавай) Валянціны Севасцееўны, 1930 г.н. у в. Нядружная Маласітнянскага с/с.**

## 21

### Пра знахарку

*– А былі ў вас людзі, што памагалі?*

– Ой, дый сколькі! Усе паўміралі, а маладыя цяпер нічаво не знаюць: (толькі гарэлку) піць!

*– А хто быў, што вот умелі?*

– Ну вот тут была – Абалок Іріна. Яна загаварывала і з глазу, яна загаварывала і с упуду, яна загаварывала і ад зьмяі. Во! Я раз шыла на машынкі. І тады шыю на машынкі, рукой быстра кручу і думаю: “Ох! Каб нажная машынка! Яш-

чо б лушча, а рукамі правіў бы.” Ай-я-я! Мінут дзесяць прайшло после маёй думкі! Не адарву нагу ад зямлі – крычу ратунку! Узяла чапялу, а яна (Абалок) тут жыла, проці нас, этат дом стары! І к ей спаўзла! З чапялой апіраюся! Голасам галасіла, крычала!

*– А так эта што было такое?*

– Так яна мяне загаварыла. Эта з глазу! Вот набегла такая мінута, падумала сама себя! Ня то што людзі! А людзі пагатовей таго!

*– А ці можна што зрабіць, каб не зглазілі?*

– Гэта, наверна, нічога не зробіш.

*– А вот яна брала грошы? Ці, можа, людзі самі давалі?*

– Людзі самі давалі. Якія раньшэ былі грошы?! Гэта ж ужэ цяпер такія грошы сталі.

*– А што давалі?*

– Дзеньгі, дзеньгі давалі. І раньша дзеньгі давалі… і цяпер.

**Калдун**

*– Ці чулі балезнь такуу “каўтун”, “калтун”?*

– Калдун у галаве. Ён бываець с упуду, і еслі ты ў скорасьці, як спугаесься, не лечыш яго, то ён ударыць у галаву. І ўсё – і валасы скруцяцца. Галава баліць: дарак-дураком! А гэтат калдун лечыў у станцыі Навадруцк, у Западнай. Да, станцыя Навадруцк. Ён лечыў. І вот адна баба з Бальшога Сітна. Тут, яна сюды замуж зайшла. У ей быў у галаве калдун. І яна ў бальніцу, а ў бальніцы валасы сьнялі, а ей яшчэ хужэ.

*– Няможна адразаць?*

– Гэта ж таму, хто знаець (можна)! А бальніца што знаець? Што врач – зняў і ўсё. Сказаў парыкмахерам сняць. Дык яна ездзіла туды ў станцыю Навадруцк к этаму, к знахару. А ён сказаў: “Зачэм сьнімала?! А цяпер ка мне едзеш. Што ж ты тады не прыехала? Я, – гаварыць, – ня вылечу!” І ўсё на гэтым было. Нямнога ён памог, так яна і памёрла (з калдуном).

*– А як яго звалі? Можа Далман?*

– Ну і звалі Далманом. К Далмаǹу нада ехаць! (казалі) І вот настолька ён панімаў, страх!

*– Так вы сказалі, гэта ад упуду?*

– Ад упуду! Ат упуду этат калдун. Вот відзіце, які этат упуд врэдны! Як у тую ж мінуту, як спугаесься, едзь к бабкам – яны зьдзелаюць вады. Памыесься, пап’еш. Усё і праходзіць. А яно дальша – больша, дальша – больша! Перайшло у балезьнь! Ну і ўсё!

**Прыпадак**

*– А што яшчэ можа ад упуду быць?*

– Што хочаш! Можэт і прыпадак быць. (голас мужа: "Можаць і паралізаваць!")

*– І прыпадак?*

– О-о! Гэта ж і ёсьць!

*– А што гэта бывае, як прыпадак?*

– Зваліцца – пена з роту. Тады сьціскаюць яму скарэй рукі, паражымаюць. Каб яна скарэй кідала. А некаторыя дажа… Нада піхаць ложку ў рот. Язык штоб… (муж падказвае) не ўкусіў ён. А то ён, язык падымаецца і не дае дыхаць. І ў яго тады пена з роту.

*– Так пераціскаюць запясця для чаго?*

– Ну вот перацісьнуць рукі, яму эта жыльля. Так яна яму скарэй канчаецца.

*– А вот ужэ вылечыць не можна гэта?*

– Лечуць! Дак вот, (калі лечыш) у скорасьці, дак яно і праходзіць. А як ужа удаўніцца – эта ж нада скока езьдзіць, скока хадзіць, каб натрапіць на такога чалавека, каторы бы яго вылячыў. (Муж: "Я гареў, спугаўся.") Так цяпер вот дратуюцца рукі (не слухаюцца, дрыжаць).

*– А так эта ад упуду?*

– А так вы думалі ад чаго?!

**Ячмень**

*– А як ячмень сядзіць на вока? Што тады?*

– А паслухайце, гэта ж ён з ветру сядзець, этат ячмень. Тады нада адшчытаць, па-мойму, тры разы па дзевяць *ячменін*, пацерці наотмаш во так, кінуць курям, каб куры з’елі. Дзе ён сядзіць (пацерці). Ён жа нарвець – красны, аж жоўта!

*– А калі трэба высыпаць? Ну там вечарам?*

– Забалеў у вас глаз, баліць невынасіма. Адшчытай, вот, дзевяць раз па тры ячмень ілі круп. І дзе ён там сядзіць, патры наотмаш.

*– А як імі церці, можа, ў трапачку?*

– Да не! Рукой так! І курям кідаюць!

**Дзічы**

*– А гаворацць яшчэ дзічы ці барадаўкі іх называюць?*

– Ну, а дзічы ілі барадаўкі, я не знаю ад чаго яны. Некаторыя гавораць: “Глядзі на неба! Як перялятаюць зьвёзды, тры скарэй рукой новодмаш!” А так як у мяне не было, дак я не знаю… *Ніткамі* крепкамі іх перявязваюць яшчэ. Любымі, крэпкамі ніткамі.

*– А куды гэтыя ніткі, можа, куды зарыць?*

– Нікуды! Ты ж перавяжаш і ўсё! І у відзіш, як яно адваліцца. Так эта ўсё даўней было, а цяпер жа ня верацць!

**Развой рукі**

*– А як жалі, каб рука не развівалася?*

– Ад гэтага нет, каб рука не разьвівалася. Разаўецца рука, есьлі разьвілася… Раньша ж кросны ткалі. Назад калі ішлі – не ўсе ж *ніткі* папалі ў бёрда, наснавалі іх лішніх. І яны тады іх у бёрда ўкінулі, што паложана, а гэта такія во – пальцы з два.

*–А як іх называлі?*

– Ніткі. А я б вам сказала, да ня знаю. Яны шлі назад. Дак вот этымі ніткамі, каторыя ідуць назад звязваюць руку. Ілі хто галень развяжаць. Венік. І перявяжа той, хто первы у маткі. Ілі пасьледні. А ліш бы хто – нет помашчы.

*– А ніткі нікуды не выкідалі?*

– Не! Паходзіш, паходзіш – яно перастанець.

**Вогнік і залатуха**

*– А вогнік, часцей у дзяцей бывае?*

– Вогнік, так гэта тожа загаварывалі старыя людзі. Ад вогніку сабіралі… У нас завуцца этыя… Ай, як яны? Чапаюцца… *Сучкі*! Па-навучнаму, ціша…

*– Чарада, можа?*

– Во-во-во! Яны чапалісь. Тады ў гэтых сучках рабёнка купалі. Ад вогніка і ад залатухі. У рабят залатуха – уся галава болькамі! І валос нет. І ліцо і вушы. Насушуць і тады ў вадзе настоюць і купаюць. Ага, ліюць і купаюць.

*– А як пакупалі, куды вылівалі?*

– Я думаю, што старацельна туды, не ліць туды, дзе людзі ходзюць. Навотмаш, дзе людзі не ходзюць.

*– А што будзе, як потым людзі пройдуць?*

– Ну, я не знаю, што будзець. Помачы тады не будзець (гаворыць адначасова з мужам). Вот сматра як у каго які загавор. Другі загаварывае на утрашнюю зару, і на вячэрашнюю. Тады утрам як прынімаеш ваду, ліеш навотмаш, дзе сонца ўсходзіць… А тут два разы нада піць: і утрам, і вечарам. Ат любой, якую ты дзе бярэш ваду. Вутрам і вечарам. Толька не ва ўсіх яна адзінакава іспользуецца. Брала як у каго. А вечарам ужэ п’еш, мыеш – ліеш туда, куда сонца заходзіць і навотмаш. Ні с кім не разгаварывай. Ну і скоренька пабег.

*– Так эта вада, каторую п’еш, ліць? Ці якой змываешся?*

– Ты ж пап’еш, тады як ўліеш у місачку, во гэтай вады, там усё змываесься…

*– А змывацца наводмаш трэба?*

– Навотмаш. Макай і навотмаш, макай і навотмаш… і тады лій на вячэрняя зару, а утрам на утряную.

**Рожа і знахарства**

*– А вот рожа яшчэ, гаворaць, ёсць?*

– У мяне у ліцы яна была трыжды разы! З глазу! І вот. Распохніць шчака – красная! Пякець і рвець, страх! І хадзіла к бабке. Бабкі памагалі. Тыя, каторыя чорныя. А есьлі жэньшчыне, то нада старацельней за ўсё к чорнаму мужуку, каб ты шла загаварывала.

*– Чорныя валасы…?*

– Да! Чорныя валасы і глазы – чорныя! І сам чорны. Чорны. А есьлі мужчыну, жалацельна чорная баба. Ну, як напрэць, то ліш бы хто памог! І вот тут у Званым, два кілометры, жыла баба, як я зайшла (замуж). Я хадзіла… Я к ей схажу – зразу. Толькі раз загаворыць – усё! Сьніміць.

*– А рожу проста загаварывала на месяца ці на ваду?*

– На месьце! На месьце! Ваду яна не давала. Там, дзе баліць там і загаварывала. А есьлі вот сьветлая жэньшчына, ніяк не можа узяць! І раз, і другі, і трэці раз прыдзеш! Уродзе памагаець, а ня возьмець. Абязацельна нада чорная. А чорная сразу зьнімець!

*– Толькі рожу чорныя мацнейшыя?*

– Рожу, рожу! У мяне вот тры разы была рожа. Ну, яна болей за ўсё на ліцэ!

*– А што як не лячыць рожу?*

– Будзеш лячыць, як будзець балець! Ай! Пойдзеш лячыць! Каб хто ні надумаў – сказаў. Пабег!

**Залатнік, энурэз**

*– А, можа, залатнік, чулі такое?*

– Ну, залатнік, ён у чалавека ёсьць. У любога! Ад цяжкога работы, ад пад’ёма. Залатнік расходзіцца. Тожа баліць, тады пад грудзямі.

*– А, прымерна, у чалавека, дзе ён знаходзіцца? Гэта ж, можа, у чалавека нейкі орган.*

– Ён у чалавека і нахадзіцца тут (паказвае на жывот)… у пупе. На месце дык на месце ён там. Як усё роўна серца: тук-тук-тук! Тоўхае. А як толькі сарваўся – па ўсіх ужо месцах! І па грудзях, і ў нізу, і ў баку. Ай, не дай Бог! Загаворваюць, сьціраюць... Сьціраюць людзі, каторыя панімаюць. Загаварывалі.

*– А во, гаварылі, было, што вот сцыцца ноччу, вот, у краваць. Вось ужо і вырас, а усё не можа хадзіць нармальна.*

– А гэта балезьнь, яе ніхто не ізьлечыць.

*– Ніхто? І бабкі дажа? Гэта ж можа і ад упуду быць, напэўна?*

– Ну і бываець так, што рабёнак спугаецца, абасцыцца. Вады с упуду возьмеш і ўсё. А есьлі ўсё ўрэмя сцыцца! – нічаво!

**Зап. У. Лобач, У. Філіпенка у 2005 г. ад Паўлавых: Ганны Нікіфараўны, 1927 г.н. і Сяргея Парфёнавіча, 1927 г.н. у в. Арлея Трудаўскага с/с.**

**22**

**Перасцярогі цяжарнай**

*– А вот гаворацъ, што маленькіх дзяцей лёгка сурочыць, зглазіць?*

– Мне сьвякроўка… булавачку ў кофту ўшпіліць. Ці іголку пад борт можна.

*– А не вучылі вас старыя, што нельга бярэменным рабіць?*

– Катоў нагамі біць. Кажуць шэрсьць па целу бальшая будзе (у малога)… Эта ў меня чацьверты рабёнак, трейці быў рябёнак. Я не радзіўшы. А пямёр ягоны брат. Чатырнаццаць лет. Дак мяне дужа не падпускалі к яму. Гаворят: “Не сматрі ты на яго! А то рябёнак будзе жоўты, як этат рябёнак.” Казалі, што мне нельзя, эта, ісьці харaніць за мерцьвяком. А другая ўжэ й гаворіць: “Чаго ня можна? Можна! Толькі нада ёй надзець што-нібудзь краснае.” Краснае што-нібудзь. Ілі кофтачку. Ілі платок завязаць.

**Волас**

*– А вот, можа, чулі такую хваробу – валаснік?*

– Да, чула. Волас называецца. О, ён урэдны… Нада выліваць яго на *колас* ад жыта. Каласы ад жыта. Нарваць каласоў поўных… Мая цётка так рабіла. Яна вылівала. Кіпяток бярець. У печку ставіць. У гарячую ваду кідаець каласкі туда. Зьвяжаць пучком нескалька каласкоў. І тада вада эта трошкі астываець і ліець на гэтыя каласкі. І рука эта ў каласках. І нешта прыгаворваець, а што не знаю. І тады каласкі разварачываеш, а там ніткі такія, ніткі такія. Ну, валасы гэтыя. Ну, разварачываеш колас, а яны выцягваюцца.

*– А што можа быць, як не будзеш лячыць? Што ад воласа бывае?*

– Волас эты паесьць і косьці, усё паесьць. Скруціць страшна, як рак.

*– А дзе ён часцей бываець?*

– Дзе сядзіць, там і будзіць: і на нагах, і на пальцах, на руках.

**“Свая балезнь”**

*– А во ці чулі такую хваробу – “прыпадак”?*

– У нас называецца гэта “свая балезьнь”. Ну, чалавека б’ець… Яно бываець ад іспуду бываець, а бываець і ад нараджэньня.

*– А ці во можа перадавацца гэтая балезнь дзецям? Ці былі дзеці у гэтага во Васіля (сусед, які хварэў на "сваю балезнь")?*

– Не, у яго і дзяцей не было.

*– А ад нараджэння ад чаго бывае? Вы казалі, што можа ад іспуду, а можа ад нараджэння. А во ад чаго бывае ад нараджэння?*

– Эта прірода, гаворяць. Есьлі ў прырадзе, гаворяць, ёсьць, можаць быць і па прыраду.

*– Па прыраду, гэта можаць быць ад бацькоў?*

– Да! Перядачная. Перядачная гаворяць. Можаць і так быць.

**Залатнік**

*– Залатнік, чулі такое, ці падрыў?*

– А гэта мая сьвякроў загаварвала. Гэта на жываце, када работаеш цяжола. Тада гаворыць саб'ець с места – баліць дзе-та ў пупе ці кала пупа.

*– А куды ён можа дзецца?*

– Можыць абніжыцца… Як у жэньшчыны дак гэта, гавораць, залатнік бываець называюць "матка".

*– А ваша свякроў яго на месца ставіла?*

– Вот бярець мыла, бярець цёплую ваду. Мыла, памыіць і ўсё рукой гладзіла, гладзіла і шаптала нешта, шаптала, змываць не давала. Рабіла ў хаце на койке. Када топіш, тады яна ідзець у баню...

**Рожа**

– Аднажды, я маладая была. Мне сеў на пераносься прышчык. Тады ўсё большэ і большэ опухаль пайшла пад глазамі, лоб разнясло. Матка кажа: "Схадзі да Арынкі! У цябе ці не рожа?" На другі дзень я пайшла к ей. Глянула на мяне, плюнула нескалька раз і забарматала нешта. Тады па ліцу дзьмухае мне і мне лучша стала. Яна кажа: "Прыдзі ка мне, як сонца будзе закатывацца, яшчэ." Втары раз прыйшла, легла, кажу: "Знаеш, мне так лёгка стала, я спаць хачу". Яна кажа: "Ну, сьпі!" Я легла, заснула і спала крэпка. Трэці раз назаўтра да яе прыйшла. Дамоў тады прыйшла – як нічога не было. Гэта ў мяне ветраная рожа была.

*– А якая яшчэ рожа бывае?*

– Красная бывае. Калі можа абпаліш кожу. Яшчэ… не знаю.

**Зап. У. Лобач, У. Філіпенка у 2005 г. ад Абалок Ефрасінні Аляксееўны, 1926 г.н. у в. Арлея Трудаўскага с/с.**

**23**

**Святая крыніца**

– А там ключ, ключ ад Госпада Бога з-пад сонца ідзе, яна лячэбная вада, бяруць як лякарства тую ваду, п'юць.

*– А ад чаго бяруць, ад чаго памагаіць?*

– Ад упуду памагаіць, і ад всякай хваробы памагаіць, людзі бяруць і пьюць.

*– А можа хадзілі на якія празднікі болей. Можа свяцілі калі ваду?*

– Яна тая вада ад Бога сьвянчоная.

*– Ужо і свяціць не трэба, да?*

– Да. У любы дзень можна браць.

*– А ад якіх балезняў болей яна памагаець?*

– Ну Бог іх знаіць, ад якіх балезьняў яна памагаіць, да ад усякіх балезьняў, ад упудаў памагала, і есьлі ў цябе ўнутры, што баліць і тожэ памагала, і ўсё ўрэмя. Чыстая (вада), не затыхаеца нічаво, ключ такі, ключ.

*– А вот сказалі вадзічка ад урокаў памагала. А ўрокі што такое?*

– Іспуг.

*– Урокі і іспуг гэта тое самае?*

– Да адно і тое ж, урокі калі спужаўся па-вашаму – "урокі", а па-нашаму – "спужаўся". Ваду давалі, загаворвалі ваду хто ўмеў.

*– А цяпер няма такіх людзей?*

– Нет такіх людзей, яны атмерлі тыя людзі, толькі во Савучкіна Вера.

*– Вы кажаце, што хадзілі браць ваду, а насілі, што клалі там, манеты кідалі ў яе ці ежу можа клалі?*

– Ніхто нічога не кідаў, проста бралі ваду.

*– Скажыце, ці трэба якія словы казаць, калі бярэш ваду, ці падумаць пра сябе, ці сказаць, з якімі вы мыслямі бралі?*

– Ну, ішлі ўсе з добрымі мысьлямі ў той ручэй. З харошымі мысьлямі, з верай ў Бога.

*– Вы казалі, што былі людзі, што памагалі ад уроцы?*

– Яны і сейчас такія ёсьць, яны загаворы знаюць. Не кажны.

*– А адкуль у іх сіла такая, ёсць што могуць, а ёсць простыя людзі, адкуль яны сілы бяруць?*

– Адкуль яны сілы бяруць..? Унічтажаюць адна адну, у нас тут тожа дзве такія жэньшчыны завяліся. Яна перавяршыла адна другую.

*– Перавяршыла?*

– Да. Яна сільнее была, і яна памерла, ногі адняла і два гады не пабыла. Яны па саседскі завялісь. Яна езьдзіла, іскала сільнейшых і не нашла, а тая нашла і во… унічтожыла.

*– А даўней более жэншчыны займаліся гэтым ці і мужыкі, што умелі?*

– Дзе тыя мужыкі будуць займаца, і раньшэ такія мужчыны былі і цяпер, мужык ёсьць мужык.

*– Вот вы казалі "крыніца ад Госпада Бога з-пад сонца ідзе". Як гэта з-пад сонца?*

– З усхода сонца цячэ вада – гэта самая харошая вада.

**Пра хваробы**

*– А можа Вы ведаеце якія загавары?*

– Не, не ведаю....Я вам чэсна скажу, я магу толькі вылечыць чалавека, есьлі ён падарваўся крэпка і ўсё.

*– А як, раскажыце?*

– Не, я не буду вам нічога расказываць. Я словы знаю і падатру чалавека, і ад сваёй рукі, адзін раз, і чалавек пайшоў.

*– А падрыў ад чаго бывае?*

– Падымаць цяжка нельзя, падняў цяжка і чалавек падарваў арганізм.

*– А што змяняецца ў арганізме?*

– Ну арганізм жа вастанаўліваецца, жалудак ідзець на ніз, есьць не будзеш нісколька, сохнуць будзеш.

*– Можа хоць раскажыце, дзе вы лечыце, можа ў бане?*

– І ў бане, і ў хаце падціраю. Да, у бане канешна распарыцца твае цела, мякенькае усё.

*– Там лепей памагае, да?*

– Да.

*– А, гавораць, была такая хвароба, як валасень ці валаснік?*

– Да, валасьнік, да у мяне на пальцы было валасьнік.

*– А ад чаго яно бярэцца?*

– А хто яе знаіць, так вылівалі ваду, грэлі і там яна ўжо знала бабка, і валасы гэтыя зхадзілі з пальца. Яна той яшчэ траўкі клала на палец і тады жмуток ад валасоў на тую траўку з пальца валосікі выхадзілі.

*– А тыя валосікі яны доўгія ці кароткія?*

– Не, яны не дужа доўгія.

*– А якога цвету?*

– А хто іх знаіць, но не чорнага.

*– А вы не чулі, што ў вадзе водзіцца волас такой?*

– У азерах ёсьць, плаваець.

*– А як на вока ячмень сядзе, на вока такая болька?*

– Даюць кукіш.

*– А во калі зубы разбалеліся, што рабілі, можа калі што?*

– Цяпер зубы рвуць, раньшэ не рвалі, у тое старое врэмя зубы і не балелі так.

*– А што, калі дзіцё малое не спіць ноччу, плача?*

– К бабкам насілі. Грыжа была ў пупу. Медзь клалі, не савецкую, а тую, даўнюю медзь клалі.

*– А яшчэ што магло быць, калі дзеткі плакалі ноччу, як называлі можа крыксы, начніцы?*

– Тады як крыксы на месяц бабкі выносілі, загаварвалі ноччу, на поўны месяц.

*– Ці чулі вы пра такую хваробу калтун, ці калдун называецца?*

– Калдун. Во (сястра) яшчэ была ў калысцы – калдун ў валасах быў, валасы былі густыя. Нельга зразаць, ёй так сказалі. Што тады яна доўга жыць не будзе. Так калдун у яе быў.

*– А ён сам сабой бываець ці хто падробіць?*

– Падробіць канешне, яна абіжалась. Яна хадзіла ўсе па бабкам. І вылечылі, троху да падала.

*– А калі калдун, можа, баліць што?*

– Канешне, галава баліць, састаяніе плахое.

*– Ці былі такія людзі, што кароўкам падраблялі?*

– Да, былі, іх і цяпер да чорта, да кароў ужо нет, некаму робіць. І ў мяне было, кароўка ў поле пайдзець, прыйдзець, ёй трава не нада, лажыцца і ляжыць, і да таго дахадзіла, што яе ўжо цянулі.Тады мой хазяін найшоў такую бабку, ваду браў. Тут, у Трудах, а тая бабка знала тую, што зьдзелала маёй карове, а яны завяліся і тая кажыць, я цябе не баюся, я гэтаму чалавеку памагу, а ты гаворыць, памагі, ты здзелала гэта. І яна, праўда, вады вернай давала і памагло, ну малако не такое было, але карову на ногі падняла.Так яна сказала, то ты зрабіла, а адрабіць не можаш? Да, кажа, я цябе не баюся. Лявоніха кажа.

*– Гэта тая, што адрабіла, Лявоніха?*

– Да, памагла Лявоніха. А гэта Галубіха (што падрабіла).

*– А як тая Лявоніха знала, хто гэта зрабіў?*

– Яны цераз адзін дом жылі, яны знали адна адну.І яна прам і кажа, што ты ў людзей кароўку адняла, а я ім памагу.

*– А можа такія случаі бывалі, што не толькі кароўкам,а і людзям рабілі?*

– Так да у нас жа тожа памерлі. А што завяліся адна да адной, гэта сільнее і пасадзіла, і ногі аднялісь ў яе, і ўсё. А ў яе было два мужыкі і не б'юца. Два мужыкі адну жонку возяць і не б'юцца. Скажыць яна, ён павез – первы мужык, а втары дома работнік. І дочак так замуж аддаець: чайку пап'юць ў яе ў гасьцях, і ён зяць астаецца, толькі б каб нравіўся ёй ён. У нас у Трудах ёсьць такія, з імі дзялоў ніхто не водзіць. Так во і жывуць. Гэта грахаводнікі, яны свае возьмуць, калі будуць умераць, еслі чалавеку зрабілі плоха, то Бог накажыць. Вот мы калі ішлі з поля ці з лесу, вот будуць людзі паміраць, вады ў яе ніхто не папросіць, што б папіць, пака дамой дайсці, нікагда ніхто не папросіць.

*– А што можа быць, як яны будуць паміраць, што з гэтымі людзьмі будзе?*

– Яна будзець землю гладаць, Бог ёй аддасьць ўсё, гэта такі чалавек бярэць на сябе грэх увесь. Во Галубіха была, яна так мучылася, так памерці не магла, паталок разьбіралі, тады памерла. Гэта яна кароўке падрабляла, гэта цераз адну хату жылі.

*– А ў Трудах былі сільныя чараўнікі?*

– Былі. І сільныя былі. Хто сільны - пабеждаіць, а слабы паміраіць.

*– А сільныя, што маглі зрабіць з табой такое?*

– Што хочаш, еслі знаў толкам, то ён зьдзелаець, што б ты поўзаў ракам – ніякія ўрачы не паможуць.

**Зап. У. Лобач, У. Філіпенка у 2005 г. ад Жамянёнак Надзеі Трафімаўны, 1926 г.н. у в. Труды.**

## 24
## Упуд

*– А як выбіраць упуд?*

– Ну я і ваду даю, і ніткі такія нада суровыя, каторыя пралі даўней. У мяне цэлая матушка лёну гэтага. Нітак кужэльных. Вымераеш, вымераеш дзіцёначка *ніткай*. Выбіраю упуд з нагцей – і так нітачку дзелаю. Тады – з касьцей, тады во тутака, нітачку завяжаш. Тады – з буйнай галавы. Во так ужо кругом галавы абвяжаш. Зноў гэты узялок завяжаш. Тады – з белага целца. Так абвядзеш. Тожа завяжаш гэтую нітачку. Ну тады гэтую нітачку скруціш і яго. Яшчэ ёсьць такі *упуднік*. Цяпер у мяне ўжо нетуці, быў у нас усюль, рос. Упуднічак калючанькі такі, такі касмаценькі. Тады во так паставіш яго, дзіцёначка і нітачку гэту і тады пакурыш, запаліш. Дымок штоб… І нітачку спаліш, з усім. С упуднічкам, і нітачку. Яго во так паставіш, каб дымам ахваціла.

*– А яшчэ раскажыце той прыгавор: "Выбіраю упуд…"*

– Што ты будзеш запісываць (смяецца)? *"Выбіраю упуд с усіх на нагцей, с усіх касьцей, з буйнай галавы, з белай крыві, з белага телца, с харошага сэрца".*

*– С харошага сэрца, да? А як с харошага сэрца гаворыш, узелок завязываеш?*

– Завязаваеш! На кажнам, на кажнам (суставе).

## Сурокі

– А як сурочаць… Тады, тады ваду я толькі даю. А гэту вадзічку трэба тры раза папіць, а тады змыць во так – на руку, наводмаш, во так во змываць і на заход сонца выліваць тады астальную вадзічку.

*– А тры разы папіць, гэта нашча?*

– Не, хоць калі! Тры разы глынуць нада. А гэта прыгаварваецца: *"Вадзіца-жывіца, усяму свету памачніца…"* Ай, я ўжо зблыталася! Ай! Ну я ўжо забылася! *"Вадзіца-жывіца, усяму свету памачніца, нябесная царыца моець рэкі і крутыя берага, белыя калені. Есьлі ад мужчыны, есьлі ад жанчыны атхадзі хвароба проч. Госпадзь Божачка памажы, Госпадзь Божачка памажы"*.

## Рожа, звіх, дзічы, ячмень, вогнік

*– А можа вы ад рожы знаеце?*

– Не, ад рожы не знаю. У мяне сястра ў Полацку учыла. Яна мне і казала: "Калі хочаш, я цябе ад рожы..." Ай нешта я не залюбіла тую рожу. Не ўзялася вучыцца.

*– Ну, а калі звіх, што робяць?*

– Ад зьвіху, як калі хто зьвіхнець. Цяпер жа ўжо не, а як малыя рабяты былі, дак я вазьму, што *венік* у бані мыесься і во зьвязываеш ніткамі гэты… наводмаш. Усе відзелі як венік зьвязваюць? І тады ад гэты венік *нітку* адвяжу, прывяжу. Кажуць, і гэта памагае!

*– А потым з гэтай ніткай, як прайшло ўжо, куды тую нітку дзяваць?*

– Выкіні так вон, хоць куды!

*– А як во дзічы на пальцах?*

– А дзічы, я тожа выбірала сваім рабятам. Вазьму гэтай ніткай абвяжу, ета, узялок завяжу, дзе дзіч. І тады скручу і вот пад парогам палажу, каб ён згніў. Нітка тая згніла. І тады ён сходзіць. І сходзяць тыя дзічы.

*– А як ячмень, болька такая на воку?*

– Ну, як даўней як на воку ячмень гэты, тады хвігі торкаюць… Ну вот у цябе ячмень, а я табе – во, во, во (паказвае дулі). Фігу. Тады, кажуць, ячмень сходзіць. Гэта ж перш-наперш. Ячмень, тады хвігі торкаюць.

*– А вогнік? Такая вот хвароба.*

– Ёсь! Гэта, мусіць, болька нейкая зайдзецца, і тады рассыпаецца, калі многа.

*– Так гаворацць, ад агню можа раскінуцца?*

– Ну. Кажуць, ён тады раскідваецца, вогнік, кажуць, прыкінуўся. Болечка, а тады каля яе, ці можа агонь, каля агня пабудзеш, тады прышчычкі каля гэтай болечкі рассыпаюцца. Кажуць, вогнік прыкінуўся.

*– А многа бабак было, што дапамагалі?*

– Ну ў нас не было, а даўней жа былі, былі даўно. Я помню і за Бабынічамі ў Кублічах быў такі, што даваў ваду. І ў Варонавічах там быў. Быў Васіль нейкі, што дужа чара…, што дужа даваў, памагаў, атрабляў ужо каму. Ну я іх ня помню, я да іх не хадзіла.

**Зап. У. Лобач, У. Філіпенка у 2006 г. ад Церах Ксеніі Іванаўны, 1925 г.н. у в. Саланевічы Бабыніцкага с/с.**

## 25
## Дактары і знахаркі

**а)** – А гэта лякарства, што яны!?

*– Дактары не памагаюць лякарствамі?*

– Не-а!

*– А даўней лепей лячылі, да?*

– Канешна лепей! Дактары лячылі і бабкі лячылі.

*– А ці многа такіх бабак было?*

– Ай, што іх сашчытаеш!? Гэта ж не ў адной дзярэўне, што іх сашчытаеш.

*– А ў Быстрыцы, ці многа было такіх?*

– Я не знаю. Мы нядаўна толькі прыехалі. Мы ў Ліцьвінах жылі.

*– У Ліцьвінах. А так ці ў вас былі такія ў Ліцьвінах?*

– Былі!

*– А там былі такія бабкі, што яны ўсякія балезні лячылі ці можа былі такія, што адна – рожу, другая – валаснік?*

– Усякія! Усякія былі.

### Валаснік, рожа

*– А, во, напрыклад, хвароба такая “валаснік”, што за такая?*

– Вот такі у целе – у руцэ ці ў назе – валасоў налезець поўна. І тады гэткая боль, што невынасіма. Ну вот, тады – выліваюць. На каласкі, на жыта.

*– А адкуль гэтыя валаскі беруцца?*

– А хто іх ведаець, адкуль яны беруцца! Вылязаюць жа ўсе наверх сюда с цела.

*– З цела такія валасы?*

– Да! І тады папраўляецца.

*– А, кажуць жа, яшчэ волас ў вадзе такі і што ён запаўзае ў цела і жыве.*

– Ага!

*– А рожа?*

– Рожа – такімі краснымі буграмі. Ну, загаварывалі.

*– А што можа быць ад уроцы?*

– Ну, ваду давалі.

*– А што можа быць з чалавекам, як вось сурочылі яго?*

– Ну, усячына. Можыць так злегчы, што і ўсё. І памерці (можа).

*– А ў вас ў Быстрыцы няма такіх бабак, каб вадзічку давалі?*

**б)** – Няма нікога. У Баярова ходзюць людзі. Там такая Люба Аляксандраўна. Прашковіч фамілія яе. І к ей ходзюць. Вот, ад многа чаго дапамагае. І ад упуду, і рожу загаварываець. Ну многа чаго.

### Упуд

*– А упуд што за хвароба, ад чаго яна?*

– Ну, очэнь страшная хвароба. Вот чалавек спугаецца, ну мала чаго, ці сабакі там, каго-небудзь так зьнянацку. І што вы! Ад гэтай хваробы дажа мруць людзі! Есьлі не лячыцца.

*– А што адразу зрабіць, як во дзіцёнак спужаецца ці сам спужаеўся?*

– Вот як дзіцёнак спужаецца, як што – вот куруць гэтага дзіцёнка, есьлі ён малы. Раньша такія лекарства былі: двенаццаць трапачак нада. Ну, розных. Панімаеце, мацерыялу. Вот трапачкі такія, ну, абрэзкі. Есьлі хто шыець вот. Двенаццаць, штобы яны былі розныя. Не аднаго мацерыяла. Цьвета, не аднаго мацерыя-

ла. Ну вот і тады запалюць на скавародцы, на тарэлцы і тады… Ставяць (малога), і вот гэтым дымком проста акурваюць. Ну і памагала ж неяк. Ці добра, ці не, але ж неяк робілі так старыя людзі.

*– А можа яшчэ якія траўкі падкурвалі раней?*

– Былі! Ёсь і траўкі такія. Але ў нас тут я такія і ня віжу. Такія вот як *дзяды* калючыя такія. Вот гэткія траўкі тожа.

*– А так там што, самі гэтыя калючкі?*

– Самыя калючкі. Калючкі гэтыя, ага. (Здалёк гаворыць мужчына, відавочна, муж інфарматара: "*Мохам з ракі*. Мох, што ў рацэ, кажуць, на камяні расьце.") І тады, вот, яшчэ *гнёзды*, дзе варобушкі эты, дзе жывут. Вараб'і. Вот снімалі і тожа этым курылі. Дапамагала ад упуду.

**Сурокі**

*– А як сурочаць, што рабілі?*

– Тожа хадзілі к бабкам. Хадзілі к бабкам. Тут ужо нічога не зробіш сам. Такога не было. Ну, дзе, можа ў якой дзярэўне і было дзе. Я не чула так каб.

*– А ці былі такія людзі, што вельмі сурочлівыя былі. Як ні глянуць, так што-небудзь.*

– Былі! У нас у дзярэўне былі. Вот тут жэньшчына, но яна тут паехала к этай самай... к дочке в Адэсу. Другі дзень няма, ці трэці. Тожа. Вот дзеткі маленькія іграюцца – абы яна што глянула, сказала: "Мае вы рабяткі" ці што. Рабяткі – ў пакатуху. Дажа мой унук. Тожа во, два было ўнукі. Такія чэраз два гады, пашці роўныя.

*– Так а што з імі зробілася?*

– І што з імі зробілася. І вот ігралі тут вот кала дарогі, тут кала дзерава гэтага, а яна ішла в магазін і гаворыць: "Ай-ай-ай! Якія вы мальчыкі харошыя!" Ім можа было… аднаму можа было гадоў 5, другому гады 2. Вот яны ў пясок гэтат іграюцца. Такія мальчыкі харошыя! І не паспела яна ў магазін зайсьці як гэтат мальчык зьдзелаўся проста як нежывы. Панімаеце? Як нежывы. Ага! А Госпадзі! А што ж тут робіць з гэтым рабёнкам?! Ну тутака тады была жэньшчына, но яна памёрла. Няма яе, тожа ваду давала. Я тут к гэтай жэньшчыне: "Гуляў рабёнак, здаровенькі". І ўсё гэтай жэньшчыне (гавару). Дала вады яна. Ну пашаптала яго трошкі, памыла. Ну, с часік так ён паляжаў. І абратна пайшоў гуляць.

*– А так у яе гэта само сабой так выхадзіла?*

– Само сабой так выхадзіла. Яна нічога не імела ў віду, што гэта тамака плахога там зробіць. Выхадзіла так само сабой.

*– Даўней казалі, што калі адымаюць ад грудзі ў мацеры адзін раз, а потым робяцца сурочлівымі*

– Ну, чула я так, чула! А знаць не знаю точна. Да! Да!

*– А яшчэ гавораць маладзіковыя дзеці, што на маладзік народзяцца. Не чулі такога?*

– Не, не чула такога. Што ад грудзей атнімалі, гэта чула, гаварылі ў нас тожа старухі такія. Яны самі не знаюць, не вінаватыя – абы калі што сказалі, так врадзіла. А другі раз так та жа самая жэньшчына ішла, і тожа што яна там з імі загаварыла, я не знаю, што загаварыла з дзецьмі этымі. І адзін, і што такое, і як, і нічога, а другі – усё! Ну, ну, і гэта самое, не верыць цяпер маладзёж, вы ж знаеце: "Ай, што там вада памагаець?! Што там памагаець?!" Схвацілі тутака на з

ФАПа пазванілі на скорую, забралі і завязлі аж у Наваполацак. А этат рабёнак робіцца проста як нежывы. Такі вот, і сударгі ў яго – як нежывы. Тамака калолі яго, там усё. Нічога! Я пабагла – вады (узяла). І занесьлі гэтаму рабёнку туды ўжо ў бальніцу. Нямножка – час-два і стаў ужо прыхадзіць, прыхадзіць у сябе. Прывезьлі дамоў.

*– А ўрачы ж такога не лечаць?*

– А ўрачы – не лечуць. Ну яны калолі, яны там зналі сваё. А яно нічога не памагала.

**Прыпадак**

*– А раней яшчэ была такая страшная хвароба – падучая. Можа і цяпер ёсць такая? Эпілепсія там, прыпадак. Яна ад чаго бывае?*

– Хто гаворыць, як вот су пуду – чалавек спужаецца, ці там рабёнак, ці там бальшы не лечуць яго.

*– Удаўніцца.*

– Да, удаўніцца. Гэтак гаваруць. А хто гаворыць – ураждзённае, а ад чаго можаць быць ураждзённае? Не знаю гэтага.

*– А што хужэй, ураждзённае ці калі там с упуду?*

– Ну, с упуду, так бабкі яшчэ вылечваюць. Калі с упуду, эта вот, а ўраждзённую ужо не вылечыш. Во так.

*– Гэта толькі бабкі вылечвалі?*

– Такога не чула. Вот вы знаеце, ужо век пражыла – ужо скора семсят гадоў будзець – і я не відзела вот эту балезьнь, не відзела! У нас тут нікога не было.

*– Ну і слава Богу!*

– І слава Богу! Ага! Ня відзела саўсём, што яна прадстаўляець.

*– Каб і не відзець!*

– Каб і не відзець!

*– А не казалі пра такую хваробу “калтун” ці ”калдун”?*

– (задумалася) Чула я што-та, чула я гэта. Скручваюцца гэта валасы. А што робіцца ад гэтага, то я не знаю.

*– Можа таксама бабкі лячылі, да?*

– Можа. Не знаю. Эта ў нас тожа не было ў дзярэўні. Ні тут, ні там. Не знаю.

**Дзічы**

*– А калі дзічы рукі спануюць? Што рабілі? Бародаўкі такія.*

– Ну, вот трава ёсь такая. Травой гэтай мазалі. *Чыстацел* такі завецца. Так яе адламаеш, а ён, як ёд. Жоўценькі. Вот эта мазалі. Ну што болей? Вот як уксус паявіўся, *эсенцыя* эта. А раньша ж не было. Ну, а тады тожа мазалі. І (ажыўляецца) бабкі загаварывалі! Вот эта я тожа знаю.

*– А як яны на места загаварывалі?*

– *Нітка*. Нада была з лёну іменна. Суровая. Не магазінная. Вот што-та яны вязалі вузлы такія. Вязалі, вязалі, вязалі, а што яны там казалі, не знаю.

*– А потым куды гэтую нітку?*

– А гэтую нітку закапывалі потым пад сьцёк. Вот ідзець дождж і цякець с крышы. І вот туды, дзе гэтая вада цячэць і закапывалі. І, гавораць, пад ногі закапывалі, вот, перахадзіць у парог. На дварэ. Ну і што б перахадзіць чэраз гэта вот. Тожа гавораць прападалі. Хто як.

*– А вось як падрыў случыцца, што тады?*

– Ну, падрыў, тожа траўка такая ёсь. Гаварылі, заварываюць яе. Ну і бабкі лечуць.

*– А ад чаго падрыў бывае?*

– Што-нібудзь цяжолае падымеш, такое чэраз сілу. Што робіцца ў целе? Проста жалудак баліць пад самымі пад грудзямі. Так баліць жалудак, што нічым не можаш яго астанавіць. Усё ўрэмя вот так вот плоха дзелаецца, як бы вот плоха і боль.

*– І што там нешта зрушваецца з месца?*

– Да, да! Да, да! С этава вот цяжолага. Загаварывалі. Да, да.

*– А там нейкія гаршкі ў бані не ставілі?*

– Ставілі, но тожа я не знаю этага. Гэтага я не знаю. А падрыў я сама ўмею загаварываць. Ну так, блізкім толькі.

*– А гавораць, што блізкім не вельмі памагае. Ці памагае?*

– Не. Ну, не родсцьвеньнікам я імею ў віду. Ну такім во – саседзям. Такім. Не прыхадзілась мне родсцьвеньнікам.

*– А не чулі, што казалі, што там родственнікам…*

– Чула, чула, чула! Старэйшым ці маладзейшым вабшчэ нельзя перадаваць такія загаворы. Эта тожа бабкі… гаварылі так.

*– Не будзе памагаць?*

– Ага. Ну, гавораць, нельзя маладым. Ну дак во ня буду гаварыць.

**Пра саланевіцкую знахарку**

*– Во, мы ўчора ў Саланевічах былі. У Саланевічах добрая бабка. Лечыць ад усяго. Толькі апендзіцыты і пераломы, гаворыць, не магу.*

– Ай, вы знаеце, яна тожа троху прыўвялічвае. Я з гэтай бабкай хадзіла на танцы разам. Яна была з Вухвішча сама. Ніхто ніколі нічога не гаварыў, што там яна некага лечыць ці там што. А тады яна вышла ў Саланевічы замуж і вот у яе сьвякроўка была, якая-та была ў яе кніжка там, у этай сьвякроўкі. І яна там лечыла людзей. Тожа падрывы гэтыя, рожы гэтыя, валасьнік вот, балезнь такая. Многа чаго. Ну, а тады тая сьвякроўка гэная памёрла. Вот эта кніжка ў яе асталася. Цэлая кніжка ёсь. І вот яна тыды ўжо, вот хто-нібудзь прыдзець, дапусьцім, я прыду іс чым-та, што-та у мяне там баліць ілі што. І яна там ужо вычытываець па той кніжцы балезьнь эту такую. Ну, на падобіе, можа там і не такую. І там яна каму памагаець, каму не памагаець. Я адзін раз была ў яе. У мяне ў Рабчонках свацьця ёсьць. І ў гэтай свацьці проста здурнеў конь! Нікога не падпускаў, кусаўся! Вот, проста як здурнеў і ўсё. Ну і вот пасаветавалі ей з’езьдзіць к этай бабцы: ну ад усяго ужо ведае, ад усяго!. Ага, а яна не знала, дзе яна жывець. Ну а я знала. Я пачці с тых мест. Там кілометраў 5, недалёка была. І вот паехалі мы з ей к этай бабцы. Ну яна там машыну ў Рабчонках, і паехалі мы к этай бабцы. Вот. Ну і яна, эта самае, ей гаворыць, што эта, ай!, што гэта хто-та што-та зробіў тамака. Яна гаварыла гэтаму каню: “А як прыедзеш – папырскай гэтаму каню і ён будзець і добры этат конь.” Ну, рада гэта ўжо сваццня мая. Паехала дамоў. Ну, хаць каб здалі гэтага каня тамака. Давай пырскаць, давай лечыць, як яна ўжо казала. А той конь узяў назаўтра і здох! (смяецца) Вот яна і памагаець!

*– Ад чаго яна яшчэ лячыла?*

– Яна да усяго лечыць! Ад усяго! Толькі скажы, што баліць. Ад усяго лечыць! А ці яно памагаіць?! Ай!

*– А ці былі случаі, што памагала?*

– Ну-у, вот рожу гэтую гэта бабка езьдзіла, саседка наша – у яе нага балела. Ну, памагла неяк! Ці ад таго ўжо, ці не ад таго, але к урачам яна не абрашчалася. Вылечыла, вылечыла во гэта.

**Свянчоная вада**

*– Ну а такая вадзічка будзе памагаць, свянцоная вада?*

– Ну, тожа не знаю. Хто яе знаець! Тожа не знаю. Вадзічку мне прыносюць, прывозюць із горада. Ну, але я дужа такой… пасьвянчу хату бывае. А што ці дапамагае яна, ці не дапамагае – не знаю.

*– А як вы думаеце, ад чаго вада памагае? Што во такое ў вадзе ёсць, што яна памагае. Не загаворваюць жа пясок?*

– Ну я не знаю, што там памагае. Гаворуць, што гэту ваду бацюшка, дапусьцім, што гэта ў цэркві, хрэст ложыць гэтый… не залаты, а сярэбраны. Вот і гэта памагаець. Вот іменна гэтат хрэст памагаець!

*– Так, а бабка ж не кладзе ніякіх хрэстоў?*

– Не кладзе.

*– А так чаму вось памагае?*

– Не знаю. Можа, ўраждзённае што.

**Парэз**

*– А во як руку парэжаш і кроў хлешча, як суняць кроў? Можа раней што рабілі?*

– Як я ужо стала, помню вот, эта самае, – *крываўнік*. Трава такая. Тысячалісьнікам завецца. Тожа націралі яго і тады кроў становіцца. І загаварывалі.

*– Дак гэта ж у полі. Там жа ніякай бабкі няма.*

– Ну значыць, можыць, хто і так прыходзіў дамоў, рваў той крываўнік. Ну не знаю. Мачылі трапкі якія-небудзь у *салёную ваду* – прыкладалі тады.

*– Балела ж.*

– Балела ж, канешна, яшчэ ж тут баліць, а яшчэ салёную прылажыць! Ну але ж цярпіма, неяк жа робілі.

**Зубны боль**

*– А во бывала, што зуб баліць. Можа што зрабіць можна было? Як зубы баляць.*

– (смяецца) Чорт яго знаіць! Хоць дахтары, хоць што, так і ў мяне зубы балелі. У мяне увесь ісход быў – с калодца *халодную ваду*! Вот што найхаладнейшая вада – у рот, падзяржу, ну, сплюну. Ну, уродзе бы мінут на пяць боль сціхне. Абратна начынаець – абратна бягу к калодзежу. Абы найхаладнейшай вады.

**Грыжа, начніцы**

*– А во як малое дзіця не спіць, плача, што рабілі тады?*

– Тожа загаварывалі. Грыжу загаварывалі. Ну вот у пупку. Пупок гэты не зажываў. Гэта я добра знаю. Ну вот і плакаў, панос быў у маленькіх. Ну вот загаварывалі.

*– А не чулі такую хваробу "начніцы"? Ці "крыксы"? Крычыць дзіця, нельга суняць.*

– У мяне было ў самой. Дочка такая была. Ай! Год, агню на пяць мінут ніколі не патушыў – так крычала ноччу і ўсё. Крычала і ўсё. Павязём у бальніцу, абгледзюць – нармальна разьвіваецца, нармальна ўсё, нідзе нічога, ніякай балезьні,

ніякай балезьні не прызнаюць, а яна крычыць і ўсё. Днём – кое-як, а як ноччу – крыкам-крычыць і ўсё! І носім, і калышам, і што ня робім – усё-роўна. А як год коньчыўся, як мне хто-небудзь гэтую дзяўчыну падмяніў. Усё! Усё перастала. Ціха, спакойна, усё як нада.

**Засцярогі цяжарнай**

*– А можа вас або старыя бабкі якія павучалі, як вы бярэменная былі? Што рабіць, што не рабіць.*

– Ну, павучалі, гэта самае. А што вот мне запомнілася такое. Так мне хацелася сесьці на камень, як пагонім на пасту! Ужо як у палажэньні была бярэменная. Ну я не знаю, як вам дажа сказаць! Нідзе месца не было – я хацела сесьці на камень. Вот. Ну і калі-небудзь сяду на камень. І іменна нельзя было, запрашчона. Бабкі казалі мне: “Няльзя садзіцца на камень!” Вот, ну і вот дзевачка ў мяне радзілася і вы прадстаўце – цэлы год не было валасоў на галаве! Як на камені вот гладкае такое было. А тады я ўсё роўна, вам гавару: “Яны там знаюць, камень той!” Не верыла! І ўсё роўна вазьму і хочацца мне сесьці на камень. Вот. А можа, каб я болей садзілася, можа б саўсём не вырасьлі (смяецца), не знаю. Але во калі-нібудзь вот і гэта… Цэлы год не было валасоў! А потым вырасьлі і ўсё.

*– А што яшчэ гаварылі? Што яшчэ гаварылі бабкі? Можа, што пераступаць нельга?*

– Што гаварылі… аглоблі во, у калёсах гэтыя во палкі. Тожа чэраз іх было нельзя пераступаць.

*– А што можа быць?*

– А вот не знаю. Вот гэта знаю, што эта самае, што нельзя было пераступаць. Запрашчалі яны.

**Праца ў свята**

*– Можа і на празнікі казалі, што нельга рабіць?*

– Ну так на празьнікі вабшчэ, не толькі бярэмянным – любым запрашчалася рабіць. Ну і паэтаму ж рабілі як…

*– А не расказывалі гісторыі такія, што, можа, рабіў хто ў празнік і нешта там зрабілася? Самому або там у сям’і.*

– Гісторыя такая была, во старуха мая расказывае, што ейны сьвёкар віў вяроўкі – у калхоз, вы знаеце, раньша кручкі былі такія, ну і лён этат во вілі. І после Каляд празьнічныя этыя вечары былі…

*– А як іх называлі? “Святыя” вечары ці там “крывыя”?*

– Сьвятыя… Крывыя, крывыя! Раньша вот “крывыя” называлі. А тады ужо после ўжо гэтых не стала “крывых” – “сьвятыя” сталі зваць. А раньша – “крывыя”. Вот, ну і ён гэтыя вяроўкі віў. Вядома – мужчына! Кажуць яму, эта самае, “не нада, няльзя” ні прасці, ні віці нічога ў гэтыя вечары, а ён гаворыць: “Ай! Што вы мне забабоны гэтыя!” Ага, а ў іх былі авечкі, вот. І сталі гэтыя авечкі, ну, ужо раджацца маленькія, гаворыць. Ногі пакручаныя, абыкнавенна, як вот вяроўку скручваеш! Во такія ногі пакручаныя. Тады ўжо гэты стары, ну як увідзеў гэта, значыць і паверыў, што во гэта няльзя робіць. Вот так!

**Апёк, кругі**

*– А калі апячэш руку там, ці нагу?*

– Вот гэту *осы*. Ну осы, вы жа знаеце? І вот яны гэтыя пузыры такія… Ну жыць там. Домікі! Вот гэтыя, гаворуць. Іх снімалі і тады прыкладывалі гэтым *домікам*. Памагала!

*– А яшчэ, можа, што такое?*

– Ну і *посным маслам*, гавораць, мазалі. Поснае масла тожа ажогі.

*– А кругі?*

– Ну, кругі мазалі. Во тожа гэтым *чыстацелам*, траўкай гэтай. Тады *адуваньчыкамі*. Адламаеш… Сокам гэтым. Вот у адуваньчыка такі белы сок, а ў чыстацела гэты жоўты. Вот гэтым смазалі.

*– А мёд ад чаго-небудзь памагае, ад якой-небудзь хваробы?*

– Не знаю. Ну, можа, ад прастуды толька. Ад прастуды ж усё болей. Ліпу гэту, як цьвіцець *ліпа*, тады цьвяткі гэтыя сарву. Гавораць, тожа добра.

**П'янства**

*– А як чалавек моцна п'е, гэта хвароба?*

– А чорт там! Гэта дур, мне кажацца! Ну якая гэта хвароба?!

*– Гэта не хвароба?*

– Канешна, не хвароба! Гэта дур свой. Пусьціцца вот піць і ўсё! Што гэта за хвароба?! Ну?

*– Так дактары ж гавораць, што гэта хвароба, і ад такой хваробы лячыць нада?*

– Паслухайце, не знаю я, есьлі ён сам не кінець, чорт там яго які вылечыць тога п'яніцу! Вот ён п'ець, п'ець нядзелю, дапусьцім, п'ець дзьве. П'ець. Гэта хвароба гавораць. А калі ў яго няма грошай, няма за што купіць – ён нядзелю ці дзьве, эта самае, не п'ець! Ну ён жа не ўміраець?! Вот хвароба, хвароба праходзіць. Ну як жа гэта так?! Як бы хвароба прыйшла – паляжаў бы ў бальніцы нядзелі дзьве, прыйшоў бы дамоў і хай бы ўжо ўсё, як рукамі сняло тую хваробу. Дак не! Яна ж і после ішчо, калі добрая такая хвароба.

*– А вось як чалавек запіў, ці можна яго як-небудзь спыніць?*

– А чорт яго! (смяецца) Пакуль грошы ня кончацца, да, будзець піць. Гэта не хвароба, не. Я шчытаю, што гэта не хвароба. Врачы ж гавораць, што гэта хвароба, ну, запіў і ня можыць кінуць, не можыць нічога і вот вып'ець, ён усё балеіць. Не праўда гэта, не праўда!

*– Ну а даўней жа не так пілі, як цяпер?*

– Не. Даўней мы хадзілі на танцы, і мальцы калі возьмуць учацьвярых – ну самагонка ж была па дзераўнях – вот у чацьвярых калі возьмуць паўлітра: "Ой! Яны ж ужо выпітыя прыйшлі!" Пяюць тады, ідуць. Гэта ж цяперака ні песень, нічога няма. А раньша ж хадзілі па дзевяць кілометраў, па сем на тыя танцы. Яны навесяле, мальцы тыя. А цяпер што яму тую бутылку аднаму выпіць – пяяць ня будзець, а ўжо на чатырох бутылка, дак…

**Зап. У. Філіпенка і студ. ПДУ: І. Азевіч, В. Аўсейчык у 2006 г. ад: а) Тарасевіч Ганны Фамінічны, 1917 г.н.; б) Кучко Яўгеніі Іосіфаўны, 1938 г.н. у в. Быстрыца Бабыніцкага с/с.**

## 26

**Вогнік**

*– А вот скажыце, як даўней лячыліся людзі? Як вот ад сэрца ці можа ад жалудка?*

– Ну, травамі. А як прыдзець сьмерць, дак і памёр! (смяецца)

*– Ну а як дзіцёнак вот спалохаецца, напрыклад?*

– Эта шаптухі-бабы былі. Цяпер нет. Тут дажа мая мама шаптала. Як называўся вогнік.

*– А што такое вогнік?*

– Не прымяраючы (паказвае на сябе), як вот гавораць, вродзе бы садзілася як чыра, а яна не чыра, а такая мокрая ж і гэты… ну, па ей…

*– Так ён на твары? Высыпае, сыпка такая?*

– Да, да. І высыпаў і, гэта, нічым не лячыўся. І загаворам.

*– А вот проста загаворам, ці можа вадзічку загаворвалі, тады змывалі?*

– Мама і вадзічку загаварывала і *бумага* была такая *сіняя*, тады прыкладалі яе.

*– А што з гэтай бумагай рабілі?*

– А вот з ей нічога, вот бумага, вот сьпічкі каробкі ўверчвалі – сіняя была. Гэтай сіняй бумагай… Прыкладалі, каб адцягвала.

*– А вот гэты вогнік, ён болей у дзяцей ці ў любога чалавека?*

– У любога. У нас было ў жэньшчыны, што так было і ліцо і да носу, усё – коркай заплыўшы і ўсё стаяла там. Ну, вылечылі.

*– Загаварывалі, шапталі?*

– Да. Не абрашчалася ў эту самую бальніцу. А тут і вылечылі.

*– А вот ад чаго, прымерна, ён мог быць? Ну вот з-за чаго ён?*

– Ну, гавораць, што вот як мужукі куруць, каб не абязацельна пападаець цяпло на яго, гэта вот, прыкурваеш… Вот ён і называецца вогнік.

*– І хто курыць, у таго можа быць, ці…?*

– Да, да. А жэньшчына, во – печ растапляець…

*– А-а, гэта калі з агнём блізка, да?*

– Да, да, да. І можа ад гразі.

**Рожа**

*– Ну, а вот ці былі яшчэ такія хваробы, што вот толькі шэптамі можна было?*

– Ешчо рожа. А гэта, рожа тожа не чыра, а бярэць пакрасненьне бальшоя – хадзіць няльзя і так ужо яна жмець, гарыць, што ўсё!

*– А дзе яна можа быць? У якім месцы?*

– Дзе хочаш, у мяне была на нагах, на лыткі была. І тожа шапталі, шаптуха прыдзець і шэпчаць, шэпчаць.

*– А як, проста вот на гэта месца шапталі?*

– На места. І вадой пазмываець. А бываець, што вады не нада, каб яна не пападала, суха было. Вот. А лечылі, тожа я паехала к врачу, сідзяць тожа два мужукі сьмяюцца: “Бабка, а чаго ты прыехала, што ты не знаеш, чым яго лечуць, гэту тваю больку?”

*– Ну а чым лечаць?*

– Шэпатам.

*– Сказалі самі ўрачы, да?*

– Да, да: “Не знаеш, – кажуць, – чым лечуць?” І паехала я дамоў. А шэпатам бабулькаў ужо не было! Ну і тады мне пасаветавалі ад *сала шкурку*… Гэту свіную, салёную і прыкласьці. Ну вот разы два прыклала і ў мяне сышла. А так была і лытка вот такая і красная-красная, гатова лопнуць было.

*– А вось кажуць, што розных сартоў рожа бывае?*

– Да, іх двенаццаць. Ну вот также сама, ці яна вот унутры бываець, а бываець, што невылечымая, вот і аперацыю дзелаць, а тады дзелаецца язва.

*– Ну вот вогнік ад агню, а рожа ад чаго можа быць?*

– Ат удару. Вот. У мяне яна больш была ат удару. Была дуракаватая – бягом бегала (смяецца).

**Іспуг**

*– Ваша мама, можа, загаварывала?*

– Мама толькі іспуг загаварывала. Падкурывала. Ну, траўкай.

*– А ад чаго бывае іспуг?*

– Ну вот спужаецца дзіцёнак сабакі, пабяжыць… Можаць і палярызаваць. Да, да. Так і здзелаецца, што ўсё. Вот як бываець прыйдзець прыступ, як калочкам станець. А тады адпусьціць. Як жа ад іспугу, тожа ж у нас сабіралі траву… Вот *упуднік*. Ён – пушачкі, як расьцьвіцець пушысты.

**Уроцы**

*– А вот "урокі" ці "уроцы"?*

– Гэта уроцы. Да, гэта зглазіць. Ёсьць людзі асобенныя. Ага, асобенныя людзі ёсьць. Бываець, што вот глянець чалавек… Больш, гаворадь, чорных вачэй баяцца. Ну гэта як урочуць, хто жадны, людзі, хто пазавідаваець…

*– А што ад уроцы можа быць?*

– Ну што, можа памерці… Канешна! Неперанасімая такая слабасьць, што ўсё! Ўсё, ўсё садзіцца ў кашу чалавек…

*– А вот у вас было такое, каб вот нехта вас хто (сурочыў)?*

– Было. Было, ехала – вужака ўкусіла, ляжала ў бальніцы. А тады ехала дамой поездам і падходзіць у Залесьсі, падходзіць малец з Адамова: "Вы едзеце ў адзін пуць са мной?" – "У вадзін." – "Разам паедзем." Ну што, мне было нічога, а тады ўсё – села ў кашу. Ўсё! Прышла ў вакзал і бяру цётке незнакомай (кажу): "Цётачка, вазьмі білет мне, а я, – кажу, – пайду на парог садзіцца." Сядзела на парозе і яны мне ўзялі і гавораць: "Во і грошы давераець і ўсё давераець." А я ўсё! Вот. Тады яны мне гавораць: "Трыся бабка падалом! Во, задзірай падол плацьця свайго, наворат (навыварат) і трыся, трыся. І вады на руку лі, лі і дзелай так" (паказвае).

*– Тыльным бокам (далоні), да?*

– Да, да.

*– Правай рукой, ці левай? Любой?*

– Любой. Правай і левай. Якой лучша. І памагло. Ну а тады спаць хочацца, а тады ў грудзях баліць, усё.

**Каўтун**

*– А можа чулі такую хваробу "каўтун" ці "калдун"?*

– Гэта чула. Гавораць, валасы ўюць чэрці. У Пеці былі ж. Дажа ў нас былі ў Дзяготках, цётка была, яна не расчэсвалася. Яна не магла расчэсвацца: ў яе завівалася, што ў яе ні рашчоска, нічога не лезла ў галаву! Тады абстрыгалі. Састрыгалі ўсю гэту…А што, а што дзелаць?

*– А памагала гэта?*

– Ну што, пушкай расьцець. Я не знаю памагала яно ці не.

*– Ну гэта рэдка бывала?*

– Рэдка.

**Укус змяі**

*– А вот вы казалі, ад вужакі ляжалі ў бальніцы. А што ад вужакі ніхто не загаварываў?*

– Тожа шапталі, а ці мне зацянулі… Помачы не было… У мяне пашлі ужо плямы. Гэта на наге, сказалі – нагу нада атнімаць. Ну тады палажылі ў бальніцу, завязьлі. Давалі мне і лякарствы горкія і нагу дзяржала ўверх. І месяц не магла хадзіць.

*– Так ужо што не было тых людзей, што шапталі, ці яны не памаглі?*

– Не памагло. Пашлі краснымі пятнамі нага. Сінімі, краснымі пятнамі. Ці там кроў стала, ці яна што.

*– А вам шапталі, да?*

– Шапталі. Насілі ваду і вадой. Дзядзька жыў далёка, дак хадзілі за вадой.

*– А адзін раз трэба было ці тры?*

– Тры. Ад трох рук.

*– Ад трох рук. Ад трох розных шаптуноў трэба было, да? (згодна ківае) А вот бывала, што абразалі рукі? Як кроў суняць?*

– Траўка была такая ці яна цяпер ужэ завецца саракалісьнік... *Тысячалісьнік*! Ёй патрэш і яна кроў… Самімі лісьцікамі гэтымі. Яна ёлачкай расьце.

*– А раней жа да зубных не хадзілі, а вот як зуб забаліць?*

– Ну і што, ходзюць плачуць! (смяецца). Клалі сала. Я *соль* клала. Да. У рот вазьму (солі) ілі *хлеба*, зацісну ў зубах. Во як.

*– А скажыце, вот гэтым людзям, як прыходзіш да вот гэтай бабкі шаптухі, ёй плацілі ці дарылі што-небудзь?*

– Абязацельна. Гавораць, што есьлі не заплоціш вот, то не паможаць.

*– А самі яны прасілі ці колькі дасі?*

– Бывалі ўсякія.

*– А не гаварылі, што нельга "спасіба" казаць?*

– Гаварылі. Гавораць, помачы не будзець.

*– А вот болей бабкі гэтым займаліся, ці былі мужчыны?*

– Былі й мужчыны. Вот там дажа у нас і каровам памагалі, езьдзіў чалавек.

**Зап. У. Лобач, У. Філіпенка у 2004 г. ад Каханчык (Вусавай) Любові Уладзіміраўны, 1932 г.н. у в. Залессе Баравухскага с/с.**

**27**

**Энурэз**

*– А як яны памагалі? Што яны рабілі?*

– Я сцаўся. Ну і я не знаю к каму, эта самае, езьдзіла мая матка з бацькам у Кушлікі. Ну к каму я не знаю. І вот прывазілі мне, давалі вады румачку нанач. Ўсё! Эта сцаньнё прэкрацілася. Так ана гаварыт, ну, матка ўжо, я быў такі пісталет, ужо бегаў: "Ты, – гаварыт, – сцуль будзеш. Толька ат цібя ваніць і ўсё", – гаварыт. Тада… А хто там у Кушліках быў… Ну што вы, матку ж не падымеш з бацькам! Ужо ўсё ж!

**Сурокі**

*– А ад чаго яшчэ памагалі?*

– Ад сцулей памагалі. Ад іспуга, ад уроцы. Я вот, вы знаеце Косьцю Алкінага. Вот ішлі ані… Эта можэт у 67-ым гаду. Прышлі яны, Галякова дзярэўня, шлі к нам і шла к ім наўстрэчу бабка. "Ну, – гаворыт, – паздаровалiся і ўсё." А он

такой. І прыйшоў Косця, пацягваецца так вот. І вот яму ломіць усё. Вот плоха і ўсё, а эта была не то Пасха, как-та вот празьнік. Да. Я гавару: "Можа сурочылі?" А ана, мы толька паздаровалісь. А ў нас там бабка жыла. Я гавару: "Косця, я пайду к этай бабке." Пілюшэнка Тэкля, Паўла Пілюшэнкі маць. Ну я пашла. Прышла, гавару: "Цёця Тэкля, – гавару, – прышол Косьця, так плоха яму…" Ён сам гаворыць: "Плоха мне і ўсё." Ну я прышла, яна угалькі ўкінула, ну там нешта пагаварыла, ну і дала мне гэтай вады. Я прынесла, Косьця этат выпіл, там абмыўся, можа, і ўсё і он прыйшоў… А той он пацягваецца, так яму… І пашлі мы картошку даставаць. Ён гаворыць, хоць я за яго і младшай была, но гаворыць: "Цётка, спасіба, мне эта памагла." Он был з 34-га года, он і цяпер жывець. А я з 37-га. Ну і вот яму памагло.

**Валаснік**

*– А ці не чулі вы такую вот хваробу "валасень" ці "валаснік"?*

– У меня была валасьнік. Мне бабка расказала. Я када-та пашлі ў Баравуху, сюды да Баравухі, і там вот эта озера, эта вот, і была так холадна і мы шлі. І я помню і мы, мая племяніца, ішчо родсьцвеньніца, мы несьлі ягады. І мы ішлі балотам, басяком. Ну вот там нада па балоту іцьці. Мы дажа не адшлі, нам так халодны былі, так плакалі і вярнуліся. Прышлі дамоў. І мне с тых пор стала на наге на этай, на пальцы на сымым меньшым, мезенік, я яго… Мне такая боль была, што я не магла! Я недзелю не спала. Ну а тады, мая сястра ў Галякове жыла, гавора: "Можа ў яе валасень?" Мама што там не прыкладавала, нічаго не памагло. Во нагу падыму, паківаю – усё. Ну яна павязла меня к бабке, у Галякова. Да, нейкая Калпачыха… Загаварыла яна мне там *двеннаццаць каласкоў*. Абыкнавенных, ад жыта. Вот узяла каласкоў… Абмалочаных, абмалочаных. Двенаццаць каласкоў прынесла. Што ана шаптала, не знаю. Цёплай вадзічкі во так вот (шэпча). І тады вот (кажа): "Глядзі!" Ані ж, я вот сама не праверую, ані ж там тоненькія, усё сплецена. Там ніцінкі такія прарасьлі і как вот прарашчонае што-та…

*– А чорныя?*

– Белыя. Прарашчонае. Ой… І ано што-та там на палец, а ён жа сіні, такой фіалетавый, аж блесьцяшчый быў. І так больна была. Вабшчэ невазможна. І дзе боль эта? Яна мне два раза там зьдзелала…

*– А што можа быць, як не злечыць гэты волас?*

– Тады ж – жык (паказвае як адразаюць палец). У меня саседка, я жыла ў горадзе кагда-та, эта, ну гэта, кагда я ужэ сюда на пенсію пашла. І у меня саседка, і ей сказалі, што такой у нас Хвасьценкоў у Наваполацку быў знаменіты… Этый хірург. Да і он сказал: "Нада да бабак ісьці!" Да. І ей, гаворыць, атрэзалі во так во гэты палец. Толька нада загавор. Ат валасьня, ён ат усяво можаць быць. І ён на каждам можат волас этат. Какой-та вот такой этат волас.

*– А гэта што волас залазіць у палец і там…*

– Да, да! Асобенна ў руч'ях, цёплыя руч'і – эта ані плаваюць как эта, как эта ўсё раўно такой жа, тот жа самы волас…

*– Конскі волас.*

– Да, да. Он такі вот і дліньненькі. Я яго і сам відаў. Но гаворат, эта, када вот, закрывалі рэчку эту, мы када купалісь, дзелалі купаньне, ну када рэчка ў нас працекала, ну чэраз Плігаўкі, чэраз кладбішча, рэчка. І вот ані эці старшыя рабята лавілі эціх (валаснікоў) і гаворыт: "Купацца нельзя. А ні во, глядзі, плавают."

Ані вылаўлівалі ілі спускала ваду, і закладалі заслану. Там патаму што лошадзі хадзілі часта і, вот эта самае, ані такія вот (паказвае). Вот такой дліны (паказвае даўжыню каля 15 см.). Ну тоненькі-тоненькі. Як купаешся, он упіваецца ў палец как піяўка. І он залазіць. Начынае палец талсьцець. У нас, эта, у мальца тожа было. Я вадзіцелям работаў, ужэ даўно – на пенсі шчас. І вот тожа, яму абразалі раз палец абрэ'залі – валасьнік. Патом: дзе я купаўся? Ну дзе-та тут вот тожа… Ай! З Фёдарава ён. А там такія п'яўкі плавалі беленькія такія. Раз абрэзалі палец, втарой раз абрэзалі і трэці раз яму абрэзалі поўнасьцю да касці.

**Рожа**

– *Так вось хвароба рожа…*

– Яна тожа… ну тожа… прастыўшы. У меня на руке была. Мне сястра выпісала. Пашла я к ей – нада *сіняя бумага*, такая вот, як раньша фіалетавая такая ат тетрадкі…

– *Спічкі раней заварачывалі?*

– Да, дажа можна мелам напісаць і прылажыць.

– *Штоб сіняя толькі.*

– Да, і прылажыць. І вот у мене такая боль і пашла я назаўтра к сестрэ і ана мне вот напісала і я прылажыла і мне сразу легчэ стала.

– *Так яна што словы нейкія напісала, ці проста…?*

– Да, ана і словы, там у мене, дажа мне ана дала, запісі у меня есьць. (чытае) "*Ехаў Пан Езус з поля, вёз з сабой тры рожы. Адна спала, дзве сканала. Тры рожы проч. Атайдзі, нячыстая рожа проч! Як есьць вас двенаццаць сястрыц старайцей вы іцьці в цёмныя леса, жолтыя пескі, на сіняе мора, в чыстае поле. Ад (імя) белага цела. Хрыстос васкрэс, Хрыстос васкрэс, Хрыстос васкрэс!*" Но ана дажа, гаворыць, мелам пісаць – так во пачарціць, пачарціць… Эта ат рожы. Очэнь харашо памагает.

– І вот, слушай, так, у мене было, эта самае, пятнышка… нага была пятнышка; тут паказываць не нада, каб… Пятнышка маленькае і летам усё больша, больша, больша. І начала нага такая вот, ну, знаеш, шалушыцца і трэшчыцца. Ну там на Марыненка есьць жэньшчына, у N-ым доме, N-ая кварціра.

– *А як зваць яе?*

– Я пашоў к ей. І мне яна… У яе такі круглененькі… кругленькія костачкі: асінавае, дубовае, яловае. Вот как шашка. Ну, ана гаворыт: "Снімай!" Яна шэпчэць,, шэпчэць што-та. Ну, я бацінак снімаю, шэпчаць. Яна гаворыць, адным костачкай так во паводзіць, паводзіць: "Слышна ілі не?" Я гавару: "Нічаго не слышна." Втарой костачкай павадзіла, гаворыт: "Слышна ілі не?" "Не", – гавару. Трэцяй костачкай начынаець вадзіць, ну гэтым сучком такім, гаворыць: "Слышна?" Я гавару: "Халадок." Усё, яна абкруціла мяне, дала вады, гаворыт, там ана сказала, ну, што… Ай, как жа ана сказала… ну, нескалько слоў сказала, што б утрам гэтай вадой абмыўся і папіў. Баначку яна дала, втарую баначку яна дала. Тада, нейкай мазьзю мне яшчэ памазала. "Гэта, – гаворыць, – мазь у магазінах і апцеках, яна не прадаёцца."

– *Сама можа, што рабіла?*

– Можа, сама. Я ж не магу цебе сказаць. Яна мне памазала мазьзю. Нага такая стала красная. Гэта толька кожу верхнюю срываеш, шчас толька у этам адном месьце немножка цьвердаватая кожа палучылась…

*– Гэтыя шашачкі былі з розных парод дзерава?*

– Да, да, да. С розных… “Вот, – ана гаворыт, – асінавая, дубовая, яловая…” Ну, тры шашачкі. Выразаны, пакрашаны, ну, ўсё… Адной шашачкай вадзіла – я не слышаў, што яна вадзіла…

*– А пажылая, вот, жэншчына была?*

– Пажылая. Вот я гавару: N-ты дом, N-ая кварціра. Ну как там… Іванаўна, па-мойму. Іванаўна, па-мойму.

**Залатнік (падрыў) і язва**

*– А вот “залатнік” такі?*

– Ад падрыву, знаеш, во як… Падажджы, як ад падрыву называецца… горкая… *Палынь*! А эта, не… Я быў када ешчо, када я, када я. Слушай, када я ў школе вучыўся, хадзілі работаць, эта самае, ну, как вазілі сілос, ўсякую ерунду. І вот я тожа, ну а што мне было, трынаццаць лет, які пацанёнак. Ну, віламі пакідаеш, і мне стала балець жывот. Ну, брушына гэтая. І мне сказалі закіпяціць, закіпяціць палынь і ў гарачай вадзе, астудзіць да апрэдзелённага ўрэмя, што б яна была летняя і выпіць. Ну нічэм там её не нада была… заедаць нічэм не нада была. І я два дня, прымерна, ну, можа, не два, можа, меньша. Я, гавару, не чуствваў. Ішчо ў меня ж была язва. Я – вадзіцель, трыццаць сем гадоў за рулём адсядзеў. Ну я ж дзе не был… Ну, я ж не буду хваліцца, дзе я был. Ну, праехаў полміра. Еду я з Гродна. Садзіцца мужык са мной. А я злы! Знаеш, как бываеш пад загрузкай? “Ты віцебскі?” (запытаўся мужык) – “Ты шо, б..дзь, не відзіш намера?” – “А как ты паедзеш чэраз Мінск?” Я гавару: “Не, – гавару, – паеду чэраз Маскву!” Ну злосьць была ў меня. А он стаіць, а я матам. “Ну, вы вадзіцель не ругайцеся. Я еду ў санаторый, тры рубля асталася – не хватает на білет на аўтобус.” – “Садзісь, – гавару, – эта ж не нада мне тваі тры рубля!” Даехалі мы да Вільнюса, зашлі мы ў сталовую, гаворыт: “Давай, паядзім.” – “Ну, давай, – ґавару, – паядзім” Селі паелі. Гаворыць… Пры Саюзе гэта была. Даязжаем да граніцы Мінскай вобласці і Вільнуская канчаецца. Как хваціў мяне (страўнік)! У бардачке таблетак была – всех! Крычу: “Таблеткі давай скарэй!” – “Што з табой? Што з табой?” “Не магу”, – я гавару, – хоць разарві зубамі.” – “Што з табой?” – “Нічаго – жалудак, язва.” – “Даваць, – гаворыць, – таблеткі!” Жменьку насыпаў. Не знаю я там, усех ён сыпаў, глытнуў – аташло. “Што ў цябе?” – “Язва на́чалась”, – гавару. Гаворыць: “Я цябе вылячу!” – “Пху, дурак! У меня ўжо столька лячэній прашло, – гавару, – такіх во лекарай як ты ў мяне во так во!” Усё. Што я не прапіў! І праполіс, і ўсякую драньь я піў. Он гаворыт: “Так, прыедзеш дамой дастань дзенатурату.” Я гавару: “Ты што?” (смяецца) “Я цебе гавару – дастань дзенатурату.” Я прыхажу ў Полацк – я сам з Полацка. Прыхажу, гавару, ў хазяйственны магазін, у мене знакомы там: “Мне, – гавару, – чатыры бутылкі дзенатурату.” Ну мне он усё расказаў полнасцью как нада есьць: утрам на галодны жалудак 50 грам выпіў, нічэм не закусывая, нічэм нічога. Так – усё! У абед, так, ты ў абед не можаш ваздзержацца. Нада паесьці блінчыкаў і супа малочнага. Лёгенькага. Ліманад, піва, віно – ні ў коем случае. Водкі можна выпіць. Ўсё ясна! Вечарам, вот посьле абеда паеў, і вот када ўжо жэлудак запішчыць унутры – апяць 50 грам дзенатурату, не запівая нічэм, не закусывая. Ну ладна, кончылася эта ўсё. Месяц праходзіць. Я ў отпуск уязжаў. Месяц праходзіць. Думаю, дай-ка я сам на сябе іспытаньне зьдзелаю! Пайшоў узяў две бутылкі "чарніла." Ага, а гэта ж тагда толь-

ка ў туалет лятаў! (смяецца). Знаеш, непрыятнае была места. Две бутылкі чарніла бяру, піва узяў (смяецца). Сіджу дома на дзіване, ну, ў трусах і, эта самае, туалет-та радам! (смяецца). Ну, есьлі успею, так успею! Забурэчла ў жываце. Ўсё! Успакоілась. Месяц я не піў, не знаю там. Ну, апяць на Гродна гружусь, а он гаворыць: "Есьлі што-нібудзь, не вылечыш…" А-а-а… тада падажджы, да этага яшчо… Ну я прыхажу – у мяне ж медкамісія кажды раз па восені. Ну я прыхажу. Жэньшчына меня круціць, верціць і мел выпіў. "У вас, – гаворыт, – што-та была, но зарубцавалась харашо." А ана ў мяне спрашываець, ана старушка была такая. "А што ў вас была?" – "Была што-та, но зарубцавалась харашо." – "А што вы пілі, еслі не секрэт?" – "Дзенатурат." – "А, я не ад первага, – гаварыт, – ад вас слышу." Прыхажу к сваей участковай, ана гаворыт: "Так, п'еш?" – "П'ю!" – "Курыш?" – "Куру!" Мне (участковая) гаворыт: "Хто цябе лячыў?" Ага! "Што ты піў?" – "Дзенатурат!" – "Хто цябе лячыў, той пусць цябе і лечыць далей!" Яна бальнічны закрываець, я і пайшоў! Я вот с 84-га года, я не чуствую, што ў мяне жалудак баліць, нічога. Ўсё дзенатуратам!

*– А вот ці было, што вот чалавека, можа, перуном?*

– Была, была. Ну вот закапавалі ў землю, гаварылі. Адцягвалі, но гэта…

*– А вот даўней сярпамі жалі жыта? Як вот моцна руку парэжаш, каб вот кроў спыніць. Чым вот, што?*

– Ну вот раньша этат, *тысячалісьнік* харашо памагал. Ну і ішчо, я вот чытала, у папы была какая-та ад усіх балезней была напісана, вот, каб астанавіць кроў я чытаўшы была: "*Ішла бабка, пабегла за ей сабака, сабака пала, баба прапала. Кань больша не ідзі.*" Тры раза, гаворат, нада.

*– Кань?*

– "Кань, больша не ідзі."

**Зубны боль**

*– А вот зубы балелі даўней? Дактароў жа мала было?*

– Да, зубы, гаварат, тут вот у нас какой-та набожны дзядзенька быў. Он вабшчэ какой-та был… І такія, я помню, у нево, ну ён нам, цётка мая за яго замуж выйшла… Цётка Настасься, эта вот, Мармурак наша, за Кузьму. Ну вот. І он вот такой был дажа ўсе вот удзіўлялісь. Я гавару: "Дзе он што знал?!" Ілі он чытал вот. Раньша космаса дажа не была, а он ужэ (пра яго гаварыў). Вот есьлі б к этаму, он бы вам такое нагаварыл, што б вы…

*– А так што, ён, можа, памагаў, лячыў?*

– Он памагаў. Што-та он гаварыл, што нада ад *яблані сучок* узяць і вот… сухой і пакавыраць зуб. І перастанець. Он гаварыў, с левай нагі вот разуваешся, значыць, еслі ты с левай нагі сьняў, первай, тады с правай. А есьлі, есьлі, ну вот с левай вот абуваеш… Как-та он…

*– То тады што?*

– Ну вот есьлі первую, есьлі первую эту абуваеш, значыць эту сьнімаеш і эту правую, вот, тагда перастаець зуб балець. Эта, есьлі сь левай, есьлі с правай наабарот… (Калі спачатку абуваеш левую нагу, здымаць трэба з правай і наадварот.)

**Вогнік**

*– А такой во хваробы "вогнік не чулі?*

– А, вогнік. Ну, у меня огнік тожа был.

– *А ад чаго вот ён?*

– Ну вот дажа не знаю. У меня тут во высыпаўшы (паказвае на рот). Усё тут во карой… Кала губ во так во тут. І меня вот, но ана умерла бабка. Ну, не знаю, што ана мне гаварыла. Ана *угалькамі* как-та што-та перад печкай. Што-та і эта… І у меня прашло.

– *А што яна угалькамі рабіла?*

– Абвела ўсё і туды кінула. І ўсё прашло.

**Дзічкі**

– А вот такія вот дзічкі бывают… Дзічы на руках. Вот тожа, я помню мне адна тожа гаварыла: “Вазьмі, вот…” ну не, вабшчэ как-та раньша усё… Да. Крупнай *солі*, мне тожа вот, гаворыт адна, гаворыт: “Патры этай солі, крупеньку, ну сколька этых дзічоў і ўкінь у печ і убегай. І уцякай, каб не слышада як яны трашчэлі.” Я во так во пацёрла, укінула ў печ і ўбегла. І ўсё. Ну і после гляжу – нет! Ну а не каторыя гаворат, сколькі эта… сколькі сколькі эціх дзічоў, столькі нада узялкоў завезаць на ніткі там… І (ніткі) пад саломеную крышу. Пад саломеную крышу. Іменна саломеная крыша!

**Зап. У. Лобач., У. Філіпенка у 2004 г. ад Арол Ліліі Пятроўны, 1937 г.н. і Жэнава Міхаіла Сяргеевіча 1945 г.н. (з в. Плігаўкі) у в. Мікуліна Баравухскага с/с.**

**28**

**Знахарства**

– А вот мой бацька не убіваў зьмей. Барані Бог! Ён жалеў іх за то, што яны ат усяго спасуць. Я убівала. А я зьмей убівала.

– *А чаму ён казаў, што ад усяго спасуць? Як яны могуць спасці ад усяго?*

– Барані Бог – не спасуць! Укусюць! Вот я умею ад грыжы загаварываць, я ўмею ад залатніка загаварываць. І, вы знаеце, ат рожы. Ат рожы я тады…

– *А вы навучыліся ад каго? Можа мама ваша?*

– Ат старых (родзічаў). А бацька мой, царства яму нябеснае… (шэпча кароткую малітву) Гэта скастрыраваець парасёнка і папісаець – і ўсё! Ні страптацыту не нада нічога! Усё зажывець.

– *І ён таксама памагаў, даваў вадзічку?*

– Да, да, да. І я умею.

– *А вы не раскажаце нам?*

– А вы, гэта, маложа мяне… тады ад мяне не будзець памагаць… З воч эта нада клямкі змываць, панімаеш, тры клямкі. Тры і тры там клямкі (тры разы праз тры клямкі).

– *І што вот піць ваду гэту, ці змываць?*

– Змываць, вот есьлі бываець карова, то з’есьці, то што і бываець…

– *А сурочыць вот любы чалавек можа, ці такія ёсць, што дурное вока?*

– Вы знаеце, што погляд, погляд, погляд такі ёсьць… Я памагаю!

– *Ходзяць да вас, часта?*

– Ходзюць! Да, но я, гэта, нікакіх… зарплаты не бяру. Барані, Божа! Лучша как он ат мяне бéраць. Я тады яшчэ малюся, каб яму лушча, панімаеш?

*– А вот рожа, што гэта за такая хвароба?*

– Рожа! Рожа, рожа, знаеш, бываець 76 сартоў. Да-а-а! Слухай ты мяне! Рожа бываець і сіняя, і красная, і такая васпаліцца, не дай Бог якая! Ат рожы, гэта самае, мне цяжка было …

*– А грызь, а што гэта за хвароба?*

– Грызь! Грызець цябе за пуп. Да-а-а! Да, асобенна ў ма́лых.

*– А як вы, вадзічку даеце ці на сам пуп гаворыце?*

– На пуп, на пуп. Я малюся, Богу малюся: “Отча наш…” І тады пашла! Дыханія, каб маё дыханіе… Не, я вады не даю. Грызь і грыжа – бальшое разніца… Грыжа, грыжа – гэта выпіраець ў машоначкі, пад пахай – яна мяхкая, грыжа. А ён ня сьпіць рабёначак, какаецца... Я не расказываю, як загаварываць. Ён зялёным какаець, вот і ўсё. Я тады сцясьнялася – была маладая. Во, да іконы (гавару, звяртаюся) – з мяне сьмяяліся: “Во-о-о, бапцістка прыехала!” Ну я Богу, дзеткі веру!

*– Ага, а вот, а вот такая – “валаснік” ці “валасень”?*

– Да-а! Валасьнік ня ўмею… Валасьнік – гэта ад воласу. Выбіраюць… Валасьнік, валасьнікі, знаеш, што асобенна, эта, вот я так панімаю. Маленькі рабёнак народзіцца, бываець катоў б’ець (цяжарная) нагамі - ужо ў яго волас тут паяўляецца, а ён шавеліцца. Ножык лажы і, гэта, ў начовачкі так во, мыць яго, рабёнка. І перахрысьці, гэта, інача попелу лажы – лучша ў панцяленавым мяшочку, гэта…Да, ну толькі ў панцяленавым мяшочку. А так жа попел, знаеце, ён растварыцца па этай вадзе…

*– І што, попелу пакласці, памыць, купаць там дзіцёнка?*

– Ціха, ціха, ціха. А тады дастаць з гэнага мяшочка і тут нада пацерці (паказвае паміж лапатак). У яго, у малога…Самае, самае ў яго чэшацца, у малютачкі.

*– А вы нож казалі.*

– Нож – гэта, хто чэраз парог… Пад начоўкі. Пад карыта. Чэраз парог баба ідзе, месячныя, каб находу не было гэтага. Ад злых людзей.

*– А во можа такую хваробу чулі – “каўтун” ці “каўдун”?*

– Калдун! Гэта балезьнь! Не дай Бог! Волас скудываецца, панімаеш? Ну, я ня ўмею. Ён спалярызуе так, што… Гэта ў яго знутры калдун выходзіць. Калдун этат, я вам скажу, бываець віхар. Такі віхар, панімаеце? І скруціць чалавека: і роцік, і ножкі… Можа і калдун… Бог яго знае!

*– А вот як зуб забаліць? Што рабілі? Што пакласці трэба?*

– Нада загаварываць на дрэва! Напрымер, ты – асіна, я – бяроза, ты – ольха. І есьлі ты за яе вазьмёсься, то табе так зубы будуць балець! Я эта знаю.

*– А як узнаць, хто ты?*

– Ну, а хто табе скажаць?

*– То есьць, калі ты паламаеш сваё дрэва, то будзе зуб балець?*

– Да! О-ой! Дажа места не найдзеш!

*– Гэта ў кожнага чалавека ёсць сваё дрэва?*

– Да.

*– А каб памагчы, каб зубы не балелі, што рабіць?*

– Гэта ёсьць людзі, але я эта не ўмею. Ёсьць людзі – і на дрэва. Зубы ж ад дрэва, як бабры. І баброў ніколі не чапай! Бабры тожа добрыя.

*– Можа пра такую хваробу ведаеце – “залатнік”?*

– Знаю! Залатнік – эта ходзіць па чалавеку. Залатнік можа праявіцца дажа ў калена. Як уваліць!

*– А ці хварэлі людзі на рак? Ці быў рак7*

– Не было. Туберкулёз быў.

*– А чаго ён паявіўся (рак)? Раней жа не было?*

– Я думаю радзіацыя.

*– А перадаваць вы будзеце? Можа дачцы?*

– Буду! Нада перадаваць. Нада! Як мне будзе паміраць?

*– А што будзе, як не перадасцё? Калі чалавек не перадасць? Цяжка паміраць?*

–Да-а!

*– А вот ці кожны чалавек можа навучыцца? Ці любы можа навучыцца?*

– Не! Не, нада каб Богу верылі.

*– А вот скажам, яўрэю не паможа ж гэта? Што ён іншай веры…*

– Адзінакава! Вы знаеце, ці яўрэй, ці татар, ці мангол, гэта, беларус, паляк. Богу маліся!

*– У іх жа другі Бог.*

– Ты ж чалавеку памагаеш, ты ж рабёнку памагаеш!

*– А ці чулі вы пра Далмана?*

– Ты знаеш, Далман… эта за Глыбокім. Вара… (хацела прагадаць в. Верацеі) А Бог яго! Ой, памагаў! А ты знаеш, этат вот мой сын. У яго паспарта яшчэ не было. Ён гэтат Далман толька яму памог. У майго сып пайшла. Вот тут во, дагэтуль во. Па руках. І тады роўна во тут ножак. Да каленяў… І паехаў да гэтага Далмана.

**Зап. У. Лобач, У. Філіпенка. у 2004 г. ад Цішчанка (Скурат) Таісы Уладзіміраўны, 1938 г.н. у в. Мётлы Адамоўскага с/с.**

**29**

**Пра хваробы і загаворы**

*– Як, напрыклад, маленькага дзіцёнка сурочаць?*

– Як старыя бабкі казалі, чалавек дажа сваю скаціну сурочыць можа. Эта па луне как-та. Як луна начынаецца – нараджаецца ілі ужэ сходзіць. Вот зайдзеш у хлеў, падумаеш харошае, а яно дрэнна робіцца. Як зробіцца, *мачой* памачыць – змыць лічыка. Збрызгаць – ад трох людзей узяць вады.

*– А рожа?*

– Сіне-красная такая, распаўзаецца па целе. Эта врачы ня лечаць. Загаворы ёсьць.

*– А вы знаеце?*

– Знаю. А вам запісаць? Я с кнігі спісвала. І яшчо спісвала загавор такі ад усіх балезьняй з газеты “Камсамольская праўда”. Даўным-даўно.

*– Скажыце, вот вы спісалі, і яны памагаюць?*

– Памагаюць. Я вот загаварываю і памагаець людзям. Ад усіх балезьней… Ну я перапісала ўсю стацью, таксама памагаець. Я ж сама газеты выпісываю, гэта ж усё навучнае. У газеткі пішуць бабкі, дзядулькі старэнькія. Гэта памагаець.

– (бабуля паказвае сшытак з замовамі) *А адкуль вы гэта ўсё перапісалі?*

– Гэта ад бабулек я перапісала. Яны гаварылі, а я і перапісывала ад бабулек.

*– А тут такіх многа было?*

– Яны памёрлі, памёрлі! (чытае па сшытку*) "*Выбіраю з Тані нерв, упуд пудавы гадавы. З ручак, з ножак, з усіх суставаў, і с пад кіпцікаў, і с пад ногцікаў, і с пад пятак, і с чыстага жывата, і с плечак, і с белай касці, і с чырвонай краві, с буйнай галавы, з румянага цела (памылілася)... ліца (паправілася). Навек вечны. Амін!*" Тры раза нада паўтарыць эту малітву. Но гэта нада выбіраць, я вам скажу як. Есьлі вы будзеце каго лячыць. Штобы бальны стаяў на голам палу... Ну, не на каўрэ! І тады во гэтага бальнога...

*– А дзе трэба стаяць на палу? Можа ля парога?*

– Перад парогам! Во так во перад парогам стаяць. Перахрысьціцца самому, перахрысьціць бальнога, і ножыкам так во із-пад пальцаў кавыраць. (Нахіляецца і паказвае як нешта вышкрабае ножыкам):

*– З-пад пальцаў пол кавыраць, да?*

– Не! Не пол, а балезьнь! "*Выбіраю з Тані нерв, упуд...*" І пайшоў к палу і аж да парога і за парог. Выбіраць зямлю не нада. Проста ножыкам кавыраеш зямлю (падлогу).

*– Гэта вакруг чалавека і да парога.*

– Тры раза нада. Первы раз з-пад правай нагі, другі з-пад левай. Тры раза. І ваду загаварываю.

*– А ўсё адно, калі гэта рабіць?*

– Жалацельна толька не ў абед. Утрам ілі вечарам. Вот я гавару, нада ґаварыць утрам ілі вечарам, а ў абед малітва самая царкоўная.

*– А вот тут ад уроцаў. Ад Давыдзіхі (перапісана).*

– Давыдзіха тая тожа памёрла. (Жыла) у Траянаве. Там нікога няма. Ат уроцу... Ну я тожа мала пользавалася: (чытае) "*Гаспод Бог, Найсвентшая Матка, памагі Тане ат ліхіх глаз, ат памышленій чалавечаскіх. Збав Ісус Хрыстос. Амін!*" Вот эта тры раза нада гаварыць.

*– А во тут што? Тое самае робіцца?*

– Тое самае на вадзе загаварываць нада. Загаварываюць, а патом даюць чалавеку піць.

*– А што вот за "залатнік" такі. Тут во (у сшытку) ад "залатніка" ад Давыдзіхі?*

– Эта есьлі чалавек падарвецца. Падарвецца – падрыў, у пупе. Цяжкое што падымеш, а тады жывот баліць. І ад залатніка дажа паміраюць людзі. Эта па медыцыне – ападзеньне жалудка. Я сама была падарваўшыся. Тая баба ўжо памёрла, у бані мяне лячыла. І дома мяне сьцірала. У бані як распарысься, як распарысься. Распарыцца цела, сьцірала *венікам* адусюль і загаварывала на пупе.

*– А любым венікам?*

– Любым венікам. Ну, не тым, што мятуць! (смяецца) Банным, бярозавым. Ну, і ў хаце, тожа. Сьціраець, сьціраець. Ну я-то сама не робіла эта. Самае глаўнае, чым я пользуюся... Вот рожа. Пішыце, хай людзі і лечуцца. Эта ат рожы, не кажды і врач лечыць (чытае): "*Ісус Хрыстос дарогай шол, двенаццаць рож нашол. Адна спаняна, сканяна, агняна, вадзяна, вятрана, дравляна, травяна, касьцяная, ударная, прыгаворная, урочная, падзівная, падумная. Тані я памагаю, сам Бог, усе сьвятыя. Амін!*" Эта на каго загаварываеш, можна разныя імя ґаварыць. Гэта тры разы ваду загаварываць.

---

* Усе тэксты замоў з сшытка глядзі ў раздзеле "Замовы".

*– А потым што з вадой? Даваць піць?*

– Не, не. Во эту нада загаварываць на бальным месьце.

*– А вот ці бярэце вы грошы, як памагаеце?*

– Не, нет, нічога! Гэта як самі. Хто канфет купіць. Хто што. Хто што дасьць. Я не доктар, каб я лячыла, каб ка мне людзі хадзілі. Не, я ў сваіх па дзярэўне.

*– А вот скажыце, гэта ж у вас нейкая сіла ёсць, што вы памагаеце людзям? Другі ж не можа…*

– Не нада людзям врадзіць, тады будзе сіла!

*– Ну ёсць жа добрыя людзі, што не могуць памагаць?*

– Некаторыя, вот і пішуць у газетах, і па радзіо – гэта машэньнікі! Ён нічога не знаець, пашэпчаць і грошы бярэць. Эта машэннікі – зарабатываюць. Хітрыя.

**Чары**

*– А ці праўда, што былі яшчэ й такія чараўнікі, што маглі паддзелаць даўней?*

– Ой! Я сама толькі жыла на чарах. Ой, як я мучалася! І дзеткі мае, скацінка. А хто зробіў? Сьвякроў! Я узнала, хадзіла па бабках, а мне бабкі так загаварываюць, мяне лечаць. Гавораць: “Блізкі чалавек!” – “А хто блізкі?” – “Па крыві.” А хто блізкі? Пака яна мне на вадзе не аб’ясніла. Эта образ жэньшчыны. А, гэта сьвякроў. Очань плоха было мне. Усей сям’е было плоха. А мне расказалі, што яна пясок брала з зямлі, з-пад нагі… Са сьляда. Насіла на кладбішча.

*– І што тады бывае, як на кладбішча носіш?*

– Ходзіць чалавек, як мёртвы. На хваробу, на сьмерць. І скацінка ў хлеў не шла, білася, і цёлкі здыхалі, і сьвіньні – куплю – здыхалі. Нічога не вялося. Вот вадзічкі дасць мне гэтая бабка, пабрызгаю і будзе добра. А тады, я гавару, расказываю, што было са мной, там бабка адна ў цэркве робіла: “Ой, што ты ходзіш па бабках? Прыходзь у цэркву.” А я гавару: “Што мне цэрква дасьць?” Яна тады мне тады: “Траўкі, вадзічкі, солькі дасць.” Мяне научыла і тады тады я стала ў цэркву хадзіць і ўсё зьмянілася. З цэркві бярэш *траўку*, што на Купалу сьвенцяць… Нада паліць гэтыя траўкі, курыць у хаце, ля хаты… Штоб злыя духі не хадзілі ля хаты. Не паддзелывалі нічаго. Асобенна перад празьнікамі эта ў хаце нада капціць.

**Валасень**

*– А вот ёсць такія хваробы, што вот дактары ня лечуць?*

– Рожу ня могуць, рак ня могуць. Ёсьць запісаны валасень. Я сама валасень вынасіла. Мяне лячылі.

*– А ад чаго ён бывае у чалавека? Во, не было нічога*

– А я сама не знаю. Во, быў валасень у пальцы. Мяне бабка лячыла. Я хадзіла ў трэці клас. А мне палец жоўты, жоўты. Думалі чыра. Мне мамка прылажыла, гэта і цыбульку. Не памагаець нічога. Як загаварыла валасень, тады вылез валасень на колас! Во такі. Нармальны волас. Сьветлы волас. Нармальны волас.

*– А так, можа, пачытайце нам.*

– Яго ж нада… на колас ілі на венік. У цёплую ваду кладзеш, там парыць і ліеш так, і прыгаварываеш. І ён выпаўзаець. Во нужна выліваць у гарачай вадзе (чытае): “*Чорны волас, лезь на колас! Белы волас, лезь на колас! Красны волас, лезь на колас! Сівы волас, лезь на колас! Рыжы волас, лезь на колас!*” Эта нужна выліваць у гарачай вадзе. Тры разы.

*– І эта за адзін раз пройдзе ці за некалькі разоў?*

– Яшчэ за адзін раз выліць, тады во так во на сонца ілі на сьвет вечарам расьцягіваеш відаць этат волас. Есьлі нет – нада больша (выліваць).

**Грызь**

*– А вот калі дзіцёнак не спіць, крычыць? Ну, беспакойны такі? Ці было вот што, як памагалі?*

– Гавораць, крыклівыя дзеці, калі ў іх грыжа, у маленькіх… Во і грызь! (знайшла ў сшытку)

*– А грызь і грыжа, гэта адно і тое ж?*

– Адно і тое. Нужна зубамі грызьці па бальному месту і сплёвываць.

*– А куды сплёвываць, абы куды можна?*

– Абы куды! Асобенна нада было сплёвываць на такое дрэва, дзе сучок.

*– Дзе дзірка ад сучка?*

– Не. На сучок. Ілі на пол. На чысты пол. (чытае) *“Ня грызь грызець, а я грызу! Не грызі, грызь, цела, а грызі, грызь, дрэва! Амінь!”* Эта нада тры разы паўтараць і сплёвываць на зямлю. Кароценькая саўсем.

**Начніцы**

*– А во “начніцы” ў вас ёсць. Што гэта за начніцы такія?*

– Вот і ёсьць для рабёнка. (чытае) *“Зара-зарніца красная дзевіца! У цебя ёсьць дзевяць дачарэй, вазьмі у… (імя там якое) Тані начніцу – дзесятую. Амін! Здраўся, Марыя!”*

*– І як гэта робіцца? Гэта проста трэба гаварыць на дзіцёнка, ці на вадзічку?*

– Над рабёнкам гаварыць нада… А як над рабёнкам, так можна ў любое ўрэмя. Эта мая дачка, вам раскажу, езьдзіла, з Мінска прыязджала з маленькім рабёначкам. Во так во яна крычыць і крычыць. А гэта бабка прыходзіць і кажаць: “Паўтары такія слава”. Яна прагаварыла і успакоілася.

**Чыра**

*– А во ад чыры!*

– Ад чыры памагаець! Чыр, як сядзець чыр. Не прышчыкі – чыры. (чытае) *“Перкуна́-Перкунса́, бегі чырэй, бегі вперод, беры весь не́дуг. Перунсо, сваімі дзевяццю сынавьямі буду гнаць цябе, ісчэзні. Амін!”* І вот над гэтай чыраю.

*–А вы пробавалі гэтую замову? Памагае, да?*

– Да.

*– А як трэба замаўляць, як чыра ўскочыць?*

– Над болькай, над болькай. Вады не нада. Вот болька такая, чыра. Панімаеш, чыра? Вот іх многа бывае радышкам. І вот нада загаварываць – губамі па этай чыры вадзіць. Тры разы. На целе загаварываць. Толька сначала нада чытаць “Отча наш”. Перад любым загаворам нада чытаць “Отча наш”. А тады во этат во загавор. І прайшлі. Я ўнуку загаварывала.

*– А вот этат во загавор, з якой вот вы кнігі перапісалі? У каго вы гэты загавор перапісалі?*

– У Лісоўскай і Чарняўскай Жэні. Адна – у Кунцэвічах, другая – у Заскарках.

*– А што такое “Перкуна-Перкунса”? Што гэта?*

– “Перкуна” – гэта Пярун… Гэта да Перуна абрашчаесься.

*– А вось у вас тут (у сшытку) напісана: “2 августа, на Илью умывацца дождём”. А для чаго?*

– Для гэтага, выздаравленьня, як хварэеш.

**Круг-лішай**

*– Ад любой хваробы памагае?*

– Я так запісывала. Сабе запісала на ўсякі случай. (яшчэ чытае) *"Круг-лішай, белага цела не знабі, гарачай краві не тамі. Круг-лішай, ідзі сьвіньям мешай. Не бывай ні днём, ні паўднём, ні на сход ветаха, ні на сход зарніка. Дай Божа здароўя!"*

*– А "круг-лішай", што гэта такое?*

– Лішаі такія чэшуцца. Вось цярэбіцца. І ў самога, і ў скаціны бываць.

**Вогнік**

– Вогнік бывае – такія прышчы на целе. Гэта: *"Агонь к агню. Вада к вадзе, вецер к ветру"*. Сабраць 9 вуглей і выбрасываць вуглі, як топіцца печка. Мне не прыхадзілася…

*– А вось у вас тут пра нейкіх хадзячых пакойнікаў? Што за "хадзячыя пакойнікі"?*

– (чытае) *"Камень па вадзе не плывець, а мёртвы па зямле не ходзіць."* Так праізнесьці перахрысцівшысь і блаж прападаець. Вот есьлі ходзіш па дварэ, ну і вот, пакойнікі ходзюць в глазах… Да, здаюцца зданькі. Эта прагаварыць, перакрысціцца…

**Кохлік**

– Яго сабіраюць, майскі град ад кохліку (коклюшу). Дзеці малыя балеюць і ўзрослыя.

*– І што потым з гэтымі градзінамі рабіць?*

– Піць. Майскі сабраць град у пасудзіну. Як растаець. З зямлёй ён – працадзіць. Ад коклюша.

*– А што за коклюш?*

– Ай, эта сільная балезьнь! Кашляець рабёнак. Кашляець, кашляець – воздуху не хватаець, сінеець і паміраець.

**"Усё ідзець ад Бога"**

*– А вот скажыце, у Вас жа нейкая сіла ёсць, што вы памагаеце? А каму перадаваць яе будзеце?*

– Гэта не я памагаю, а Бог памагае! Гэта ад Бога! Гэта ўсё ідзець ад Бога!

*– А вот скажыце, калі прыедзе жыд ці татарын, яму памагаць можна? Нехрысціяніну?*

– А я не знаю. А мне кажацца разьніцы нет. Малітвы ўсе адзінакавыя. І "Отча наш", што ў жыдоў – адзінакавая. Ісус – адзін, Бог – адзін! Ён даёць малітвы адзінакавыя, толька ў пераводзе і па-своему. Вот мы гаворым "Ісус Хрыстос", а па-польску "Пан Езус"... "Хрыстус".

**Калтун**

*– А што гэта за хвароба, што пра яе расказывалі? Як яна праяўлялася?*

– Кармнёва матка, Сашкі, балела калтуном. Валасы зьвіліся, як войлак. Няльзя самому абразаць. Дак вызвалі чалавека, той загаварыў – валасы самі атваліліся ад галавы і новыя атраслі.

*– А "наход", можа, чулі?*

– А наход эта да!... Прышчыкі такія сьвярбучыя. Эта бываець вятранка, называецца.

**"Ат жалудка" (надсаднік)**

*– А калі жалудак баліць у чалавека? Вот якую траву?*

– Ат жалудка траву сабіраць *надсаднік* нада, у лесе. Яна расьцець, як дзяруга, і цьвіцець сіненькай ветачкай. Нізенькая, як дзяруга. Знаеце дзяругу? Сьцелецца па зямле ветачка, во такая во, і галубенькі цвяточак… Насушыць і варыць, піць як жывот баліць… Наташчак. Як хочаш піць, так і пей. Заварыў і пі.

**Зап. У. Лобач, У. Філіпенка у 2005 г. ад Ладзісёнак Ядвігі Іванаўны, 1938 г.н. у в. Заскаркі Вароніцкага с/с.**

**30**

**Пра хваробы**

*– Калі ячмень на вока сядзе, што рабілі?*

– Ячменіца? Ну, пацёр, пацёр і навотмаш кінуў сабаку. *Хлебам* пацёр ці чым-небудзь і кінуў, каб сабака з'еў. І ўсё.

*– А такая хвароба – сурокі?*

– Ну, было, было. Вот ўсякую хваробу выганяюць і загаварваюць.

*– А ці памагалі дахтары?*

– Памагалі. Вот быў такі дохтар стары-стары. Дык ляжаў дзядзька ў бальніцы з рожай, дык той і выгнаў, і вылячыў.

*– А валасень, што за яно?*

– У пальцах ён, дзетка. Бяруць старушкі такія *каласы жытнія*, звязваюць, вадзічку летнюю загаварваюць – гэта і памагаець, а дахтары не памагаюць. Ён (валасень) тачыў – адточыць і кіпцюр, а як загаварваюць – выходзіць.

*– А калі дзіцёнак спужаецца?*

– Даюць ваду, памагаюць. Ад гэтага памагаюць. Ёсьць трава такая – *упуднік*. Тады сабіраюць, кураць – і памагае ад упуду. Кураць, каб дым пад рубашачку пайшоў. Раней жа і рожу загаварвалі і скулу-залатуху.

*– Скула-залатуха?*

– Ну вот, галава баліць і такія ідуць болькі па галаве. Сястра дваюрадная, як мне галава балела, яна загаварыла і кінула галава балець. Ей Богу!

*– Сястра ўмела загаварваць?*

– Ага, умела. Дажа у маёй нявесткі ёсьць спісана (у сшытку). Яна дажа ёсьць тутака у мяне, Рыгораўна, учыцельніца. Ад рожы, ад скулы спісана.

*– Калі дзічы, што рабілі?*

– У мяне былі дзічы. Сказалі мне ўзяць *нітку*, тры разы завязаць да усхода сонца і палажыць пад парог. Я гэта зрабіла і ў мяне дзіч адваліўся.

**Зап. У. Лобач у 2006 г. ад Мардамай Елізаветы Сямёнаўны, 1916 г.н. у в. Ухвішча Бабыніцкага с/с.**

**31**

**Пра хваробы**

*– Ці ёсць, былі, такія людзі, што вадзічку даюць ад хваробаў?*

– Давалі даўней. Паўміралі старыя, цяпер маладзёж ня знаіць. А маміна матка, вечны пакой, давала ад прыпадку.

*– А што такое прыпадак?*

– Ну, во як чалавека калоціць. Дак во. А цяпер мне адзін чалавек казаў, што ад прыпадку *півоню* кіпяціць і піць нада. Цьвяты – заварываць і піць. У чалавека таго дачку трасло. А бабушка мая загаворам лячыла. Роды прымала, як акушэрка. Паланея Клімяценка яе звалі.

*– Калі сурочылі чалавека, то чым яму памагалі?*

– Ад уроцы, я вам скажу, такі ёсьць *дзядоўнік* калючы. Пракіпяці і памыйся на захад сонца, на вугал куды-небудзь вылі (рэшту ўзвару).

*– А ад упуду?*

– Тое самае робіць.

*– Ці чулі вы што пра валасень?*

– А вот гэта я табе скажу. У мяне тры разы было. Мне загаварвалі. Я малая гуляла і на сук нагу прабіла. І пайшоў нарыў... Мне загаварылі і ён прайшоў.

*– З чаго ён яшчэ мог быць?*

– З вады. Валасіна конская жывая плавае – маёй маме адтачыў палец па шчыкалатку. Адна баба на колас вылівала, на жытні. *Сіні камень* (медны купарос?), *мёд* яшчэ прыкладалі, але сіні камень – ня вельмі (дапамагаў).

**Засцярогі цяжарнай**

*– А як дзіцёнак не спіць, крычыць ноччу?*

– Вот я вам раскажу. Як маладая катоў б'ець нагамі, тады ў дзіцёнка кацiная поўсьць. Тады, як купаеш яго, насыпеш попелу накрэст з вуглоў, а тады на плечы. Тады на марлю працэдзіш, а там – каціная поўсьць. Гэта называецца крактуны. У майго (сына) было. Вот яшчэ адно раскажу. У Сушыне дзьве сястры жывуць. У адной барада расьцець. Гэта матка хадзіла ў палажэньні і біла катоў.

*– А што яшчэ ня можна рабіць бярэменнай?*

– Ну, на падлаў усякіх глядзець не нада. Будзеш нос адварачываць – будзе з рота сьмярдзець у рабёнка. Не нада ні на якіх калек глядзець – рабёнак родзіцца калека. Цераз аглоблю не нада хадзіць – ногі будуць крывыя.

**Пра знахараў**

*– Пра знахараў ці чараўнікоў можа што тут гаварылі?*

– Тыя людзі паўміралі даўно. Маёй мамы брат жыў. Быў красівы такі, вучыцелям работаў, танцаваў красіва. А тут у доме жылі дзеўкі некрасівыя і нешта ж яму зрабілі – адняліся ў яго рукі, адняліся ў яго ногі. Ён праляжаў да 39 гадоў і памёр. Лаўрык яго звалі.

*– А што адрабіць нельга было?*

– Ну, былі такія людзі. Жыў адзін мужык у Наўліцы. Яго хапуны забралі ноччу (быў рэпрэсаваны ў 1930-х). Ён і робіў і адрабляў людзям. За грошы. Ён сказаў, што я вылячу, но кароўку мне аддасьцё. Мама кажыць:"Хоць дзьве бярыце." А яго забралі. А то жыў чараўнік у Кублічах, Васіль яго звалі. І баба на футары жыла. Ён зробіў, што сын яе сышоў (прэч з хаты) і баба яго больш ня бачыла.

*– А ці чулі вы пра Далмана? Што пра яго гаварылі людзі?*

– Што добра робіць людзям. Але з Полацка адна жачына езьдзіла да яго. Яна памёрла, нешта з пульсам у яе было. Казалі, што Далман ёй зрабіў так на ўсю жызьнь.

**Зап. У. Лобач, У. Філіпенка у 2006 г. ад Пятровай Аляксандры Іванаўны, 1931 г.н. у в. Падазер'е Бабыніцкага с/с.**

**32**

*– Ці ёсць тут дзе людзі, што вадзічку ад хваробаў даюць?*

– Ёсьць! У Баярове Любка ад іспугу даець, Прашковіч Люкада даець, Соня Саўчанка даець, Вікця Селіванава ў Рабчонках...

*– Ад змяі яны памагаюць?*

– Ад зьмяі мая мама памагала. Федзю Лабэцкаму малая вужака упаўзла ў рот, калі спаў, а яна вызвала (вужаку назад). Вужака укусіць – мама загаворвала.

*– А што рабілі, як залатнік?*

– Гаршкі ставілі і загаварвалі, на жывот *хлеб* клалі і запальвалі, накрывалі гаршком і жывот усьцягваўся (на места).

*– А грыжа – гэта ад чаго?*

– Грыжа пупавая – гэта расходзяцца мышцы па прамой лініі жывата. Тады пяць капеек (дзіцёнку) пакладзём і пройдзець. *Пяць капеек* заціскаеш, пластырам прылепіш. Тры разы зрабіў і прайшло.

*– Ці чулі вы пра такую хваробу – калтун?*

– Я чула і відзела. У нас яго нету, а вот у Бабруйску – там яго навалам. А ў нас не было ні разу.

**Зап. У. Лобач, У. Філіпенка у 2006 г. ад Шыраевай Валянціны Фядосаўны, 1929 г.н. у в. Бабынічы.**

**33**

**Крыніца "Святуха"**

– Хадзілі, хадзілі на празьнікі. І калі бальны чалавек. Мая мама хадзіла, калі папа балеў. Старуха з Углоў яе вадзіла, капейкі кідала яны.

*– А чым папа ваш хварэў?*

– Ай, сэрцам ён балеў. Тады троху ён паправіўся, а патом неяк раптоўна і памёр.

*– А яшчэ ад якіх хвароб вадзічку бралі?*

– Ну, і ад упуду і ад ўсякіх хвароб. Мы нядаўна таксама езьдзілі туды на машыне.

*– А ў якія празьнікі хадзілі?*

– Ужэ не прыпомню. Ну, як каму нада, тады і хадзілі. Папа, як балеў, сасьніў сон, што яму нада гэтай вадзічкі. Тады вот і хадзілі.

**Сон на хваробу**

*– Ці бываюць такія сны, што праўдзяць?*

– Ай, бываюць! Мне самой было. Віжу ўвосьні, што карова нейкая чорная к нам увайшла ў калідор і заваліласяя. Мы з хаты дзьверы адкрываем, а ніяк не адкрыем. Тады мой стары кажыць, што нада яе як-небудзь выгнаць. А я кажу, што, можа, мы яе падоім. Я стала даіць – ніяк. Дык і ня выгналі і малака нетуці. У гэтый жа самы дзень я выйшла сюды на калідор, а я ж на кастылях хаджу, а тады стала на адну ступеньку, а кавяла мая з другой ступенькі скульганулася і я аб асфальт паляцела і паламала калена. Дык, во як сасьніўся сон.

**Знахаркі**

*– А самі вы да знахарак ці ездзілі?*

– А ў нас тут нетуці. А ў Матырына – Зінка і Надзя ваду даюць. Ай, я балела многа, я многа дзе была. І ў Матырына, і ў Расонах, і ў Завячэльлі была. Малец неяк стаў заікацца, спужаўся. Я гавару старыку, што нада вязьці некуды. Ён павёз, там старуха такая была – Кісяліха. Яна вады дала, вымерала яго *ніткамі самадзельнымі* і *соль* давала. І паправіўся ён.

**Рожа**

– Рожа яна бывае ці з вады, ці з ветру. Раскрасьнеецца хоць дзе. Як у маёй бабулі было, дык яна, раней жа жорны былі, дык яна, *абмёткі* такія былі, што абмяталі ля камяня... Тады гэту трапачку з мукой прыкладывалі. І трава ёсьць – *маць-і-мачаха*. І яе прыкладалі.

**Знахары**

*– А ці былі мужчыны, што загаварвалі? Ці болей бабкі?*

– У нас быў адзін – Васіль. Ён зубы загаварваў, маліўся і гаварыў на захад сонца. Тады яшчэ ў Кармалысах Паўлюк быў. Ён не загаварваў – нейкі сіні камень клаў на зуб. Ён фельчарам быў. Калі дзірка (у зубе) якая, дык гэты ядавіты *сіні камень* клаў.

**Зап. У. Лобач і студ. ПДУ Д. Панцялей у 2006 г. ад Гендрык Ліліі Ананьеўны, 1928 г.н. у в. Бярэзінец Бабыніцкага с/с.**

**34**

**Упуд**

– Мая бабушка, як даўней жа ўрачоў не было, яна лячыла, бабіла, зёлачкі нейкія сабірала і мяне вадзіла зёлачкі сабіраць. А вот наша мама – пярун быў, даў у хату – яна спужалася і забалела. І вот бабушкіна вада не памагала за то, што родная. І мама памёрла.

**Лекавыя зёлкі**

*– А калі і якія вы зёлачкі сабіралі?*

– Ну, у маі месяцы, у іюні, іюлі. І цяпер збіраю. Вот *зьверабой*. Яго заварваць і піць, нашча, перад ядой. *Рамашкі* – тожа ад усяго. А гэта, ад гемароя – *канюшына*. У маёй нявесткі гемарой, я ёй гэтыя зёлкі даю.

**Прыгавор**

*– Ці гаварылі што пра сурокі, як яны праяўляюцца?*

– Прыгавор такі ёсьць. Лі час такі, лі мінута такая, прыгаворыш і ўсё. Мы з дзедам, як толькі сайшліся, кароўка у нас была. Цялёначак радзіўся, мы яго неяк пахвалілі – ён забалеў. Вот прыгавор у дрэнны час. Ну, я яму зёлак варыла і адыйшоў.

*– Як узнаць, што чалавека сурочылі, можа прастыў?*

– У той жа мамент, як сказалі што, адразу ж і прыключыцца. У мяне, як толькі сын радзіўся, мо, два месяцы яму было – усё плакаў і плакаў. Такі поўненькі быў. Панесла да бабкі, тая палядзела, дала вады, змыла яго і сказала, каб я яго не паказвала нікому, бо можа быць ад дурнога вока што. Але ён плакаў, так плакаў! У яго зубы рэзаліся. У два месяцы чатыры зубы былі.

**Вогнік, звіх**

*– Гавораць, хвароба ёсць такая – вогнік.*

– Гэта есьлі болька, а тады загнаіцца. Вот мой хазяін. У яго рукі гнаяцца і гнаяцца, і ня гояцца, а ў мяне ўсягда загояцца.

*– А гавораць, што няможна каля агню стаяць.*

– Да, да. Мне бабуля казала. У мяне былі глазы бальныя і бабка казала, каб я не стала ля печкі ці грубкі, каб вогнік не прыкінуўся.

*– А вось яшчэ такая хвароба – звіх.*

– Я сама. Абступілася, пад вечар разбалелася мне нага, дык кампрэс з мачой – і прайшло.

**Зап. У. Лобач у 2006 г. ад Мароз Ганны Сяргееўны, 1928 г.н. у в. Бярэзінец Бабыніцкага с/с.**

**35**

**Святая крыніца ля Сафійскага сабора**

– На Пасхальныя празьнікі ваду бралі, на Пасху, на Раждзяство, на царкоўныя, як у цэркву ходзім маліцца, тады вадзічку гэту…

*– А вось гэта вадзічка, яна памагае ад чаго?*

– Памагае, дзяцей як крэсьцім у цэрькві, дак эту вадзічку поп, цэрьква берёт…

*– А вот вы гаварылі пырскалі вот ёю, ну, калі бралі, у хаце…*

– Ну да! (згаджаецца) Ребяты, усегда дзеці абліваюцца, яна цякець, падставяць баначку,тады яе разбрызнуць. Усё ўрэмя, яна круглы год цякёць.

*– А, калі рабяты хадзілі раней, капеечкі кідалі у гэту…?*

– Кідалі, да, серебряныя: дзесяць капеяк там, дваццаць, такія…

*– А вы гаварылі куплялі вадзічку (дзеці), да?*

– Ну да. Як бы куплялі вадзічку (кідаючы капеечкі).

*– А вот можа знаеце ад сурокаў, ад дурнога глазу?*

– Да, да! Ну, не́катарыя гаварылі, і мы дак калі бралі ету ваду. Можа дажа і ад глазу, мылі хрест-нахрест дзяцей. Мы шчытаем ета сьвятой вадой, патаму што яна іс-пад Сафійскага сабора цечот.

*– І ніколі не замерзае, і дома калі вот паставіць доўга стаіць?*

– Стаіць. І такая чысьценькая, ня мутная, нічэво. Мы, эта самае, мы пабрызгаем ёлачкай углы, во…

*– Ёлачкай углы, гэта на які празнік брызгалі?*

– Ну, гэта самае, на такія вот – Пасха, Раждзяство, Пакроў, эта самае там, якія бывают празьнікі, такія мы бярём этую ваду, кідаем дзеньгі, там, як бы плацім. Ну і эта, яна круглы год цякёць.

*– А для чаго вы разбрызгваеце ў хаце гэтую ваду?*

– Ну для чаго, каб, штоб Бог спасаў. Што б эта самае… Ну, у нас такія Гасподнія павер'і. Эта, прічіна хату брызгаць. Мы ж верым у Бога.

*– А эта вот эта вадзічка (з сафійскай крыніцы), змывалі ёй дзяцей?*

– Да, да , эта мы бралі! На празьнікі бажэсцьвенныя. Када кресьцілі ребят, дак спрашывалі у папа, адкуда вадзічку бярёце. Ну ён там, дак ён сказаў, што эта ў нас сьвятая вада.

**Зап. У. Лобач, У. Філіпенка у 2004 г. ад Веліканец Зінаіды Прохараўны, 1925 г.н. у г. Полацку (р-н Запалоцце).**

**36**

**Святая крыніца ля Сафійскага сабора**

*– Можа вы нам раскажаце пра тую крынічку, што на гары каля Сафіі? Вот гаворацьб, што святой называецца?*

– Так усе гаворацьб, так усе называюць. Мы ж ня знаем.

*– А чаго “святая”?*

– Ну как жа! Патаму што Сафійскі сабор радам жа, цэрква гэта. І тут жа крынічка, яна і зімой і летам цякла. Не замерзаець.

*– А вот, можа, гэта вада памагала ад чаго, вот даўней?*

– Да, даўней, казалі, памагала. І цяпер, як унушыш сам сабе і паможаць.

*– А вот даўней, вы сказалі, памагала ад чаго?*

– Ну ад чаго, ад таго, ад чаго баліць.

*– А ад чаго болей? Ад усяго памагала?*

– Ад усяго памагала. Калі ў мяне сэрца забаліць, пап'ю гэтай вадзічкі, мне кажацца лучша. Калі печань баліць, пайду, вот, я часта хажу ў горад, набяру бутылачку вады. Ну, пап'ю, а Бог яго знаіць. Ад чаго мне лучша ад вады ці ад таблетак. Я вып'ю таблетку, вадзічкай зап'ю. (смяецца) А ад чаго мне лучша?!

*– А ад уроцы ад, дурнога вока?*

– Да, вот ад дурнога вока, ад дурнога глаза, да. Дажа многія прыходзяць іздалека.

*– Іздалека, а як “іздалека”?*

– Як вот, Грамы, напрымер, у нас тут, эты раён там, з (вуліцы) Марыненкі прыходзяць. Спугаецца вот рабёнчак, ці спугаешся сам другі раз, бальшы. Пап'еш этай вадзічкі, кажацца лучша. А Бог яе знаіць!

*– Ад сурокаў піць ці змываць трэба?*

– Памыцца можна і так папіць. Вадзічкі можна набраць пабольша і так памыцца.

*– А як вочы баляць?*

– Вочы баляць – памый вочкі. Стань раніцай – памый вочы.

*– А раніцай як, да ўзыходу сонца?*

– Ну вот раніцай ты ж устаеш рана. Ці да усходу…

*– А ў які час можна было браць ваду?*

– Ай, я, напрымер, беру. У мяне бутылачка літровая такая, я іду ў горад. Бутылачкі ў сумку набіраю і таблеткі тады запіваю. Ад чаго мне тады лучша?

*– А вот даўней пасля вайны вы помніце ці хадзілі да яе людзі?*

– Хадзілі, ой! У 45-м нас прывязьлі з Латвіі, усе мы туды кідаліся, штоб у тое ўрэмя… З дзеравень прыходзяць.

*– Ну, а пасля вайны, можа кідалі капейкі нейкія?*

– Ну, капейкі ўкіну, а яна возьмець! (паказвае на суседку і смяецца) Капейкі кідалі, да, было такое ўрэмя кідалі. Ну проста та-а-ак. Вот плоціш за гэту за ваду…

*– Ну, вот, а на якія празнікі хадзілі больш?*

– На Крышчэньне. Вот ідуць з пустымі (бутэлькамі). Тут дажа очарадзь. На Крышчэньне.

*– І цяпер стаіць?*

– І цяпер і цяпер, я вот хажу кажды раз і цяпер стаіць очарадзь.

*– Ну, а вот яе як-небудзь чысцілі там, даглядалі?*

– Ну, даглядалі! А-ай, ну ёсьць жа ўсякія, прыдуць такія… Там было харашо зьдзелана і заасфальціравана было – раскавыралі ўсё, раскідалі ўсё… Ну, там жалабок этат…

*– Не, ну а даўней там, у 50-х гадах, што там было, як там яна цякла, проста выцякала?*

– Проста цякла з трубачкі вада і там нічаго ніхто там нічаго не убіраў у 45-м гаду, з трубачкі з гэтай вада цячэць і ўсё. Ідуць людзі – туды-адтуль, туды-адтуль. Ну, дзе ж ты ўсіх там увідзіш.

*– На Крышчэнне хадзілі, а яшчэ на якія празнікі? Ці толькі на Крышчэне хадзілі?*

– Ай, і так ідут людзі, вот бывае на ўсякія празьнікі ідут людзі, народу сабіраецца, ідут сюда піць, хто з сабой набраць.

**Зап. У. Лобач, У. Філіпенка у 2004 г. ад Ганны Васілеўны (прозвішча назваць адмовілася), 1930 г.н. і Смарчковай Надзеі Лявонцеўны, 1927 г.н. у г. Полацку (р-н Запалоцце).**

**37**

**Святая крыніца ля Сафійскага сабора**

*– Ці не раскажаце нам, што за крынічка там на гары? Вот каля Сафіі.*

– Крынічка, там, дзе ідзець вада. Вы знаеце, дарагія вы мае мальчыкі, я тожа точна не знаю, но гаварацьь, там быўшы камісія, там многа жалеза. Бяруць жа бабы п'юць.

*– А гавораць, ці праўда, што святой называюць?*

– Ну, да, гаварат. Бяруць, я брала, там вот стаіць яна, сколька стаіць – ні мỳту няма, нічога. А раньша, там проста там працякала, працякала тока, тады там ужо зробіла ґасударства – стала чысьцей троху.

*– А вы сказалі: “муту няма, нічога”?*

– А вот знаеце, вада такая нячыстая дзелаецца. Есьлі пастаіць, то адстоі такія палучаюцца. А так чыстая, вот і не знаю, я работала ў кожным ( у скурана-венералагічным аддзяленні бальніцы), там жа кожны быў, цяпер ужо там… Дак каторы раз бываець вады нету. Дак мы пол мыць. А нам: “Што вы, нялься!” Мы ж і самі ня мылі! Веруюшчыя там усе работалі.

*– А хто не даваў, гэта начальства?*

– Там начальству… (справы), крэпка там начальству… (трэба гэта).

*– А хто не даваў?*

– Піць дак, мы самі (не давалі) гэтыя медсёстры… Медсёстры, яшчэ гавораць, што не нада. Мы ж і самі ўсё панімаем. Да, чысьценькая была. У гэтым доме жыла, яны і сейчас жывуць, манашка. Дак ана і піла ўсё ўрэмя. Пашлець мальчыкаў туды, і я хадзіла. Усё гэта строюся і строюся схадзіць туда. Старая я, а маладым некалі – работаюць, некалі прынясьці піць. Эта вот, знаеце, ана, як вам сказаць, каб вот такая, п'еш, яна такая вот, то ўкус ў яе какой-та есьць. Ну, гэта мне гаварыла, эта вот жэньшчына. Там, яна гаворыць, там была камісія. В обшчам, яна палезная – многа жалеза. А ці праўда, ці не я не знаю.

*– А ці праўда, можа дапамагала каму? Ад суроц…*

– Ну п'юць. Вы знаеце, там жа бальніцы ўсё ўрэмя былі, там жа бальныя людзі хадзілі, пілі. Проста вада харошая.

*– Ну, а ці вот здалёк, можа, адкуль прыязджалі, вот? Можа, з дзеравень нейкіх…*

– Ну, вот гэтага я вам не скажу. Калісь-та мы тут не жылі, прыязджалі мы сюда, дак насілі бабкі полацкія, прадавалі (напэўна на кірмашы?) ваду гэтую… Ну, знаеце, прадавалі, гэта ж яшчэ было калі, прадавалі на капейкі. Гэта, можа, яшчэ пры Брэжневе, можа, было.

*– А куды яны прывозілі прадаваць?*

– Насілі, проста вот. Прыязджалі, знаеце, з раёнаў, прязджалі людзі… Вот вада сьвятая, гавораць. Бабкі купляюць, ну. Вада харошая. Сьвятая яна ці не сьвятая…

**Святая крыніца ля Пераброддзя (Мёрскі р-н)**

*– А адкуль вы самі?*

– Мёрскі раён.

*– А вот там, дзе вы жылі, у Мёрскім раёне, гэта які сельсавет?*

– Пераброддзе. Там вот сьвятыя, не сьвятыя… Там крынічка, тожа ўсё гаварылі мая бабушка, і прабабушка мая расказавала, што там есьць, вот як едзеш, там быўшы хоць ў тэй старане? Вот як едзеш, кала дарогі туды, да Пераброддзя па левай старане, цепер там гасударства зробіла… трубы і гэта там зробіла такое аддыхаць там. Ну дак вот, я езьдзіла, а там… езьдзіла ж туды часта ж мы, а там… езьдзілі, дак там бабы ходзюць за вадой, але ў дванаццаць часоў ночы. Гэта ўжо свой прыду́м! (смяецца). У дванаццаць часоў (кажуць), очэнь тады вада памагаець. Мы там жылі і ў дзецтве глазы баляць каму, так ішлі за гэтай вадой і так вада, гэта яшчэ расказавала мая бабушка, ну, знаеце, гэта легенда…

*– А ў любы дзень ці можа ў які празнік?*

– У любы дзень бралі, а тыя гавораць: "У дванаццаць часоў нада!" Праўда ці не я не знаю, а мы ў любы дзень бралі.

*– Ну, а памагала людзям гэта … ад вачэй?*

– Ну, а глазы як баляць… Адзін стары ўсегда сваіх унукаў пасылаў, ідуць яны з бутылкай: "Куда йдзецё?" "Пайдзём у крыніцу, пайдзём у крыніцу" – вада там аж да нашай дзярэўні ідзе. Мы жылі, Лебедзева дзярэўня звалася і там кілометра. Дажа вот так ваду, гэту вот, хадзілі браць, а піць усё ўрэмя. Вада очэнь укусная. Чысьценькая, як крыштал!

*– А як называлі крыніцу?*

– Крыніца і ўсё! Бо там ніхто ня помніць, калі яна быўшы. Там гаварыўшы так ужо, старыя ўжо, мае старыя. Я тады яшчэ ў школу хадзіла. Ну так, што там па гэтай дарозе, быўшы дзярэўня, і там пагурачак такой… Яшчэ мой дзедушка гаворыт: "Вот тут быўшы карчма…" Ці там быўшы, ці не?! І там калодцаў па той дарозе было многа, з той стараны я не знаю, дажа патаемныя былі, гэты. Патом каторыя мужыкі раз, конюхам быў: "Што-та папробуваў, а там, – кажыць, вада сачылася чуць-чуць." Ну дак тады з гэтай, ну дак ён давай капаць, а там фармальна там ніхто ня помніць, і зруб гэты і дзераўляны і цэлы быў.

*– Знайшоў?*

– Да, знайшоў. Вада такая і зруб такі шырокі. Ну, панімаеце, як той зруб… ставяць гэты. А гэта крыніца, там заплыўшы ано была, хоць маразы якія, ўсегда такая лужайка стаяла і стаяла, дзеці перадзелалі. Лужайка стаіць і людзі езьдзілі і

бралі, бывала зімы такія сур'ёзныя, мароз быў, вада вымярзала, а туда тады на конях езьдзілі і ваду гэту прывазілі. І піць, і мыцца – усё.

*– А там капеечкі кідалі? Ахвяраваліся нечым?*

– Ну, гаварылі…Так вот гэта ўсё гаварылі, гэта ж легенда, хто там знаіць як было. Гаварылі, ну, гэта ж, канечне ж, легенда, хто знаіць як там было. Кажуць, што гэным пуцём шоў француз – Наполе́он. Я болей з акцэнтам польскім, бо я школы польскія кончыўшы. Наполеон ішоў, ну там жа стаяў тожа касьцёл і тады гаварылі тожа, што разбіўшы эта ўсё было і ўсё было разбіта, і тока вот крыніца гэта нашлася ішчо нашлася, а дамоў там не было. Ну бывала нахадзілі такія вот падмуроўкі, там усё. Ну, вада харошая, а тады ўжо ґасударства, ужо пры савецкай уласці зробілі цяпер, зробілі там, наверх зробілі і трубы там, работалі мальцы, гэта гасударства. І зробена такая як бяседка адыйсціся, пасядзець. Дажа з Даўгаўпілса прыязджалі і вады гэтай набіралі туды… Укусная, харошая вада!

**Пра хваробы і лекавыя зёлкі**

*– Ну, а вот што рабіць як вот дзіцёнак спалохаўся сабаку там?*

– Сабакі, гэта ня знаю, мы як там жылі ў нашай старане, мая дачка 45-га года, была спужаўшыся – там п'яны ішоў, крычаў, чаго ён там па вуліцы… Не так ён быў плахой, але вядома ёй было, мо, тры гады, была спужаўшыся – ноччу ўскаквала. Ну так мы тады гэтай, *півоньню краснай*, ёсьць. Вады тады. І да гэтага памагло.

*– А што вы рабілі? З півоняй?*

– А заварывала як чаёк засушаныя. Тады ў гародзе… У мяне яшчэ во, можа, яшчэ і ёсьць. Гэта ўжо сколькі гадоў тут, і то збіраю. І гавораць так есьлі – нервы, сьпіцца лепей. Ну, у аптэках прадаюцца.

*– А якія вот траўкі вы самі вот збіралі, што памагалі?*

– Вот мая мама, знаеце, дак яна даўней ўсегда… Ну, у дзярэўне старыя ўсё зьбіраюць, усякія, усякія. Траўкі там і…

*– А што ваша мама збірала?*

– Як звалася ў нас, як *зьверабой – сьвентаянка* ў нас называлася. Да, вот гэта… *Чубарэц*. Патом… А ну, знаеце, я ўжо не ўспомню. *Тысячалісьнік* збірала, вы гэта знаеце? Тысячалісьнік зьбірала. Ну, многа такіх, што я і названія не знаю.

*–А вот ці чулі такую хваробу, такая хвароба, валасень?*

– Вот я слышу ўсё пра гэта. Што вылівалі на *каласы*. За мяне ўжо старшыя гавораць. Да, называлі гэтак. Ну дак, гавораць, каласы ад жыта, ад жыта каласы. Тады нада выліваць і выходзіць гэта.

**Рожа**

– Рожа, гэта да. Рожу я сама ўмею загаварываць. Ну, гэта ж, знаеш, тады, кажуць, не паможаць. (смяецца). Гэта есьлі выпісваць… Ну вы парні харошыя, я вам бы расказала. Я вывучыўшы гэтых во дзе – дачку, адну і ўтарую, патом братаву вывучыла. Яны выяхаўшы – у Варшаве. Во, дак яна напісала: "Спасіба, што ты мяне вывучыла." Эта, ад рожы… Мой старык, яго сто шэсьць гадоў старушка вывучыла, яму была шэсьць гадоў. А там, казаў, старушка была – ехалі, ехалі да

яе загаворваць. Ну дак вот яна яго была вывучыўшы. І вот выйшла я за яго замуж. Патом мая мама забалела. Забалела і такія болі, яе трасець! А рожа, яна ж дванаццаць сартоў бываець. Вот дажа не падумаеш, што гэта. Дак мама гаворыць: "Умру, так ужо плоха." Я плачу, а ён, мой, гаворыць. А ён гаворыць: "Можа рожа?" – "Ну як, – гавару, – рожа? Як унутры там, на дзёснах, можа быць рожа?"

*– А дзе гэта была рожа? Дзе можа быць рожа?*

– Везьдзе, і не падумаеш. Да… Ну тады гаворыць: "Я ўмею загаварываць." Ну ён загаварываець. А мы з братам, брат быў з 28-га году, я ж маладая вышла замуж яшчэ мне дваццаць гадоў не было. А мы з братам ну ўжо так сьмяёмся, што: "Во, найшоўся ўрач!" Вы знаеце, маме палепшала. А маме палепшала! Патом там у ягонай дваюраднай сястры, ў сьвякрові усё ліцо распухла… Распухла ўсё ліцо… Рожа. Гаворыць: "Нету вот нікога. Кажуць рожа, наверна, рожа, – кажа ў сьвякрові." Там быў нейкі. Не знаю, дзе там тая Воўчая гара, я там не знаю гэтага. Кажаць: "Быў на Воўчай гарэ, там, – кажаць ён. – Яго ўжо нету, ён ужэ умер." Ну дык вот тады яна, тады я кажу: "Ты не гавары, што, – кажу, – не ґавары, прасі майго …" Што малады, знаеш гэта, а яна тады стыдацца будзе, што найшоўся такі. Яна тады кажа: "Ты яму скажы, ён няхай загаворыць." У сьвякрові ўсё ліцо распухша. А ён: "Гэта ты растрапала ўжо!" – на мяне. Кажу: "Плахое людзям нельзя дзелаць, а памагаець – гэта ўсё нада." І загаварыў і, гэта, як рукой сняло. Ай, што тады, што тады!

*– Адразу праходзіць як загаворыш?*

– Тры разы, гавораць, а каму ад раза. Цёця там прышла тожа, кажаць: "Умру!" Яна ж трасець і трасець. Ай, ну ўжо такое плахое бываець, што… Прыйшла яна да нас, а яна да нас за два кілометры жыла. Прышла яна да нас і кажаць: "Вы Сярожа?" І трудна так, і ташніць. Ну тады яна, мой загаварыў. Яна заначавала, назаўтра загаварыў. Как раз картошку капалі. Праз тры дні глядзём ідзець так праз луг, ідзець і з вядром. Кажаць: "Іду врачу картошку памагаць…" Гаворыць, як рукой зняло. І многім-многім. Мне тожа самой тожа было ў грудзі, радзіўшы дзевачку. Кармлю грудзю, а ён як ішоў звонку і вецер, так на мяне вецер. І раптам у мяне стала цемпература. Адразу цемпература. І дажа грудзь, як у бальніцы, рэзалі. Сказалі эта масьціт. Раскраснела грудзь, а гэта прыехалі, ну ж гэта навяшчалі. Тады, гэта самае, цёця мая прыязджае, а мама са мной сядзела. Мама гаворыць: "Забалела, вот здаровая была, забалела." А мая цёця гаворыць: "Вы глядзіце можа рожа, як грудзь забалела!" А нам і неўдагад! Ён загаварыў мне во эты масьціт разыйшоўся і ўсё. А я ў бальніцы ляжала. Тожа спасла адну. Рабёнка забралі да маткі, а яна ўжо ні ляжаць не магла, нічога не магла – парэзалі яе ўрачы! Яе парэзалі ўрачы тады яна… Я ляжала з даўленіем там. Тады яна кажаць: "Можа, – кажаць, – ў мяне рожа, цёценька. Загаварыце вы мне!" Я загаварыла і яна першую ноч уснула. Але яе ўжо была парэзаная. Ну ўжо патом мяне з бальніцы выпісалі, а яна ўжо прыйшла і кажаць: "Загаварыце, гэта ж тры раза нада." Але, як на добрае, так і адразу здымае. Дак яна сказала, дак я яшчо загаварыла, пасядзелі троху, як ад'язджала, яшчо загаварыла. Дак палепашала. Яна на пошце ў нас там работала. Дак посьле мяне ўвідзела, кажа: "Спасьлі вы мяне." А

то кажаць: “Сястра ў мяне ні сядзець не магла не павярнуцца”. Гэтакая яна, ой! А там у нас у дзярэўне была. Спануюць болькі. Балячкі такія па ўсім целе. І я гэта загаварывала. Гэта рожа.

*– А вы казалі, што яе ёсць дванаццаць сартоў.*

– Да, дванаццаць сартоў.

*– А вы іх перагаворваеце?*

– Я? Не. Якая б яна не была, я адзін, адзін (загавор). Ну, я раскажу, толькі нада, што б вы, можа, запісалі. Запомніце? Толькі яна на польскім языку. Віжу, вы парні харошыя… Толькі як загаварываць, нада перахрысьціць. Перахрысьціць эта места і дзяржаць.

*– А якой рукой? Правай?*

– Ну, правай! Мы ж крэсьцімся правай. І вот я тады загаварываю. Ай! Як вывучыла, так я многа-многа каму! Вот дажа ў Полацку так загаварывала. Дай жа Божа, што б яе ніколі не было этай рожы… Сколька слоў на польскам: “*Шэд Пан Езус пшэз поле, нюс тшы ружы. Една – ссэхла, друґа – здэхла, тшэця – сама зґінэла. Нех пшэз моц боскую зґіне!*” Божыя слава!

**Зап. У. Лобач, У. Філіпенка у 2004 г. ад Гайлевіч Ганны Янаўны (пераехала ў 1970-х з в. Лебедзева Мёрскага р-на), 1924 г.н. у г. Полацку (р-н Запалоцце).**

## 38
## Традыцыі і сучаснасць

*– А ці былі такія, можа і зараз ёсць, людзі, што вадзічку даюць ад хвароб?*

– Ёсьць такія людцы, але нам поп сказаў, што ёсьць сьвянцоная вада і не нада нікуды хадзіць. Сьвятая вада усё памагаіць. “Не нада, – кажыць, – ніякіх бабак. У Баярове ёсьць бабка такая. *Трапачку* нейкую загаварваіць (ад пуду), даець, а тады курава, дымком гэтым. Даўней было ўсё, а як адамруць ўсе гэтыя людзі, што тады будзіць? Нічога ніхто не знаіць. Вот цяпер зьберуцца якая бяседа, яны ж нічога не пяюць, нічога! У мяне ж дзьве дзеўкі. Адна ў Наваполацку жывець, а другая во тут жывець, работаіць у школе учыцельніцай. Яны ж, як скажу ім, дык яны аж злуюцца. Ім не нравяцца гэтыя песьні і ўсё.

**Зап. У. Лобач у 2006 г. ад Асташкевіч Ганны Іванаўны, 1928 г.н. у в. Бабынічы.**

## 39
## Купальскія зёлкі

– З Купалкі зёлкі сьвянцоныя ставілі ў хлеў...

*– Ну, а якія, прымерна, сабіралі зёлкі?*

– Зёлкі сабіралі такія: *чабрэц, зьверабой* і *рамашку палявую*. Ну, в обшчэм, це, каторыя упатрабляюцца, сабіралі. Тады пасьвенціш – і дома паложыш, каб яны высахлі. А патом, зімой, можна ў чай кідаць, заварываць. Раньшэ дзяцей малых, як спугаюцца, курылі. Зёлачкі гэтыя лажылі на скавародачку такую, на ма-

ленькую. Патом гэтыя зёлачкі запаліш, але не агнём каб, а каб толькі курыліся, каб дымок ішоў зь іх. І патом рабёначка гэтага бралі і над дымком гэтым дзяржалі. На руках дзяржалі і абкурвалі. А есьлі вот бальшога, дык тады гэтай скавародкай каля яго абносілі.

**Рожа**

– А рожа – гэта васпаленьне такое бываіць. Везьдзе можыць быць: і на руках, і на нагах, і на ліцэ. Ну, ад яе усяк лечацца. Хто загаварвае, хто знаіць загаворы. Хто проста *аржаной мукой* абсыпаець і краснай трапачкай нада завязваць. І на трапачку нацярэць *мелу* школьнага, што на досках пішуць. І вот трапачкай гэтай з мелам на бальное месца прылажыць.

*– А з чаго яна бывае?*

– Ай, ад усяго. І ад ветру, і ад вады, і ад камня.

*– Бываюць такія камяні?*

– Да, да, да! Яна ж рожа, не помню ў якім гаду чытала, што яна бываіць і ад дрэва, і ад ветру, ад хоць чаго.

**Волас**

– А ў нас была бабка такая і яна волас вылівала. Нада, я не знаю сколькі, жытніх каласоў, но без зярна, пустых, і тры разы па дзевяць яна адшчытывала. Тады гэтыя каласкі звязваюць у пучок. А патом, нада каб вада была цёплая, гэтыя каласкі апускаюцца ў ваду і палец тожа. І яна тады гэту ваду чэраз гэтыя каласкі ліець і гаворыць, што, на кім які волас ёсьць, штоб волас ішоў на колас. І чалавечы, і конскі, і кароўі... А патом яна, калі гэта прагаварыць усе гэтыя загаворы, то вымець палец і вымець гэты пучок каласкоў і яны ўсе зьвітыя валасамі.

*– А волас з чаго бывае?*

– Ну, бываіць, што ўдарыла сільна і абразуецца нарыў, і па какой та прычыне абразуецца волас. Я помню, быў случай у нас такі у Ухвішчы, мужык быў. І ён усё езьдзіў і езьдзіў у Ветрына (у бальніцу). У яго ужо костачкі пачалі з пальца выхадзіць. Ну і прэдложылі яму палец адняць. А тут была жанчына такая, Дуня Тарасевіч. І, значыць, пайшоў ён к ей, а яна яму зрабіла тры разы – і прайшло. Вот палец і вылячыўся. І дажа, тады як яму прэдложылі адняць палец, медсестра, каторая работала ў бальніцы, гаворыць: “Не атнімайце вы палец, а ідзіце ішчыце бабку сабе”. Вот так палучылася.

**Глаз**

– А з глазу бываіць... А, знаеце, глаз разны. Усякая мінута пападзецца. У мяне такі случай быў. Яшчэ дзяржалі мы авечак. І вот авечка акацілася – двое ягнятак прывяла і яны такія небальшэнькія былі. А втарая – аднаго. І гэтат адзін быў такі бальшушчы і позжэ радзіўся. А дзеці пайшлі ў сарай і кажуць: “Ай, мама, ну ты паглядзі, і позжэ радзіўся, а паглядзі, які ён бальшы!” Добра. Утрам я прыхаджу ў хлеў – ягнёнак ляжыць, не падымаецца. Я яго падняла, а ён балтаецца. Ай, што ж зрабілася?! А пасьля мне прыйшло на памяць: “Ай, гэта ж дзеці ўчора цешыліся, што ён такі бальшы”. Ну, пайшла я да той бабкі, да Фёклы. Вот

так і так случылася у мяне. Яна там, не знаю чаго, нагаварыла і вадзіцы мне дала. Я прыйшла да ягнёначка, папаіла гэтай вадзіцай, памыла. У абед прыйшла – ягнёнак па хлеве скачыць. Усякае бываіць ў жызьні.

**Залатнік**

*– А залатнік з чаго бярэцца? Як яго лячылі?*

– Залатнік – гэта бываіць ад цяжолай работы, ад падрыву. Тожа загаворамі лечаць і траўку п'юць. Траўка ёсьць такая – *вужэўнік*. Расьцець, большынство, окала рэк, у сырых местах. Корні заварваць нада. Ну, ён настайваецца, тады п'ецца. Скока раз пап'еш яго і нада леч, роўненька паляжаць на сьпіне, мінут пяць паляжаць.

**Дзічы**

– Ай, ну хто яго знаіць ад чаго яны бяруцца. Казалі даўней, што як у гарох дзеці, як любілі сабіраць (красці), то і будуць тыя дзічы. Дык на нас крычалі: “Не сабірайце гарох, а то дзічы будуць на руках!” А тады *суровая нітка* нада і што б льняная была. І тады на гэтай нітке завязвалі вузялкі. Прымерна сколька іх (дзічоў) ёсьць, столькі і завязвалі – над каждым узялок. А патом гэтай ніткай патрэш, патрэш па руцэ і нада занесьці закапаць дзе-небудзь у сырым месцы, каб яна быстра згніла. Калі гэта нітка згніець, яны ўсе звальваюцца.

**Звіх**

– І ад звіху тожа нада *нітку* загаварваць. Тожа льняная, суровая і штоб такая длінная. Гэта – дык і я знаю помашч. Нада знаць дзевяць жэньшчын-ўдоў, у каторых мужыкі памёрлі. І іх імёны називаць і на каждую гэтую жэньшчыну завязваць вузялок. І тры разы нада гэта перагаварыць. А патом (як пройдзе звіх) гэту нітку можна не выкідваць, яе можна бярэч. А ўдруг каму-небудзь панадабіцца.

**Мак**

– А *мак* бывала ў калодзец сыпалі, каб дож ішоў. Богу моляцца і мак сыпюць. Дык цяпер маку нідзе няма. Скажуць (як пасадзіш) – наркоцікі.

*– А з маку такую соску не рабілі маломy, каб спаў добра?*

– Ай, было! Варылі мак і паілі малых. Ай, Божа мой, у Вуглах двайняшкі радзіліся і такія былі неспакойныя. Ай, Божа мой, што ім не рабілі. Дык яны навараць маку, напояць іх... І дзеўкі вырасьлі як пірагі! І сягоньня вунь па 75 гадоў ім. І не было ніякай наркаманіі (сьмяецца).

**Зап. У. Лобач, У. Філіпенка у 2006 г. ад Прашковіч Любові Аляксандраўны, 1926 г.н. у в. Баярова Бабыніцкага с/с.**

**40**

**Сурокі**

– Вот у мяне самой во тутака ужо было. Тут у саседа дочка, вот яна ужо замужам. І карова у мяне была. Вот падаіла я гэту карову. Надаіла даёначку малака поўную, аж пена ўверх і хазяіну свайму кажу: “На, малако нясі, ня буду за-

крываць. Тутака, гэта, нікога нет, а я карову перавяжу”. І ён прыйшоў, а дзяўчына гэта з дзяўчатамі сядзіць на скамейке. А ён, як прыйшоў, так і нясець гэта малако. І яна нічога не сказала, толькі відзела гэта (малако). Ўсё! Малака не стала! У адной сіське – ні грама малака! І вот што не рабілі, як ня лечылі – нічога ня зробілі. І пака не ацялілася – не было малака. Як ацялілася, тады ўжо нармальна стала.

**Упуд**

– У мяне брат, пяць гадоў было, памёр з упуду. А як было. На таку малацілі. А ў нас такая кабыла была быстрая і каля току навязалі яе. А мальчыку гэтаму есьці захацелася, і мама ўзяла яго за ручонку і вядзець. А кабыла гэта ляціць ззаду за імі. А ён і глянуў, што кабыла бяжыць, і спужаўся. І так спужаўся, што рады ніякай не далі, ня вылячылі – і памёр.

**Валаснік**

– Валасьнік? Во ў мяне ў пальцы быў. Гэтак баліць, што месца сабе не находзіш. Дажэ так пабаліваіць, што аж косьці вывальваюцца.

*– А з чаго ён браўся?*

– Ай, ну хто яго знаіць. Во гэтак, як нарыўчык такі. Гэта зробіўся, распух, як нарыўчык жоўценькі такі. Ай, што я толькі не робіла: і парыла, і лісьцем прыкладала, і тое, і тое. Ніяк. Тады ўзяла пракалола. Як пракалола, трошачкі гэтага мусару вышла і ўсё. І пачало мяса такое вылязаць. Ну, і тады толькі загварвалі. Гэта каласкі з жыта. Тады уверцюць, у ваду палажаць. Ну, і там загаварваюць. Вот і загоіўся.

**Далман**

– Я сама езьдзіла к гэтаму Далману. У мяне быў брат забалеўшы. Проста сам із сабой быў. І робіў абы-што, ішоў абы-куды, і ніяк зь ім саабразіцца неяк было.

*– Дык гэта можа што з галавой было?*

– Ну хто яго знаіць. А посьле ён адыйшоў, потым ажаніўся і жыў. Вот толькі памёр. І паехала я да Далмана. Людзей тамака – як усё роўна базар! Многа! Пашла. Паглядзеў: “А нічога, – кажыць, – паправіцца”. І вады дзьве бутылачкі даў. І, гэта самае, прыехала. Цераз некатарае врэмя і атышоў (брат).

*– А які ён быў, той Далман?*

– А сам старычок быў сівенькі, барадаты, дзядзька такі плотны. І сын быў. Кажуць, што іхнае ўсё пакаленьне (род), гэта (умее).

*– А ці давалі яму што, ці плацілі?*

– Ну, сколькі дасі. Адна тут езьдзіла і не было ў яе грошай. Адалжыла. А тады аддаець яму гэтыя грошы, а ён кажыць: “Не нада, – кажыць, – вязі і аддай іх таму, у каго ўзяла. Яны не нада мне”. Такі ён... Ну, в обшчэм нічога так дрэннага так не робіў. Добры дзядзька быў.

**Зап. У. Лобач, У. Філіпенка у 2006 г. ад Ражноўскай Алены Пятроўны, 1918 г.н. у в. Жураўна Бабыніцкага с/с.**

# РАСОНСКІ РАЁН

## 1
## Пра знахараў і чараўнікоў

– Быў такі сільны знахар Януш. А была карова захварэла. Тады дзед яшчэ мой і дзядзька пайшлі да яго. Януш той вады зрабіў, шаптаў там нешта і сказаў, што аддыхаць нельзя, а нада скарэй ісьці дамоў. Каб пасьпець да усходу сонца. Ну, яны і ішлі цэлую ноч. Але пасьпелі. Далі той вады. І што ты думаеш. Чэраз паўчаса – карова саўсім здаровая. А яшчэ быў случай. Старая пайшла ў хлеў чаго та і зваліласся. Стала крычаць. Стала потым хварэць. Сын ёйны паехаў да знахара, да Януша таго. А ён і гаворыць, што зроблена ўсёй іхняй сям'і і скаціне. Але сказаў, што пакуль ня можа памагчы ўсім, бо той (хто падрабіў) мацнейшы. Але даў вады, каб спасьці матку. Вылечылі старую і паехалі зноў да знахара. Той сказаў, каб вывязлі ўвесь навоз з хлява. Прывезлі тады знахара. Ён нешта там рабіў у хляве, але іх не пусьціў. Сказаў, што пад вуглом косьць закапана і на ёй было зроблена і скаціне, і сям'і.

*– Ці праўда, што такія людзі цяжка паміраюць?*

– Гэта чараўнікі. Калі чараўнік памірае, должэн перадаць каму-небудзь. Калі не памірае, падымаюць столь ці надзяваюць хамут. А калі няма блізкіх, то перадаюць, часам, абманам. Перад сьмерцю бяруць руку ў свае і перадаюць – тады лягчэй памерці.

*– Можа яшчэ якія случаі былі?*

– А мая нявестка ляжала з сынам у бальніцы. А з імі ляжала старуха. І старуха тая гаворыць, каб нявестка прасілася дамоў і забірала маленькага, бо яго сільна калолі. Сказала, што яму вады нада. А тут прыходзіць дохтар і спрашывае ў старухі ці доўга яна сабіраецца жыць. Бо нядаўна гаварыла, што памрэ. А яна сказала, што не сабіраецца, бо лініі на руцэ яшчэ не скора сыдуцца. Старуху выпісалі і нявестка тожа стала прасіцца. Пад распіску пусьцілі. Назаўтра паехалі яны к бабке. Бабка зрабіла вады і сказала, калі не выздаравіць, каб прыехалі другі раз. Нявестка папрасіла, каб ёй што прадказала. Бабка разлажыла карты, паглядзела на яе, злажыла карты і нічога не сказала. Сказала, што скажа ў другі раз. Прыехала дамоў – мальчык паправіўся. А тут утануў брат мужа – мой сын. Яна паехала да бабкі. Тая сказала, што як я вам магла сказаць такое гора. Так бы места не нахадзіла, валнавалася. Сказала, што яго сьмерць – вадзіца і ён не абышоў бы, не аб'ехаў нідзе. Гаворыць, яшчэ адзін бальны блізкі ёсьць. Яна падумала што дзядзька, а ён ужо быў стары і дужа хворы. А баба кажа што не той. Той ужо стары і ня выздаравее. А гэты маладзейшы і можа выздаравіць. Яна здагадалася што гэта свёкр, мой мужык. Бабку тую судзілі. А яна ж вылячыла знатнага з Масквы. Залячыла нагу. Той аставіў адрас. Калі яе судзілі, яна паслала пісьмо і бабку выпусьцілі.

**Зап. У. Лобач і студ. ПДУ С. Чакушка у 1998 г. ад Грышэнка Клаўдзіі, 1929 г.н. у в. Шылава Краснапольскага с/с.**

**2**

**Лекавыя зёлкі**

*Крываўнік* – прымаецца ад надрыву страўніка, пры белях у жанчын, пры крывацёках.

*Душыца* (мацярынка, мацярынская трава) – пры крывацёках, пры родах, дапамагае ад кашлю, пры жаночых хваробах.

*Святаяннік* – ад хвароб сэрца, нізкага ціску, пры прастудзе.

*Гарлавіца* – пры ангіне, прастудных хваробах.

*Піжма* – ад глістоў, ад молі.

*Пустырнік* – ад хвароб сэрца.

*Чыстацел* – з яго рабілі мазі, мылі у чыстацеле дзяцей ад усякіх болек.

*Бясьсмертнік* – ад печані.

*Рамонак* – дапамагае ад гемароя, пры жаночых хваробах, пры выпадзеньні валос, ад прастуды.

*Чабор* – дапамагае ад прастуды.

*Курасьлеп* – адвар з яго пілі, каб перарваць цяжарнасць.

**Зап. студ. ПДУ С. Чакушка у 1998 г. ад Уласенка Ганны Іванаўны, 1936 г.н. у в. Азёрная Заборскага с/с.**

**3**

**Пра знахара Сеньку**

Сурочыць можа любы ў дурную мінуту. А чараўнікі яны ж ёсьць. У Чысты Чацьвер яны голымі абходзяць свой агарод, каб не было травы. Яны ў Хрыста ня верацць, у іх свой Бог. Во тут у Дудках чараўнік (Сенька) гаварыў: “Выйду на двор у 12 часоў (ночы) і пра ўсё на сьвеце знаць буду”. Ён людзям жызьнь прадсказываў. Сказаў быў двум мужыкам: "Бойся жалеза і бойся вады". І адзін папаў пад трактар, а другі ўтапіўся. А гаварыў так, глядзеўшы на руку. Ён мог варажыць і на стале. Толькі каб быў дзеравянны і без гваздзей. І пытаўся адзін мужык колькі яму жыць асталась. Сенька той паклаў рукі на стол, на самы краёчак. Ну і пытаецца колькі год асталась. Стол не падняўся і ня стукнуў. Тады спытаў колькі месяцаў. А стол з другога краю падняўся і стукнуў 6 разоў. І праз шэсьць месяцаў мужык памёр.

**Зап. У. Лобач і студ. ПДУ С. Чакушка у 1998 г. ад Кутузавай Галіны Іванаўны, 1945 г.н. у в. Дудкі Заборскага с/с.**

**4**

**Знахарскія веды**

– Без Бога не да парога. І загавары ад Бога. Бацька не ўмеў і матка не ўмела. Ніхто мяне не вучыў. Мне ва сьне... Прысьнілася мне Багародзіца. Яна ішла і трубіла ў залаты ражок. Вось як мне прысьнілася Багародзіца, так я і смог, стаў памагаць людзям. Усе загаворы мне ва сьне прыйшлі. А памагаю ад уроцы, ад пуду... Толькі знакомым, харошым людзям памагаю.

*– А які ён Бог?Стары, малады?*

– А вы што ў цэркві не былі (смяецца)?

– *Былі.*

– Дык ці ж ня бачылі. Там многа ўсякіх багоў. І старыя ёсьць і маладыя. Багоў жа многа.

**Зап. У. Лобач і студ. ПДУ С. Чакушка у 1998 г. ад Амосава Сямёна, 1922 г.н. у в. Дудкі Заборскага с/с.**

### 5
### Пра чараўнікоў і знахараў

– *А чараўнікі былі тутака?*

– Былі чараўнікі. Во як на Купалу – малако ў кароў адбіралі ці хваробу якую маглі наслаць. У нас жа ў сям'і так і было. Прыгналі карову пасля Івана. А яна ідзе, як спутаная. Сусед яшчэ нам:"На што карову спуталі?". Прыгналі карову дамой – стала падыхаць. Бацька тады з'езьдзіў за знахарам. Ён вады нейкай даў і сказаў:"Будзе жыць". І кароўка паднялася. Так во з цёткай маёй было. Ёй чараўнікі муху ў сярэдзіну ўсадзілі. А яна ж цяжарная была. Толькі знахар і выгнаў.

– *Дык значыць, чараўнікі злыя, а знахары добрыя?*

– А ня го! Чараўнікі – злыя, а знахары – добрыя. Чараўнікі хваробу наслаць могуць, малако адабраць, а знахары лечуць, памагаюць.

– *А чараўнікі знахараў баяліся?*

– Канешне баяліся. І царквы баяліся і знахараў.

– *Дык знахары сільнейшыя былі?*

– Не, сільнейшыя, мабыць, чараўнікі. Яшчэ, як знахар схваціцца з чараўніком, то сам ня знаіць ці ацалее.

– *А ў вас тут знахар быў?*

– Не, не было. Знахараў іх жа мала было. Каб можа такія, ну, якія ня ўсё могуць, а тыя, што ўсё могуць – іх мала. Во, быў бальшы знахар у Глыбокім. Дурман (размова йдзе пра Далмана) яго звалі. Дык баба адна паехала да яго, кумпяка яму вязла. А, як ён ёй зрабіў усё як нада, яна яму кумпяка пашкадавала. А Дурман на яе паглядзеў і кажа: “Ляжыць там і там, але мне твой кумпяк ня трэба. Забірай.”

**Зап. У. Лобач у 1992 г. ад Марозавай Хрысціны Мікалаеўны, 1915 г.н. у в. Абухава Клясціцкага с/с.**

### 6
### "Божанька, калі Ты ёсць..."

– А во яшчэ што я вам раскажу. Брат у мяне быў радны Нікалай. І ён хварэў... З лёккімі ў яго бяда была. Завезлі яго ў Полацк. І там аперацыі яму дзелалі, сам прафесар. І так, ну саабшчылі ўжо нам, што б прыехалі ў Полацк. Ужо што, мол, безнадзёжны. А я тады, я ж ад людзей праталась, я ж ужо робіла ў сельсавеце. Каб людзі ня бачылі, на каленях у хаце увесь дзень :"Божанька, калі Ты ёсьць, памажы! Калі Ты ёсьць, дай Колю дзесяць год жыцьця". А брата ўжо сюды прывезлі. І пайшоў ён на папраўку. Божа! Як я плакала потым, што так мала папрасіла. Роўна дзесяць год ён яшчэ і пажыў. Вось так, хлопчыкі мае...

**Зап. У. Лобач, Ю. Насевіч у 1992 г. ад Коршун Кацярыны Мікалаеўны, 1929 г.н. у в. Юхавічы.**

# УШАЦКІ РАЁН

## 1

### Сурокі

– …Як свіньню рэжуць і дзюрачкі гэтыя дзьве (*свіны лыч*). Ну вот, нада іх вымыць, высушыць, палажыць. Вот кагда чалавеку плоха станець, прагаворываць, праліць праз гэтыя дзірачкі ваду і ўсё. Тры разы.

*– А з якога бокуналіваць?*

– З гэтага, во так! З гэтага, каторы, каторы гэта, наружу. Вот з гэтага і праліваць у другую пасудзіну. Тры разы нада пераліць.

*– А яшчэ праз што-небудзь пралівалі? Праз клямкі?*

– Праз *клямкі!* (смяецца). Гэта мая мама даўней усё, ну не знала нічога ніякіх загавораў, так яна ўсё праз тры *клямкі* праліець і кажаць: “*Тры ўракло – два ўцякло. Тры ўракло – два ўцякло…*”. (смяецца) У яе быў такі загавор.

### Валаснік

*– А вот такая хвароба даўней валаснік.*

– Гэта я загаварываю. Цяпер людзей лечуць. А вот яна, бываець, што с удару можаць. Кагда-то, не то, што ў тую мінуту. Када-нібудзь ударыцца, прыцісьнецца, там эты самы. Яна бываець с удару. А бываець з глазу. Вот прагаворуць чалавека, зглазюць. І гэта не то што там просьценька ад чаго-нібудзь. А бываець, што с удару, кагда прыцісьнеш, там, палец, ці там што. Але яна з глазу бываець. Гэта балезьнь очэнь балезьненная!

*– А тая, што з удару, яна лягчэй лечыцца, чым са зглазу? Ці адзінакава?*

– Адзінакава. Яна адзінакава баліць, яна адзінакава і лечыцца. Толька вот кагда ў бальніцы лечуць, дак вот яны лечуць у іх усё лячэнне, што яны рэжуць, рэжуць, рэжуць, а мяса адтуль прэць, адтуль ад касці вылязаець. Яны на заўтра яго апяць. І дарэжуцца да таго, што атнімаюць ці палец, ці руку усю, ці нагу. Гэта ж очань страшная балезнь!

*–А што ж там у пальцы робіцца такое?*

– Ну вот, як па-даўнаму, так гэта там валасы на каласы выліваюць і на *верус*. Ветачкі веруса (*вераса*). І вот, эта самае, і на *каласы* нада выліваць. Нада каласкі пустыя. Жытнія.

*– А вот верас ці каласкі, як вы выбіраеце? І на то, і на то?*

– Не! Можна і на тое і на тое. Па-рознаму! Не сразу класьці. Венічак такі дзевяць каласкоў нада злажыць. Ну і гаварыць малітву. Доўга нада маліць!

*– А ўсё роўна жанчыне ці мужчыне?*

– Разніцы нікакой нет. І малітвы такія самыя, і такія самыя слава.

*– А і што папраўдзе вылазяць валасы?*

– Канешна! Канешна. Усякіі! Усякіі. Не дай Бог! Не дай Бог такія балезьні! Такія балезьні страшныя!

*– І што, вот ударыш руку ці нагу, яны самі сабой там заводзяцца?*

– Ну, вот такая балезьнь. І ат даўна яна так шчыталася. Яны цяпер завуць урачы панарыца, а па-народнаму яны звалася валасень. І тада загаварываюць валасы, адкуль яны бяруцца?! І тую ваду, якую, нада каб цёпленькая вада была – гарачэйшую, гарачэйшую падліваць, і тую ваду кагда выліваеш гэтым венічкам, там палец, ці на назе, ці на руцэ, гдзе там. І тады тую ваду нада абязацельна выліваць было пад куросадні, там, дзе сядзяць куры. Вот. Кагда выльеш гэта, гэту малітву адмолішся над гэтым бальным чалавекам, тагда і выліваць.

– А *самі тыя каласы, дзе гэтыя валасы куды…?*

– Вот там яны і астаюцца… Вот і хай будуць. І вечарам выльеш, і паутру выльеш. І ўсё.

*– Гэта разам з каласамі?*

– Да. А яны так і будуць з каласамі. Пакуда не вызавеш іх усе. Вот тада спаліць (каласы з валасамі)!

*– А дзе іх паліць трэба было?*

– Дзе, як у дзярэўні, так у печкі спаліш, укінеш. А не, дак выкінеш куда-нібудзь на свалку. Там, дзе людзі не ходзяць.

**Мёртвая вада**

*– А вот даўней як абмывалі пакойніка, можа, што з вадой гэтай рабілі?*

– Пакойніка кагда мылі, дак эта толька насілі куда-нібудзь, не лілі, вот прымерна выліць – за вароты вyліў. Не лілі! Нада было занесьці, выліць куда-нібудзь, дзе людзі ня ходзюць. А када врэдны чалавек такі, і хочыць чалавеку вражду прынесці, кагда пакойніка памыюць, а ён прынясець, на самы кут выльець. Там на вуліцы возьмець ды выльець, вот і вражда пайдзёт на гэтат дом, на гэтага хазяіна, на ўсіх.

*– А што можа быць з гэтай ўражды?*

– Што? Уміраць стануць людзі! Што ж можаць быць?! Вядома, не дабро ж будзець. Варажэй, ён жа ж робіць на вражду, дак вражда ж і палучаецца…

**Вогнік**

*– Зінаіда Аляксееўна, а вот такая хвароба "вогнік"?*

– І гэтат загаварываецца вогнік.

*– А ад чаго ён бярэцца, ад чаго ён так называецца?*

– А вот бываець, эты самы прышчык станець – пачэшацца, пачэшацца. От і раскідываецца, раскідываецца. Када каля агня пабудзеш і з той болечкай. От яна і раскідываецца. Эта называецца вогнік. Такія пятнышкі, пятнышкі… Ну яны такія мокнуць. Ну цяпер жа маскі ўсякія даюць, а даўней жа загаварывалі. І загаварывалі абязацельна нада *дзевяць вугалькоў* адшчытаць і вот так вот па тому месту. Так кажуць: "У цябе ж вогнік во!" Ну вот і малітва ёсць такая, загаварывалі.

*– А вот калі прышчык ужо ёсць і трэба ля вагня стаяць, можа што трэба зрабіць, каб не перакінулася…?*

– Да не! Бываець ён будзець, і нішто – пройдзець, нічога не астанецца.

*– А ён лёгка лечыцца?*

– Ня дужа! Некатарым лягчэй, а некатарым… Кагда ўцягнецца, ён жа мокнець, ён жа баліць што раз больша. Пятнышкі станавяцца, болькі гэтыя мокрыя і пятнышкі станавяцца, такія красныя.

*– А ён болей у дзяцей ці…*

– Да не! У ўзрослых бываець.

**"Старчаская балезьнь"**

*– А ці бывае ў дзяцей такая хвароба, што вот народзіцца і ліцо зморшчанае такое, як старычок такі?*

– Ну эта "старчаская балезьнь" такая называлася. Ну не знаю я гэта такую балезьнь… Вот такая трава расла, цяпер як стала эта удабрэньня сеяцца – тая трава шчэзла. Вот тады рабёнак не расьце, у ім прыбытку нетуці. І вот тая трава называлася прыбытнік. Вот цяпер я гляджу ў каго-нібудзь, гэта, ну па гарадах, у

бальніцах, у саседкі такі цьвяток ёсьць – усё, такое лісьце, такая форма. Ён такі во крэпенькі, поўненькі такі, як надуты.

*– А які цвяток у яго?*

– Не знаю, ці цьвіцець ён, ці не. Ён то не цьвіце. І той *прыбытнік* не цьвіце. Ён больша не расьце – во такі во (паказвае). Ён такі сверху да нізу крэпенькі такі. Так даўней такога рабёнка, калі родзіцца – вот такі, вот такі зморшчаны, сілы вот у яго, прыбытку нет – даўней купалі ў такім вот прыбытніку. Бываюць, што сушылі яго. І тады нада было купаць таго рабёнка ў прыбытніку. Яно й памагала.

*– Можа, што калі цяжарная не так зрабіла?*

– Гэта не ўказана было, што гэта за прычына, якая была, што такія дзеці раджаліся. Цяпер жа якія, ўсякія уроды раджаюцца, так яны ім астанаўліваюць балезьнь, кажуць. Ай, ці ён рахітны, ці ў яго старчаская балезьнь была. Но вот лечылі тэй травой, *прыбытнікам*.

*– А чаго зараз болей стала уродаў, чым раней?*

– Таму што радзіцелі – драні! Ва-первых, што ні ва што ня верацъ, ва-втарых, што п’юць гарэлку, табаку куруць. Вот і раджаюцца уроды. А тады самі б’юцца, душуцца, а дзеці, ён і родзіцца бальны. Ён родзіцца, а ў яго ўжо няма таго, што нада нармальнаму рабёнку, а тады папробавай яго вылячыць гэтай самай. Бальніцы што лечаць, яны ж лечаць, возяць, плоха вылечываюць і народным лячэньнем лечаць. Эта прыўраджзённае плоха ле́чыць.

**Лекавыя (свянчоныя) зёлкі**

*– А вот на Купалу ці сабіралі траўкі якія?*

– Да, гэта ж сягодня Купалка і песні ж такія піялі “Сягодня Купалка, заўтра Іван”. Ну вот на Сьвятога Івана дзеўкі зёлкі зьбіралі, гэта нада было абязацельна на Купалку зьбіраць усе *зёлкі*. Цяпер называецца *зверабой*, а даўней гэта трава, гэтыя зёлкі называлісь *свентаян*. Ён очэнь быў лячэбны ад усяго веку, ад пакуль вякоў, вот ён і называўся свентаян, патаму што празднік жа Іван. Вот папольску гэта сьвентаян, а па нашаму Іван. Дык вот гэта самае на Купальскую ноч сабіралі ўсе зёлкі, а на наўтро на Івана ішлі сьвяціць. Хто ішоў у касцёл вот сьвяціць, хто ішоў у цэркву, но абязацельна. Гэты зёлкі очэнь шчаталіся лячэбныя, вот када там дзеці балеюць, пугаюцца там када там, якая сабе… Цяпер жа ж лечуць таблеткамі ды ўколамі, а даўней жа лечылі толькі, толькі зёлкамі ды загаворамі. Вот і гэтыя зёлкі очэнь шчыталіся лячэбнымі. Кіпяцяць тады, када гэтымі зёлачкамі пояць дзяцей, бываюць дзеці не сьпяць.

*– А вот яшчэ як свентаян, якія яшчэ сабіралі зёлачкі?*

– Любыя: і *гарлянкі* сабіралі, і *адуваньчыкі* сабіралі, і *рамонкі* сабіралі двухсартовыя.

*– А якія бываюць рамонкі?*

– Яны ж бываюць такія: тоўсьценькія растуць нізенька, яны очэнь, у іх запах такі, а другія беленькім цвіцяць, а тыя не цьвіцяць. У іх толька шышачкі вот такія жоўценькія, но з іх і семечкі.

*– Ад чаго яны памагаюць гэтыя маленькія?*

– Вот дзецям давалі раней, кагда дзіця спугаецца. Калі, не дай Бог, в даму пакойнік. Вот, а бываець, што адзін чалавек памрэць нічога, а другі жа памрэць чалавек і ў доме астаецца вот такі воздух не дужа добры. Тады гэтыя зёлачкі запаліць і абайсьці па хаце. І ўсё ісчэзьня.

*– А абыйсці як, па сонцу?*

– Да, па сонцу. Па часавой стрэлцы. Вот бываець на Вербніцу, *вербу* сьвянцілі. Вербачку запаляць, к вербачцы ставілі вот па-нашаму называецца ядленец. Абязацельна нада было гэтат *ядленец* ставіць. Гэта што ў Ісуса Хрыста вянок сьплецены быў калючы. Калі тока ў доме астаецца недобрае, з гэту ядленчанку запалі, па часавой стрэлцы адзін разок дом абайдзі і ўсё ісчэзнет. Нічога не астанецца. Запах, які бывает. Даўней не так ужо жылі людзі багата: у тых капусту мочаць, у тым агурцы ставяць. Бывае запах. Наламайце ядленцу гэтага, накладзі ў гэту бочку, і кіпяточкам завары, закрый, хай пастаіць. Нікакога запаха. Всё как новенькае станет, нікакога запаха.

**Пасвячоная вярба**

*– А купальскія зёлкі, як год праходзіць, як новае Купалле, што са старымі рабілі?*

– Як вот *вербачку*, дык вот прымерна год праходзіць, ужо я яе пасьвянціла (я яе кожны год сьвянчу), цяпер госьці прыехалі, дык яна ў мяне на стале стаіць, у ўгалочку там звязанная. Дык вот, як год праходзіць, тады гэту ўжо можна спаліць, а новую, як пасьвенціш, прынясеш у дом, тада ўжэ стаў у дом.

*– Но не выкідалі? Палілі?*

– Нада было абезацельна спаліць. Не кідаць пад ногі. Ну, вот прынясеш вербачку, як прыйдзеш з цэрквы, ветачку нада абязацельна занесці, дзе кароўкі стаяць, дзе коні. І тады гэтай вербачкай пасьцябаць. Ну, і яе аставіць, каб там на пастаянна тырчэла ў гэтым хляву. Ну, і рабяцішак, іх жа даўно многа, з печы ўсе лятуць, ну вот бяруць гэту вербачку і сьцібалі па кожнаму рабёнку.

*– Нічога яны не казалі?*

– Не, казалі: “Не я б’ю, а верба б’ець!” (3 разы). Гэта абязацельна нада была пасьцебаць. І сьвечачкі ставілі ў вербе гэтай, палілі сьвечачку і тады патушаць і яе дамой прынясуць. Цяпер жа людзі вучоныя і разумныя, а даўней жа былі дурныя людзі, но вот усякія пракцікі былі.

*– А на што білі?*

– Нада была, каб гэтыя дзеці былі разумныя і не хварэлі ніколі. І гэту сьвечачку, што ў гэтай вярбе гарэла, і тады нада ўзяць і вот так вербінай пасьцябаць па дзіцю, і прагаварваць: “Не я б’ю, а верба б’е.” А сьвечачку нада запаліць, вот так паставіць на мінутку, на секунду. Гэта ж нада. каб дзіцёнак разумны быў. Даўней жа не такія былі. Гэта цяпер разумныя, але дзе-небудзь пераскокі робяць ад розуму.

*– А пад столь не торкалі вярбу?*

– Не, толькі яна ў мяне і сёлета стаіць на стале, зьвязанная лентачкамі. І тады яна стаіць у мяне цэлы год на стале. І гэту вербачку, кагда прынясеш, не ва ўсіх жа ёсць, у мяне яна расьце... Я езьдзіла сколькі гадоў і цяпер езжу ў цэркву. І тады прывазіла гэтыя атрэзанные ветачкі і як толькі паставіш гэтыя вербачкі ў ваду, яна сразу белыя караанькі пушчае. І садзі яе, і яна сразу прыжываецца. І ў мяне ўжэ две вот гэтых бальшых. А вербу – птушка гнезда не зьвіваець, і вецер не ламаець. Вербіна, куды яе вецер клоніць, туды яна і гнецца, но яна не разломіцца. Вот такая пасловіца была, што “*вецер вярбу не ламаець і птушка гнезда не зьвіваець*.” На ей птушка не можыць гняздо зьвіць. А гэта верба яна шчытаецца очэнь лячэбная. Вот кагда чалавек балеіт, нада гэту карыцу, нада яе сушыць –

бывают раны неізлячымыя – нада гэту *карыцу з вербы* нацерці так меленька, як у парашок, і вот засыпай гэтым, і сразу загоіцца. Вот бывает паджалудачная у чалавека баліць. Вот яны ж яе лісточкі такія бліскучыя, вузенькія. Адна ж ёсць такая белая, тая называецца *белая верба*. А вот гэта называецца *красная вярба*. Вот гэту *красную* усегда сьвяцілі ў цэркві. Вот яна шчытаецца лячэбнай дужа.

**Траецкі май**

*– Зінаіда Аляксееўна, а на Тройцу ці прынасілі ў хату маю?*

– Прынасілі абязацельна, як закон быў: прынесьці, сколькі акон, пад каждым паставіць маю са двара. І ў дом прынасілі, ставілі абязацельна на покут і вот, дзе сьпяць, паставяць. І кагда хадзілі на Тройцу на кладбішча, гэта цяпер дужа многа ўсякіх цьвятоў і жывых, даўней жа не. Хадзілі на кладбішча, толькі Богу маліліся, а гарэлку не пілі. Пастаяць, сьвечачку запаляць, Богу памоляцца. Паставяць ветачку маю і аір. Вот гэта было.

У нас жа на кладбішчы цэрква была. Дык вот я яшчэ малая была. Хадзілі дзевачкі, такія малыя, мы цэркву памыем. Каліны наламаем, аіру прынясём, пакідаем. Гэты *аір* шчытаўся, яго нада была паднімаць, трэба было яго кіпяціць, ён очэнь шчытаўся лячэбным. Ад усяго ён памагаў. Якая б у каго балезьнь не была, нада было гэты *аір*, што ў цэркві паляжаў, нада было абязацельна яго кіпяціць. Ну, людзі сушылі, а хто так.

*– А што з тым маем было, які ў хаце быў, як празнік прайшоў?*

– Як празьнік пройдзе, глядзелі. Як у хату на Тройцу прынясеш і вот так май паставіш. Када ён за ноч такі пасохнець, не такі стане, то шчыталі лета будзе сухое, сухое. А кагда ён не дужа падсохне, стаіць прама, як сьвежы – шчыталі лета нармальным будзе, не жаркае. А з таго маю можна было венічак зьвязаць. На Тройцу ж первы раз як ідзеш у баню, гэта ужо сьвежы венічак нада абязацельна зьвязаць і парыцца. І ў дом нада было зьвязаць і прынесці, даўней жа не было гэткіх. А прынесьці нада і паставіць, вот тада ўжо можна месьці хату гэтым венікам, што на Тройцу пастаўлены. Да Тройцы нельзя было ламаць і несьці, нада было старым пользавацца на сколька гадоў.

**Грамнічная свечка**

*– А што за такі празнік – Грамніцы?*

– А вот на Грамніцы, сынок, гэта Грамніцы – эта сьвяцілі сьвечкі. Вот так, як пяюць "Хрыстос" гэту песню, тада пяюць напасьледак, што: *"А Грамніцы, Хрыстос, сьвечкі сушаць, Хрыстос,васкавыя, Хрыстос"*. І тады гэтыя *сьвечкі грамнічныя* сьвецюць. І вот нада тады, када, не дай Бог, граза дужа бальшая, абязацельна свечку запалі і во так па часавой стрэлцы абыйдзі адзін разок – усё, граза пракраціцца, нічаго не стане, нідзе нікакога страху. А буваець жа гэта такая "рабінавая ноч" увосень. Гэта ж яна дужа страшная була, дужа бальшая граза була. Вот нада было абязацельна грамнічную сьвечку паліць. Вот буваець у доме завядуць скандал, усякае ж буваець у жызьні, і скандалюць, і крычаць, ругаюцца. Вот запалі гэтую сьвечку і падзяржы мінутку, адразу прэкраціцца тая ругань, і страх той і ўся недабрата.

*– А ад чаго яшчэ памагалі гэтыя грамнічныя свечкі?*

– Ну, вот *грамнічныя сьвечкі* памагалі і калі дзіця забалееть. Знаеце, гэта цяпер называецца гэта балезьнь пілепсія, а даўней называлася прыпадак. Вот тагда нада было абязацельна запаліць гэту сьвечку, хай пагарыць мінутку.

*– А запаліць калі сам прыпадак?*

– Да, і вот мінутку хай пагарыць, і тады дзіця гэта ўспакаіваецца. Буваець і так, што чалавек уміраець і ніяк не можыць памерці, гэта ж і ў бальніцы буваець і ў даму хто. Хай сабе яму пара, хай сабе яму і многа гадоў, і дзевяноста і сто, а вот не можыць чалавек памерці і суткі, і другія. Вот запалі гэтую грамнічную сьвечку і вот так вазьмі і абнясі, і ўсё – сразу суцішыцца чалаваек і памрэць.

**Пакутлівая смерць**

*– А ад чаго людзі так цяжка паміраюць?*

– А вот людзі цяжка паміраюць, буваець такая балезьнь. Дажа можыць у любога кажнага чалавека так зробіцца. Вот становіцца прыпадак у старога чалавека, а становіцца ад гэтага, што чалавек сцішыўся, яму нада ўміраць, а яму перабілі што-небудзь: вот яго патраслі, увідзелі там, закрычалі – і чалавеку перабілі, чалавек можа трое сутак мучыцца сам і сям'ю гэту мучыць. Вот за гэта палілі гэту сьвечку. Вот запалю гэту сьвечачку і малітву перамалюся, і адразу гэта балезьнь сціхаець, і чалавек ціхонька...

*– А якая малітва?*

– Не, сказаць я вам не скажу.

*– А чаго не можна гаварыць?*

– А, не нада. Ну, вот ня будзець (памагаць). Я вот усякія загаворы знаю. І вот када зьмяя ўкусіць, і такую малітву малю. І перамалю, і сразу чалавеку станавіцца луччэ. Ну, ёсць такія малітвы, што нада перамаліцца і нядыхаючы. Вот тры разы нада перамаліцца і дыхаць не нада.

**Укус змяі**

*– А калі ад змяі, гэта трэба на вадзічку, ці трэба на месца?*

– Даю ваду, і малю над гэтым чалавекам. І нада абязацельна, када зьмяя чалавека ўкусіць, нада абязацельна каб спасаць чалавека да захада сонца. Эта ж няроўныя, эта ж бывае так зьмяя чалавека ўкусіць, дак лягчэй, а некаторых укусіць, дык, не давадзі Госпадзі, што, прасьці Госпадзі, граха цяжкога, што і язык вон, і глазы вон, і похнець чалавек, і крычыць, і Бог знаець, як страшна. Дык вот нада маліцца. І вот яшчэ вот я вам скажу, гэтую пракціку скажу. Када змяя ўкусіць, і нет чалавека такога блізкага, каб гэта ён мог атмаліць, дык вот калі ўспомніш, ну вот, прымерна, дзе агонь раскладаюць вот там, дзе, ну, пастухі, ці вот на Купалцы, дзе гарыць, даўней жа ж гэтыя палкі там сьцягвалі, буваець не дагарыць, астанецца галавешачка. Вот бяжы к гэтаму агню, дзе гарэла гэта і асталося эта вогнішча і не дагарэлі галавешачкі, вот адна ляжыць тут не дагарэла, а другая во тут ляжыць. І як прыбяжыш к гэтаму вогнішчу, дзе яно гарэла, яно можа і паўгода назад гарэла, калі тамака. І прыбяжыш к гэтаму вогнішчу, і во так ляжыць гэта галавешачка, ну нада дужа ўпомніць точна так. І тады схапі гэту галавешачку, кусок во гэты, ну і з *вуглямі* буваець трошачку, не дагарыць столька. І схапі гэты кусочак галавешкі і во так бяжы, сюды прыбяжыш, не аглідайся назад, і як гэту галавешачку возьмеш – схапі, не аглідайся назад і ні с кім не ґавары. І як прыбяжыш, і не дай бог там на назе, на руцэ, гэта ж усюды, усяк буваець. Тады вазьмі галавешачкай во так павадзі-павадзі па гэтай назе, дзе ўкусіла зьмяя. І бяжы апяць бягом к таму вогнішчу і абязацельна точна так палажы гэту галавешачку, як яна ляжала.

*– Гэта лепей дзе Купальскае было вогнішча?*

– Ну, гэта буваець як на Купалцы. Як цяпер ужо згарыць ужо ўсё, яны ж паляць тамака, кідаюць там усё, рэзіну гэтую, так там усё перагараець. А даўней жа толькі палкі, паленьне якое кідалі.

*– А як абводзілі галавешкай? Колькі разоў?*

– Во, во так, як па часавой стрэлцы павадзіць-павадзіць па тый самай назе, дзе ўкус зьмяі. І во так бяжы, і роўненька во так палажы на тое месца. Но нада, каб точна так і палажыў. Тады ўсё сьнімецца, уся боль сьнімецца, і ўсё ўйдзёт адтуль.

*– А яшчэ, можа, што-небудзь можна было рабіць ад змяі? Розныя ж бываюць змеі?*

– Ну, канешне ж, разніца ёсьць. Даўней жа шчыталася гэта самый страшный укус быў зьмяі межавой. Даўней жа былі гэтыя кускі, і мяжа была па этых палосках. Дык вот гэта, када на мяжы ўкусіць зьмяя – вот эта самы страшны быў укус. Ну вот некалі сястру маёй мамы былі ўкусілі. Шлі яны па жыце, і ўкусілі. Дык гэта як страшна было. А вот ужо другой мамінай сястры сьвёкар умеў загавор той. Дык вот, ён маю цётку паўчыў, іх жа было многа дванаццаць – шэсьць братоў і шэсьць сясьцёр, і ўсе раджаліся цераз два гады. А тады ўжо вайна як стала, каго забілі, а хто астаўся, усе паўміралі адзін за адным чэраз два гады.

*– А якія яшчэ бываюць змеі? Вось межавыя ёсць...*

– Ай, гэта ўсякія, і сьлямяні, і ўсякія. Ну, я іх баюся, абнясі Гасподзь. Я на сьвеце нічога так не баюся, як зьмей баюся. Я баюся, і я нікада яе не заб’ю. Ёсьць жа людзі, што, даўней жа мы хадзілі ў лугі касіць, у лес. Рака там у лесе, яны там булі. Дык я не заб’ю, я ўцякаю. А мне нельзя і забіць, патаму што я знаю загавор ад яе. І нельзя біць змяю.

*– А калі вы заб’еце, то ўжо не будзець памагаць?*

– Да.

**Забарона замаўляць яўрэям**

*– Ці праўда, гаворaць, што нельзя яўрэяў загаварваць?*

– Праўда. Таму, што яны празыйшлі ад таго. А яны, гэтыя яўрэі, яны ж дужа дорага плоцюць. Даўней ого, када якая балезьнь палучыцца. Во тут у Бабынічах, гэта ўжо Полацкага раёна, і там яўрэі жылі. І забалеў палец у гэтай яўрэйкі. Ну і прызнаюць ужо гэтыя – нашы крэсцьяне, што вот у яе, як па-нашаму называецца, волас, валасень. Крычыць гэта яўрэйка як дзень, дык ноч, адратаваць неяк. Ну, а што зробіш, як даўней жа ж тока загаворамі лечылі, цяпер жа ж тамака аперацыі робяць, і палец этат удаляюць. Но эта очань страшная балезьнь. Ну, дык жыдоўка гэтая крычала там караулам, што гэтак ужо баліць палец, дык прасіла, каб хто-небудзь ей загаварыў. А ў мяне дзядзіна была. Яна тамака жыла. Яна кажыць: “Ай, давай, Сора, мне золата, я табе шчас палец твой вылечу.” І я вот вам скажу, чым вылечыла. Ну вот загаварыць нельзя було. А даўней жа гэтая *карасіна*, яна дужа лячэбная была, лечыла ўсё. Яна і цяпер па закону, када чалавек балеіць вот этай плахой хваробай, вот нада абязацельна капаць пяць капель на кусок сахару і нада смактаць гэтат.

*– А якой плахой хваробай?*

– Када рак. Хвароба ўсяк плахая, дзеці, яе добрай нет. Гэтая самая страшная, яна шчытаецца невылечымая. І тады гэта дзедзіна мая кажа: “Давай, Сора, я

цябе шчас вылечу.” Яна пайшла, значыць, памачыла трапку ў гэты *керасін* і кажа: “На, абвязвай, абкручвай і дзяржы ўверх.” Ну і стаў сціхаць гэтат палец. І сціх, і гэта Сора дала гэтай Надзе золата за эта, што палец вылечала.

– *Дык не загаварывала?*

– Не загаварывала.

– *А што калі загаворыш? Ці не паможа, ці чалавек не зможа дапамагаць людзям?*

– Не зможа другім людзям памагаць.

**Замаўлянне свінні**

– *А свінню, кажуць, няможна загаварваць?*

– А сьвіньню, я вам скажу, дзеці, загавор ёсьць. Но толька загавор, і я вот, када людзей лечу, я стаўлю бутылку на стол, я малюся Богу, я малітву малю. І вот сядзет чалавек, тут я малюся. І када кароўцы раблю, гэта тожэ лечу я, тожэ на стол бутылку стаўлю, і када каню загаварываю. Вот бываець конь вот будзець-будзець і бах – паваліўся і ўсё, і ўжо здыхаець. І вот загавару, і толька вады ў гэтай самай – у вушы ўліюць, і конь устанець.

– *А свінню?*

– А сьвіней, ты мой сынок, не так загаворваць. А сьвіньню нада загарываць, нада глядзець у другі бок, і тую пасудзіну дзержаць і саўсім другая малітва.

– *У другі бок ад абразоў?*

– Да. І дажэ на стол не ставіцца.

– *А чаго жыдам і сьвінням во так вот ня можна?*

– Вот ня можна то, што яны празыйшлі ад таго.

– *Ад чаго?*

– Адкрылі ж, кажуць, ай-яй-яй, а там гэтыя самыя пад карытам.

– *Так раскажыце.*

– А там жыдоўка, і кажуць “а-яй”, там сьвіньня з парасятамі. Вот і ўсё. І затое ім загаварваць нельзя. Сьвіньня ж не глядзіць у неба, вот карова падымець галаву, і конь вот паглядзіць, а сьвіньня што – толька глядзіць у зямлю. І вот ім такая вада, робіцца вада, но малітва саўсім асобенная, не такая. Там не ўспамінаецца, гэта як моліцца, успамінаеш Бога на кожным шагу.

**Зямля і лес**

– А вот нельзя, дзеці, клясьці Зямлю, Ваду і Неба. Вот нам Бог саздаў зямлю, ваду, неба і траву. І нада берагчы, очань берагчы. Нікагда не нада казаць, такога, што як, каб сказаў ты, во буваець жа так, што кажуць: “А каб ты счарнеў, як зямля”. А не, вот кажы, калі ўжо хочаш клятвай такой, вот кажы: “Счарней ты как вугаль”, а не зямля. Зямлю нада очань берагчы, патаму што зямля – багацтва; і дажа вот, када чалавек балеіць, буваець так што вот балеіць, но не папраўляецца, плоха яму і плоха, і ніякай рады нет. Дык вот, жэлацельна, дажэ лажыцца саўсім вот, атыйціся, легчы дзе на *сурую зямельку*, траву і паляжаць. Вот нада гэтак. Тада ўся ўходзіць балезьнь з чалавека, зямля вынімаець усю балезьнь. Вот ляж во так, ну, падоўгу ж не нада ляжаць. Вот нада ў *лес* сходзіць, па лесе нада пахадзіць, када чалавек нервный, каб ён успакаіваўся, када паходзіць па лесу, паляжыць на зямлі. Вот, бываець і так, што ў чалавека плоха з галавой станавіцца што-небудзь, вот яму нада цішына, вот ён паходзіць, аднаму не нада хадзіць, паходзіць па лесе, а тады паляжыць на цёпленькай зямельцы ці на травіццы. Эта очэнь харашо, эта ўспакаіваець і балезьнь *зямелька* ў чалавека атнімаець.

*– Лес – гэта добра?*

– Да, очань, очань. Нада к лесу прыслушацца, як лес гаворыць, вот тада ў чалавека ўспакаіваецца нерв.

**Вада жывая, святая і мёртвая**

*– А можа даўней гаварылі людзі, што на Купалу могуць дрэвы разгаварываць?*

– Канешна. Вот я вам скажу, дзеці, вот шчытаецца, што *вада жывая, святая,* а ні ўсігда буваець жывая. Буваюць такія часы, што вада буваець мёртвая.

*– І што з той вады можа быць?*

– Ну вот тада не нада браць тую ваду. Вот, прымерна, як я вот загавару, што прыязджаюць людзі. Дык вот у тыя часы, вот тут самае глаўнае ад двенаццаці да трох часоў вада мёртвая.

*– Гэта кожны дзень?*

– Да, кожны дзень.

*– Гэта ўдзень з дванаццаці да трох?*

– Да, не. З двенаццаці ночы і да трох часоў дня. А тада, пажалуста, бярыце.

*– З дванаццаці ночы аж да трох дня?*

– Да, да, да. З двенаццаці ночы і да трох ночы. *Вада* ўжо *мёртвая*. Піць можна. Нікада, дзеці не аставайціся, будзіце вы жыць у горадзе, будзіць у вас там вада ў даму, нікада не аставайціся на ноч без вады. Патаму шта нільзя. От, ўлійце хоць трохлітровую баначку і пастаўце, каб усігда вада стаяла. Можыце вы і на стале паставіць, можыце ў любым месьце, ну каб вада ўсегда.

*– А закрываць яе?*

– Не закрывайце, хай стаіць так. Вот, самае ж глаўнае, када чалавеку плоха станавіцца ўноч, а ўдруг вады нет. Самае глаўнае, крычаць: ці ў бальніцы, ці дзе ў полі станець плоха чалавеку. Ай, крычаць, скарэй, скарэй дайце чалавеку вады. Вот *вада жывая і святая*, нада абязацельна даць чалавеку глынуць вады. Вот нільзя аставацца чалавеку ўноч без вады. Вот у меня бываюць тут саседзі, дык вот крычу-крычу на іх, дык некатарыя ўжо прывыклі. А не расходуецца ж яна ў цябе за ноч – а ты яе, яна ж чысьценькая, на што-небудзь патрэбляй. На другую ноч ты ішчо налій.

**Святая крыніца**

*– А ці вы, Зінаіда Аляксееўна, чулі пра святыя крынічкі?*

– Святая крыніца і ў нас када-та была. Яна ў тую сторану чэраз гару. Гэта кілометра пашці пад два, а можа два троху нет.

*– А што за гара? Можа як называлася?*

– Ну, там такое азярцо було. Яно называлася тое азярцо Ліньня. І там када-та жылі, футар быў, і там жылі людзі.

*– Як называлася азярцо?*

– Ліньня. І там, у гэтым Ліньні рыба была – ліны гэты, во там на балоце. І там стаяла каплічка. Кругом балота такое, а там стаяла такая каплічка. У гэтай капліцы там людзі малілісі Богу, на празьнік. І там у гэтай капліцы, пад гэтай каплічкай была крыніца. І там былі паложаны гэтыя, даўней жа так, гэта цяпер кольца ўстаўляюць, а даўней жа зрубы дзеравянныя ўстаўлялі. Ну дак вот, людзі маліліся там і шчаталася гэтая крынічка лячэбная. А тады разбурылі і тую каплічку. А крынічка тая, Бог знаець, сколькі гадоў яна стаяла. Ну вот нада была абязацельна ў Чысты Чацверг, нада было бегаць па ваду ў тую крынічку. Дык я і сама хадзіла.

*– А бегаць да сонца?*

– Ну, жэлацельна. Ну, хто ўжо апаздаець, хоць калі.

*– А вы казалі, людзі на празнік прыходзілі. На які празнік?*

– Гэта там было, мусіць на гэту... Там у нас і цэрква была, і іконы былі. Ці не на гэту, на Прачыстую. Ну і вот, эта яшчэ мой папа расказываў. Тут, у Матырыне, быў чалавек, хлопец. І то лі прыўраждзёны, ну ня відзеў, малады чалавек, і ня відзеў, сьляпы. А тады яму прысьніўся сон, што дапаўзі да крыніцы, да Ліньня, і дастань вады, і напійся, і памыйся – і будзеш відзець. Ну, і што вы думаеце, дык поўз чалавек гэты на каленьках, эта даўно дужа было, але гэта было дзесьвіцельна верна, чалавек гэты поўз на каленьках, дапоўз да гэтай. Ішоў чалавек упярод ужо, а ён поўз за ім. Дапоўз да тый крыніцы, дастаў, папіў вады, памыўся і чалавеку адкрыліся вочы. Ну вот, можа, яе б і абнавілі, ну вот так запусьцілі, запусцілі. Даўней, кароў пасьцілі, а там балота. Ну толькі маленькая баравіначка, ну можа, як на нашу хату, большая яна не была, дзе каплічка гэтая стаяла. Дык тут балота, а тут крыніца ў гэтым калодзежы. Бываець жа і кароўка падойдзець, пап’ець.

*– Ну, цяперака яна цячэць тая крынічка?*

– Няма. Усё зарасло, нічога няма. Ну, я, як во даўней ба, цяпер я ўжо не знаю, ці найду, а так бы я яе найшла. І вот я і вам скажу, як найці. Дзе крыніца, там, дзеці, вада ўсегда лячэбная.

*– Любая крыніца?*

– Да. Вада там жывая, вада там сьвятая, лячэбная. Дык вот, як толька ўжо вясна настаець, яшчэ чорна ўсюды, німа ні травы зялёнай, нічога. А вот ідзі іскаць туда, дзе тое месца, дзе вот була крыніца, абязацельна там вот будзець такая, як зялёненькая, травічка пушчацца. Нідзе нічога, яшчэ чорна, а там яе найдзеш па гэтай.

*– Вы сказалі, што лекавая вада крынічная?*

– Да. Тут я вам скажу, крынічная вада, гэта жывая і сьвятая, ад любых хвароб яе жэлацельна піць яе, мыцца.

*– А мыцца на захад сонца?*

– У любое ўрэмя, сынок. А мыцца ўжо так нада, што сьвятой жывой вадзіцы ў кружачку ўлій, ну дзве ложачкі там, ну тады вымыйся, када ў бані мыесься, налівай поўну кружачку цёпленькай вадзічкі, станавіся ў таз, і той кружачкай… Када абдасісі, значыць, усё плахое змыеш. Тада нада гэту вадзічку з тазіка выступіць і выліць во так вот на захад сонца.

*– А піць лепей нашча?*

– Канешне. Вот устаў утрычкам і папей гэтай вадзічкі. Многа не нада, ну паўстакана выпей, ну тры глыткочкі выпей.

*– А чаго вы лічыце, што вадзічка з крыніцы памагае ад усіх хвароб? Вось з возера не, і з ракі не.*

– А вот з крыніцы, патаму што крыніца жывая і сьвятая. Зіма, мароз, вот тут возера, а яна, ну як да печкі, яна цячэць, як бы гэты камянькі такія, яны становяцца такія, як іржавыя. А яна цячэць і цячэць паціхоньку. Дык я ўжо як хадзіла, па моладасьці там, бывалі ж там ля возера, і там во так яе не пракапалі, а во так выкапаюць і жменькамі, даўней жа жменькамі пілі, і кружачку паставяць. А там яна не абгарожаная была. Вот вазьмі вадзічкі крынічнай і папій жменькай гэтай вадзічкі крынічнай. У возеры цёплая такой жарой, а тут халодненькая.

## Ахвяраванне за грэх

*– А капеечкі не кідалі ў крынічку?*

– У тую кідалі.

*– А можа прыносілі што, воўну, ці яшчэ што?*

– Да, там была ахвяра. Вот гэта называлася, што ахвяра. Бывала ў майго дзядзькі ў аднаго не гадаваліся дзеці, а не гадаваліся дзеці ў яго за тое, што жаніўся на Вербніцу, ў самый пост. Адна нядзелька да Вялікадня, а ён тут жаніцца. Ай, крычалі, эта ж умесьце жылі, гэта яшчэ ў маім дзецтве было. Папа мой, гэта ж старшы брат, крычаў, крычалі брацця-сёстры: "Не жаніся". Не, край яму нада жаніцца. І так во два – адзін дзядзька мой, другі – брат мой, і жаніліся во так у Вербніцу. Ну і якая ж у іх жызьнь страшная і няпутная. І ў гэтага дзядзькі чацьвёра дзяцей радзілася, усе чацвёра ўміралі. Ды ўміралі, хай Бог абнясець, страшнай сьмерцю, крычалі, гэта ж у парцізаншчыну гэту, у вайну. Дык ён крычаў, тры гады дзіцёнку было, крычаў дзень і ноч, і папа мой ужо ня мог адратаваць, з сябе выхадзіў і ўсё крычаў на яго: "Галайка ты". Во так яго абзываў, во такое слова плахое было "галайка". "Галайка ты, жаніўся на Вербніцу!" І ўміралі гэдак дзеці, што ў жывога і вочкі павыкачваліся і ўсё. Ну, дык вот тады гэта бабушка, што мяне ўчыла, яна сказала так, і гэта ўжо после вайны, яна сказала: "Ня будзець, Надзя, у цябе і гэта дзіцё гадавацца. Награшылі вы дужа. Дык вот вазьміце ахвяру". А якую ахвяру сказала: "Ідзіце, вот када дзень Прысьвітой Ефрасіньні Полацкай нашай, вот ідзіце на Ефрасініну цэркву і дайце ахвяру. Ахвяру вот такую – купіце там палаценьчыка, ці платочык які". Ну, вот і радзіла гэта жанчына дзевачку. Ну, і тады ўзялі ахвяру гэту, і яны паняслі, і гэту дзевачку пяшком насілі аж у Полацк. Дык усё з майго дзядзькі смяяліся, што садзі ў мяшок і нясі на плячах. Гэта ж далёка перанесьці, дык ужо і парадашная была. І вот, як прыйдзеш у цэркву, нада купіць сьвечачку, запаліць сьвечачку і паставіць, і во гэту ахвяру, што прымерна яны няслі, нада было палажыць, дзе храняцца мошчы Ефрасіньні. І када там ужо нейкія капеечкі былі, дык у тую скрабёначку кідалі, што ля яе тут блізенька стаіць. Ну, хто ўмеў, ну даўныя людзі ўсе ўмелі Богу маліцца, ну тут во нада сваімі словамі. Када ў чалавека гора, када ў чалавека беда, када ў чалавека нездароўе, нада маліць сваімі славамі, усё раўно да Бога дайдзець гэта. "Госпадзі, дай мне сілу, дай мне волю, дай мне ўцішэньнейка, дай мне ўспакаеньнейка, дай мне сьмірэньнейка", каб чалавек сьмірыўся ка ўсяму. Даець Бог добрае – бяры, даець плахое – бяры. Ну і вот яны хадзілі. Ну і як схадзілі, ну і тая Любачка вырасла і ўжо ў яе і ўнукі ёсць, і праўнукі. І нада хадзіць кажан год на гэту сьвятую Ефрасіньню ў цэркву, і там палажы ты там рубаль, свечачку запалі, ну і, можа, там насавы платочак палажаш. Вот і ахвяра, вот гэта была ахвяра.

## Бог навучае людзей

*– А можа вот вам мама расказывала ці даўнія людзі пра тое, што Бог па зямлі хадзіў, навучаў людзей?*

– Ага, дык вот Бог навучаў людзей, а людзі Бога ня слухалі. Затое ж вот, як вот ішоў Бог, а чалавек тынок гарадзіў. А Бог спрашываець: "Чаго ты такі тынок гародзіш?", ну, тамака з ветачак. А чалавек кажыць: "А мне пажыць асталася нямножка да заўтра, хваціць мне яго." Дык вот даў Бог, што ня будзеш знаць, калі памрэш.

*– А можа яшчэ якія гісторыі пра Бога?*

– Мама мая вот малілася Богу, што, Божачка, дай мне, каб я на сваіх нагах памёрла і пры сваей галоўцы. Ну і ўсё – толькі тры дні не выйшла на вуліцу, хадзіла ўсё ўрэмя і сказала, што вот буду ўміраць. Сказала: “Дастань блізенька адзежу”. Тут краваць стаяла, ляжыць, а на мяне сказала: “Сядзь во там на дзіване.” Я кажу: “Чаго ты, мама?” – “Ай, ну так”. А я знала, што яна захацела на мяне паглядзець, папрашчацца са мной. Ну, села, яна мне сказала: “Я буду ўміраць, дачка. Дастань мне блізенька ўсе пакрывалы.” Адзежка ў яе была зьвязана, пашыла сама, зьвязала. Дваццаць шэсьць гадоў атляжала адзежа. У яе быў такі маленька інсульт хапіў. І яна ўсё-усё мгнавенна, ну, праўда, пяць нядзель атлежала, сказала мне ўрач, каб яна с пасьцелі не ўставала. Ну і прайшло, яна ўсё думала, што эта када будзе ўміраць, ад даўленьня памрэць. А яна памёрла, і таго даўленьня блізка не было. І сказала палажыць усё блізенька. І сказала: “Гэтым пакрывалам пакрыйце, і адзёжку маю дастань там. Ты ж адна, ты спужаешся, будзеш бегаць, плакаць, а некаму памагаць.” І загадала, усё дастала, палажыла. Прыйшоў дзед з хлева, яна на дзеда жджэць. “Чаго ты жджэш?” – “Ай, хачу во з Васькам пагукаць.” – “А што ты будзеш гукаць?”. А тады вот пакуль прыйшоў ён, яна і забылася. Я прышла, кажу: “Мама, прышоў Васька з хлеву. Што ты яму хацела сказаць?” А я і знаю, што яна хацела сказаць, што я ж адна аставалася. Дзед мой гарэлку дужа піў. Вот яна недзе хацела сказаць, што не абіжаў каб мяне. Ну і вот памёрла, і сказала, калі ўміраць будзе. Прыехаў гэты сын і з нявесткай уколы робіць. А яна кажыць: “Ай, дзетачкі, не нада мне ўжо ўколы, не мучыйце вы мяне і самі сябе. Мне ж прышла пара ўміраць.” Завець сына майго, кажыць: “Коля, хадзі сюды.” Дачка ж там жыла на Чарнобылі. Кажа: “Коля, хадзі сюды.” А ён кажыць: “Січас, баба, укол памагу Тамары тут”, а яна кажыць: “Не нада мне ўкол, мне прышла пара ўміраць”. І яна яго пазвала, і во так за ягоныя рукі, во так двумя рукамі счапіла, ціхенька, сколька ў яе там сілы. І так глядзіць шчыра, глядзіць. Так ужо прашчалася зажыва. І сказала мне, што “када буду ўміраць, што б ты не зюкнула, што б ты не крыкнула. Выдзі з хаты, каб ты мне не памішала”. А я думаю, што ай не, я ж ня кіну, і сын тут прыехаў з нявесткай. А нявестка дужа баялася пакойнікаў, а ў іх ужо мальчык быў сем гадоў. Яна дужа мальца гэтага гадавала ад первых дней. Мама мая: “Ты, Тамара, ня будзь у хаце, када я памру, ты дужа баісся, так ты ня будзь. А ты з’ездзіш за сваёй маткай, хай будзе мама твая на пахаронах.” А яна кажыць: “Не, баба, я нікуды не пайду, нікуды з хаты не пайду.” Вышла ў тую хату, села на дзіван. Я на Колю кажу: “Сыночак мой, сечас мама ўжэ памрэць”. Хаджу так, рукі кручу. А дзед кажыць: “Сядзь ты ў тую хату.” – “Не пайду, ня кіну.” Я прынесла сьвечку, спічкі во так палажыла. І так вытрывала, што каб я зюкнула, каб я слоўца сказала, толька ціхенька хадзіла. І ўжо віджу, тады кажу: “Сыночак, ідзі за бабай Адоксай.” Яна і цяпер, гэта жанчына, жывець, дзвяноста гадоў. Я б ужо і сама, але думаю, можа я ўпушчу, свечку не змагу. Пакуль ён пайшоў за гэтай бабай, яна ўжо ўсё, сьціхаець і сьціхаець. Эта баба прышла скорэнька, абнясла гэтай свечкай. І тады нада даць ужо тую сьвечку на мінутку падзержаць пакойніку. Усё, чалавек сьцішаецца. Дык вот людзі, якія, як гэта можна сказаць, Богу ўгодны, веруць, яна ўсю жызьнь верыла Богу, і вот яна знала, што када яна памрэць.

*– Гэта Бог дае знаць?*

– Да, да. І вот відзіце, як нада Бога прасіць. І прасіла, восемсят шэсьць гадоў было, і каб яна хоць слоўца не так сказала. Глядзіць у вакно аж да клуба туды і кажыць: “Халера, вось тут не дужа вочы сталі відзець. Вот я віжу нехта ідзець, але не магу пазнаць, хто там каля клуба.” Я кажу: “Мама, я ўжо насколька за цябе маладзейшая, а ня віджу так, як ты відзіш.” Відзіла, чула, усё пры памяці гаварыла.

**Абсыпанне жытам і кветкі на пахаванні**

*– А як выносілі з хаты, ці жыта пасыпалі ўслед?*

– Сыпалі. Абязацельна.

*– А навошта?*

– Эта сыпалі, када жэніцца чалавек, як ад’язджае за нявестай. Тады нада зайці напярод і сыпаць, а када пакойнік, тады нада ззаду. Вот я вам скажу, дзеці, самае глаўнае, упомніце раз і наўсегда. Даўней жа не хадзілі, не насілі нічога, як на пахароны ідуць. Ідуць, ніякіх цьвятоў не было. Прыдуць ды Богу памолюцца там, ну пасідзяць. А цяпер жа ідуць на пахароны, нясуць цьвяты жывыі, ды калі ў такім сязоне, ахапкамі нясуць. А тады да кладбішча кідаюць гэтыя цьвяты. Жывым – жывое! Нясіце на хрэсьбіны, на вясельле жывыя цвяты, а мёртвым – нясіце мёртвыя. Нельзя, када кідаюць цьвяты гэтыя жывыя, вот і перамяніўся свет. Даўней дзеці бацькоў харанілі, а цяпер бацькі дзяцей харонюць. Во як страшна. Толька з-за гэтага. Цьвяты – гэта моладасьць, гэта красата, гэта дабро, а імі ўсцілаюць усьлед за пакойнікам і тады там астаўляюць. Нільзя! Ідзі на пахароны, нясі вяночак, калі ты хочаш, цьвяточкі, але мёртвыя, а не жывыя.

*– А жыта ж таксама жывое?*

– Да. А вот сыпяць, каб жыў аставаўся, хто астаецца.

**Самагубцы**

*– А вот ці было такое, што ці не так пахавалі, ці што пашкадавалі пакойніку, што ён турбаваў, прыходзіў?*

– А як жа, канешне было. І нада ў пакойніка папрасіць. Вот када пакойнік малады ён уходзіць. Цяпер увялі моду такую, дзе аварыя якая палучыцца, нясуць букетамі цвяты жывыя, ставюць. Тое месца заклятае, туды трэба занесці асінавы калы, загнаць туды, каб большэ не паўтарылася, ні ў сям’і, ні ў радні, ні ў чужых людзей недзе. А яны цвяты туда, а яны яшчэ болей кладуцца. Даўней жа гэта рэдка было, пры маёй жызні можа толькі два чалавекі, што задавілісі. Даўней жа яго не харанілі, кладбішча было абкапана глыбокай канаўкай, і яго харанілі не на кладбішчы, а за гэтай канаўкай. І не ставілі хрыста яму, а ставілі яму асінавы кол, заганялі, каб гэта пасьледні раз было ў гэтай дзярэўні.

*– А заганялі дзе, у галаву ці ў ногі?*

– Да, у ногі. Дык вот нада было каб пасьледні раз эта було. А цяпер тут павешаліся, тут сьнялі, тут памятнікі стаўляюць.

*– А ці праўда, кажуць, што гэта чорт такое робіць?*

– Канешне. Эта ж за вісельніка Богу ня моляцца, за яго ж сьвечкі не ставяць. Гэта ж за ўсіх сьвечкі ставяць, хто і на вайне пагіб, хто дзе патануў, хто ў агне пагарэў, хто сваёй сьмерцю памёр – за ўсіх вечны пакой кажуць, а за яго не ўспамінаюць, вісельніка, патаму што ён аддаў д’явалу душу сваю. Яго ён туды вёў. Вот затое ж асінавы кол і заганяюць.

*– А ці не гаварылі, што калі павесіцца ці задавіцца такі чалавек, можа вецер уздымаецца?*

– Не, буваець во так, што када чалавек плахі ўміраець, када харонюць можа што такое случыцца, вот такое як бы страшнае, буран такі, можыць у доме што случыцца.

**Доля нябожчыка**

– Калі чалавек памрэць, чалавек жывець – у кожнага чалавека ёсьць свая часьць, а када чалавек уходзіць, ён абязацельна сваю часьць уносіць. Панялі вы, што вот...

*– Долю сваю?*

– Да, да. Долю сваю, уносіць сваю долю. Дык вот нада сходзіць, назаўтра ідуць. Вот не смяіся, дзіцятухна, эта праўда. Не думайце, што гэта няпраўда, сколька ка мне людзей ездзіт, што рады нет. Вот дажэ на гэтых днях прыязджала жэньшчына маладая з Полацка. І кажыць: “Чацьвёрты чалавек уміраець з радні. Вот уходзіць, і сорак дней не прайшло, і мама мая памёрла.” Вот табе і на. Вот када памрэць чалавек, вот нада, як быааець, назаўтра ідуць на кладбішча, бываець хто на трэці дзень, када на дзевяты, а каму можа і ня выдзець, так на саракавы дзень. Вот саракавы дзень не нада спраўляць. Вот ідзі на кладбішча, тры блюды зроб: куццю звары, полеўку і клёцкі. Вот эта памінальнае блюда, а цяпер ужо неведама колькі этых блюдаў наставюць на стол, а тады п’юць, ядуць і песьні пяюць. Каму гора, а хто песьні пяець, ідзець і з сабой украдзець, бярэць. Патаму што цяпер гарэлку сталі піць. Дык вот уходзіт чалавек, нада іцьці к яму і прасіць, ну гэта када вот раднейшы памрэць, тада нада іцьці і папрасіць. Вот для чаго просюць. Бываець, гарод пасеюць, гарод ня вырасцець, прападзець, значыт эты чалавек часць сваю ўнёс. Панялі? Бываець, дзерава выламіцца, высахнець – вот эта чалавек часць сваю ўнёс. Бываець скаціна ў каго прападзець уся напавал – вот эта чалавек ужо бярэць скаціну, гэту сваю часць забіраець. А самае страшнае, горшае, када чалавек уходзіць і ўносіць з сабой сям’ю, радню, саседзей, людзей. Вот эта ўжэ самае страшнае. Дык вот па-гэтаму, нада іцьці прасіць к гэтаму чалавеку. Када прыдзеш на кладбішча, палажы, ужо после пахарон, палажы там канфецінку, там пячэнінку і прокланяйся, называй імя гэтага чалавека. Вот, прымерна, када мама памёрла, нада гаварыць: “мамачка мая, аддай мне ўсё тое, што ў нас было”. Вот панімаеце, “што ў нас было”, пакуда яна жыла, вот другі раз разагніся, перахрысціся, прэкланіся на каленькі і апяць тое самае гавары: “Мамачка мая, аддай тое, што ў нас з табой было. Амін.” І трэці раз пракланіся, прагавары гэтыя словы. І з кладбішча – “шах” – і пайшоў. Усё – назад ні аглідайся і ні з кім не гавары, пакуда далёка ні атыйдзеш. Вот як нада прасіць у чалавека.

*– Гэта кожны раз трэба гаварыць як хто-небудзь памрэ?*

– Не, гэта адзін раз толька нада ў гэтага чалавека папрасіць, а астальное ўсё...

*– У любога пакойніка?*

– Да. Но гэта, я вам скажу, із-за чужога гэта ўжо не так, а вот ужо када свой чалавек уходзіць з сям’і, з радні, вот нада абязацельна прасіць.

*– А калі ўжо такога не рабілі, калі ў жанчыны сталі паміраць блізкія людзі, што нада рабіць?*

– А вот нада і рабіць, хоць далёка, хоць позна, хоць рана. Прыехала і галосіць: “Бабулечка, што ж рабіць? Ужо я баюся, папа мой адзін астаўся, ён стаў нейкі. Ні гукаець, не глядзіць і нешта... Я баюся, што і папа памрэць”. Дык я ка-

жу: “Ты і сама панімаеш, уся радня – брат адзін, другі, бацька, сорак дней не канчаецца”. І гэта сколька такіх прыязджаець. Самае горшае і самае страшнае. І абязацельна нада дзеля гэтага прасіць. І цвяты нікада не насіце. І якая аварыя, і на пахароны – эта очэнь бальшы грэх. Раней эта ж дзеці бацькоў харанілі, а цяпер нада бацькам дзяцей хараніць. От яны здесь утапіліся, разбіліся, там што-небудзь якое зробілася нядобрае. Што ў нас на Купалку праробілі. Разбіліся там вот.

*– На гэтую Купалку?*

– На гэтую. Вот наша дзярэўня, а тут во чэраз лес во так во. Ну вот, сабраліся з Віцебска, ці яны з Мінска прыехалі хлопцы красівыя. Ну, яны там ці ж баню вытапілі, памыліся, ну не забыліся ж і выпіць добра, і выпілі. Як селі, і як паляцелі. Машына не па ашфальце шла, а аж пад неба паднялася, і адтуль валіліся. Адзін наш тут відзіў са льназавода, дзе мой сын работаіць. А ў таго чалавека ды інфаркт быў. Той як спужаўся, ні пазваніць не можыць. “Не знаю, – кажыць, – ці ён праз акно выскачыў, ці ён праз дзверы”. Падняло аж к небу і пухнула. Усё, і другога гэтак сама, і трэццяга, а чацвёрты што. Машына ж та ў ляпёшку ўся. У міліцыі дзержалі, але казалі, што нічога з яго ня будзець, і гаворыць ён ня тое, што нада, ён ужо спужаўся, растроіўся. Канешна, недзе хваціла і пабояў. А я кажу, не будзець нічога, што ён спужаўся дужа.

**Праклён пакінутай дзяўчыны**

*– А вот было такое, хоць і рэдка, што дзеўка народзіць да замужжа. Як такіх дзяцей называлі?*

– Даўней жа, када дзеўка ў дзеўках народзіць, гэта ж рэдка было. Цяпер яны малайцы, усе, можна сказаць, у дзеўках раджаюць. Ну, харашо, хай гадуюць, абы толькі не губілі дзяцей. Так гэта. А ён буваець так, што хлопец дружыў, дружыў з адный дзеўкай, а тую не ўзяў, узяў кінуў тую. А яна ад яго радзіла, а ён другую ўзяў. Гэта точна было. І вот гэта дзеўка праклінаець гэтага хлопца, як яна заклянець, так яму і астанецца. Праклянець: “Каб ты век жаніўся, сколькі будзеш жыць”, значыт і будзець жаніцца. Праклянець: “Каб у цябе дзеці не гадаваліся”, так і будзець. І гэта сушчая праўда.

*– А былі такія случаі?*

– Да. Как праклянець дзеўка, так і будзець.

*– Так раскажыце, можа было такое па праўдзе?*

– Канешна было. Ну, эта яшчэ даўна – даўно. Дзеўка гэта радзіла, ён яе не ўзяў, узяў ён другую. Паехалі яны за гэтай дзеўкай, каторую ён бярэць. А тая дзіця гадуець, а што яна, яна ж плачыць. Гэта ж пазор, эта ж страх, а як жа жыць. Даўней жа хлопцам давалі надзел, а дзеўкам жа не давалі, яны ж жылі так. Дзеўкам даўней цяжка было жыць. Вот яны і шлі. Бываець як, багатая, красівая, а бярэць старык які, як іх называлі “шляхта”. Яны ж болей так ужо жаніліся. Бярэць маладую, яна ідзець красівая, маладая за старога за тое, што нет её надзела, нияк жыць. Ну вот і паехалі, а гэта дзеўка вышла. Едуць яны ўжо адтуль, вядуць тую маладуху. А гэта дзеўка вышла, дагала разьдзелася, стала на дарозе. Усё, як толькі стала на дарозе голая гэткая, як праехалі яны, дык да хаты не даехалі – загарэлася тая хата, куды маладуху вязлі. Сколька жыў чалавек, столька гарэў. Вот праклінаньні – эта страшнае дзела.

*– А як яшчэ растроіць свадьбу можна было?*

– Как растроіць, эта када заклінаньне такое даюць.

*– А былі такія людзі, што маглі кепска робіць?*

– Канешна, очэнь мала было, но былі. Ну а цяпер чытаюць многа кніг, многа страсенцаў гэтых. У іх усякія кнігі, іх вучуць. Чаму цяпер не жывуць людзі? Тут жэняцца, тут разходзяцца. Во якое страшнае гэта ўсё. А толька з-за гэтага. А яны ідуць к ім, яны іх вучуць, а тады яны абы што твараць. І яна не глядзіць, што ў яго сям'я, ей шаснаццаць гадоў, семнаццаць, у яго дачка ў адзін клас разам з ёй ходзіць. Яна з ім падружыцца, яна кажыць: "Мы на пякнік ходзім разам", п'юць гарэлку, гуляюць, загараюць. І разве гэта можна? Эта ж нельзя. Вот і не жывуць людзі.

**Чараўнік Іван**

*– А вот вы гаварылі, што мала было людзей. Але ж былі, чараўнікамі іх называлі?*

– Да, да. І ў нас тут во быў, калі мы жылі ў дзярэўні. Дык быў блізенька, чэраз две хаты ад нас жыў. Ён і памёр маладым. Дык вот эта дзесьвіцельна чараўнік быў. Я яшчэ малая была.

*– А як яго звалі?*

– Іван. Ну, у іх мусіць там Алексяёнкі фамілія была. Ну вот гэты Іван, ён не жаніўся, ён забалеў. А ён з маім папам дужа дружыў, блізенька жылі. Ён тады папу прэдлажыў "Я цябе давай, Лёша, наўчу". А папа мой сказаў: "Не, браток Іван, золатам ты мяне абсып, но я такой работы робіць ня буду." Не сагласіўся, а майго дзеда, ну этага мужыка, бацька, ён быў інвалідам, чацьвёра рабят у іх было, ну жылі беднавата. Ну, ён яго папрасіў: "Наўчы мяне". – "Ну, – кажыць, – наўчу, але будзеш толькі тое робіць, што буду казаць, што я буду робіць, і ты тое будзеш робіць." Ён кажыць: "Буду". Ну і пашлі, а пашлі, у нас тамтакі лес быў, і там дужа раслі густы ельнік, такія тоўстыя. Гэты Іван узяў руж'ё на плячо, і пашлі яны. Ну і прышлі. Што ён казаў, тое мой сьвёкар паўтараў. А тады кажыць, сняў руж'ё, а тады кажыць: "Страляй у во гэну ёлку, што ты там увідзіш, у тое ты і страляй". Як глянець гэтат чалавек, а там стаіць Ісус Хрыстос, распятый на ёлке. Гэты чалавек – не. Ён апяць яго застаўляець, а ён – не. І што вы думаеце, ён яму ўгражаў, што "я цябе застрэлю, ты сказаў, што будзеш робіць тое, што і я". Ён баяўся, каб той яго не прадаў. Ну і вот ён сказаў, што ўжо кляўся, галасіў, маліўся, прасіўся, што "нікому на сьвеце не скажу, што ў нас палучылась. Но гэтага я робіць ня буду." І не стаў страляць. Так тады яны і пайшлі дамоў. І ён маўчаў, гэты чалавек, да тых пор пакуда гэты Іван не памёр. Як памёр, тада ён прызнаўся, як ён хадзіў учыцца чараваць.

*– А што кепскага гэты Іван рабіў?*

– Ну вот, ён то, што захочыць, тое і зробіць. Вот такое зробіў. Вот, даўней жа, пасьцілі свіней, кароў, сьвіней ганялі на пасту. Ну і тут сасед у нас, цяпер во тут жыў радам з намі, ды памёр. У гэтым доме памёрла чатыры дзевятага мая, і чатыры пахароны, тры сыны і сам бацька. І ўсе на дзевятага мая. І вот за тое, што не насілі травар. Вот, дзіцятухна, не плач па брату па свайму*, а вот насі травор, хоць лентачку чорненькую павязывай. Вот нада абязацельна панасіць. Вот

* Сярод студэнтаў, што прысутнічалі пры размове, была стрыечная сястра хлопца, які загінуў у аўтааварыі на Купалле.

даўней казалі, што жонка па мужыку плачыць ад рана да вечара, сястра па брату ад года да года, а маці па дзіцяці ад веку да веку. Дык вот гэта матка не насіла. Дык вот маці мая кажыць: “Нюша, завяжы ты хусцінку чорную”. А яна нізашто, завязала красную. На аднаго дзевятага мая – сын утапіўся, з арміі прышоў, на другое дзевятае мая – токам сына ўбіла, на трэцяе дзевятага мая – піў гарэлку, пад заборам памёр. А на чацвёртае дзевятае мая – пайшоў чалавек, яшчэ аўтобусы к нам не хадзілі, пайшоў чалавек у Вушачы ў бальніцу. Ішоў з Ушачаў, зашоўся ў апцеку, яны сталі яму лекарства падаваць, ён тут бахнуў, тут і ўмер.

*– А Іван той Алексяёнак прычым тут?*

– А вот тады пасьцілі яны з гэтым Паўлухам. А тады гэтат нічога ня робіў, а гэтат у багацейшых людзей пастухом быў. Тады кажыць: “Хадзі, Паўлуха, ў карты пагуляем”.

*– Гэта Іван пастухом быў?*

– Не, не. Паўлуха. А ён: “Ай, не – кажыць – нада ж глядзець, свіньня апарасіўшыся, малыя парасяткі”. Іх там дзесяць было ці двенаццаць. А ён кажыць: “Нікуды яны ня пойдуць, будуць лежаць”. А Паўлуха ўсё баіцца, што бываець свіньня задумаець, дамоў пойдзець. А ён кажыць: “Будут ляжаць”. Ну, Паўлуха падышоў, а ён кажыць: “Садзісь смела, будзем у карты гуляць”. Сьвіньня лягла, парасяты ўсе паляглі і лежаць – падохлі парасяты. Гэтат баіцца, што парасяты падохлі, ужо з сябе выходзіць, а гэты кажыць: “Не бядуй, устануць”. У карты нагуляліся, ён толькі плюнуў, сьвіньня ўстала, і парасяты ўсе ўсталі. Вот эта ўжо дзесьвіцельна чараўнік. Тады была свадьба, ужо ў нашай дзярэўні, недалёчка ад нашай хаты. А гэта шчыталася, як бы ўжо шляхціч жаніўся. Гэта ж яны багацейшыя былі. Ну і бралі дзеўку тут адгэтуль. Ну і прышлі, папа мой казаў: “Стаім тут у парозе”. А яны ўжо вылезлі з-за столу, ну нейкая ўжо музыка была, танцаваць пашлі. Ну і як там з той шляхоцкае пароду там у свадьбе быў, як там ён гэтага во так локцем гэтага Івана таўхануў, можа ён і нечайна там. Але відна, ён ужо яго таўхануў, што “ты не будзеш тут стаяць, батрак, каля мяне”. А гэты тады: “Ах, як так, ах ты, шляхціч, ды пархаты, будзеш ты мяне падштурхоўваць”. Ён плюнуў і з хаты вон. Уся свадьба, што прыехалі і што былі, з-за столу вон. Дзетачкі, прасціце мяне за грубае выражэнне, усе здзеліся і садзяцца тут усе. Хто па чым, за сталом, каля столу. А гэта сушчая праўда была. Ну што, усе пазналі, што гэта Іванава работа.

*– Раздзеліся?*

– Разьдзеліся ды пасадзіліся. У туалет не пайшлі, усе тут пасадзіліся. І свадьба, і крык, і плач, і голас. Усе шляхты пасадзілісі, усю хату занялі. Тады ўжо дагадаліся, што нада іцьці ка Йвану. Ну і пайшлі. Ён прышоў і толька плюнуў, і яны ўсе паўставалі, панадзяваліся. Вот кажыць: “Вот, знай пархаты шляхціч, як табе штурхаць батракоў”. Вот так, эта быў дзесьвіцельна чараўнік.

*– А вось ня кожны чалавек можа мець такую сілу, як Іван?*

– Канешна.

*– А адкуль у яго такая сіла?*

– Патаму што ён д’явалу душу аддаў.

*– А ён мог толькі благое рабіць?*

– Благое робіў, і атрабляў, харошае каб было.

*– А ці не лечыў людзей?*

– Не, лечыць – ня лечыў. Вот ён толькі такую работу рабіў. Даўней кажуць: “Ай, залом заламілі на жыце”. Вот ідуць у жыта і тады ламаюць, калі чалавек плахі, значыць яму ламаюць жыта, перакручваюць жыта і ламаюць. Вот эта залом робілі. І абязацельна будзець у гэтага чалавека што-та плахое.

*– А калі будзець? Калі сажнеш?*

– Вот будзець яно стаяць, будзеш жаць, убіраць, і абязацельна яно зробіцца. Вот кажуць: “Нада зваць Івана, каб залом вынес”. І тады ён яго і вынес. Ён загадаець чалавеку зло, тады ж нада яго ўзяць, абы хто ня возьмець, када вы пойдзеце, дык на вас уражда будзець, а ён пойдзець, возьмець, яму ўражды нікакой нет.

*– Ну, гэта ён памагаў палучаецца?*

– Канешна. Вот эта быў чараўнік.

*– Можа ў яго і бацька так умеў?*

– Не знаю. Вот ужо гэтага я не знаю. Хто іх учыў, ад каго ў іх патомства такое было?

*– А можа казалі яшчэ, што на Купалу малако адбіралі ў кароў?*

– Ну, канешна. Када разьдзенецца дагала жанчына і паляціць каля чыёй-то хаты, вот і будзець пуста, вот і будзець гола.

*– А што яна рабіла?*

– Яна нічога не рабіла. Яна аббяжыць кругом хлеву голая, разьдзенецца дагала.

**Пазыка на свята**

*– А ці праўда, што на празнікі ня можна пазычаць?*

– Ну, праўда, канешна, нежэлацельна.

*– А чараўнікі ходзяць пазычаць?*

– Яны не чараўнікі, яны бываюць такія людзі, што савершэнна нічога знаць не знаюць, а вот прыходзюць у праьзнік, а када ў праьзнік адалжаець, значыць ён цябе ўрэд занясець, ён тада ўсё ў цябе забіраець. Вот прыдзет ён к табе дзенег аддалжаць, дажа нічога не нада. Вот прымерна прышоў ды кажыць. Ну вот некаторыя людзі прыяжджаюць, вот пад нізам магазін, ён ня йдзець у гэтат магазін, а прыдзець на втары этаж “аддалжы мне солі, у мяне солі нет”. Ну вот як аддалжыш, значыт ён тваё ўсё забірае. Вот ён прыйшоў к табе, сынок, такі чалавек грошы аддалжаць і кажыць: “А дайка ты мне, Сяргейка, сто тысяч грошай”. Ну вот, сто тысяч ты палажы на руку, ты яму адалжай, а наверх ты палажы дзесятачку ці пяцёрачку, вот прынясі. А тады во гэтка гэту пяцёрачку снімі, што наверху, на во гэтых сто тысяч рублёў, снімі і ці ты яе ў руцэ дзержы, ці ты яе ў карман палажы. Вот тада ты не аддасі свайго.

*– А як што другое?*

– А як другое, як прымерна прышоў вот: “солі дай мне”. Дык вот вазьмі з гэтай, пачку ён бярэць, стакан солі, а тады з гэтага стакана вазьмі во так тры горстачкі – раз і ў тое, адкуль ты насыпаў, другі раз горстачку і трэці. І цябе тваё будзець астаўшыся.

**Сродкі ад сурокаў**

*– А можа раней можна было што рабіць, каб не счаравалі? Калі на свадьбу ідзеш?*

– Цяпер вы вот робце самае прасцейшае, атламывайце гэтага самага *палыну* ветачку, вот палажы. Вот, можаш палажыць у карманок, ці куды-небудзь, маленькую такую.

– *А вот маленькіх жа дзяцей прасцей сурочыць. А вот ім што?*

– Вот ім нада ставіць *асінінку* каля іх, вот ім нада *палынінку* ставіць, каб яны не глазіліся. А вы што думаеце, што ўзрослы чалавек не можа зглазіцца? Так зглазіцца, што рады нету. Вот нядаўна, на гэтай нядзелі, сын мой гарадзіў тут забор. Вот прайшла тут жанчына, а тады другі раз: "Ай, як скора ты, Коля, ай як скора ў цябе забор расцець". Коля дамоў заехаў на машыне, закрычаў ратунку, забалела рука, так забалела. Крычаў усю ноч, прыляцеў досвітку. Я кажу: "Недзе заўрочылі". – "Ай, можа не, можа расцяжэнне. Давай мне пласцічны бінт, я ўбінтую можа". Ні опухалі нет, нічога. Я кажу: "Падажджы, сначала я табе вады зраблю. Папій вады, памыйся, ляж паляжы". Ну і паехаў ён дадому, але папіў вады, памыўся і паехаў. Руку як сняло, боль тую. А кружачка з вадой во там стаяла на стале. На заўтра прыязджаіць з раніцы, кажыць: "Ай, мама, праўда, што я заўрочыўся, што мне так рука балела". Кажу: "Ідзі, вон вада стаіць, закончы. Папій, памыйся."

**Матчын заклён**

– А вот заклясьці, гэта я вам скажу. Гэта такі случай быў. Такія дзяўчаты былі як я. І іхная матка і мама мая, яны дружылі дужа. А яна не танцавала, такая йіна была, як камяк, сядзець на вечарынцы, тока ў вугал заб'ецца. Ну вот там ей усё развлячэньне. Ну і яна как-то радзіла гэтых, замуж яна хадзіла, радзіла дзьве дзяўчыны. А тады на гэту дзяўчыну, вы прасціце мяне, дзеці, но эта точна была праўда, яна гэтых дзяўчын усё ніяк не звала: "Ах, ты блядзь". Усё на гэтых дзяўчат – "блядзь". Дык і сталі і параджалі ў дзеўках. Дак адна яшчэ нішто, а другая ж то раджала, і тады ж прыспасобілася іх і тапіла, і душыла, але гэта было после вайны, ніхто ўжо дужа не ўглідаўся. Ну во так асталася адна дзяўчына ў яе, дык вот вырасцілася яна. Ну ўжо раз такі чалавек быў, ну дак і асталася адна гэта дзяўчына, у Мінску цяпер жывець. І вот дзесьвіцельна і пракліла. Вот сказала матка на рабёнка, не нада нікада абзываць "ах, ты злодзей", "ах ты фулюган", "ах ты бандзіт" – абязацельна рабёнак такі будзець.

– *Эта слова такое матчына сільнае?*

– Да. Сільнае. Нільзя дажа думаць на свайго дзіцёнка плахова, толька нада думаць харошае. Патаму што эта очэнь бальшы грэх. Эта мама, эта ніхто так не пажалеіць і ніхто так крэпка не заклянець.

**Бяздзетнасць**

– *А вот былі такія, што сыйшліся і свадьбу згулялі, а вот няма дзяцей у сям'і?*

– Бувала і так. Так вот езьдзілі людзі во так, как я вам казала да ахвяры.

– *Ну вот а калі дзяцей няма? Гэта ад чаго такое? Можа грэх?*

– Не, ну вот бывае так. Ёсць і на гэта вот срэдства, ёсць вот такі загавор. Цяпер яны ж маладыя разумныя, даўней жа Бог даваў. А цяпер жа ўжо яны самі хазяіны сколькі ім радзіць. Даўней і па пятнаццаць і па васемнаццаць ражалі. А цяпер, калі адзін, а калі два, а ўжо калі тры, дык эта ўжо мнагадзетная сям'я.

– *А вы памагалі тым, хто дзяцей ня меў?*

– Канешна. Памагаю і цяпер. Гэта жанчыны. Эта малітва моліцца на жанчыну.

**Развод**

– А бувала і так, што чалавек ажаніўся, а даўней жа хаты былі во такія, што на адну палавіну адзін брат жывець, а на другую – другой брат. Вот ці помніце вы такія хаты? Ну дак вот, ажаніўся чалавек, і адзін брат памёр, і ў гэтай

братавай асталася двое дзяцей. А гэты брат жывець цераз сьцяну, і ў гэтага трое дзяцей. І вот гэты чалавек жыў, жыў, і яму як будта гэта братавая ўзглянулася, вот бы жыў з гэтай братавай, а ня хочыць са сваёй жонкай жыць. А даўней жа разыйціся – гэта ж многа дзялоў. Даўней жа поп павянчаў, тады ўсё – ўмры, а жыць будзеш. А чалавек не можыць жыць. І езьдзіў ён усюды, даўней жа былі гдзе якія прыставы, езьдзіў усё да папоў і да дзьякоў, каб як-небудзь яму разыйціся. Тады што рабіць яму? Паехаў ён аж да архірэя. Архірэй гэтат сказаў яму так: "Ну вот, чалавек, раз ты ўжо хочаш так разыйціся, дык вот зроб так, як я табе скажу, еслі астанешся жыў, то ідзі разхадзіся, і грэху ня будзець, перахадзі к этай жанчыне. Ідзі ў чыста поле, надзенься, вазьмі сьпічкі з сабой, і тады стань у чыстым полі, ну каб і людзі там былі, каб людзі відзілі, што дзесьвіцельна ты гэта зробіў. Запалі на сабе адзежу. Калі адзежа згарыць, а ты жывы астанешся, значыць ідзі сразу к гэтай жанчыне і жыві, табе грэху нет". Даўней жа людзі былі хоць дурныя і няўчоныя, але змышлівыя. А ён тады прышоў дамоў, узяў з бумагі пашыў сабе адзежу, ну і пашлі ў чыста поле. Ён стаў, надзеў тую адзежу, ну і людзі пайшлі ўжо ў сведкі. Ну ён узяў запаліў знізу да верху. Бумажына гэта пых і згарэла, а чалавек стаіць голы і не паўрэдзіла яму нічога. Усё – чалавеку грэху нет, прышоў і не пайшоў з Таццянай жыць, а пайшоў к Арыне жыць.

**Па-за шлюбам**

*– А вот што пра такіх гаварылі, што бегалі па чужых жонках?*

– Ай, дзіцёнак, за гэта дужа грэху няма. На гэтым свет сазданы, за гэта грэху нет.

*– А як жонка?*

– Ай, і жонка так сама. Я вам скажу, дзеткі, вот. Я старая бабуля, вы мяне прасьціце. *Па чым жонка з мужыком радня, дык па гэтым і грэху нетуці.* Мужык адзін, мужык і другі, жонка адна і другая. Вот. Мужык па жонцы плачыць тока ад рана да вечара, цераз яму (як хавае) глянуў на другую.

**Далман**

*– А ці чулі вы пра такога знахара Далмана?*

– Чула. І была і там.

*– А раскажыце, што за ён?*

– Ну, вот ён такі быў. Можыць ён і знаў што, я там была ў таго Далмана. А вот была такая беда, што ў мяне залоўка захварэла маладая, майго мужыка сястра. У іх не было дзяцей, і яна захварэла, рукі, ногі атнімаліся, і хварэла доўга, і рады не было. І маме маёй ногі балелі. І я была ў таго Далмана. А як раз паехалі на Купалку. А Далман, я вот вам чэсна гавару, патаму што на маіх глазах было. А жарышча, сонца паліць. А ў яго, даўней жа вада цёплая была, і такі луг заліты быў. Ну, ён, гэтат Далман, пайшоў у тое мястэчка, там што пабліжэ ля іх, ну напіўся гарэлкі. А людзей, каб вы зналі, поўна хатачкі, каля хатачкі скрозь поўна. А жонка дома, яна тады, і сена накошана было, во так дождж даў і паплыло сена сухое па этай вадзе. А цёпла – цёпла. Ну і яна загадала нам, а мы ўдзьвюх паехалі, тут жанчына цераз две хаты жывець. "Ідзіце гэта сена заграбайце". Таму загадала тую работу робіць, таму тую, а яго нет. А ён зайшоў, чэсна вам гавару, а тады явіўся п'яны. Мы тады гэта сена цягалі па вадзе, закупаліся ж ужо. А тады павыцягвалі яго на бераг. Ну а тады, што мы ўжо робілі работу гэткую, так яна сказала "начуйце ў нас у хаце."

*– А вялікая ў яго хата?*

– А бальшая. Ну вот мы з этай Ядзей начаваць асталіся. Нешта яна нам яшчэ і есці давала. А як прышоў жа ён п'яны, сваруцца яны з жонкай усю ноч, крычаць, сварацца. А ён якія словы кажыць нецэнзурныя. Ну але ж назаўтра раніцай усталі, а там такая комнатка была, там і акно ёсьць, і там бочкі вады наношаны былі. Ну ён бярэць бутылку, падпісываеш ты, напішаш на бутылцы як завуць чалавека. А ён з тый бочкі, вот чэсна вам гавару, можа ён там і маліўся што, но ён дужа скора вынасіў. Вот возьмець бутылкі, наліець з тый бочкі вады, вот парцію нас атправіць, там пяць – шэсць чалавек, ішчэ бутылкі падаюць. Тую ваду выносюць, што ў бочцы яго наліта. Во тут ужо нічога не скажу, ня відзіла, была ў яго якая ікона ці не была, я вам гэткага не скажу. Тады прыехаў Андрэй, Сяргей, Іван – "Нясіце ваду", з калодзежа насіць у тую бочку. Ну і насілі і гэдак, і налівалі. А людзей жа ехала, после ж вайны лячэньня нідзе не было, а ў мамы маёй ногі дужа балелі. Вот і я паехала. Прызнала я, што нікакой помачы не было, но з'ездзіць я з'ездзіла.

*– А які ён сам з выгляду?*

– Ай, абыкнавенны чалавек, худзенькі такі. Ну такога срэдняга росту.

*– Ну, вы думаеце, што ён не дужа памагаў?*

– Я думаю, не.

*– І прыпадак не вылечыў?*

– Не, не знаю. Я езьдзіла, што маме дужа ногі балелі. А тады я ўжо сама травамі лечыла.

**Перадача знахарскіх ведаў**

*– А вот вы каму перадаваць будзеце? Гэта ж трэба перадаць?*

– А вот не знаю, сынок, ці перадам каму, ці не. Дачка мая ўмеець усё. А нявестка, яе матка хочыць, каб я яе наўчыла. Так яна кажыць: "Я нізашто не запомню". А вот калі ўжо гора пасьцігла два гады назад, тада яна гэту малітву, я прыказала, што вот малі гэту малітву. Нада было ёй робіць аперацыю, аперацыю цяжолую очэнь. Вот я ёй загадала, малі гэту малітву. Пойдзеш, к якому врачу ты не пойдзеш, ты малі гэту малітву. Гэта любому чалавеку, дажа када зуб ідзеш удаляць, малі гэту малітву. Толька тры разы нада яе прагаварыць.

*– Ёсць такая малітва, якая ад усіх хвароб?*

– Да. Вот ня будзеш нічаго баяцца. Не будзець табе балець, ня будзець табе страшна. Вот нада маліць такую малітву "Я іду к врачу" – "*Госпадзі, памагі. Ты ідзі ўперадзе, а я пазадзі. Як Ісуса Хрыста з хрыста сьнялі, каб з мяне так балезьнь сьнялі. Госпадзі, дай урачу ўменьнека, а мне дай цярпеньнека і ўспакаеньнека*". Усё, не будзеш ні баяцца, ні балець.

*– А хто вам перадаў?*

– Мне, гэта мамы маёй была кума. У маёй мамы мальчык радзіўся первы, гэта ў дваццаць васьмым гаду было. І ён толька пажыў восем дней і памёр. І вот гэта, а хрысьціць жа вазілі даўней. А памёр вот так, вот нільзя нікада лажыць дзіця соннага ў ваду, када спіць рабёнак. Нада яго пабудзіць, хай ён лепей плачыць, крычыць, а тада яго ў ваду лажы. А яна спешыла, баба-павітуха, ей там нада было работу робіць. Вот яна прышла скоранька, дзіця гэта спала, яна скоранька ў ваду яго. Нільзя нікада лажыць рабёнка соннага. І вот соннага чалавека, каб ці ваду лінуў, вот эта очэнь-очэнь страшна. Вот у мінуту можыць з чалавекам непаправімае случыцца, нільзя на соннага чалавека ваду ліць.

*– Дык гэта ён пужаецца ці што?*

– Да. Вот спужаўся, усё і гатоў. Ну вот гэта кума знала ўсё, умела і яна мяне ўчыла. А када вайна была, згарэла ейная хата. У яе дзяцей не было, яна бязьдзетная была. І мы жылі ў адный хаце. Яна бывала завець мяне: “Зінута, Зінута.” Яна варажыла дужа. Яна знала, вот увойдзець жанчына, так станець у парозе, яна сразу знаець, када жанчына цяжарная. Яна глянула і скажыць, што вот жанчына родзіць дзевачку ці мальчыка, ён будзець даўгавечны ці сечас памрэ. Вот яна мяне і наўчыла.

*– А як яна яшчэ магла варажыць?*

– Яна толька на карты варажыла.

**Цяжарнасць, роды**

*– А як цяжарная жанчына, што не можна рабіць?*

– Не нада, вот прымерна, цераз вяроўкі іцьці, не нада цэп када вот навязана. Вот тада дзіця абязацельна раджаецца, і пупавіна будзець закручана за самую шыйку і за ножку. Вот ні нада плюваць, не нада фукаць, када вот кіпіць кастрюля. Будзець абязацельна ў рабёнка сьлюна іцьці з роціка. Цяпер жа яны нічога не прызнаюць, дзеці раджаюцца ўсе бальныя. Бацькі гарэлку п’юць, куруць, б’юцца, і вот дзеці раджаюцца. Вот када носіць цяжарная, яна спужаецца, і дзіцёнак.

*– Даўней жа не ў бальніцах раджалі, а бабкі бабілі?*

– Канешна. Вот і малітва такая ёсьць. Вот яны цяпер слабенькія очэнь, гэты мамы маладыя. Іх толька на сахраненьне, на сахраненьне, а вот прыедзіць яна ка мне, я ей загавару, будзець насіць, родзіць, да свайго дня даносіць. А вот перад этым нада назад тую малітву атмаліць, каб яна радзіла скорэнька.

*– А як атмаліць?*

– Вот так молісься ў адзін бок, а тада нада назад атмаліць яе ня дыхая.

*– Задам – напярод?*

– Да.

*– А вот як жанчына ўжо сем нарадзіўшы, болей не хацела.*

– А, Божа барані, дзіцёнак, гэтага не было.

*– Раджалі сколька Бог даваў?*

– Да. Эта цяпер самі хазяіны. У нас было, гэта ў начале дзярэўні, я яшчэ малая ў школу хадзіла. Дык вот была жанчына васемнаццаць дзяцей нарадзіла, і ўсе памёрлі, і асталася адна. І вот помню, а даўней жа зімы такія былі, што сьнегу наварачывала, хаткі гэтыя былі нізенькія. Завеіць і хата тая, і тую Гелену завеіць. Яе звалі Гелена. Дык вот к тый Гелене хадзілі сасецкія дзеці, дроў ей прынасілі, вады ей прынасілі, ад сьнегу яе адкапывалі.

*– Так а за што ёй такое?*

– Ну, вот. Эта ж канешна нейкае заклінаньне.

**Бабка-павітуха**

*– А вот бабка, якая бабіла, як яе называлі?*

– Яе звалі павітуха. Вот яны як паміраець, баба – павітуха, дык вот нада ей дзьве хусьцінкі завязываць і два пярэднікі прывязываць.

*– А чаго?*

– Вот з-за таго, што яна такой работай займалася.

*– Ну, гэта ж не кожная магла жанчына?*

– Канешна, не кожная. Пазаві ты другую, дык яна баіцца, ратунку крычыць.

*– А што яна ўмее тая бабка? Можа разбіралась у траўках?*

– Канешна. Яна знала ўсе травы, яна малітву эту недзе маліла, каторую вот і я, каб абязацельна радзіха лёгка раджала.

*– Ну, а болей ужо такога пажылога веку была жанчына?*

– Канешна. Дажа я вам скажу, што даўней не разрышалі. Такая жанчына, што маладая. Вот яе не разрышалі бабкай браць. Нада абязацельна та, каторая ўжо старая.

*– Ужо радзіць ня можа?*

– Каторая ўжо атыйшла ад усяго, ад любві ўсёй.

*– А вот як прымала роды бабка, як пупавіну трэба пераразаць?*

– А пупавіну вот просьценька, када касьнецца, так і зубамі людзі перакусвалі, як дзе раджалі ў дарозе. Вот нада вот атмерыць тры пальцы.

*– Усё роўна хлопчыку ці дзяўчыне?*

– Да. А када павяжыш, адрэжыш карацей во так, то ня будзець гаіцца пупік і будзець грыжа абязацельна.

*– А як болей чым на тры пальцы?*

– Ну, када ўжо болей, дык неважна, но каб не меней.

*– А вот як купалі першы раз?*

– Ужо бабка прыйдзець павітуха, яна ж ужо там нейкія пялёначкі нясець, ільняное чыстае. Кусочак мыла нясець, тады бываець капеечку кідаець. Вот нада было абязацельна во так локцем паставіць у ваду, калі ў локаць не гарача, тада лажы рабёнка.

*– А купала сама бабка?*

– Да. Сама купала. І яна ўжо ад веку да веку была бабкай-павітухай. І яе очань цанілі.

*– А што ёй за гэту работу давалі?*

– Давалі. Вот і песня ж такая пяецца, што вот. Вот давалі ўжо як тыя хрэсьбіны. Яна ўжо кашу варыць. Вот тады давалі. Даўней жа не было мацерыялу, дык ёй ужо кусок палатна атразалі, гэта ўжо на рукі ёй клалі за гэта, што яна вот такую работу прарабіла.

*– А вот у адведкі хадзілі?*

– Канешна.

*– А на які дзень?*

– Ай, гэта няважна, када сабе ён дзіцё радзіўся, позна – рана. Ну, абязацельна нада было гэту бабку зваць, і тада ўжо ёй на рукі даваць, як падарак. Ну гэта бабка тада ўжо ходзіць к гэтай радзіхе, што яна раз, і другі раз і кожан дзень прыдзець. І песня ж пяецца: *"Раніцай з люшкай, паўднём з калатушкай, а вечаром з кісялём"*. Яна тры разы хадзіла і што-небудзь насіла.

*– А што часцей насілі?*

– Ну, болей там піражкі якія, бліны. От, называлісь *"медзьвядзькі"*. Вот у нас тут бабка-павітуха, дык яна такое насіла. Вот возьмець піражкоў такіх сьпячэць, з мукі ж, прастыя. Але яна ўжо іх, які там сахар быў. Тада піражкоў напячэць, маку натаўчэць, трошку ўсыпець гэнай, што сладкая была, усе смяяліся, як даўней – хініна. Усыпець, а калі ўжо сахару, і тады піражкі памакаець у гэтат мак. Гэта называлася *"медзьвядзькі"*.

*– А вось як у адведкі прыходзілі, можа што рабілі, каб не сурочылі дзіцё?*

– Ну што, надзенець яму якую маечку, рубашачку навыварат. А бываець, якую шпілечку ўшчэмяць.

*– А вот на хрэсьбіны кумоў з каго выбіралі?*

– Кумоў ты можаш выбіраць і чужых і далёкіх. Но нада выбіраць такіх людзей гожых, каб і кума такая работніца была, каб і кум такі. Абыякіх жа не бралі. А вот у каторага не гадаваліся дзеці, дык вот як нада было кума браць. Не гадуюцца дзеці, уміраюць і ўміраюць. Вот ідзі на вуліцу, сягоньня я буду гэтага дзяця хрысціць. Ідзі на вуліцу, хто первый пападзецца, які мужчына, вот бяры яго за кума. Хто пападзецца, якая первая жанчына, бяры яе за куму. Вот і мая мама ў адзін год. Ідзець мая мама адсюль за вадой, выходзіць чалавек і кажыць: “Наталка, як ты ваду назад панясеш, як справісся, дак я буду свайго мальца хрэсьціць, прыдзі ка мне за куму.” І мама мая і пайшла**.**

*– А вот як усё добра было. Тыя самыя кумы і да другога дзіцяці?*

– Бываець хто-небудзь тых самых браў, толька нельзя браць мужука і жонку.

*– А то што?*

– Ну, нельзя, такі закон…

**Крактуны**

*– А не чулі вы пра крактуны?*

– І абязацельна рабёнак, як родзіцца, ён стогнець. І галоўкай так круціць, і стогнець, і стогнець. Вот крэкчэць, вот яму плоха. Вот нада лечыць яго.

*– А што з ім робіцца?*

– На ім во так во з гэтага і да гэтага месца і скрозь валасы растуць. Такія яны яму колюцца, плоха яму, і вось так ён і крэкчэць, і крэкчэць.

*– А гэта толькі загаварывалі, ці нешта рабілі?*

– Ну, канешне, нада і загаварываць, і нада хлебушык качаць такі сьвежы. Ну, даўней жа *хлеб* качалі, загаварывалі. Нада каб сьвежанькі такі быў, цёплы. І даўней *попел* сыпалі. Вот нада чысценькага попелу, дзіця купаюць, даўней жа купалі, гэта цяпер ванначкі, а даўней жа прастыя начоўкі. Ну дак вот, той *попел* дастануць з печы, беленькі такой, нада каб чысьценькі быў. І так на ўгалкі, на кожны ўгалок накрыж насыпаць. Во так вот у тры пальцы возьмуць этага попелу і пасыпюць во так вот накрыж на начоўках гэтых. А тада вот купаюць гэтага дзяцёначка, а тады як ужо будуць з вады вынімаць, тады нада было гэтым попелам пацерці, пацерці.

*– Па таму месцу дзе валаскі растуць?*

– Ага. Да, вот ад гэтага месца начынаюць і аж да спіны.

*– А чаму ў тры пальцы нада браць?*

– Ну, патаму што ў тры пальцы ложыш хрэст на сябе.

**"Польская вера"**

*– А чаму трыма пальцамі хрэсцішся?*

– Ну, вот польская вера, там усемі пецірмя хрэсьцяцца, а наша хрэсьціянская, нада трымя.

*– А польская вера, ці сільна яна атлічаецца?*

– Яна, не, малітвы яны тыя самыя. Усё тое самае. Вот мы кажам “Ісус Хрыстос”, а яны кажуць “Пан Езус”. А малітва, напрымер, “Отчэ наш”, яны молюцца

па-польску, а мы па-хрэсьціянску. А Бог адзін, вот маліціся, якая сабе цыганская, жыдоўская. Ну, жыды, яны молюцца па-другому саўсім, яны молюцца сваё.

**"Бог сварыцца"**

*– А вам можа старыя людзі расказывалі пра Сонца. Што такое сонца?*

– Не, ніхто нічога не расказываў. А цяпер я вот знаю, што даўней толька Бог быў на небе. І када гром загрыміць, і бягуць, бягуць рабяты, крычаць: "Ай, хавайцеся скарэй, Бог сварыцца." Нада было куляцца тады, во так на галаву станавіцца і куляцца тады. Ну а цяпер усё занялі, усё прабілі, во і валіцца ўсё з нябёс каменьне. Патаму што сталі летаць у гэты...

*– У Космас?*

– Канешна. Вот і ўсё. Вот і валіцца каменне з неба. Вот і паляцелі самалёты ўжо ўсе. Разбіваюцца і разбіваюцца.

**Град і кохлік**

*– А град ад чаго можа быць? Ён жа можа выбіць і жыта?*

– Канешна, град гэта ж нядобрае. Вот гэта не нада на паследні дзень Вялікадня, не нада работаць, нада празнаваць за град. А када град, ён бываець і такі бальшы, і меньшанькі, і такі як гарох. Яго нада скоранька сабіраць, гэтат *град* чысьценькі, і ў бутылку яго нада кідаць гэтат град, і када ў дзяцей кохлік, нада было абязацельна гэту вадзічку даваць. І прападаў кохлік.

*– А што такое кохлік?*

– Што кашэль б'ець і б'ець не сьціхая, заходзюцца дзеці, аж вякаюць, вот такі быў кохлік. Ён і цяпер буваець.

*– А чаму гэта вада з градзін дапамагае?*

– Ну, дапамагае ж. Так даўна...

*– Можа што з неба?*

– Канешна.

*– Гэта Бог дае?*

– Канешна.

*– А чым яшчэ лячылі гэты кохлік?*

– Вот лячылі кохлік гэты, на Каляды калі *арэхі* б'юць, вот тада гэты *шалупкі* нада сабіраць, кіпяціць і нада паіць рабятак.

*– А кохлік гэта прастудны?*

– Гэта такая балезьнь. Эта не то што прастудзіўся. Эта такая балезьнь. І ў дзяцей очэнь многа. Даўней было абязацельна, каб у дзяцей гэты кохлік перабыў. А цяпер – "Ай, прастыў! Грыб!" А той "грыб" фармальны, відна што кохлік.

**Вясёлка**

*– А вот бывае навальніца пройдзе і вясёлка. Не гаварылі што пра яе?*

– Казалі толькі, што ў нас тут возера, казалі: "Ай, вясёлка вады з возера бярэць, нада купацца іцьці, цёпленька", ці "Сягоньня вясёлка вады з возера брала, ідзіце купайціся". Даўней жа не было, гэта цяпер баісься папіць вады ўсякай, а даўней жа рабяты купаюцца і вадзічку гэту прыгоршнямі, і сагнешся, пап'еш яе. Чыстая была.

*– А пасля вясёлкі яна вельмі чыстая?*

– Да.

*– Гэта вясёлка на неба ваду падымае?*

– Да.

## Трасца

*– А вот раней была такая хвароба, яе па-рознаму называлі, і трасца, і ліхаманка.*

– Трасца. Яна была ўсю вайну. Як вайна кончылася, так гэта хвароба і пакацілася. Страшная.

*– А адкуль яна?*

– Ну, яна после вайны была ад во гэтага, што воздух быў такі, і людзі бітыя былі. Скрозь было, што выйці неяк было, дышаць нечым было. Сядзеш, дык вецер як адтуль пацягнець з лесу, дык дышаць неяк было. Гэта трасца, яна і называлася трасца, ну яна як ціф во гэтат. Ціф во гэтыт так каціў, а тады во гэта трасца. Ну, тады загаворы якія хто, зёлкі.

*– А што тады з чалавекам?*

– Ну, вот трасець так чалавека, аж зубы так барабанюць, тада плоха станавіцца, чалавек слабеіць, не то ў яго цемпература. А тады накрывайся сколька хочыш, не сагрэіцца чалавек.

*– А якую траўку сабіралі ад трасцы?*

– А вот сабіралі, такая ёсьць трава. А тады кіпяцілі, а тады казалі, нада свянцонай вады даць папіць.

*– А можа што рабілі, каб не захварэць?*

– Раз паявілася трасца, каго зачэпіць, таго і зачэпіць. Не кажан чалавек балеў.

## Выкідыш, роды

*– А вот жанчына, калі цяжарная, каб выкідышу не было?*

– Эта ёсьць малітва, як я цяпер малю. І вадзічку даю, канфеты загаварываю.

*– А ад чаго можа быць выкідыш?*

– Даўней жа рэдка гэта было, а цяпер усе пагалоўна, патаму што жанчыны сталі слабыя саўсём.

*– А чаго?*

– Патаму што клімат такі ўрэдны, даў Чарнобыль знаць. Ды яшчэ яны п’юць ды куруць, эта очэнь сказываецца.

*– А нашы дзяды мацнейшыя былі?*

– Канешна!

*– А калі ўжо жанчына цяжка ражае?*

– І тады ёсць малітва такая. Вот павітухі і малілі такую малітву, каб раджала лёгка.

*– А можа што рабілі?*

– Былі такія пракцікі, што даўней жа ж не было такіх стрыжаных, як цяпер яны стрыжаныя ходзяць, леняцца за валасамі ўхаджаваць і расчэсавацца, а стрыгуцца. Дык вот, даўней каса ж была ў жанчыны бальшая, ну вот када яна раджае, тада нада абязацельна касу гэту расплесці. Када дзеўка раджае, яна касу не расплятаець, яна бягом бяжыць і касу на бягу расплятае. Дзеўка далжна бегчы, а када жанчына, то яна, асвенчана матка, ідзёт паціхоньку, і прыдзёт вот. А када к дзеўцы бяжыт, на хаду касу расплятает.

*– Гэта памагае кожнай?*

– Канешна. Вот даўней када былі шкафы замыканыя, даўней і клеці былі, дык замок у клеці замыкалі. Вот нада было адамкнуць, дзе што замкнута, нада было адамкнуць.

*– А вось у хаце ж раджалі?*

– А дзе ж? Бувалі такія случаі, што крэпкія былі жанчыны, у хлеў пойдуць. Хазяін па ўтру лапці пляцець, работалі людзі. І вот была дзедзіна ў мяне, што пайшла авечкам пакуль укінула, а даўней жа спадніцы шырокія носілі. Ідзець адтуль і ў спадніцы нясець дзіця.

*– А пупавіну як адразалі?*

– Ну, несла ж так.

**Пупавіна, валасы дзіцёнка**

*– А пупавіну, якую адразалі, яе недзе захоўвалі?*

– Ну, вот клалі ў такое места, як высахнець гэта пупавіна, дык яе нада была ўсегда берагчы, каб яна ўсігда была.

*– А дзе яе клалі?*

– Ну, клалі ў такое места, як даўней жа былі такія кублы, даўней жа не былі шкапы. Затое ж і кажуць: "*Цягнець дзіця (туды), дзе пуп атразалі*", цягнець у радзімую старану.

*– А калі малому валасы абразалі?*

– Ай, малому да году даўней не абразалі.

*– А куды абстрыжаныя валасы з малога потым дзевалі?*

– Ну, даўней гэта ж, барані Божа, не выкідывалі. Тады іх куды-небудзь заторкнуць, там у якую трапачку ўвяжуць і заторкнуць высока, каб ён рос бальшы. Да года рабёнку і пазногці калі адкусіць хто, зубамі ўжо мама там, а каб абразалі, во як цяпер, барані Божа.

*– А куды потым абстрыжаныя?*

– А тады гэта абстрыжаныя валаскі паторкнуць куды-небудзь высока, даўней жа балькі былі такія, што вот тады дзюрачкі былі, такія вот накладныя. Вот у гэту дзюрачку паторкнуць.

*– А калі валасы выкінулі?*

– Ну, гэта ж нядобра тады. Тады птушкі бываюць находзюць. І цяпер не нада дажэ ўзросламу чалавеку, нада абязацельна спаліць.

*– А калі птушкі разнясуць, што будзе?*

– Ай, ну тады ж яны носюць і гняздзечка ўюць, вот і круціць у галаве, баліць.

*– Вот вы казалі, што пупавіну ў кубел клалі?*

– Да. Там яна і лежала, і хранілась. І вот када адзёжку, када пад вянец гэта дзеўка, тая што надзяець, очань хранілі гэта, адзёжку берaглі.

**Пчала**

*– Ці праўду кажуць, што пчолка – Божая казюрка? Што яе ня можна забіваць?*

– Да, ня можна. Вот не нада казаць, ці пчаляр, ці любы чалавек. Вот нельзя казаць, вот кажуць: "Тая, тая, той, тая якая казяўка, – кажуць – здохла яна". А на пчолку нада абязацельна казаць "памёрла". Патаму што воск яна носіць, і свечы скачваюць з воска. Эта божая яна вот эта. Яна очэнь акуратная.

**Наход**

*– А вось даўней яшчэ была такая хвароба, як наход?*

– І цяпер ён ёсць. А цяпер толькі на врачэй ссылаюцца – "алергія, алергія". Вот лечуць алергію, а яна бываець када-небудзь і не алергія, а вот самы настаяшчы наход.

*– А як узнаць?*

– Ну, даўней вот лечылі сваім срэдствам гэтат наход. Маліліся малітву сваю, і ваду робілі, і змувалі, і наход той прападзёт.

*– А скуль гэты наход браўся?*

– Ну вот, бывае так, што када дзе мыюцца, купаюцца, ці там у бані, ці вот чалавек мыець ліцо, ідзець жанчына такая гразная, вот найдзець. Вот усё, і ссыпала таго чалавека.

*– А калі такая жанчына зойдзець, можа што можна было зрабіць, каб не прычапіўся наход?*

– Када чалавек у вадзе і яна ідзець, то ўжо нічога не паможыць. Так і называецца “Ай, наход, наход!”. Ну вот, маліліся малітву, змываліся вадой. І на парогі лілі, нада было на тры парогі занесці ціхонька каторай вадой памыецца гэтат чалавек.

*– На чужых?*

– Да, на чужых.

*– А тым людзям?*

– Ай, не, яна не паўрэдзіць.

*– Каб ніхто не бачыў?*

– Да, ваду робілі, во так накрыж.

*– А ў бані лячылі?*

– Ну, када ўжо чалавек памыецца, тада лілі на печку, печкі ж былі зложаны з камня. Вот лілі на печку гэта. Тры разы чалавек абмыецца гэтай вадой, у начоўкі ж паставюць, памыецца, тады на печку ўзліюць. А то нясуць на тры парогі, нада на чужых было занесьці.

**Лазня**

*– Якія яшчэ хваробы ў бані лячылі?*

– Ай, у бані лячылі даўней, цяпер жа дак радзікуліты тамака, поліартрыты, усё на свеце лечуць, ай, вот рэмацізм, а даўней – ай, забалела рука ці нага. Вот печка топіцца ці шчыт топіцца вечарам, нагрэюць руку ту, а тады патруць – патруць *керасінай*, яна ж нагрэецца, красная станець, тады натруць – натруць. К заўтрашнему ўжо рука не баліць. Усё – палепшыла. Ну а цяпер гадамі людзі хварэюць.

**Зёлкі**

*– А што яшчэ рабілі, каб суставы не балелі?*

– Ну, пілі ж травы. Але ж гэдак не хварэлі людзі, як цяпер хварэюць. Даўней у лапцях людзі хадзілі, і ногі былі здаровыя, а цяпер мы ходзім абуўшыся зімой і летам, і ногі баляць. І бальніцы гэты загружаны. А даўней от трава гэта была *растаропа* гэна была, гэты самы *сабельнік*, гэна была трава *быльнік*, *чарнобыльнік* хто завець. Вот парылі быльнік гэтат, ці вот *папараць*. Нарвацъ гэтай папараці, у вядро накласьці, і сабельніка гэтага нада накласьці і заварыць. Вот, прымерна, с утра кіпяточкам, накрыць, хай там яно стаіць, нацягваець усё. А тада на вечар нада пагрэць, і вот рука баліць, роб ванну такую, кладзіся, ці рукі, ці ногі стаў. Но нада каб цёплае было, гарачае не нада, каб цёпленькае такое.

*– А як вы думаеце, адкуль гэтыя зёлкі лячэбныя? Ёсць жа дрэнныя, што скаціна можа патруціцца і людзі?*

– Эта, каторыя добрыя, тыя людзі і сабіраюць, і лечуцца, і тада, і цяпер.

*– А адкуль яны ўзяліся? Гэта Бог даў людзям?*

– Ну, а як жа ж. Канешна. Вот Бог даў людзям. А каторая ядавітая трава, карова ня будзець есьці, ніхто ня будзець есьці, ні конь, ні карова, ні авечка. Вот расьцець гэты, ён жа ж такі ядавіты – *частацел,* яго не адна скацініна ня возьмець.

*– Ну, ён жа памагае ад нечага?*

– Памагаець. Ён і цяпер шчатаецца лячэбны. Ён і цяпер шчытаецца, што ім рак вылечываецца, но ён – ядавітая очэнь трава, і малачко гэта. Станеш рваць, малачко гэта жоўценькае, а горкае. А кіпяціць нада, вот і кругі гэты, нада і акуратна дужа піць, і нацерці нада дзе забалеўшае гэта месца. Гэтым чыстацелам ты можыш любы круг, які бы ён там сабе ня быў, чэшыцца ён табе, ня чэшыцца, толька расходзіцца. А вот ад раку яго нада піць, сколька капель нада варыць і піць, пяць капель.

**Парэз**

*– А яшчэ бывае ў людзей, што парэжыш руку і доўга не можа спыніцца кроў.*

– А гэта тожэ загавор ёсць, я загаварываю. Даўней загаварывалі, і цяпер я загаварываю.

*– А так больш нічога нельга было зрабіць?*

– Была такая трава, што гэта называецца *краваўнік*. Даўней жа жнуць людзі ці косяць, парэжуць. Ну, вот гэтага крываўніка атарвуць, цяпер ён ужо *тысячалісьнік* завецца, а даўней ён крываўнік зваўся, патруць, патруць, заложаць гэта і січас кроў перастаець.

**Кругі**

*– А вот як кругі, такая хвароба?*

– А, кругі, яны такія, вот восемсят чатыры сарта іх. Ну вот нада іх загаварываць. Вот у мяне і палачка, там сук ёсць, я на яго і загаварываю.

*– Вы на яго выганяеце кругі?*

– Ага. Ага, ды яны ж бываюць ад усяго. Гэта зараз кажуць – ай, лішай, лішай. Эта не адна хвароба, гэты кругі, эта я вам кажу, іх восемсят сартоў. Яны і цяпер, і дахтары знаюць што іх столька, а лечыць вот іх трудна. Аднаму тое дапамагае чалавеку, другому – тое.

**Лён**

*– А даўней жа адзёжу з лёну рабілі?*

– Канешна, гэта ж самае лепшае. І даўней самае лепшае, і цяпер.

*– А чаго? Можа, што лён такі палезны?*

– Да, патаму што вот сьвечкі сучуць, і эта ж з *лёну* ўстаўляюць, каб гарэла гэта свечка.

*– А ці праўда, што на ільняное поле змяя не запаўзае?*

– Не знаю гэтага. Вот толька знаю, што ў нас пан жыў, там далёка, кілометры тры ў тую сторану. І там жылі, як называліся – шляхта, хутары былі. Так вот пан прасіў чалавека такога што загаварывает, і абышоў усё поле панскае тое, і лес, і поле абышоў і малітву памаліў, і там нікада не было. Вот я не знаю.

*– Не было змей?*

– Нікада не было. Вот мы там ужо і кароў пасьцілі, і сеялі там, і ўбіралі, і жалі, і сена касілі, і я нікада ня відзела.

**Падвей**

*– А ці была такая хвароба – падвей?*

– Канешна, а чаго ж не была. Эта з ветру ў чалавека. Вот яны цяпер кажуць – ліцавы нерв, а вот буваець з ветру. Вот лежаць – лежаць у бальніцы ды і прыедуць ка мне. Вот гэта нада маліцца ад ветру, і ваду такую робіць.

*– А што гэта робіцца з чалавекам?*

– Што, ліцо яму звернець набок. Ён не павернецца, і скрывіцца ліцо ягонае.

*– Гэта ж любы вецер?*

– Абнясі Гасподзь, каб любы вецер! Гэта быває і такі вецер, када чалавек распацелы ідзець. А самы ўрэдны вецер, эта када во круціць. Віхор. І той вецер пападзець на чалавека, эта самае страшнае.

**Грыжа, скула**

*– А вось калі грыжа бывае?*

– Ну, гэта тожэ загаварываюць.

*– А грызь і грыжа – гэта тое самае?*

– Канешна. А скула гэта, яна такая што можна сказаць, дзецкая балезьнь. Яна абязацельна ў дзяцей бываець. А маліцца-то нада малітву па-даўнаму. І яна называецца “скула-залатуха”. У каторага дзіця яна па галоўцы павыседжваець, і такі лапік. А ў каторых па целе. Яе нада абязацельна загаварываць, і яна тада ўходзіць. Ну, давалі, *смароду* кіпяцілі, *лісьце* давалі ад гэтага, *калінаваю кару* кіпяцілі і давалі.

**П'янства**

*– А ці ёсць які загавор, якая малітва ад п’янства?*

– Ёсьць і ад гэтага. Эта нада, эта вот нада эту малітву маліць, ды вот када п’еш ты чалавек гарэлку, вот прыедзь ка мне і скажы: “вот ня буду піць”. Я табе вады дам. На другі раз ты прыедзь, у яго ўжо жажда ўходзіць, у яго цягі нет такой к гэтай гарэлцы, на трэці раз прыедзіць і ня п’ець. І няўрэдна, не то што кадзіраваньня.

*– А што першы раз прыязджае, як п’ець?*

– Ну канешна, першы раз прыяджаець, што п’ець. А вот я яму скажу: “Будзеш піць маю ваду, вот у рот не вазьмі ні піва, ні гарэлкі. Вот када вып’еш гэту, прыяджай ішчо”.

*– Тры разы?*

– Да.

*– А гэта хвароба?*

– Ну, канешна, хвароба, самая страшная хвароба.

*– А адкуль яна бярэцца?*

– Патаму што сам сябе распусціць. Што гэта за хвароба? Ён раджаецца з такой хваробай? Не раджаецца – п’яніцай станавіцца.

**Курэнне**

*– А калі кураць, гэта так сама хвароба?*

– Тожа цяга ёсць во такая, прывычка. Тожа ёсць лячэньне і ад гэтага. Так яны ж хто хочуць і ў бальніцы палечацца, і сваім срэдствам нада лечыць.

*– А вы самі ад курэння можыце?*

– Даю. Даю, як жа ж. Людзі просюць. Вот я сёлета пралежала ў бальніцы дзесяць дней, прапусціла пару, када *чаромуха* цьвіцела. Толькі яна ішчо не цьвіцела, і вот тада нада чаромухай пользавацца.

*– А яе нада падкурваць, ці загаварываць?*

– Яе нада жаваць.

*– Калі яшчэ толькі – толькі пачала яна распускацца?*

– Ага.

*– А потым куды, выплёўваць проста?*

– А вот жві. Вот курыць табе захочыцца, а тада засушаная, вот бяры і нада жваць.

**Знахарскія рэфлексіі**

*– А вот самі сябе вы можыце памагчы?*

– Сама сабе я магу памагчы-то.

*– Скажыце, а як вы памагаеце, вам самім цяжэй становіцца?*

– Канешна. Эта ж нада аддаць. Ды ёсць жа такі чалавек, пакуда я атмалюсю ды вады зроблю, дык я сама падаю.

*– Гэта ад таго, што ён такі грэшны?*

– Канешна. Ён урэдны такі чалавек.

*– Вы сваю сілу яму аддаёце?*

– А як жа ж ты думаў. Вот када я раблю ваду гэтаму чалавеку, у вадзе ёсьць сіла. Вада жывая і сьвятая. І я ж усіляю ў чалавека гэта. Дык вот каторы чалавек верыт, дык я і знаю, што ён верыт, а каторы прыедзіць ішчэ не знаець, яму ўжо нет лячэньня нідзе, а ён не знаець ці табе верыць ці не.

*– Такім цяжэй?*

– Ну, канешна.

*– А вы потым як? Вам палежаць потым трэба?*

– Ну, да. Тады лягу.

**Зап. У. Лобач, У. Філіпенка у 2006 г. ад Рудзёнак Зінаіды Аляксееўны, 1932 г. н. у в. Матырына Селішчанскага с/с.**

**2**

**Святая крыніца**

*– А ці праўду кажуць, што там пад азярком была святая крынічка?*

– Была сьвятая крынічка. Хадзілі пад тую крынічку, там поп прыяджаў, у нас жа ж во тут цэрква была, на кладбішчы стаяла. Поп хадзіў, сьвяціў ваду.

*– А вот тая крыніца, на які празнік да яе хадзілі?*

– Ну, вот там Мікола, там вот. Ну і ўчора быў празьнік, Рыбаловы вобшчэм зваліся. У тую крыніцу часта хадзілі.

*– А людзі насілі туды што-небудзь, можа капейкі кідалі?*

– Ну, насілі. Можа што і залатое там было, ў гэтай крыніцы.

*– А во тая вадзічка з крыніцы, яна можа памагала ад якіх хвароб?*

– Так вот бралі, усе ж пілі. Даўней жа не было лекарства, нічога. Ну вот ад усячыны. Ну вот, то жалудкі балелі. Тады ж таблеткі не пілі, пілі толька вадзічку, вот зёлкі, гэтых зёлак завараць, завараць.

*– А вот гавораць яна ад вачэй памагала?*

– Да, і ад вачэй. Многа хто і ад вачэй бралі яе. Гаварылі, што еслі вот чалавек не асоба добра відзіць. Ну так ужо гаварылі старшыя.

*– А ад вачэй змывалі можа?*

– Ну, змывалі і пілі.

– *А вот сама яна як-небудзь называлася? Пятрова крынічка ці як?*

– Там быў такі хутар, называўся Дзем'янаў хутар. І там стаяла гэта каплічка. Ну і цяпер яна там зарасла. Неяк адзін год на пасьце я хадзіла, і вот іскала – іскала. Ну там ёсць камні, ляжаць, такія таўстыя, ну але я і сама не нашла.

**Абыдзённыя рушнікі**

– *А можа рушнікі там вешалі?*

– Рушнікі мы ткалі – у цэркву вешалі. Вот, напрымер, сёньня мы сабяромся і будзем ткаць гэтыя рушнікі, і прадзём мы, і снуём. Усё за адну ноч, дзень і ноч, суткі нам нада каб зрабіць гэтат рушнік і павесіць, каб ішоў дождж.

– *А як называўся такі рушнік? Можа абыдзённік?*

– Ну як ён называўся, сьвянцоны, бо ў цэркву насілі.

– *А жанчыны з усёй вёскі сабіраліся?*

– Ну, з усёй дзярэўні канешна.

– *А толькі замужнія, ці яшчэ і дзеўкі?*

– Усякія былі. І ў вайну ткалі рушнікі, вешалі.

– *А ў вайну для чаго ткалі?*

– Каб вайна скарэй кончылася. Ну вот. Гэтак казалі, што нада выткаць намётку. Яна ўжо шырэйшая была. Ну, нясём, у цэркву нясём, каля цэрквы ходзяць з гэтым хрэсным ходам. Ну і тады ўжо ў цэркве ўжо павешаюць гэтую намётку. Ну, кажуць, усё тады будзець нармальна. Каб добра было.

**Упуд**

– *А вот такая хвароба была даўней – упуд. Што рабілі?*

– Загаварывалі ж ад упуду, бабкі былі старэнькія.

– *А цяпер няма такіх?*

– А цяпер ёсьць тожа такія бабкі. Во гэта сядзіць баба, ад упуду можыць. Гэта падкурваць, гэта ўжо маленькіх рабят. Курылі, дзвенаццаць скуматкоў адразалі.

– *Ад чаго адразалі?*

– Ну, ад новага мацер'яла. Вот адразаеш скуматкі, як шыеш што-небудзь, там коўту, юбку. Гэтыя ж скуматкі ляжаць усе паскладаныя. Адрэзаць дзвенаццаць скуматкоў, або дзевяць.

– *А гэта з лёну павінна быць?*

– Ну, у нас жа ж тагда ўсё было льняное. Ну а тады дзевяць вугалькоў, ці дзьвенаццаць вугалькоў паложыш на скавародку, а тады гэтыя скуматочкі парэжыш, паложыш. А тады рабёнка так паставіш і тады курыш яго. Ну, прыгаварывалі "*Ідзіце ўпуды сцежкай-дарожкай, на зялёныя лугі, на сінія атавы. Стаіць Ісус Хрыстос на Іардане, стань [імя] на сваім стане*". Тры разы. Ня дыхаючы. Цяпер вот я напрымер ваду загаварываю, я сама людзей лечу. Ка мне едуць многа людзей. Ня дыхаючы загаварываеш ваду, каб гэта ў сябе ўцягвала ўсё. Ну вот я цябе лечу, значыць тваё забалеваньне далжно прайсьці праз мяне.

**Паддзел і уроцы**

– Ну, вот ка мне з паддзелам бываець прыяджаюць. Ну як паддзел, эта очань плоха лечыць. Паддзелаць яго быстрэй, а вот аддзелаць яго на скорам хапу гэта ўжо трудней.

– *А ад паддзелу ёсць загавор?*

– Ёсьць. "*Хрэст хрысьціцель, хрэст храніцель, храстом хрэсьцімся, храстом аграждаемся, храстом врагоў пабеждаем, буд то враг крыві…*" Ну і маліліся малітву можа "Отчэ наш". Таксама тры разы.

*– А трэба пачынаць з нейкай малітвы ці гэта спачатку?*

– Ну, начынаеш, можна і малітву маліць, можна і сразу начынаць. Ну, як хто моліцца.

*– А вот паддзел і ўроцы, гэта адно і тое ж?*

– Нет, не адно. Уроцы, заўрочыцца – эта саўсем, эта быстрэе.

*– Паддзел страшнейшы?*

– Да. Вот паддзел, многа людзей такіх прыяджаець. Вот прыедуць, то ногі атнімуць, а то ногі ў раны паб'юць. Ну як, яны ў бальніцы лежаць, лежаць, а сейчас прыязджаюць к бабам. Тады едуць к бабам. Вот я ім усё врэмя і кажу, казала і кажу цяпер: "Вот залечыце свае ногі ці рукі, а тады едзіце. Як вот вам рады даць? Эта ж не раз я загукаю, эта ж нада раза трэцяга загукаць, каб твае ногі палепшылі." Ну, некаторым, канешна, сразу памагаіць.

*– А ад уроцы спецыяльны загавор?*

– Ад уроцы загаварваюць, але ад уроцы ідуць загаворы шчытай сумесныя. Называюцца там і ўпуды, называецца там усё. І ўсё падрад гэта кажаш. Я ж малюся падрад, мажа ў цябе ўпуд, я ўпуд загаварываю, мажа ў цябе табе зроблена, я і гэта загаварываю, дзе там з вока прыйшло, і гэта загаварываю.

**Знахарская дыягностыка**

*– А вы самі не можыце апрэдзеліць што ў чалавека?*

– Магу апрэдзеліць, я сразу вот ваду загаварываю і кажу што ў чалавека.

*– А як Вы бачыце?*

– А я не бачу, я чуствую. Вот па мне, напрымер табе зьдзелана, а па мне такій ужо пашол ток такій. Вот я ўжо чуствую, што во гэтаму чалавеку зьдзелана. Вот жалудак баліць, ці язьвеннае забалеваніе, артрыты там ці поліартрыты. Я вот, када перагаварываю эта слова, я сразу чуствую.

*– І вы іх перагаварываеце, і як называеце тую хваробу і нешта адчуваеце?*

– Да.

*– Гэта такія дрыжыкі па целе?*

– Да, да.

**Валасень**

*– А што за хвароба такая валаснік ці валасень?*

– Валасень. Ну, гэта з валасніком такіх многа прыяджаець баб. Ну вот цяпер з Віцебска прыязджала жанчына, кажыць – месяц праляжала ў бальніцы, там ногі страшныя, валасень. Я стала выліваць ёй гэтага валасня, тады як выліла, тут у мяне *каласоў* не было, ну але троху нашла каласоў.

*– А пустыя ці поўныя каласы?*

– Поўныя. Нешта і каласоў у мяне не было, але неяк загаварвала. Яна казала, калі хужэ будзець, то прыедзіць, але нешта не прыехала.

*– А які загавор на валасень?*

– Нада казаць: "*Я хадзіла па чыстым полі, каласкі сабірала, валасьнёў выганяла. Валасень калючы, валасень ламучы, валасень урочны, валасень малочны, валасень касьцявы, валасень галавны*", іх двенаццаць сартоў, валасень бываець. Ну і выліваць вадзічку на колас, выліваць і выліваць, і казаць, і казаць, і казаць.

*– А якія яны, можа чорненькія, рудыя?*

– Тоненькія валасы, беленькія. Ну, усякія бываюць, і чорненькія, і беленькія. Ну, усякія.

*– А вы яшчэ раз перакажыце.*

– Ну, яны ўсякія бываюць, ня роўная ж у чалавека кроў.

*– А як гаворыцца ён? Сначала перакажыце?*

– *“Я хадзіла па чыстаму полю, каласкі сабірала, каласкі сьвятыя з польнага жыта”*. А я ўжо просценька загаварываю: *“Я хадзіла па чыстаму полю, каласкі сабірала, валасень выганяла. Валасень, выхадзі на чыстаю вадзіцу, плыві па чыстых азёрах, па чыстых рэках. Прашу Ісуса Хрыста і Господа Бога, памажы. І я памагу, Нябесная Царыца...”* Ну вот так прамаліўся, і прамаліўся “Отчэ наш”, ці яшчэ якую малітву.

*– А ці кожнаму дапаможа гэта?*

**Этнічны аспект народнай медыцыны**

– Да, і кожнаму дапаможа.

*– А калі яўрэй, напрыклад? Жыд?*

– Жыду не паможыць Напрымер, беларус і жыду не паможыць вылечыць.

*– Беларус не можа вылечыць жыда?*

– Да. Ну, жыд беларуса можыць вылечыць, а беларус – не. Ну, кроў не такая ў жыда і беларуса. А ён сваёй кроўю пабядзіць, патаму што ў даўнае врэмя пяклі жыды мацу і яны лілі сваю кроў, і яны давалі нам, малым рабятам. Я помню, з бацькам пойдзем у Вушачу, яны: “Эй, хадзі к нам, мацы напяклі”. У сьвята якое-небудзь. І даюць нам рабятам, каб паелі мацы з сваёй крывёю.

*– Так у іх сільнейшая кроў?*

– Да, да. У іх сільнейшая кроў.

**Вымерванне**

*– А нітачкі ў вас суровыя?*

– А, гэта я вымераю людзей  ад упуду. Ад гэтага, ад калдаўства вымераю. Ну вот вазьму гэту *нітачку*, вымераю, а тады аддам гэтаму чалавеку. Ну і кажу, каб павешаў на асіну. Но толька на асіну, каб твая хвароба там і асталася, хай трасецца.

*– А вот вы сказалі ад калдаўства?*

– Ну вот ад калдаўства і загавор. Ну вот гэткі, што я вам і пераказвала. Яно тожэ самае я загаварываю на гэту нітку.

*– А што вы мераеце? Якія суставы?*

– Да, усе суставы, начынаю, напрымер, ад галавы мерыць. Вот так усю галаву прымераю, шыю, тады вот прымераю дагэтуль (плечы), тады дагэтуль (кісці).

*– Пальцы, фалангі?*

– Усе костачкі. І тут, і стан. Тады адгэтуль дагэтуль меру.

*– Да калена, да ступні. Ад сустава да сустава ўсё мерыцца?*

– Да, ад сустава да сустава.

*– Ну вот такія ніткі, яны мусяць быць нябеленыя?*

– Да, нябеленыя, суровыя.

**Залатнік і падрыў**

*– А вот ці чулі вы такую хваробу, як залатнік?*

– Ну, і залатнік загаварываю

*– А ад чаго ён бывае?*

– Бывае залатнік ад падрыву, вот дзе падарвесься, падымеш што цяжолае.

*– І што там робіцца ў чалавека?*

– Ну вот можыць дажэ язва з падрыву быць, што ў жалудку можа быць тока ад падрыву. Вот ка мне многа прыяджаець такіх людзей, мужчыны дажэ. Дажэ недалёкія, з Ухвішча, з Бабыніч. І вот ім гэты залатнік загаварываю. Вот кажу залатнік і падрыў. Вот залатнік – эта ўжо еслі сільна падарвецца, ён разойдзецца па ўсем, да жалудку, і там могуць такія красьненькія, як язвачкі, быць па кішках. Яны ўжо, как прасьвеціш на гэтую (рэнтген), яны ўжо відаць, як язвы ўжо. Ну, я загаварываю гэта. Ну ў мяне нешта ёсьць у руках, я сваімі рукамі вот правяду, усё – залатнік гэты ўсё.

*– А ён павінен гэты залатнік стаяць у пупе?*

– Да, павінен быць прама, у пупу. Во тут во паложыш пальцам і яно чуваць. Калі ўжо ніякага ачушчэньня нет у пупу, значыць у цябе залатнік разыйшоўся.

*– А як вы гаварылі ад залатніка?*

– Ну, я залатнік загаварываю, рукамі ваджу: *“Залатнічок, ідзі па залатых дарожках, па залатых кусточках, па залатых масточках, па залатых сьцежках. Я з [імя] снімаю ўсе болі касцявыя, нарыўныя і падрыўныя, і жалудачныя і паджалудачныя, і сярдэчныя, і нявечныя, і урочныя, і малочныя”* – снімае ўсе гэтыя болі, во так паводзіш. І тады малітву перамалю.

*– А якая розніца паміж залатнікам і падрывам?*

– Падрыў, гэта значыць падарваўся, ён апусьціўся сюды (уніз жывата). А як залатнічок, тады ён разойдзецца па ўсім (целе). Ён сільней. Залатнік, ён ужо разышоўся па табе, яго нада рукамі во так.

*– Усё ў места сабіраць?*

– Да.

**Вогнік, дзічы, наход, кругі**

*– А ці была такая хвароба ў дзяцей, як вогнік?*

– Быў даўней і вогнік гэты. *Канаплёў, маку* нажнуць і прыкладываюць. І ён сразачку аблупіцца ўсё – усё.

*– А ад чаго гэты вогнік у дзяцей бывае? Кажуць ад агню мог прыкінуцца?*

– Ну, ён мог і ад агню, і з ветру мог быць.

*– А як дзічы на руках?*

– Дзічы, напрымер, пашчытаюць сколька іх у цябе, пяць – дзесяць – пятнаццаць – дваццаць і во гэтай *нітачкай* перавяжуць на вузёлчык, і пакласьці пад страху, дзе цячэць дождж, у зямлю закапаць. Тады нітачка згніець і гэта ўсё атваліваецца.

*– А можа чулі твакую хваробу – наход?*

– Ну, і наход.

*– А з чаго яна бывае?*

– Наход, вот як даўней, кажуць, мужчыны такія сідзяць, а бабы пройдуць, бабы, якія гразныя. Ну вот пройдуць, ну і на гэтага чалавека ўліяець. Но не на ўсіх, на каторых во вліяець, а на каторых не вліяець.

*– А як-небудзь можна было засцерагчыся?*

– Ну, вот гэтыя яйкі, што цыпляты выходзяць, *скарлупкі* сабіраюць у кашолцы, а када чуць гэты наход, тады сколькі там шкарлупак кінуць у гэту, у кружачку, вады наліюць, памыюцца, памыюцца. Но яго і загаварываюць гэты наход. Бабы старыя загаварывалі.

*– І вы самі яго не лячылі?*

– Я яго не лечыла той наход. Але пры ўсім лячэньні я магу і наход гэты загаварыць.

*– А такая хвароба як кругі?*

– Былі і кругі. У мяне ў самой былі кругі.

*– А ад чаго яны браліся?*

– Вот я была даяркай, работала трыццаць пяць гадоў даяркай. Ну вот у кароў бувала кругі. Ну набіралася гэта ад скаціны. У мяне ў самой былі кругі во на вачах. Я ўзіла *вуксусам* крэпкім, во намазала, яны абадраліся і не стала іх.

**У лесе**

*– А тут жа лясы бальшыя, змеяў багата ж было. А ад вужакі? Вот як лечылі?*

– Ад вужакі быў загавор, але я вот ад вужакі не загаварываю.

*– А быў хто ад вужакі загаварываў?*

– Ну, тых ужо баб няма, усе памёрлі. Вот, напрымер, я іду ў лес у ягады. У мяне ёсьць такі вот загавор. Я загаварыла і пашла ў лес. Я тады буду хадзіць смела.

*– Так ёсць загавор каб у лесісці?*

– Ну вот загавор, я вот іду ў лес, я пераксьцілася і пашла, і сказала: *"Цар Гарадын, Цар гаспадын, ялюха палятуха, бойся іарданскага духа, бойся польскай каляды, бойся іарданскай вады. А іарданская вадзіца ад усіх змей памачніца."*

*– А што за іарданская вадзіца?*

– Ну, што. Ну вот эта, напрымер, з цэрквы вада. Ну вот на сьяткі едуць у цэркву. Там жа ёсьць усякая вада. І там іарданская вада. І вот, када ў лес ідзёш, нада абязацельна гэту вадзіцу называць.

*– А Цар Гарадын?*

– Ну, ён такі быў тожа лячэбны. Лечыў калісь людзей. Ну былі тады цары, і пані гэты былі.

*– Дык Цар Гарадын, ён недзе тут жыў?*

– Ну, даўно, канешна ж. Ну, раз вядзецца гэты загавор, мы можа яшчэ малыя былі. Мяне вучылі так старыя бабы.

*– А можа што-небудзь нада было сказаць, калі ў лесе заблукаеш?*

– Ну, вот як у лес ідзеш, такую перагаварыў. І можаш хадзіць дзе хочаш, блудзіць ня будзеш. Вот ідзі ты ў любы бок, усё раўно ты выдзеш на тую дарогу, на якую табе паложана. Цябе выведзіць ужо Цар, ну ён ужо з табой ходзіць.

**Апёк, скула**

*– А калі руку апячэш, успухне рука і не загойваецца?*

– Ну, рожа можа быць, можа быць там скула. Ну, рожу ж тожа нада загаварываць.

*– А калі абліеш чым? Кіпятком?*

– Ну, даўней мазалі, лісьцікі прыкладалі, *рыб'ім жырам* мазалі.

*– А скула гэта што?*

– Скула, гэта вот балячкамі такімі можа быць, на галавах можа быць, эта абрашчэньне крыві када неправільнае. Загаварывалі. Ну, вот як загаварываеш, так яе і называеш – скула. І тады: "*скула ламучая, скула калючая, скула нарыўная, скула ўрочная, скула малочная, скула авечча, скула сабачая, скула ласіная*", ну ўсякая, двенаццаць сартоў нада абязацельна назваць. Ну, вот сечас загаворыш, яна і праходзіць. Ну, гэта не ўсе загаворуць. Вот, напрымер, у Матырыне ў

нас, мы ўдзвюх тут загаварываем. Ну, йіна, тая баба, умее дужа калдаваць, ну я дык калдаўство ня сьпісывала, патаму што я Богу грэшыць ня буду. Мяне ўчылі толька добрае.

**Навучанне знахарству**

*– А хто вучыў вас?*

– А мяне вучыла адна жэншчына пад Віцебскам, у Лоўшы. Вот у Лоўшы там жыла гэна Зіна. Вот яна мяне і наўчыла. Мне была гэта наша (жанчына з Матырына падрабіла), мы з ей ятроўкі, за братоў родных зайшоўшы. Вот яна загаваруваець і я загаварываю. Но яна многа дрэннага загаварываець, а я дрэннаму ня ўчылася.

*– Дык яна троху калдуе. А што напрымер?*

– Хоць што можыць табе зробіць. Вот яна мне зробіла, я вам раскажу. Пазвала мяне ў госьці, сейчас тут паставіла на стол, у яе мёд быў, паставіла на стол бальшую міску мёду. Нас тут парадачна сабралася. А мне маленькую місачку ўліла. "Ай, ну я табе аддзельна ўліла" і паставіла. Ну я без задняй мысьлі, як ужо радня лічуся. Я гэтага мёда як з'ела, да аднаго зуба вылезьлі. Усе зубы вылезьлі.

*– А як? У той дзень?*

– Ня ў той. Вот гэтым врэмем я прышла, і ўсё – у мяне галава, усе зубы палезлі вон, усе белыя зубы вылезаюць вон, выходзяць. Вот, паела мёда. Тады паехала туды ў Лоўшу, к гэнай Зінцы. А яна мне кажыць: "Дзетка, а ў каго ж ты мядку паела? Табе ж зроблена на гэтым мядку на сьмерць."

*– Так яна адрабіла тады вам?*

– Вот тады мне гэта Зіна лоўшынская адрабіла, і яна мяне наўчыла. Вот я гэтай цяпер не баюся, я ўжо сільнее за яе.

*– Так вы дагэтуль не знalі загавораў?*

– Я знала такія загаворчыкі маленькія, ад уроцы там, ад упуду. А вот ад падробу, гэтага я не знала. Даўней тут чараўнікоў было многа, ну яны былі прыродныя. Вот казалі, адзін ад аднаго прыродныя вядуцца. Ну а гэта, яна тожэ, ейны і матка была, ейны там росьвеньнікі былі, ну зналі. Ну вот і яна, яна наўчылася ад іх усякага чорта там. Яна цяперака некаторых людзей як палечыць, дык з сябе выходзяць, тады лятуць ка мне, кажуць тады. Ёй і ў вочы кажуць, і па ціліфону звоняць, што "каб ты ўжо скарэй здохла, как ты ўжо многа людзей уніцтажаеш".

*– А што пра яе яшчэ расказывалі? Як яна чаруе?*

– Чаруе, яна ўсяк можыць падчараваць, дык яна мне як зрабіла, я чуць не памёрла. Каб ня гэна Зінка, я б і памёрла. Ну вот гэна Зінка мяне вылечыла і мяне тады наўчыла. Там яе яшчэ бацька, яны чыстыя маскалі былі. Яны мяне і наўчылі.

*– А як фамілія гэтай Зінкі?*

– Гардзіёнак Зіна, но яна на мужыковай фаміліі была, а дзявоцкай фаміліі я не знаю. А мужык ейны быў з Бікульніч, а тут у нас у Матырыне была радня.

*– А вот тая Зінка доўга вас вучыла?*

– Яна мяне ўчыла, я трое сутак там пераначавала, я маладая тады была, мне дваццаць пяць гадоў. І маментам я наўчылася, я сільна запамінала ўсё.

*– А ўсё на памяць, ці вы нешта спісывалі?*

– Ну, сьпісывала, канешна, а тады ўчыла дома.

*– А сшытак ёсць у вас?*

– Вот раздала ўсё. Вот бяруць людзі, прыедуць, кажуць: "Дай, баба, мы вот спішам, прывязем". І кніжкі мне была дала гэта Зінка. Вот параздавала.

*– А ў савецкія часы можа ўлады ганялі, што загаварывалі?*

– Нет, не наказывалі нікада. Во цяпер, кажуць, наказываюць. Вот прыяджаюць мальцы такія, яны б маглі лечыць, але кажуць:"Нам не разрашаюць, пад суд такіх людзей хочуць". А пачаму, я не знаю.

*– А гэта Зінка магла любому чалавеку перадаць?*

– Ну, нет, не любому. Каторы можыць гэта. Ну, яна мяне ўзяла за руку і сказала, што я магу загаварываць людзей. А вот гэна, як прыехала к ей, паехала, думала, што яна не ўзнаець нічога. А яна ей сразу сказала: "А чаго ж ты, чараўніца, ка мне прыехала? Я цябе лячыць ня буду."

*– А яна прыязджала да Зінкі лячыцца?*

– Да. Прыехала ўжо як будта мужуку вады, а тая сказала: "Я табе вады не дам раз ты людзей зьніцтажаеш". Вот яна сразу з хаты вон паляцела.

*– Дык у яе і бацька ўмеў?*

– Да, вось гэтай Зінкі бацька загаварываў сільна, а тады ўжо дачка.

*– Гэтыя маскалі – гэта мусіць стараверы?*

– Ну, я не знаю, стараверы ці не стараверы, такія харошыя людзі. Ну, мяне як прывязлі туды к ім, не тое што мяне павязлі туды к ім, тут свадзьба ў нас была. Вот жанілася іхная ўжо пляменніца, а мой брат дваюрадны яе браў. І тады ейны бацька мне сказаў, Дзем'ян яго звалі, мяне ўзяў за руку, кажыць: "Дзетка, пакажы мне сваю руку". Ну, я яму так дала руку, ён начаваў у мяне, ён узяў за маю руку, а тады кажыць: "Дзетка, табе нада ўчыцца загаварываць, маліцца Богу". Ну, я змалку малілася Богу, я ў цэркву езьдзіла, усё врэмя мяне вазілі малую. У мяне была баба ў цэркві манашка, там служыла, не пашла замуж, а пашла манашкай і мяне ўсё врэмя вазіла.

*– Ці можа што рабілі, каб свадзьбу расстроіць?*

– Ёсць, такія былі тут у нас. Едуць на конях, даўней жа на конях езьдзілі, а ён, у яго тут ужо ўнучка жывець, ён дужа быў бальшы чараўнік. Румак. А вот як звалі ня помню.

*– І што ён?*

– Вот прыдуць, яшчэ мой бацька быў малады, кажыць: "Прыдзем на сяло, а ён кажыць: "Ну, мальцы, паказаць вам фокус? Сечас – кажыць – будзець поўна хата вужак" як напусціць, і поўна хата вужак, сіпяць, лезуць, а мы як станем крычаць, а ён: "Ну, сечас, падажджыце, мальцы". І раз і ўсё, не станець. Вады, вот кажыць: "Сечас будзець вады поўна хата." І шчас што-та загаворыць, і вады поўна хата. Яны крычаць "Утопімся", а ён хахочыць.

*– А што вы гаварылі свадьбу ён?*

– Ну, во так во ехала свадьба, а ён там загукаў што-та, сейчас усе коні параспрагаліся, усё разляцелася.

*– А адкуль такая сіла?*

– Ну, не знаю, ці ад Бога ці ад злога. Можа ад злога.

*– А людзям ён можа і памагаў так сама?*

– Ну, ён не асоба такі людзям памагаў.

**Калтун**

*– А такую можа чулі хваробу – калтун?*

– Ну, і калтун бываець на галаве.

*– А з чаго ён бывае?*

– Ну, калтун, ён бываець тожа ад гэтага, ад падраблення. Дажэ вот галаўны ўбор дадуць чалавеку, ці можа якую шпільку ў галаву, платок завязаць, загаворуць і дадуць. Как гэты платок дадуць завязаць, дык вот галава можа быць зьвіта ў калтун.

*– Ну, такія былі людзі з калтуном? Ці вы толькі чулі?*

– Нет. У Матырыне тут я ня відзела. Ну вот прыяджалі многія лячыцца з гэтым калтуном. Ну вот прыяджаюць, кажуць: "Ну вот, баба, можа калтун загукаеш". Я кажу: "Я калтун той не знаю", але як мяне Зінка ўчыла – "Ты маліся любую малітву, і кажы гэты калтун". Ён можа быць і кравяны, і касцяны, і мазгавы, і калючы, і ламучы.

*– А больш такіх у вас няма ў Матырыне ці блізка тут?*

– Ну, можа дзе і ёсьць, ну можа такія вочы благія. Вот глянець вокам, не такім як нада. Ёсць такія бабы. Ну вот, мінуты такія бываюць, вот я сказала ў гэту мінуту, табе заўрэдзіла.

*– А сам можыш сурочыць?*

– Сам сябе, да, можыш прыгаварыць. Ну, гэта рэдка ў каторых случаях.

*– Ну а матка сына?*

– Ну, тожэ можыць. Матка сына тожэ, вот ёсьць такія вочы, ці мінута. Ну, вот як нам казалі, мінуты такія ёсць.

**Зап. У. Лобач, У. Філіпенка у 2006 г. ад Рудзёнак Надзеі Анухрэеўны 1932 г.н. у в. Матырына Селішчанскага с/с.**

**3**

**Пра Матырынскіх знахарак**

*– Даўней жа тут сільна дактароў не было?*

– Ай, якія дактары.

*– Ну, а напрыклад, у дзіцёнка ўпуд вот як лечылі?*

– А, ну гэта ўжо свае дактары, бабкі – шаптухі, каторые памагалі. Гэта ж не каждая паможыць. Эта ж калі свой дзіцёнак, дык ужо бабка свая і не паможыць.

*– Родная не паможыць? А чаму?*

– Бываець, што не паможыць. Вот у нас дажэ ёсць дзве бабкі, ну такіх мелкіх і болей бабак, ну а такія, што болей па-крупнаму ўжо лечуць – Ануфрыеўна і Аляксееўна. Ну дак вот, Ануфрыеўна гаворыць: "Я са сваіх нікому не памагу. І нада памагчы каму, сыну, ці ўнуку, а памагчы не памагу".

*– А вот гэтыя бабкі – Ануфрыеўна і Аляксееўна, а хто можа сільнейшая? Да каго болей людзі?*

– Ну, у іх свае "клієнты". К Ануфрыеўне і з Ленінграда прыязджалі, ну і не раз. А патом і па напраўленьню ўжо. Ну і к Аляксееўне прыязджаюць, во з Масквы прыязджалі, пра яе стацья была.

*– А дзе такая стацья была? У раённай?*

– Не, Вот у Віцебскай, ну, я вам чэсна не скажу. Ну, гадоў можа пяць. Як яна прэдсказала маскоўскай сцюардэсе. Гаворыць: "Атлажы свой рэйс, ня едзь."

Жылі людзі ў нашай дзярэўні, а патом выехалі ў Маскву. Маць яго была ўчыцельніцай, а сын вот лётчыкам. І патом там ужо нявестка там іхная была сцюардэсай. Вот у Турцыю, што лі, ехалі і захвацілі самалёт, і Рыма, сцюардэса такая была, пагібла. А яна ў пары была із гэтай. А яна гаворыць: "А знаеш што, астаў ты сваё неба."

*– А што яшчэ пра яе расказывалі?*

– Ну, дапамагаець жа, што людзі едуць і з Масквы, і з Віцебска, вобшчэм, многа едзіць. Дзяцей многа к ей прывозюць.

*– А ў вас случай быў, можа з вашымі дзецьмі? Ці ў вашых сваякоў?*

– Ну, тут памагаюць. Але вот я не знаю, як абярог над дзярэўняй. Я вот, напрымер, не разу не схадзіла к ім, ні к адной, ні к другой. Абычна едуць людзі з другіх дзеравень, там з гарадоў, а нашы вот ня дужа так вот. Дажа адны, у нас жа тут фальклор, а патом прыехалі на аўтобусе з Віцебска, а там сабіраўся з Віцебскай обласьці как семінар. Ну і нас ужо. Эта была такая передача "Крок". І ехалі, сколькі ехалі, столькі аўтобус у іх ламаўся. Ну, кажыць: "Нічога, паедзіце і будзець ваш аўтобус як званок". Перахрысьціла іх. І прыехалі, і пазванілі ей, гаворáць: "Ну, ніякай, нічога ня робілі, ніякай паломкі".

*– А хто гэта зрабіў?*

– Аляксееўна. І вот мы як едзім выступаць, яна ўжо гаворыць: "Усё будзе добра".

*– А вот паміж сабой яны як?*

– А яны дажэ родственьніцы. Яны за братамі замужам былі. Нічога, нармальна. Не то што у іх там канкурэнцыя якая.

*– Не сварацца за "кліентаў"?*

– Не. У кожнага свае. А я кажу (жартам): "Вы мне далжны даваць нейкі ганарар", што мне звонюць па ціліфону, спрашываюць ці дома яны, якая лепей. Ну вот прыехала ка мне, ну друзья ў нас у Вушачах, і прыехала, ужо так ей і жывот балеў і сьпіна. Я яе еле давяла чэраз дарогу к Ануфрыеўне. Вот яна яе палажыла, яна ей што яна там дзелала, шаптала, шаптала, і аташла на карыдор, узьлезла па ступенькам. Дык я кажу ўжо: "Малчы, не прыгавары."

*– Не прыгавары што?*

– Ну, сама сябе, што вот харашо і ўсё, і маўчы. Ага, ай не кажы, што вот мне добра. Мне самой, вот у Полацку была, і ў мяне там братавая, брата двараднага жонка, ну яна тожэ такая. Іду, і так нага ў бядрэ забалела. Яна гаворыць: "Што з табой?" Я кажу: "Я не стану на нагу". І хадзілі, хадзілі з ёй, а тады яна мне кажыць: "Пайдзём у дварок, сядзім, пасядзім." Яна села каля мяне, пашаптала, пашаптала. Я паднялася і пайшла. Ну, я сама езьдзіла, нашы яшчэ не былі такія знамянітыя, у Лоўшу езьдзіла.

*– А хто там?*

– Я прыехала, а яна гаворыць: "А вот табе і ваду даваць, ты ж ня верыш". Ну і вы знаеце, я первы раз і большэ я ня езьдзіла. І яна мне расказала ўсю маю жызьнь.

*– А як звалі тую жанчыну?*

– Зіна. І расказалі, і тады яны згарэлі, хтосьці паджог здзелаў. І расказала ўсё, я стаю, вот вер і ня вер.

*– А яна наша была, ці можа маскалька? Са старавераў?*

– Яна можа і стараверка. Ён то адсюль быў, мужык ейны. Яна кажыць: “Вот ён і п’ець, і добра п’ець, і курыць. Но я, я магу зьдзелаць, што ён піць ня будзець і курыць, ну але і так яму кажуць, што во з бабай – бапцісткай жывеш, яна чараўніца ў цябе.”

**Галаўны боль**

– …Балезьні ў мяне былі такія самыя. І вот прыехала братава с Полацка. І гаворыць: “Давай я табе пагавару над галавой!” Ну і яна стала гаварыць. Толькі села, толькі рукі на мяне палажыла, во так во, і я як стала плакаць. Ну так плачу! Так плачу! Я не знаю. Вот што-та, во так во, вырвалася з мяне. Ну і яна села і гаворыць: “Плач!”

*– Як нешта выходзіць?*

– Да! Плач. Паплакала, паплакала, і яна точна як цяніць, цяніць! Но ей плахавата становіцца. І, вот, пагаварыла нада мной і села. Ей самой плоха. І вот, гаворыць, вот цянець, цянець з мяне. Я адплакала, села. Нармальна усё. Так што я ня верыла, ну а цяпер...

*– А так чаго вы вот вы да братавай, а не да бабак – тут жа у вас…*

– Так яна сама проста прыйшла. Ну вот яна, нешта было. Прыхадзіла к Аляксееўне. Не знаю. То лі сільна ня верыла, но не памагло.

*– А што ў вас за бяда была?*

– У мяне проста, ну, зубная боль такая. І вот галава. Так балела галава мне. Ну вот не скажу я (што дапамагла). А тады яшчо бабка была, но яна памёрла, гаворыць: “Схадзі ты к Зенцы!” Гэта Зенька такая была. Яна ўжо даўно й памёрла. А яна, як мне стала гаварыць, іду дамоў і мне нешта, з мяне нешта, вот, сыпецца. Боль мая. Нешта… ашчушчэньня дажа такое. Што як будта бы мне…

*– Боль выходзіць і вам лягчэй, да?*

– Да-да-да! Вот нейкае пакалываньне, пакалываньне і вот нешта вот у старану. І вот… А Аляксееўна вот не памагла мне.

**Навучанне знахарству**

*– А адкуль ваша братава навучылася, ад каго пераняла?*

– А яна пераняла, вот тожа хадзіла. Бабка там была ў Полацку, і бабка ей гэта сказала, яна старанькая-старанькая была, так яна гаворыць: “Ты знаеш, сколькі ка мне не прыхадзіла, но вот а ты, у цябе ёсць такі Бог-дар, Божы дар”.

*– Так эта бабка хадзіла ў Полацку, можа нейкая там…*

– Ну, нейкая, яна можа ўжо й памёрла. Не, ну, там яна жыла, не знаю дзе. І я на яе сказала: “Ну, Оля, а дзе ты так ужо эта… ну пасьцігла эту навуку?” А яна гаворыць: “Я к бабцы хадзіла сама”. Ну яна такая балезьненная была. “І вот хадзіла, а бабка такая гаворыць: “У цябе сіла нейкая”. Ага! “У цябе ёсьць сіла!” Яна як стала загаварываць і вот што-та… Што-та пачула, што-та пачула.

*– А вот, можа, знаеце ад каго Аляксееўна навучылася?*

– Аляксееўна навучылася, тут тожа бабка была. Знамянітая бабка была.

*– Як яе звалі, можа, помніце?*

– Анастасія. Можа Кісялёва. Месная. Месная была. І, эта, яшчэ да вайны… Ага, ну і вот эта бабка Аляксееўну… ну па-відзімаму Аляксееўна тожа што-та… Я напрымер, не навучылася. А во у яе што-та.

*– Так тая бабка не сваячаніца ніякая, не?*

– Не, не сваячаніца. А проста давалі ваду і яна хадзіла. Вот эта абычна, гаворaць, людзі, каторыя вот балезьненныя такія. І вот яны ходзюць, і вот што-та яны. Знахаркі узнаюць ужо, каму перадаць. Сколькі было, бабка тады ужо, гаворaць, бабулькай была. После вайны яна асталася адна. І вот прыюцілі яе людзі. Но вот яна ж не навучылася. Там жа і дачка была, і хазяйка ўжо была. Ну не навучылася яна! А вот яе навучыла! І Ануфрыеўна (адна з дзвюх матырынскіх знахарак)...

*– А Ануфрыеўна ад каго?*

– І яна там (навучылася). Тая бабка па саседству (жыла). Як там баба ужо была. І яна (Ануфрыеўна) гаворыць: "І я туды хадзіла". І вот што-та загаварываць. І вот яна гаворыць.

*– Ануфрыеўна гаварыла, што ў Лоўжы недзе там…*

– А гэта яна ўжо, як гаворaць, усавершэнствавалася. А, эта самае, па-пéрвасці, гаворaць, а там яна ўжо… Ну так вот, ездзіла Ануфрыеўна, я ездзіла і тут жэньшчына, эта, ужэ родсцьвенніца тэй, што ў Лоўжы была. Ну вот, яна многа езьдзіла к ей, там і скаціне, і дзіцям (дапамагала). Ну вот ей-та не перадалá, родсцьвеньніцы! Вот што-та, што-та яны чуствуюць. І ешчо так гаварылі. Паехала Аляксееўна туды. Ужо ў Лоўжу. Паехала. Ну тожа, ну тожа, па-відзімаму, пераняць. Ана ж сама. Яна на яе палядзела, патом кацёл перавярнула, каля парога паставіла і гаворыць: "А ты тут сядзь!"

*– А чаму яна так зрабіла?*

– Вот што-та ж чуствуецца! І Аляксееўна беспракаслоўна села! Так вот магія нейкая, у іх, вот, што-та!

*– А так вучыла яна чаму Аляксееўну ці не?*

– Нічога! Адказалася. Гаворыць: "Я табе нічым не памагу!"

*– А так чаму яна на кацёл, на табурэтку пасадзіла б?*

– Ну, па-відзімаму, так нада – на пустое на што-та. На жалеза.

*– А каб што на пустое?*

– Ну кацёл жа пусты! Яна ж перавярнула яго!

*– А так чаму на пустое пасадзіла?*

– Ну, вазможна, што б ад яе што-та не ўзяла.

*– Яна, можа, баялася Аляксееўны?*

– Аляксееўны… Яна адразу пачуствавала. Чэраз парог гэта… Я не помню, хто там з ей (Ануфрыеўнай) езьдзіў. Сразу прыняла і стала работаць з імі. А яе (Аляксееўну) сразу глянула і пасадзіла. І Аляксееўна беспракаслоўна села.

*– Тая, відаць, што ў Лоўжы, была сільная…*

– Па-відзімаму, сільней была. І вот яна, яна многа чаму, гэта, магла зробіць…

*– Магла зробіць?*

– Да-а! Магла зробіць.

*– А што яна магла зробіць? Што пра яе расказывалі?*

– Ну, магла і зло робіць. Яна сама мне гаварыла. Вот яна патом гаворыць: "Я магу, но я гэтым дзелам не занімаюся! Многа ка мне там жонак прыхадзіла. .. На мужыкоў, каб там ужо, што зробіла там… Гэта я не магу, штоб гэта… зло. Зло зьдзелаць не магу! Так магу ўжо нейкі атварот зробіць…"

*– А “атварот”, гэта што такое?*

– Ну, атварот, напрымер, есьлі там то лі скаціна, там не йдзець, ну, атварот зьдзелаць, штоб яна там ішла, штоб плахое ужо…

*– То есць, каб зняць нейкую псоту.*

– Ага, да! То лі мужык няверны зробіцца. То лі жонка няверная зробіцца.

*– Каб вярнуць іх у сям’ю, да?*

– Да!

*– А калі мужык няверны, можа знаеце, што рабілі? Каб вярнуць у сям’ю.*

– Ну… Там і травы нейкія нада было ужо настаіваць там, зямлю там браць с апрэдзелённага места… Там, ну, куды ваду вылівалі ад пакойніка.

*– А што потым з той зямлёй рабілі?*

– Ну, можа абсыпалі.

*– Мужыка ці…*

– Ну-у! Ага. Калі сьпіць. Там, можа, ваду якую, можа ў ежу дабаўляць там. Вот ваду давала, у ежу дабаўляць мужыку ў ежу з-пад ціха, гэта.

*– Загавораную?*

– Загавораную! Каб жа ня знаў! Ну і памагала!

**Святая крыніца**

*– А вот ці праўду гаворацъ, тут недзе недалёка была крынічка святая?*

– Ну вот… Гэта яшчэ мама мая гаварыла, баба мая гаварыла, я яшчэ малая была. Гаворацъ, ужо крынічка, як толькі, ужо на апрэдзелённае сьвята нада было.

*– На якое, не помніце?Ну, бывае, што ходзяць, во, на Макавея, там не Іллю…*

– Ну вот у нас, напрымер, мама гаварыла: трэйці дзень Тройцы. Кірмаш быў. Называўся кірмаш. У Матырыне. У нас каплічка была на кладбішчы. Ну а тады яны хадзілі там, крынічка ужэ далей.

*– А як тое ўрочышча называлася, дзе яна была? Ну, месца тое?*

– Гэта – Баравіна. Баравіна. У Баравіне гаворацъ… Там, гаворацъ, ля Баравіны Дзям’ян жыў. Проста эта самая Баравіна.

*– І вот як там? Каплічка, можа, была ля крыніцы?*

– Было што-та, пастройка какая-та іс крышай… Уход, выхад там. Так вот, мама гаварыла, ужо і крывыя, і сьляпыя, і такія увечлівыя такія, ўсякія цягнуліся!

*– А здалёк прыходзілі?*

– Здалёк! Здалёк! Пешкам, пешкам! Тады ж пешкам нада, есьлі ж ужэ у цэркву і да споведзі, ужо на якое прычашчэньня. Эта ужо абавязкова нада пешкам! І наташчак жа ж, нееўшы нада! Ужо вечарам вады папіўшы, а утрам ужо і вады няльзя папіць.

*– І памагала?*

– Ну, памагала за тое, што яны ж не адзін раз там, ужо ж тады другія прыхадзілі усё і бралі гэную крыніцу. Ну дак мама мая не такая ўжо і веруюшчая была, но але, гаворыць, людзі, вот там, празрэлі. Там сьляпы прыйшоў, так, гаворацъ, ну што-та нейкая была, ну што-та… Нешта ж там хімічаскае што-та было.

*– Так бралі ваду ці трэба было кінуць у ваду нейкія капейкі, ці, можа, нейкую ахвяру?*

– Не, яны ўжо тут у цэркве. Яны ж не йшлі так. А поп ішоў, тады асьвяшчаў гэтую крынічку, тады ўжо гэныя бралі. Гэта ўжо с папом.

*– Можа, хросны ход быў?*

– Не! Ход, вот, па дзярэўне, так я яшчэ помню яшчэ да вайны, мне гадоў шэсьць было. І я ішла, тожа. Так нам інцярэсна, рабяты ўжо. У хвасьце там, гэта, строіліся. З зёлкамі, што-та. Ужо перад самай вайной. Відзіма ўжо старыя, ну, што-та знали пра вайну, што будзець вайна. А мы ж гэта ж не знали. Вот дзярэўня, там у нас пасёлак такі. Тут абыйшлі, прагонам там, абышлі…

**Абыдзённая намітка**

*– А вот ці можа ўвайну ўжо, ці рабілі наміткі такія, абыдзённыя?*

– Рабілі. І вот сама дажа помню, што бабы дом той згарэў. І вот сабраліся ўсе бабы. І пралі, і лён мялі, і трапалі, і ўжо і пралі, скольки баб сядзела і с калаўротамі. І пралі, тады ўжо снавалі, нада ж і аснаваць было, і ткалі. І мы ўжо праз окны глядзелі, там хата такая была – окны нізка, ну дак нам ужо даступна было.

*– Толькі бабы старыя былі ці ўсе?*

– Ну, хто мог. Хто мог…

*– З усёй дзярэўні?*

– Ага! Ужо ж сабіраліся: ты там тонка ня можаш прасьці, значыць ты мні лён. Ага…

*– Усе лён прыносілі патроху…*

– Ага, усе! Усе снапамі прыносілі. Гэта я ўжо сама, гэта на маей памяці.

*– А вот дзеля чаго рабілі гэта?*

– Ну, эта ат усіх як усё роўна дар, ат усіх як усё роўна заступа якая ат усіх…

*– А што прасілі людзі?*

– Ну прасілі людзі. Кажды сваё прасіў.

*– Так тыя наміткі, іх у цэркву?*

– Усё няслі ў цэркву! Ну і тады і баба гаварыла, што становяцца яны на калені і ўжо молюцца і мы тожа ззаду каля парога тожа станем, як усе так і мы ужо падражалі. Ага! Ну і просіць кажды сваё. Каму там на сям’ю, каму дзяцей, каму… Ну вот так кланяюцца і молюцца. І ўжо так усердна молюцца, прама да ізьнемажэнія… Так прама…

*– Гэта на тую намітку?*

– Угу-угу! Гэтай наміткай яны прама накрывалі этат ужо алтар.

*– А каб дождж пайшоў, калі засуха?*

– Тады хадзілі із этым самым... хрэсным ходам.

*– Вакол дзярэўні ці па вуліцы?*

– Гэта… не, па вуліцы. Во як ідуць з цэрквы, во так во. Ішлі во гэтай дарогай, тады там прагон там адразу. Вот у тую ужо дзярэўню. Звалася ужо “адна сьценка” і “другая сьценка”. Дак там ня помню я. А тут і тады па пасёлку там абойдуць. Ну і абратна ў цэркву. Усе. Многа, як усё раўно дземанстрацыя такая. Многа! І чужых жа людзей – на конях жа папрыязджаюць на абедню. І ўжо гэта, гэта ўжо гавораць: “за дож маліліся”.

*– Так гэта ў вайну рабілі так?*

– Не, перад вайной. А патом і ўвайну. У нас яшчэ і вайна, была вайна, ну і яшчо цэрква работала. Многа было і гэтых самых і ікон, усяго. Красіва, мы дужа дажа любілі. А ўвайну ужо такі поп, ну, як сказаць… не сапраўдны такі, ужо што там. Вот проста такі старац.

*– Старац? Старац быў папом?*

– Ну! Такі, ну, ён веруюшчы там, такі. І вот ён прыхадзіў, дзе ён жыў, вот ня помню. А вот прыхадзіў, помню, у сьвітцы. У такой. Бародка такая жыдзенькая і нейкі калпак на галаве. І пастаянна ён прыхадзіў. Дак ён дажа той калпак нёс. А вот адкуль ён прыхадзіў, эта не ведаю.

*– А вот ён служыў, а яму, можа, людзі давалі што?*

– Ну, кармілі, а дзед мой – замыкаў цэркву і адмыкаў. Быў ужо як старастай над цэрквай.

*– А вот цэркву гэтую ці капліцу на могілках, каді яе пабурылі? Калі зачынілі яе?*

– Посьле вайны. Яшчэ яна… Ну вот пасля вайны яшчэ такое вот было, дак камуністы там такія… Усякія ж былі. Былі, як гаворыцца… А тады ўжо прыслалі к нам прадсядацелям калхоза – тут сястра яго дажа жывець – Шчэрбік такі. І ён тады! Ай, ня помню! І дзёгаць тады ў бочках знясьлі, і попел сыпалі, і вупраж гэтую ўсё. Так прама ўсім балюча было!

*– А так во за такое нічога не сталася там. Гаворацъ, што такіх людзей Бог карае?*

– А ну, ён выяхаў. На Украіне ён памёр. Жонка кінула яго там. Вобшчам, эта самае.

**Праца ў свята**

*– А вот, ці праўда, што няможна ў празнікі вялікія рабіць нешта, што Бог пакараць можа? Не гаварылі такога? Ну, скажам, на Вялікадня, на гадавыя… на Каляды…*

– Ну, канешна! Гэта ж і самому. Гэта калі крайне нешта нада зробіць і хаця… І ўпярод, абычна эта вот, у празьнікі – Грамніцы, там, Масьляніца гэта ўжо, Мікола – да абеда, пака абедня ёсь, ня робілі ўжо. Ну а с абеда, калі ўжо работы такія ёсць крайнія-крайнія! Што неабхадзіма іх зробіць, дак робілі. Ну, ня ўсе, але робілі. І цяпер вот дажа еслі, ну, крайне нада зробіць – робіць, а вот нешта не па сабе! Вот проста…

*– А ці былі, вот, случаі, што чалавек сказаў: “Ай! Што мне там!” Пайшоў рабіць і вот нешта благое з ім здарылася?*

– А-а, бывалі! Бывалі! Ага, вот, ляды ўжо церабілі. Ну і, вот, нейкі там пайшоў ужо ляды гэтыя церабіць. А другі гаворыць: “Грахаводнік ты! Куды ты ідзеш? Ужо табе крайне нада?” Пайшоў і пасек нагу. Пайшоў і пасек нагу. І, гаворыць, я помню, гаворыць: “Пайшоў Цімошка, дак вот…”

*– Гэта на Вялікадня ці калі ён?*

– А вот ня помню. На нейкае сьвята было. Я ня помню, гэта ж да вайны было. Дак гаворыць: “Во, грахаводнік!” Асобенна гаворацъ, вот есьлі ты што-та робіш у сьвята – ну калі робіш адзін, а калі табе хто-нібудзь скажа: “Нашто ты робіш!” Гэта ўжо не нада. Гэта ўжо можаць быць там…

**Перасцярогі цяжарнай**

*– А калі жанчына бярэменная?*

– Ну-у! Тады вабшчэ ж ужэ многа такіх запрэтаў! Ну вот, і каб не пераступала чэраз парог, вот, нада хадзіць чэраз парог, на парог стаць. А тады пераступаць.

*– А то што будзе, як неправільна пераступіш? Можа казалі што?*

– Ну, як пераступіш там ужо, ну, із родамі…

*– Цяжкія роды?*

– Ага! Тады есьлі там, што-нібудзь там, вяроўка якая ляжыць. Вот даўней жа, многа навязана – там цяляты, авечкі. Ужо нада абхадзіць, каб, абарані Бог, ужо не наступіць чэраз вяроўку, чэраз гэту… Гаворыць, пупавіна можаць тамака скручаная быць ажно. І дажа гаварылі, што рабёнак радзіўся нежывы, пупавіна абкручаная. Гэта яна, гаворыць, не саблюдала. Яна там…

*– А ці можна на камяні садзіцца?*

– Ну, ужо хто бярэмянны калі, яна ўсе каноны гэтыя і саблюдала. Не садзілася. І калі ўжо прасіць чаго, адалжыць, ужо бярэменныя не хадзілі. Эта ж гаворыць: “Во, бярэменная там тое-тое брала. У мяне папрасіла, не магла адказаць.” Ну а тады, як яны выйдзець ужо – углі кідалі. Ну, каб ёй дрэнна было, а каб тут добра было.

*– Гэта калі бярэменная пазычае, адмовіць нельга, але яна забірае, як бы, дабро?*

– Гаворыць тады: мышы ў хаце ядуць усё.

*– Калі не даць?*

– Калі не дасі. Дак вот… А некаторыя, ну ўсякія ж людзі! А некаторыя – назло. Вот, гаворыць, рабёнак радзіўся, там, са шрамам, гаворыць, вот эта хадзіла аддалжаць, а як выхадзіла – па парогу цюкнулі. Ну тапаром там, ножыкам. Вот як! То лі ейнае места, дзе яна сядзела гэтая бярэменая… Гэта ўжо цяпер ужо, а тады не хадзілі, прама ўжо, аберагаліся.

*– А вот катоў там пінаць, жывёлу?*

– Ну, гэта ўжо, гэта ўжо каждая знала, што ні ў коем случае ужэ…

*– А што такое можа быць?*

– Не глядзець, гэта, на некрасівых людзей, не глядзець. Толькі на красівых.

*– А як катоў. Што будзе?*

– Ну, можа, там рабёнак радзіцца, дзе-нібудзь шэрсьць будзе, дзе там не паложана. Вот там у нас быў радзіўся казалі, што адна радзіла, прама, як шэрсьць сабакі. Так, гаворыць, што яна ўжо сабаку дужа… глядзела на сабаку.

*– І на пакойніка нельга глядзець?*

– Ну, гаворыць, на пакойніка есьлі, то абязацельна нада ў красным платку ілі кофта штоб красная…

*– А то што можа быць?*

– Ну, бледны будзець.

*– Дзіцёнак будзе бледны, як пакойнік?*

– Да-а! Ну, нада ўжо, калі крайне вабшчэ, не рэкамендавалася хадзіць ужо. А есьлі ўжо пойдзеш, ну бываець жа родственьнік. Ну так нада, каб што-та краснае было.

*– А на могілкі можна было хадзіць ці толькі да нейкага месяца можна было даходзіць?*

– Ну, стараліся ўжо, штоб не хадзіць. Но есьлі ў крайнасьці ўжо.

**Бабка-павітуха**

*– А як во, даўней жа ж бабкі бабілі, а вот калі цяжкія роды?*

– Майго брата, да. Гэта ў сорак васьмым гаду радзіўся, а папа яшчэ служыў после вайны. А тады яго, на Маскву іх кінулі, этат стройбат, і яны атстраі-

валі там Маскву, там што-та. Сорак восьмы год, папа яшчэ служыў. А вот прыйшоў у водпуск і кінуў маме падарак (смяецца). Ну і вот, яна дома ражала. Гэта ўжо нас было чацьвёра, гэта пяты. І дома ражала. І тут бабка-павітуха ужо. Анастасія. Эта ёй ужэ гадоў пад восемдзесят. Ну і ужо і шчыталася яна, пачці што чуць не ў кажнай хаце баба была. Баба…

*– Толькі адна яна была ў Матырыне? Ці яшчэ былі?*

– Ну былі некаторыя, ну былі там, як сматра ў каго якія роды. Калі лягчэйшыя, так тамака і матка, бабку абязацельна прыглашалі ужо. Дома ж ражалі. І тут сястра зьбегала ўжо за бабкай. Тут жа яна ўжо недалёка жыла…

*– А можна было часта бабіць? Даўней жа казалі, што нельга часта бабіць.*

– Ну яна счыталася, яна вот і ў нас была бабай, і там яшчо бабай была, і там яшчо бабай была. Ну, па-відзімаму, як сьпецыяліст. Ну, тут жа ня кажды эта можаць зьдзелаць з рабёнкам… І тады ўжо прыхадзіла ўжо адбабіць гэтага рабёнка. І вот і пупавіну атрэжаць.

*– А як рэзалі пупавіну?На чым?*

– Гэта самае, ну я прама не скажу. Я сама была бабай. Па няволе. Прышлося быць. Дак гэта яшчэ гадоў сорак мне было. Ага! Ну, я не знаю падалі ей ножніцы. Яна ножніцамі… А вот нечым – ёду ж тады не было. Нечым яна сваім. Прынясла.

*– Можа, загаварывала як-небудзь?*

– Ну, гэта нечым сваім мазала. Нешта прынясла з дому. Пупавіну. Ну і перавязала. Ну і тады ўжо пайшла дамоў. І тады січас жа тут – ён ноччу радзіўся – і утрачкам яна ўжо бліноў напякла. Гэта ж раней нада было бліноў напячы. І вот яна бліноў напякла і ўжо прышла праведаць рожаніцу і унука.

*– А ў што заварачывалі?*

– Ну, яна прынясла пялёнку. Бабка прыносіць пялёнку. У сваю пялёнку. Льняная! Можа, навалачку разарвала. Навалачку нада, з навалачкі. Там завярнулі яго і там, і гэта… і шынель. Папа аставіў шынель. Вот. І ў шынель. Ну і ён (брат як вырас) ваенным стаў. Цёця мая гаварыла калісь: “Во як! Завярнула яго ў шынель, дак… І стаў палкоўнікам!” (смяецца).

**Дзіця**

*– А ці былі там такія знакі, можа, – крычыць, значыць добра, а вот ціхенькі…*

– Да, як крычыць – гэта добра! Гэта добра! Гэта пяяць будзець добра. Вясёлы будзець. А як, гаворація, маўчком – мармыль.

– “*Мармыль*”, *гэта што?*

– Мармыль, ну такі – ні рыба, ні мяса. “Такі мармыль!”, – гавораць (смяецца).

*– А вот гаварылі, што, можа, у панядзелак – такая доля будзе, у суботу – больш шчаслівейшы тады…*

– Ну, гавораць, вот, печ тапілася, дык гавораць, будзець адзежа, як на агні гарэць.

*– Калі нараджала і печ тапілася?*

– Да! Кажаць, як раз тапілася печ. Ну і вясной, дак ужо гавораць: “Во, лепей!” Ужо дзень большаець…

*– А калі ў маі?*

– Ну, а ў маі, гавораць, маята будзець, адна маята.

*– А ад дня была розніца? Васкрасенне, гаворацъ…*

– У васкрасеньня – гэта, як усё роўна, Бог, як анёл нарадзіўся.

*– Той шчаслівы будзе?*

– Ага! Сматра, калі ж вечарам радзіўся ужо, ну а…

*– А калі лепей радзіцца? Раніцай, ноччу? Увечары, днём?*

– Ну, днём радзіцца, каб што-та… да абеда! Да! Ну, як гавораць, *сьмерць і радзіны не выбіраюць гадзіны*. Калі народзішся…

*– А калі, вот, можна было валасы падстрыгаць ужо маламу першы раз?*

– Ужо год як кончыцца.

*– А то што? А калі раней абстрыгчы?*

– Ну, няльзя. Бедны будзеш, там хваравіты будзеш. Гэта атрэжацца што. А так бываець, рабята бываюць валасы во такія во! (смяецца). І ходзюць із валасамі з такімі. Не стрыглí.

*– А вот хто, год праходзіць і хто падразаў? Бацькі, матка, ці, можа, бабку гукаць прыходзілі?*

– Не. Папа.

*– А тыя валасы састрыжаныя, першыя, куды іх?*

– Нада дзе-нібудзь высока іх засунуць. Каб птушкі не цягалі. Разнасіць не нада! Нада так скруціць іх, скруціць. І вот ужо, гаворуць, дзе пад кроквіну падторкнуў. Абычна во тут во, на гэтым, о, тут во. Над дзвярмі. За ушак!

*– А калі вот пацягалі птушкі валасы, што тады можа быць?*

– Не нада (каб разносілі). Галава будзець балець. Расьсеяны будзець. Не нада.

*– А вось як ногцікі абстрыгалі малому ці старым, куды гэтыя ногцікі потым трэба было складываць? Можа не выкідалі?*

– Не, не выкідалі! Абразалі і ўжо на эта самае, ну, бываець, што на прыпечак суплюць.

*– А куды зуб кідалі?*

– Вот зуб, напрымер, вырвецца. Ну, гавораць, каля галавы тры разы, каля галавы абкруці і тады на печ нада ўскінуць: “Мышка-мышка, я табе дам дзеравянны, а ты мне касьцяны!”

*– А для чаго так рабілі?*

– Ну, каб зубы добрыя расьлі! Дажа ж эта, дзе вот хлеб там на стале, яшчэ былі. І этат самы, мышына дзе паскрабаець, тада гавораць: “На во, мышыны аглодачак з’еш, каб зубы крапчэйшыя былі!” Старыя (гавораць). Во як!...

**Прысушка**

*– А вот каб прысушыць мальца, каб ён цябе палюбіў, што рабілі?*

– Гэта ўжо хадзілі да бабак. Ужо яны там нейкія зёлкі давалі. Абкураваць мальца там ужо дымам там. Соль загаварывалі, абсыпаць сольлю яго.

*– А так як гэта мальца абкурваць? Калі? Ён жа ўбачыць можа?*

– Ну, калі захочыць яна рабіць, так яна… найдзець. Ну, і угашчаць там чым-небудзь тамака, што-небудзь гасьцінца...

*– У ядзенне нешта дабаўляць.*

– Да-да!

*– І было вот такое, і праўдзіла?*

– Было! Прыварожвалі. Было. Вот тожа я ўжо… Мама расказывала, што ўжо дзеўкі, там тры дзеўкі былі. Ну, мама замужам была і тры дзеўкі. І ўжо мальцы хадзілі. К каторай дзеўцы хадзілі, ужо на сяло эты дзяўчаты. А бацькоў ейных не было, бацькоў ейных засудзілі. І матку, і бацьку.

*– Гэта яшчэ, можа, ў трыццатых было?*

– Не, яны там нешта ўзялі па злосьці, з умысла і запалілі гумно аднаго там. Ну, гэта лічнае гумно. Ну і іх вот пасадзілі. Бацьку і матку. Ну дак к этай вот дзеўцы прыхадзілі на сяло і там начавалі, сталі мальцы хадзіць. Ну і дзяўчына гэта, ну, не ахці якая, штоб там ужо…

*– Не красавіца.*

– Ага! Такая, як дзед казаў, "*ламаватая*". Ён такі, у яго былі… А мальцы ж хадзілі і добрыя. І вот яна і прычапілася к этаму мальцу, Паўлік яго звалі. І прычапілася. Ну, і яны ўжо тамака ім і сольлю іх абсыпалі, і там чай варылі ім з зёлак загаварываных і… Ну, і не хацелі бацькі, і не хацеў і ён дужа. Но ўзяў! І другую ўзялі.

*– Не са сваёй волі?*

– Да! Яны і жылі не ахці. Усю жысь. Но ўзяў!

*– А мальцы што-небудзь такое рабілі? Не расказывалі? Ці гэта толькі дзеўкі рабілі?*

– Гэта, як мой казаў: "*Увесь чорт з бабы!*" (смяецца).

*– А вот кумоў на хрэсьбіны каго бралі?*

– Ну, абы ж каго не бралі! Неабавязкова сваякі. Ну вот такіх у каго сям'я больш шчасьлівейшая. Ну, паваг… Паважаныя такія.

*– Ну, а вот да цябе як прыйшлі і запрасілі ў кумы, ці прынята было адказываць? Калі ўжо цебя прыгласілі.*

– Ну, не! Есьлі ужэ прыгласілі, хочаш, ня хочаш, но… Но і той жа ня пойдзець, калі ён чуствуець, што ён непрызны яму.

*– А калі дзеткі часта памiралі, то с каго, можа, стараліся браць, ці выбіраць?*

– С таго, у каго вядуцца. Вот, у каго рабяты здаровыя. Вот таго тады і бяруць.

*– А ці праўда што не можна быць кумамі мужыку і жонцы?*

– Ну, так не было.

*– А вот не гаварылі, што, вот, кум, кума. І, вот, саграшылі паміж сабой, гэта ж лічылася грэх? Ці было такое?*

– Ну, знаеце, многа грэху! Ну, а гавораць: "*Грэху – мех і сам наверх!*" Так што, усяго было! Эта мне мама казала, і верылі так так, і Богу там валяліся (маліліся) ўсё, а грэх быў. Мне баба – ляжала ў бальніцы – і адна бабуля, ёй ужо было 86 гадоў, расказывала. І папы! Гаворыць: "А яны – самыя грахаводнікі!"

*– А што былі случаі такія?*

– Ну! Гаворыць, пайшла яна ўжо на, ну, да споведзі. Да споведзі. Ну і такая, кажаць, дзеўка была… пышная. Ну і вот ён жа так вот накрываець на галаву папонай (смяецца). Ну і, гаворыць, і пашоў. І тады…

*– Накрыў папонай і…*

– Ага! А гаворыць, кажаць, а штоб ты яшчэ прышла да споведзі! Ага! Ну вот, дак я, гаворыць, як вырвалася з той цэрквы! Дак я баялася з папом гэным сустракацца!

*– Юрлівы поп!*

– Грахаводнікі былі! Тады па́пава цётка… этай… Папавай цёткі сястра ў манашкі пашла. Ну дык вот яна гаворыць. Служыла у папа. Там ужэ.

*– У Полацку?*

– Ага! Ну дак, гаворыць, і елі яны, гаворыць, скаромнае яны елі ў пост. Гаворыць, прапаведуюць, а самі…

– А самі закону не трымаюць.

– Ага! Ну але ж манашка, яна ж так ужо служыла Богу. Так яна ж не распаведавалася ужо. А тады ужо, як тут пашла гэтая бурыць цэрквы, тады яна ўжо…

**Зап. У. Лобач, У. Філіпенка у 2006 г. ад Рудзёнак Аляксандры Іванаўны 1937 г.н. у в. Матырына Селішчанскага с/с.**

### 4

### Пра Матырынскіх знахарак

*– Скажыце, ці ёсць тут у вас людзі, якія вадзічку даюць, ад упуду, ад уроцы?*

– А тут ёсьць дзьве. А хто іх ведаець, каторым людзям гора, баліць, дык езьдзіюць. некаторыя гавораць, што дапамагаюць. Рудёнак Надзежда Анфрэўна, тутка яна недалёка жывёць, дом у яе аббіты такой… А другая туды дальшэ...

*– А што людзі кажуць, хто з іх больш дапамагае?*

– Адны кажуць, вродзе гэна памагаець, а другія – гэта.

*– А ці многа людзей да іх ездзіць?*

– Бог ведае сколька многа. Здалёк, адусюля, яна праславілася, яна дажэ сказала, што калі хто ў Афганістане служыў, скажа – жывы ці мёртвы, але ж нікому не казала, што мёртвы, усім жывы, а тых ужо даўно няма на сьвеце, а людзей абмануць. Заплоцяць… і доларамі, і ўсім. Яна казала, хвалілася, што мне хваціць, і дзіцям да смерці, і ўсім на свеце.

*– А адкуль яны навучыліся так чараваць?*

– А хто іх знаець? Гаварыла: "Мая цётка там у другой дзярэўні жыла, яна ўмела". Ну дык хай ад уроцы, мы гэта прашчаем, гэта праўда, а то бальны чалавек зусім, што нада доктар неабходна, а яна гладзіць рукамі там яго і лечыць…

### Разьвіў і парэз рукі

*– А як, калі сярпом руку парэжашь, як тады кроў спыняць?*

– А тут такая травіца была, што *крываўнік* называецца, дык цёрлі і прыкладалі, *алівас* дужа добра гоіць. І *моччу* дажэ сваей скоранька пальеш, каб кроў тады не ішла.

*– А можа, як яшчэ калі сярпом жнеш, тады рука разаўецца.*

– Да, разьвіваецца. У мяне вот у самой, я дужа любіцель работаць. Не нада было ад першага дня, пакуль увойдзеш, уцягнешся, нада памаленьку і патрошач-

ку адразаць, а я каб усё болей, рэжу, рэжу, болей. Разаўецца, дык дажа спохнець рука. А тады загаварвалі тожа нітку, даўней жа кросны гэты ткалі, назад такія *ніткі* былі ішлі. Дык гэты дужа ніткі памагалі. Тады ніткамі гэтымі ўсё урэмя чаравалі. Заматаешь руку і носіш яе доўга, з нядзелю.

*– А казалі што?*

– Не, нічога. Ну, хто ўмеець, дык загаварваў, былі такія, што загаварвалі, каб кроў не ішла, а я і так нітку гэту, мама мне паішчыць, найдзець, і дасць, і яна ўцягваець усю гэту опухаль і боль.

**Валасень**

*– А што такое валасень?*

– Валасень гэта загаварваюць. Боль як ужо, у каго было, дык ён жа знаець, ці палец там ці што. І нічога не памагаець, доктар не памагаець. Кажуць, нада бабкі па гэтай хваробе. Яны тады яго выліваюць і прыгаворваюць "*Усіхны волас і чалавечы, і сабачы...*". Усе, у каго ёсьць волас, і моляцца, і загаварваюць, усё. "*Конскі волас, ідзі на колас*" і бяруць гэта жытняга каласоў нескалька, і праўда, кажуць, як стануць расьцягваць гэта, дык расьцягваюцца валасы гэты.

*– А куды гэтыя каласы потым дзяваць трэба?*

– Ну я не знаю. Яна тады аддаець гэтыя каласы тому чалавеку, вылечваюць толькі бабкі. А чаго ён бываець? Вот ад вады, гавораць, бываець, калі хто пераходзіць череаз кладку. То як жэньшчына бяльё – нада на рэчцы бяльё (качаць) – вот з вады ён болей бываець.

**Упуд**

– Упуд лечаць многа хто. Дажэ на то пашло, ад сабак ваду робяць. а як вы падумаеце, ваду. Бяруць тры кусочкі *хлеба.* Небальшэнькіх, маленькіх, і вады уліюць у міску, ці ў што, кусочак адзін укінуць, і яго прывядуць у хату, сабаку. І тады цераз парог, дзьверы адчыняюцца, і чалавек завець яго. З гэтага боку, што сабака ідзець, а ты з другога боку хадзі. Ён прыбягаець, гэту скарыначку з'есьць, тады другі парог пераходзіш, зноў яму хлеба кідаеш – ён зноў пойдзець і з'есьць. І ўсе тры вот так нада парогі.

*– Гэта цераз адзін так нада?*

– Череаз адзін парог – адзін кусочак, цераз другі, другі, і так тры парогі.

*– А з вадой гэтай тады што?*

– А тады выліць на захад сонца, а то уліваюць у бытылачку і п'ець тады каб паправіўся. Ад упуда лечаць і многімі сартамі, і дажа дым, вот, калі печку затопішь, і пакуль люшку заложыш, нада тры разы глатаць дым. І многа так усякіх такіх загавораў.

**Уроцы**

– Уроцы? А гэта вот яна ж многа каму, і скаціне і чалавеку. Вот падзівіцца нехта "Ай-яй-яй", як нехта робіць, ці скаціна, і чалавек, як якую работу, а як хто прыйдзе, дык скажа, "Ай, як ты столькі многа", там ці зробіў, ці што, ці скацініна якая добрая. Падзівяцца, паглядзяць, і тады уроцы гэтыя. Тады бяруць гэтую ваду, загаварванаю, і даюць піць і змываюць.

*– А ці ёсць такія людзі, у якіх вока такое сурочлівае?*

– А, ёсьць. Бываюць, такія, што глянуць, а яна можа і не хоча сурочыць. а сурочыць.

*– А гэта ў асноўным жанчыны?*

– І жанчыны, і мужчыны. Разьніцы нет.

**Дзічы**

*– А як дзічы зводзілі з рук?*

– А дзічоў у мяне было, Бог ведае сколькі з маладосьці, вот тут во. А тады ужо усяк ёсьць, а мяне паўчалі, "Вазьмі", – кажуць, – "пасчытай, сколькі гэтых дзічак, і тады на *нітачку* такую суравую, што са льна, і тады завязаць столькі узялкоў. І дзе са страхі ліецца, дождж і дзе, і у равочак гэты – раскапай і закапай. Пакуль гэта нітачка не згніець з дзічамі, дык яны будуць, а калі згніець, дык ня будуць. І так памагло. Я дажэ не верыла, нізашто не верыла, а тады якой парой замеціла, што дзічоў няма, а тады ўспомніла, што завязала. І старайцеся на сход месяца гэтую нітачку закапаць, і мне гэта памагло, гэта дзейсьвіцельна праўда.

**Зап. студ. ПДУ: В. Аўсейчык, Б. Ключнікаў, Д. Панцялей у 2006 г. ад Салаўёвай Елізаветы Фёдараўны, 1927 г.н. у в. Матырына Селішчанскага с/с.**

**5**

**Пра Матырынскіх знахарак**

*– А раскажыце пра іх, яны ж вадзічку даюць, ці дапамагае?*

– Ну, людцы езьдзяць, значыць дапамагае. Тут две бабулькі у нас ёсьць, а втарая там у канцэ дзярэўні, так да яе яшчэ болей езьдзяць. Тая бабулька вабшчэ знатная. І на карты гадаець.

*– А ад чаго яна лечыць?*

– А ну каму што. Сер'ёзнае, канешне, не паможыць, ана ад всякіх мелачэй. Ну, яны старыя жыцелі, вы схадзіце да іх.

*– А вы не чулі, можа яны не толькі лечаць, але і дрэннае робяць?*

– Можа і робяць, хото іх ведаець (смяецца)?

*– А можа вы ведаеце, каб яны каму-небудзь нешта дрэннае зрабілі, можа не чалавеку, а, там, карове?*

– У дзярэўне пагаворкі такія ёсьць, апасаюцца, а хто там ведаець, не знаю я. Прызнаюць, што тая лепшая. Надзежда Ануфрэўна.

*– А адкуль яны навучыліся?*

– Дык яне знаю, адкуда навучылася, а тая Анухраўна учылася ў Лоўшы была дужа знатная, к ей весь сьвет езьдзіў, і з Масквы, і з Ленінграда, адусюль да яе езьдзілі, а яе нет ужо, памёрла.

*– А як яе звалі?*

– Зіна яе звалі, а фаміліі не знаю. Вот ужо знатная была, дык дзейсьвіцельна. Вот цяпер гэта Анухраўна учылася у тыя.

*– А гэтыя знахаркі, яны толькі лечаць, і могуць дурное нешта зрабіць?*

– Тая – не, дурнога не, я, кажаць, не вучылася дурнога. А гэта дык Зінаіда – на яе многія абіжаюцца.

*– А што пра яе казалі? Можа яна што людзям зрабіла?*

– Ну, дужа такі добрага не кажуць, а я не знаю, ці праўда, ці не.

*– А ад чаго яны дапамагаюць людзям, ад якіх хвароб?*

– Ну вот, ад чаго? Ну гэты, як яны называюца, чары гэтыя. Ну вот яны тады ваду даюць, ратуюць гэтага чалавека ад гэтай, можна сказаць, нячыстай сілы, што скручваець чалавека, скаціну. Ну, гэта, кажуць, на карты дужа гадаець. Зінаіда. У гэтае, у лаўшанскае Анухраўны, я сколькі раз брала ваду ад нячыстай сілы, ад гэтай.

*– А гэта ў вас у самой было, што вы захварэлі?*

– Вот як вазьму, у Анухраўны ваду – я нармальная, а так мяне начынаець круціць, ламаць...

**Зап. студ. ПДУ В. Аўсейчык, Б. Ключнікаў, Д. Панцялей у 2006 г. ад Крайновай Ядзьвігі Арцёмаўны, 1927 г.н. у в. Матырына Селішчанскага с/с.**

**6**

**Рожа**

– Вот у меня была рожа. Я сама знаю загавор. Была свадзьба, эта было трыццаць с лішнім лет назад, я ні с таго ні с сяго прасыпаюсь ат болі ў руке, рука гарыт, как в агне. Это рука становіцца краснай і гарыт, как в агне. Эта не толька рука может быць. Рожу можна толька загаварваць. Патом ідзёш к этаму чалавеку, нужно хадзіць в апрэдзелённые дні, хадзіць тры дня падрад: утрам, да васхода солнца, і вечэрам. Мачыць нельзя рожу, рожа боіцца вады. І чэраз тры дня у меня лічна прашло.

*– Значыць, вы ведаеце загавор?*

– Да, я знаю, но дзела ў том, что я сама не лечу, у меня ён проста запісан.

**Легендарныя знахары (Альжбета Лемеш)**

– Была ў нас такая Лемеш Альжбета. Вот эта самая наша знахарка.

*– А што яна рабіла?*

– Загаворы усякія, ад хвароб, каб мужык ад жонкі не ўшол, яна загаварвала. Гдзе-та ў пяцьдзесят трэцым гаду прыязджал з Ушачы упалнамочаны па намолу. Былі раньшэ эці з райпо. У яго была рожа ілі што, на руке. Уся рука была ў больках, дзе ён толька не быў. І дзядзька мой быў прадседацелем калхоза, ён прыехал к нему, а гэта Альжбета ў жорны малола зярно. І вот ён прыйшоў, разгаварыўся з гэтым дзядзькам, а той кажаць: “А ты знаеш што, а ты папробуй к нашаму доктару абрацiся”. І вот ён пайшоў к нашаму доктару, яна там у сенях малола, яна яму там пашаптала нешта, мукой засыпала, і ўсё – за нядзелю вылечыўся чалавек.

*– А яна малітвамі загаварвала?*

– Малітвамі і ваду давала. Ана давала ат іспуга, ат зглаза, разные-разные. К ней, па суці дзела, стаяў базар – і машыны тут: і “Волгі”, і “Пабеды”. Дзень і ноч людзі ішлі і начавалі. Дажэ некаторых людзей яна цэлую нядзелю дзяржала ў сябе. Яна баялася аднаго – у Селішчы быў врач Маёраў, яна яго баялася – ён як прыляціць, павыганяець усіх яе бальных. А так к ей людзі ішлі.

*– А як яна памірала?*

– Я сам відзеў, як яна памірала. Я быў брыгадзірам, і я прыйшоў, а яна ляжала, і што інцярэсна, бабы стаялі тут кругом яе, а яна насколька чувствіцельная была – у яе па шчаке муха паўзець, а яна чувствуець. Узьдзіралі паталок – тады памёрла. Яна памірала дня два, пакуль не паднялі паталок. Эта патаму, што яна сваі знанія не передала нікаму.

– *А можа яна не толькі лячыла, але і падрабіць нешта магла?*

– Ну, я думаю, што да. Яна не відзела, а дзеньгі, пры мне была, ашчупваець. Яе адзін мужык, нада было пяць рублей здачы, у магазін прышоў. А яму: “Эта тры рубля, а не пяць”. – “Ай, каб табе вочы павылезалі, ты ня відзешь”. І тут ён мяне спрасіў – “Гэта ж пяць рублей?”. А я ж віжу, што тры. А я кажу, што добра не знаю, і пайшоў.

– *А выпадкі былі, калі гэтую шкоды было відна?*

– Вот гэта во... расказвала, как яна ей карову зачаравала. З поля прышла карова і яна пайшла даіць, а карова б'ець – не падпускаець. Пашла дамоў, пасядзела, пасядзела, пашла абратна даіць – всё раўно. Тады яна кій у рукі, гэта баба, і пайшла к ей. Тады кіем аб стол як стукнець, і кажаць: “Адрабляй!” Яна хацела вадзічкі даць ей, а яна кажаць: “Не нада! Атрабляй, а не, дык кійком і табе!”. І пайшла дамоў, села. І атробіла ей. Магла і зробіць, і атробіць.

– *А чалавеку магла што-небудзь зрабіць?*

– Магла. Её вся дзярэўня баялась.

– *Ад каго яна навучылася?*

– Раньшэ у нас хадзілі старцы. Абычна ўнук, ці хто водзіць, і хто хлеба кусок дасць, сала. І вот прыйшлося аднаму старцу, эта было дзе-та ў дваццатых гадах, я чуць помню, начаваць у іх. І гэты старац заначаваў, яго пусьцілі начаваць, і ён сказаў: “Я табе кусок хлеба на ўсю жызнь абясьпечу”. Піў ён там, еў і навучыў яе там і яна стала посьле і работаць.

**Зап. студ. ПДУ І. Азевіч, А. Грэзеў, Б. Ключнікаў у 2006 г. ад Мялешкі Яўгена Андрэевіча, 1922 г.н у в. Лажане Селішчанскага с/с.**

### 7
### Пра Матырынскіх знахарак

– *А што вы чулі пра матырынскіх знахарак?*

– Зінаіда, ну там і другая ёсць, Надзя. Ой, Зінаіда вабшчэ...

– *А что пра яе гавораць?*

– Што харошае робіць, ўсім памагаець. Вось как у Ушачах была (жанчына), ён яе насілаваў, убіў, галаву адрэзаў, і не знали дзе найсці яго. А Зіна сказала, “ішчыце яго ў кустах”. І найшлі, вось як было, што убійца, старык увідзеў яго, як ён каціў веласіпед. І яго забралі і ён ўсё рассказаў, як гэта была, як галаву адрэзаў... вот..

– *Значыць гэта Зінаіда і лечыць, і можа убачыць, што было?*

– Да. І вот жэньшчына тут у Загузьзі. Была ў лесе заблудзілася, там і блудзіцца недзе ў гэтым лесе, паехалі к ней, дачка паехала. “Нічога, – кажаць, – “яна жывая, яна выйдзець ў другую дзярэўню”. – Яна і выйшла ў другую дзярэўню, там яе падабралі, вось так бывае...

**Зап. студ. ПДУ В.Аўсейчык, Б.Ключнікаў, Д. Панцялей у 2006 г. ад Войдак Ніны Якаўлеўны, 1938 г.н. у в. Матырына Селішчанскага с/с.**

### 8
### Лекавыя (свянчоныя) зёлкі

– *Скажыце, а вы на Купалле збіралі зёлкі?*

– Ну, хадзілі, сабіралі. *Цэнтаўра* такая, счас і тых пожаняў нету, ўсё ўзаралі. Гэта калі баліць жалудак, печань, і *зьверабой*... Сушылі, толькі не на сонцы іх нада сушыць, а нада так пакласьці.

*– А потым можа скаціну абкурвалі ці калі дзеці не спяць?*

–*Чомбарам* харашо і чай хароша.

*– А на вербніцу, калі свянцілі вербы, куды потым іх дзявалі?*

– Я іх не сьвянціла, патаму што ў мяне маць бальная ляжала, але чула, што, прынасіла дачка дажэ, яна прынасіла. Гэта верба, не такая вярба дзікая, а гэта спецыяльная вярба розавая, яна так не расьцець, яе трэба садзіць ці іскаць. І гэтай вярбой выганялі первый раз ў поле скаціну.

*– Можа што прыгаварвалі пры гэтым, не ведаеце?*

– Прыгаварвалі нешта... Ну каб ўсё было харашо, штоб не калдавалі, скацінка дамой шла харашо.

**Легендарныя знахары (Альжбета Лемеш)**

*– Ці былі людзі, што зналі?*

– Лена Лемеш, Альжбэта была, Альжбэта магла і наврадзіць і вылечыць.

*– А ад чаго яна лячыла?*

– А яна лячыла, яна скаціне врадзіла, але і лячыла, толькі абрацісь, толькі плата бальшая была нада.

*– І здалёк к ей людзі ехалі?*

– Ехалі! Ой, ехалі. А ці там памагала ці не, але калі ёсьць – узнаець, ой знала яна, знала. Мяне лячыла дажэ, вылечыла. Знаеце, рожа ў меня была на наге. Я ў Ушачах тада работала, ну гэта вясна была, яшчэ толькі сьнег сышоў, але ўжо цёпла было, можна было прабегчы. Я памыла палы, а патом пайшла трапку паласкаць і босымі нагамі – і ўсё, у мяне рожа стала. Там я абрашчалася к бабкам у Ушачы – не памагаюць. Яны як сталі загаварваць, а мне ўсё хужэ, больна. А тады ж машын не было. гэта ж пяцідзесятыя годы былі – адна машына ў калхозе. Тады мамка і брат прыехалі да мяне і ўсьцянулі наверх – нада было лезьці на машыну. Ну прывязлі мяне дамой і мама схадзіла за ёй, за гэтай бабай, прывяла, і сказала: “Што хочаш зрабі, але толькі вылечы нагу”, а яна як браўно стала і такія сінія пятны ішлі. І вот ана загаварвала нагу, і як стала загаварваць – такі пузыр выйшаў наверх, красны. Я гавару, нада яго пракалоць, а яна сказала “не нада, яго не станець”. І вылечыла.

*– А яна ж брала грошы за тое, што лячыла?*

– Брала, ўсё брала. І тады грошы, мы тады іх не палучалі, бульбай ей аддавалі.

*– А можа вы чулі, што яна дрэннае рабіла?*

– Рабіла, рабіла. Калдаваць умела. Я не знаю, як яна гэта дзелала. Ніхто ня чуў і не знаець. Гэта была парцізаншчына, блакада, гэта Вольга, яе ўжо нету. І яна зьдзелала карове, а яна тады к ей і з матам пайшла. З матам: “Адрабляй,– кажа, – карове, а то заяўлю партызанам і табе галаву зьнімуць”. Усё. Яна за гэта ніякай платы не ўзяла, і ўсё як нада быць карова. Всякія людзі ж ёсьць.

*– Яна загаварвала і давала вадзічку сама?*

– Давала ваду, цем более, што і нам была зьдзелала карове, але мама да яе ўжо не абрашчалася. Но карова ж падыхать начала ўжо, і здаваць не хацелі – ляжала так. Но яна ўжо знала, што прыйдзець канец карове, а мой брат меньшы, Вася, ішоў там каля яе, а вот яна ж знаець. што мама абрашчацца не хоча: “Дзе там матка твая бегаець, хай ня бегаець. Хадзі я табе солькі дам з вадзічкай. Хадзі і дай карове". Карову падымаць нада была, не ўставала. Ідзець мама з работы –

карова стаіць. А тады спрашываець яна ў яго: ”А што гэта, з кім ты падняў?” – “Я не падымаў, – гаворыць, – а яна дала мне солі і вады, і як я зробіў тое, што яна казала – і карова пайшла”.

*– Гэта Альжбета, яна нікога не навучыла?*

– Нявестка была, Люба, яна рожу загаварвала – наўчыла яе, но яна памёрла ўжо.

*– А кажуць, што знахаркі гэтыя цяжка паміраюць, калі нікаму не перададуць.*

– Ой, цяжка памірала. Казалі, паталок узьнімалі.

**Легендарныя знахары (Далман)**

*– А ці не чулі вы пра такога чараўніка – Далмана?*

– Ой, харошы быў чалавек. Мая свякроўка, *лёгка ёй зямельку дзяржаць*, ён яе вылячыў.

*– А як там было, расскажыце.*

– Яе напугалі, маю свякроўку. А як, яна сільна баялася пакойнікаў. І вот, адна жэньшчына зайшла да яе ў дом і залезла за печку. Яна схавалася, а ў нас жа там хата была старанькая, там старушка, ейная сьвякроў памёрла – яна вабшчэ пакойнікаў баялася. А яна што там узяла – ды кінула. Кінула – яна паглядзела яшчэ. За трэцім разам, як палку нейкую кінула – так гэта праз дзьверы і на плот, і ўсё – пацярала сазнаньне. Вы панімаеце, мне тожа смешна было, калі расказвалі, а яна пацярала сазнаньне і крычала ратунку. Паляцела гэта свякроў мая, а яна за ёю “Бронька, Бронька – гэта я!”. І ўсё, прывялі яе дамоў, і забалела яна, так забалела, стала абрашчацца ў бальніцу – у грудзях гузы сталі, у Бабынічы. Я не знаю, які там доктар яе глядзеў: “Нада срочна лажыцца ў бальніцу”. І напраўляюць, нада аперацыю дзелаць. Яна кажаць, што мне неяк лажыцца, адгаварылася, каб дамой ісьці, у яе ж дзеці, гаспадарка парадашная была, каровы. І ей тут падсказалі, што нада ехаць к этаму Даўману. Ну яна там папрасіла чалавека, бо яна не магла ні есьці, не спала, нічаго ні магла. І вот он паехаў, а ён кажа яму: “Сільна, – кажаць, – напугала са сьветлымі валасамі”. І точна – у яе светлыя валасы былі. “Ой, ёй жа ўжо мала засталася, так бы памёрла”. Вот он даў вадзічкі гэтай і сказаў другі раз прыехаць. І вот ана адыйшла ад той вады і паправілася. Толькі ці той Даўман... Маёй цёці Валі было зьдзелана у гэтай дзярэўні. Панімаеце. Васемнаццаць гадоў дзеўка – пацерала розум, робіць абы што. Пойдуць жаць, раней жа сярпамі жалі, а яна абы як кладзець калосьсе, а яна на вецер пусьціць – гэта ж нельзя так было. Абы што рабіла.

*– І з чаго гэта было ў яе?*

– Гэта ёй зьдзелалі. Хто тут што не саветаваў – нічога не памагала. А тады ўжо наняла яна старыка гэтага, Марціна, ён памёр ужо. І зьдзелана было так, што кабыла не ішла. Нам сказалі, як к Даўману гэтаму прыехалі: “Зьдзелалі кабыле, каб не ішла. І тваей сястрэ жыць толькі да заходу сонца. Калі хочаш, каб яна была жывая, кідай каня. Цябе яна ўстрэціць за дзярэўняй, тая жэншчына, есьлі ты загавораш з ей – нічога не паможаць, і нікому нічога не давайце”. А ўжо сонейка садзіцца. А як жа ёй даць? Яна ж зубы сьціснула і нічога не брала. І вот ён сказаў, што як небудзь упусьціць гэтай вадзіцы унутр. Яна, як разьнімала зубы, ёй і зубок нават адвярнула, але ўпусьціла. Стала храпець – спаць. Спала. што не падымалася, а патом ўстала і папрасіла “Дайце мне тое, што давалі”. І вот ён сказаў тады яшчэ прыехаць, а што ж тады плаціць было? Была ж, гэта блакада была, вайна, блакада.

*– Гэта вы аж на Глыбоччыну ездзілі?*

– Не, гэта ён бліжэй быў, можа ня той, не знаю. Ён сказаў, прыедзьце, я адроблю. Ну прывязлі яму палатна саматканага. Ну, так ёй лучшэ стала. А тут вайна засьцігла, яго немцы засьціглі, і ён, сказалі, памёр – немцы забілі.

**Валасень**

*– А ці не ведаеце вы такую хваробу валасень?*

– Ён у меня быў.

*– А што дапамогло?*

– Што памагло, тут я не магу сказаць. Валасень – эта ад косьці там такія, як валасы такія – боль невынасімая, косьць порціцца. Я пашла к адной жэньшчыне, мне пасаветвалі, а яна адказалася, сказала, што ня ўмеець, усё забылася. Ну што ж, нада ехаць к хірургу – рэзаць.

*– Аднімаць?*

– Аднімаць, да. Ну, але пакуль рэзаць – там жэньшчына была, у Ушачы яна ляжала, но я яе не знаю, чужая жэньшчына, зайшла ка мне. Сказала "Хадзі, я табе загавару". Пакуль рэзаць, яна мне загаварыла. і мне лёганька стала. Ну, я ўжо ўсё – запісана к хірургу аперыраваць. Ён яшчэ сказаў "праявіла гераізм".

**Сурокі**

*– А вось сурокі – гэта што такое?*

– Было, вы знаеце, як было? Касіў ён (паказвае на мужа) там у той старане на полі сабе траву, а там пасьцілі пастухі кароў, а ён касец харошы, ніхто не косіць столькі, сколькі ён. А яны прыйшлі і падзівіліся: "О, ты столькі за утра скасіў", і пагналі кароў, а яму плоха стала. Плоха стала, я нікагда не хадзіла на поле, а тут захацелася "нада схадзіць на поле". Вы панімаеце, якое прадчуствіе? Прыхажу на поле, каса ляжыць, ён каля касы, у клубок скруціўшыся, ляжыць і соплі з носа, і кашляець, і ўсё такое. "Што з табой, што з табой?". І пагода харошая, ні дажджа не было, нічога. "А не знаю, – кажаць, – пастухі тут былі, наверна мяне прыгаварылі". Насілачку дамоў яго прыцягнула, гэта ж усё, цемпература стала, а як скаціну зглазяць, падыхаець тожа. Прыцягнула яго, а тут у нас праўда з прыгавору была жэньшчына, праўда паўміралі ўжо. Пабегла я к ней. Я ж на яго ўсе падушкі, якія былі, на яго зьвярнула, халодна было так яму, трасло.

Ну яна зьдзелала мне вадзічкі, ён папіў, абмыла яго. Стаў спаць. Тады ўстаў, гэта ўсё скінуў, і як нічога не было. Усё гэта нада каб было. А дактары не вылечваюць нікагда.

*– Можа, ёсць такія людзі, ў якіх вока сурочлівае?*

– Да, ёсьць. Яны памёрлі ўжо, нет тых пастухоў.

*– Не, а можа бывае глаз такі дурны, што ён можа і не хоча, а зглазіць.*

– Ну вот бывае такая мінута, прыгавор, хто яго знаець. Як гавораць: "З аднаго боку Бог ідзець, а з левай дзьявал".

*– А што трэба рабіць, каб не сурочылі?*

– Як маленькім дзеткам, так нада каб шпілечка была ўшпілена, каб не відаць яе.

**Зап. студ. ПДУ: І. Азевіч, А. Грэзеў, Б. Ключнікаў у 2006 г. ад Гойдак Ніны Якаўлеўны, 1938 г.н. у в. Лажане Селішчанскага с/с.**

## 6
## Сурокі

– *А вось сурокі, як сурочыць чалавек? Як даведацца, што гэта сурокі, можа проста прастыў? Як чалавек сябе адчувае, як сурочаць?*

– Я сама ўмірала. Вот радзіла я дзевачку і пашла к сваім малоць, а прыходзіць саседка: ”Ой, – кажыць, – як ты паправілася после родаў”. Ну я дакончыла, змалола, дамоў іду – мяне цёмна ў вачах становіцца, я ўжо ня віжу. Ён (муж) астаўся з дзяўчынай, і на рабоце ён брыгадзірам робіў, стаў крычаць на мяне, што гэта нада ідці на работу, а я яшчэ запаздала дамоў. Я ўжо прышла ў хату вялая, зварыла мяне ўсю. Трасець мяне. За мной прышла мама, печ затапіла, ваду нагрываюць, ногі мне грэюць. Тады мама кажыць: “Дай я табе вады зроблю.” Ці яна там загаварывала, і я ўжо ўспакоілася, заснула, на утра ўстала, як не было нічога.

– *Што можа стаць з чалавекам, калі не лячыць?*

– Можа памерці чалавек.

– *Сурочыць можа любы чалавек, ці можа есць такія?*

– Такія людзі ёсьць. Не ўсе людзі ўрочаць.

**Зап. У. Лобач у 2006 г. ад Казловай Марыі Дзмітраўны, 1925 г.н. у в. Жаўніна Вялікадолецкага с/с.**

## 7
## Сурокі

– *Не, а што бывае чалавеку, калі яго сурочаць? Баліць у яго што?*

– Чалавеку плоха становіцца. Усяк можа і сэрца заб’ецца часта, і кажа: “Ой, мне што ж падумалі”. Ой, я так і сама, і мне так было і дажэ так было, што я была берэменная, дома там. Ад Дняпра вада прыбывала, дык я, загараджваліся. А я бярэменная, дык там жэньшчынкай мне прынясу немножка, а што мне здаровая была. Прынясу, зямлю высыпем, што вада не патапіла. А адна прышла, ды і падруга мая: “Ай, Верачка! Пабач, ужэ яна носіць воду, эта землю сюды ссыпае” і ўсё чэраз 5 мінут усё схваціла. Я без сазнанія падаю. Тады тая, што насіла за мяне кажа: “Бяжы бягом к маей сьвякрові”. Я пабегла. Яна мяне лячыла, я паляжала і ўсё.

## Дзічы

– Бародаўкі, дык я знаю, што от як іх дзелаюць. Бяруць *нітку суравую льняную,* а тады, о, як от дзяржыш, і прывязуе так адзін узялок, другі завязуе. На каждой бародаўцы трэба завязаць. А тагды яго кладуць. Эта адзін дзед так дзелаў. Тады дзе вот раньшэ сарай калхозны і там былі, каторы такія туды воду налівалі, а там гразь была. Вот туды ў гразь і закапваюць тую нітачку. І калі ета нітка ўся сагніе, пака яна сагніе і ўсе сойдуць бародаўкі. Так я знаю. Так у нас дзелалі. Эта я знаю, вот.

**Зап. У. Лобач у 2006 г. ад Яўхіменка Веры Адамаўны, 1927 г.н. (пераехала з Брагінскага р-на) у в. Царкавішча Вялікадолецкага с/с.**

## 8
## Наход

– Во ў дзярэўні пра наход гаварылі, што цыпляты выводзяцца, гэтымі *шкарлупкамі* кіпяцілі і мыліся.

**Эпілепсія**

– *А вось страшная хвароба, яна па-featureрознаму называецца: і дзецкая, і прыпадак.*

– Эпілепсія? У нас тут быў сусед, гаварылі нада *пяро бацянова* найці, а тады тым пяром спаліць і пакурыць ужо тым пяром. І зразу як увідзіш, гавораць, нада рубашку разарваць на тым рабёнку і яе спаліць.

– *Як бацяна ўвідзіш?*

– Як бацяна ўвідзіш, а бацян пяро згубіць. А дзе яно таго пяра найдзёш. І з рыбы угра. Рыба такая *ўгор* ёсць.

– *Ага, як змяя.*

– Да вот з гэтага гаварылі, кожу сарваць і гэту кожу высушыць і курыць.

**Зап. У. Лобач у 2006 г. ад Падгол Надзеі Васільеўны 1936 г.н. у в. Царкавішча Вялікадолецкага с/с.**

**9**

**Валасень**

– Валасень у мяне ў самой быў. Указацельны палец мне ўвесь абрэзалі да косткі ў бальніцы. За то што работала ў школе цехнічкай і мне неяк было робіць, мне дзерэктар школы сказала, нада спраўка мне, месяц я роўна адбыла на бальнічным.

– *Чаго да бабушкі не пайшлі?*

– Мне ж бабушка спраўку не дась, а мне нада было. Гэта балезьнь дужа страшная.

– *А як яна праяўляецца?*

– Заноза ў мяне была, а красіць нада было, парты красіць, рэмонт дзелаюць. І за ноч не даў спаць, такія болі, распух, сіні. У вочарадзі стаяць аж сіл няма. Яны мне ў первую очэрэдзь капцюр сарвалі, сразу ў мяне температура, лажылі ў бальніцу. Паехала я да тэй бабкі, забылася як яе звалі, у Рагуцьках яна жыла, купіла гасьцінец, дзеньгі яна не брала, а я ўжо тры ночы не спала.

– *Гэта пасля таго як з бальніцы?*

– З бальніцы. Мне забінтавалі яго, тры ночы не спала, усю руку разагнала. Яна мне як загаварыла, загаварываіць, я сразу спаць хачу, яна палажыла на дзіване мне падушачку пад галаву. Дзерэктрыса не сазнацельная, кажыць: “Ты толькі вылячылася, табе і отпуск не нада.” А я Богу малюся, і веру ў Бога, і так у ўчыцельскай падняла рукі: “Госпадзі, міласьцівы, хто маей балезьні завідавае, каб у таго чалавека адзін канчаў, другі начынаў”. У той дзерэктрысы ў марце месяцы забалеў той самы валасень.

– *Ці можна ж так?*

– Ці можна ж ей было раніць душу?!

– *Пасля той бабушкі загаіўся палец?*

– Яна мне як загаварыла, і гаворыць: “Ты ў мяне далжна пераначаваць.”

– *Яна проста гаварыла?*

– Калосьсі, на каласы, *жытныя каласы пустыя*. А мне ж больна, палец адбінтавала, тады ў бальніцы санітарку папрасіла: “Не кажы, што ездзіла к бабке загаварываць.” Яна сказала нада парыць, трыпутнічак рваць.

– *Над парам трымаць?*

– У вадзіцу. А цяпер яна сказала: “Упрэць дзелай так. Есьлі пачуствавала, сразу паліц гэтат ілі нада ў малаке парыць, ілі ў кіпятку. Есьлі табе коліць ён, больна.”

*– А як даўно гэта было?*

– Болей як трыдцаць гадоў.

**Начніцы**

*– Такую хваробу, можа, чулі, дзяцей гадавалі, начніцы яе называлі. Не спіць дзяценак, крычыць. Як рады даць?*

– Мяне навучылі загаварываць, я сама сваіх загаварывала: "*Начніцы, начныя, ранныя, пазныя, дзянныя...*" Крэсьцісься, дзяценка бярэш сабе ў прыпол, юбкі шырокія насілі, крэсьцісься і гаворыш: "*Ва імя Айца, і Сына, і Сьвятога Духа. Начніцы ранныя, пазныя, дзянныя, ідзіце проч, а майму* (сын ці дзяўчына, і як яго завеш), *крэпкі сон і сладкая ноч*". Гэта у хаце, на захад сонца, перад вакном, дзе іконы стаяць. Тры разы нада гаварыць, яго пацалаваць і сплюнуць.

*– А сплюнуць цераз якое, куд налева ці направа?*

– Чэраз правае плячо няльзя. Мой жа ангел храніцель з правай стараны стаіць. І з левай, ну, нада пляваць чэраз левае плячо.

**Вогнік**

– А вогнік я тожы адкідала сама. Нада браць *вугальле* з печ, вугальле бярэш гарачае і вадзіца стаўляеш на прыпяку. Нада тры ў ваду кідаць, тры ў агонь, тры ў парог. Ад агня, ад вады і ад ветру.

*– Прыгаварвалі што?*

– Гэта і прыгаварвалі:"*Агнявы ад агня, вадзяны ад вады, а ветраны і на вецер*". І тры разы нада дзелаць, тожы крэсцішся.

*– А дзяцёнак дзе мусіць быць?*

– А ён стаіць каля мяне. Гэтымі угалькамі абнясу яго, і называю: "Агнявы – ад агня, – ў печ кідаю, – вадзяны ад вады, – ў ваду..." І так тры разы.

*– Так, трэба дастаць дзевяць угалькоў, потым дзяценка абнесці, тры кінуць у ваду, тры кінуць у агонь і тры на парог. Сама хвароба ад чаго палучаіцца?*

– Болькі пачнуцца, тады ён раскідываіцца, нельзя тады к агню дзяцёнку падхадзіць. А ну там на руках, а то болей яно на ліцэ бываіць. Тады нада нельзя к агню падхадзіць, ці што топіцца, ці што.

**Упуд**

*– А вот упуд толькі загаворам лячылі ці можа тожа што рабілі? Як дзяцёнак сабаку спужаецца?*

– А што лячылі, нас тожы вучылі. Стол стаіць на куце, а тады рабенак пралязаіць, лезіць пад стол, каля гэтай нагі: "*Пут, пут аставайся тут.*" Тры разы пралезіць і ўсе.

*– Пад нагамі стала? А як па сонцу поўзаіць?*

– З правай стараны.

*– З права на лева. Колькі прапаўзаць нада?*

– Тожа тры разы.

**Перасцярогі цяжарнай**

*– А вот як хадзіла жэншчына бярэменная, цяжарная, што гаварылі не можна рабіць, каб дзяценак калекай не радзіўся?*

– Пазычаць, есьлі прыдзець бярэменная жэньшчына адалжыць што, дык маглі так зьдзелаць. Есьлі нет, не дасі, тады нада, яна пашла, па парогу секлі, трылупы палучаецца дзяцёнак.

*– Гэта як?*

– Губа расьсечана, заяча губа. А есьлі кідалі гліну, то печку будзе драць. У мяне было гэта точна так, прыхадзіла дзірэктар школы, чаго яна не знаю ка мне прыхадзіла, адалжыць, ну ў мяне не было, я не дала. У мяне на чардак вешалі бяльлё сушыць, дык у мяне ўсю адзежу (мышы) з'елі.

**Зап. У. Лобач, А. Халадкова у 2006 г. ад Зеленік Ніны Макараўны, 1928 г.н. у. в. Качаны Жарскага с/с.**

**10**

**Пра Стайкаўскую (Ільлінскую) крыніцу**

– У лесе тутака. Паварачываць на Гарадзец. Гэта цэрква там была – капліца была. То да вайны гэта было. А тады ці перад вайной? После вайны разарылі яе, цэркву.

*– А хто бурыў – местныя ці чужыя?*

– Местныя – не хацелі, каб цэрква была. Не хацелі, што ў калхоз ня йдуць робіць, а лятуць у цэркву. А цяперака, во Льля-пракок, Сьвяты Льля-пракок, ён нам і дожджу даў. Папы прыязджаюць. Ой, Бог знаіць, што робіцца.

*– А што праўда, што святая крыніца?*

– Ой, да. Там калодзеж. У нізе, у балоце – там калодзеж зроблен. Ёсьць дарожка.

*– А ці памагае вадзічка?*

– Памагаіць. Нада толькі дужа Богу верыць.

*– Ну, а ад чаго прымерна – можа ад упуду, ад уроцы?*

– А хто яго ведае. Не, не ад уроцаў не. Ад балезьняў. Вот нада нашчак піць, сьціраць цела ўсё. Во гэтак ужо.

**Пра знахараў і чараўнікоў**

*– А вот як памагалі ад уроцы даўней?*

– Ад уроцаў даўней чараўнікі робілі ад уроцаў, тамака. Не чараўнікі, а дажа набожныя людцы робілі ад уроцаў – загаворывалі. Хто загаворываў ад Бога – памагала, а хто ад нячыстай сілы – памагала. І ад нячыстай сілы памагала.

*– А тыя, хто загаварываюць ад Бога – можа знахары завуць?*

– Знахары.

*– А хто сільнейшы – знахар ці чараўнік?*

– Родненькі, не магу паставіць. Муські, знахар сільнейшы. Думаю тым, што Бог памагаіць таму знахару, а чараўніку не памагаіць. Ён сваімі так ужо рукавадзіць, робіць. Каб ужо паддзел. А Бог як дасьць, што гэтак ужо. Я цябе прымер дам. Вот тутака, дзе мой дашчанік, жыла чараўніца. На усім кружку чараўніца жыла.

*– На усім кружку, гэта што значыць – на усю акругу?*

– На усім кругу тутака. Жыла чараўніца. Маланьня, звалі яе. Ну яна, паддзелывала. Паддзелывала, казалі, людзям. А тады дачка стала паддзелываць. Рабіла людзям, хто яго ведаіць. Там падкідвала што якое. Ну вот падкінець якую трапку, якое што во гэта.

*– А куды падкідвала яна?*

– К хаце. Я табе раскажу. Тады яна ўсё жыла ў Запольлі. А дачка ўжо возьмець, як паследні пакойнік памрэць, у магілке. На магільніку возьмець пяску

і кругом каля хаты тры разы абнясецъ. Тады кажуць – будзіш чахнуць, чахнуць і памрэш. Во як. Гэтуж. Мой мужык к ёй хадзіў, хадзіў мой мужык. Гэта яна усёй сям'і нашай паддзелывала – дачка, не яна сама ужо.

*– А дачку як зваць?*

– Каця. А яна тады ўжо паддзелывала. Вот тамака. То мужыка падпоіць гарэлкай. То тамака яшчэ с чым-нібудзь. То мяне. Што паддзелывала, Бог яе ведаў. Знахары ў Віцебску сказалі, што яна паддзелывала. Во, што яна паддзелывала. Тады нам стала плоха ўсім. Усей сям'і стала плоха. Маім дзіцям і мне.

*– А плоха як? Можа што балела?*

– Балела. Дрэнна так. Такі вялы ўжо (дзіцёнак). Во як. А што тожа Бог мяне не наказаў. Прасіла ў Бога, ад веку была набожна, прасіла ў Бога – і Бог мне памагаў. І яна хоць і паддзелывала, а знахары тады расказалі ўсё, што яна паддзелывала гэтак ужо і дзіцям маім. Дачка радзілася ў мяне – маленькая дзяўчынка радзілася, а суседка – там цераз сьценку жыла – распашоначку ей пашыла. З вайны, што беднасьць была і ўсё – распашоначку пашыла. Зато яна тую распашоначку паддзелала.

*– А як яна так?*

– Ну там загаворы можа, загаворы нейкія. Дзяўчына хварэла і хварэла.

*– А як вылечылі? А як адрабілі?*

– У Запольлі была бабка – яна ад Бога была. Паліна. Полька. Яна лячыла людцы. Дужа лячыла. Ад прыпадку лячыла. Ад залатніка лячыла. Ад прыпадку, ад залатніка. Ад усяго лячыла яна, во. Ад прыпадку дажай у Запольлі. Але там быў прыпадак, стаў у таго мальца. Сястры мужык быў балеў. Ай многа каму. У майго мужыка, як здзелаўшы, прыпадак быў. Яна казала, каб ён ня піў, што ён піў дужа. Казала, што, гэдак, вылечыла. Во як. А вот тады знахаркі ад Бога ў Віцебску – іх там многа было – цяперка можа і паўміралі. І казалі, што гэдак яна (Маланьня) разным усяк робіла нам. Зямлю дажа падсыпала кругом хаты – пяску прынесла і насыпала кругом хаты.

*– Ну так як вы адрабляли?*

– Ай нічога. Тый вады далі. Каб скаціна не вялася яна робіла. Скаціна тады не вядзецца – ні сьвіньні ні каровы. Ну, тады тый вады далі ну мы і лячылі. Дзяцей і сама лячылася.

*– А што рабіць, каб не счаравалі цябе, як у людзі ідзеш?*

– Начапіць нада *шпільку*, кажуць, нада ў грудзях дзержаць. Ад уроцы. Знутры. Знутры нада зачэпліваць шпільку.

*– А можа гаварылі такое даўней людзі так – на Купалу адбіралі малако?*

– Было. Было. Знаіш што, як на Купалу – жабы такія прыг-прыг, такія дужа таўстыя, дужа страшныя. А як ні стала іх (чараўніц-суседак) – нічога не стала – ні тых жаб, дажа прастую ня ўвідзіш цяперка жабу.

*– А што тыя жабы? Гэта на Купалу можа ведзьмы?*

– Ведзьмы пратвараюцца. У жаб. А тады знаіш што нада робіць? Тады узяць нада ці дажа лапу ей гэтай лапатай адсеч – тады кажуць рука будзець балець. Тады трудзіцца будзець гэтак жаба тая. Ці этая баба тая трудзіцца. Ай было. Ай было, ай было. Ая-яй што было гэтых жаб, што людзей было. У Запольлі жабы былі тады. Прыгалі такія страшныя. На Купалу.

*– Гэта ведзьмы?*

– Ведзьмы. І нада, калі кругом хлева абкладаць крапіву. Крапіву нада абкладаць вакол хлева. Да Купалы крапіву вакол хлева абкласьці, кажуць ведзьмы тады на крапіву ня йдуць.

*– І вы клалі самі?*

– Клала. Клала. У мяне было тутака. Было. Такіх чараўнікоў, не дай Гасподзь, што б было. Тамака жыла. Тут яна суседцы паддзелывала. Скажу па секрэту, як ёсьць, пайшла ў уборную. Сяджу. А яна выскачыла з хаты, паляцела к суседке. Первая хата гэна, а тады другая. К хаце падбегла, палядзела, палядзела. Сяк паляцела – нясець лапату. Нясець нешта ў руцэ. Сечас калыпнула, уторкнула, затаптала. А тая дажа з ёй дружыла. Душа ў душу была. І гэтак затаптала яна. Ага. А я ўсё баялася.

*– А дзе яна так капнула, можа каля парога ці дзе?*

– Бог яго ведаіць. А я ж не хадзіла, не капалася. А ў мяне пад хлевам яйкі нахадзіла вароныі. Яйкі вароныі нахадзіла. А я тады ўзяла тое яйцо з тый бумажыны – шварнула.

*– Гэта яно ў бумажыне ляжала?*

– У бумажыне. Шварнула я тое яйцо. Падальшы.

*– А ці былі знахары мужчыны, што памагалі?*

– Знахары былі. У Старыне быў мужчына. *Вісяковіч*. Даваў ваду тожа, як каму дрэнна робіцца. Усе тады давалі ваду. Во як.

*– А як вот дзіцёнак спужаецца? Як лячылі даўней?*

– Во тая Полька Запольская лячыла – ваду давала. Ваду давала. Поюць яе тады, змазваюць во гэнак.

*– А што за хвароба такая, можа, чулі – залатнік?*

– Ха. Чула. Жывот баліць – залатнік. Нарушаны гэта. Ад цяжолай работы.

*– І як яго папраўлялі?*

– Ну, папраўлялі. Полька тая лячыла. І ад залатніка лячыла. Ад прыпадку лячыла. Ад усяго.

*– А як вот дзіценак – крычыць ноччу ня спіць – начніцы можа гаварылі?*

– Начніцы – эта ад упуду. Гэта упуд. Рабенак той крычыць ад упуду. Эта упуд нада убіраць тады. Вот выбіралі, былі такія.

*– А можа чулі хвароба – валасень?*

– Валасень тожа Полька вылечвала. На пальцах бываюць.

*– А ад чаго ен бывае?*

– Ай хто яго ведае. Ці заколеш – можаш заразіцца палец ці што? Ага, ага. Лячыла тожа Полька. Полька лячыла.

*– А каўтун, ці калдун?*

– Ай гэта дужа дрэнна. Галава зробіцца шапкай. Карыной займуцца валасы. Шапкай валасы зробяцца. І ўсё, не нада яго чапаць. Будзеш мучыцца-мучыцца – да сьмерці. У Запольлі былі. Былі такія. Бедная тамака жэньшчына – маладая баба, каўтун быў у яе. Ага, а тады паложуць яе. Адрэзаць не нада, тады сразу могуць паклaсьці. А ён бываіць дажа, што дзяржыцца, дзяржыцца на галаве – і валася тыя адвалюцца. А лячэньня я не знаю. Лячэньня, муські, няма. Кладзецца ён, кладзецца. Во як кладуць яго.

*– А ад звіху як лячылі?*

– Зьвіх. Тожа вадой. Не вадой – ніткай. Во сярэдзіну павіхнеш ці гэта, руку павіхнеш. *Нітку* давалі. Ага. Давалі нітку.

*– А як вот рука разаўецца, як жыта жнеш?*

– Во, тожа нітку прыкладалі. Хто загаварываець, а хто дажа ад веніка бярэць – нітку прыкладаюць к руке.

**Зап. У. Лобач у 2006 г. ад Самсоненка Соф'і Пятроўны, 1933 г.н. у в. Стайкі Вялікадолецкага с/с.**

## 11
## Засцярогі цяжарнай

*– Што гаварылі старыя людзі што не можна бярэменнай рабіць? Дзіценку каб потым блага не было?*

– Не нада хадзіць – прасіць нічога. Красьці не нада. Ай, людцы мае добрыя, сколькі будзеце жыць учыцесь – дужа ня можна красьць.

*– Дзіцёнак злодзей будзець?*

– А які злодзей! Божа, Божа. Крадзець і крадзець. Было, што было. Матка крала – на ферме была работала, крала. Не выходзіць з цюрмы дажа (яе сын). Не нада гэтак.

*– А што яшчэ ня можна рабіць жэншчыне?*

– Ня можна хадзіць пазычаць нічога. Хто па-даброму – хлебца кінець ці што. А хто хоць што можа сатварыць. Кінуць. На мяне крычалі, каб я не хадзіла. Тапаром можаць бярэменнай цераз парог драгнуць. Не нада хадзіць бярэменнай, а то што прыйдзець прасіць, хто не дасьць – тады ў таго мышы ўсё паядуць. Не нада, як памрэць чалавек, глядзець на яго. Хоць нада і глядзець – нада краснае адзяваць. Во прыйдзеш, хто памрэць – нада краснае адзяваць.

*– А калі не адзенеш – што тады будзеш?*

– Рабёнак бледны будзіць.

*– А вось гавораць – родзіцца з такой плямай з шэрсцю?*

– Гэта як звера, наверна, не нада чапаць. Не нада за ачаг брацца – пятно застанецца.

*– А вось гавораць на камені ня можна сядзець?*

– Лысы будзеш – на камень тады садзішся. Няможна – лысы будзеш. Тошна, праўда. На мяне крычалі, каб я не садзілася. Ня можна, як бярэменная – вужаку біць ня можна.

*– А што тады?*

– Не знаю. Гэта я не знаю. Ня можна гэтак. Вужаку ня можна біць.

*– А вот як дзіценка купалі першы раз – што ў ваду дабаўлялі, кідалі?*

– Не-а. Не, нічога. Першы раз баба мыець. Папросіш каго. Захочаш, каб ён добры быў тады ўжо. Я знаю, як мая свякроў, як я ўжо нарадзіла дзіценка, у ванначку купала і нож падлажывала.

*– Для чаго?*

– Наверна, ад уроцаў. Падлажывала нож пад ванначку. А пупавіну нада, як родзіцца рабенак, мне свякроў гаварыла, яна ж сохнець. Ну, што б пупавіну самой маці ўзяць. Эта ж цяпер врачы аднімаюць. Што б сама – берагчы тады пупавіну. Пакуль рабенак вырасцець. І сам развяжаць эту пупавіну. Тады будзе дужа умны рабенак – як сам развяжаць.

*– Як у празднікі рабіць – благое што будзе?*

– Гэта грэх будзіць. На Каляды ў нас адзін мужык паехаў у лес дровы загатаўляць. І гэта бяроза завалілася – забіла яго. Так гавораць – гэта саграшыў ён. А яшчо адна баба дровы рубіла на Каляды. Шчэпка адляцела – і ей у глаз. І глаз выляцеў. Вот. А як каля Ушачы вун, баба старая – 70 гадоў, можа болей. Дровы калола. Мальцы прывязлі ей дроў – купіла. Калола. І ўсё гаварыла, што прывязьлі – ды малавата мне будзіць! Дроў гэтых. А к вечару ўзяла і памерла. (усьміхаецца).

*– А гукалі ці што на Гомельшчыне пра чараўнікоў?*

– Гаварылі. Ну расказвалі, адна баба. Можа яны абманывалі. Адна баба ў маей мамы падруга, я знала яе, яна адрабляла – магла адробіць. Так мая мама спрашывала яе – як ты? Ці ты сама? Ці хто табе памагаець? А яна гаворыць: памагаець! Я, гаворыць, вызываю, хто там ці чорт ці хто? Прыхадзіў. Ну, мужчына, гаворыць, выхадзіў. Ну, яна гаворыць (замовы), а ён і з’явіцца.

*– У хаце?*

– Не, на вуліцы. Гаворыць і явіцца. Гаворыць у чорным шынялі і пугавіцы бліскучыя. Яшчо малая была – і нам расказвала.

*– А як капрызны дзіцёнак – то што?*

– Капрызны дзіцёнак – тады бярэзіна старая, якая вісіць суччам ўніз (плакучая). Ветку ламаеш і тады б’еш.

*– Каб пакорлівы быў?*

– Пакорлівы. Разоў сколькі – раз у нядзелю.

*– А як вот у малага малочныя зубы выпадаюць, што рабілі?*

– Прыгаворвалі што, ага, “мышка, вазьмі зуб, там такі тамака, а дай мне тамака касьцяны” а тады кідаеш за печак. Кідалі той зуб.

**Зап. У.Лобач у 2006 г. ад Падгол Вольгі Пятроўны, 1938 г.н. (пераехала з в. Малыя Аўцюкі Калінкавіцкага р-на Гомельскай вобл.) у в. Стайкі Вялікадолецкага с/с.**

## 12
## Латышка-знахарка

*– У вас быў валасень?*

– Ага. У мяне быў. Дык было ж. Вадзіла к бабе у Віслова (пад Ушачамі) дык там латышка мяне лечыла. Дык яна. А тады яе дачка – загаварывалі на кніжцы нагу. Памагло мне. Я ужо еду дамой – ужо лутшэ. А мне загаварывалі не панаску. Па-латыску. І ваду давала.

*– А яна на каласы зьлівала?*

– Не – не так зьлівала. На каласы не.

*– А калі валасень не лячыць?*

– А, тады плоха – калі не лячыць. Усе роўна – хужэ, у бальніцу нада.

*– А калі сурочаць?*

– Ну дык тожа ваду праз замок льюць. З роту даюць. Вады узяць. У рот набраць. У другі (кубак) ліць. Праз замок ліць можна ў другі кубак. Праз рэшата можна ліць. Я чула так ёсьць. Тры разы нада пераліць.

**Зап. У. Лобач у 2006 г. ад Журко Валянціны Францаўны**, 1932 **г.н. у в. Звонь Жарскага с/с.**

## 13
## Сурокі

– А як во зглазяць чалавека, тады трэба ўзяць рэшата і ваду цераз яго праліць. Тры разы трэба праліць. Ці можна ваду праз дзьвярную ручку праліць. Тожа тры разы. І той вадой абмыць. А, як дзіцёнак, то матке трэба церці яго твар падалом кашулі.

Каб не дапусьціць зглазу каровы, яе змераюць кіёчкам і кіёчак той паторкнуць у хляве. Ці яшчэ сетку накідалі на рогі.

**Зап. студ. ПДУ А. Градовіч у 1999 г. ад Ясюк Ганны Лаўрэнцеўны, 1936 г.н. у в. Горы Дубраўскага с/с.**

## 14
## Чараўнік Ягор

– Гэта было да майго свёкра Міхала, ён у Губінкі жыў, прышоў такі чараўнік Ягор. І прасіў там міластыню і яшчэ выхваляецца, што ён ужо такі сільны і зрабіць можа ўсё што хочаш. А свёкар гаворыць:"Ні чарта ты не ўмееш. Вось, каб ты зрабіў, каб вайны не было". Далі яны яму краюху хлеба і пайшоў той Ягор. А саседка, яўрэйка была, яна відзела, што той чараўнік, як пайшоў, то хлеб не ў руках, а ў зубах панёс. Ну і тады прыйшлі яны з поля і селі есьці. З'елі хлебу і рвуцца аж ня могуць! Далі хлеб сабаку – і ён рвецца. А пара ж такая, што нада ж жаць. Сьпяклі яны пірог і пайшлі на поле. А там прыйшла свякроў. Пачаставалі яе пірагом – і Тарасіха гэтая тожа рвецца. Прыехала да Міхала сястра, паела хлеба – і тожа рвецца. А бацька ужо ляжаў у клеці з зярном і тожа хворы. Паслалі за Ягорам, каб аддзелаў. Прыходзіць Ягор у новай кашулі. Матка ужо зрабіла яешню, каб частаваць, а Міхал той зрабіў кол і набіў Ягора так, што той папоўз дамой. Ну, і з новым уражаем усё гэта і адыйшло.

### Пра хваробы і іх лекаванне

– Ад ячменю нада ўзяць тры ячменіны, пакачаць іх па воку і тады закапаць пад парог. А, як зубы баляць, тады адрэзаць ветачку ад рабіны, пакавыраць ёй у зубе і палажыць тады на тое места, дзе і адрэзаў. І сказаць трэба: *“Рабіна, рабіна, як я тваіх ягад не ела, што б гэтак болі не імела”*.

*– А калі звіхнеш нагу там ці руку?*

– А гэта быў дзед такі – Нікіта Асташка. Ён жа і мне зьвіх папраўляў. Во так во круціць нагу, пацягвае і гаворыць тады: *“Зьвіх, зьвіх, ня будзь ліх, не ламай белу косьць, а ламай сухую тросьць”*. І так тры разы прыгаворваў.

*– А бывала ж, што дзіцёнак не спіць, крычыць.*

– Ну, гэта начніцы. Тады бяруць, становяцца з дзяцём на захад сонца і гаворуць:*"Зара-зараніца, у цябе дачка, у мяне – сын (ці наабарот), будзем іх жаніці. Вазьмі ў яго начніцы: начныя, паўднёвыя і раньнія"*. Тры разы так гаварылі. Тады перахрэсьцяцца, пацалуюць дзяцё і сплюнуць.

*– Можа траўкі якія, каб дзеткам памагала, сабіралі?*

– Гэта, калі вогнік прыкінецца – прышчыкі такія, то палілі траву такую – *агнянку*. І тады попел гэты зьмяшаеш з жырам сьвіным і мажаш тыя болькі.

**Зап. У. Лобач і студ. ПДУ А. Градовіч у 1999 г. ад Крывец Таццяны Ягораўны, 1930 г.н. у в. Старыя Турасы Дубраўскага с/с.**

## 15
## Пра хваробы і лекавыя зёлкі

*– Дар'я Цімафееўна, вы сказалі сабіралі зёлкі?*

– Ага, сабірала, нада была сьвянціць усякую траўку. Ну вот, сіненькія, жоўценькія, усякія. А называлі, *Іванка* адзін быў, другі *Купалка* быў, а так я паіменьняў усіх не знала.

*– А што тады з імі рабілі?*

– Насілі ў цэркву, сьвянцілі, і тады сушылі, і тады ў чай кідалі, кіпяцілі чай з ім.

*– А ці памагала гэта траўка ад чаго?*

– Ну, памагала ж.

*– Ну, а прымерна ад якіх хвароб?*

– Ну, ад якіх хвароб я не знала, я дужа ня лечылася імі.

*– Ну, можа казалі, што ад упуду?*

– Ну, ад упуду тады зёлкі кладуць, усыпаць у што-нібудзь вугальля, і тады іх кладуць на ўгальлё, і тады куруць.

*– Купальскімі зёлкамі?*

– Ага, гэтымі Купалкамі. Ад упуду, казалі гэдак. Ну і ад уроцы буваюць яна памагаець.

*– А ад уроцы як, можа заварываць іх трэба?*

– Не, загукваць. Ну і тожа чай кіпяціць і піць.

*– А вот ці чулі вы, такая хвароба валасень была?*

– Была, у мяне самой была. Круціўся ў пальцы там, шчакаталася, пох ён і балеў дужа. Тады яго загуквала жэншчына. Загуквала, і вылівалі неяк вадой на каласы.

*– А вот такую хваробу ці чулі вы – залатнік?*

– Залатнік я сама загукваю. Ну вот я на вадзе, ці на залаце. "*Залатнік, залатнічок, стань на сваём месьце, как у залатым крэсьле, не хадзі па маей крыві, не ламай маей касьці, румянага ліца, сівога валаса. Ва імя Атца, і Сына, і Сьвятага Духа.*" Яго перакшчу, ужо ці ваду ці што-нібудзь.

*– А адзін раз трэба было перагаварыць?*

– Тры разы перагукваюць. Цяперака яшчэ ад увіху: "*Ехаў Юр'я на сівым кане цераз залаты мост. Конь паваліўся, мост зьвіхнуўся. Конь устаў і зьвіх прапаў.*" Тожэ тры разы.

*– А можа ад звіху перавязвалі нітачкамі?*

– Дык, нітачку ж гэту і загукваеш. Тады нітачкі абвязваеш.

*– А што рожа за хвароба такая?*

– Рожа, рука похла, похнець, краснай становіцца, і дужа боль бальшая. Гэта робілі *ржаной мукой*, *цеста* прыкладалі, ну і хто загукваў, дык тады тое цеста загуквалі.

*– А вот як дзічы на пальцах, ці дзічкі?*

– А, гэта ў мяне было, але я тры гады коней пасьціла, дык мне нараілі, як коні п'юць, і вот вада бяжыць з морды. Дык гэтай вадой мыць іх. Дык я коней як паю, дык падстаўлю. А было дужа многа па руках. І гэдак яны ў мяне і сыйшлі.

*– А вот кругі ёсць яшчэ такія?*

– Кругі тожэ загуквалі, каля сьцяны, дзе кругі ёсьць, дзе сукі. І тада на гэтых суках ужо, дзе той круг круцюць, і тады на той сук плюнуць. “*Круг, круг, я на цябе плюх*”.

*– А вот такая сташная хвароба была, падучая яе называлі, ці прыпадак?*

– Прыпадак. А гэтага не знаю. У мяне была гэдак унучка, дык сколькі ей рады не давалі, а тады ў Полацак у цэркву звазілі пад Ефрасіньню. Дык вродзе прапала гэта.

*– Гэта дзе мошчы Ефрасінні?*

– Ага, ну туды недзе ў Полацак вазілі.

*– А вот, даўней жа жыта жалі сярпамі, а вот як рука разаўецца, забаліць?*

– Рука разаўецца, гэта як вот даўней венікі вязалі, і накрэст клалі ішчо так, як венікі вязалі. І вот тады тое лычка накрыж развязываеш і руку абвязываеш.

*– А калі рука прайшла ўжо, паправілась, куды тую лычку дзявалі?*

– Яно неяк так само і згубіцца. А калі ня згубіцца, так тады і спаліш.

*– А вот калі сярпом парэжаш руку, як кроў суняць?*

– Ёсць такая трава рабенькая – *столітнік*. І тады цёрлі лісце і прыкладалі, тады кроў унімаецца.

*– А вот такая яшчэ хвароба – наход? Ці чулі вы пра яе?*

– Наход, гэта калі ў жэншчыны ёсць месячныя, і вот ты купаесься ці дзе, на голага на цябе тая жэншчына абойдзець яна цябе.

*– Калі ты голы купаешся, а яна праходзіць?*

– Ага, тады гэта кажуць находзіць на чалавека. Але, мусіць, гэта не праўда. Ну тады, як даўней, высадкі садзілі, буракі, капусту, тады старым гэтым – дудкі… тожэ мылісі.

*– А як во на воку ячмень сядзе?*

– Ячмень тожэ тады, дзе ячмень убралі, *дзевяць зернетак* атшчытывалі, і яго пацiралі гэтымі зернеткамі. А тады я вот не помню, куды потым гэтыя зерneткі, ці яго садзілі, ці яго так проста выкідалі.

**Пра Іллінскую (Стайкаўскую) крыніцу**

– Цячэць вада, там зробілі зруб, даўней цэрква была, цэркаўка гэта маленькая была, на ей стаяла. І вот калодзезь гэты быў у цэркву, а гэта толькі на вуліцу, як руку апусьціць, каб бутылку зачэрпнуць. А гэта было ўсё ў цэркве. І стаяў там на гарэ, як ішлі вады, там масток, намошчана, усё добра зроблена. А стаяла цэрква бальшая, а стаяла ля цэрквы дзве маленькія яшчэ цэркаўкі. Як яны там называліся, Насвеншчана Матка і дзве гэты. І сабіраліся туды ад раньня. На Ільлю втарога аўгуста, і ўсігда туды зьбіраліся.

*– А багата людзей было?*

– Ага, так было багата, так было багата, там застаўлена была плашчадка каля цэрквы чыста. Каля дарогі дзе як, так прайці неяк было. І прывазілі, яўрэі ж тады таргавалі. Там кірмаш быў, знаеце які быў! Там, Бог знаець, сколькі было. Старцы ідуць.

*– А раскажыце пра старцаў, якія яны былі?*

– У нас быў тутака ў Завячэльлі старац. Коля. Коля быў сьляпы, вадзілі яго рабяткі. А тады ўжо жонка вадзіла. Ну к нам яны кожны гадочак, як ідуць, так к нам прахадзілі.

*– А яны хадзілі болей па празніках?*

– Хадзілі і так. Старац той так умеў маліцца, так умеў. Ён памоліцца за скацінку, і за хлеб. Кожны раз як начаваў у нас, памоліцца, а тады на заўтра раненька ўстанець, так давалі яму ўсегда калі. Яму ж нада было пражыць, ён жа сьляпы быў. Дык усегда, ужо падгатовіш, тады даш.

*– А на той крыніцы багата старцаў сабіралася?*

– Ну, а няго ж, усе туды ішлі на тый празьнік, адусюль.

*– Ну вот а вадзічка там тая, яна можа памагаець ад чаго?*

– Памагаець, вот і цяпер усё за вадзічкай едуць.

*– А ад чаго яна добра памагаець?*

– А Бог іх ведаець.

**Чараўніца і знахарка**

*– А ці вот расказывалі, ці былі такія людзі, што ўсякае зло рабілі?*

– Яны былі, і яны ёсьць тыя чараўнікі

*– А што прымерна робяць тыя чараўнікі?*

– Вот мне самой зьдзелалі, што я хату спаліла. У суботу гэтак сястра ў хаце, пакуль я хату памыла, яна двор вымела, было чысьценька. А тады на работу пашлі. З работы прыходзім, яйцо на дварэ ляжыць. А тое яйцо нада было гэдак зробіць, нам тады казала латышка, тут у Старынцы латышка была, дык яна, Бог знаець, як помач давала. Вот яна казала, нада было тое яйцо спаліць, у рукі не браўшы, ці назад падкінуць, а я ня чула, нічога ня зробілі, але ўзяла, зварыла і з’ела. А прагналі цілят, калхоз пасьціць. І пазвалі мяне на пасту, я тых цілят пагнала, як раз усе мае разыйшліся. Пляменьніца мая была гэта дзе, я на пасту пагнала, сястра, тата пайшоў у дзярэўню, яму дровы панадабіліся. А пляменьніца гэта была ў сястры, ня дома. Асталася тая мая сястра, ніколі спаць не клалася, а то за групку залезла, лягла спаць. А я пайду кароў на пасту гнаць, век мы жар не выкапвалі, ні вынасілі з ямкі, як печ топіцца. А то нада жар выкапаць, нада попел вынесьці, век не вынасілі. Вынесла, накапала я гэты жар на заслонку, вынесла на двор, і вецер дуець. Пакуль я попел гэты вынесла, пакуль я на пасту пагнала, ужо мая і хатка згарэла. Вялі кароў, суседка вяла, а гэты дым ужо ідзець. Але ж гэта гарэлку гоніць. Ні зналі, што без мяне ніхто гарэлкі не выганіць, толькі я. А я на пасьце, і гарэлку гоняць. Ну і не паглядзела. І павялася з гэтай каровай. Нідзе нічога ня відзеў. А тут пазванілі – хата гарыць. А нам відаць цераз кусты – можа сукі, карэньня паляць.

*– А хто гэта вам падкінуў, тое яйка?*

– Суседка. Сярдзіта была. Тады цераз граніцу хто пераступіць. Ну вот, на поле на яе зойдзець карова цераз мяжу.

*– А што яна яшчэ падрабляла, ці толькі вам?*

– А вот падрабляла, ад яе многа страдала людзей.

*– А што яна рабіла?*

– А чорт яе ведаець. Вот яйцо гэта. Патом нам латышка і сказала.

*– А вот вы сказалі, латышка. А раскажыце пра яе? Адкуль яна тут узялася?*

– А Бог яе ведаець, адкуль яна. Нам падраілі карову, яны ў нас хварэлі, хварэлі. Падраілі нам у Старынцы. Тады гэта, карова ляжала ўжэ, вецерынар нічога не прызнаець, ніякай хваробы не прызнаець, а карова не ўстаець. А тады падраілі нам да гэтай латышцы. І пакуль сястра мая зайшла туды, яна мусіць загукала, карова мая ўстала.

*– А як звалі яе?*

– Бог яе ведаець. Звалі латышка, а як пайменьне. Старая. Зараз яе ўжо і нет цяперака.

*– А ад чаго яна яшчэ памагала?*

– Яна ад усяго памагала, мне во гэдак зробілі, я на пасьце. Пастушка маладая, дурэць хочыць. І тады другі раз раз у нас карова забалела, і я кажу тады, дык скажыце і каб мне вады дала. Яна дала тый вады, я палепшыла, а другі раз пашла, так ужо латышка папыталася, а я, кажыць, пляменьніца, а як твая сястра жывець.

*– А тая латышка, ёй давалі што-небудзь?*

– Ну, калі тройку якую дасі, яна ж не вымагала, як каторыя, што край як нада якая плата. А яна, што ў цябе ёсьць, то і пранасі. А чытала яна з кніжкі, казала: “Мае кніжкі ўсе праверылі, міліцыя ўсё ў мяне пачытала, усё праверылі і аддалі мне.”

*– На якой мове яна гукала?*

– Мусіць, на нашай. Да вайны (гэта было).

*– А не гаварылі такое, што чараўнікі маглі і жыта папсаваць, у жыце што зрабіць?*

– Былі заломы, там жменьку, дьзве там заламаюць. Ага, ламалі. Скручаны і скручаны.

*– Дык гэты залом, яго ня можна было зжынаць?*

– Не, паліць трэба.

**Зап. У. Лобач, А. Халадкова у 2006 г. ад Аўтух Дар'і Цімафееўны, 1912 г.н. у в. Вашкова Жарскага с/с.**

## 16
## Сурокі

*– А што ад сурокаў можа быць?*

– Усякае можа быць. Плоха можа стаць. Аслабее (чалавек) і галава балець можа, і рукі – любы орган балець можа. Станець ня відзець...

*– А як дазнацца, што сурокі? Можа, проста прастыў?*

– Ну есьлі ў якім обшчастве абшчаесься і ваабшчэ з кім такім абшчаесься. У дзярэўні ж знаюць ад каго можа быць плоха, а ў горадзі хто ж яго знаіць. Ну, пачуствуеш, што ўродзе не прастужаўся, а цібе становіцца плоха сільна. Ну, тады ўжо бяруць ваду.

*– А ў вас было такое, што нехта сурочыў?*

– Дачку маю. Муж мой іграў на гармошкі, а яна яшчэ маленькая была. Годзікі два, навернае. Яна танцавала пад музыку. А прышла жэньшчына з дзярэўні і гаворыць:"Во, як яна харашо танцуіць. Ай-я-я!" Ну, пашла і вродзе бы нічаго такога. Паклалі спаць. Заснула нямношка. Атады расплакалась:"Ножкі, ножкі…" І ўсё – баляць ножкі. І ніякай рады ні даць ёй. Ну, пайшоў хазяін к этай жэньшчыне, каторая была ў нас. Пайшоў к ей, штобы вады яна дала. Ад яе загаворы ніякія не памагалі. Нада штобы яна сама дала. Ад той жэньшчыны помашчы не аказваў ніхто. Толькі к ей нада была абрашчацца, к самой. Ну, прынёс той вады, змылі яе і ўсё прайшло.

**Упуд, залатнік**

*– А ад упуду, як дзіцёнак спалохаецца?*

– Са спуду тожа загавор ёсьць. Сабакі есьлі спужаецца, то загаварываюць і выстрыгаюць у сабакі шэрсьць у трох местах. Патом – на угалькі і падкурваюць гэтым. А я ад залатніка, ад пад'ёму ўмею.

*– А як? Даўней жа да дахтароў не ўчашчалі.*

– Да! Раньшэ толькі этым і лячыліся. Толькі травамі. І яшчэ лучшэ лячылі, чым гэтай хіміяй. А хімія – адно лечыш, а другое калечыш.

*– Ну, то можа скажыце словы?*

– Словы такія: *"Ішоў сам Бог напярод, Ісус Хрыстос пасярод, Марыя пазаду, вяла Яна ў чараду. Яна яго палюбіла, залатым вусом надзяліла. Залатым вусом, залатым паясом, залатым кіёчкам. Яна яго спадабала, к сібе на помач пазвала. Сьвятая Марыя, Сьвятая Ефрасіньня, Сьвятая Сафія праз брод кроў пралівалі, Хрыста на помач пазвалі: – Стань нам памошнікам ад Марынінага залатніка".*

Гэтак на ваду загаварвалі тры разы. Гэта я ад мамы навучылася. Яна ад рожы, ад спуду, ад вогніка, находа ваду давала.

**Вогнік, рожа, валасень**

*– А вогнік ад чаго можа прыключыцца?*

– Гэта ад агня. Проста, як ёсьць адно гэта месьцечка (болька) і ад агня ўсё дальшэ, дальшэ расходзіцца.

*– Падобна на рожу?*

– Не. Рожа ж тады пасінеўшы, цёмна - краснае становіцца.

*– А як ад вогніка лячылі?*

– Там на углях нада загаварваць. Бяруць тры кучкі углей дравесных і на іх загаварваюць.

**Упуд (прыпадак)**

*– А вось падучая ці прыпадак?*

– У Батукалаве было. З іспугу было. Можа лет сем яму было. Спужаўся і стала. Патом езьдзілі да людзей, што загаварвалі. Ужэ і лучшэ яму стала. А патом яшчо, як спужаўся раз, і па сей дзень ён так і балеіць.

*– Гавораць, што як прыпадак з упуду, то можна вылячыць, а як прыродны, то не.*

– А прыродны тожа загаварвалі. Да, прыродны вылечваўся загаворамі быстрэе, чым гэты, ад упуду. Рабёначак маленькі яшчэ і ён зьдзелаецца цьвёрдым такім. Прыступы такія... Маленькага рабёначка і загаварвалі быстрэй, быстрэй, чым ад упуду.

**Хвароба з ветру і вады**

*– Ці можа хвароба з ветру прыключыцца?*

– І рожа можа прыключыцца з ветру. І з вады рожа можа быць. Проста з вады. Ілі дзе там царапінка якая і вада папала.

**Наход**

*– А ці чулі пра наход?*

– А, наход (смяецца). Хвароба такая была. Есьлі мыесься ў бані ілі проста так мыцца будзеш і жэньшчына нячыстая, як прайдзёт каля цібе, то можа стаць наход. Па целу статнуць такія прышчыкі і стануць яны мокнуць. І наход тожа за-

гаварвалі. А патом яшчо, есьлі вывядуцца цапляткі, то *шалупачкі*, с каторых вывяліся цапляткі, іх тада вадой цёплай залівають і патом абліваюцца гэтай вадой. А ішчо ў нас садзілі *буракі на высадкі*. І вот этат бурак, каторы ужо саджаеш, яго зберагаеш. Тожа вадой залівалі гэты бурак і абліваліcь вадой ад находа. Гэта дзеравенскае лячэньне такое было. І памагала.

*– А што болей памагала: загавор ці вада, якой абліваліся?*

– І тое і другое – усё памагала.

**Знахарская практыка**

*– Можа ад находу загавор успомніце?*

– Не. Ад залатніка, дык я помню, што часта сама сібе дзелаю.

*– А гаворaць, што сабе і блізкім сваякам не памагае.*

– Памагаіць. Толькі памагаіць есьлі первы і пасьледні рабёнак. То ад гэтых людзей ўсім будзе памагаць.

*– А жыду ці памагае? Ён жа нехрышчоны.*

– Да. Гэта можа быць, можа быць. Патаму што ў нас дырэктарам школы быў такі Краўчанка. Не знаю адкуль ён родам. І ў яго сястры забалеў сын. І вот яны яго ўсё вазілі, вазілі, усё лячылі. А патом прысаветавалі дзе-та каля Бачэйкава жэньшчыну. Ну, паехаў ён із сястрой. А тая ж гаворыць:"Нет, я рады ніякай не буду даваць – ты прыехала з камуністам". Вышлі яны на двор. Пастаялі, пастаялі, пасаветываліся. Тады гаворыць:"Ладна, я паеду, а ты аставайся. Ідзі і прасі яе". Ну, пашла і сказала, што ён паедзіць, ня будзець, ужо раду якую-небудзь дайце, калі можаце. Ну, стала яна тады лячыць і вылячыла.

**Знахары і ўлады**

*– А што даўней ўласьці і камуністы ганялі такіх людзей, што вадзічку давалі?*

– Да! Да, ні давалі вабшчэ жызьні нікакой. Усе, хто знаў, хто дзе якую раду можа даць, адзін аднаму саветывалі. А ўсё тайком, не прызнавалісі.

*– А то што магло быць?*

– Ай! Сашлюць!

*– І было такое?*

– Было! Ссылалі, наказывалі – ўсяго было.

**Дзічкі**

*– А калі дзічкі на рукі сядуць?*

– Дзічкі нада *нітачкай* ільняной. Так абкладывалі каля дзічкі і тут жа, на гэтым месьце завязвалі узялочак. І сколькі там дзічак – абкладываюць кожную і на кожную узялок завязваюць. Патом нясуць эту нітачку дзе-небудзь на перакростак і закапваюць, пака яна пeрагніе.

**Чараўнікі і знахары**

*– А ці атлічаюцца людзі, што загаворваюць і што чаруюць?*

– Ані крэпка атлічаюцца. Тыя, што чаруюць, гэта ўжо прадалі чорту душу. А, што загаварваюць, – гэта людзі, што памагаюць.

*– Хто сільнейшы: чараўнік ці знахар?*

– Чараўнікі тожа разьлічаюцца. Па знанію, па славам, каторыя заўчаюць.

*– А ад каго яны заўчаюць?*

– Адзін ад аднаго. У гэтай самай, Казлоўшчыне... Знаў. Ну, клічка была "Тармасок". І тады два там друга. Гавораць:"Дзед, навучы нас". Раз гавораць і

другі раз. А дзед, то некалі яму, то яшчэ што. Усё адгаворваецца ад іх, усё ня вучыць. Ну, ўсё прыстаюць і прыстаюць, каб навучыў. Ну, харашо. Дзед гэты: "Ладна, наўчу. Вот прыйдзіце тады і тады. Я вас наўчу". Ну, прыйшлі ўдваём – ужо будуць вучыцца. Дзед іх як павёў, павёў па полю, каля пасеваў і ўсё гаворыць, і ўсё гаворыць. І дзед ужо мусіць усё высказаў. Прыйшлі назад. Тады такія пуні былі. Ідуць у ток. Прывёў іх. Даець нож аднаму, другому. І шулы такія былі, стаялі. І на аднэй шуле – родная матка, а на другой шуле – хрёсная матка. І вот нож даў: "Ідзі, зарэж іх абеіх". Ну дык гэты, каторы расказываў, гаварыў: "Я паляцеў, ня знаю, як бег адтуль. А другі астаўся. Я ў яго ніколі не пытаў ці ён навучыўся, ці не навучыўся. Ці ён рэзаў, ці ён ня рэзаў". Так во, дзеці. Ты адкажыся ад свайго радства, ад усяго адкажыся і прадайся другой сіле.

*– Але знахару нада свае загаворы перадаць перад смерцю? Ці як палучыцца?*

– Як палучыцца. Да, есьлі хто інцерэсуецца і то, есьлі младшы знаіць, старшага пусьць ня учыць. Тожа помашчы ня будзець.

*– А ці можна свінні загаварываць?*

– Я знаю што скаціне загаварваюць ваду, но сьвіньні – ні ў коім случае. Есьлі што, то нада проста так праліваць праз што-небудзь ваду. Ілі праз ножыкі, ілі праз ложкі, ілі праз замок, ілі праз рэшата, но толькі не загаварваць.

**Бабка-павітуха**

*– А скажыце, як у родах памагалі?*

– Эта тожа, мусіць Бог даваў людзям асобае якое-та знаніе. У Дварэ (Суша) была такая... Не знаю, як яе звалі, но я знала, што яго Алехна звалі. І вот жонка ягоная, як дзе цяжолыя роды, усюдых яе вазілі. І яна аказвала помашч лучшэ цяперашніх акушэрак. Яе дажэ... к маме прывазілі, як мальчыка ражала. Цяжолыя былі роды і яна памагала. Яна гаварыла, што ў яе 80 ўнукаў і толькі з такімі родамі, што цяжолыя.

*– А ці можна было прыважыць дзеўку там ці хлопца?*

– Вось такая Дышлевічава дачка... І быў камбайнёр Коля з Любжына. І яна яго прываражыла. Дык што. І адзін дурнеў, і другі дурнеў. І рэзаліся, і давіліся. Разышліся. Гэта не жызьнь. Гэта – наказаньне.

*– А во бывае, што і па любві жывуць, а дзетак няма.*

– Ну, так гэта ад роду. "Бессемянкі" бываюць. Гэта завісіць ад арганізма. Гэта ўжо непаправіма.

**Рытуальная прастора**

*– А лыч (як кабана білі) куды дзявалі? Ваду пралівалі?*

– Да, гэта ад уроцы. І цераз ложкі, цераз ножыкі, цераз замок замкнуты, цераз рэшата...

*– А дзе нада была змывацца? У качарэжніку?*

– Да, нада была на абратную старану рукі і тры разы змываць. Астальную ваду выліць у качарэжнік. Ну, папіць тожа немнога нада. Ілі на завесы ў дзьверах астальную выліць.

**Зап. Т. Валодзіна, У. Лобач у 2006 г. ад Піскуновай Валянціны Пятроўны, 1936 г.н. у в. Пола Дубраўскага с/с.**

## 17
## Сурокі

*– А што з сурокаў можа быць? Ці ёсць людзі, што вадзічку даюць?*

– У Навасёлках Анька даець. Ад уроцы і каровам, і людзям даець. Ну, можа трасьці чалавека, худа дзелацца, вяць можа.

*– А вы хадзілі самі?*

– Раз паехала з сынам на кладбішча. І тады мы паехалі на трактару. І сабіраліся дамой ехаць, а яна (жанчына з іх вёскі) ідзець і на мяне:"Здраствуйце". І, як сказала "здраствуйце". Усё! Мне плоха стала, вяну, паміраю – усё! А раз. Тут у нас Адамаўна. Тут на нашым баку, дальшэ жывець. Яна з Гомеля. Я не знаю... Вот яна ходзіць і вады, і стрэчаемся і здароўкаемся, і яна ж у мяне ўсё ўрэмя ў хаце была... І тады, там дальшэ у нас целяфон. І я пашла званіць. Дзе-та гадоў можа сем назад. Пашла званіць – балон (газа) заказываць. І бягу, у нас там ёсьць перакростак. І тут находзіць туча... Я не магу сказаць, што яна чараўніца. Ілі гэта мінута такая. Находзіць туча, і я так бягу быстрэнька, каб да хаты дайці, каб не намачыцца. А яна на ўстрэчу мне ідзець. І тут жа, на гэтым перакростку і гаворыць: "Здраствуй, Нікітаўна. Ой, вы бягіце, як у 7 лет". Мамачка! І прышла я дамой, у хату. І сын мой другі быў прыехаў. А мне ногі! Ну баляць – крычу ратунку! Такая боль! Я чую – да калень (боль), а тады чую – сюды ўжо (паказвае вышэй каленяў). Ну, боль невынасімая! І тады пабеглі (сыны), вады прынясьлі. Змылі і мне ўжо аддало.

*– Можа самі спасаліся?*

– Хто ложкі мыець, хто стол накрыж. Гэта ўсё сваё. А яна, во гэта Анька, у яе дзед, як вам сказаць, чараўніком быў. А яна – ягоная пляменьніца. Наверна, ён ёй перадаў. Ну, праўда, не скажу – яна людзям дужа ня дзелаіць нічога. Ходзяць к ёй людзі.

## Сіла знахараў і чараўнікоў

*– А знахар і чараўнік – адно і тое ж?*

– Адно і тое ж. Да. Гэта яшчо іхныя продкі былі прададзены душой не Богу, а чорту. І іх застаўлялі дзелаць, гэта я чула ад старых людзей, што адкажысь там ад сваіх. І там ужо нада нейкую малітву нехарошую.

*– Анна ж гэтая людзям памагае?*

– Памагае.

*– Так што, і ў яе сіла ад чорта?*

– Ну, наверна.

*– Так што, сіла ад чорта памагае людзям?*

– Ну, канешне.

*– Ці гэта сіла ад Бога?*

– Ну, некаторыя ад Бога загаварываюць ваду ад уроцы. А яна ж (Анна) не скажыць ад каго (сіла).

## Смерць чараўніцы

*– А ці праўда, што такія людзі паміраюць цяжка?*

– Праўда, праўда. Во ў нас тут Завадзіна, кіламетры чатыры ад нас. І гэта, што мне на кладбішчы во так здзелала, – ейная матка памірала. А мая там пля-

меньніца родная жывець у тэй дзярэўні. Гаворыць, як матка яе памірала, крычала, кідалася, із роту, кажэць, дым у яе ішоў. Што зьдзелалі. Тры сталічыны ў хаце падымалі, а тады хамут ёй на шыю надзявалі. Тады толькі скончылася. Во якія ёсьць! Дак вот, мая дачка жывець у Леплі і ў яе сьвякроў... Яна і ласкавая такая, і усё. Але ўсё за сына, за сына, а сын піў. Стаў ёй 81 год і пумірала так плоха. Трое сутак кідаецца:"Ай, дзе мая сьмертачка?! Ай, дзе мая сьмертачка?!" А ўсё не паміраець. Тады мая дачка выйшла на вуліцу, а ідзець старэнькая бабка. А яна гаворыць: "Бабулька, вот сьвякроў мая так і так трудзіцца – ніяк не памрэць". А тая атвеціла. Гаворыць: "Дзетка, яна – бальшая грэшніца. Дак вот што здзелай..." Я ўжо пражыла 84 гады, я такога случая не чула. Ну, знаю, што дзелаюць: хамут, ну уздымаюць на столі... "Вазьмі, – гаворыць, – замочак і з ключком і замкні яго. Падкладзі ёй пад падушку, дзе яна ляжыць ужо. І ключок хай ляжыць. І тады памрэць яна сейчас." Ну, дачка мая ўзяла і здзелала так. Гаварыла: "Мама, яна сейчас успакоілась. Тады, я думаю, вазьму я гэты замочак, каб ніхто ні відзіў. Раз, – гаворыць, – падушку атвярнула: ляжыць замочак – дужка адкінута і ключык уторкнуты". Хто? Гэта ж чорт ужо атамкнуў!

*– Каб забраць яе?*

– Да!

*– А можа пакойнікавай рукой вадзілі па больках па якіх?*

– Гэта я чула, што, калі які там знак (пляма на скуры), то вадзілі там пальцам. Я чула ад старой бабкі раньшэ, што есьлі рабёнак раждаецца і, есьлі ў яго якое пятно там, бываюць жа красныя пятна, гаворуць, нада тады *местам* (плацэнтай) гэтым, што места рабёнка, нада памазаць – і сойдзець.

**Засцярогі цяжарнай**

*– А што ня можна рабіць цяжарнай, каб дзіцёнак калецтваў ня меў?*

– Я чула ад старых людзей. Есьлі ідзець дож і бярэменная жэньшчына – нікагда пад крышай не нада стаяць і мачыцца. То будзе рабёнак сцацца. Лучшэ на дож выходзі. Цяпер яшчэ. Гаворацъ, як купаеш рабёнка ці ўжо носіш рабёнка, тады, каб не аставалася ў вёдрах вада. Нада, каб былі ўжо пустыя вёдры. Старушка мне гаварыла, што адна пабегла і вады зачарпнула, а ў вядры трошку вада была. І радзіўся мальчык – была машоначка ў яго, як вадой наліта. Тады стала спрашываць у старых: "Што такое? Пачаму гэта так?" А яны сказалі: "Купай яго ў начоўках, і тады паміж ножак ягоных вазьмі ў вядро зьлі вадзічкі, што купалі, тры разы па тры разы. Вазьмі ў вядро і бяжы – ні з кім не гавары – на азяро і вылі. Ці каля калодзежа вылі. І тады зачэрпні вады." І прайшло. Цяпер, старыя гаворацъ, есьлі луна сьвеціць і бярэменная – Божа збаў! Нада, каб вакно было запята, каб луна не сьвяціла. Есьлі вакно будзе незапята – будзе хадзіць па начам абы куды рабёнак.

**Прыпадак, крактуны, вогнік**

*– А як прыпадак?*

– Бываець із роду, бываець з упуду. З роду – ён будзе усё ўрэмя, а з пуду – тожа цяжало вылячыць. Эта сільна цяжало. Ну, загаварвалі, ваду давалі. Ці там была помач, не знаю, але гэта дужа цяжола вылячаць.

*– А як дзіцёнак ня спіць, крычыць ноччу?*

– Гэта ў яго называецца крактуны. Гэта можна паглядзець на плечыках ці ёсьць валосікі ў яго. Гэта, гавораць, сабаку ці ката нельзя нагамі падкідваць, як бярэменная ходзіш. Ён будзе часацца, ён будзе крычаць. Тады, як грубачка топіцца, каб цёпла было, і тады ўзяць ці марлечкай пацерці яго, каб валосікі... Ілі *хлеба*, такога сьвежага, камочак узяць, а тады павадзіць, павадзіць. Яны тады ў хлеб – гэты валосікі. А тады гэты хлеб – вон ці сабаку.

*– А калі вогнік?*

– Вы знаеце, урачы вогнік не вылячаюць. Бальшынство вогнік вылячаюць *макам*. Ён усякі, вогнік: агнявы і вадзяны, і земляны, і камяны... Тады толькі гэтым макам – эта очэнь харашо. Пажваў, пажваў, а тады кашыцай палажыў.

*– А ці лечаць ўрачы упуд?*

– Упуд? Не-а. Упуд ўрачы не вылячаюць.

**Валасень**

*– А валасень ці дохтар лечыць?*

– Не знаю, ці вылячыць.

*– З чаго ён бывае?*

– Ці ўкалоць, ці што такое. З гэтага ён прыкідваецца, валасень. І я помню, што ўкалола я палец бальшы, і тады быў лапічак жоўценькі, а я ўзяла і пракалола, выціснула. І, наверна, папала туды гразь. Мамачкі! Крычала ратунку. А пакупаць нада дзіця, а неяк. І саседка адна гаворыць: "Надзя, схадзі у Зарэчча, там неяк валасень вылячаюць". Ну, ўзяла я грошы і пайшла. Прыхажу. Яна, нейкія *каласкі* там у яе ад жыта... Тыя каласкі – к пальцу і прыгаварывала, і тады ўзяла мне пумазала. Можа якім салам несалёным? Ад сірэні адарвала лісточкі і завязала мне палец. Іду па дарозе – валюся, спаць хачу. Цьфу, цьфу! І ўсё! І толькі яна мне спасла, тая бабка.

*– А ці плацілі?*

– Плаціла. Але яна не гаворыць – сам далжон даваць. Толькі яна і спасла. А цяпер ўрачы могуць і палец адрэзаць.

**Каўтун**

*– Пра каўтун вы не чулі?*

– Каўтун быў у нашай дзярэўні у адной. Як згарэла хата, а яна як ўзяла ў галаву. Так, мамачка мая! Людцы мае мілыя! Не дай Бог! На галаве ў яе, на макушке такая высокая была зьвіўшыся... Так яна аб'язжала многа людзей. Там нада знаць. Ён (каўтун), гавораць нейкі і "яна", і "ён". І нада знаць, калі атразаць.

*– Каўтун і каўтуніца?*

– Да, да! Вот яна многа гадоў езьдзіла. І за Мінск...

*– Так каўтун пачаўся, як яна "узяла ў галаву"– на нервах?*

– Да, да. Ну і вот яна па нейкую ужо там... Срок дажа нейкі ёсьць. Абы як, каб зрэзаў сам, так неізвесна што і будзець. Можа скруціць усю. Але такі сьнялі. Цяпер нармальна. Так вот, каўтун гэты – тожа знахары нада. Урачы, па-мойму, каўтун ня лечаць.

**Зап. Т. Валодзіна, У. Лобач у 2006 г. ад Чумаковай Надзеі Нікіцічны, 1922 г.н. у в. Пола Дубраўскага с/с.**

## 18
## Знахарства

– *Ад каго вы наўчыліся загаварваць?*

– Мужыкова бабка была. Вот яна мяне і наўчыла, як я выйшла замуж за яго.

– *А чаму вам, а не дзецям?*

– Дык яна і дзецям. Як я была ў палажэньні первым сваім мальчыкам... Ну вот паехалі мы з мужыком к ім на госьці, а яна мне і кажа: "Дзетка, я цябе наўчу і тое, і тое, і тое загаварваць. Будуць у цябе дзеткі, каб не хварэлі яны, – будзеш умець і тое, і тое рабіць". Яна мне дзіктавала, а я запісвала. Прыходзяць да мяне людзі – кажуць памагае (ад яе замоваў*).

### Пра хваробы

– *А рожа, што гэта такое?*

– Гэта робіцца такая гарачая, баліць, пячэць нага ці ліцо, ці іншае што.

– *А такая хвароба як валасень?*

– А гэта я ня ўмею. Гэта нада выліваць на жыта, на *каласкі*. Такая боль! Камок валасоў – у мяне ў пяце было. Дык хадзілі ў Бычкі (родная вёска Васіля Быкава). Дык я не помню ці ён (знахар) шаптаў ці не шаптаў, но выліваў вадой. Можна праз тры, можна праз пяць каласоў. І тыя валасы выхадзілі на каласы. І назаўтра мне прарвала гэта.

– *Адкуль яно бярэцца?*

– Гэта суроцы. Ну, хто-небудзь падзівіцца.

– *А як даведацца?*

– А гэта я не ведаю. Трэба да чараўніка ці знахара ісьці.

– *Навучыцца ці кожны можа?*

– Навучыцца можна, але, кажуць, памагае толькі ад первага (дзіцёнка) і ад пасьледняга.

– *А ці памагае замова яўрэям?*

– Не, а калі ім і памагае, тады гэтаму чалавеку (які замаўляе) горш будзе.

**Зап. студ. ПДУ А. Халадкова ў 2002 ад Куксёнак Евы Іллінічны, 1937 г.н., у в. Белюкоўшчына Кубліцкага с/с.**

## 19
## Чараўнік Рыбачка

– *А ёсць жа такія – чараўнікі?*

– Ой, ёсьць і чараўнікі! Што яны падчаруюць... У нас Рыбачка такі быў. Дык ён во што зьдзелаў. Звалі яго Якута, а Рыбачка – гэта атроддзе іх Рыбачкаў. Дык ён што зрабіў: з нявесткай паругаўся, дык зрабіў, што яна пад стол залезла ды брахала як сабака. Тады сталі (сваякі) на яго ругацца – тады адробіў.

– *Моцны чараўнік: ён жа зробіць і адробіць?*

– Да, ён і зробіць і адробіць.

---

* Тэксты замоваў гл. у раздзеле "Замовы".

**Адсушка і прысушка**

*– А вось што зрабіць, каб дзеўка ці малец, што ўлюбіліся ў цябе сільна, ад цябе адчапіліся?*

– Нада закіпяціць малака на ўсход сонца, патом туды ўбіць яйцо і замяшаць. І даць яму з'есьці, калі сонца будзе захадзіць.

*– Можа ў што-небудзь падмяшаць?*

– Да, можна. Толькі каб ня знаў.

*– І тады адстане?*

– Ну, кажуць так. У нас некалі Кузьміха і малола, назад адкручывала жорна. Тады давала (з ежай). Толькі нада які ягоны прадмет. Пугавічка там ці што. Змалоць тады.

*– А прысушыць як?*

– А прысушыць – тое самае, толькі наабарот (круціць жорны). І тады гэтае зьмеленае даць выпіць

**Пакаранне за працу ў свята**

*– Ці можа чулі вы такія гісторыі, што чалавек, прымерна, на Іллю пайшоў робіць, а яго Бог пакараў?*

– І было і гэтак. У нас так на Пятра было. Жонка бярэменная была у Самоўцы, у нас тут, і, ведаю, яго Іванам звалі. І ручкі ў яго, прымерна, во гэткія, кароценькія (разводзіць рукі на 30 – 35 см.). Ручкі та абыкнавенныя, але во дагэтуль (паказвае да лакця).

*– Гэта за тое, што яна на Пятра рабіла?*

– Не яна, а бацька. Што ён там робіў? Нешта сёк. Ну, і ідзець сасед і гаворыць: "Што ты сягоньня робіш? Пятра!" А ён і гаворыць: "А я во рукі адсякаю". Радзіўся гэты малец, а ручкі, як адсечаныя. Былі і пальчыкі і ладонкі, але во дагэтуль.

**Пакаранне за разбурэнне капліцы**

– Пасьля Ільлі – сьвята Марыя Магдалена – гэта на трэці дзень. І тады з бору ідуць з іконкай, ідуць сюды – тут каплічка стаяла. Усе ідуць. Тут многа сабіралася людзей. А гэты Пракоп тую каплічку разрыў, што толькі не зрабіў... І сколькі пасьля таго прайшло. І тут граза. Ды і граза не вельмі дужая была. І як загагатала! Кажуць: "Ай, гарыць! Хто ў Багданаве гарыць?" – "Ай, Пракоп той." – "Ай, каб сам толькі згарэў!" Но вынесьці – яны мала што вынесьлі. Дык уся хата згарэла.

**Зап. У. Лобач у 2002 г. ад Клопавай Ефрасінні Ягораўны, 1915 г.н. у в. Судзілавічы Кубліцкага с/с.**

**20**

**Чараўніца**

– У нашай дзярэўні, я помню бацька расказваў, асобенна ў Купальную ноч чаравалі. А раньшэ ж езьдзілі на начлег коней пасьціць, у начную, а днём ужо работалі. Ну, кажуць, утрам раненька баба па расе цягне цадзілку, цягне за сабой і гаворыць: "Псёх рабая, псёх бурая..." Называла гэтых кароў. Ну і тады ўжо ў гэ-

тых кароў ня станець малака, а ў яе ўжо будзець. А была тут жэньшчына, к ёй езьдзілі, яна многа знала чаго... Прывезьлі яе ўжо сюды, на дом, гэту жэньшчыну. А карова ў хляве ўжо ляжала... І тут паказалася жаба-рабуха. Ну і гаворыць тая жэньшчына: "Абязацельна нада загнаць кол у гэту жабу". Загналі кол у гэту жабу і малако зь яе пацякло. А той бабе (якая адбірала малако) плоха стала – павісла на плату, стагнала – гэтак ёй было плоха.Тады яна стала крычаць: "Ішчыце, дзе кол асінавы загнаны !" Каб той кол выдралі.

**Дзічы**

– Дзічы на руках у рабёнка калі ці што, трэба, калі пакойнік ляжыць на куце, трэба падысьці, узяць яго рукой і смахнуць тыя дзічы. Есьлі дзічэй многа, купі лентачку, і зьвяжы ў баньцік, і на крыжовай дароге кінь. І той, хто падберыць, таму і дзічы перайдуць.

**Зап. студ.ПДУ А. Халадкова у 2002 г. ад Андрэйчык Ганны Іванаўны, 1932 г.н. у в. Андрэйчыкі Кубліцкага с/с.**

**21**

**Перасцярогі цяжарнай**

– Цяжолага не нада падымаць нічаго, курэй нагамі не нада біць, а то, кажуць, у малога крактуны будуць. Гэта, калі малы будзе пацягвацца і крактаць. Дзе конь качаўся, на тым месцы бабе бярэменнай нельзя было ісьці, бо дзіця рабое народзіцца.

**Мёртвая вада**

*– А можа рабілі што з вадой, якой пакойніка мылі?*

– Кажуць, нада рукі мыць гэтай вадой. Ёсьць такія бабкі, што астаўляюць гэту ваду, і калі суставы баляць, націраюцца ёй, каб не балела. Помню баба расказывала, што дужа зубы у яе балелі і параілі ёй, калі дзе-небудзь рабёнак памрэ, узяць ягоны пальчык і пацерці зубы. І зубы больш не балелі.

**Зап. студ. ПДУ А. Халмоўскі у 2002 г. ад Вацьковіч Любоў Іванаўны, 1931 г.н. у в. Слабада Кубліцкага с/с.**

**22**

**Нічыпар Гардзіёнак – моцны чараўнік**

*– Дык ёсць жа людзі з благім вокам? Як іх называюць людзі?*

– Чараўнікі іх называюць. Па дзеравенскі гэта так.

*– А хто болей быў: мужыкі ці бабы?*

– А, і мужчыны, і бабы. Злосьць якая-та ў іх, злуюцца і вот табе падробяць. Могуць і скацінке (падрабіць), а тут, казалі, дзед быў, у яго язык выперла. З роту выехаў – так яму зрабіў. А тады, к яму пайшоў і ён сам і атробіў.

*– А хто гэта так падрабляў?*

– Га! Быў тут Нічыпар Гардзіёнак. Сільна знаў! Мне бацька расказваў. Ішоў, раньшэ ж быў у срэду базар у Кублічах, ішоў той Нічыпар і неяк перакрысьціў во гэту хату. А ў іх былі авечкі... І што ты думаеш, такое чуда! Бацька гаварыў: "Колькі жыў – ня відзеў". Стаіць тая авечка як нада быць: заднія ногі ўверх – як сьвечка – на пярэдніх ходзіць.

*– Гэта Нічыпар так зробіў?*

– Да. Ён во, як па дарозе ішоў, перакрысьціў, а бацька быў яшчэ малады і пайшоў сасед к бацьку: "Ці відзеў ты, Сьцёпка, чуда такое? Глядзі, як авечка ходзіць". Пайшлі к яму (Нічыпару), а той прыйшоў, тры разы ў храпу дзьмухнуў ёй і авечка стала хадзіць (нармальна). Тады, быў пацанёнак, а ў яго (Нічыпара) была дуліна і пацанёнак залез на гэтую дуліну. Ён падышоў і кажа: "Злезь". А той: "Адыдзі, дзед". "Ну, добра, – гаворыць, – болей ты на яе не палезеш". І ў яго з хрыбетнай касьці ў насу стаў шпік выхадзіць, у гэтага пацанёнка. Яшчэ было, што карова наша лягла. Бацька, а ён быў гарманіст, пайшоў за Нічыпарам. Гаворыць: "Дзядзечка, карова з ног звалілася". Пайшоў той, паглядзеў. І ў яго адно лячэньне было: дзьмухнуць тры разы ў ноздры. Ай, і гаворыць: "Ідзі ты, Сьцёпка, на танцы і іграй. Пака ты прыдзеш, карова будзе на нагах. "Прыхажу, – бацька гаворыць, – точна! Карова як карова".

А паміраў ён (Нічыпар) страшна. Пака не паднялі паталок, не мог асьвяжыцца.

*– Дык Нічыпар быў такі моцны, што мог зрабіць і адрабіць?*

– Ну, захоча ён табакі ці самагонкі выпіць і тады табе зробіць. Ты ж за ім прыйдзеш, табакі, гарэлкі дасі. Рубашкі яму давалі, палатно там...

*– А адкуль у яго сілы?*

– Ад прыроды – ён з маленства чараўнік.

*– Дык сіла такая ад Бога?*

– Ад Бога, ад Бога.

*– А як людзі да яго ставіліся: баяліся ці што?*

– Канешне баяліся! Ён табе як устроіць штуку, як вунь у Хведара – язык, як у сабакі выпер. (З размовы высветляецца, што Нічыпар быў прыблізна 1850-60-х гадоў нараджэння).

*– А ці даваў ён ваду?*

– Ён не даваў. Ён прыйдзець, дапусьцім у цябе якая гангрэна ці што, ё… яе маць, завялася. Ён табе вылячыць. Ні вада, нічога не нада. Ён пашэпчыць і ўсё.

*– А ні хто не чуў як ён шаптаў?*

– Што ты пачуеш?! Во ты вазьмі, цяпер ёсьць людзі, каторыя, як укусіць цябе зьмяя – табе скарэй нада ў бальніцу, уколамі таўкуць, а ён табе пашаптаў і ты засьнеш як сноп. Назаўтра прасьнешся – у цябе нікакой пухліны, нікакой болі.

**Знахар Сяргей Паршонак**

– А во, Паршонак Сяргей быў. У Масьцішчах. Яго жонка яшчэ жывець. Яна тожа ваду даець, Надзя гэтая. Ён самую харошую ваду даваў. Эта, знаеш, ад такой балезьні, када у малых дзяцей "дзецкая". Эта ўрачы ні х… ня вылячаць.

*– А што за "дзецкая"?*

– А вот дзецкая. Ляжыць жа рабёнак, як нада быць. А тады пабялеіць, як мёртвы – прыпадак такі. Во гэну ваду ён даваў. І ад падрыву даваў. Прама на полі возьмеш бутылку, прывязеш яму вады, а ён пашэпчыць. І вот ён перадаў, скарэй ўсяго, жонцы. Ён можа перадаць каму – старшаму рабёнку ілі младшаму, но не срэдняму.

*– А ці можа перадаваць сразу двум чалавекам?*

– Можыць. А ўдруг каторы із дзяцей упярод памрэць. У іх там так заведзяно. Большаму перадаў, а той – чуствуе, што памрэ, значыць меншаму должэн перадаць.

**Візіт да знахаркі**

– Я вот прымеціў такую вешч. Дапусьцім, карова там стала малака мала даваць. Значыць, хто-та спі...ў эта малако. Я ва Ушачы быў у аднэй. Яна памёрла ужо. Чорныя вочы, як цыганка якая. Первы раз прыехаў – ні бутылкі (для вады), ні солі, ні хлеба – нічога не ўзяў. "А чаго ты прыехаў?", – яна на мяне. Я гавару: "Вады. Дай мне вады". – "Я табе сягоньня вечарам дам. А солі прывёз?" – "Не." – "Хлеба?" – "Не." – Бутылкі?" – "Не." – "А, ё... тваю маць. Ну ладна, я табе ужо первы раз дам". Дала яна мне і гаворыць: "У гэтат вечар нікаму нічога не давай. Каму будзець трудна – той прыйдзець. Ён ілі будзець пазычаць, ілі што". Ну і добра. Ну і ка мне у той вечар, дзякуй Богу, ніхто не прыйшоў. І кароўка, дзякуй Богу (паправілася). Але ж прыйшоў ён! Знаю, хто прыйшоў, і што ўзяў са двара.

*– Сам узяў? Дык няможна ж*

– Можна, можна і украсьці ліш бы самаму лягчэй.

**Выяўленне і пакаранне чараўніцы**

– Тут саседка адна жыла... Ну і вечарам гоняць кароў с паствы, і ня мог (бацька) з усёй дзярэўняй карову загнаць – ляціць абы-куды. Ну, і бацьку пасаветывалі, што нада ехаць аж пад Полацк, блізкая дзярэўня ад Полацка. Прыязжае туды бацька на кані. Ён (знахар) гаворыць: "Ужо позна, куды ты паедзеш? Распрагай свайго каня. А цяпер хочаш увідзець, хто табе што зрабіў?" – "Хачу". – "Налівай у таз вады". Кідаець туды угля з печкі. Разьмешываіць і гаворыць: "Памяшай ту ваду, каб круцілася". Бацька памяшаў. А адтуль выплываець як фатаграфія саседкі, каторая ўсю гэту балезьнь зрабіла. Дзед той: "Можаш ёй глаз выпарацоь". А бацька: "Нада ей абое глаза выпараць, каб яна божага свету не бачыла. А дзед: "Не, досіць і аднаго, каб напалавіну. Вунь стаіць венік у вуглу, сучок атламі. У які глаз глаз порнеш і тада, як прыедзеш, у яе не будзе таго глаза". Точна! Назаўтра бацька прыязжае. Пака на двор каня распрагаць і яна ўжо бяжыць з глазам перавязаным: "Ай, Сьцёпачка, што ж ты мне зрабіў?!" А ён: "Вон, сучка, а ты мне што зрабіла?!" Яна, віш, магла зрабіць, а атрабіць ня ўмела. А той дзень яна жала ячмень і асьціна ў глаз папала і глаз – вон. Вот што-та тут ёсьць.

**Неспадзяваны праклён**

– Яно биваіць што паглядзіш, што падумаеш і можыць случыцца. Ішлі мы адзін раз утрох з Капылоўшчыны пяшком, ну два электрыкі і я. Ідзем. Абганяець нас ЗІЛ-130-ы с прыцэпам. А ён завёз корм у Капылоўшчыну і ехаў на Кублічы. І адзін малец гаворыць: "Давай мы астановім яго – падвязець. Нашто нам пяшком ісьці?" Той, як пёр на ЗІЛу, так і не астанавіўся. А той малец і кажыць: "Каб ты, Бог даў, абярнуўся!" І што. Як к Уклейну спускаешся з гары, сюды пад Клябцы, з гары. І вот, ён нас навярху не ўзяў... Падходзім сюды к рэчцы – ляжыць уверх тармашкамі.

*– Дык гэты малец – чараўнік?*

– Проста прагаварыў яго. У такую мінуту сказаў.

**Вяснушкі**

– *Гавораць, як хаваюць чалавека, можна неяк чараваць на мёртвым*

– Правільна, на мёртвым. Калі хаваюць, у каго вяснушкі на ліцэ, прыхадзі, бяры ягоную руку і абцяры сваё ліцо, і будзіць чыстае ліцо.

**"Легартычны сон"**

– Раскажу я табе чуда, якое расказаў мне бацька. Ты хочыш – павер, хочыш – не. Зажытачны мужык жыў. Сын у яго на гармоніку іграў, дзяўчына была ў дзярэўні другой. І што ты думаеш. Ён засыпаіць гэтым сном легартычным, засыпае на трое сутак. Адзін у бацькоў. Слухай, і што ты думаеш, хароніць гэты зажытачны бацька сына. Багата адзелі, усяго там паклалі. Пахаранілі. А раньшэ тожэ эці жулікі былі. Прышлі ноччы адкапываць яго. Адкапалі, аднялі гроб, а ён і паднімаецца ў гэта ўрэмя. Іх пуляй з тэй ямы вынесла. А ён глядзіць, што чыста адзеты, думаець: "Чуда! Чаго мяне ў гроб палажылі?" І што ты думаеш. Прыходзіць дамоў, стукаіць ноччы бацьку: "Адчыні, бацька, гэта я прыйшоў". А той гаворыць: "Ты што дурны, б...? Я цябе днём пахаваў, а ты ноччы прыходзіш". "Раз так, – кажыць малец, – выкінь мне мой гармонік". Той адкрываіць акно і ў палісаднік гэты гармонік (кідае). Ён заіграў і пайшоў к дзеўцы. А дзеўка пусьціла, панімаеш. І што ты думаеш, ён аб'яўленьні пісаў па ўсіх валасьцях, не обласьці былі, а воласьці, хто яго адкапаў – на ўсю жызьнь дам (грошай). І ніхто не прызнаўся, панімаеш. А гэта быў случай.

**Зап. У. Лобач у 2002 г. ад Шахноўскага Мікалая Сцяпанавіча, 1948 г.н. у в. Пруды Кубліцкага с/с.**

**23**

**Упуд**

– *Як лячылі ад упуду калі спужаецца дзіцёнак?*

– Лячылі ж. Бабкі загаварвалі. І курылі сабакам, *поўсьць* выдзіралі і тады курылі. Во як. Ну, сабаку таго возьмут, што спалохаў і выстрагнуць, і курылі.

– *А, што з упуду можыт быць еслі не лячыць?*

– Усяк можыт быць. Хто яго знаіць? Усяго можыт быць.

– *А вот як дзіцёнак не спіць ноч, крычыць, няма рады?*

– Ай, даўней былі, кажуць, і начніцы. У мяне была первая дзяўчына, ды не спала.У чатыры вяроўкі да года калыхала. Ну во калыска на чатыры вяроўкі. Возьмі ж вяроўкі і вось гэтак... Даўней жа гэтых не было, люлік ніякіх не рабілі. Хто дзе зробіць, а хто так калышыць. Начніцы кажуць. А вот тут была бабка. Памерла. Я насіла яе к ней. На захад сонца яна што-та шыптала. Памагла. Не стала дзяўчына. Стала дзяўчына спаці, так жы не спала. Дзень будзець спаць без прасыпа, а ноч тады, я табе кажу, у чатыры вяроўкі.

– *Ну, вот вы хядзілі, трэба даваць было нешта?*

– Нічога не даюць такому чалавеку. Яна ад Бога.

– *А вот гавораць есць такія чараўнікі, што...*

– А чараўнікі чаруюць і тады бяруць узяткі. А хто ад чыстага сэрца робіць, той узятак не бярэць.

*– А ну вот былі такія?*

– Вот у мяне быў малец, цяпер яго няма. Так быў спужаўся, што Бог ведаець, неяк было. Бяжыць, ужо ў чацверты клас хадзіў, схвоціць кніжкі, бягом бяжыць. Дзе засьнець. Пасьціў авец, заснуў, а мы кароў пасьцілі са сваім. А ён прыбег аж туды за ферму: "Мама, я не знаю дзе авечкі дзеліся!" А сам калоціцца, увесь белы, як ліпіна. Заснуў, а авечкі пайшлі, а сам не знаіць: што, куды? І вот гэтак было. І тады я тожа. У Угрынках была баба такая, яна мерыла. Усе суставы памерыла ад рук, да ног – усе мерыіць. Усе змерыла. І па сягодняшні дзень, яму ўжо 31 год, і нічога, усе нармальна стала. А чаго спужаўся? Купалка была вот тут, а ён яшчэ чатыры гады было яму, а гэта... Пяць гадоў! Я на ферме, ну на ферме кароў даіла з большай дзеўчынай. А як ён туды забрыў, на тую Купалку, яшчэ малы. Тады прыйшла, а мальца нет, а дзе ж ён? А Божачкі! Тая пабегла на Купалку, што памагала даіць, а я тут гэтага мальца ішчу, ішчу... А, чую закрычаў, а чую па голасу, што гэта мой. А я ж тады сюды. А ён ужо да бані дабег, баня туды дальша стаяла. Як бег, як даўся ў мяне яшчэ хужэ закрычаў. І бег ён, ужо не ведаў куды бег, і, што яшчэ хужа закрычаў. І вот яго я стала. І яшчэ мы пашлі. Ён не за што не спаў без мяне, барані Бог. Як толькі я сплю, тады і ён сьпіць, як я ўстану – тады ўсе. Тады пайшлі мы з ім улетку ў ягады, туды ў кусты. А тамака зьбіралі маліны, а там свіньня парасіцца легла, ці што? А яна як хмалінула з гэтага мазжавельніку.

*– Дзікая?*

– Ага, а ён як спужаўся. Збялеў увесь. Ну і вот гэтак. Ну тады нахадзіла раду.

*– А вот як ён спужаўся, ён не спаў?*

– Спаў. Ен толькі спаў як толькі з кім. А сам як засьнець, ён ускаківаў – і бяжыць.

*– А як яшчэ праяўлялася?*

– Праяўлялася, я ж кажу, як засьніць адзін. Цілівізар гэтыя дзіўчаты уключат – ён сьпіць. А тады як ускочыт, як пачуіць. Тады бяжыць "Мамачка, пайдзем, мамачка пайдзём." Вот гэтак ён крычаў. А тады я звадзіла. А яна вымірала *ніткай*. Ад бальшога пальца (рукі), аж да бальшога пальца нагі. Цераз усё.

*– А тую нітку куды?*

– Тады яе нада было, яна мне сказала, каля сярадзіны абвязала, і вот: "Прыйдзіш дамоў. Занясі к асіне, прывяжы і ідзі дамоў, ні з кім не разгаварывай, і болей на тую асіну ніколі не глядзі". Ну, я гэта зробіла. Вот і табе і разультат. У рове там была асіна, я дажа забылася дзе яна была.

*– А нада было зрабіць у той жа дзень, у які яна перамерыла?*

– Ну як прыехала дамоў, я ж была ў Угрынках. Прыехала дамоў і панесла сразу жа, з Угрынак як прыехала.

*– Як хутка памагло? Адразу памагло?*

– Ну, скора! Не стаў ўжо бегаць, не стаў. Нічога. І дажа вот саседка ж раз... Бяжыць з кніжкамі к ней белы, як ліпіна, ужо ў чацьверты клас хадзіў. А яна стала угаварваць, а ён кніжкі схапіў, як быў у школу і бег к саседцы, а цяпер 32 год.

## Прыпадак, валасень

*– А такая страшная, гаворацць, падучая ці прыпадак, называюць яшчэ?*

– Ну, гэты хто яго... Ну, прыпадак быватць ўраждзенны. І ад упуду прыпадак бываець.

*– А які страшнейшы?*

– Хто яго знаіць. Як у мяне не было гэтага, не знаю.

*– А вот такая хвароба, як валасень ці валаснік?*

– Ну, валасень, дык тожа ж баліць палец, распрэць. У мяне быў валасень, вылівала бабка тожа на каласы, на *жытнія каласы*. Поўныя каласкі. Гэтыя атарвець і тады льець на палец гэтую ваду. Льець і гаворыць, льець і гаворыць.

*– А каласы куды клалі?*

– Ну, каласы ў ваду, і палец у ваду, а палец наверх на каласы гэтыя і загаварывала. І есць гэтыя валаскі белыя. Дажа відаць. Абаўюць каласкі гэтыя.

## Рожа

*– А рожа, што гэта?*

– Рожа тожа ў мяне была. Была рожа. Во ў мяне рожа, што рана стала. Кароў даіла, а тады ж бідоны мыла у цёплай вадзе, тады насіла ва двор. І так стала рваць, а я кароў... Каровам зрабілі рамонт у хлеве, а каровы ляжаць высока, дужа дрэнна. Я ўзяла гэтыт лом і давай узламаваць, што яны зробілі. І лепей. І тады... І тут палку палажыла ад гэтай, як размахнулася во гэтым пальцам ва ў гэту палку, дзе дажа ранка ёсьць. І усё. После і мыла, і хадзіла, і нічога, і нічога. А тады як стаў ён мне балець, ну вот памыла бідоны, як зробілася, як разнесла!

*– А яна якога цвету?*

– Во так во рукі, пальцы мае во гэтак, і да гэтуль была сіняя, да лакця. Ну і што? Тады тут баба, бабкі загаварвалі. Яны загаварваюць, а мне так пячэць, так баліць!

*– Прыгаварыла?*

– Ага, прыгаварыла. Не ад каждага памагаіць. Тут было дзьве бабкі такіх. Ну, што ж паеду тады ўвечару. Рыбята кароў падаілі. Я сказала, каб замену далі. Паехала я тады ў Вушачу. Ну, гэта пашла к урачу. Урач сказаў, што гэта рожастае забалеваньне: "Нікуды не хадзіці". А нічога мне ня зробіў, нешта трошку памазаў там, а мая рука як была разьніўшай, так і засталася разніўшай. Ну, сказаў назаўтра прыйсьці ў кубавую гэту, гэта было ў нядзелю. Яшчэ старая бальніца была ў Вушачы. Ну, паехала я к маме. Мама ў Забораўне жыла, а там бабка была, загаварвала гэту рожу. Яна пабегла к этай бабцы, прывяла яе, загаварыла мне гэта бабка. За ноч, як мая рука была распершы, уся зробілася, зморшчылася ўся рука, уся пухліна спала. Значыць прыхажу ў кубавую "Толькі к бабкам не хадзіці, барані Бог, толькі к бабкам не хадзіці, мы ўсе лечым" – доктар мне гэтак сказаў. Ну, вот я прыйшла к нему. "У-у, как у вас скора ўжо зробілася". Ну, 20 дней я хадзіла на перавязку. Але ж я не сказала, што я к бабцы схадзіла, ды яна мне гэтак. А тое зусім сінія рука да лакця, і вось гэтак усе пальцы былі распершы, і гэты, туту і ранка есьць.

*– А вот даўней, ці ўлады такіх людзей не ганялі, што загаварвалі?*

– Ну, не ганяюць?! Цяпер тожа не ганяюць. Цяпер усё не так, як было. Ніхто дужа не ганяў. Хто там ганяць? Чаго іх ганяць, калі яны памагалі людзям. Не ганялі нікога. Ня помню, каб ганялі.

**Развіў рукі**

*– А што рабілі як рука разаўецца?*

– Тожа загаварвалі. Толькі загаварвалі. Разаўецца, яна загаворыць, навесь навяжыць вот так на руку і ўсе.

*– А з чаго?*

– Ну, *нітка* гэта, суравая завецца, палатняная. Палатнянай ніткай, ну і палепшыць, а нітку спаліш.

**Засцярогі цяжарнай**

*– Можа гаварылі даўней людзі чаго не можна цяжарнай жанчыне рабіць, каб дзіцёнак калецтва нейкае не атрымаў?*

– Нічога ня можна. Нічога нікому не даваць, калі хто будзець прыхадзіць. Некаторые ж прыйдуць, даўней так было, прыйдзець, а ей там нечага даць – не дась, а ён тады, гэтай ці возьмет дасьць тапаром па парозе, тады вусіна расьсечана бываець у рабёнка, як радзіцца. А так няма ў цябе нічога, нічога не робь, кінь яму хлеба ззаду і ўсе, хай лучша хлеб есьць.

*– А як гліну кінуць?*

– І гліну, тады гліну ядуць, як родзяцца. Ліжуць печ і ўсё. Бывала... Усяго бывала...

**Залатнік**

А залатнік, калі падымеш дужа. Залатнік нарушаў. Тожа бабкі загаварвалі даўней. Вот мой зяць цяпер. Гэтак жа, гэтак жа яму балела, гэтак жа хадзіў к урачам і ўсюду, гэтак яму жывот балеў. У лесе рабіў. Тады ў Матырыне, там далека за Ушачай, узналі, што бабка ёсьць. Тады з'езьдзіла дзяўчына, ўзяла вады, з ім дажэ з'ездзіла. Яна яго загаварыла, дала вады, і ўсё – залатніка таго не стала. І была тут у нас Яніна, яна ад залатніка загаварвала. Гавараць, яшчэ Шалыга загаварваіць. Ой, загаварваіць, і мне загаварвала руку. Але не каждаму дапамагаіць. Мне ад яе не дапамагло, рука і цяпер баліць.

**Сурочлівыя вочы**

*– А вот праўда, што ёсць людзі ў каторых вочы сурочлівыя?*

– Ёсьць. Вот я сёлета пагнала сваю карову на пасту. Ну, первый дзень. На другі дзень прыйшла мая карова дамоў – неяк падыйсьці, неяк падаіць. Ай, б'ецца, кідаецца. Рады нет. Галасіла, што я і біла яе, і што... А яна ладзіць, каб па вядру даць. Ну, што, к гэтай схадзіла. Ну, што? Ўсё роўна б'ецца мая карова. Тады аж там у Башоўцы ёсьць тая Ванда, я к той Вандзе схадзіла. Я первы раз, як яна цялілася хадзіла тожа. У мяне ж каровы не было, а тады мне дала ўнучка карову, цялушачку, слаўную такую цялушачку. Усе на полі: "У-у, на лета будзець карова дужа слаўная, дужа спрытная цялушачка" А гэта цялушачка як ацялілася неяк, неяк падысьці. Тады троху папорцілася. Тады пакуль к гэтай Вандзе, цялёнка яш-

чэ не падпускала, а тады стала цялёнка падпускаць, як цялёнак сасець, тады я яшчэ магу што-небудзь падаіць. А цялёначык малы, што ён – пассаў, адышоўся. Ну, тады я тожа езьдзіла к Вандзе.

**Пакаранне за працу ў свята**

*– А ці праўда, калі вялікія празнікі, святы ня можна рабіць? Можа, што будзець?*

– Канешне нельзя! Вот я табе скажу са мной было. Ацялілася мая карова. А-а-а цялушачка круціцца, круціцца! А Божачкі, што? А у неё галоўка набок. А вот, што я рабіла? Як? Ці на сьвяты, ці што?

*– А вот можа на Каляды, гаворáць, Святыя вечары?*

– Ну вот можыт на Вечары. Можыт на ферме робіла, што і зробіла. І вот так і была мая цялушачка, ня рэзалі. Дажа сфатаграфавана, у дзяўчыны, у Віцебску, недзе ёсьць. Красівенькая, але ўсё роўна галоўка трошкі набок была. А што было? Ай, ну што, гэтая цялушачка баўтает ножкамі, а галоўка скручана. Усяк бывает, і сам не знаеш калі, што зробіцца. А што я робіла?

**Ведзмы-малочніцы**

*– А вот можа гаварылі старыя людзі,што на Купалку ці на другі які празнік, малако адбіралі?*

– Гэтага не знаю. Мой бацька калісьці гаварыў. Там дзве бабы было ў нас у Забораўне. Дык ён кажыць, а ён каней глядзеў. Прыйшоў і кажыць (маму Доннай звалі): "Донна, каб ты знала! Дзьве старых, што яны? Чаго яны? Цягнулі кожу (гэта на Купалку, а ён коней глядзеў), цягнулі голыя, як маць радзіла. І цягнулі гэту кожу па расе, што гэта? Чаго яны гэтак? Ну, і што? Бацька нікому не казаў, і мама не казала. А што яны каму рабілі, гэта неізвесна! Цягнуць, гляджу-кожу. Цяляччу. Да, бальшую кожу, не цялячая, а кароўя. І гэта цягнулі яны па Купалку. Па расе ішлі і дажа голыя, у чым маць радзіла. А ён коней глядзеў і ўвідзіў.

**Зап. У. Лобач у 2006 г. ад Ніны Рыгораўны Тарасевіч, 1933 г.н. у в. Заазер’е Вялікадолецкага с/с.**

**24**

**Стайкаўская (Ільлінская) крыніца**

*– А на Ільлінскую крыніцу ці багата людзей збіраецца?*

– Ну во, калі у сераду я была (на Св. Іллю 02.08.) так многа было.

*– А ці праўда, што вадзічка там памагае?*

– Да, праўда, Сьвятая вада. Ад ўсяго памагае. Год дзержыцца. Вот яе паставіш гэту ваду, і яна будзіць стаяць, такая сьветленькая і нікакога ў яе нет запаху, нічога. Вот як так вада пастаіць, так такая тухлая стане. Дажэ во на Хрэшчэньне, вот бралі, бяруць ваду. Проста даже з калодзіся, і з кранаў бяруць. Кажуць, можна браць з 12 часоў і браць суткі. І Коля бый набраў вады гэтай, матцы занес бітончык і ў мяне. Я ўжо як і спаць лажуся ці раніцай пап’ю. Стаіць сьветленькая ваабшчэ.

*– А раніцай нашча?*

– Ну, і вечарам, вот як спаць лажышся, папіць яе. Ну, вада такая чысьценькая!

**Святы дуб**

*– А вы гаварылі ў Царкавішчы, што там за дуб быў?*

– Не ў Царкавішчы – во тут у лесе. Дуб гнілы быў, выгнаты і дупло далёкае, і капейкі там дажэ лежалі. Яго цяпер ужо няма. А там быў ручаёк гэты, і там кідалі капейкі. І баба такая ў нас у дзярэўне была Лапарчынская, казалі, ўзяла з гэтага дуба, што пасыпаліся капейкі, пабрала гэтыя капейкі – яна немая стала. Нельзя браць гэтыя капейкі.

*– А што яшчэ пра той дуб гаварылі? Сам дуб быў святы ці ручаек?*

– Ну, мусіць, дуб. "Сьвяты дуб" звалі.

**Упуд**

*– А вот дзіценак спужаецца чаго? Ад упуду?*

– Даюць ваду і курыць тады нада. *Дзяды* такія ёсьць. Нада ад ўпуду в ваду, дзед такі калючы-калючы ёсьць, закапяціць яго, працадзіць гэтую вадзічку і сразу будзе легчэ.

*– Піць ці змываць?*

– Піць! Ну, некалі... Во Верка шаптуха, што загаварваіць, як спужала, яшчэ малы быў, маленькі, ну небальшы, первы ў мяне быў. А тады пайшоў, у нас тады яблыкоў не было, а ў ніх яблыкі там, а ён пайшоў ападышаў гэтых сабраў, а яна як улегла за ім, а ён ляцеў к ней, (паказвае на суседку) к ней ва двор, у калідор хаваўся. "Што мой малец гэты малы, – я ей кажу, – нешта абрабляцца стаў ноччу, з упуду". Ну, я ж не знала, што ён спужаўся, а яна мне кажыць: “Робь ты свайму Колю што-небудзь, яго ж Вера спужала! Ён ляцеў, ратунку крычаў у калідоры, на ганак к ней. Яна біла яго, ляцела за тый яблык.” Напаіла я гэтым “*дзедам*”, ен і паправіўся.

*– А крэктуны, што гэта такое?*

– Ну, тожа ня сьпіць. Сьпіць і крэкчыць. Крэкчыць, і плакаць не плачыць, а крэкчыць. У майго Мішы былі крэктуны, і я выганяла макам. І мукі пасыпала. Аржаной мукой нада. І тады крэкчыць, крэкчыць, і такія валаскі ад туда з цела выходзяць! І тады яны коляцца яму, наверна. А тады працэдзіж... А тады працэдзіж гэтую вадзічку, што купала. І тады бярэш, і гэтыя валаскі...

**Засцярогі цяжарнай**

*– А вот, што ня можна цяжарнай жанчыне рабіць, каб дзіценку блага не было?*

– Не нада ў пазыкі хадзіць. Ну, адалжаць не нада хадзіць. Могут зробіць так, што і калекай будзець хадзіць. Ну ёсьць такія людзі врэдныя, што табе чымнібудзь па парозе стукнуць і ўсё – будзе калекай рабенак, на губе можыць быць. Во, як гэтая Аленіна дзяўчына, ножка стала, як качырга завернута. Хадзіла ножка. Як качырга завернута.

*– А хто так зрабіў?*

– Гэта людзі гэткія...

*– А, што яшчэ не можна?*

– Некалі я хадзілі к Хведарасі сюды, во саседка здесь была, я к ней хадзіла, што ў мяне не было мыла. Я была тоже бярэменная. Я пайшла к ней: “Баба,

дай мне мыла кусочак.” А яна стала і во так во ўзяла пяску, ў руку, жменьку і стаіць. А я та знала, што яна можыць, што-небудзь. Гэтым пяском сыпні на мяне: тады мой рабенак пясок будзе есьці, вугальле кідаюць... А я стала – ну думаю, бляха, перастою я баба цябе, не пайду. Віжу, што яна ўзяла ў жменьку. Доўга стаяла, і баба гэты пясок высыпала і дамоў пайшла. Хацела пяском мне ззаду сыпнуць. Не дала мне гэты мыла, не дала. І тады пясок рабёнак есьць. Добра калі хлебам кінуць, ну і добра б было, але ж не – людзі врэдныя!

**"Дзецкая"**

*– А ці чулі такая хвароба падучая ці прыпадак?*

– "Дзецкая", такая хвароба. Ёсьць з упуду, а ёсьць прыродная.

*– А які страшнейшы?*

– Во, навернае, як прырода... урадзімае як. Ну, еслі маці бярэменная спугаецца, і тады ён ва ўтробе ўжо забалеў. У мяне жэ быў мальчык радзіўся, паследні у мяне раждаўся – памёр ён у чатыры месяца. У нас у дзярэўні загарэлася была хата тут, а я пайшла к возеру, пайшла і з рабенкам, дзяўчына ў мяне была. І пайшла я з гэтай дзяўчынай к возеру. Ну, палашчу, палашчу. Тут прыехаў чалавек, бярэць гэту ваду на машыне, пажарная прыйшла. А я кажу: “Дзядзька, а чаго ты прыйшоў? Дзе, што гарыць?” – “Во, у дзярэўне ужо хата згарэла, а ты ня відзіш!” А як спужалася, дзяўчыну сваю на рукі і бягом дамоў. Як прабегла, а ў мяне ж рабенак, я ж яшчэ бярэменная была! Як спужалася з гэтым рабёнкам, і ўсе – радзіўся ў мяне такі слабенькі, худзенькі, сразу тады... Чатыры месяца ў мяне пабыў, і стала ў няго "дзецкая". Дзе мы ня езьдзілі, дзе не хадзілі, загаварвалі. Сказалі мне, што ён памрэць. І памёр, чатыры месяца было і памёр.

*– А вот, пра такую хваробу не гаварылі як калдун ці калтун?*

– Ну, гэта на галаве. Было ў Савел’ічывай. І цяпер ходзіць з ней. Валасы так гэты скруціць, галава баліць, ломіць рукі, галаву і ўсе гэта. А цяпер я не знаю, ёсьць ён у неё ці няма.

**Наход, кругі, вогнік**

*– А вось наход, што за такое?*

– Гэта такімі кругамі цела краснымі дзелаецца, усыпка такая. Во ідзеш, конь ці сабака пакачаецца, чэраз гэта месца пераходзюць, тады вот гэтак можыць быць. Жанчына як… Ну, на парозе не нада стаяць, дзе людзі ходзяць!

*– Кругі і наход не адно і тожа?*

– Вот як пройдзеш, вот як конь пакачаецца і пройдзеш па гэтым – тады круг.

*– А як выводзілі?*

– Ну, мы не ўмеем ужэ. Мама мая даўней выводзіла, умела. Рабёначка хто прывядзе, яна неяк возьме на захад сонца, на сьцяне гэтай сучок такі, яна тады на сучок гэны паплюець, паплюець і мязінцам пальцам нешта паводзіць, паводзіць і шэпчыць нешта ж яна. Пашэпчыць і тады неяк не станіць. Многа каму, і дажэ внукам сваім рабіла.

*– А ў майго Мішы тожа наход нейкі быў. А-а-а, лічака яго прама карыной злілася. Ну, а бабка Станіха тожа загаварвала. Ну, вот нада, узяла яна кружку вады і тады к шчытку, накідала туды *вугальку*.

– Гэта ж вогнік! Не, гэта вогнік. Круг нада тры раза: вечарам нада, на заход сонца на сучку, а ўтрам на ўсход, і вот так тры раза мама пагаворыць.

*– А што гэты за вогнік, вы недарасказалі?*

*– Прама ліцо такое карыное, краснае-краснае было і вот гэтак ён дзерся, вот так ручкамі пазьдзіраў усё да краві.

*– Ад агню гэтак?*

– Ад агню, каля агню сядзеў. Ды як стане гэты вогнік, абязацельна не нада каля агню сядзець.

*– Ну, тады гэта бабка Станіха вады ўзяла, *вугалькоў* накідала, тады гэтым вугальком во гэтак... і нешта шэпчыць. Ушла гэта баба, і мы пайшлі, а ен пайшоў к грубцы вымазаўся ўвесь, як гэты вугалек. Сам сабе загаварваў вугальком гэтым.

*– А начніцы?*

*– Я ж умела загаварваць... *"Зара зарніца, мой кавалер – твая дзявіцца, будзем жаніцца..."* Во нешта такое. Як маладыя былі – помнілі.

– А бабуля Хацінская пылала. У пыланачкі такія, начовачкі, паложыць рабёнка, як начніцы. Хадзілі мы, я тожа насіла сваіх рабят к ней. Ня сьпіць і ўсе, тады панясу, яна паложыць не ў начоўкі, а ў прыпол. Паложыць, а тады пылаець, гэта самае, майго ў прыпол'е і прыгаварваіць нешта. Ну, я ж не знала, што яна гаварыла. Вот тады не станут начніцы гэты. Раза тры к ней занесеш.

*– А вот жыта жалі сярпамі, а як рука разаўецца, што рабілі?*

– Навесь давалі нейкую. І можна ад веніка гэты, адвязаць зьвязачку гэтую і вакрук рукі павязаць.

**Сурокі**

*– А ад уроцы што можыць быць чалавеку, як сурочаць?*

*– Хоць, што! Ламата, цемпература, усе баліць, усе ломіць, крэкчыць.

– Я бала сурочылася, як дзяўчуком была небыльшая. У лесе робіла, а там былі салдаты. А я з мамай хадзіла ажна ў брод. Я была дзяўчонак такі, а яны кажуць: “Ай, мамаша, какая ваша дочка семпатычная.” Прыйшла дамоў, каб не сталі робіць парадка гэнага, баба спала. Прыйшла – гарэла вагнем! Мама прыйшла, кажыць:“Уміраіць мая Женька зусім, памрэць, мусіць.” Такая тэмпіратура – я ўжо чуць жывая з лесу прыйшла. Як сталі меня ад уроца рабіць, так я і адышла.

*– Як Вы здагадаліся, што гэта ад уроцы ?*

*– Такая мінута, такі глаз плахі.

*– І сваяк можыць? І матка?*

*– Хоць хто! Такая мінута.

– Во, я вам скажу! На Вяліканьне, Коля, сын мой. Трэці дзень Вяліканьне было і кажу на яго, можа нада было ў агародзе лешкі тут гэтыя ўскапаць, а можа сягодня ня роб – заўтра... І яму ў спіну як кольнула, і качаўся цераз плот, думала не ўцягну ў хату. Заваліўся цераз парог, анальгіну дала і ўколы давала. І давай яго ад уроцы, мне сказалі, сьціраць яго трусамі. Узяля сваі *трусы* здзела і давай церці, церці, ўсяго абцерла. І толькі стала яму легчы, і цемпература, і ўсе. *Чым радзіла, тым і адхадзіла*. Праўда! І стала яму легчы, і той самы і сурочыў, той самы і шаптун, што шэпчыць. Ішоў па вуліцы ён... Яна ў вас запісана сама... шаптун'я Вера, яна як глянула на яго і ўсё – ён сразу зваліўся.

*– Знахар і чараўнік адно і тое ж?*

– Каторый чалавек умее загаварваць, той умее чараваць – гэта абязацельна.

*– Адкуль такая сіла?*

*– Дар такі нейкі

*– А гэта добрая сіла ці не? Якую шкоду могуць зрабіць?*

*– Могут сурочыць, і скаціна ёсьць, што скаціна можыць і здохнуць.

*– Старыя людзі ці гаварылі, даўней як жыта сваі яшчэ былі палосы, што заломы ў жыце робілі, ці на Купалку малако цягнулі?*

– Ну, на Купалку могуць робіць, тожа ёсьць людзі такія.

*– А, што робілі каб не хадзілі?*

– Нада каля хлева на Купалку абкладаць крапівай-жыгучкай. На парог палажу у дома, ля хлева палажыць, на вакенца, дзе-што палажыць. Не ідуць чараўнікі ў хату цераз крапіву гэтую жыгучыю.

**Візіт да Знахара**

– Езьдзілі са сваім хазяінам, яшчэ жывы быў, з Мішкай аж пад Мінск, гэтыя Няплешчаніцы нейкія вот. Там такі дзед быў старэнькі, старэнькі дзед быў такі.

*– Берацей? Не, гэта Берацей пад Глыбокім (блытае назву вёскі Верацеі, дзе жыў Далман, з асабовым імём).

*– Берацень, дзе Даўман?*

*– Ага, дзе Даўман.

– Старычок быў такі, прыехалі да яго на матацыклі, гэта далека езьдзілі. Матацыкал быў маленькі ў нас – "Масквіч". Ну і паехалі...

*– А што за бяда ў вас здарылася?*

– Я сама хварэла дужа, у мяне ногі балелі, ну ваабшчэ я балела зусім. І мне сказаў той дзед, што ў вас есць чэраз вуліцу саседка і яна вам усё врэмя врадзіць. Ён мне вады даў: "І прыездіце вы дамоў, барані Бог, нічога не пазычайце." Вот у мяне целіцца карова, яна абязацельна прыйдзіць у пазыкі, вот дай мне вядра ці тое. У мяне акацілася авечка – яна прыйшла: "У цябе авечка акацілася?" – "Акацілася, бляець у хлеве." – "Аднаго?" Кажу, што аднаго. А яна акаціла двое. Як сказала аднаго, авечка другога не прыняла – б'ець яго па заду. А было, зусім была карова з ног звалілася, ацялілася – з ног звалілася. Пакуль мы за Вушачу ня з'езьдзілі... Туды к жанчыне, яна мне вады дала, я дамоў прывязла, і ўсе – мая карова... Кажыць: "Дзетка, карова твая падыміцца." А то, мусіць, ляжала месяц, мы яе ўжо вяроўкамі падымалі. Робяць людзі.

*– Ну, тожа такая слабасьць была. Балела, балела і балела ўсе врэмічка і цяпер здароўя няма, а то балела, балела. І такая слабасць, вот, кажыцца, лягу ў пасьцель каб яшчэ глыбей бы легла. Спаць хочацца, такая ўсталасць, жызьнь безінцерэсная нейкая робіцца і ўсе. Ну, вот даў ён вады мне, і сказаў мне тожэ: "Вот у вас врэдныя людзі ёсьць, врэдныя людзі. Не адалжайце ў празьнікі якія, старайцеся нічога не адалжыць нікому." Ну, тады сказаў у другі раз прыехаць. Прыехала я дамоў, так мне прама, не стала я ўжо спаць, з абеда спаць хачу і ўсе ломіць мне, крышыць. Неяк лепей мне, лепей... Гэта ж дома – дзеці малыя, усё – дужа

нявыберышся, каб гэта паехаў. Ну, як лепей, дык і лепей, ну, я і не паехала. А тада абратна мне плоха, плоха і ўсе. Тады Валодзя мой езьдзіў тожа за Віцебск ці пад Мінск. Дзед гэты даваў тожэ ваду. Я ляжала ў бальніцы, ну саўсім прама гэта... Ну, а сьвякроў даіла карову маю на полі. Падоіць і маю, ну мая многа малака давала і яеная. Ну, нясу, гаворыць, мне цяжка, у двух руках. І той: “Давай, Кацярына паможым. Давай, Кацярына, паможым цябе паднесьці.” Карова вечарам з пасвы, не яеная, ў хлеў заперці неяк, не мая, прама на сьцену лезіць, лезіць прама на сьцену. Ну, рышыў мужык з’езьдзіць і паехаў, паехаў ён. І яму сказаў гэты дзед: “Вот у вас была дзяўчына”. І вот гаворыць: “Яна ў вас начывала, начывала яна ў вас і з дзевачкай”. Гаворыць вот такое плацьце, вот такі платок завязаны, вот, і гаворыць вот яна вам і здзелала гэта. Думаю, ну хто? Я так і так... Точна! У гэткім плацьці, у гэткім платку. Ну, і тожа сказаў, што нада ў другі раз. Ну, а я тады настаяшча мне добра стала. Ну, тожа ў другі раз не паехала. Поўнасьцю нідзе не далячылася. А ён усё, усё расскажыць. Гэты, што за Віцебскам.

*– Ну, а хто, як вы думаеце, сільнейшы: жанчына, якая загаварваіць, ці мужык?*

*– У каго якая сіла

– Было ў нас многа мужчын такіх, вот. У нас у дзярэўне не было іх. У мяне некалі, як падрыў быў, хварэла, падарваўшыся была, так мне, гаварылі, дзвенаццаць мужчын каб загаварыла. І ўсюды езьдзілі, ага, загаварвалі дзвенаццаць чалавек, а на трынаццатый мужчына. На трынаццатый – мужчына.

*– Ну, так і рабілі?*

– Рабілі і ўсюды, дзе я ня езьдзіла. У нас у Заазер’е многа баб такіх (было), а цяпер няма. У нас нікога такіх баб нет. Адна толькі Саўкуха ёсьць, але я ей ня веру – яна баба такая троху врэдная. Яна калі загаворыць, яна выскажыць. Вось завілась з гэтай саседкай Валей, ну і начала ей высказваць: “Прыйдзіш ка мне вады, прыйдзеш ешчо...” Гэта ж нельзя, еслі ты загаварыў, гэта ж грэх, нельзя. Памагаеш людзем, так нашто гэтак брыхаць.Такі чалавек не паможыць, а толькі хужэ...

*– Ці праўда, калі чалавек робіць у празьнік вялікі, то благое з ім можа прыключыцца?*

– Ну, кажуць, што няльзя, а цяпер людзі ня верут. Ну, напрымер, гаворащь, гэта работа нада табе сёньня ці есьць зварыць, ці так, ну край нада – значыць грэха нет. А еслі ўдаль, вот, ай удальнейшае, пускай буду робіць, пускай гэта будзіць, дык гэта, во тады грэх, а еслі во гэта на сёньня, дык грэха гаворащь няма.

*– А вот на Святыя вячары, на Каляды, што ня можна рабіць?*

– Нельзя робіць у Крывыя вечары нічога. Ай, ну, вам маладым ... Ну, што вам – нічога ня будзіць. За то, што скаціну (не трымаеце), скаціна ёсьць – для скаціны нельзя, то там цялёнак які родзіцца... Дзеці, як малыя, вот раждаюць дзяцей. Бярэмінныя ходзюць, нельзя ў Крывыя вечары, барані Бог, нельзя. У Крывыя вечары нельзя бярэміннай жэньшчыні робіць, нельзя. Можыць тады быць абы-што рабёнку.

*– А калі змяя укусіць?*

*– Ну во, як у лес ідзеш, загавар есць такі, каб зьмеі не кусалі*:*"Ішоў Ісус па полю, а за ім двенаццаць апосталаў, дарожку пяском пасыпалі, каб двенаццаць зьмей не кусалі"*. Во нада тры раза прагаварыць як у лес заходзіш.

**Зап. У. Лобач у 2006 г. ад Тарасевіч Яўгеніі Раманаўны, 1935 г.н.; *Волат Антаніны Браніславаўны, 1938 г.н. у в. Заазер'е Вялікадолецкага с/с.**

## 25

## Пра хваробы

*– Калі дзіцёнак спужаецца, як ад упуду лечылі?*

– А хто знаіць, я спужалася, але ж мне нічога не паврадзіла ж. Ну, курылі, мерылі неяк, была ў нас адна жэньшчына мерыла на нітачку на такую, тады мерыла. І тады, вот помню як сваіх я гадавала, я тожа пяцера выгадавала сама, вот мерыла і з іспуга выганялі.

*– А валасень?*

– А валасень тожа выганялі – плахая хвароба.

*– Дзе яна, як праяўляецца?*

– На пальцах бываець хвароба. Бог яе ведае з чаго, ну проста само па сабе гэта хвароба. Проста выгнівае косьць, вот называлася валасень. Цяпер ужо хірургі выразаюць ж, а тады ж не было гэтага. Ну, вот вылівалі неяк на ячмень вылівалі.

*– А кругі, як болькі ці што?*

– Кругі, дык тады... Круг ды круг, кругі вылівалі, як я сама помню круг дзе-нібудзь гэты, харашо, як во дождж ідзець, во такія цякуць (кроплі кандэнсату) па вакне і тады мажуць.

*– А дзічы на пальцах бывалі?*

– Дзічкі? Дзічкі тожа самі па сабе сходзяць, але ж навязваюць *нітку*, яшчэ гавораць, добра вот есьлі, ну гэта я не знаю, але ж так гаварылі, што, есьлі ў мяне круг ці гэта круг дзічка, і я памажу якой нітачкай памажу, і тады завяжу узілок, і дам вам адвязаць, і тады ад меня яна пойдзіць к вам.

*– Што гаварылі даўнія людзі, што не можна жанчыне цяжарнай рабіць, каб з дзіценкам блага нічога не было?*

– Цапы нельзя пераступаць. А то на шыі пупавіна абвяжыцца. Ну так нада берагчы саму себя. Сьмяяцца нельзя з людзей бальных, асобенна з калек. У нас тут была жэншчына з чытвёртым мужыком была, так у яе была інвалітка дзевачка, дык гаварылі, што хадзіла нейкая старчыха, яна бярэменная пасьмяялася з яе, дык у нее была дачка – не дай Бог якая. Дык цем более з такіх людзей нельзя сьмеяцца, да палавіны (тэрміну цяжарнасці), з палавіны ўжо...

*– Гавораць, пазычацца як прыходзяць...*

– Ну, пазычаць, гавораць, тады мышы ходзюць. Ну, еслі пазычыш, там, еслі прыйшла жэньшчына бярэменная, там я ей пазычыла, так у мяне мышы і пайдуць есьць.

*– Калі пазычыце ці калі не пазычыце?*

– Я як пазычу. Не нада пазычаць. Ну, такой жэньшчыне не нада хадзіць пазычаць.

**Пакаранне за разбурэнне царквы**

*– А калі цэркву ў Дольцах бурылі?*

– Не знаю, да вайны бурылі, вот гэта я дужа ня помню, ну пабурылі яе... Вродзі бы у нас такі мужчына быў, Арцём звалі, там сусед мой. Калакала гэта сьнімаў, усё гэта сьнімаў, ну дык вот ен тады як забалеў. Забалеў плахой хваробай, лежаў доўга. Дык вот гаварылі, што за гэта яго Бог наказаў, што ён сьнімаў ужо ўсе гэта.

*– Вось казалі плахой хваробай, гэта што за яно?*

– Во, рак гэты.

**"Пілепсія"**

*– Што за хвароба, яе па-рознаму называюць, хто прыпадак, хто дзецкая?*

– Гэта ж пілепсія, ага. Ну гэта ж хвароба яно, кажуць, слышала па радзіо раз, гаворać, еслі вот гэта балезьнь начнецца, прыпадак гэты, толькі тады чалавек бальной, а еслі яго перабядзіць яго, тады чалавек нармальны, здаровы чалавек.

*– Такія людзі былі, што хварэлі?*

– Ёсьць, у нас во суседка мая. З дзецтва яна, з іспугу.

*– А што есць з іспугу, а ёсць прыродны?*

– З іспугу… Ну, бываець, мусіць, і прыродны, не знаю. У неё з іспугу, вот яна была малая, яна як напужалася, стала такая. Вот яна цяпер гаруець усю жызьнь, хворая ходзіць. Гэта яна з маленства, лячылі яе ці не лячылі. А вот у мяне была, з вайны, цётка мая была. Вайной, гэта, яны адступаліся ў кусты і яны шлі дамоў, баба мая, адна цётка, другая, дзве цёткі, а тады ішлі, а гэта ажно немцы сталі стрэляць. Немцы былі ў нас у Старыне, і яны сталі ўцекаць, а яны сталі па ім срэляць, ну і гэта бабка наша цётка разам з ей жыла, разам з намі жыла, і стала ў яе гэта іпелепсія. Вот я малая з ёй спала, ускочу, а яе як стане калаціць, а я тады плачу – баялася з ёй спаць. Ну, і тады ўжо вайной ці з вайны, яшчэ была баба, матка ейнае, гэтай цеткі маей і нейкі чалавек тут у дзярэўні, не помню якая дзярэўня. Заняслі, казала яна, пуд хлеба, а тады ж пуд хлеба! І вот ён, ці бабка, ці мужчына, ён загаварыў і нешта зробіў, і вот тады гэта баба жыла во сколькі гадоў. Яна дажа нядужа даўно памерла. З намі ўсе врэмя жыла з сястрой маёй. І ўсе прашло. Дактары не лечуць, а бабка тая. Вот не помню ці мужчына, ці бабка.

**Зап. студ. ПДУ Ю. Пракоф'ева, А. Халадкова у 2006 г. ад Смаляк Інэсы Макараўны, 1934 г.н. у в. Старына Вялікадолецкага с/с.**

**26**

**Дзічкі**

*– Ці ведаеце, як даўней барадаўкі зводзілі?*

– Я ведаю два метады. Як адзін, то гэта трэба зарэзаць курыцу і яе печанем памазаць дзічкі – і на заўтра сойдуць. Гэта ж я свайму сыну так дзічкі пазводзіла. А яшчэ – гэта чыстацел. У яго такі сок жоўценькі, як адламаеш. І трэба гэтым сокам мазаць дзічкі цэлы месяц. Я печанем (лячыла), але, гаворać, і гэтым сокам памагае.

**Зап. У. Лобач у 2000 г. ад Шарамет Марыі Рыгораўны, 1923 г.н. у в. Лагі Вялікадолецкага с/с.**

## 27

## Дзічкі

– А вот, гаварылі старыя, трэба ўзяць яблык, разрэзаць яго на дзьве палавіны. Адной палавінкай трэба тады памазаць барадаўкі і кінуць цераз левае плячо, а другую палову – пакласьці пад парог. Гаворацъ, што памагае, але ў мяне не было, так я і не рабіла.

*– А мне матка мая, калі яшчэ жывая была, казала, што трэба купіць якую там *красівую ленту*. Тады ёй перавязаць, перавязаць усе дзічкі, якія ёсьць і панесьці тую лентачку на ростынькі. Там палажыць, але ж, каб не ўгледзіў ніхто. Палажыць і хуценька дамой ісьці і не аглядацца. Які чалавек гэтую ленту падбярэць – да таго твае дзічкі і перайдуць.

**Зап. студ. ПДУ: Ю. Закрэўская, А. Курныш у 2000 г. ад Лукашонак Марыі Макараўны, 1922 г.н.; *Гумоўскай Марыі Іванаўны, 1923 г.н. у п. Мірны Вялікадолецкага с/с.**

## 28

## Бародаўкі

– Эта нада вырваць сьцябло скошанага хлебнага, ну жытняга, коласа. Тады вот патыркаць, патыркаць этым астрыём бародаўкі. Накалоць, накалоць і закапаць этую саломіну у якое-там места сырое. І закапываць нада каранём ўверх. Тады, як саломіна згніець, – бародаўка згіне.

**Зап. студ. ПДУ А. Фурсей у 2000 г. ад Зімніцкай Таццяны Браніславаўны, 1938 г.н. у в. Новае Жыццё Вялікадолецкага с/с.**

## 29

## Заіканне, сурокі

– Калі дзіцёнак бывае заікаіцца, яшчэ малы калі, тады вазьмі састрыжы ў яго валаскі з галавы, з трох старон: з бакоў і з пераду. А потым закатай іх у што-небудзь ліпкае такоя. Вот вазьмі і ў воск закатай, у шарык такі. А шарык гэты вазьмі і замуруй у сьценку тамака, дзе рост памерыш дзіцёнку. І як во дзіцёначак будзе расьці і перарасьце гэтую метку, то і заіканьне прападзець ягонае.

*– А, калі сурочаць чалавека, што рабілі?*

– Яшчэ мама мяне учыла. Эта сам сабе можаш памагчы. Вот наліваеш ў стакан вады, а тады абмываеш там нож, вілку, ложку і адпіць са стакана этай вады нескалька глаткоў і абцерці (пырскаючы з роту) ёй ногі, рукі, жывот, ліцо, і леч тады і паспаць. Устанеш – і зглазу не астанецца.

**Зап. студ. ПДУ Д. Камеш у 2000 г. ад Фамічонак Марыі Філіпаўны, 1925 г.н. у в. Храмёнкі Вялікадолецкага с/с.**

## ШУМІЛІНСКІ РАЁН

### 1
### Рожа

*– Скажыце, ці былі тут людзі, што давалі вадзічку ад хвароб?*

– Ну, я не знаю, дзетка. Я радзілася ў Расонах. Я загаварываю ат балезьней. Лечу рожу. Волас я выліваю.

*– Што гэта за хвароба рожа?*

– Эта балезьнь і ў Пашы ёсць. Іх усяго 12 (рож). Первая выгаварываю: "*Ішоў Езус праз чыста поле, было пры ім 10 рож. Адна з панян, другая з камян, трэцяя – вадзяная, чацвертая – ветраная, пятая – падзяўная, шостая – касцявая, семая – красная, восьмая – сіняя, дзевятая – чорная, дзесятая рожа – выхадзі балезнь проч*". Іх 12, но я 12 не ўмею, а 10. Тры разы раз загавару, вобшчэм я іх 9 раз загаварываю. І тады гавару: "*Першым разам добрым часам, Госпаду Богу памалюся, Найсвеншай Матцы Прачыстай пакланюся, Найсвеншая Матка Прачыстая, стань у помач*". І рожу, і ўпуд, і зглаз – усе гэта выгаварываю.

### Упуд

*– А ўпуд? Што гэта за хвароба?*

– А еж іспугаўся каго-небудзь: ілі сабакі, ілі скаціны, ці так цябе нарочна спужалі. Вот. Ілі там прыйшла і там што-небудзь страшнае, што ты аж закалацілася. Выгаварываю: "*Гасьціну, каціну – засыпану, загуляну, ветрам занясёну, выму боль з галавы, з вушэй, з машчэй, з жывата, з касьцей, з чырвонай крыві, з румянага ліца, з белага цела. Тут табе не стаяць, косьці не ламаць, вочы не пароць, жылы не сушыць, здароўе не цяраць, штоб уся боль спала. Як вада убывае – здароўе прыбывае*".

*– На што вы загаварываеце?*

– Я так загаварываю на чалавека. Магу сядзець гаварыць і вось так вот на вас загаварываць.

*– А якія вы яшчэ балезні знаеце?*

– Ад зьмяі знала. Забылася. Ваду давала ад зьмей.

### Валасень

*– А што за балезнь валасень?*

– Ай во косьць выядае. Хоць і з пальца. Нарыў становіцца, а тады косьць выгнівае, гніець, чалавек застаецца без касьцей.

*– Дактара гэтую хваробу могуць вылечыць?*

– Эту балезьнь не вылечывают. Я даже была грыжу загаварывала. Я даже очэнь харашо з вады вылівала.

*– А як гэта?*

– Вадзічкі цёпленькай, прыгрэю, тады 9 каласоў ілі 9 ветачак якога-небудзь дзерэва. *Вярба* харашо. *Вярбовая кара* очэнь палезна для ўсяго. Яе *почачкі* і кару абскабліваюць. Яны дажэ мёртвага чалавека ад сьмерці спасаюць.

### Упуд (эпілепсія)

*– А вось эпілепсія?*

– Тое ж самае як упуд. Упуд – гэта чалавек ідзе, можа заваліцца і яго калоціць. У Пашы ў нашага было. Рабяты гулялі, агонь разлажылі, а саседка лук садзіла. І яна ўзяла пруток і прутком ударыла яго, а ён аж зайшоўся. Ён як стаў крычаць, а я ж іду дамой і чую. Я яго ўзяла на рукі, прынясла дамой, толькі ўпу-

сьціла ў хату, а ён перайшоў і заваліўся. Узялася ў яго балезьнь гэта. Ад ўпуду, кажуць, абстрыгі таго чалавека, якога спугаўся. Ілі скаціну, ілі сабаку спугацца могуць. Тады абстрыгаюць, пакуруць яго. І тады ў яго гэта балезьнь праходзіць. Я пайшла к ей, і яна кажа: "Я табе на чараўство не дам". Я к другой жэньшчыне і к трэцяй. Я лячыла яго і вылечыла, і не стала ў яго этай балезьні.

*– А як вы вылечылі?*

– Ваду брала ў бабак. Но яны ўжо памерлі гэты бабкі. Меня эта свякрова научыла.

*– А як вашу свякроў звалі?*

– А Божа, яе ўжо 30 гадоў нет. Яна мяне толькі ад упуду ўчыла. Як Паша захварэў, яна меня ўчыла: "Не хадзі, дзетка, лячы сама". Дзе я радзілася, 16 кіламетраў адсюль у Расалаях, там была жэньшчына, дзелала ваду. Ну, з гэтаю балезнью не вынесці мне такую боль, каб ён калекам быў. Я хацела, каб ён здаровым быў. Я ж пайшла 16 кілометраў пяшком, узяла вады ў бабкі, напаіла гэтай вадой і ён жа лучшэ стаў.

*– А якой вадзічкай вы змывалі?*

– Пайду раніцай з калодзежа вады вазьму, загавару і кожнай раніцай усе змывала: ручкі, ножкі. Паіла яго. Хто што гаварыў, тое і дзелала. І, слава Богу, этай балезьні ўжо і нет.

*– А як благое людзям можа зрабіцца?*

– Я этаму не учылася, і не стараюся, і не хачу. Гэта, дзетка, бальшы грэх. Я цебе яшчэ вот скажу, што маткам маладым нада чэсна сваіх дзяцей васпітываць, калі стары чалавек скажа што благое, то такім тое дзіця і будзе, *у нас, у старых, энергія сільнее*. А еслі жэ мы падумалі, то не на ім, а на двенадцатым пакаленьні дзеці будут раждацца з якой-небудзь ерундой.

**Зглаз**

*– А бывае так, што людей зглазілі?*

– Во што я табе скажу. Вазьмі падалом рубашкі памойся. Чым я цябе радзіла, тым я цябе і буду лечыць.

*– А якія людзі могуць зглазіць?*

– Зглазіць могуць дажэ са сьмярцельным, калі матка яму дала, а патом куды-та пайшла ці паехала, вярнулася і дала яму цыцкі. Гэты чалавек можа сьмярцельна зглазіць любога. Мой Толік адзін раз прыехаў з Віцебска, я яму ўсяго перадавала, а ён паміраіць і на работу нада ехаць. І не знаю, што дзелаць. А ў яго ўжо ліцо пайшло ў пятны. Гляжу, што смярцельна, кроў ужо стала зварачвацца. Тады я ўжо зайшла, рубашку задрала і з аднаго боку яго абцерла, з другога. А ён, бедны, аж раса па ім. А ён мне: "Мама, дальшэ мяне патры". А я думаю, як жа я яго буду церці, а ён мне: "Мама, мне лягчэй стала".

*– Вы гаварылі што- небудзь?*

– Не, проста выцерла сваім падалом. Ну і што, атайшоў мой сын, паехаў на поезд.

**Зубны боль**

*– Ад зубнога болю ёсць загавар?*

– Ад зубоў у меня тожэ ёсць загавар, але я, дзетка, не помню. Яшчэ ад зглазу харашо очэнь з *окан расой*. Памаж ліцо сабе, очэнь харашо дажэ. Дажэ

есьлі галава баліць, эта сама лучшэ ўсе. Нада галаву ў вакно прылажыць, пастаяць трошкі. Усе балезьні пройдуць, і таблеткі не нада.

*– А вы не пілі ніякіх таблетак раней?*

– Ой, не.

**Грыжа**

*– А вось вадзянка ці грыжа?*

– А, грыжа. Гэта такое дзела. Я яе не загаварываю. А я дзелаю што: красны бурак сатру, абчышчу, нямножачка мёду. І скаціне, і чалавеку. Тады *сок* гэты выжыць *з бурака*, *мёду* і папаіць. Толькі піць першы раз па ложцы 3 разы. Назаўтра можна выпіць 2 ложкі. Трэці дзень па 2 ложкі. А гэты жымаўкі змяць і ці пластырам прыкласьці і завязаць. У майго хазяіна быў з кулак пад ікрой, пад нагой, грыжа была. Жаўлак качаецца пад нагой і ўсе. Пайшоў ен к хірургу ў Шуміліна, той гаворыць: “Не знаю, як мы цябе вылечым, прыдзецца даць табе работу лёгкую”. Тады прыдзецца на аперацыю леч і адрэзаць нагу. Да вышэй ж калена нада адразаць. Прыйшоў ён дамоў і забедаваў. Я бурак сцерла, сок выжыла, у міску мёду ўклала, перамяшала, каб піць можна, прыклала і завязала на нагу. Нядзелю пахадзіў мой хазяін і ўсе ісчэзла.

**П'янства**

*– А ці ёсць загаворы ад п'янства?*

– Узяць бутылку водкі і пайсьці, дзе чалавек памёр у вёсцы. Адкрыць эту бутылку і сказаць: "*як чалавек памёр, так гэта п’янка хай памрэць*". Нічога не дабаўляць і даць яму выпіць. Есьлі яму бутылкі 2 – 3 выпіць, прападае ўсякая ахота.

**Каўтун**

*– А такая хвароба “каўтун”?*

– Вот эта я не знаю. Відзець – я відзела. Знаю толькі, валасы бываюць лезуць. У маей нявесткі было так. Я сабяру *чыстацелу*, жменьку *крапівы*, *аір* у мяне ёсьць... І *чарады* ілі *сучак*. У марліну чыстую і ў кацел у ваду. Пайшлі яны ў баню мыцца, сын наліў гэтай вады, а яна гаворыць: “Не буду мыцца. Эта вада гразная”. А ён узяў таз вады і чалёх на яе на галаву. Абліў яе ўсю. Памыліся. У яе лысіна ўся аж голая. Назаўтра, ну, каб у яе адзін волас вылез. Кажа: “Толік, валасы не лезуць”.

*– Трэба каб нехта цябе абліў ці самому можна?*

– Не, самой можна мыцца. Як памылася, валасы не лезуць саўсем. Аір нада накапаць па вясьне. У мяне вот аір настоіны ёсць, ад жэлудка харашо. Нада яго настаяць на водке.

*– Ад якіх хвароб якія травы памагаюць?*

– Раньше я б цебе ўсе травы расказала, а цяпер не стала помніць. Была ў меня вот яшчэ што: прыехаў да мяне мой унук із Віцебска і быў у яго круг.

**Круг**

*– Что такое круг?*

– Кругі на целе такія бываюць. Кругі – эта болькі такія, чэшуцца. Эта як на дароге што падняў, як валяецца, кажуць, што нельзя паднімаць. Тады ў чалавека ўсякая фігня бываець. Тады прыехаў ка мне: “Баба, ты ўмееш кругі загаварыць?” – “Ну як жа я табе буду загаварываць? Ты ж малец”. Ен тады ўзяў йодам вымазаў, а тады зяленкай. А ад йоду ж трэскаіць. Кожа зжымаецца. І не стаў ён часацца.

**Фітатэрапія**

*– А як сэрца баліць?*

– Я ад сердца большэ п'ю халодную мяту. У кіпяток клала, нічыво не кіпяціла. І п'ю. *Бурак* красный помогае даже ат рака. Раковые клеткі убівае. *Сок бурака* нада не тое што бальному, здароваму піць. Літр нада, што б кажды год соку выпілі самі. Бурак убівает усё, што ў чалавека ёсць плахое. І што, у меня быў парасёнак. Я купіла яго з грыжаю. Я ўзяла, нацерла красны бурак. Ну, і гавару: “Пускай да вясны жывець, а патом зарэжу”. Вясной гляжу у майго парсюка не стала гэтага. І людзям памагае, і жывотным. Зарэзалі мы яго, паглядзелі дзе што – нічога нідзе няма. Парсюк стаў савершэнна здаровы.

**Народная ветэрынарыя**

*– Ці ёсць людзі, што кароўку могуць папсаваць?*

– Да, бываюць. Но знаеш, что я дзелаю: бяру дуршляк, кружку воды і карове на рогі – шах! І раз па карове з вадой этай і сажусь даіць. І ніхто не зглазіць, ніхто не счаруець. Што б даілась карова харашо, тожэ памагае. А ў мяне сасед усе спрашывает, чаго карова мокрая, – “А эта не твае дзела”.

*– А куры калі не нясуцца ў гнядзе?*

– Узяць попел на Хрышчэньне. Нікагда не выкідываць этат попел. Тады бяру попел у мяшочку і абсыпаю кур і гавару: “*Адыйдзі ўсе плахое з майго агарода, выйдзі ўся нячысць з майго агарода*”. Я так яго перайду, так перахрышчу, абайду кругом, абсыплю. Раньшэ ў меня кратоў было поўна, мышэй, цяпер у меня пачці што дажэ ў хаце нет. Па ўсей хаце, па ўсіх углах абсыплю. Прыхажу ў хлеў і ў хляве пасыплю.

**Начніцы**

*– Ці чулі вы пра начніцы?*

– А, начніцы? “*Зара-зарыца, красная дзявіца, вазьмі ў Ніны начніцы, дай Ніне сну*”. Рана вечарам зара заходзіць, узяла рабёнка і падзяржы. Тры разы перагаварыць, а тады: “*Гасподзь на помач, Гасподзь на помач, Гасподзь на помач, проч балезьнь, проч балезьнь*”, і папляваць цераз левае плячо.

**Ячмень**

*– А як на вочы ячмень ускочыць?*

– Паказаць кукіш. А к етаму узяць як ідзеш па траве, травіна ляжыць крыж накрыж, адна на аднэй, эту травіну атарвіце і патрыце адзін і другі глаз. Зьдзелаць тры разы.

**Ад гразы**

*– А каб пярун у хату не біў?*

– Трэба на Хрышчэньне вады прынесьці. Яна і зараз у мяне стаіць. Але ж гэты попел ня хужэ дажэ памагает. А яшчэ ад гразы я ўмею Прысвятую Багародзіцу: “*Прысьвятая Багародзіца непарочная радзіла Ісуса Хрыста. На правай руке спала і сон відала: у кутнага Ісуса Хрыста рукі, ногі гваздзямі збіты, на галаве сьвянцоны хрэст пастаўлены. Ты ж Сьвятая Багародзіца, спасі, сахрані, адвярні. Спасі чалавека ад грома грымучага, ад вады бурлівай, ад усякага няшчасця. Пастаў вакруг хлявоў, хаты, агарода каменную сьцяну. На каменнай сьцяне жалезны тын, на тыніне па Хрысту, на кожным Хрысце па свячах. Замкну на тры замкі, вазьму тыя ключы, занясу в акіян-мора, там іх вадой накрыю, пяском замою. Амінь*”. Тры разы: Гасподзь на помач.

*– А можна мальца прываражыць?*

– Да, можно было. Вазьмі дравіну, абыдзі вакол яе тры разы, а ці як хочаш мяці пол не з кута на кут і табе будзіць.

**Зап. студ. ПДУ В. Багданава, Т. Клопава у 2004 г. ад Бараноўскай Ніны Грыгор'еўны, 1926 г.н. у в. Обаль.**

**2**

**Знахарскія веды**

– Мама мая нічога не ведала. Шэсьцера было дзяцей, насіла і ў мяне была ахота на гэта, жажда. І ў мяне памяць была на гэта. Іаднойчы мне сасьніўся дзядок сівенькі. І мяне вучыў ён. Ён мне гаварыў гэта, але я забыла. Я і перагаварвала яго. Пыталася: “Так?”, ён адказваў: “Так”. А я ўстала, мне ён казаў у вакно не глядзець і за галаву не чапацца. А я глянула ў вакно і ўсё забыла. “*На вуліцы тры дзевачкі гулялі к сабе прытчы прысылалі…*” Толькі во гэта (помню).

*– А што за прытчы?*

– Прытчы і зглаз, напрыклад, на сцёнку дужа сурочыцца і ногі атымаюцца.

*– А колькі вам гадоў было, калі вам прысніўся гэты дзядок?*

– Ужо гадоў 45 або 50, но я ўжо гэтым занімалася, шаптаць яшчэ не шаптала – пры сабе дзяржала.

*– То есь да пары, да часу?*

– Да, да!

**Скула**

*– А ад чаго вы замовы знаеце?*

– Ад скулы. Ну, а тута, прымерна, у Чарнецкім – Кузьняцова Жэнька тута ёсьць. І ў іх дзіцёнак забалеў. Сабіраліся ехаць у Шуміліна з глазамі. Глазы сталі красныя. А я ўзяла сама. Бязь іх. Я пашаптала яго. Утрам і вечарам. Прыходзіць мама з работы: “А што ў нашага Жэнькі глазкі сталі нармальныя?” Я так і сказала, што гэта я палячыла.

*– Як вы лячылі?*

– Загаворам ад скулы, ад скулы. Глазы красныя і загнаілісі – гэта скула.

*– А дзе скула можа праявіцца ў чалавека?*

– У галаве можа.

*– А што бывае, калі ў галаве?*

– Шумы бальшыя і гніенія ля вушак. Можа на шчаке быць, на шыі. А тады ўжо ў Чарнецкім і гавораць, як што:”Вязіця да гэтай бабкі чарнобыльскай.”

*– А што вы казалі, што вы шапталі, калі скулу загаварывалі?*

– *"Первым разам, добрым часам! Гавару, выгаварываю скулу урочную, малочную, падумную, пагадную, пацешную, пасьмешную, калючую, балючую, гарючую, і мужчынскую, і жаночую, і дзявочую, і ветраную, і вадзяную, і намоўную, і прыгаворную. Вагаварю з буйнай галавы, з ярых воч з румянага ліца, з-пад грудзей, з жылачак, з палачак, з костачак, з палукостачак, з рэцівага сэрца і ўсяго стана. Выйду я ў чыста поле, гляну на сіняе мора. Там стаіць дуб. Пад тым дубам цясовая кравать. На той цясовай кравацi – там тры дзевачкі гулялі, шаўковым платком махалі, к сабе скулу прызывалі і ўрочную, і малочную, і падумную, і пагадную, і пацешную, і пасьмешную, і калючую, і гарючую, і балючую, і ветраную, і вадзяную. Досць табе скула-скулавіца гуляць і буяць. Ў раба Божага (імя)*

*скулы не бываць. Да сюль жа ты хадзіла, буяла, кроў таміла, сэрца знабіла пакуль майго духу ня ўчула. Мой душочак ціхенькі, лёгенькі, пашлі Гасподзь помашч. Амінь!"*

*– А колькі трэба пераказаць?*

– Тры разы. Перад гэтым нада памаліцца “Отчы”.

*– А проста пераказаць на хворае месца ці на вадзічку?*

– Я, прымерна, есьлі лячу, то жэлаю, каб толькі помашч: на вадзічку загаварю і на самога пагаварю.

*– А вы не памятаеце, хто вам замовы расказаў, адкуль яны?*

– Ад дзядзінкі. Ад дзядзькавай жонкі.

**Цеменны зуб**

*– А ад зглазу якія?*

– *“Первым разам добрым часам, гаварю выгаварываю цуб цеменны, гарлавы, ціскавы і ўрошны, і малошны, і падумны, і пагадны, і пацешны, і пасьмешны, калючы і гарючы, балючы, ламучы. Выгаварываю з буйнай галавы, з ярых воч, з румянага ліца, з жывата, з-пад грудзей, із жылачак, з пазлачак, з рэцявога сэрца, з усяго стану. Шла баба з Кіева да Кіева, шаталась, плуталась, зуба цеменнага пыталась, гарлавога, ціскавога, урочнага і малочнага, і падумнага, і пагаднага, калючага, гарючага, балючага, ламучага. Прячыстая Мамачка, як нарадзілась, так і захадзілась. Прячыстая Мамачка на Іардане стаяла, (імя) помачы давала.”* Тры разы. Гэта вот зуб цеменны. Вот, есьлі з дзетства, асобенна маленькі… Мая дзевачка первая, Царства ёй Нябеснае, толькі ад гэтага і памёрла. Падхапіўся зуб цеменны! Цемечка ўпала. З глазу. Яна ў мяне ад гэтага і памёрла.

*– Ну гэта толькі маленькія дзеці ці і дарослыя?*

– Малыя. Але ўзрослыя эта тожа цяжка пераносяць. Нада шаптаць. І у ўзрослых. Мажыць і зубішча падхапіцца.

*– А зубішча гэта...*

– А зубішча – такія шышачкі (паказвае на паднябенні). Во, во, паўз зубоў шышачкі. Як малы дзіцёнак, то ён тады грудзь не бярэць. Нада ссаць, а ён не бярэць.

*– А ці былі якія словы?*

– *"Зубішча, ідзіця на дубішча, голь ламайця, у раба божага (імя) не бывайця."*

*– А гэта на ваду гавораць?*

– І на ваду, і на чалавека.

*– А калі трэба замаўляць, у любы час ці не?*

– У любы. У празьнікі – не – я не лячу.

*– А вот на захад сонца ці на ўсход сонца?*

– Я, прымерна, і сама дзіцей насіла. І ў дванаццаць часоў, і ў ноч, і ў абед. Но желацельна – нашча утрам.

*– А вось ад зглазу, што можа быць чалавеку?*

– Цемпература дажа можа падхапіцца, рвоты, панос у малага дзіцёнка, а хоць і у бальшога. Я і сама, напрымер, урочная. Во, прымерна, на мяне што-небудзь падумалі і мне ня пройдзя. І мне пойдзе і цемпература, і рвоты.

**Залатнік, зглаз**

*– А вы самі сабе памагаць можаце?*

– Памагу. Я, напрымер, жывот сарвала сабе. Калі б я сабе не лячыла, я не ведаю, што б было.

*– А як, вось, гаварыць?*

*– "Ішоў Ісус Хрыстос па залатом ляску і масту, па пярэсьсям, ўстрэціў Марыю Божую. Прыгарні, Маць Божая, раба Божага (імя,) унімі ў яго жывот і залатнік і пастаў на сваё залатое места. Дверь адкосамі, тропамі, замаўляю. Дуб мой залатнік, як макава зярно і лёккі, як курыны пух. Амінь."*

*– Дык трэба прыгаворваць і па жывату вадзіць?*

– Да, да, па жывату.

*– А які ён (залатнік)?*

– У жываце ж ён ходзіць, залатнік. Камочкам. *"Залатнік-залатнічок! Чаго ты ўсхадзіўся, чаго ты ўзбудзіўся? Ці ад падзіву, ці ад вялікага падыму? Стань на сваё мясьцечка ў залатое крэсьлечка. Амін!"* Во эты можаце і запісаць. Ён маленькі. Тры разы (перагаворваць). Запісалі (да студэнтак)? Пагавары! (студэнтка чытае з нататніка). Яшчэ вот, прымерна, ад зглазу: *"Пресьвятая Багародзіца, преступі на помач. Кашу варіла, дзяцей карміла, сырцы вынімала, на крутыя горы ссылала, хто падумаў на (на каго гавару) плахое, няхай таму тое."*

*– Гэта ад зглазу, Таксама трэба тры разы прагаварыць на ваду?*

– На ваду ці на чалавека.

*– А ёсць разніца, якая вада? Можа з крыніцы ці з калодзежа?*

– Разьніцы няма. Лушча ўсяго каб была свая, каб з сабой ваду ў баначкі прынасіў.

*– А піць яе як, у любы час можна?*

– У любы час можна піць, і галаву памыць.

*– А вось гэта ж не кожны чалавек можа навучыцца загаварываць? Ці кожны? Ці вот гэта толькі некаторыя людзі так могуць?*

– Не знаю, мне кажыцца, можаць і кажный навучыцца, а помач быць ілі ня быць… Я эта ня знаю. Не магу я сказаць, хвастацца.

*– А гэта ж можна кожнаму памагчы ці ёсць такія людзі, што не паможа? Яўрэю можна загаварываць ці не?*

– Гэта я не знаю!

*– А вот такая, можа чулі, скажыце, хваробу каўтун ці каўдун?*

– Эта не знаю! Ну эта, прымерна, нападобіі, скула.

*– А дзе яна бывае?*

– Во, на галаве. І балячкі па галаве. Болькі бальшыя. І гнаяцца.

**Укус змяі**

*– А, можа, знаеце загавор ад змяі, калі змяя ўкусіла чалавека?*

– Мяне вот дзядок тэй учыў, але я забыла. А так вот, напрымерна… Памаліцца нада "Отчэ" і гаваріць: *"Гадзяніца, вадзяніца, вынь сваё жала з цела. Табе жала, а (каго лечыш), таму здароўе у цела"*. Во толькі эта ў мяне.

**Дзядок у сне навучае замовам**

*– А вот той дзядок, як вы думаеце, хто ён быў? Вот ва сне к вам прыйшоў?*

– Сівенькі, стаpанькі такі, бледненькі.

*– Вот эты дзядок ува сне ці многа ён вам расказаў вам гэтых замоў?*

– Расказываў! Так во, як і з вамі гаваріла! Доўга!

*– А дзе вы сядзелі, помніце? Ці ён можа ў хату прыйшоў?*

– У хаце! У хаце, у хаце. У нашай! І вот такая тады рубашка палатняная была. У палатнянай рубашке. З барадой! Старенькі-старенькі – цяпер такіх ужэ і няма. Падпаясаны! І штаны палатняныя.

*– І вось пасля таго, як ён прышоў да вас ува сне і расказаў замовы…*

– Гаварю: "Научіце мяне шаптаць." А ён тады мне стаў гаваріць свае словы. А тады я гаварю: "Я запомніла! Ну толькі давайце я прагаварю, а вы прасьлядзіце ці правільна." Во так во, як я табе (даваў замовы). Ну, ён гаворя: "Усё правільна."

*– І вот каб сон спраўдзіў, няможна глядзець у вакно?*

– У акно, і за галаву брацца.

*– То есць часацца ці проста брацца?*

– Хаця так узяцца (праводзіць левай рукой па валасах).

*– Нельга, да? А то ўсё забудзецца…*

**Дзіцячыя хваробы**

*– Ну як, дзіцёнак крычыць?*

– Не, эта крыксы (задумалася; гаворыць дачцэ). Я толькі іх забываю.

*– Ну так, можа, ад другой дзецкай ад якой?*

– А дзецкія, напрымер, эта "дзяцінец".

*– А што такое "дзяцінец"?*

**Пялепсія**

– Плахая балезьнь. Пялепсія.

*– А што бывае?*

– А вы ні разу не бачылі? Ні дай Бог. Усякія ёсьць. Яны 12 ёсьць этых прыступаў. Ёсьць слабыя – трохі так патрасець. Ляжыць, ён ня можа стаяць. А вот у нас сасед, ён із дзецтва, ад году… Па прыродзе. Радзімы. У мамы яго пялепсія.

*– А якія яшчэ? Вы адна казалі – слабая… А іх дванаццаць.*

– Ну, есць дужа сільныя прыступы. Дзяржаць нада. Ну дак ён можа пабіцца.

*– А можна гэта як небудзь без замоў вылечыць. Вот, первы раз з ім здарылася, вот, можа што-небудзь з ім зрабіць можна?*

– Можна! Як толькі, напрымерна, убачыў – ты, ілі ты, ілі ты. Ляжыць, падымаеш так (крыху прыўздымае падол), штаны спускаеш і сядаеш так, голай задніцай на ліцо.

*– Можа што сказаць нада?*

– *"Хто цябе нарадзіў, тэй цябе і атхадзіў! Мамінай нарадзіла, мамінай і атхадзіла!"* А тады другі загавор: *"Якей госьць, такей табе і гасьцінец! Якей прівет, такей атвет!"* І ўсё, як рукамі зьніме!

*– Эта як першы раз бывае?*

– Першы раз! Ну, у яго эта можа быць другі раз, но есьлі чалавек бачыць первы раз і пры ём прыступ.

*– І эта памагае?*

– Памагае! Не нада і шопты.

**Крыксы**

*– А крыксы вы казалі?*

– *"Кріксы-вярексы дзяныя, палудзённыя, начныя, полуночныя, і урочныя, і падумныя, і пагадныя, і пацешныя. Курачкі-рабачкі, чубатыя, хахлатыя, чорныя, белыя. Курка Адарка, пеўнік Марка, прылятайце, когцічкамі вышкрабайце, дзюбачкамі выдаўбайце (ну, у каго гаворыш), крыльлі па чыстаму полю разнашайце. Там вам бываць і буяць, а ў раба божага (Каці ці Насці) век не бываць."* Ну а есць яшчэ і другія: *"Кріксы-вярексы, ў зялёную дуброву высылаю. У зялёнай дуброве шумець-рявець, а нашаму (імя) – спаць-маўчаць".*

*– А што за крыксы, што такое крыксы, можа, вы чулі?*

– Дзяцёнак малы калі сьпіць, крычыць, а тады і ўсяго падумаеш. І шаптаць.

*– А вот вам не казалі, што такое крыксы?*

– Тожа с уроку – зглаз!

*– А пра начніцы не казалі, што вот эта, можа, жанчыны, якія прыходзяць да дзетак?*

– Ну, эта самае: кріксы, начніцы. Тады хлеб ядуць, напрымерна, павячераюць, а тады солі, па ўсіх ражках (вуглах стала) хлеба і солі (насыпаеш). А тады гэта зьбіраюць (змятае са стала рукой) і пад курей нясуць: "*Курячкі рябыя, наце вам хлеб-соль, а нашаму (імя) дайце сон!*" Так гаворуць.

*– А гэта калі носюць курам?*

– Увечары, як ужо куркі сядзяць на куросадні.

**Грыжа**

*– А вось што яшчэ у маленькіх дзетак грыжа?*

– Да, грыжа ёсьць.

*– А ёсць загаворы?*

– Ёсць, дажа і два. Выгаварваю грыжу: "*Ішоў Ягор з-за гор, нёс тапор-сякеру. Наўстрэчу яму Мацер Божая: "Куды ідзеш?" – "Іду к раба Божаму (напрымерна імя) грыжу высякаць. Высяку яе наўсегда, што б грыжа не таргалась нікагда. Амінь! Ні сходам, ні маладзіком, ні поўнай – нікагда.*" Ну гэта ёсць. Раньша ў бані… Во у мяне такая палачка. Сёньня ка мне прынасілі (дзіцёнка) (паказвае драўляны самаробны кручок, падобны да шарыкавай ручкі). Раньша ў банях былі этыя, ву дверях затычкі. Цяпер жа клямкі такія, ручкі такія куплёныя. А раньша свéрлілі і затыкалі колік. Дак раньша гэтыя колікі прынясеш, пойдзеш у баню. Як я раней насіла дзяцей сваіх, дак мне так загаварывалі маім дзецям. Гэтым колікам вадзілі па жывату: "*Як этаму дрэву на корні не стаяць, вецьмамі не махаць, гальлём не шугаць, так раба Божага (Павла, напрымерна, ці у Веры) грыжы па жывату не хадзіць сэрца не знабіць, касьцей не ламіць. Патуль ты балеў, хварэў, муку цярпеў. Дунýла, дух ня мой – Господні. Мой дух прэлюбі, Господні устань на помашч.*" Во так во этым (паказвае: водзіць палачкай па стале як па жываце). Як гэты колік узяла (у бані), так яго на места і сноў задзець!

*– І любым бокам таго коліка?*

– Не! Ну, каторы я выняла – я дзяржу (завостраным бокам наперад). Ужо замечу, а тады этым месцам паставіць. На места утыкаецца ў тую дзірачку.

*– І вы гэтай палачкай робіце?*

– Цяпер жа ўжо такіх няма, так я такей. Ну была і харошая, но я ўжо…

*– А вы сказалі, што к вам прыхадзілі сёння*

– Сёньня прыхадзіла (маці з дзіцём). Памагала ад грыжы.

*– А грыж ж бывае розная ці яна адна?*

– Адна, калі маленькі толькі народзіцца. Так яна ж і на пупок выхожая. А ў некаторых і ў жывату закрытая бывае… Ну, як у малых, то баліць, курчыць.

**Рожа**

*– А вот ад рожы вы не гаварылі. А што гэта за хвароба бывае?*

– Рожа, напрымерна, з вады бывае. І с уроку бывае. На наге ілі на руке.

*– А як яна выглядае?*

– Краснае ажно бáграва. На первых парах, а тады і нарывы бальшэі. Знутры выходжыя… "*Рожа-ражыца, красная дзявіца, адкуль ты ўзялася? Ці с уроку, ці з-паду зроку, ці жаночая, ці дзявочая, ці вадзяная, ці ветраная. Я цябе ссы-*

*лаю на жоўтыя пяскі, на піленыя ляса, на мягкія падушкі. Там табе піць, есьць, гуляць, а ў раба Божага (напрымерна, Паўла) век не бываць!"* І другей яшчэ загавор ёсьць. Во, я і не знала, а мне счас стук у галаву.

**Дыягностыка**

*– А як вы самі знаеце што гэта сурокі , а не прастуда нейкая?*

– А, тады пазявоты, да. Як стану гаварыць.

**Чараўнікі**

*– А ці гаварылі ў вас там (на Магілёўшчыне) пра чараўнікоў?*

– Вой, такіх я баюся. Тута, на Віцебшчыне чараўнікі, гавораць, ёсьць. Я дажэ па целівізары чула, што тут, на Віцебшчыне ёсьць.

*– А там не было?*

– У нас? Я такога ні разу не чула.

*– А што пра іх расказвалі?*

– Я пра іх не хачу гаварыць дажа.

**Вогнік**

*– А што такое "вогнік"?*

– А гэта як у дзяцей абсыпе губы і пойдзе, гнаяцца губы.

*– Можа прачытаеце?*

– Лучынак трэба настругаць, ў руке паставіць, і запаліць, вады ў рот набраць і на палачкі вот так, перад ліцом. У руках трымаць і кінуць у печ. Запаліць тры вугалькі, лажыць у скавараду. І гэтыя вугалькі, і чарчу кругом гэтага бальнога месца і гаворыш: *"Цяплішча, вазьмі сваё вагнішча, агонь к агню, вада к вадзе, вогнік прападзе."* І яно пачне высыхаць.

**Уваход у лес**

*– А як у лесе, каб змяі не бачыць, раскажыце?*

– Як толькі. Да, да лесу даходзіш: *"Спас, мой Спасіцель, Спас сахраніцель! Спасі, калі адна – мяне, калі два, тры. Спасі нас і ў полі, і ў доме, і ў лесе, і ад зьвера бягучага, ад зьмея паўзучага, ад злога чалавека, ад ліхія напасьці, ад усяго плахога, злога. Спасі на с і памілуй!"*

*– А гаварыць этую замову, як уваходзіш у лес?* (згаджаецца).

**Крывацёк**

– Вот загавора ад крові, перад ранай: *"Ехаў Ісус Хрыстос, через залатой мост. Вёз глёк вады, мост абхіснуўся, глёк разбіўся, вада разлілася і ў раба Божага (напрымер, на чалавека) кроў унілася."* Тры разы.

**Дабрахожы (Нарадка)**

*– А "нарадка", гэта што такое, як яна праяўляецца?*

– Напрымер, еслі найдзеце на вецер, пройдзе які след нехарошы.

*– Гэта можа быць ад ветру, а, можа, калі ў след наступіць?*

– Да, ёсць, *Дабрахожыя* ходзяць.

*– Гэта хто?*

– Людзі. Яны нявідзімыя. Аднажды я з жэньшчынай адной па лесе хадзіла ў грыбы. І найшлі мы на тое месца, як намецена ўсё і сасонік стаіць, маладняк. Толькі ўзыйшлі на гэту плошчадзь, бачу, тая баба крэсьціцца. Ну і я ўслед. Ціхонька, ціхонька і нам прайшоў харашо. А гэта ўжо наяву ёсць. Мальчыка нашага суседняга, яму, наверна, было гадоў дзесяць, тры дні дзяржалі, гэтыя дабрахожыя.

*– А дабрахожыя, яны болей у лесе?*

– Да, і ў лесе, і ў полі, і ў дамах.

*– А ў якіх дамах? Можа, не ва ўсіх?*

– Да, у іх свае дамы, свая хата.

*– А яны толькі дрэннае робяць? А могуць дапамагаць?*

– Гэта я не ведаю. Такія прымерна людзі, як і мы. Але мы іх не бачым.

**Зап. У. Лобач, У. Філіпенка у 2005 г. ад Верам'ёвай Надзеі Радзівонаўны, 1925 г.н. (нарадзілася і жыла да Чарнобыльскай катастрофы ў в. Кармапайкі Краснасельскага р-на Магілёўскай вобласці) у в. Амбросавічы Шумілінскага п/с.**

### 3
### Знахары

*– А былі такія людзі ў Гародна, што вадзічку давалі?*

– Былі. Мама мая родная памагала. Ад усяго: ад іспуду, ад зьвіху, ад суроку. Яна і вадзічкі давала. Хто будзе жывы на вадзічку паказвае, а хто мёртвы.

*– А што яна рабіла з гэтай вадзічкай?*

– Брала, гаварыла, Богу малілася. Брала ў рот і пускала. Калі пойдзе ў сярод – гэта жывы, а калі разыйдзецца – то гэта на мёртвага.

*– А вот ваша мама, ад каго яна навучылася?*

– Ад сваіх радзіцеляў. Яны са Стралкоў. Яе радзіцелі харашо ваду давалі.

*– А вось гэта ж не кожны можа вось так?*

– Не кожны. Нада ў Бога верыць.

*– А гэта што гаварылі, малітва называецца?*

– Малітва, маленнае.

**Зап. У. Лобач у 2005 г. ад Гарбузовай Марыі Фёдараўны, 1911 г.н. у в. Гародна Шумілінскага п/с.**

### 4
### Волас, парэз

*– А вам не дапамагала (знахарка Еўдакія “Мнішка”)?*

– Мне не, а вось мамкі маёй. Яна бальная была і да яе хадзіла, на волас вылівала. Каласкоў ад жыта, простыя зьвязваюць. Дзевяць бралі. У ваду ставілі. Дапусцім, волас у руке – у пальцы. Выкручваюць гэтыя каласочкі. Палучаецца валасоў розных: і сініх, і зялёных, і красных, поўныя тыя каласкі. З пальцаў (вылазілі).

*– А вось такая траўка – зверабой, ад чаго дапамагае?*

– *Зьверабой* ад 90 балезней, ад усяго. Розныя травы. *Сасоньнік* настайваюць, *падарожнік* ад язваў. Нада яго сушыць, трапку мачыць і прыкладаць льняную.

*– А што рабілі, калі зглазіў?*

– Мы у дзецтве *мачой* мыліся.

*– А што рабілі, калі руку парэжаш?*

– А мы, прасці за выражэньне, засцыш гэтую рану, і кроў перастане.

*– А калі распухне рука?*

– Ніткамі абвязвалі, суровымі ніткамі.

*– І куды потым дзявалі гэтую нітку, спальвалі ці выкідвалі?*

– Кідалі у агонь, каб згарэла хвароба.

**Зап. У. Лобач у 2005 г. ад Скітавай Лізаветы Маркіянаўны, 1918 г.н. у в. Палячкі Дабейскага с/с.**

**5**

**Купальскія зёлкі**

*– А вот на Купалу збіралі траўку?*

– Як у царкву ідзеш зьбіралі. Глаўная – Іван Купала, траўка такая. Цьвіціць сінім і жоўтым. Сьвяцілі траўку і потым ставілі за ікону.

*– А яна дапамагае?*

– Ад гразы ці як хто спугаецца можна абкурыць. Пасушыць яе і запаліць.

**Зап. У. Лобач у 2005 г. ад Красіцкай Марыі Аляксандраўны, 1930 г.н. у в. Войлавічы Дабейскага с/с.**

**6**

**Знахарства**

*– Можа вы вадзічку давалі, загаварывалі вадзічку?*

– Загаварываю ад іспуду, рожы, зглаза.

*– А як вы звіх загаварывалі?*

– "*Зьвіх, зьвіх, не будзь ліх. Не ламі сырую косьць, а белую тросьць. Зьвіх земляны, пасьпешны, пагрэшны. Дай Гасподзь на помач.*" І паўтарыць тры разы.

*– А гэта за адзін раз праходзіць?*

– Разы за два, калі за тры, а, можа, і за раз.

– А ад іспуду як?

– "*Выразаю сьцень з найдзеных касьцей, з буйной галавы, з гарачага цела. Дай Бог на помач!*" Казаць адзін раз на ваду.

*– А што такое залатнік?*

– Як што цяжкое падымеш, баліць пад грудзямі, жалудак. Ад глазу ёсьць загавор: *Вадзіца-царыца, чыстая крыніца, амываюць пяскі, крутыя беражкі, амы раб Божы Вера глаза жаночага, мушчынскага, рабячага, дзіцячага.*

*– Можа ад рожы ведаеце?*

– Ведаю: *Ішоў Бог па полі, нёс чатыры волі: Адну рожу пасеяў па полю, Другую – на агонь, Трэцюю – на ваду.*

**Зап. У. Лобач у 2005 г. ад Васілевіч Веры Антонаўны, 1926 г.н. у в. Войлавічы Дабейскага с/с.**

**7**

**Пакаранне за працу ў свята**

*– А ці было, што чалавек рабіў у свята і яго Бог пакараў?*

– Ну вот, у нас такі Барысёнак, ён даўно памёр ужо. Іван Барысёнак. Ну гадоў пятнаццаць, а можа і большэ, як памёр. Ён быў партны. І ён не прызнаваў Бога. Не верыў у Бога. Ані ў цэркваў ні разу не хадзіў. І вот ён шыў палушубкі. Ну і тады, на Пасху, на первы дзень Пасхі, не дашыў ён палушубак. Тады давай, пасьнедалі і стаў шыць палушубак. Палушубак пашыў, а тады яго ўзяло і скруціла. Дзевяць дней пажыў і памёр. Ну тады пакаяўся, кажуць, як скруціла, гаворыць: "Мяне Бог пакараў!"

**Зап. У. Лобач у 2005 г. ад Варкулевіч Вольгі Сямёнаўны, 1921 г.н. у в. Вайловічы Дабейскага с/с.**

**8**

**Знахарства (сурокі, начніцы)**

*– А былі такія людзі, што давалі вадзічку ад сурокаў, ад упуду?*

– А, гэта лёгка. Прынясеш з калодца, выгаварыш і ўсё!

*– Вада любая? Вада любая абы загаварыць? А можа скажаце словы?*

– Сесьці трэба. Вы, можа, Богу не верыце. Дык вам гэта… Іду ў баню, зачэрпваю кружку. А потым іду да іконы Багародзіцы (паказвае: падыходзіць да іконы, становіцца на калені), кружку стаўлю і малюся: *Прысьвятая Багародзіца, прыдзі на помашч рабе* (імя)… Но так ужэ не магу…*Прыдзі, стань на помашч. Лазенку адчыняю, На мора паглядаю, Гляджу на цябе…* Чытаць тры разы… Тады пахукаць у ваду і папляваць на бок. Піць і умывацца 3 разы днём, у любое ўрэмя абы вада была.

*– А вось што такое "плахая балезнь"?*

– А што бываюць "добрыя" балезьні? Добрых жа не бывае… Ну, плахая, гэта як чарадзейства.

*– То есць, гэта калі нехта зрабіў чалавеку. А якія могуць быць ад чарадзейства балезні? Што можа быць, як счаруюць?*

– Чалавек сохне, балезьнь урачы не прызнаюць.

*– А эпілепсія, што за хвароба?*

– Бываіць ад іспуга. Знаю, што балезьнь ад іспугу бывае. Начніцы, эта бывае, можа, ад іспугу. Не сьпіць чалавек, плачыць. Ну дык вада нада. Мыць нада. Ручкі, ножкі нада памыць.

**Зап. У.Філіпенка у 2005 г. ад Шылінай Марыі Дзянісаўны, 1923 г.н. у в. Стралкі Дабейскага с/с.**

**9**

**Спуд**

*– З іспуга ставіцца ў комін вада?*

– Да. Ну у кружачку, ну, не важна ў што.

*– Ставіцца ў комін…*

– Да, первы дым, штоб пайшоў. І тады піць даваць

**Зап. У. Філіпенка у 2005 г. ад Рэнатавай Таісы Васільеўны, 1936 г.н. у в. Стралкі Дабейскага с/с.**

**10**

**Знахарства (іспуд, уроцы, рожа)**

– Ад іспуду ты хочаш? *"Ішоў Сьвяты Гасподзь, Сьвяты Хрыстос, Сьвяты Яня сталі кала Іарданя. (Як цябе завуць? – Іна.) Іне памач стань!"* І апяць. Толькі ня дыша нада. (Хутка паўтарае шэптам і не дыхаючы яшчэ два разы. Разам – тры) Гэта дабе ад спуду.

*– А яшчэ якія ведаеце, можа ад суроцы ведаеце?*

– С уроцы, з глазу тожа… *"Найсвентшая матка, злітуйся над намі, памагі нам! Найсвентншая матка, злітуйся над намі, памагі нам!"* І ўсё. А рожу? *"Ішло тры рожы: бела, чырвона і красна…"* І ты вот дзяржы ручкі над нагой –

красная нага ілі рука. І во так: *“Ішло тры рожы: бела, чырвона і красна. Белая рожа проч!”* А не дышачы! Тры разы. Ху! Пахукала апяць. Таксама: “Тры рожы ішло: белая, чырвоная, расная…” Эта проч тая, эта проч тая (г.зн. першы раз проч – белая, другі – чырвоная, трэці – красная).

**Зап. студ. ПДУ І. Кавалёва і Т. Лупенько у 2005 г. ад Мясаедавай Ніны Трафімаўны, 1925 г.н. у в. Сосніна Дабейскага с/с.**

### 11
### Знахарская этыка

*– А ад чаго ваша мама памагала? Ад упуду, а яшчэ ад чаго?*

– А яшчо дык і не знаю. Ну, вот, рожу загаварывала, рожу гэту вылівала. І, да, рабят насілі к ей.

*– А ці можна было брацъ што за тое, што загаварываеш? Ці брала яна што-небудзь?*

– Нічаво! Нікада! Нікакую плату… Нікада, нікада, нічога не нада мне, нічога (казала мама), хай ваш рабёначак здаровы будзець і выжывець! Не!

*– А адкуль навучылася яна гэта рабіць? Хто яе навучыў?*

– Адкуль яна навучылася, у яе, наверна, мама была такая.

**Зап. У. Лобач, У. Філіпенка у 2005 г. ад Аляксеевай Лідзіі Тарасаўны, 1928 г.н. у в. Башні Шумілінскага п/с.**

### 12
### Пра “май”

*– А што эта “май”, што эта?*

– Ветачкі бярозавыя, кляновыя носяць.

*– І кляновыя ветачкі?*

– Да. Іх сёлета, казалі, я некада, а сёлета казалі, нада чай заварываць з тых лісьцяў і есьлі балеіць чалавек – памагаець.

*– А хто казаў гэта так?*

– Па радзіву я чула. Ці праўда, ці не…

### Пра знахарку з в. Пятніцкія

*– А хто тут даваў?*

– Загаварывалі. Во эта во Дзягілева Аляксандра. Памагала. Яна да іспуду даець ваду. Яна і ад зглаза даець ваду. Яна дужа памагаець людзям. А цяпер яна ўжо дужа старэнькая, ёй дзевяноста. Я сама хадзіла к ей вады.

*– А што яна проста вадзічку давала?*

– Даець вады. Малітвы моліцца. А Бог ведаець якую, я ж не знаю. А яна дужа памагала…

*– Дык, а вот гэтай жанчыне, што вот тут памагае, таксама нешта (насілі), вот, вы ж вадзілі дзяцей?*

– А вот дзяцей, яна нічога не бярэць. Так бывала, калі канфеціну ёй дасі. Не, не, не! За гэта, гаворыць, нялъзя брацъ дажа плату.

*– Ато што будзе?*

– Ну, гаворыць, помачы ня будзець. А хто кажыць, што нада плаціць. А яна, Божа мой, што вы! Дай Бог, каб паправіўся!

*– А вот адкуль у яе сілы?*

– А Бог яе знаець. Яе ж бацька, бывала, грыжу загаварываў. Эта, і яна грыжу загаварываець. Яна очэнь памагаець, эта Міхайлаўна. Старэнькая ўжо. Яна харошая бабка. Яна ўжо і зрэнія нет…

**Валасень**

*– А вот што  за хвароба такая – валасень?*

– А, валасень. Дык у мяне у самой быў валасень. Валасень – гэта, не дай Бог, нарыў. Во, у мяне быў на пальцы. Есьлі б яго не выліў… Валасень, дык можыць каждый, хто Богу верыць, той выльець.

*– Кажды?*

– Да, но эта нада, каб чалавек быў крышчоны. Мне вылівала бабка. Яе ўжо на сьвеце нет. Эта майго папкі цётка была. Вот аржаных каласоў, *дзевяць каласоў* ад аржанога жыта. І вот, і тады льеш і льеш. У цёплай вадзе палажы тыя каласы і палажы руку. І вот і лій, і лій, і лій. І вы знаеце, тое калосьсе, так яно валасамі спляцецца, што чуць разарвеш.

*– А якое яно? Чорнае, белае ці якое?*

– Ну, такое сівое. А адкуль тыя валасы возьмуцца, эта чуда.

*– А словы знаць якія трэба ці проста выліваць?*

– А не знаю ці… Ну, малітву ўсегда прамоліцца, як начынаець. А як і не знаю.

**Залатнік**

– Залатнік – эта ж вот жалудак. Эта залатнік. Кажуць, залатнік сарваўся. *Конь-трава* па лясу, *насаднік* лучшэ ўсяго. Яе заварыў і піць. Ілі на водке настаіваць. Эта очэнь харошая трава. Ёсць цьвецікі на ёй. Ён такой, як у нас у лясу, я там за авечкай, многа такіх цьвятоў. Яна расьцець, как брусьнічнік, толькі лісьцейка дліньненькая ў яе і караценькае… Дык гэта самае, і цьвецік точна пуп. Як пупок розавенькім цьвіцець. Вот эта трава сільна-сільна харашо ад залатніка этага. І залатнік загаварываюць. Во эта Міхайлаўна залатнік загаворваець, эта есьлі сарвецца чалавек. Эта ад пад’ёму.

**Як дзіця не спіць**

*– А, можа, што рабілі, як дзіця не спіць, малое дзіця?*

– Ну, можа, нешта дзелалі. Бог іх ведаіць. Бываець, што, гавораць, неяк хлебам. Ну, *сьвежы хлеб*. Ну, калі купіць можна цёплага. Тады на сьпінцы качаюць мяккім. І праходзіць.

**Пакаранне за працу ў свята**

*– Ну, прымерна, з кім-небудзь было такое, што вот, скажам, на Пасху рабіў ці на на Троіцу і вот потым што-нібудзь (здарылася)?*

– А вот у нас сасед, іх ужо няма, дык яны… Эта было дзела на Благавешчаньня, бываець 7 апрэля. Яна, памяні Бог, Герасімаўна кросны ткала, датыкала. А я яшчэ прышла, гавару: “Герасімаўна, ужо такі празьнік сягоньня!” Я ж была тады саўсім маладая. А яна гаворыць: “Ай, Тамарачка, во находзіць Пасха, не хачу, каб стаяла загарода, у хаце ставяць кросны.” А ён, дзед ейны – Ягор, мужык і з сынам доскі пілавалі на двары. Эта сёння Благавешчаньне. А там ідзець, у нас тады была яшчэ і родственьніца, гаворыць: “Госпадзі, пэўна, ўжо насьмерць доскі піляць!” І, мілы мой, у Праводнае васкрасеньне жонка эта памёрла.

У Праводнае васкрасеньне. Да, пасля Пасхі нядзеля прайшла толькі. Паехала ў горад, (мужык) рыбы налавіў, рыбак быў, прадаваць рыбу. Аттуда ў грабе прывязьлі. Тады ўсе казалі, во, гаворaць, гэта Бог пакараў. Во як было, эта ўжо точна, эта ніякая не легенда. Эта ўжо точна было.

**Зап. У. Лобач, У. Філіпенка у 2005 г. ад Трутнёвай Тамары Рыгораўны, 1926 г.н. у в. Пятніцкія Дабейскага с/с.**

**13**

**Зглаз**

*– Зглазіць можа любы чалавек ці…*

– Можаць любы, да. Патаму што ён дажа можыць не падумаць на цябе так, проста пасматрэць і можыць зглазіць. Гаворaць, чорныя глаза асоба зглазяць, гэта. А галубые, не толькі галубыя можна зглазіць. У мяне тожа так сасед прыехаў на дачу. Тожа так прыйшоў, пасідзеў і мне плоха-плоха стала. Пазявушкі, рвота і ўсё. І дачка мая была, гаворыць: “Мамка, ён цябе зглазіў.” Ну, гэта, была старушка яшчэ жыла, дык яна дала ад зглаза мне ваду. Ад зглаза дала. Я папіла, памылася і заснула…

*– А вот вы сказалі мыцца нада, а як мыцца. Вот куды ваду льюць?*

– Ну, вот гаваряць ваду нада во так наабарот. Да во так.

*– У адваротны бок?*

– Да, ну і рубашкай сваей абціраццa харашо ад зглаза. Вот рубашкай, да! Так абцерціся харашо. Ну, я так не абціралася, а ваду мне давалі.

*– Памагло, да?*

– Зразу, а так усё б – кончылася так.

**Волас**

*– А волас, што эта за такая?*

– У пальцы такі нейкі волас абразуецца. Палец тоўсты станець. І там волас. Яна неяк вылівала. Жыта, эты *каласы*, брала, ішчо што-та і паказвала так мне на жыце. І волас выліла. Патом волас на жыце – пауцінка так.

**Дзічы**

Дзічы тожа, гаварат, бярэш *нітачку* і скока ў цябе дзічэй, стока звязваюць столькі узялкоў і патом пад навоз паложыш, што б яна перагніла. Як яна перагніець, тады дзічы прападуць.

**Зубны боль**

*– Ну а, можа, як зуб баліць, што рабілі?*

– Зубы, знаеш, лажылі *часнок* і *сала салёнае* на зуб лажылі, во так.

**Эпілепсія**

*– А вот ну такая страшная балезнь ёсць эпілепсія, вот, падучая?*

– Ну, эпілепсію я відзіла ў аднаго тожа. Сразу ўпадзець і станець яго біць, біць, біць. Там сползае, яго паб’ець, тады нармальны становіцца.

*– А, можа, што рабіць, каб палегчыла яму?*

– Нічаво, пакуль яго не атаб’ець, нічаго, ніхто не можаць зьдзелаць. Яно само па сабе, атаб’ець яго, тады ён нармальна ўжо прыходзіць.

*– Ну, ад чаго эта бываець эпілепсія, не гаварылі?*

– Можа, ад іспугу.

**Зап. У. Лобач, У. Філіпенка у 2005 г. ад Карнаковай Ефрасінні Сямёнаўны, 1927 г.н. у. в. Лескавічы Шумілінскага п/с.**

## 14
## Вогнік, валасень, ячмень

– (Пра вогнік) Да і такія болі, бывала! Людзі прыдуць: як ўсё-роўна панцыр надзеў хто-небудзь – болькі яму на нагу. А ён жа нарываець і больна, і больна, і больна! Старык адзін, у яго ужо да каленяй дайшла болька, ягоная дачка: “Цёця Саша, пайдзі загавары бацьку майму вогнік!” Ня мог спаць старык. Баліць і ўсё! Я яму загаварыла і ўсё прайшло не стала балець. Ня мог ужо трываць, так балела. Болечкі нарываюць і слазеюць. Трываць нельга. У аднэй дзевачкі… што гэта ў яе было, вогнік? Прыйшла яе баба з ей: “Міхайлаўна! Загавары Галечке вогнік!” А ў яе вада цячэць з ліца. Беленькая вада. Ах, Божа мой! Такога вогніка ня відзела, каб вада была. Не, вогнік! Загаварыла. А, Бог ты мой! Сьветлая вада цячэць зь ліца. Ну, я загаварыла ей раз, адкінула. Ай, гавару, гаўно. Ці будзе польза? Што я буду загаварываць, гэта ж вада. “Не, не, не! Ёсьць польза! Ужо вада цямнець стала.” А тады ўжо яе матка стала ў магазіне работаць. Прыйшла, стала прасіць: “Загаварывайце, загаварывайце!” Сколькі разоў (загаварыла), выжыла. І цяпер работаець. Там толькі значкі, дзе былі бальшыя болькі, таўстыя, там значкі засталіся.”

*– А што калі валасень?*

– Валасень выліваць нада толькі 81 раз. Шчытаць назад. Выліваць трэба на *81 пусты жытні колас*. Ну, калі нет, я на *галень*, што ў хаце мяцеш.

*– А ячмень як ускочыць?*

– Нічога яму! Сразу як начынаецца, тады фігу дай яму ў глаз! Другей (хай) дась табе фігу у глаз. Во так во фігу выставіць. У мяне у самой, як кірмаш, так сядзіць ячмень у глаазе. Тут, нізенька. Похніць. На кірмаш іцьці – некрасіва. І так часта ў мяне было з глаз гэта! Ячмені садзіліся. Ад зглазу.

*– Гэта як кірмаш часцей?*

– Пятро, бывала, ідзём у Полцева на кірмаш. У нашай дзярэўне дзесяць нядзель ад Пасхі – кірмаш. Дзесятуха. У Бокішаве быў – шэсць нядзель ад Пасхі. Хадзілі ў Бокішава. У Крывое Сяло на Прачысьце хадзілі. І ўсё бывала, як які кірмаш. Я глаз баялася! Мне абязацельна, ці ячмень ці што стане.

**Зап. У. Філіпенка у 2003 г. ад Дзягілевай Аляксандры Міхайлаўны, 1912 г.н. у в. Пятніцкія Дабейскага с/с.**

# ПАКАЗАЛЬНІК ХВАРОБАЎ

# ПАКАЗАЛЬНІК ЛЕКАВЫХ СРОДКАЎ

## Расліннага паходжання

**Нерасліннага паходжання**

# ГЕАГРАФІЧНЫ ПАКАЗАЛЬНІК

## Бешанковіцкі раён

1. в. Багданава I. 70, 116 ; II , 7
2. в. Бачэйкава I. 71, 72 ; II , 281
3. в. Высокая гара I. 116
4. в. Двор Нізгалава I. 70, 116
5. в. Жалезкі I. 71, 118, 123, 124
6. в. Папкі I. 117
7. в. Шышова I. 71, 121

## Браслаўскі раён

8. в. Забор'е I. 71
9. в. Лявошкі I. 70; II. 10
10. в. Рафалова II. 14

## Верхнядзвінскі раён

11. п. Асвея I. 48; II. 24
12. в. Буды II. 24
13. в. Вышнарова II. 25
14. в. Дабраплёсы I. 70; II. 16
15. в. Даражылава I. 122; II. 38
16. в. Дзёрнавічы II. 42
17. в. Жукі II. 46
18. в. Ігналіна I. 71; II. 74
19. в. Казакова II. 29, 32
20. в. Канчаны I. 70, 71; II. 23
21. в. Кісялі I. 71
22. в. Лісна I. 32, 70; II. 19
23. в. Росіца I. 71
24. в. Стралкі I. 35; II. 24
25. в. Урагава II. 25
26. в. Чарнавокі I. 53, 71

## Глыбоцкі раён

27. в. Бабруйшчына I. 35, 47, 48, 69; II. 47, 51
28. в. Латышы I. 118; II. 48, 51
29. в. Вострава I. 70; II. 49, 51

## Докшыцкі раён

30. в. Асецішча II. 53
31. в. Баяры I. 116, 121; II. 69, 70
32. в. Краснікі I. 116; II. 69
33. в. Маргавіца II. 67
34. в. Федаркі II. 54
35. в. Слабада II. 56, 58, 59

## Лепельскі раён

36. в. Баброва I. 69
37. в. Валова Гара I. 71, 120; II. 77
38. в. Забор'е II. 78
39. в. Мядзьвёдаўка II. 72
40. в. Пышна I. 116; II. 79, 80
41. в. Сталюгі II. 81
42. в. Старае Лядна I. 71

## Лёзненскі раён

43. в. Бржэзова II. 86, 87
44. в. Засігава II. 84
45. в. Малькава I. 119, 120, 149
46. в. Яськаўшчына II. 85
47. в. Якубаўшчына II. 84, 85

## Мёрскі раён



## Полацкі раён



## Расонскі раён



## Ушацкі раён

**Чашніцкі раён**



**Шумілінскі раён**



**Себежскі раён (РФ)**

*Вучэбнае выданне*

# ПОЛАЦКІ ЭТНАГРАФІЧНЫ ЗБОРНІК

Заснаваны ў 2006 годзе

Выпуск 1

## НАРОДНАЯ МЕДЫЦЫНА БЕЛАРУСАЎ ПАДЗВІННЯ

У двух частках

Частка 2

Складальнікі:
ЛОБАЧ Уладзімір Аляксандравіч
ФІЛІПЕНКА Уладзімір Сяргеевіч

Падпісана да друку 22.12.06. Фармат 60x84 $^{1}/_{16}$. Папера афсетная. Гарнітура Таймс.
Друк трафарэтны. Ум. друк. арк. 19,26. Ул.-выд. арк. 20,87. Тыраж 95 экз. Заказ 1676.

Выдавец і паліграфічнае выкананне –
Установа адукацыі “Полацкі дзяржаўны універсітэт”

ЛИ № 02330/0133020 ад 30.04.04 ЛП № 02330/0133128 ад 27.05.04

211440, г. Наваполацк, вул. Блахіна, 29